

# Ад лідскіх муроў

Літаратурна-мастацкі зборнік
2020 - 2021 гг.

**№ 10**

**г. Ліда**
**“Пружмень”**
**2022**

**Ад лідскіх муроў**. Літаратурна - мастацкі зборнік № 10 за 2020-2021 гг. На беларускай мове. Ліда. 2022. 524 с.

Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ "Аб сродках масавай інфармацыі" ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-З.

Выдавец: Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Пружмень".

Укладальнікі: Станіслаў Суднік, Алесь Хітрун.
Галоўны рэдактар: Станіслаў Суднік.
Рэдактар раздзела паэзіі: Валера Мацулевіч.
Рэдактар раздзела прозы: Алесь Хітрун.
Карэктары: Алесь Мацулевіч, Алесь Хітрун.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку лідскіх літаратараў за 2020-2021 гг. У зборнік трапілі матэрыялы, якія былі апублікаваны ў гэтыя гады або падрыхтаваны да друку. У зборнік увайшлі і іншыя матэрыялы, датычныя літаратурнага жыцця Лідчыны.

*На першай старонцы вокладкі - партрэт лідскай пісьменніцы* ***графіні Сафіі дэ Шуазёль Гуф'е (з дому Тызенгаўз)****, пісала на французскай мове.*

# Мы былі за Беларусь

*Нас білі злева, білі справа,*
*Сваіх-чужых ліхі хаўрус,*
*А мы стаялі за дзяржаву,*
*А мы былі за Беларусь.*

У гэты зборнік увайшлі творы, напісаныя, надрукаваныя, перакладзеныя ў асноўным у 2020 і 2021 гадах. Гэта былі няпростыя гады для беларускага грамадства. Складаныя падзеі 2020-га і рэакцыя на іх у 2021-м закранулі вельмі і вельмі многіх, а людзей творчых ці не ўсіх. І падзеі гэтыя павінны былі выклікаць пэўны водгук ад творцаў. Чакалася, што бурныя зрухі ў грамадстве выклічуць хвалю публіцыстычнай паэзіі, магчыма, рознай скіраванасці, але выклічуць. А гэтага не адбылося. Лідскія літаратары аказаліся як бы па-над падзеямі. Тэматыка засталася практычна тая ж самая - агульнанацыянальная, агульнабеларуская. Родная зямля, родны край, бацькава хата, родная мова, каханне, звыклы побыт, прырода, гісторыя займаюць асноўную плошчу і раздзела паэзіі, і раздзела прозы.

Творы лідскіх паэтаў і празаікаў самай моцнай дратвай знітаваны з рэальным жыццём, з жыццём, якое ідзе на роднай

зямлі, а не на экранах смартфонаў. І ўсе яны дэманструюць шчырую адданасць лідскіх творцаў, сваёй Бацькаўшчыне, безапеляцыйную вернасць Матулі-Беларусі, якая засталася галоўнай каштоўнасцю для ўсіх разам і для кожнага паасобку.

У зборніку творы больш, чым 30 сучасных аўтараў, а таксама змешчана “Аповесць пра Таўлая” Уладзіміра Калесніка і 1-я аповесць з тэтралогіі Веры Навіцкай пра Марусю Старабельскую “Добра жыць на свеце”, напісаная яшчэ ў пачатку XX стагоддзя, калі буры і катаклізмы толькі прачыналіся, недзе далёка-далёка ішла руска-японская вайна, а на захадзе імперыі было ціха і мірна.

Зусім нечакана ў зборніку захаваўся раздзел “Эпас”, бо куды ж было аднесці вершаваны аповед пра сваю сям’ю Марыі Ганчар, а таксама яе аповеды пра лідскія дзіцячы садок і мастацкі калектыў “Скарбніца”.

У зборніку змешчаны творы некалькіх новых аўтараў, а значная колькасць творцаў, якія друкаваліся ў ранейшых зборніках, у гэтым выданні не прадстаўлена, а значыць ёсць дадатковы патэнцыял, не ўсё вычарпана, і пасля выхаду гэтага выдання можна думаць пра наступнае.

***Станіслаў Суднік.***



*Ганчар Марыя Іосіфаўна (у дзявоцтве Серафінская) нарадзілася 13 верасня 1948 года ў вёсцы Погіры Дзятлаўскага раёна. Закончыла Гарадзенскі педагагічны інстытут. Працавала загадчыцай сельскага клуба, настаўніцай матэматыкі і спеваў, выхавацелькай у дзіцячым садку, загадчыцай дзіцячага садка, намеснікам дырэктара сярэдняй школы. Зараз на пенсіі. Валанцёр сацыяльнага цэнтра і Чырвонага Крыжа. Творы друкуюцца ўпершыню.*

## *Марыя Ганчар*

# Я, СЯМ'Я І РАДЗІМА МАЯ

### ПРА СЯБЕ

Я - жанчына, беларуска,
людзям я дабро раблю.
Мова родная мне блізка:
і шаную, і люблю.
Люблю водар я лясны,
бачыць, як усходзіць сонца,
Слухаць звонкі спеў вясны,
які льецца праз ваконца.

Цягне лецішча ў прыдачу,
каб здабытак свой каваць,
Сеяць зернейкі на ўдачу,
паліваць і пікаваць.
І пладамі ласавацца:
там трускалкі, тут гарох.
І півоняй любавацца,
сеўшы часам на парог.
Люблю мужу варыць есці
суп, і дранку, і гуляш.
Вырабы з саломкі плесці -
стаў утульней домік наш.
Люблю з мужам вечарамі
летам з вудай пасядзець,
Назіраць за паплаўкамі,
проста на ваду глядзець
Люблю лес любой парою:
летам, восенню, зімой.
І збор ягад пад гарою,
і грыбоў - занятак мой.
Унукам "баб" ляпіць са снегу:
зайца, Ёшку і казла…
Колькі радасці і смеху,
колькі ўзімачку цяпла!
Люблю наша "Даўгалецце",
Аню, Кацю, усіх дзяўчат…
Хто хоць раз тут быў, паверце,
зноў сустрэчы будзе рад.
Люблю плаваць у басейне,
і зарадка па плячу,
Люблю ездзіць па краіне,
пазнаваць свой край хачу.
Люблю горад наш лагодны,
беларускі наш народ,
Працавіты, славы годны.
Ганаруся: тут мой род!

Люблю танцы, песні, жарты,
вышываць і шыць, вязаць.
І рашыла: нават варта
пра ўсё вершамі сказаць.
Люблю жыць на гэтым свеце,
быць матуляю, сваёй
Для ўнукаў і ўсім дзецям.
Хачу век быць маладой!

## СЯМ'Я МАІХ БАЦЬКОЎ*

Помню крайні дом у вёсцы,
Збудаваны прад вайною:
Ганак, уваход у сенцы,
Бэлькі ў іх над галавою.

Злева хата, справа хатка,
Дом на два канцы
быў скрытны,
Кухня, стопка пасяродку,
Ў куце свірна велька скрыня.

У свірне столі не было,
Драбіны на гару ля сценкі,
Па іх узбіраліся паволі,
Каб не ўпасці на дол спінкай.

А на гарышчы вельмі цёмна
Пасля яркага святла.
Свая загадка, свая тайна
Пад старой страхой жыла…

І тым цягнула дзетвару,
Што не хапала ім штодня:
Бацькі падвешвалі ўгары
Раней прасолены кумпяк.

Марляй абкручвалі яго,.
Каб чыстым быў і падсыхаў,
А ножык востры ў дзяцей, -
Ён увачавідкі "усыхаў".

Яшчэ гарышча вабіла
Водарам яблык зімою,
Антонаўкі, як правіла,
І сенам духмяным з зарою.

У шчыце на гарышчы -
акенца,
Якое кідала
праменьчык святла,
Святлей каб было,
трэба шкельца
Ачысціць ад пылу датла.

Тады гарышча ажывала,
І можна ўбачыць
пад страхой
Старыя рэчы: пакрывала,
Кош, пранік, зэдлік, -
усе гарой.

За свірнам два хлявы
пад дахам:
Авечкі, свінні і карова,
Ладны конік з сваім пахам,
Куры, гусі - усе аснова.

За хлявом ішоў куратнік,
Уцеплены, як для зімы,
За куратнікам - дрывотнік,
Дзе дроў для печы бралі мы.

На свет хата паглядала
Дзвюма парамі акон,
У гародчык пазірала -
Поўна кветачак вакол.

Каля сценкі, паміж вокнаў,
Мальвы выхваляліся,
Бэз з язьмінам
у куце цесным
За плот густы чапляліся.

А дзе крыж стаяў вялікі,
Барвінак рассцілаўся,
Там нарцыс самалюбівы
Вясною прабіваўся.

Куст півоняў, поўны сілы,
Пышны, з водарам густым,
Ружавеў ён ганарліва,
Не думаў з часам
стаць пустым.

Жоўта-рыжым, як агеньчык,
Тыгровая лілея там цвіла,
Быццам сонечны
праменьчык,
Для нас "рыжыкам" была.

Гонарам нашай сям'і
І ўсяе вёскі, нават,
Дзве таполіны былі -
Раслі яны на славу.

Пірамідальныя таполі,
Што ў Беларусі рэдкасць,
А вёска Погіры іх мела,
Як нейкую адметнасць.

Па верхавінах тых таполяў
З шашы, з Жукоўшчыны,
здаля,
З Краглёў,
з любога боку поля
Вачамі дом знайсці магла.

Спасоўка - грушачка расла
Ад вуліцы прад домам,
Разгалістай, густой была -
Надзейным для нас сховам.

У жніўні грушы ўжо спелі
І падалі на грады,
Сярод гародніны жаўцелі,
Ім дзеці былі рады.

Па дрэвах лазіла, як кошка,
І вельмі мне карцела
"Пахуліганіць", часам трошкі,
Зрабіць, як я хацела.

На грушу забіралася
Пад саму верхавіну,
За ўсімі назірала я,
Можа нат, з гадзіну.

А грушы сакавітыя,
Сарваныя з галінак,
Былі, як мёд, салодкія,
Найлепшы мне ласунак.

А два акны ўсходнія
Глядзелі на надворак,
Плот, агарод, суседнія
Будовы на падпорах.

За нашай хатай быў равок,
А за ім луг да рэчкі,
Які кожны вечарок
Чакаў дзяцей, падлеткаў.

Пасля дажджу пляскаліся
У цёплай вадзе лугавой,
Аж пырскі разляталіся,
"Макрэлі" з галавой!

Луг пераходзіў у сенажаць,
За ёй кусты - нацiна,
Праз Велькае балота гаць,
Дзе гразла ўся скаціна.

У Дзекснях,
за балотам Велькім,
Было вельмі шмат брусніцаў,
Каб сабраць
вядзерцаў колькі,
Зломіш паясніцу.

Мы сям'ёй сваёю дружнай
За адзін дзень збіралі,
Варылі з грушамі варэнне,
Зімою з бульбай уплятаці.

За вёскай злева,
на Плянтоўцы.
Збіралі ўвосень журавіны,
Яны ад жару, ад прастуды
Сабой лячыць
дзяцей павінны.

На грудочку, супраць хаты,
Зрабілі спортпляцоўку,
Там і хлопцы, і дзяўчаты
З мячом гулялі лоўка.

Былі рады вечарамі
Выскачыць за хатку,
Пагуляць з другімі дзецьмі
У валейбол, у "матку".

А рэчаньку сваю без назвы
Мы вельмі ўсе любілі:
У ёй купаліся, і пралі,
І рыбу ў ёй лавілі.

Лавілі кошыкам і сеткай,
А, часам, і рукамі,
Абмацаўшы ў норах плотак
Пад мутнымі карчамі.

У русле ладзілі запруды
З камення, гразі, глею,
Ішло ў ход паленне, груды,-
Ляпіць мы іх умелі.

Паміж запрудамі старанна
Ваду па цячэнні злівалі.
Рыбы шмат тут пастаянна,-
Улоў пароўну раздзялялі.

Траплялiся і плоткі, і мянтуз,
Кялбы, карасікі, ўюны
І карп - таўсценны карапуз.
Засмажыць - смачныя яны!

У хаце светлай і прасторнай
Стаялі шафа, лаўкі, стол
Пад абразамі Маці Божай,
Тры ложкі, лава,-увесь набор.

Люстэрка злева на сцяне
Ў прыгожай разной раме,
Яно было да сэрца мне,
Сястры, братам і маме.

Круціліся перад люстэркам
То гуртам, то асобна.
Ў куце са шпуляк этажэрка -
Няма другой такой падобнай.

З люстэркам звязаны
ўспаміны
Пра дзень смерці Сталіна,
Яго закрылі, узамен
На той сцяне - прагаліна.

Вяскоўцы ўсе:
бацькі, суседзі,
У адчаі і ваколіца,
Пыталіся: што ж гэта будзе,
Што на свеце творыцца?

Печ хлебная з ляжанкаю
Дзяліла кухню з хатай,
Маніла абяцанкаю
Сябе, цяплом багатай.

На ёй адаграваліся
Пасля дажджу, марозаў,
Пяцёра ўсе змяшчаліся,
Мінуючы пагрозы.

На ёй мы казкі слухалі,
На ёй спявалі песні.
Да дрыжыкаў палохалі
Гурток маленькі, цесны

Гісторыі страшнейшыя
Пра ведзьмакоў і ведзьмаў:
Так дзеці нам старэйшыя
Круг пашыралі ведаў.

У хатцы куфар стаяў рабы,
Жалезам абабіты,
Ён захоўваў усе скарбы:
На замок закрыты.

Што за скарбы?
Там абрусы,
Посцілкі і палатно
З лёну. Для нас, русых,
Даражэй за ўсё яно.

У яго дзетак спавівалі,
З яго бялізну шылі
І да ранаў прыкладалі,
Ручнікі бялілі.

Спачатку хату асвятляла
Лямпа - керасінка,
А на кухні, каля печы,
Чадзіла лучынка.

Потым слупы ўздоўж плоту
Ў вёсачцы паставілі
І звязалі ўсіх іх дротам:
Нам несці ток заставілі

З токам к нам
прыйшло святло,
Лямпа Ільіча зазззяла.
Далей лепш усё было:
Зранку радыё гучала.

У вёсцы тэлевізар першы
Купілі нашыя суседзі,
Стараўся кожны
быць ім лепшым,
У справах лепшым
і ў бяседзе.

У іх глядзелі мы футбол,
Заўзелі вёскай за "Дынама"
Мінск, не Кіеў, баскетбол
І фільмы новыя таксама.

Сям'я - сем "Я", асобаў сем.
У Серафінскіх поўна хата:
Пяць дзяцей - і доля ўсім,
Дзед, бабуля, мама, тата.

Тата позна ажаніўся,
Узяў дзяўчыну маладою,
Мамай яна стала рана,
Перад самаю вайною.

Хата хутка багацела,
Дзецьмі поўніліся лавы,
Два гады - і нова цела -
Кахаў тата маму слаўна.

Быў ён майстрам
на ўсе рукі:
Бондар, столяр і цясляр,
Усё рабіў ён без прынукі,
Акуратна, як маляр.

Зладзіць мог балею, цэбар,
Вытачыць верацяно.
Палоскамі ўпрыгожыць
трэба,
Вельмі вёрткае яно.

Ведаў шмат ён анекдотаў,
Казак, баек, вершаў шмат,
Фокусы паказваў потым,
Мог жанчынаю прадстаць.

Юзаф здатным
быў танцорам:
Абэрак, полькі, кракавяк.
Але меў ён жорсткі нораў,
Вольнасць не цярпеў ніяк.

Што ні сям'я- свая дзяржава,
Свае парадкі і статут,
Там дзеці маюць тое права,
Якое валадар дазволіў тут.

А валадар, найчасцей -
бацька,
Як мяккі ён, мяркоўны,

То маці можа лейцы ўзяць
І правіць ў сям'і вольна.

У нашай жа сям'і - дыктатар,
Ён не крычыць, як мама, не,
Але за цяжкую правіннасць,
Да лаўкі прывязаўшы, б'е.

Хоць правіннасць і не цяжка,
Можа пацягнуць лазінкай.
Будзеш хадзіць, адназначна,
З паласатай, рабой спінкай.

Таму баяліся за дзень
Не выканаць чагосьці.
Слова бацькава - закон,
Інакш - караць кагосьці.

Бацькі жылі па прыказцы,
Згадзіцца з гэтым мушу:
"Любі дзяцей, як душу
І калаці, як грушу".

Напачатку ўсе цярпелі,
Потым сталі падрастаць,
Дыпламатыю ўключылі,
Сталі з татам размаўляць.

Пераконваць яго сталі,
Расказваць, што, як і чаму,
Розум свой так паказалі,
Што спадабалася яму.

Стаў наш тата
больш мяркоўны,
Ганарыцца дзецьмі стаў,
І жыццё пайшло
больш вольна,
Выбар шляху нам настаў.

Калі тата быў павольны,
То матуля - сам агонь:
Хутка варыць, парыць, поле,
Поіць, доіць і рве лён.

Pfaff - нямецкая машына
Дадзена пасагам маме.
Шоўк і буркі яна шыла,
Была шаноўнай самай.

Мама ўмела добра шыць,
Нават сама кроіла,
А з машынай лягчэй жыць,
Шыць на ёй я мроіла.

Мама паказала крой,
Здымаць меркі навучыла,
Потым знайшла
спосаб свой -
Для ўсёй сям'і
адзенне шыла.

Першую сваю сукенку
Я пашыла ў восьмым класе.
Выглядала, як паненка,
І на танцы ў клуб прайшлася.

Цяпер яшчэ машына тая
Верна служыць для мяне:
Трыкатаж і шоўк прашые,
Нічагуткі не міне.

"Дзякуй",- я хачу сказаць
Той старой машыне,
Што мацней змагла звязаць
Мяне з былой часінай,

За бездакорную работу
Гадоў за сотню, можа,
Без натугі і без поту
Служыць яшчэ доўга зможа.

Любіла мамачка спяваць
За любою справай,
Песняй жалю надаваць
Ці радасці яскравай.

"Ах, каб жа мне пасаганьку
Хоць адну кароўку,
Тады пайшла б і я замуж
У чужу старонку".

"А ў гародзе за млыном
Расаду садзіла,
Ой, не даў жа мне Бог,
Каго я любіла".

Калі сямейцы не ставала
Абутку, ежы ці адзення,
Да Вільні Зіна даязджала,
Каб выправіць падзенне.

Тавар там набывала рэдкі,
Якога нельга тут знайсці:
Чаравікі, хусткі, кепкі
Старалася перавязці.

На вакзалах начавала,
Цягала сумкі цяжкія,
Мокла, мерзла, галадала,
Даўгі каб аддаць важкія.

Маму звалі "шпекулянткай"
За спрыт, за вытрымку,
цярпенне,
Цяпер жа стала б
камерсанткай,-
У мазгах праведзена
лячэнне.

Вырашыла я таксама
Свет любіць, дабро дарыць,
Спрытнай, кемлівай,
як мама,
Як тата, акуратнай быць.

Прывучалі да работы
Нас ад малалецтва,
Кожны меў сваю клапоту
На ўвесь дзень з маленства.

У пяцідзясятыя гады
Калгас арганізавалі,
Каня, карову і гумно
У калгас ад нас забралі.

Брыгадзірам быў наш тата,
Мама - звеннявой па льну.
Дзеці ўсе рабілі ў хаце,
Справаў шмат, а не адну.

Скраблі бульбу, яе дралі
На бліны ці смачну дранку
І надворак падмяталі
Ці з вечара, ці зранку.

Бацвіння наламаць,
скрышыць,
Змяшаць яго з мукою,
Свіней гэтым пакарміць,
Пагладзіць іх рукою.

Карову з пашы сустракаць,
Загнаць у хлеў, палашчыць,
За рагамі паскрабаць,
За вушком пакратаць.

Сваю красулю падаіць
Бывае летам цяжка,
Бо хвастом па твары б'е,
Моцна так, з адцяжкай.

З банкі малако спусціць,
Вяршкі ў слоік выліць,
Банку чысценька памыць,
Яна калок атуліць.

Павісіць і хай прасохне,…
Малако можна цадзіць,
Інакш, яно хутка скісне,-
За гэта можна адхапіць.

Банку апусціць у калодзеж
На сваім падворку.
Хаця б толькі не страсці,
Як дастанеш зноўку.

Мы і агарод палолі,
Бульбу абганялі,
І ўзмежачак касілі,
Восенню капалі.

Каб карову пракарміць
Доўгаю зімою,
Трэба корму накасіць
Летняю парою.

Сена тады не давалі,
Не было дзе і ўкасіць,
Без дазволу - штрафавалі.
Дзе ўзяць і як пражыць?

Выручалі тады дзеці:
Зелле ўсё насілі,
Каб на зіму корм займеці,
Старанна сушылі.

Палолі бульбу, кукурузу
На калгасным полі
І цягнулі, рвучы пуза,
Клянучы нядолю.

Потым зелле пратрасалі,
Сячкарняю крышылі,
Дабаўляючы саломы,
Скаціну кармілі.

Усяму бацькі нас навучылі,
Паказвалі, што, як рабіць,
Чаму так трэба, тлумачылі,
Гаспадарамі маглі б быць.

Тата нам казаў заўсёды:
- Трэба ўсё умець рабіць,
Але не ўсе рабіць, вядома,
Веды за плячыма не насіць.

Не галадалі мы ніколі,
Хоць ежа простаю была:
Капуста, крупнік ці фасоля,-
Здароўе ўсім яна дала.

А па святах шыкавалі:
Бліны, яечня і тварог.
Елі ўсе ўжо да адвалу,
Смакавалі, хто як мог.

За ядой, як за работай,
Будзь хуткім, растаропным,
Сем кускоў знікаюць раптам,
Зяўнеш - будзеш галодным.

З нецярпеннем свят чакалі,
У хаце прыбіралі,
Пяклі булкі, гарэлку гналі,
Гасцей сустракалі.

Хлеб жа свой
пяклі мы ў печы
Адзін раз на тыдзень,
Закваску ставілі, дарэчы,
За ноч яна падыдзе.

Вымесіць рукамі цеста
Я павінна ранкам
І заняць за партай месца
Да званка, маланкай.

Яшчэ, помніцца, аднойчы
Мы масла білі зранку.
Знізу ў бойцы быў калочак,
Каб выпусціць маслянку.

А ўчора на канцэрце
Артысты прадстаўляліся
І там пачула я прыпеўку,
Што вельмі спадабалася.

"Кіну кужаль на паліцу,
Сама пайду на вуліцу,
Няхай мышы кужаль рубяць,
Няхай мяне хлопцы любяць!"

Я масла біла і спявала,
Адбівала такт нагой,
Не заўважыла, як стала
Цячы смятаначка ракой.

Літраў пяць
смятаны тлустай
За адзін раз загублена.
Мама біла мяне хустай -
На ўвесь век зарубіна.

Біла мама тады ўсіх:
І Зютака, і Ганю,
Затое помнім утраіх
І кужаль, і смятану!

А зімою вечарамі
Збіраліся ў хаце
Ўсе суседзі, дзе гулялі
Мужчыны ў карты:

"Ачко", "Тысяча", "Дурак".
Гурт для кожнае гульні.
"Біта, козыр, масць, не так,
Прыкуп, чырва, паднімі!"

Спачатку дзеці назіралі,
Падказвалі ўкрадкам,
Потым самі загулялі
Ўсё тым жа парадкам.

Карты развівалі памяць,
Вытрымку і розум,
Чым пабіць ці лепш прыняць?
Быў патрэбны роздум.

А жанчыны пралі, шылі,
Крыжам вышывалі,
На варштаце мама ткала,
І песні спявалі.

Зімой за хатай, бы каток:
Равок і луг скаваны лёдам.
Пабіты не адзін лабок,
А цягне,
быццам мазан мёдам.

Нам "лыжвы"
тата змайстраваў:
Драўляныя канькі на дроце
І да іх боты мацаваў
Вяроўкамі ў ахвоце.

І мы каталіся на іх,
Штурхаючыся левай,
Маглі б катацца на дваіх,
Калі б вучыў нас Сева.

Аднойчы з Зютакам дваіх
Каталіся на лёдзе слізкім.
Іскры ўраз з вачэй маіх,
Як лёд да галавы
стаў блізкім!

І больш не помніла нічога:
Ці Зютак дацягнуў дадому,
Ці Стасіка пазваў малога?
Праз нейкі час гляджу,
я -дома.

На возеры ж свая гульня:
У цэнтры забіваюць кол,
Ён - вось для кола, мітусня,-
І жэрдка круціцца вакол.

А на другім яе канцы
Прывязваюцца санкі
І аб'яўляюць усім ганцы
Пра новы від гулянкі.

Калок мацуецца да кола,
Штурхачам
ён служыць ручкай.
І санкі лётаюць наўкола,
На іх дзяцей жывая кучка.

Піскі, крыкі, шум і смех!
Мароз, мяцеліца не страшны!
Не ўтрымаўся, - ляці ў снег!
Вось так выхоўвалі
бясстрашнасць!

Потым клуб, мае вы братцы,
Быў у нашай хаце.
Мы жылі тады ў хатцы,
Другім канцы хаты.

Бібліятэка была ў клубе,
Цікавыя абновы,
Чыталі, седзячы на прызбе
Ці пасучы каровы.

Аднойчы трапіла мне ў рукі
Кніжка - тэксты песень,
Вучыла па чатыры штукі,
Ўсе ведала пад восень.

Па радыё пачую песню,-
Знаёмыя мне словы.
Як мелодыю запомню,
Яе спяваць гатова.

У клубе адзін раз на тыдзень
Круцілі ўвечар кінафільмы.
Пра вайну, любоў, абыдзень
Глядзець кіно маглі мы.

Я любіла, як цвыркун,
Лежачы на печы,
Глядзець фільмы праз сучок
І грэць на печы плечы.

А сучок у дошцы быў,
Што аддзяляла клуб
ад кухні,
А ля сучка - дзяцей наплыў,
Каб фільм глядзець апошні.

Янак, брат мой,
быў разумны,
Бойкі і прыгожы,
Добры, ветлівы і спрытны,
Да навукі гожы.

Закончыў школу, паступіў
У тэхнікум сталічны,
Там самастойнасць праявіў,
З дзяцінства так прывычны.

Ён, як вучыўся, працаваў,
Начамі разгружаў вагоны.
Калі дадому прыязджаў,
Цанілі шык усе ягоны.

Ён клапаціўся пра малых,
Прывозіў ім дары: цукеркі,
Ці цацкі, як звяроў жывых,
Ці кніжкі яркія, венгеркі.

Старэйшая сястрычка - Ганя.
І мама давярала ёй
Малодшых даглядаць
старанна,
Рашаць галоўкаю сваёй:

Хто поле,
а хто бульбу чысціць,
Што на вячэру рыхтаваць.
Гуляць толькі тады
адпусціць,
Як справаздачу зможаш даць.

Гані больш за ўсіх
прыйшлося
Працы, грозьбы, болю,
Але шчасце й ёй знайшлося,
Як выйшла ўжо на волю.

Уставаць рана было цяжка,
Каб каровы пасвіць,
Але песня ласкай важкай
Маё сэрца лашчыць.

Я спявала і ўяўляла
Сябе багатай дамай,
Як на балі танцавала
З багачом таксама.

Фартух, з посцілкі пашыты,
У зборку, па фігуры,
Замяняў для мяне шаты
Ў танцы тым віхурным.

Зютак меў прыгожы голас,
Часта з ім спявалі,

Паслухмяным
быў наш колас,-
З ім душу ачышчалі.

Стасіка ўсе любілі
І ўсе гадавалі,
Бо ён самы наймалодшы,
Усе шчыравалі.

Быў малым ён хваравітым,
У шэсць гадоў
стаў гаварыць,
Развязаў язык спавіты,
Цяжка было і спыніць.

Разляцеліся па свеце,
Як лісты ад буры,
Сустракаліся мы ў хаце,
Каб суняць віхуры.

Таты з мамаю не стала,
І браты ўжо адышлі.
Але сэрца маё знала,
Што шчасліва мы жылі.

Бо яшчэ мяне ўсё цягне
У родныя мясціны,
Дзе маленства і юнацтва
Прабеглі часіны.

** Так мы жылі ў 50-60-ыя гады дваццатага стагоддзя ў вёсцы Погіры Дзятлаўскага раёна.*

## СКАЗ ПРА ТРЫЦЦАТЫ САДОК

Слухайце ўсе павярнуўшы насок,
Сказ пра трыццаты дзіцячы садок.
Ён існуе ўжо дваццаць гадоў.
Хай жа і сотні ён будзе гатоў,
Добры, адкрыты, дзетак выхоўваць ізноў.
Яго адкрывалі якраз ў Новы год,
Весела, гучна шумеў карагод.
Госці з завода і трэста былі,
Танцы і песні здружыць памаглі,
Канцэрт супрацоўнікі ў той дзень свой першы далі.
А праз два дні прывялі першых дзетак,
Шумных, гуллівых, гарэзлівых кветак.
Іх акружылі ўвагай, цяплом,
Матчынай ласкі накрылі крылом,
Матчынай ласкі мяккім накрылі крылом.
Раніцай кожнай і хмурай, і светлай

Іх сустракалі ўсмешкаю ветлай.
І да змяркання гучаў смех дзіцячы,
Гульні, заняткі, прагулкі ды мячык,
Жывымі, цікавымі былі заўсёды, не йначай.
Ўсе абслугоўвалі дзетак: вучылі,
Шылі і пралі, варылі, кармілі,
Прывіўкі рабілі і закалялі,
Здаровы яны каб былі і не гаравалі,
Што за хваробы дзеці ніколі не зналі.
Вельмі хацелася нам, каб садочак
Выгляд прывабны меў круглы гадочак:
Дрэвы садзілі і кветкі цвілі,
Сад адмыслова мы берaглі:
Яблыкі, грушы дзеці адведаць маглі.
А афармленнем дзіцячага сада
Займаліся ўсе і асобна, і разам.
Творчасць, фантазія білі крыніцай, -
Сад прыгажэў, як дзяўчо-чараўніца,
Творчасць, фантазія ўсюды іскрыцца.
Жыццё тут бурліла, кіпела, іграла,
Здзейснілі спраў і задум мы нямала:
Конкурсы, святы, экскурсіі, фэст,
Замуж сваіх аддавалі нявест,
Замуж за хлопцаў сваіх аддавалі нявест.
Дзеці раслі, ну а мы багацелі
Вопытам дружнай працоўнай арцелі.
Аўтарытэтам бацькі надзялілі,
Бо ў прафкаме ў трыццаты заявы насілі,
Дзетак направіць у сад трыццаты прасілі.
Я вас вітаю, люблю, ўспамінаю
Ганну, Юзэфу, Людмілу і Раю,
Зою, Ірыну, Галіну, Таццяну,
Ніну, Марыю, Ларысу, Тамару,
Лену, Наташу - сустрэцца з усімі я мару.
Я вам жадаю, як гэта вядзецца,
Здароўя ў целе, у думках, у сэрцы.
Каб маладымі былі вы душою,
Каб ганарыцца маглі вы сабою,

Як дружнай сям'ёю маглі ганарыцца сабою.
Каб дзеці любілі і ў справах натхнялі,
Бацькі паважалі і давяралі.
Кіраўнікі, не шкадуйце зарплаты!
Будзе любімым заўсёды трыццаты!
Хай жа вякамі жыве і квітнее трыццаты!

## НАРОДНЫ ХОР "СКАРБНІЦА"

У горадзе Лідзе ёсць знаны завод,
Вядомы ва ўсей Беларусі.
Працуе на "Оптыку" творчы народ,
І вельмі я тым ганаруся.

Заўсёды ў пашане мастацтва было,
Была самадзейнасць на ўзлёце.
Спаборніцтва цэхаў бурліла, плыло,
Спрыяючы плённай рабоце.

А з лепшых удзельнікаў створаны хор,
Вядзе яго Збігнеўна, Ала.
І вучыць, шліфуе каштоўны набор,
Каб здольнасць тут талентам стала.

Вельмі тонка яна адчувае на слых,
Хто чыста пяе, дзе фальшывяць,
І працу вядзе да нюансаў малых,
Старанні ўсіх песню ажывяць.

І зорка заззяла ў сузор'і хароў,
Што "Скарбніцай" трапна назвалі.
Народным ужо больш за дваццаць гадоў
І людзі, і ўлады прызналі.

Бо любяць харысты матуліну песню
І хочуць усім перадаць
І радасць, і сум, і пяшчоту адвечну,
Пачуццям фантазію даць.

А кожны ўдзельнік - дык гэта ж асоба:
Свой голас, характар паводзін,
Манера, паходка, пастава асобна,
А зладжана пецъ кожны годзен.

Спачатку скажу пра Таццяну Шыран:
У хоры яна ад пачатку,
А голас яе, як бальзамы да ран,
Прагоніць тугу без астатку.

Карпенка Святлану сам Бог адарыў
Жаночаю стаццю і голасам звонкім,
Калі заспявае, - то ж сэрца парыў,
І мурашоў па скуры гонкі.

На справе - бабуля, на выгляд - дзяўчынка:
Салістка, танцуе, іграе,
У танцах гарэзных яна, як пушынка,-
Так Алачка зоркаю ззяе.

Аптыміст і весяльчак наш Валуеў Віктар,
Заспявае - сэрцайка заб'ецца
Ад сілы пачуццяў. Ён - апора,
Што і ў буру, нат, не скалыхнецца.

"Малы залатнік, але нам дарагі", -
Пра Метака хочам сказаць,
Бо голасам звонкі, у танцах ён спраўны,
Прыпевачкі здольны складаць.

Ажывае з песняй Калодка Галіна:
Усмешка на твары, і вочы блішчаць,
Спявае сардэчна. Бы тая каліна, -
Румянцам пакрытыя шчокі гараць.

А хто не чуў Генадзя Панянкова,
Той многае, я думаю, згубіў.
Ён - на шчасце нашае падкова, -
Спявак, музыка, чалавек наўздзіў.

Аксамітны альт Валянціны Шамрэй
Гучыць і смялей, і выразней.
Давай, Валянціна, ты страх свой адрынь
І сола парадуй адказна.

Пра сяброўку Нэлечку скажу:
Чалавек цікавы і цудоўны.
Гумарэску, Нэля, раскажы,
Бо весела гучыць і непаўторна.

Ад Дзіны прывабнай цяпло і святло,
Ды стала матуляю-мамай.
Гадуй жа Валерку на шчасце, дабро,
Спяваць вучы - і ў "Скарбніцу" таксама.

Аранжыроўкі можа сам рабіць
Шмялёў Алег - саліст і гітарыст,
Адказным і сапраўдным сябрам быць,
Тэхнар рукамі, а душой артыст.

А Тонечка наша дабром адзяляе,
З ёй лёгка, прыемна спяваць.
Свой голас душэўны яна развівае, -
Дастойна салісткаю стаць.

Мурачова Таццяна - "Мурачка" наша
Нядаўна ў "Скарбніцу" прыйшла,
Але гарманічна з хорам злілася,
Сябе як салістка знайшла.

Хоць ужо не "оптыкавец" Віктар Бібліс,
А "Скарбніцы" аддany і цяпер.
Яго голас кожна сэрца схіліць.
Патрэбны ты нам, Віцечка, павер.

Марыя Бальцэвіч - не толькі спявачка -
Арганізатар яна і касір.

На кожна застолле страва-заначка
Ад шчодрай душы на ўвесь пір.

Серада Ларыса мае тэмбр грудзінны,
Музыку і рытм чуе вельмі тонка.
Кнігам аддае вячэрнія гадзіны,
А пап'е-машэ - асобная старонка.

А Саша Міцкевіч - сама дабрыня:
Спакойны, лагодны, пявучы.
З дрэва карціны - душы чысціня,
А лес яго многаму вучыць.

Канцэртмайстар наш - мастак
На варыяцыі акампанемента,
Іграе, спявае Вітольдавіч так
Віртуозна, шчыра, адметна.

Дырэктару “дзякуй” мы скажам усім хорам
І “дзякуй” прафкаму завода
За ўвагу, падтрымку, прыветлівы нораў,
Жыццё і быццё для народа.

Жадаю я "Скарбніцы" толькі расці,
Колькасна расці і ў якасць,
Каб гледачы на канцэртах маглі
Шчыра смяяцца, не плакаць.

Каб Новы год прынёс вам толькі радасць,
Цудоўны настрой і душэўны парыў,
Каб кожны вечар і кожны новы ранак
Вам хтосьці аб каханні гаварыў!

Хай Новы год яшчэ вам прынясе
Шчасце новае  і пачуццяў гронку.
Спявайце, тварыце, шукайце сябе
І любіце родную старонку!



# *Данута Бічэль*

***Данута Бічэль (Загнетава)***, *паэтка, празаік, перакладчыца. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. Вучылася ў Лідскай педвучэльні, скончыла педвучэльню ў Навааградку (1957) і гісторыка-філалагічны факультэт (беларускае аддзяленне) Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы (1962). Выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах. У горадзе над Нёманам стварыла Музей Максіма Багдановіча.*

*Друкуецца з 1958 года. Была сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1964 г. і сябрам Міжнароднага Пэн-клуба з 1995 г. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (кніга паэзіі "Дзе ходзяць басанож", 1984).*

*Аўтар кніг паэзіі "Дзявочае сэрца", 1960, "Нёман ідзе", 1964, "Запалянкі", 1967, "Браткі", 1979, "А на Палессі", 1990, "Снапок", 1999, "На белых аблоках сноў", 2002, "Іду сцяжынаю да Бога", 2012, "Дайсці да Каложы", 2017 і іншых.*

*Аўтар кніг прозы "Хадзі на мой голас", 2008, "Мост святога Францішка", 2010, "Правінцыя святога Францішка", 2013…*

*Выдавала кнігі для дзіцячага ўзросту… Увайшла ў кніжны праект "Беларускі кнігазбор. Выбраныя творы", 2016…*

*Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Гародні.*

## ПАВОДКА

*...Гаўя спяшаецца ў Нёман,*
*аднак не мялее з любові…*

Цела душы маёй, рака мая Гаўя,
Скончыцца ў Гаўі паводка,
знікне ў асоках зямля, нібы лодка,
рыбы асветляцца, кожная рыбка - нямко,
разалье Малая Мядзведзіца па рацэ малако.

Нёман, куды ты загнаў тыя зялёныя хвалі,
іх срабрыста-нямыя рыбкі ў віры бунтавалі!?
Час луску абадраў з занядбанага слова.
Маўчанне рыбы. Маўчанне песні.
Нёман - Цмок шматгаловы!

Агнеадпорная, падпальваю вуголле ночы,
перасаджваю словы на градкі - не спіцца ўсяроўна.
Як хмарку пасля дажджу, і крыўдзіць ніхто не хоча,
хіба паэтка-крэацыяністка варона.

Ты магла мяне прытуліць, рака мая Гаўя,
у серабрыстай начы, у хвіліну маўчання,
калі рыба луской з дзікіх прорваў адчаю
без паводкі, без глыбіні знемагае…

Цела душы маёй Гаўя, мая блакітная кроў!
Ты магла перанесці мяне - аблачынку нямую…,
дзе на прывязі чоўнік гайдае цялятак і пастушкоў…
Ты пра мяне забыла… А я па табе сумую.

## Божа, беражы нашы рэкі

Зберажы нам, Божанька добры,
рэчанькі нашы, азёры.

Як не зберажэш, то дзе ж удзень
начаваць будуць зоры,
знічкі ды месячык хворы?

Гаўя, чаму твае дзеці
шукаюць працы па свеце?

Малітва бабуліна - Гаўя -
цярпліва дзяцей чакае…
Толькі няхай не мялее,
не зарастае глеем…

Да ціхіх нябёс узвышаецца
ветразямі, ветракамі,
салоўкамі апяваецца,
наіўнымі жаўрукамі…

Ты, Божа, шануеш прыгожае…
Зберажы нашу рэчаньку Гаўю!

## Наіўны верш пра святую крыніцу

Маці Божая на беражок ступае -
прабіваецца крынічанька святая.
У танок збіраюцца анёлкі,
з райскіх градкаў лекавыя зёлкі…
святаяннік, пакаяннік ды бязгрэшнік,
ад сардэчных болесцяў суцешнік…
берасцянкі, шчыглікі, сінічкі
песняй спеляць зёлкі ля крынічкі…

Сыплюцца пясчынкі проста з раю,
буслікі з буслянак іх збіраюць,
на шнурочкі ніжуць для аздобы,
буслікі не ведаюць хваробы…

Лазурыт, тапаз, карунд, алмаз…
перад райскімі слядкамі згас…

А нястомная крынічка б'ецца,
папраўляе стомленае сэрца…
Выпі, Сонейка, крынічнае вады
ад пякучкі, здрады, глухаты…

Тварык змый крынічнаю вадой…
Душачку малітвай супакой…
Уздыхні ў нязведаны бязмеж…
Пачытай сабе крынічны верш!...

## Святыя крыніцы

Ды не прыдумалі мацнейшых лекаў,
чым кроплі чыстыя крынічных рэкаў…
Крынічная вада рачулкі Гаўі
ад цяжкіх болесцяў дапамагае…

Душы збалелай час ляцець у вырай?
Дык, умацуй вадзіцаю са жвірам!
Вучыся ад людзей - крынічак духу!
Не можаш працаваць? Малітвы слухай!

## Сястрыца Нёмана - Гаўя

Рэчанька Гаўя
хмаркі гайдае
між берагамі
ды жвірам…

У жвір загарнецца,
у вір акунецца
ды адлятае ў вырай…

Гаўя-малеча
бегла здалеча,
як аблачынка худая…

Ускочыла ў Нёман,
тут яна дома,
сястрыца Нёмана - Гаўя.

## Сляза матуліна - Гаўя

Сляза матуліна - Гаўя -
самотная, знемагае!
Не цешыцца салаўямі,
з гаем вясну не гукае!

Дзе вы, дзеці, на лодачках,
на чаўнах, на балейках -
у Бурдуках, у Суботнічках,
у сонных Залейках?!

Смела ў чародкі збірайцеся -
басанож, загарэлыя, голыя!
На мурожных лугах не знікайце,
драчы, качаняты вясёлыя.

На самаробных плытах
сплывайце ў бурлівы Нёман!
Гаўю - родавы шлях,
не пакідайце нікому!

## Паміж берагамі Гаўі

Божа, я ўдзячна малітву складаю
за гэтыя цуды, якіх я не маю:
за ціхую рэчаньку Гаўю…

…за тую крынічку, як божую пстрычку,
за бухту, лагодную, бы маляўнічку, -
скакалі з абрыву,
як кропелькі з хмаркі,
худыя пачваркі,
бяз майткаў - галечы,
падсмаленыя - загарэлыя плечы, -

і, дзякуй Тваёй міласэрнай апецы,
што мы не паскручвалі каркі…

…за ўсе азяркі,
дзе ліні, акунькі
і ўсе плывункі мелі схоўкі…

Азёры, як студні,
з дыханнем прыблудным…
і мутныя чортавы змрокі…

Хто ў іх з непрытомнасці ўскочыў,
стаў прывідам-пострахам ночы…

Мой Божа, Табе я малітву складаю,
і дзякуй за рэчаньку Гаўю:

вадзіцай напоіць,
балячкі загоіць -
ныргуй сабе між берагамі…

**Рэчанька Гаўя паэтак натхняе**

Святлана Варонік,
абагулены вобраз
святой наіўноты…

Няўжо ты
ніколі
без болю,
у няволі - на волі,
без нотаў…
не іграла на хвалях рэчанькі Гаўі
свае экспромты-экзоты?

У Суботніках у суботку,
не забудзь пра маю знаходку,
пра Светку, дамаседку-паэтку,
ды пра Вароніка, зялёнага коніка…

апаўночы,
калі аднойчы
маладзёны
знайдзёны таямнічую
папараць-кветку…
Каб толькі не трапіла ў клетку!

Па Гаўі можна хадзіць у разведку!

**Наіўна**

Можна спачатку пачуць толькі гук,
паслухаць сэрца наіўны стук…
Калі ж нерытмічна тахкае сэрца,
І слоўца, як рыбка, у нерадзе б'ецца…

Думка ўрываецца, як натхненне,
як слязіна мутная ў воку…
А ты пераскоч праз сваё вымярэнне,
замры ў эпіцэнтры скоку.

…сэрца маё, нібы рэчанька Гаўя,
У Нёман перабягае…

Набухае, ламаецца лёд -
рэчанька Гаўя мяняе ход.
Разальецца раптоўна неяк
ад Дзівонішкаў да Залеек…

ад Сонтакаў да Казечына
дзівы дзеюцца недарэчныя.

Гаўя робіцца небяспечнаю -
шчупакі заплываюць у печы…

Адкуль у рэчанькі дзікія норавы -
ператвараецца ў бруднае мора,
падмывае карчы, валуны…
на Царкеўнішчы будзіць званы.

Напіваецца бор сасмяглы,
Пятры, Павалокі, Сяглы…
з-пад карчоў павылазілі д'яблы.

Мерцвякі блукаюць па хатах
ды палохаюць непамагатых…

З Альхоўкі ў Мядзведзеў лог…
ні грудкоў, ні брадкоў, ні дарог!
Гады набрынялі, як цмокі…
плавае цыклоп аднавокі.

Цяпер зусім невядома -
дзе рэчанька Гаўя, дзе Нёман…
і калі паводка ўгамоніцца,
ападзе ў балоты-бяздонніцы?

Ці там не звядуцца сініцы…
журавінкі, жабы і жоравы?
І калі спадзе гэта морыва?

…Толькі Біскупцы
застаюцца на выспачцы…
Можна выпрастацца,
Можна выспацца!

…Ды прыходзіць святая Вербніца,
распушыцца вярба, вербалоз.

Гаўя ў берагі свае вернецца.
Вялікдзень! Хрыстос Уваскрос!

## Развітанне

Разліваецца паводкай стома.
Адплываю ў спрадвечны Нёман,
у вершы Божанькі-рыбалова…
…На пачатку было Слова.
*11 студзеня 2022 г.*

## Псальм 91. Да Божай апекі
(адвольнае пераўстварэнне)

Хто прабывае ды ў Божай печы,
за Ўсемагутнага плечы
схаваны, -
так прашаптаў да Пана:

"Схоўка мая і Цвярдыня,
мой Божа, якому веру!

Ён мяне вызваляе
ад згубнага слова д'ябла,

срэбным перыйкам атуляе
у залатое крылле,
мацунак мой ад бяссілля,
зорак начных карона:
- Ён мой шчыт і заслона.

Не палохайся начной цемры,
ні стралы, пацэленай днём,
ані заразы паўзмроку,
ані мору, што слепіць вока.

Тысяча зваліцца ля твайго левага боку,
дзесяць тысяч - каля правіцы:
цябе гэта не напаткае,
толькі не забудзь памаліцца.

Ты на ўласныя вочы ўбачыш
з грэшнікамі расплату…

Ты ж маеш Пана, як мышка норку…
Абаронцы Найвышэйшага Ўладу.

Нядоля да цябе не прыстане,
Пярун не падпаліць хаты…

Сваім анёлам Пан загадае,
каб бераглі твае сцяжынкі,
і будуць насіць цябе на руках,
каб на камені ног не параніў.

Будзеш хадзіць па вужах і змеях,
затопчаш ільва і цмока.
"Яго Я вызвалю, бо ён Мяне выбраў,
абараню, бо Мяне паклікаў.

Пакліча Мяне, яго Я пачую,
буду з ім у яго адчаі,
вызвалю і ўзвялічу,
умацую доўгім жыццём,
збаўленне яму падарую!"



## *Уладзімір Васько*

*Уладзімір Васько нарадзіўся ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гарадзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Працаваў у рэдакцыях шчучынскай (1959-1960), дзятлаўскай (1967-1972) і лідскай (1972-2000) раённых газет. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2007 па 2021 год. Жыве ў Лідзе. Друкуецца ў рэспубліканскім, абласным і раённым друку. Выдаў кнігі "Прасветленасць" (1981), "На схілах берагоў" (1997), "Кругазварот жыцця" (2011), "Лясная рапсодыя" (2013), "Зігзагі лёсу" (2017), "Энергія душы" (2018), "На пераралах часу" (2021). Лаўрэат прэміі імя Анатоля Іверса 2022 года.*

### Эксперымент

Недасканалы чалавечы род -
так, пэўна, прадугледжана прыродай.
Суіснуюць паэт і абармот,
і не заўжды між імі тчэцца згода.
Ёсць здольныя варожасць рассяваць.
Ёсць прагнучыя замірыць народы.
Адзін імкнецца не тварыць, а браць,
другі крыштальнай, чэснае пароды.
А што, каб быў бы ідэальны люд,
разумны, добры, з чыстымі вачыма?

Няўжо прыйшоў бы ўсяму капут?
Без супрацьлегласцяў, як быццам, немагчыма.
Хачу паставіць я эксперымент
хоць на адной хуцавенькай краіне,
каб стаў там люд, бы зладжаны квартэт,
а барацьба не існавала б і ў паміне.
Ды хто дазволіць гэта правясці?
- Сядзь, супакойся, фантазёр няшчасны.
Як шло дагэтуль, так і будзе йсці.
Чуў, быў Хрушчоў, ды быў і Сямічасны.
*18.01.2021 г.*

**Заліжуць акіяны раны**

Чаго чакаць ад заўтрашняга дня?
У далячыні часу пазіраю.
Падайце мне крылатага каня,
я больш пакуль нічога не жадаю.
На ім памчу ад роднай хаты,
адчую подых добрага і злога.
Паадбіваю рукі змею-кату,
прынікну духам да ўсяго святога.
І на даліне ці крутой гары
адчыніцца мне ў будучыню брама -
і ўбачу, што народ стварыў,
якой Зямелькі стала панарама.
Ну, а пакуль між люднасці хаджу,
крыху ўзнёслы, трохі занядбаны,
і сам сабе пад нос услых цвярджу:
заліжуць акіяны нашы раны.
*18.01.2021 г.*

**Віна**

Здаецца, нікому я зла не зрабіў,
а пачуваю сябе вінаватым.

Мурашку, пчалу абмінаў, а не біў,
на свет пазіраў не праз краты.
Радзіма, ніколі не здрадзіў табе.
Народ, хіба я запрадажнік?
Я голле малым не ламаў на вярбе,
дарослым не чуў сябе важным.
Адкуль адчуванне набеглай віны?
Чаму ўсё мяне так хвалюе, даймае?
Магчыма, духоўнай глытнуў труцізны,
якой у сучасных варунках хапае.
Ніяк не магу разабрацца ў сабе,
а іншаму поскудзь - настроі такія.
Сядзіць і маўчыць, і ў дзве храпы сапе,
запасы на век свой прыдбаў неблагія.
*20.01.2021 г.*

**Небыліца**

Куды на ільдзіне, адлюдны плыву -
у цемру вякоў ці ў прыгожыя далі?
Якія сустрэну цячэнні, скрыжалі,
якія напасці ўшчэнт разарву?
Таемны кірунак нязведаны шлях.
Укленчыў, малюся магутнаму Богу.
З кашулі зрабіў паласаценькі сцяг:
А вось хто ўбачыць, падасць дапамогу.
Парывісты вецер. Раве акіян.
А хвалі, здаецца, раскрышаць ільдзіну.
Які недавярак, які зладыян
мяне ў гэта пекла са злосці закінуў?
І ўсё ж я не вельмі баюся, дрыжу.
Марак не люляе ў сабе палахліўца.
І вам па сакрэту, на вушка, скажу.
Што гэта ўсяго толькі сон-небыліца.
*27.01.2021 г.*

## Рыфмач

Зарыфмаплёціўся паэт,
забыўся пра дзяўчат і лета.
Складзе спакутліва куплет
і думае, што здатна гэта.
А горад люднасцю кіпіць,
мільгаюць міні-плісі кідка.
Дык перастань над рыфмай ныць:
ты ж усяроўна пішаш брыдка.
Устань. Па парку пахадзі
і ад жыцця адчуй падмогу.
Убок свой ліст ты адкладзі
і бразні ручку аб падлогу.
*30.01.2021 г.*

## Бясплатна

… Задумаў грошай назбіраць.
Трымаўся ад растрат найдалей.
Не стаў напіткі, сок купляць.
Пусціўся ў прымітыўны гандаль.
Гарбуз на рынку прадаваў,
гуркі, капусту, памідоры.
Начамі цэлымі не спаў:
пра залатыя марыў горы.
Старэнькі ровар нейк прыдбаў
і часта ездзіў па маліны,
ды больш, чым грошай, назбіраў
бясплатнага халестэрыну.
*16.02.2021 г.*

## Птушыны канцэрт

Разпагодзілі птушкі мяне.
Як люблю я гэтых салістаў!

Кожны нейк па-свойску пяе,
то са шчэбетам, то з прысвістам.
Слухаць іх - што ў паветра ўзлятаць.
Во ў каго нам патрэбна вучыцца,
як паводзіць сябе, як спяваць,
як кахаць, шчыраваць, весяліцца.
Проста сэрца ў грудзях растае
ад вясёлых і радасных песняў.
Як такіх спевакоў не стае
ў хрушчоўцы маёй цёмнай, цеснай!
*17.02.2021 г.*

### Так проста

Так ярка росы зіхацяць,
так шпарка дзядзька з вудай крочыць,
так смела новы дзень прарочыць,
што шчасце будзем з неба браць.
Так здатна яблыні цвітуць,
так спрытна мёд збіраюць пчолы,
так шчыра моляцца анёлы,
каб нас ніхто не здолеў здзьмуць.
Так ціха рыбакі стаяць
на сонным беразе Лідзейкі,
так хораша смяюцца дзеўкі,
што бляск вачэй іх не суняць.
Так проста ўвесь Сусвет абняць,
так мірна круцяцца планеты,
так звыкла сноўдаюць паэты,
каб дзе хоць што надрукаваць.
Так гучна коціцца цягнік
па мосце - вунь! - на Маладзечна.
Няхай так будзе ў свеце вечна,
каб подых радасці не знік.
Так хораша ступаеш ты
па скверыку, па тратуары

і рассяваеш шчодра чары
на хлопцаў бравых, маладых.
Не проста мне цябе абняць:
баюся моцнай аплявухі.
Хто я? Паэцік аблавухі.
Табе ж раўні не падабраць.
*20.02.2021 г.*

## У дарозе да праўды

Шукальнік праўды, руку дай!
Не стой у роспачы мінутнай:
з табой мы пойдзем аж на край
планеты нашай шматпакутнай.
Вазьмі ў дарогу харч які,
даляраў, еўрыкаў хоць трохі.
Абуй старыя хадакі,
бо туфлі будуць муляць ногі.
Не проста праўду нам знайсці -
мы гэта ведаем выдатна.
Ды трэба йсці, ісці, ісці
па полі, праз лясы, па трактах.
Да акіянаў, да мароў
праляжа шлях наш небывалы.
Пачуем многа розных моў,
сустрэнем шэідкіх і кульгавых.
Не вер, хто скажа, што нідзе
да выспы праўды не дабрацца.
Патрэбна толькі пры хадзе
нічога, братка, не баяцца.
Сустрэнем процьму перашкод,
адчуем тысячы нападак.
Мо хто нагой піхне ў жывот
і ўрэжа кіем у дадатак.
Не разгубіся, не ўцячы,
і што наперадзе ні будзе -

мы знойдзем праўду, бы ключы,
і пра яе раскажам людзям.
*22.02.2021 г.*

**Раненая чапля**

Падбітая птушка валіцца вяла,
яна ў паветры пакуль што жыве,
ды трапная куля крыло ёй зламала -
і ўсё ў вачах набрынялых плыве.
Да Нёмна ляцела бядотніца ціха,
рыбачыць хацела ці так пастаяць,
ды во напаткала каварнае ліха -
і птушцы крыло ўжо болей не ўзняць.
Стралку не шкада пакалечанай чаплі,
ні бацькі, ні маці, ні сёстраў яе.
Што зробіш з людзьмі,
што зусім адзічалі,
якім мілажальнасці так не стае?!
Ад болі на пожні курчыцца чапля,
няма паратунку, падмогі няма.
А гэты мудак яе не чапае -
во па кім слёзна ўздыхае турма.
Ён рады, што здорава бахнуў і метка,
не прамахнуўся, сваё даказаў.
А можа ўнутры бушавала гарэлка?
А можа нячысцік стральнуць падказаў?
*26.02.2021 г.*

**Захапленні**

Не заганяю сам сябе ў скруху,
таму й такі парыўны, гаваркі.
Люблю хадзіць праз поле ў завіруху,
на лыжах ўздымацца на грудкі.
Да музыкі і да красуняў палкі

і так мілую разнастайны спорт,
і дня не пражыву без фіззарадкі,
без дачных разпацешлівых турбот.
І як магнітам цягне да рыбалкі,
да тоўстых соснаў, стромкіх берагоў.
Ці я такі ўрадзіўся страшна палкі,
ці афрыканская ўва мне бушуе кроў.
Зайздрошчу каскадзёрам і пілотам,
танцорам, касманаўтам, маракам.
Не падпускаю блізка абармотаў,
свярбіць на разбуральнікаў рука.
*27.02.2021 г.*

## Мой сад

Залістападзіўся мой сад,
(а так квітнеў яшчэ нядаўна),
зусім змарнее да Каляд,
(а летам красаваўся хвайна).
У снежні пачарнее ён,
не стане небам любавацца
і, як стары Напалеон,
на нешта будзе спадзявацца.
Зімою зробіцца, як цень,
зусім глязецца будзе брыдка,
і толькі белая накідка
яго ўпрыгожыць хоць на дзень.
*04.03.2021 г.*

## Паклёпнікі

Ці сам сябе загнаў я ў кут,
ці апанентаў злая зграя?
Мой верш паклёпнікаў збірае -
яны сціскаюцца ўсе ў жмут.
Дзе больш энергіі ў радках?

Дзе лепей рытміка іграе?
А ў іх эмоцый не хапае -
ідуць куплеты з малатка.
Пруць графаманы напралом,
а мы глядзім безабаронна.
Яны ўжо строяцца паротна,
каб узмацніць глухі свой гром.
Мной інтуіцыі парыў
на ўсіх кіруе скрыжаваннях,
а ў іх нікчэмных развражаннях,
як у брахні сабак, - надрыў.
Адзін канат у ста руках:
тут хто каго ўжо перацягне,
чыё акажацца візжанне
мацней, чым бой на кулаках.
*07.03.2021 г.*

## Абурэнне ката

Загнала лайка на вярбу ката,
і той пачаў услых трывогу біць:
- Во развялася зараз свалата,
што немагчыма мірна крок ступіць.
Не хочацца ўжо мне крычаць: "Ура!",
хоць пакрысе і падсыхае гразь.
Такое асабачванне двара,
што хоць ты з дрэва на зямлю не злазь.
*20.03.2021 г.*

## Цішыня

Не зварухнецца ні адзін лісток,
не паварушыцца і павуцінка.
Як на капусце белы матылёк,
стаілася на небе аблачынка.

Так міласэрна, хораша кругом.
Маўчаць вароны, не галосяць кані.
Прырода ў нейкім велічным чаканні.
Даўно заснуў недасягальны гром.
І хочацца міжвольна пастаяць,
паслухаць цішыню, яе дыханне,
прастор шырокі жнівеньскі абняць,
пацалаваць яго на развітанне.
Бо хутка-хутка прыляцяць снягі,
як цюлем, занавесяць далячыні,
заслоняць воблік сонца дарагі.
Заплачу я па ім, як па Айчыне.
*25.03.2021 г.*

**Вось як…**

Няхай даруе мне той дзядзька дбайны,
што на яго стажок я тут прылёг.
Як добра мне! Які куточак хвайны!
Як пахне мёдам скошаны мурог!
Булькочуць поруч хвалі несціхана,
бубняць пра нешта сонныя чмялі,
і нібы назнарок для закаханых
кудысьці хмаркі жвава паплылі.
Ад сінявы прыемна і лагодна.
Яна мне нагадала вочы той
дзяўчыны, што ў аўтобусе на Гродна
так захапляльна балаболіла са мной.
Студэнтачка, у беленькай сукенцы,
эх, каб прыбегла ты здалёк сюды -
у сто разоў палепшала б на сэрцы,
і не пайшлі б адсюль мы нікуды.
*27.03.2021 г.*

* * *

Не меч прынёс я вам, а верш,
каб душы ім ублагаволіць.
Пацеш сябе, дзяцей пацеш
і перадай яго другому.
Прывыклі ў полымі трывог
адзін другога біць, калечыць.
А тут я з мірам на парог.
Мо й удасца люд ачалавечыць?
Шмат заваёўнікаў было,
што йшлі на бой па ўласнай волі.
Ды тое ўжо ў нябыт сплыло
і не паўстане больш ніколі.
Не зырся на маё дабро
і пра варожасць не зюзюкай.
Вазьмі лепш лёгкае пяро
і тэкст для песні намазюкай.
*30.03.2021 г.*

**Заставайся юнай**

Як спатоліць прагу да цябе?
Ты далёка, за гарамі часу.
Дні праходзяць сумна, у журбе,
з успамінаў доўгіх не вылажу.
Цераз кожных дзесяць, пяць мінут
воблік твой узнікае перад мною.
Ах, як я бяздумна прамінуў
шчасце той гулліваю парою!
Як чаромха хораша цвіла!
Як прывабна вусны лепяталі!
Ты непараўнальнаю была!
Як на крылах мараў мы ляталі!
Усё мне гаманіла пра цябе:
бераг рэчкі, ліпы векавыя,

коцікі на маладой вярбе,
восенню бярозы залатыя.
Помню, мы па кладачцы ішлі,
я цябе рукамі падстрахоўваў.
Як прыгожа банцікі цвілі!
Як свяціла сонейка ахоўна!
Заклікаў зялёны далягляд,
маладое жыта красавала,
радасці было ў нас зашмат,
шчасце ў юных душах бушавала.
А цяпер, калі бываю там,
голас твой лаўлю пяшчотны чуйна.
Забыццю цябе я не аддам,
заставайся ў маім сэрцы юнай.
*05.05.2021 г.*

## Байкі

### Лось-лавелас

Прывабіў лось казулю да сябе,
наабяцаў ёй залатыя горы:
- Ты будзеш тут царыцаю цяпер,
забудзеш аб сваім нядаўнім горы.
Цябе ганялі шэрыя ваўкі,
ліхія паляўнічыя сабакі,
палохалі знянацку вепрукі -
цяпер яны табе ўсе да брамкі.
Прыслугай стануць той жа злосны воўк,
аматар да грыбоў - калючы вожык.
Вяпрук адзене ў залацісты шоўк,
ліса зайздросціць будзе, як вяльможы".
І напачатку, праўда, так было.
Пасля ж у блуд пусціўся лось сахаты,
зрабіўся, як апошняе хамло,
зусім адбіўся ад двара і хаты.

Завёў каханак ён ва ўсіх кутках
ляснога сакавітага абшару,
параздаваў усё дабро за так,
а ноччу п'яны па кішэнях шарыў.
"Ну вось што, мілы, я адсюдь пайшла, -
прамовіла ў роспачы казуля, -
я лепшага казла, чым ты знайшла,
і вось табе на развітанне дуля".
*11.02.2021 г.*

**Ліса-знахарка**

Заробкі ў лісы пайшлі не згорш:
яна сябе знахаркай абвясціла,
і кожная задрыпаная вош
лячыцца да хітрункі пасняшыла.
Між тоўстых дрэў, кустоўя і галля
прыбег звідна, бы з перапуду, вожык:
- Бабулька, даражэнькая, паглянь,
які я ёсць. Мо ў горы дапаможаш?
- А хто ж цябе так здатна прыдушыў?
Усе калючкі паламаў дарэшты.
Ты можа дзе свядома награшыў?
Мо ў лася пакраў з паліцы вершы?
- Ды не, я лісце для нары цягаў -
і тут наскочыў воўк, як леў, кудлаты
і больш гадзіны ўсё мяне таптаў,
і не баяўся, што паколе лапы.
Ліса іголкі выпрастала ўсе
і змазала яловаю смалою:
- Паправішся, братове, пакрысе.
Будзь болей пільным, думай галавою.
- А колькі трэба, пані, заплаціць?
- На першы раз давай "дваццатку", братка.
Мо прыйдзецца калі яшчэ лячыць,
Прыходзь, ды толькі, як мага, украдкай.

Праз тыдзень прыцягнуўся шэры воўк:
- Суседка, з мною гора адбылося.
Авечку з поля на плячах валок
і на калючым дроце пракалоўся.
Ліса ўсміхнулася і спакваля
агледзела ўсе чатыры лапы:
- Такога пра цябе й не сніла я.
Ну здорава ты іх, браток, падрапаў.
Ліса прамыла раны на нагах,
дала папіць зялёнага адвару.
- Ці вылечуся хоць? Аж цісне страх.
- Папраўішся. Не налягай на згару.
-  Не ведаю, як мне далей і быць…
А колькі заплаціць? Ці вып'ем чарку?
- Мне ад гарэлкі галава баліць.
Давай лепш, воўк, пакуль "пяцідзясятку".
Лячыліся ў лісы бабры, ласі,
дразды вавёркі, барадаты козлік,
барсук ёй грошай шмат перанасіў -
ды толькі не папраўіўся ніхто з іх.
*19.03.2021 г.*



# *Кацярына Янчэўская*

*Янчэўская Кацярына Валянцінаўна, мастацтвазнаўца і філосаф. Нарадзілася 27 чэрвеня 1981 года ў Лідзе. Навуковыя і творчыя захапленні: філасофская антрапалогія і фенаменалогія, этычныя праблемы сучаснага чалавека, выяўленчае мастацтва Францыі і Беларусі. Вершы друкаваліся ў зборніку "Ад лідскіх муроў", газеце "Літаратура і мастацтва", часопісах "Маладосць", "Дзеяслоў", "Тэрмапілы". Аўтар зборніка "Белае шматкроп'е" (2021).*

*Лаўрэат конкурсу 2019 г. "Бацькаўшчына светлая мая...", прысвечанага Году малой радзімы (другое месца ў намінацыі "Паэзія"), арганізаванага Першым нацыянальным каналам Беларускага радыё, літаратурна-мастацкім часопісам "Маладосць".*

*Лаўрэат прэміі "Залаты апостраф" за найлепшую публікацыю ў часопісе "Дзеяслоў" у намінацыі "Дэбют" (2019).*

### Рана

Горад плыве ў бязмежжы,
туман спавівае сутнасць.
Параненыя далягляды
ці стоенасць вышыні?

Горад сціраае раны
ці адкрывае балючасць
Радзімы- існасці?

## Супрэматычная раніца

Раніца пачынаецца з гульні супрэматычнага:
сонечных зайчыкаў і птушыных спеваў.
Гадзіннік заўважае:
сэрцабіццё світання па-за яго ўладай.
Свята.

## Вясковы кошык

Далёка ад пустэльні забыцця
сілкуецца размовамі ў каморы вясковы кошык.
Перапляценне празорлівых сцежак...

Калыска досведу: патрабуе формы і зместу.
Ёсць месца для цудадзейнага.
Цёплы дотык рукі на вячыстых пагорках святла.
Блізка лета.

## Плот

Стары плот разабраны на дровы.
Кожная дошка быццам арт-мова.
Складаныя рэчы.
Цікавыя людзі.
Жыццё.

Няма агароджы: катайся на лыжах, плыві на лодцы.
Хадзі пешшу.
Вітайся са знаёмымі і незнаёмымі.
Гавары доўга і натхнёна.
Не спяшайся.
Жыві.
Памятай пра водар жывіцы.

* * *

*І вымалюю ноты*
*беспатольнай адзіноты...*
***Данута Бічэль.***

Шурпатыя сцены шматпавярховага дома.
Прыступкі, што паглынаюць наш зрок.
Не бачым сябе, калі падымаемся ўгору.
Не бачым сябе, калі спускаемся долу.
Мы быццам паўсюль і нідзе.
Беспрытульныя ў свеце.
Знаходзім сваю адзіноту як воцат,
што растварае годныя словы і ноты.
І пакідае паверхі фальшывых людзей.

## Асіметрыя

Бяссонніца прыцягвае, як галалёд.
Разломвае гукі дыхання на фаянс і фарфор.
Галдаўлянка, Лебяда, Жыжма...
Замёрзлая рака на карце твайго маўчання.

Адзіны  набытак маёй зімы - рачныя рукавы
як нязбытныя снабачанні.
І твая непразрыстая, вострая, бачная адсутнасць.
Нямое кіно.
Ты - лёд.

Адчуваю соннае шкло, змяшанае з глінай.
Маёліка.
На аскепках - мае далоні.
Бясслоўная асіметрыя.

## Арытмія

Несупадзенне:
арытмія памылак пакідае ўзоры на шкле цягніка.
Пасажыры ў вагонах -
сняжынкі ў гравюры спаткання -
распадаюцца гукамі солі і снега.
Рытм чыгуначных станцый малюе арнамент
на паверхні жывога дыхання.
Рэчаіснасць з`ядае рытм.
Снег з`явіцца зноў як паранены цень на ростані.
Соль і снег: арытмія ўзораў на шкле цягніка.

## Сабор

Дрэвы прачынаюцца ў свеце Антоніа Гаўдзі.
Сабор Святой Сям`і дыхае і расце.

Мора расплываецца фарбамі:
папера, гуаш, паветра.
Барселона.
Казачныя расліны-лініі.

Камень расце і дыхае.
Кожную вясну становіцца
Хлебам.
Частуе кожнага.
Крыху спустошаны, чакае.

Мора і вецер.
Вяршыня сэрцабіцця:
будаўніцтва заўсёды
не завершана...

## Сустрэча

Сустрэча - перакуленая вечнасць -
ляціць у сэрца белым крохкім снегам.
Гарчыць самота.
Снежная цялеснасць
без шкадавання аддае ўвесь холад чалавеку.
Прымаем люты хлебам-соллю-верай...
У адкрытым сэрцы - раны ад сустрэч.
Дыханне прачынаецца ад холаду
ці ад нязбытнай прагі цеплыні?
Ў чуллівым сэрцы  снег мяняе колер,
сагрэтая гаркота растае.

Святло надзеі зберагае веру,
трымае чалавека на зямлі.
Кожны дзень - сапраўдная падзея,
калі Божы позірк атуляе...
У адкрытым сэрцы - абуджэнне.
Новая вясна вітае нас.
Творчыя пялёсткі адраджэння.
Храм. Вялікдзень. Жыццядайны сэнс.



# *Тарэза Смольская*

*Тарэза Смольская (Пышко) нарадзілася і жыве ў слаўным беларускім горадзе з жаночым імем - Ліда. Пасля 25 гадоў дзяржслужбы на пасадзе галоўнага інспектара, лідзянка нечакана сустрэла вершаваную музу, якая забрала яе ў свет паэзіі і мастацтва.*

*З тых часоў напісана і апублікавана на вершаваным сайце Stihi.ru 1126 твораў: лірыка грамадзянская і філасофская, рэлігійная і пейзажная, гарадская і любоўная. Дзеці і дарослыя з задавальненнем чытаюць дзіцячыя вершы, добрыя казкі, пазнавальныя загадкі. Новы напрамак у творчасці Тарэзы - сучасныя байкі, напоўненыя душэўнай цеплынёй, лёгкай іроніяй і добрым гумарам. Тэрэза піша імянныя віншавальныя вершы на замову да святочных і юбілейных дат і прафесійна займаецца капірайтынгам.*

## Фарны касцёл

Калісьці ў касцёл я прыходзіла з мамай.
Святлом абразы зіхацяць.
Было тое месца намоленным самым.
Там ісціну можна спазнаць.

Там лікі святых у залацістым убранні
І Езус жывы на крыжы.
Там неверагодны дзівосны Сакрамант.
Магчымасць душу разграшыць.

Там можна слязамі нябачнымі плакаць
Бязгучна душой галасіць.
Прывеціць ахоўнік-анёл небараку.
Хоць роспач - захочацца жыць!

Утульна мне ў храме. Надзейна, як у доме.
З нябёсаў струменіць святло.
Перад Лідскай Мадоннай схілюся ў паклоне.
Лілеяў букецік пакіну без слоў.

## Дзіцячы ўспамін

Па "гэканні" пазнаеш беларуса.
Гаючая празрыстая душа!
Няхай ад бульбы распірае пуза,
Кладзецца госцю дранічак спярша!

Гасцінныя вясковыя кабеты
вітаюць шчыра: дык заходзьце ў дом!
Там цёпла ўзімку і ўтульна летам.
Там абразы з пасажным ручніком.

А на сцяне ў рамачках драўляных
шыхт фотаздымкаў - дзіўны вернісаж!

Там пахне хлебам з печы, а не з крамы.
А кот на ганку - запрашальнік ваш.

Сваю я бабцю Маню прыгадала:
Як частавала печаным яйком,
Каўбаскі, паляндвічкі падразала, -
Усё прамільгнула незабыўным сном.

Хусцінку ў ружовыя стакроткі
Захоўваю ў шуфлядзе - важны дар!
Жыццёвы шлях бабулін быў кароткім.
У Вечнасць адыйшоу і гаспадар.

Гудуць ўспаміны роем, нібы пчолы,
І не знайсці спакою анідзе!
Канікулы! Забыўшыся аб школе,
Сляпцом да бабці - пот па барадзе!

Хацелася гуляць аж да паўночы,
У садку ранетак меданосны пах.
Але загад бабулін: - Дзеці, хопіць!
Уставаць мне рана. Усім у ложкі! Спаць!

Змірыўшыся, мы кláліся ў "восем".
Лагодны месяц ласціўся ў вакно.
Здавалася: не прыйдзе цётка-восень,
А потым думкі пераманьваў сон.

Як спалася салодка на пярыне!
Сяннік з духмяных чабаровых траў.
Вячэра з бульбай-агуркамі стыла.
Ты, мой чытач, такого не пазнаў!?

На раніцы сняданак, ды па-пански!
Бліны з мачанкай пульхныя: ну, смак!
Даілася кароўка з ціхай ласкай.
Ды ружавелі ўнукі - добры знак!

Даўно бабулька адышла да неба.
Прытулак вечны - могілкі ў цішы.
Мне ўспамін з дзяцінства так патрэбен!
Яго не купіш у краме за грашы.

У хатцы той даўно чужыя людзі,
Дзе не сагрэцца даўнішнім цяплом.
Журба-туга вузлом сціскае грудзі:
Ўжо не пакліча на вячэру дом.

## Домік Таўлая

Прывеціць турыста вачніцамі вокнаў.
Запросіць прыветна з вітога балкона.
Гасцям прапануе духмянага чаю.
Гісторыі сведка - наш домік Таўлая.

Ля сцен непрыступнага гордага замка
Патрэбы няма ў штодзённай рэкламе.
Ёсць спадчына - дом Валянціна Таўлая,
Здабыўцы свабоды для роднага краю.

Ён марыў у цямніцы турмы аб свабодзе
І быў папулярным героем ў народзе.
Жадаў Беларусь-маці вольнаю бачыць.
Шмат сілы патраціў для важнай задачы.

Зямляк працаваў і ў мясцовай газеце.
Сустрэнемся з ім ў чорна-белым партрэце.
З фашызмам змагаўся не толькі вінтоўкай -
Ён ворагаў біў і пяром, і лістоўкай.

Ён - крытык, паэт, публіцыст, перакладчык.
Хай годы прайшлі, для нашчадкаў - дарадчык.
Знаёмы з ім вуліцы, бібліятэкі.
Мы імя Таўлая запомнім навекі!

## Адаму Міцкевічу

Беларус, літовец ці паляк.
Вы чыйго, Адам Міцкевіч, роду?
Адданы якому Вы народу?
У Лідзе помнік - значыць, мой зямляк!

Дорыце Айчыне свой санет-
Словы, нібы трапяткія крокі.
Не! Няма ў сваёй зямлі прарокаў!
Захованы ў граніт паэт.

Верш ад сэрца і зямлі напеў.
Убаку ад гарадскога шуму.
Аддаецца патаемным думам.
У цішы, сярод цяністых дрэў

## Францішку Скарыну

Пры Фарным касцёле ля сцен старажытных.
З рукою паднятай - знак ведаў адвечных -
Накінуушы плашч на магутныя плечы
Стаіць муж дзяржаўны - Францішак Скарына.

Вучоны, дарадца і геній асветы.
Сваяцтва прызнае ліцвін з беларусам.
Хвалу яму ўзносяць і выхадцы з рускіх.
Ён - першадрукар і кумір для паэта!

Я ў сквер завітаю: том вершаў любімых.
Стасунак з мінулым - трапяткая радасць.
Ад продкаў вам - памяць, паклон і ўдзячнасць,
Зямляк ганаровы - Францішак Скарына!



# *Міхась Мельнік*

*Міхась Іванавіч Мельнік нарадзіўся 7 лістапада 1949 года на Магілёўшчыне (вёска Майсеевічы Асіповіцкага раёна), але вось ужо 45 гадоў яго жыццё, працоўная і грамадская дзейнасць, літаратурная творчасць цесна звязаны з Лідчынай. Скончыў філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы, працаваў у школах, прафтэхвучылішчы, гістарычна-мастацкім музеі, шмат гадоў выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Лідскім каледжы. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь. Выдаў зборнікі вершаў "Скрыжаванне", "Лодка жыцця", "З табою".*

## *З ранніх вершаў*

### Абавязак

Мне жыць і дбаць пра заўтра,
Пра дзень шчаслівы свой.
Стаю нястомнай вартай
Ля вечнасці сівой.

Лічу сваёй патрэбай
Трывожыцца і верыць,
Каб смачнай лусце хлеба
Заўжды быць на вячэры…

## Кветкі

На ўсе святы купляюць кветкі,
Як прыгожых рабынь у даўніну…
А яны не для грошай нейкіх,
А яны не для штучнай даніны.

Заўжды кветкі кладуць на магілы,
Кветкі дораць сябрам і каханым…
Кветкі - сімвал жыццёвае сілы,
А не знак паказное пашаны…

А калі хто на рынку нядзельным
Прапануе мне кветкі - "тавар",
Не магу гэты дар неацэнны
З рук халодных і сквапных браць.

## Адчуванне

Адчуваю сябе багатым
Сярод клёнаў, бяроз і сосен,
Дзе бярэ свой руплівы пачатак
Гаспадыня ўвішная - восень…

Я ступаю ўладарнікам свету
Па лістах ды іголках калючых,
Каб аднойчы спасцігнуць прыкмету,
Што ў жыцці няма месца паўзучым…

## Зноў пра бюракратаў

Жонцы муж дамоў кулёк прынёс.
Разгарнулі: быў жа там авёс.

Муж заенчыў, седзячы на крэсле:
"Не вінаўны тут я, бачыць Бог!

Грэчку ці авёс яны паднеслі,
Праз паперу бачыць я не мог.

Не дарую гэтага, дай веры!"
…Дрэнна тым бывае, як у кога
Звычка бачыць толькі вось паперу,
А за ёй не бачыць больш нічога.

**Здрада**

Сонца ў вачах
і неба…
І самалёт,
як здраднік,
Падае, страціўшы меру…
А ў самалёце -
Гагарын
Трызніць пра Венеру,
Думае пра палёты
І пра зямныя турботы…
Гул над зямлёй.
І… выбух…
Быццам сірэна -
рэха…
Сонца на міг патухла.
Дрэвы схілілі кроны…
Крах…
Прах…
Жах!..
Сонца
І неба
ў вачах…
А на зямлі
азартна
Дзеці гуляюць
У ГАГАРЫНА…

**Адказнасць**

Неба,
Што вышыта зорамі,
Месяц -
Падкова каня -
Гэта мне ўсё падаравана
Лёсам пражытага дня…
Шчырую
Песню матулі,
Ранне грыбное ў бары
Я не падстаўлю
Пад кулі -
Лепей сябе
Да пары…

## Адмаўленне

Я не даю даверу словам тым,
Якія з хітрасцю гаворацца ў вочы…
Калі з дрэў падаюць лісты -
Не значыць гэта, што прыйшла ўжо восень.

…Глядзіш, бывае, на гурочны цвет,
Што захапляе думку неймаверна…
Мінае час - і любавання след
Кладзецца роспаччу бязмернай.

Ніяк не давяраю словам тым,
Якія прамаўляюцца з паперкі
Не па асабістай дабрыні,
А дзеля выхваленняў нейкіх.

Не давяраю я і словам тым,
Якія схаваны пад знешняй ласкай…
Калі п'еш квас у дзень спякотны ты,
Не значыць, што ён лепшае закваскі…

Бывае, чуеш, як грыміць бясконца,
Чакаеш: дождж вось-вось пальецца…
Аднак ізноў смяецца сонца -
І толькі спадзяванні сэрца…

Я не даю даверу словам тым!..

## Мая Радзіма

Змяніўся воблік Беларусі -
Не налюбуюся красой…
І я заўсёды ганаруся,
Што тут прытулак вечны мой.

Ды слова роднае гаворыць
Са Светам, з космасам на "ты",
І асвятляюцца прасторы
Ад гэтай мудрай прастаты.

Мой край на ўздыме небывалым,
Квітнее слаўная зямля,
Разбуджаная трактарамі,
Прагрэсам, песнямі штодня…

О, як прыемна адчуваць
Сябе свабодным і шчаслівым!
А што яшчэ хацець, жадаць,
Як не квітнеючай Радзімы?!

### Любіце музыку, паэты!

Любіце музыку, паэты,
Яе чароўны, светлы гук:
У ёй трывогі і дух планеты,
У ёй натхненне, сэрца стук…

Любіце музыку, паэты, -
Крыніцу мараў, пачуцця,
Паплечніцу жаданай мэты,
Стваральніцу красы жыцця.

Любіце музыку, паэты, -
Душы магічную пячаць,
І ёй узнёслыя санеты
Не забывайце прысвячаць!



# *Святлана Курловіч*

*Святлана Курловіч нарадзілася ў лютым 1986 года ў Лідзе. Да 1996 года жыла з бацькамі ў Пінску, дзе яны працавалі пасля заканчэння Беларускай сельгасакадэміі. У Лідзе Святлана скончыла сярэднюю школу № 15, а затым Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут (факультэт "Міжнародныя адносіны"). Атрымала спецыяльнасць "рэферэнт-перакладчык англійскай і французскай моў".*

*Замужам. Шэсць гадоў жыла ў Маскве. Працавала ў Цэнтральным апараце фонду сацыяльнага страхавання па сацыяльна-курортным лячэнні на пасадзе галоўнага спецыяліста. Вершы пачала пісаць у школе. Сумесна са Смарагдам Сліўко друкавалася ў зборніку "От сердца к сердцу", у калектыўным зборніку "Ад лідскіх муроў", у газетах "Лідская газета" і "Принеманские вести".*

*Цяпер знаходзіцца ў водпуску, гадуе сына.*

* * *

Што са мною сталася?
Можа, закахалася?
Слёзы лью, як хмара,
Пра цябе я толькі мару:

Каб прыйшоў, мяне абняў,
Сваёй любаю назваў.
Ноч глухая, дзень святы,
У маіх думках толькі ты.

**Безнадзейнасць**

Што горш ад патухлай любві,
Што горш ад халоднага сэрца?
Калі табе шэпчуць: "Плыві", -
І боль смаку горкага перцу.

І ў сэрцы, "магчыма", парок
Жыве ў глыбіні безнадзейна,
І быццам няма ўжо дарог,
А навокал усё - безыдэйна.

І па-гэтаму хочацца прэч.
І думкі глыбей закапаць.
А пачуцці, каменнямі з плеч
І з душы пачынаюць спадаць.

* * *

На вуліцы дождж,
І ў душы непагода.
Днём у паўцемры
Слязінка свіціцца.
Я спадзявалася
Больш, чым паўгода,
І ў сэрцы ўвесь час
Грыміць навальніца.
А ты быццам смерч,
На шляху ўсё змятаеш,
Кудысьці знікаеш -
Бяда не міне.
Ты робіш балюча,
І ты гэта знаеш,
Ну што ж тут, знікай
Без любові й мяне.

**М. В. Гогалю**

У Сарочынцах, ля горада Палтавы,
У сям'і празаіка, паэта, спевака
Нарадзіўся той, хто будзе вечнай славай,
У кім пачатак ёсць - няма канца.

У галаве бацькоўскія задаткі
Паспелі вельмі рана. І з тых пор
Ягоныя вучнёўскія нататкі
Змяшчалі пэўны той напор.

Блукаючы па Неўскаму праспекту,
Вачамі бачыў беднасць, галату.
А тут адразу пышную карэту -
Нямеў ад злосці, піў сваю нуду.

Разумны люд не страціўся, быў вартым,
А лічыўся ў багацеяў як халоп.
І пацяклі ваўсю агнём крылатым
Яго апавяданні ў вочы, у лоб.

І толькі сорак тры. Зусім нямнога
Да паўвеку не дасягнута чуць-чуць.
Вяла яго наперад галоўная дарога -
Ён ёй паказваў правільны маршрут.

І я праз час, як буду ва Ўкраіне,
Прыеду да сваёй радні.
Тады я на магілку гроначку рабіны
Палажу, як памяць,
Назаўжды.

**Умею чакаць**

Люблю пагляд загадкавы, таемны.
Запал, адкрытасць, шчырасць я люблю.
Ты быццам цёплы акіян бязмежны,
У разлуцы доўга жыць я не змагу.

Чакаю з болем, хачу так дачакацца,
Каб растаць і патануць у табе.
І кожны раз, як першы, цалавацца,
Увабраць у сябе жаданні ўсе твае.

Сумую я, калі з табой у расстанні.
А шчасце ў тым, што ўмею я чакаць.
Думкі пра цябе і вечарам, і ўранні,
Якія я стараюся прагнаць.

Ты патрэбен мне, як сонечнае лета.
Твой вобраз беражна ў душы дзяржу
Калі ты сэрцам кліч пачуеш - гэта
Цябе я праз адлегласць запрашу.



# *Станіслава Белагаловая*

*Станіслава Іванаўна Белагаловая (Круповіч) нарадзілася 25 жніўня 1959 года ў вёсцы Крамушаўка Наваградскага раёна Гарадзенскай вобласці. Скончыла Налібоцкую сярэднюю школу, вучылася ў Гарадзенскім гандлёвым вучылішчы. Пасля заканчэння вучылішча засталася жыць і працаваць у Гародні. У 1977 годзе выйшла замуж. Разам з мужам у 1978 годзе пераехала жыць у Ліду. Мае дваіх дзяцей (сына Валерыя і дачку Наталлю), чатырох унукаў. Амаль уся працоўная дзейнасць прайшла ў Лідскім гархарчпрамгандлі (у цяперашні час - ААТ "ГПФ "Ліда"). З 2014 года на заслужаным адпачынку. Ветэран працы.*

*Пісаць вершы спрабавала ў юнацтве, але тады не прыдала гэтаму значэння. І толькі на пенсіі сур'ёзна занялася творчасцю. Некаторыя з вершаў пакладзены на музыку. Песні "Дочка-доченька" і "Мой сын" прысвяціла сваім дзецям, гэтыя песні гучаць на Лідскім радыё. У 2019 годзе выйшаў яе зборнік вершаў "Наедине с душой".*

## Зямелька плача...

Ніяк не адступаюць злыя маразы.
Зямля скаваная не можа прадыхнуць.
У вачах заплаканых не высыхаюць слёзы.
Паветра б трошкі цёплага глытнуць!

У жалобе кветачкі сцяблінкі апусцілі,
Ад холаду дрыжаць на скразняку
І так перапалохана пялёсткі прытулілі,
Як быццам дзякуюць апошняму дзяньку.

Ад болю стогне траўка на балоце -
Так моцна сціснула марозная спружынка.
Нязносна ёй змагацца ў адзіноце.
Для жыцця каштоўная кожная хвілінка.

Дабрадзей сняжок ад сэрца спачувае,
Усе сілы страціў, каб паспець,
Лагоднай, цёплай коўдрай накрывае -
Так да вясны зямельку будзе грэць.

## Вясне дарогу!

З кожным днём надвор’е нас здзіўляе
Звычкамі, характарам вятроў,
То яркім промнем сонца абдымае,
То залівае праліўным дажджом.

Паветра ззяе водарам вясны,
Забылася пра лютыя марозы.
Як раптам злыя хмары напаўзлі -
Пад снегам траўка праліваае слёзы.

Сяўбу спынілі трактары ў полі.
Ізноў мароз паспеў зямлю скаваць.

А птушачкі буркуюць пра нядолю -
З-пад снегу цяжка ежу здабываць.

Зіма, ты будзь з вясною ў згодзе,
Хутчэй уступі дарогу для яе,
Своечасова дай ажыць прыродзе -
Яна бы ў дзіўнай казцы зацвіце!

## Святое месца - родная старонка

Я ведаю, дзе ёсць такое месца
Для раненай і стомленай душы.
Там лёгка дыхаць, радуецца сэрца,
Там прыгажосцю захапляешся ў цішы.

Шчаслівай бадзёрым ранкам прачынацца,
З цяплом і асалодай слухаць жаўрукоў,
З свавольніцай зязюляй паспрачацца,
Каб трошачкі прыбавіла гадкоў.

На ўсходзе сонейка да рэчачкі прыйсці
І па-сяброўску, шчыра прывітацца.
Ад перашкод і сумных думак адысці,
У сне чароўным назаўсёды тут застацца.

Як і раней, на вузкім мосціку прысесці.
Найлепшы час для мараў, хвалявання.
З усмешкай прыгадаю, што калісьці
Было ў мяне тут першае спатканне.

З бацькоўскай хаткай цяжка развітацца.
Камяк зашчыміць моцна сэрца звонку.
Ад'еду... Але ж буду зноў вяртацца
Ў святое месца - сваю родную старонку.

## Родная хатка

Калі на сэрцы смутак, неспакой,
Як абцугі, сціскаюць боль, самота,
Так хочацца да хатачкі сваёй.
Там не пасмее патрывожыць адзінота.

Каб праглядзець дзяцінства фотаздымкі,
Што засталіся ў памяці маёй,
Паслухаць зноў даўнейшыя пласцінкі,
Дзе кожна нотка льецца з цеплынёй.

На досвітку прыбегчы да крынічкі,
Што чароўнай вадзіцай паіла,
Адшукаць на гары чаравічкі,
У якіх я дзяўчынкай фарсіла.

У лёгкім змроку, вячэрняй парою
З каморы начоўкі прынесці.
Доўга мыцца жывою вадою
І шчаслівай пад коўдру залезці.

Спрабаваць рэдкі смак сырадою,
Ды з кавалачкам чорнага хлеба.
Бачыць маці здаровай, жывою,
І з падзякай звярнуцца да Неба.

## Надзейны куточак

У маім сэрцы - бацькоўская хата.
Кожны дзень з цеплынёй яна сніцца.
З ёй сустрэча - заўсёды мне свята.
Тут пра смутак спрабую забыцца.

Каля бэзу ў цянёчку прысесці,
Моцна-моцна матулю абняць,
Слухаць стук мацярынскага сэрца,
Усе парады з павагай прыняць.

Гэтым момантам буду я жыць,
Светлы позірк у душы захаваю.
Толькі маці так можа любіць!
Як жыццё ёй прадоўжыць? Не знаю.

Тут удыхну я паветра глыток,
Буду матчынай ласкай лячыцца
І за кожны матулін гадок,
Колькі жыць, столькі буду маліцца!

**Як страшны сон...**

Якісьці жудасны, страшэнны сон
Збянтэжыў злосна нашыя галовы:
Без папярэджання мы трапілі ў палон
Сусветнай, невядомай нам хваробы.

Ён не дае спакойна жыць,
Як цень, за намі ходзіць,
Нас вучыць пільна рукі мыць,
Сяброў на метры два абходзіць.

На жаль, цяпер і не да свята:
Здароўем нельга нам рызыкаваць -
Дзяцей сваіх, сястру і брата
Па тэлефоне будзем віншаваць.

Як мышы, ціхенька сядзім,
Навіны ў інтэрнэце ловім,
Цікавы фільм зноў праглядзім
З надзеяй: вірус тут не зловім.

Не панікуем... Будзем жыць!
Не ўпершыню для нас выпрабаванне.
"Бліжэй да Бога трэба быць" -
Такое ад нябёсаў нам пасланне.

## Позняя восень

Позняя восень, туманы, дрымота.
Цішком неба шэрае плача.
Няўтульная цемень, сцюжа і слота.
Гарэзлівы вецер святкуе і скача.
Аголены дрэўцы, пакрыўджана стогнуць.
Пакідае апошні ўзорны лісточак.
Галінкі прамоклі, сагрэцца не могуць.
Раптоўна знік цёплы дзянёчак.
Неспакойнае сэрца шчыміць, замірае.
Зусім не святочны настрой.
Нам надвор'е ўсур'ёз абяцае
Песціць сонечнай, ціхай зімой.

## Смяротны вірус

Смяротны вірус крочыць па ўсім свеце.
Ніяк не можам мы яго спыніць.
Людзей бязлітасна знішчае на планеце.
Так страшна... Вельмі страшна жыць.

Прызнайся нам, сусветны злобны вірус:
За што ўз'еўся ты на нас?
У чым вінаваты мы? Дзе мінус?
Усё ж чакаем ад цябе адказ.

Наш мірны люд бязбожна косіш,
Як востраю касою сенажаць.
Сваю карону з гонарам ты носіш,
Як бачна, не спяшаешся здымаць.

Па дапамогу звернемся да Бога:
"Усемагутны, змілуйся, ратуй, дапамажы!
Каб назаўсёды знікла, згінула хвароба
І страшны сон не мучыў уначы".

## Няхай прадоўжыцца імгненне

Вось і матухна-зіма
Ў госці завітала.
Дзе, свавольніца, была?
Дзе ты прападала?

Сумавалі без цябе
Дарослыя і дзеткі,
Нават бачылі ў сне,
Як мяцеш палеткі.

Нібы белым матыльком
Пырхаеш, узлятаеш.
Бялюткім, казачным сняжком
Зямельку шчыльна накрываеш.

Колькі крыку ў двары,
Колькі смеху, захаплення!
Гараць вочкі ў дзетвары.
Няхай прадоўжыцца імгненне!

## У глыбокім роздуме

Адкрый нам тайну, Дзед Мароз,
Дзе ж ты так доўга прападаў?
Ці гэта жарт або ўсур'ёз?
Сваю Снягурку ты прадаў?

"Заморскі край... Так пагасціў!
Там шмат забаў і пачастункаў.
З сябрамі гучна затусіў -
Зусім забыўся пра Снягурку.

Калі ж я трошкі акрыяў,
Ад сна чароўнага прачнуўся,

Трывалы кій у рукі ўзяў,
Вось так дамоў я і вярнуўся.

Ну дзе ж Снягурачку знайсці?
Малю, сябры, мне падкажыце!
Якою сцежачкай ісці
Па ўсёй вялізарнай планеце?

Не знаю горшай я бяды,
Як воўк, сумую ў адзіноце.
І што скажу я дзетвары?
У глыбокім роздуме, турбоце…"

* * *

Каб не шукаць у старасці прытулку
І крыўдзіцца на кепскі лёс,
Шануй і беражы сваю Снягурку,
Што Бог паслаў табе з нябёс!

**З 80-годдзем, "Лідская газета"!**

Для вас, сябры, скажу я па сакрэту:
Каб быць у курсе ўсіх падзей,
Чытайце нашу "Лідскую газету",
Дзе шмат навін, артыкулаў, ідэй.

Усе звесткі нам, як на далоні,
Своечасова, дзень у дзень спяшаюцца раскрыць:
Як вёсачка жыве, якія справы ў полі
І дзе і як здароўе можна падлячыць.

Ёсць месца там і для рэкламы,
Падкажуць, дзе купіць і дзе прадаць.
Ёсць добрыя парады, як ад мамы,
Іх кожны ў жыцці павінен знаць.

Нам прапануюць і паэзіі старонку
Пад светлай назваю "Суквецце".
Апавяданні, вершы, гумар тонкі
З задавальненнем прачытаеце ў газеце.

Прыемна атрымаць усе віншаванні
Ад родных, блізкіх і сяброў
І выказаць з душою спачуванне,
Каб сэрца адышло ад чулых слоў.

Там падрыхтуюць і спартыўную старонку.
Сваіх герояў мы павінны знаць.
Калі наведаць нам футбольную пляцоўку -
Ад сэрца, шчыра перамогі пажадаць.

Сканворды, фотаздымкі - усім багата.
Мне немагчыма ўсё пералічыць.
Далейшых поспехаў, шаноўная газета!
Усюды і заўсёды першай быць!

**Нібы казачны сон**

Іграе сонейка ў акенцы.
Вясна з дарогі нас вітае.
Цяплей становіцца на сэрцы.
Душа, як птушачка, пырхае.

Зіма - зладзейка яшчэ тая.
Балюе, то злобна бурчыць,
Сняжку патроху падкідае,
Не згаджаецца месца ўступіць.

Вясне было цяжка змагацца,
Прыйшлося ўсе сілы аддаць,
Гаспадыняй сапраўднай застацца,
Прыгажосцю сваёю здзіўляць.

Вярбу не пазнаць нам здалёк.
Як агеньчык, блішчаць завушніцы.
А пярэсты лясны матылёк
Чаруе ля дзіўнай крыніцы.

Неверагодны і казачны сон.
Жаўрук так лагодна пяе.
Непаўторнай мелодыі звон.
Гэты гімн прысвяціў ён вясне.

## Мястэчка сонечнага раю

Дзяцінства родненькая хатка
Упэўненасць і сілу прыдае.
Туды ж імчуся без аглядкі,
З цяплом чакаюць там мяне.

Абапал вуліцы таполі
Ў радочак роўненька стаяць.
Дугой раскінулася поле.
Чаруе прыгажосцю сенажаць.

Ах, жоўта-белыя рамонкі!
Мігцяць, як зорачкі ўначы.
Іх водар, тоненькі, салодкі,
Бальзам для стомленай душы.

А побач - дзіўныя званочкі
Чакаюць нашае спатканне.
Нібы ліхтарык, свецяць вочкі,
Рыхтуюць шчырае прызнанне.

Глядзіць і радуецца вока.
Бярозка кліча да сябе.
Сардэчна пачастуе сокам,
Нягледзячы, што 70 ёй міне.

Усім сэрцам я адпачываю.
Душа, як птушачка, пырхае.
Мястэчка сонечнага раю
Ніяк мяне не адпускае.

**Зімовая капрыза**

Нядоўга цешыліся мы
Дзіўнай прыгажосцю
Чароўнай мастачкі-зімы,
Што завітала ў госці.

Знік сняжок бялюткі,
Як і не было.
Стаў дзянёк цямнюткі.
Макроцця нанясло.

Раптам вецер наляцеў,
Бадзяга разгульны,
Вые, нібы звар'яцеў,
Свавольнік беспрытульны.

Стогне стомлены лясок -
Мучае разбойнік,
Выціскае з жылаў сок
Бязлітасны вандроўнік.

Ізноў паказвае зіма
Чарговую капрызу.
Толькі выправіць яна
Не зможа адразу.

**Забудзем сумны год**

Забудзем сумны год,
З палёгкай уздыхнём.
Якіх чакаць прыгод
Ці важных перамен?

Бязбожным быў Пацук,
Бяду і горыч нёс.
Бесперапынны сэрца стук.
Праліта мора слёз.

Няхай з табою згінуць
Хваробы і трывога,
Народы маскі здымуць
І звернуцца да Бога.

Каб ліху не бываць,
Каб быць спакою на планеце,
Дзяцей здаровых гадаваць,
Ім весялосці, даўгалецця!

## *Марыя Ганчар*

### Восень

Ой, восень-сяброўка, расiначка-слёзка,
Штогод я любуюся дзiўнай красой,
Як золатам вабiць дзяўчынка-бярозка,
Як барвы рассыпаў клянок над расой.

Як лiсцем заносiць сцяжыначкi ў парку,
Як цiха лiстота шапоча без слоў,
Бы ветрык-гарэза завязвае сварку.
I цягнуцца ў вырай чародкi буслоў.

Ой, восень-сяброўка, дародная цётка,
Што радуе вока букетам калiн,
I жытам зялёным, густым, нiбы шчотка,
I цёмнаю зеленню важных ялiн.

Ой, восень-сяброўка, багатая дама,
Запасаў займела на цэлы гадок:
Гародніны склады, саленняў таксама,
Грыбочкаў і бульбы, і зерня паток.

Што, восень-сяброўка, ты сёння мне скажаш,
Чым сэрца напоўніш і чым наталіш,
Дзе словы спагады і ласкі ты знойдзеш,
І чым супакоіш, і чым ты натхніш?

Я сэрца напоўню любоўю да блізкіх,
Спагаду і ласку ў Бога знайдзеш,
Прырода напоўніць спакоем вялізным,
Да мары натхненне тваё прывядзе.

І слаўлю я восень, пару завяршэння
Вясенняй і летняй работы людзей,
Пару ўраджаю, раздумных рашэнняў,
Свабоды дыхання магутных грудзей.

## Надыход зімы

Яшчэ на бярозках, асінках, дубах
Апошнія лісцікі б'юцца,
А з поўначы к нам на лядовых санях
Разведчыкі віхрам нясуцца.

Спачатку яны пакрываюць зямлю
Пакровам танюткім, бялюткім,
Паросяць дарогі, сцяжынкі, раллю, -
Становіцца цемень святлюткай.

А восень-сяброўка не хоча скарыцца
І ў бой за свабоду ўступае, -
І зноў пад нагамі адліга макрыцца,
Зноў восень уладу вяртае.

Але ўжо нядоўга ёй тут панаваць
І цешыць сябе новай марай:
Царыца-зіма хоча свет пазнаваць:
Азёры, лясы і абшары.

Як правай рукою сваёю махне, -
Сняжынак закруціцца кола.
А левай - марозам сцюдзёным хукне,
Заціхне, замрэ ўсё наўкола…

**Прыйшла вясна - пара кахання**

Дзяўчынкай юнаю, гарэзай
Прыйшла вясна ў наш родны край,
Для нас - шчасліваю імпрэзай,
І сэрца б'еццa цераз край.

І лёгка на душы, прывольна,
І птушкай хочацца лятаць,
І жыць на свеце дружна, вольна,
І з неба зорачкі дастаць.

Прыйшла вясна - пара кахання,
Якому падуладны ўсе.
І ўжо не спіцца да світання
У буйнай казачнай красе.

Прыгажосць - гэта тое, што радуе вока,
Што сэрцайка цешыць і будзіць парыў
Да мараў, да дзеяў, вядучых далёка,
У чым творца душу нам сваю падарыў.

**Каша з сякеры**

Яшчэ ваяр у даўнія часіны
Варыў з сякеры кашу, - былі людзі,

Характар свой паказвалі гасцінны.
І мы падносім вам яе на блюдзе.

Рэцэпт у нашай цуднай кашы просты:
Узялі жаданне, дабавілі крыху
Вады з крыніцы і цяпла сяброўства,
Сардэчнай дабрыні і думак без граху.

Вядома ж, пра сякеру не забылі,
Пра грэчку і галовачку цыбулі.
Прыправы ў лесе зельвенскім здабылі,
Каб смак турысцкай кашы вы адчулі.

**Да сустрэчы сяброў з Зельвы**

Хлебам-соллю сустракаем дарагіх гасцей.
І ад сэрца пажадаем бачыць вас часцей.
Каб былі з вамі здароўе, шчасце і дабро,
Каб сямейнае надвор'е дарыла цяпло.

**Беларускія лічылкі ад Серафінскай Марыйкі**

1. У небе зорачкі заззялі,
Святло людзям пасылалі.
- Зорка, зорачка, зарніца,
Давай з намі весяліцца.

2. Што рабіць і як чыніць?
Без гульні нам не пражыць.
Будзем разам мы гуляць,
Лічылкай ваду выбіраць.

3. - Вецер моцны, вецер дужы,
Што гуляеш ты без гужа?
Я хачу цябе злавіць,
Гуляць з намі запрасіць.

4. - Дожджык, дожджык, секані,
Паскачу я на кані
Уздоўж Нёмана-ракі,
Дзе рыбу ловяць рыбакі.

5. Бусел, бусел-клекатун
Злавіў жабу за каўтун,
Нёс, нёс, валачыў
І ў карыце памачыў.

6. - Воран, воран, воран чорны,
Назбірай у полі зёрнаў,
Варанятам іх аддай,
А ты вадай пагуляй!

7. Хмарка сонейка злавіла
І не хоча адпускаць.
Мы папросім гэту хмарку
Разам з намі пагуляць.

8. Скача, скача верабей,
Заклікае ён дзяцей
Летам весела гуляць,
Зімой птушак даглядаць.

9. - Ты, камарык, не лятай,
Не звіні над вухам,
Калі ўкусіш, ну хоць раз,
Зловіш аплявуху!

10. - Чыжык-пыжык, дзе бываў?
- Увесь свет я аблятаў.
Бачыў я там цудаў розных,
Сумаваў па зямлі роднай!



# *Людміла Краснадубская*

*Краснадубская Людміла Мікалаеўна нарадзілася ў в. Вішнёўка Менскага раёна Менскай вобласці ў 1957 годзе. Скончыла Вішнёўскую васьмігадовую і Папернянскую сярэднюю школы, Мар'інагорскі ордэна "Знак Пашаны" саўгас-тэхнікум (1975-1978 гг.). Па прафесіі аграном. Працавала, гадавала траіх дзетак, пісала, калі быў час, хаця пісаць вершы пачала яшчэ ў школе. Некалькі вершаў прагучала ў перадачы "Жывое слова" па радыё г. Менска. Друкавалася ў раённых газетах Лагойскага, Дзятлаўскага і Валожынскага раёнаў, у зборніках "Помнім і жывём", "Нашчадкі" літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" пад кіраўніцтвам Ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Ф. Гіруць-Русакевіч. Зараз жыве ў г. Лідзе, са сваімі вершамі была ўдзельніцай перадачы "Званы госць" на Лідскім радыё. Друкавалася ў "Лідскай газеце", была ўдзельніцай некалькіх тэлеперадач. Член народнага аматарскага аб'яднання "МузАльянс" пры Палацы культуры г. Ліды, член літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", удзельніца клуба "Актыўнае даўгалецце" пры цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, дыпламант XII Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, удзельніца Свята беларускага пісьменства ў 2019 г. у Слоніме. Піша песні і вершы, з якімі выступае на сцэне Палаца культуры, у вёсках, вайсковых частках, установах адукацыі.*

## Мая Радзіма

Паміж палёў пятляе сцежка.
Іду сюды з усіх дарог.
Стаіць-хвалюецца пшаніца,
Хінуцца каласы да ног.

Такое хараство наўкола,
Аж люба-дорага глядзець.
І птушкай хочацца над полем
Да неба зорнага ўзляцець,

Абняць бяскрайнія прасторы
Радзімы любае маёй,
Дзе льну блакітныя азёры,
Дзе так спяваецца душой,

Дзе мова матчына - мая,
Маіх дзядоў і, думаю, нашчадкаў,
Дзе не змялее жытніца дабра,
Не згіне ад чужых нападкаў.

## Восень

Палі ў азімых, на доле лістота -
То дрэвы скідаюць убор вытанчоны.
І клін журавоў развітваецца з намі
Сваёй дзіўнай песняй: "Курлоны, курлоны…"

Пустыя палеткі, і ў сціртах салома.
Пажухла трава, і ўжо холадам тхае.
Трава ў карунках скрозь павуцінных.
Дзянёк супраць ночы - патроху згасае.

Піліпаўка, воўчая зграя блукае.
І лось напрамкі па балоце шыбуе.

Валун заімшэлы самотна ўздыхае -
Жыццё не сціхае, а далей віруе.

## Размова па душах

- Цябе ў жыцці ніколі не кахала! -
Казала жонка мужу.
- А што ж пайшла ты за мяне?
- Ды татачка прымусіў!
- Ага (паціху муж смяецца).
Бо нават воўк, у лесе каб спаткаў,
Не ведаў бы, куды падзецца!
Дзве валасіны замест кос на галаве.
А зубы - дык няма чого казаць! Страшыла!
Каб цесць не ўліў у рот мне
Самагонкі пляшкі дзве,
Ніякай сілай бы мяне к табе не прысушыла!

## Што дзе падзелася?

Калі былі мы маладыя,
Былі здаровыя і ўдалыя.
Але прайшла часіна - й вось
Сядзіць на лавачцы Антось.
У драных портках, сіні нос,
Глядзіць, каб чарку хто паднёс.
Яшчэ і не стары, але такі знямоглы,
Хоць мае жонку ён і догляд добры.
Прычына ўсяму - вядома ж, п'янка,
З рання да вечара гулянка.
Мараль якая з таго будзе?
Як нарадзіўся чалавекам - будзь ім!
Жыві ты так, каб не смяшыць людзей
І ў сорам не ўганяць сваіх дзяцей!

## Першае красавіка

Здаўна так павялося ў цешчы з зяцем,
Што з году ў год ідзе нябачная вайна.
Бывае, цешча ў ёй перамагае.
Бывае, зяць аддзячыць ёй спаўна.

З камандзіроўкі зяць вярнуўся.
І цешча зяця ў госці запрасіла,
У кілішак самагонкі наліла,
Гуркоў на стол паставіла,
Нарэзала кілбас і сала.
Ды дужа зяцю тут цікаўна стала:
У госці цешча зваць дык звала,
Але спіртнога век не налівала!
Ён напрамік: - Што здарылася, мама?
Няўпраўка мо ці шчэ якая драма?
Пакрыўдзіў хто? То зараз разбяруся!
А цешча ў адказ:
- Ты толькі не хвалюйся.
Той парасон, што ты мне падарыў, парвала,
Калі з адкрытым полымем я ваявала.
- А што згарэла? Здэцца, цэлае ўсё.
- Ды не, хлявок знянацку загарэўся,
Калі лавіла парасё.
Зашылася дурное пад салому.
Пакуль схадзіла па запалкі я дадому
(Бо на двары ўжо ноч была).
І покуль я запалку запаліла,
Каністру не адну ў пацёмках пакуліла,
Што з работы ты з бензінам нанасіў!
- Маўчыце, мама, я бы папрасіў!
- Ат, загарэлася, успыхнула запалкай!
А за хлявом жа твой стаяў гараж
З машынай новай,
Што купілі перад святам

На тыя грошы, што збіралі ўсё жыццё мы з татам.
- Дык што? Гараж згарэў з машынай разам? -
Зяцёк абсунуўся на пол, як мех з мякінай. -
Ды каб падохлі твае свінні з табой разам,
Ды і з тваёй дурною галавою!
Ну й запрасіла, ну й пачаставала!
Каб шчасця ў хаце ты не знала! -
За шапку, ды бягом за дзверы.
І дае, і не дае ён веры,
Бо красавік на вуліцы
І першае чысло было...
(Не трэба з цешчай ваяваць,
Каб не прыйшлося так з зяця жартаваць!)

**Што рабіць?**

Што рабіць і як рабіць,
Калі ў хаце сварка,
Калі разам жонка, муж
Заглядаюць у чарку?!

Хто параду каму дасць?
Знойдзе хто лякарства?
Бо ў хаце прыжыліся
Гора ды нядбайства!

Згінулі дзе шчасце, смех?
Толькі напамінак.
Гарэлка, піва, папяросы -
Сумны, страшны вынік.

Дзеці вынесуць які
Ўрок ад таты, мамы?
З чым ім па жыцці ісці?
Вырашаць мо самі?..

* * *

І зноў сыплюцца словы
З-пад пяра нетаропка.
Дзе сплятаюцца доўга,
Дзе каротка-каротка.

У кудзерах і проста -
Хто як можа, так піша.
Ёсць пачатак у верша:
Вецер голле калыша...

Ну, а далей - як пойдзе.
Ці то сцішыцца вецер,
І паэт ці паэтка
Штось напіша пра квецень.

І кладуцца радочкі,
І сплятаюцца вершы.
Хтосьці зноў у заценні,
Ну, а хтосьці зноў першы.

## Дзецям

Ісус  Хрыстос, Гасподзь, прашу я аб адным:
Каб дзеці, унукі, праўнукі, іх дзеці
Не ведалі ніякае бяды
І ў шчасці пражылі на гэтым свеце.

У сэрцы іхнім толькі б дабрыня была,
Спагада да нямоглых, ды не слабасць.
Прашу, Гасподзь, малюся я,
І ад духоўнага каб мелі радасць.

Дай ім здароўя, сілы і дабра.
Дай ім натхнення, каб жылі, тварылі.
Сям'ю сваю каб бераглі ад зла,
Бацькоў сваіх каб шанавалі і любілі.

## Матуля чакае...

Снег вёскі засыпаў,
А ў старым дамочку
Сумуе жанчына,
Чакае сыночка...
А мо, лепей было б,
Каб Бог даў ёй дочку?..

Часцей да матулі б
Яна прыязджала,
У суботку прыехала б,
Згатавала,

Прыбралася ў хаце,
Памыла падлогу,
А потым схадзіла б
За вёску, да логу.

Нарвала б галінак
Вярбы і бярозы...
На свята матулі
Прывезла б мімозы,

Каб не было сумна
Старэнькае маці
Ізноў, да суботкі,
Ля акенцы чакаці.

Так хочацца маці
Пачуць ад дзяцей:
- У нас, мама, дома
Ну лепей, як дзе!

## Нашая песня

Заўжды было на Беларусі,
Заўжды вялося так з вякоў:
Дзе Янка, там была Маруся,
Дзе Ядзя, там быў і Пракоп.

***Прыпеў :***
*Гулялі разам хлопцы, дзеўкі*
*Пасля работы вечарком.*
*Гармонік, бубен, дудка, скрыпка…*
*Так танчылі, што пыл слупом!*

Чаго задумаўся, хлапчына?
Чаго ж павесіў долу нос?..
Глядзі, праморгаеш ты шчасце!
Глядзі, праморгаеш ты лёс!

Бяры за руку прыгажуню
Ды засылай сватоў хутчэй,
А то з такога перабору
Яна к другому ўцячэ!

***Прыпеў.***

Гулі вяселлі па дажынках,
І з караваем нараўне,
Як сімвал шчасця, дабрабыту,
Быў бохан хлеба на стале.

І падымалі ўгору чаркі,
І госці пілі за радню,
І за дачушку, і за сына,
І за радзімую зямлю.

***Прыпеў:***
*Гулялі разам хлопцы, дзеўкі*
*Пасля работы вечарком.*
*Гармонік, бубен, дудка, скрыпка…*
*Так танчылі, што пыл слупом!*

## Подых вясны

Закружыла завея, завіхурыла беллю.
Не відно на двары ні машын, ні людзей.
То пялёсткі з яблынь напамінкам вясельным
Там, дзе мы маладыя, у віхуры падзей.

Белы вэлюм суквецця, водар нібы парфума
Так і ўецца ў паветры, пранікае ў душу.
Будзь заўсёды сабою, будзь праўдзівым са мною,
Шчырым, добрым, лагодным - іншага не прашу.

Напамінак вясновы закружыў, завіхурыў,
Абудзіў зноў пачуцці, растрывожыў мяне.
Напамінак вясновы - ён не знікне ў нябыцці,
Пра каханне былое мне забыць не дае.

## Вясна

Толькі-толькі прайшла завіруха,
І з-за воблака сонца глядзіць.
А пад снегам - ты толькі паслухай -
Ручаёчак булькоча-бяжыць.

Хоча ён з-пад снегу прабіцца,
Каб вадзіцай зямлю напаіць.
І прачнецца сястрыца-пралеска,
Дапаможа вясну разбудзіць.

## Журавы
### *(Песня)*

Тужлівы крык раздаўся ў паднябессі,
Растаяўшы ў аблочнай вышыні.
Вяртаюцца з цяжкога падарожжа,
Ляцяць дамоў, курлычуць журавы.

Яшчэ снягі сышлі з палёў ледзь толькі,
Яшчэ і ў дрэў лістоў няма.
Ляцяць яны да роднае старонкі,
Дарма што прытаміліся, дарма.

Ляцяць яны туды, дзе рукі маці
Спазналі шчасце, дзе і мы з табой.
Ляцяць туды, дзе лепет немаўляці
Да роднае зямелечкі сваёй.

Над роднай нівай праляцяць імкліва,
Пераклікаючыся з небам і зямлёй,
І бусел адзавецца ім шчасліва,
Вітаючы з вяртаннем і вясной.

## Матулі

Стаю на пагосце ў чорнай хусціне...
Матуля, матуля, мяне хто прыхіне?
Дзе цёплыя рукі, прапахлыя хлебам?
Дзе вочы прыгожыя - сінь на паўнеба?..

Як выйдзеш, бывала, з сярпом на палеткі,
Вакол цябе дзеткі малыя, як кветкі.
Ты іх прыгалубіш, ты іх абагрэеш,
Ад слоў тваіх шчырых цяплом заўжды вее...

Хоць спіна згарбела, каса ўжо сівая,
Матуля, для нас ты заўжды маладая.
Прывабная, мілая, добрая маці,
Прыгожаю павай плывеш ты па хаце.

Шануйце матулю, любіце матулю!
Жыццё больш не дасць вам такую другую.
Стаю на пагосце ў чорнай хусціне...
Матуля, матуля, мяне хто прыхіне?..

**Наказ**

Калісьці маці мне наказ давала,
Што золата і ў попеле блішчыць.
Але цяпер ужо модным стала
Дзяцей сваіх па-іншаму вучыць.

Раней было: разумны, пакажы свой розум.
Няма чаго сказаць - дык памаўчы.
Прыслухайся: а да чаго душа хінецца?
Да выбару свайго не толькі йдзі - ляці!

Чарнавікоў у жыцці ніколі не бывае.
Заўжды падумай перад тым, як штось зрабіць.
І перад тым як узляцець высока пад аблокі,
Ты памятай, што трэба Чалавекам быць.

**Я і ТЫ**
**(Песня)**

На маю далонь лягла твая,
І мая ўся ў ёй патанула...
Шчасцейка прыйшло да нас здаля,
Завітала, нас не абмінула.

Да тваіх грудзей прыпала я.
Апаліў ты вусны пацалункам.
Быццам бы здалёк і спакваля,
У мяне шукаў ты паратунку.

***Прыпеў:***
*Закружыў любові карагод,*
*Паплыло ўсё, бы ў вірлівай рэчцы...*
*Дзе быў зараз ты? Дзе была я?..*
*Што было - было і ёсць адвечна.*

Па жыцці ісці цяпер дваім,
Нам з табою разам, назаўсёды.
Там, дзе буду я, там будзеш ты.
Паспытаем шчасця асалоду.

Напаткаў мяне няпросты лёс,
І табе ў жыцці так давялося.
І дабраславенне нам з нябёс
Птаха белакрылая даносіць.

***Прыпеў:***
*Закружыў любові карагод,*
*Паплыло ўсё, бы ў вірлівай рэчцы...*
*Дзе быў зараз ты? Дзе была я?..*
*Што было - было і ёсць адвечна.*

## Вёска

Прыгожы дом калісьці гмахам слыў,
А зараз увесь струхнеў, глядзіць убога.
Былі дзе кветкі, там расце палын.
Ды зарасла сіўцом вясковая дарога.

Чаму і як, што здарылася тут?
Каму даслаць сваё пытанне?

Мо над табой лунаў Чарнобля птах
Ды адабраў тваё зачараванне?

Даўно тут не чутно гамонкі кос,
І рык кароў не чутны на змярканні.
Красуня вёсачка ў засені бяроз
Прыкрылася смутой на развітанне.

Няма чаго вяртацца ўжо сюды.
Крыж пахіліўся, заімшэўся ворат.
Старыя людзі дажылі свой век,
А маладых паклікаў горад.

## Матулі

Усю значнасць жыцця разумеем з гадамі.
Хто бацькі ёсць для нас, зразумеем пасля.
Ты даруй мне, матуля: рэдка мы размаўлялі,
Рэдка я да цябе прыязджала здаля.

Дзеці, праца, турботы аддалялі часамі,
Аддалялі часамі нашу стрэчу з табой.
Як не стала цябе, зразумела з гадамі:
Не хапае цяпла мамы мне дарагой.

Паляцець бы к табе птушкаю шызакрылай
І абняць, прытуліць да грудзей да сваіх.
Ды цяпер толькі ў снах бачу вобраз твой мілы,
Бачу я толькі ў снах, снах нязбыўных маіх.



## Валера Мацулевіч

*Валера Мацулевіч нарадзіўся 4 жніўня 1983 года ў Лідзе. Скончыў Наваградскі гандлёва-эканамічны тэхнікум па спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік і аўдыт". Працаваў на прадпрыемствах ААТ "Лакафарба", ААТ "Лідскі завод электравырабаў". Пасля - у школе № 8. Вершы пачаў пісаць з 19 гадоў. Друкаваўся ў газетах "Лідская газета", "Прынёманскія весткі", "Гродзенская праўда", літаратурна-мастацкіх часопісах "Ад лідскіх муроў", "Нёман", "Маладосць". Аўтар зборнікаў "Струны душы" (2011) і "Чалавек са свечкай" (2014). Песні на яго словы выконваюцца бардамі Міхаілам Карнілавым і Сержуком Чарняком. Жыве ў Лідзе. Піша вершы на беларускай і рускай мовах.*

### Веліконднае святло

У дзень урачысты, у радасны дзень
Касцёл асвятляе вясёлы прамень.

Гарэзны крыху і гуллівы крыху,
Ён з твараў сцірае адбіткі граху.

Сум, стому, самоту адсоўвае прэч,
Знішчае хваробы, як вогненны меч.

Жадае ўсім людзям дажыць год да ста
Бадзёры прамень, як усмешка Хрыста.

У дзень урачысты, у радасны дзень
Да веры вяртае вясёлы прамень.

**Вясновы вобраз**

Мне днём вясновым
Выпаў шлях дадому,
Надвор'ем цудным
Менш адчуеш стому.

Прычын не знойдзеш
Значных для маркоты,
Каб не чарвяк
Маленькі адзіноты,

Што недарэчы
Ў сэрца мне закраўся
І нібы ў хаце
Ў ім уладкаваўся.

І быццам, зрэшту,
Гэта толькі дробязь,
Але ён там -
Нічога з ім не зробіш…

І раптам птушкі
Хорам заспявалі,
Яны дзяўчыну-казку
Прывіталі.

Стаю як слуп,
Сабе не гаспадар я.
З якога ты
З'явілася надхмар'я?

Шляхетны поступ,
Штосьці у душы ад дзетак,
На галаве
Вянок з пахучых кветак.

Лён валасоў,
Як сонейка праменні,
Нібы кахання
Светлыя імгненні.

З вясёлкі грэбень
Тоне ў іх суладдзі,
Нібы каханка
Пальцы прагна гладзяць.

Світанка ружай
Дзіўны твар квітнее,
Ў вачах блакітных -
Мара і надзея.

Яны нябёсаў
Яснасць увабралі,
На шыі
З лугавой расы каралі.

Пад колер траў
Зялёная сукенка.
Такая вось
Шыкоўная паненка…

Загрукатала
Сэрца без упынку.
Яна ішла,
Спявала "Купалінку".

Луналі гукі
Ў высі сакалінай,
Звінела песня
Лепей салаўінай.

Яна ўжо побач.
Мне зірнула ў вочы.
Крануў струменем
Мілы смех дзявочы.

І ні адцення
Кпіну альбо здзеку,
А толькі радасць
У нотках таго смеху.

У першароднай
Звон такі крыніцы,
Што слоў не знае
"брудзіць" і "напіцца".

"Мяне Вясной зваць", -
Дзеўчына сказала,
Пяшчотней бэзу
Мне руку падала.

Я ўзяў яе,
Як скарб, як таямніцу,
Як сцяг Радзімы
Непадкупны рыцар.

У адказ назваўся,
Хоць не без затрымкі,
І нечакана
Ўзяў Вясну ў абдымкі.

Мне больш жаданняў
Не стрымаць спакусных,
Я ўжо нектар
Яе смакую вуснаў.

Цвярдзеюць грудзі
Пад маёй далонню
І токам б'ецца,
Б'ецца кроў у скроні.

Быць з ёю зараз!
Зараз і бясконца…
Ды нейкі цень
Не ў час пакрыўдзіў сонца,

Набеглі хмаркі,
Дробны дождж пачаўся,
І вобраз знік,
А я адзін застаўся.

## **Чорны конь**

(Напісана пад уражаннем ад пандэміі 2020 г.)

А конь чорны топча жыта,
Жыта-жыцейка людское.
Дзе грымяць яго капыты,
Там не будзе супакою.

А конь чорны топча жыта
І крывавым косіць вокам.
Нас, о Божа, беражы ты.
Хай навала пройдзе бокам.

Хай навала пройдзе бокам -
Неба жыцейка ўратуе.
Хай навала пройдзе бокам -
Людцам шчасце не атруе!



*Вольга Ашмяна-Бічэль нарадзілася ў 1973 годзе ў горадзе Лідзе. Скончыла Лідскае педвучылішча ў 1992 годзе, пасля вучылася ў ГрГУ імя Я. Купалы. Працавала ў Дакудаўскай сярэдняй школе настаўніцай пачатковых класаў. У Дакудаве знайшла свае каханне (мужа Бічэля Андрэя) і паэтычнае натхненне. Мама траіх дзяцей і паэтэса ў душы.*

# *Вольга Ашмяна-Бічэль*

## Лірычны настрой

Лірычны настрой адышоўшага лета,
Такога жаданага, сонцам сагрэтага,
Прыгожага, поўнага водару кветак,
Не адпускае чамусьці дагэтуль.
На вуха мне шэпча: "Хадзем у мурогі,
Дзе чыстай расой абмываліся ногі,
Хацелася бегчы туды, дзе аблокі,
З гарэзлівым ветрам пускацца ў скокі…"
Мільгалі валошкі ў жытнім калоссі,
У небе птушынае многагалоссе
Душу да астатняе кроплі кранала,
Да позняга вечара не адпускала.

А ў небе начным завіхаліся зоры,
З сабой у касмічныя звалі прасторы.
А тут, на зямлі, аж да самага рання
Услед зорцы ўпалай ляцела жаданне.
Рассеяўся дым адышоўшага лета,
У лірычны настрой, як у вэлюм, адзеты…

## Раніца

Каляровых сноў абдымкі
Адступаюць неахвотна.
Па-над лугам, у светлай дымцы
Ружавенне гарызонту.

Зіхаціць трава ў росах,
Дзе туман спусціўся золкі,
У празрыста-чыстых кроплях
Нараджаюцца вясёлкі.

Сонца кругам залацістым
У неба выкаціцца плаўна,
Спевам птушак галасістым
Прагрукоча: "Ранку - слава!"

## Мова родная

Часта чую, што мова родная
Несучасная больш і нямодная,
Беларусам яна не патрэбная,
Што не гучная, брыдкая, зрэбная.

З меркаваннем такім не згодна я,
Бо для нас гэта мова - родная,
Птушка вольная, незаганная,
Да канца яшчэ не спазнаная.

Мова продкаў, як жыта калосіцца,
Словы-зерняткі ў вершы просяцца.
Іх запасы - неверагодныя,
Як бясконцыя песні народныя.

## Радзіма!

Радзіма! Твае не загоены раны!
Бо колькі сыночкаў тваіх і дачок
Ты не дачакалася і не сустрэла
З тых доўгіх ваенных шляхоў і дарог.

Геройскі загінулі, без вестак прапалі,
У спаленых вёсках згарэлі ў прах.
У Нямеччыну вывезеныя рабамі,
Закатаваныя ў канцлагерах.

Нікога вайна тая не шкадавала,
Маленечкіх дзетак, старых і жанок
Фашысцкімі ботамі жорстка таптала,
Людскою крывёй насычала пясок.

Вайна! Колькі душ ты людскіх загубіла,
Сірочую долю наслала на нас,
Агнём і жалезам, варожаю сілай
Чатыры гады вынішчала яна.

Пакутніцкім шляхам народ беларускі
Прайшоў і сваіх не забыўся братоў,
Што поплеч, у акопах, узбекаў і рускіх,
Татараў, украінцаў, грузін, латышоў.

Усіх, хто змагаўся з фашысцкаю зграяй
І ў гэтай вайне, як адзін, перамог!
Ніхто не забыты - мы ўсіх праслаўляем!
Іх Маці-радзіме аддадзены доўг!

## Мары

Уздоўж вясковай вуліцы
Іду зачараваная…
Да весніц кветкі туляцца,
Сады стаяць прыбраныя.

Вясновым цёплым ветрыкам
Паветра ледзь гайдаецца,
Густым, салодкім водарам
Душа перапаўняецца.

У небе бусел кружыцца…
І мне аб шчасці мроіцца…
Усё, што мару, збудзецца,
Гэтай вясною споўніцца!

## Маме

Я гартаю альбом фотаздымкаў.
Думак сумных чарга паўстае.
Мама, мне не хапае абдымкаў,
Ласкі мне не хапае твае.

На старых і абшарпаных фота
Мамы радасцю свеціцца твар.
Ёй заўсёды хапала турботаў,
Ды на здымках не знаць іх цяжар.

Ды я ведаю, болю хапіла
У дзяцінстве матулі спаўна:
Голад, холад, варожая сіла,
Стрэлы, выбухі, смерць і вайна…

Напалохалі, ды не растапталі,
І юнацтва пазвала з сабой,

Дзе вучылася і працавала,
Замуж выйшла, дзяцей нараджала,
Калыханкі начамі спявала,
Зноў вучылася, недасыпала,
У дзіцячыя гульні гуляла,
І лячыла, І дапамагала…
І як толькі ёй сілы хапала
І любові хапала для нас!

А цяпер я гляджу фотаздымкі,
На якіх яе вобраз жыве…
Мама, мне не хапае абдымкаў,
Ласкі мне не хапае твае…

* * *

Ціха ў музейным памяшканні,
Калаўротак, міскі на паліцы.
Нітак каляровых скрыжаванне
Ў кроснах ужо не першы год пыліцца.

Белымі карункамі фіранкі
Быццам абдымаюць аканіцы,
А на ложку, дзе гара падушак,
Ноччу сон нікому не прысніцца.

У пячурцы, зробленай з фанеры,
Не спячэ яечню гаспадыня,
І саганчык смачнае вячэры
Тут агеньчык жвавы не абдыме.

Інтэр'ер старой вясковай хаты,
Як гадоў мінулых таямніца,
Са сваёй гісторыяй багатай
У музейным сховішчы пыліцца.

## **Абяцанкі**

Гучыць заезджанай кружэлкай
Каторы дзень, і год, і месяц:
- Усё! Пачынаю з панядзелка!
І кожны раз усё на месцы.

Калі няма ў кішэні грошай,
Згубілі іх пустыя страты -
Эканамістам стаць харошым
Імкнешся з новае зарплаты.

А як глядзіць хвароба ў вочы
І выгляд маеш нездаровы,
У аптэку па таблеткі крочыш,
Пра спорт не хочаш мець размовы.

Такая ж трасца з пахуданнем,
У жаданні стройным стаць заўзята.
Худзееш, як усё сняданне
Запіў салодкаю гарбатай.

Дзяцей выхоўваеш старанна,
Разумных кніжак шмат чытаеш,
А вось пра прыклад мамы з татам
У жыцці чамусьці забываеш.

Да Бога хутка шлях знаходзіш,
Як завітае ў хату ліха.
У храм звычайна не заходзіш,
Калі ў жыцці ўсё мірна-ціха.

Усе абяцанкі ўвязаўшы
Ў шмат вялізарных вандзэлкаў,
Жыццё сваё дарэмна траціш
У чаканні новых панядзелкаў.

## Забытыя вёскі

Замшэлыя сцены,
Разбітыя вокны.
Адчынены дзверы
І ў холад, і ў спёку.

Забруджаны студні,
Платы разабраны.
І нейкім злачынцам
Сады спілаваны.

Зарослыя сцежкі,
Бур'ян на гумнішчы.
І вецер нябачны,
Як пугаю, свішча.

Аскепкі альтанкі,
Вяроўкі арэляў.
І будка сабачая,
Цалкам струхнелая.

Ляжаць, як шкілеты,
Зламаныя кросны.
Радзімы сцяжынкі -
Забытыя вёскі.

## Іранічнае

Хацела песню напісаць,
альбо паэму ці баладу,
А муза нешта не пяе
і не стаіць натхненне ззаду.

А раптам з гімнам павязе?
Дык вось якая нязадача:
на розум рыфма не ідзе,
Душа баліць, а сэрца плача.

Пегаса клічу да сябе,
каб дасягнуць вяршынь Парнаса,
А конь і вухам не вядзе,
На ўсе падманы ён не ласы.

- Дзяўчына! Конік! Пачуццё!
Куды разбегліся па свеце?
- Тут! З Мацулевічам Алесем
Зноў засядаем у "Суквецці".



# *Ганна Гайдукевіч*

*Ганна Іванаўна Гайдукевіч нарадзілася ў вёсцы Дакудава ў сям'і работнікаў калгаса. Пасля заканчэння Дакудаўскай сярэдняй школы вучылася ў Гарадзенскім музычна-педагагічным вучылішчы, а затым у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (філалагічны факультэт, беларуская і руская мовы). Працавала ў школах Лідчыны, дваццаць гадоў - у Лідскім педагагічным вучылішчы (цяпер Лідскі каледж) выкладчыкам музыкі, беларускай мовы і літаратуры. Зараз на заслужаным адпачынку.*

*Вершы Ганна Гайдукевіч спрабавала пісаць яшчэ ў школьныя гады, але тыя першыя спробы лічыць няўдачнымі. Вельмі доўгі час вершаў не пісала: шмат часу і сіл трэба было аддаваць працы і сям'і, да таго ж каля трыццаці гадоў спявала ў ансамблі песні і танцу "Лідчанка", рэпетыцыі таксама патрабавалі сіл і часу. І толькі ў пачатку 2020 года Ганна Іванаўна прысвяціла сябе паэзіі. Можна сказаць, паэтычная муза прыйшла да яе ў сталым узросце. А падахвоціла яе да напісання вершаў сяброўка і зямлячка Ірына Маркевіч, актыўная ўдзельніца літаб'яднання "Суквецце". "Калі сачыненні ў свой час пісала добра, чаму б не паспрабаваць сябе ў вершах?" - вырашыла Ганна Іванаўна і таксама ўлілася ў калектыў літаб'яднання.*

*Асноўныя тэмы яе вершаў - вёска, вясковае жыццё, родныя людзі, сябры і знаёмыя, спрабуе сябе таксама ў напісанні гумарыстычных вершаў, баек.*

**Сівая маладосць**

Ну хто сказаў пенсіянеру,
Што трэба жыць, як набяжыць?
Я маю ўласную кватэру,
Хлеб і да хлеба - люба жыць!

Па паліклініцы вандруем.
Нас там шануюць дактары.
Сядзім у чарзе, усё абмяркуем,
Як не загінуць без пары.

Лечаць усё, і нават зубы,
Хоць мала іх, а мо й адзін.
А калі часам непатрэбны,
То вырвуць махам - і ідзі.

Мне і будзільнік не патрэбны:
Магу заснуць я нават днём.
Ну, а начамі, пры бяссонні,
Ляжу і слухаю шансон.

Я сёння з'ездзіла на дачу,
Заўтра пайду ў парк "балдзець".
Звініць у вуху, шум у прыдачу…
Хачу ж на моладзь паглядзець.

Фонд пенсіённы плаціць грошы -
У даўгалецця клуб ідзі.
Там песні, танцы, чай гарачы.
Хочаш - дзядка сабе знайдзі.

Прыйшла дадому - глядзь у люстра,
Задавальнення не стрымаць…
Трашчыць у шыі, пора ў бёдры,
А мне ўсё роўна дваццаць пяць.

## Я веру

А колькі ж год прайшло з тае пары?
Магчыма, што не так ужо і шмат…
Бо помняцца ў квецені сады.
І бачу я шчаслівы той пагляд.

Я адчуваю подых вецярка,
Лаўлю блакіт вачэй, а ён пяшчотны.
Здаецца, побач цёплая рука,
Твой шчыры смех, лагодны, бесклапотны.

Ды час дыктуе нам свае ўмовы,
Не разумеючы ні мар і ні надзей.
А спадзяванні шчырыя натхнёна
Віруюць у чыстым моры тых падзей.

Было б, відаць, і сціпла, і разумна
Памылкі выпраўляць і верыць у людзей,
Але чаму бывае іншы раз так сумна?
Дзе ўзяць ахвоту навучыцца жыць далей?

Не, не бяда! Няхай бушуе восень,
Спрачаецца цяпло зназойлівым дажджом.
Ды ўсё ж на небе праглядае просінь
І шле ўдачу з залатым лістом.

## А хочацца ж усім цяпла?..

На небасхіле грае сонца.
І клін гусей дамоў ляціць.
Турбота стукае ў аконца -
Пара ўжо сеяць і садзіць.

На межах траўка заскакала,
Вясна прыспешвае "гарэць",
Чаромха вэлюм падбірала,
Каб на ўзлеску заінець.

А каля плота, на мяжы,
Званочак жвава ўзняў галоўку,
Марыў пра сонца, капяжы
Ды слухаў па начах салоўку.

І песта-ружа каля ганка
Ў любові стала падрастаць,
А адзінокаму суседу
Шыпамі любіць пагражаць.

Рос, спадзяваўся наш званочак
Прыроду-матухну здзівіць:
Раскрыць свой сіненькі вяночак,
Сяброўствам з ружай даражыць.

Жыве бядак, дзірван мацуе,
Карэнні ссохлі без вады.
Ды толькі ноччу ў сне і чуе
Ручай і кветнік малады.

Сівы палын сілы набраўся
Абняў бяднягу, закрыў святло.
Хоць абяздолены й прасіўся,
Ды стогн яго не чуў ніхто.

Галоўку апусціў званочак:
Няма больш сіл падмогу зваць -
Лёг на мяжу, на бе-ра-жо-чак…
Далей няма чаго сказаць.

* * *

Людзі, ачніцеся ад злосці!
Нас вучыць Бог усіх любіць.
А калі блізкі ў няшчасці,
Дапамажыце яму жыць!

## Самота

Крычыць душа ад адзіноты,
Сум сцеле змрочныя сляды.
Чаму сюды прыйшоў, за што ты
Шлеш адгалоскі той бяды?

Мо мне бярозка дапаможа
Былую крыўду, боль забыць?
Ці мо найлепш сяброўка зможа
Патрэбным словам абудзіць?

А я абедзвюм шчыра веру:
Кажуць сябе "ў рукі браць".
А дзе ж узяць сіл і даверу
Каб крылы зломаныя ўзняць?

Прашу ў неба я спакою,
Навучы злосных абысці.
Дай Бог цярпення і настрою,
Без болю каб далей ісці.

## Мне сніцца…

Як я жыву? На ўсё Гасподня воля.
Адляцела ўдалеч ранняя зара.
Усе кажуць, што мая шчаслiва доля,
А сніцца - паркалёвая пара.

Якая радасць успамінаць той жнівень!
Вясне хвалебны гімн ён так спяваў…
Не страшны быў іскрысты колкі лівень.
Салоўка маладосці падпяваў.

Малінавае ранне палыхала
І клікала пайсці насустрач дню.

З прыемнасцю дух хлебны я ўдыхала:
Я так любіла вёсачку сваю…

Цяпер гарэза восень накруціла
Сумненні, думкі, злыя скразнякі,
І ўсё ж мой успамін не замуціла,
Салодкі смак парэчак ля ракі.

Блукае і мая дзесь маладосць
Ля руні трапяткой, бурлівых рэчак.
Унукі - мая радасць, прыгажосць,
Я з імі маладзею без таблетак.

На лёс я свой зусім не наракаю,
Жыву, як Бог дае і як магу,
Сяброў з любоўю шчыра сустракаю,
А памяць пра Радзіму - берагу.

## Летняя раніца

Світае. Ранак вочы разліпае.
Руплівы пеўнік спеўна ўсіх будзіў.
Духмяны хмель чаруе, аздабляе,
Удосталь наваколле ажывіў.

І завіхрыла праца на падворку.
Барбос са смакам малако хлябтаў.
Цурчыць сырадой цёплы ў даёнку.
Гусак ля міскі гучна гагатаў.

Матуля наша - пчолка залатая -
Яшчэ да зоркі, раненька ўстае,
Такая ўдалая, усім нам патрапляе,
Блінцы, мачанку з салам падае.

Напоўнілася гоманам уся хата:
Не спяць улетку доўга рыбакі.

Паснедалі ўсе дружна, а наш тата
Узяў вясло - і шпарка да ракі.

Бяжыць услед Пятрок, браток малодшы,
З сабою просіць слёзна яго ўзяць,
Быць абяцае ціхім і харошым,
Каб толькі ў руках рыбку патрымаць.

Я ў сенцах кош бяру, у лес спяшаю,
Дзе косанькі пляце бярозак гай.
Бы смагу сваю сокам наталяю:
Так кліча і вітае грыбны рай.

І грыбасей на тыдні пастараўся -
Баравікам падліў, лісічкі асвяжыў.
На ўдачу я хоць трохі й спадзяваўся,
А хвойнік і мох сівы - дагадзіў.

З-за лесу сонца промнямі іграе,
Брыльянтамі паблісквае раса.
Ды ніва жытнім коласам уздыхае,
І воддаль шаргаціць-звініць каса.

## Бераг дзяцінства

Блакіт нябёс так песціць вока,
А яшчэ лепш - бярозак гай.
Хоць родны кут не так далёка,
Ніхто не кліча ў гэты край.

Падворак, той, дзе я хадзіла,
Ужо топчуць ногі іншых людзей.
І голас мамы гэтак шчыра, міла
Успамінаецца: "Прыедзь хутчэй".

Сад пастарэў, не стала ліпаў,
Ды бераг Нёмна не пазнаць.

І луг занёманскі не клікаў
На сенажаць стагі складаць.

Няма той вузенькай сцяжынкі,
Што да парома ўсіх вяла.
Тут ладзіліся вечарынкі,
Гуляла моладзь дапазна.

І так заўсёды, у нядзельку,
Збіраў паром сваіх сялян.
Ішлі сюды хоць на гадзінку,
Каб адпачыць, пачуць баян.

Якая музыка ўзлятала
З-пад пальцаў дзядзькі Ігнася!
І моладзь дружна падпявала,
Прыпеўкі чула вёска ўся.

Разліўна полечкі гучалі,
Абцас юначы рытм трымаў,
У лад старэнькія пляскалі,
І танец усіх так забаўляў…

* * *

Прайшлі гады, няма парома,
Ля хатаў - высачэнны плот.
Пабыць хацелася б так дома,
Ды там цяпер - чужы народ.

## Вясенняя рапсодыя

Вясна і красавік дружна сышліся.
На Нёмне крыгаход адгаманіў,
А пчолкі на аблёт усе ўзняліся,
Шпачок жытло шыкоўнае абжыў.

Вясна ўздымае пульс, і не стрымаць
Яе шчымліва-светлыя парывы.
Буслянкі сталі гучна клекатаць.
Матляе зеленню віхор гуллівы.

Пяшчотай, ласкай сонца спавівае,
Рассейвае крыштальную расу,
Зямельку-маці шчодра аздабляе,
Малюе ўмела дзіўную красу.

Чаромха міла над ракой чаруе,
У шыкоўныя карункі водар упляла.
Салоўка галасочак свой спрабуе,
А ветрык яго носіць уздоўж сяла.

Вясенняя бушуе прыгажосць.
Кляновы сок - салодкае жаданне.
Блукае трапяткая маладосць
І кліча закаханых на спатканне.

## Клапатлівы Хвядос

Знаёмы мой дзядзька Хвядос
Ужо да пенсіі дарос,
Ды не сябруе з сумам ён,
Шукае справу чэмпіён.

У спорце фаварыт Хвядос,
Не верыць у старасць і мароз.
Хай дапаможа табе Бог,
Каб жыў ты доўга, без трывог.

А сам Хвядос як малады,
Не лічыць ён свае гады.
Нават зімой педалі круціць
Ды ў сям'і не баламуціць.

Чалавек велікадушны,
Сярод людзей - нераўнадушны,
Пачаў займацца ён навукай
Сур'ёзна, шчыра, без прынукаў.

Праграмы любіць ён пісаць,
Хоча і старым дапамагаць -
Займацца боксам і стральбой,
Каб з маладыміісці ў бой.

Вакансію сабе знайшоў,
Прапанаваць усім гатоў,
Каму што з'есці і што піць,
Каб маладым заўсёды быць.

Хвядос, для іншых - пачакай!
І аднакласніц не чапай.
Найлепш - зарадка й дактары,
Каб не загінуць без пары.

**Адвечная тэма**

Як звязана ў людзей, у пажылых
Усё бачыць, разумець ды сумнявацца.
А іншы раз і дакараць сваіх,
У чым, можа, нават цяжка разабрацца.

Вось выскачыць слаўцо - і незразумела,
Як быць і што сказаць ім, маладым?
Не мучыцца б у здагадках так няўмела,
А заставацца мудрым, дарагім.

Часамі ўзнікаюць і праблемы,
Дзе праўда набывае першынство.
Лепш зразумець, што наступілі перамены,
Не ўспамінаць былое рамяство!

Мо разумней да памяці звярнуцца
І ўспомніць свае юныя гады:
Хацелася ж у шчасці захлынуцца
Ды не ўступаць у бабуліны сляды.

Так добра жыць, калі ў сям'і згода,
Дзе ўсе нібы адзіны механізм,
І вырашаецца ўсё зладжана, лагодна.
Вядома: там "здаровы арганізм".

А тэма "бацькі - дзеці" жыве вечна:
Праблему гэту можна пазбягаць
І вырашыць яе трэба сардэчна,
Калі любіць дамашніх, паважаць.



# *Ганна Рэлікоўская*

*Рэлікоўская Ганна Леанардаўна нарадзілася 8 ліпеня 1964 года ў в. Кянці Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці. Пасля заканчэння Кенцеўскай васьмігодкі паступіла ў Ваўкавыскае педвучылішча. У 1983 годзе стала настаўніцай пачатковых класаў у СШ № 8 г. Ліды. Дыплом гістарычнага факультэта БДУ, атрыманы ў 1991 годзе, дазволіў ёй перайсці на выкладанне гісторыі ў старэйшых класах спачатку ў той жа СШ № 8, затым, з 1995 да 2005 года, у СШ № 17. На працягу года (1999-2000 навучальны год) з'яўлялася культарганізатарам і старшынёй прафкама навучэнцаў Лідскага індустрыяльнага тэхнікума. З 2005 па 2017 год працавала намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце сярэдняй школы № 11 г. Ліды. На сённяшні дзень - настаўнік гісторыі і грамадазнаўства СШ № 17 г. Ліды.*

*Друкавалася са студэнцкіх гадоў у мясцовых раённых газетах Ваўкавыска і Ліды, некалькі вершаў у 2009 годзе трапілі на старонкі "Настаўніцкай газеты", выбраныя творы ўвайшлі ў зборнікі паэзіі, выдадзеныя ў Лідскім раёне ("Ад лідскіх муроў", "Шануйце роднае слова", "Мая маленькая радзіма", "Мой любы горад Ліда").*

## Прадай гэту хату

- Прадай гэту хату. Навошта яна?
Дзіравыя столь і падлога.
Усе вокны трухлеюць дзень ада дня.
Ёй жыць засталося нямнога.

* * *

Ляжу на канапе. Углядаюся ў столь.
А сэрца пякучы ахутвае боль.

* * *

Прадаць гэту хату? Дзяцінства прадаць?
Найлепшы свой сонечны ранак?
Як з татам збіралася на сенажаць,
А мама рабіла сняданак?

Юнацтва шчаслівы прадаць успамін?
Як бусел на елцы клякоча?
Ці як жаўрукі збіраюцца ў клін
І конік уночы стракоча?

Здрадзіць суседзям сваім і сябрам?
Абшары навокал забыцца?
Ніколі ўжо болей вадзіцы з вядра
З калодзежа мне не напіцца?

* * *

Прадаць - быццам частку душы адабраць.
За колькі ж даляраў яе старгаваць?

## Пра родныя мясціны

Лёгкі ветрык ахінае цела,
Гладзіць пяткі, лыткі і рамёны.
Я ад лета крыху ап'янела
І гляджу навокал улюбёна.

Белы лебедзь на вадзе - так міла!
А за ім чародкаю сям'я.
Сонца лье цяпло з-пад небасхіла,
Каб квітнела родная зямля.

Хвалі злёгку асаку калышуць,
І арэшнік шалясціць за тынам…
Пра замежжа людзі вершы пішуць,
Ну, а я - пра родныя мясціны.

## Іду дахаты

Іду дахаты, іду дахаты.
І словы зноў складаюцца ў радкі.
На дрэвах плямін жаўцеюць латы.
І вецер трэпле лістоў шматкі.

Іду дахаты, іду дахаты.
Паветра быццам, як лекі, п'ю.
Аблокі плаваюць кавалкам ваты.
Дажджы асеннія пояць зямлю.

Іду дахаты, іду дахаты.
Дабраслаўляю той лёгкі шлях.
Жадалі шчасця мне мама з татам.
Мая Радзіма тут, у Кянцях!

## Калі я выйду на пенсію…

Калі я выйду на пенсію,
Я напішу цуда-вершы,
Магчыма, паэму ці песню,
Аповед свой самы першы.

Калі я выйду на пенсію,
Сабе адшукаю заняткі.

Я буду ляпіць пяльмені
І смачныя смажыць аладкі.

Калі я выйду на песію,
Я буду найлепшай мамай.
Унукаў, дасць Бог, буду песціць
Ад рання да ночы самай.

А ўвесну, улетку і ўвосень
Я буду жыць у вёсцы,
Дзе певень зрання галосіць,
Дзе радуе шэптам калоссе.

Калі я выйду на пенсію,
Хачу быць на роднай зямлі,
Бліжэй да бацькоўскага месца.
Дажыць бы да тога "калі"…

## Маё шчасце

Я чэрпаю сілы ад роднай зямліцы.
Мне ў вёсцы смачней і радасней спіцца.

Падворак прыбрала, гарод пасадзіла.
У хаце матулінай вокны памыла.

Сяжу я на зэдлі пад высахлай грушкай
І з конікам гутару важка і слушна.

На мове жывёльнай пытаецца конік:
- Якое б ты шчасце ўзяла ў далоні?

Ну, каб ніколі з ім не расстацца,
Каб ты ім штодня магла любавацца.

…Цячэ нетаропка наша бяседа.
Акінула позіркам домік суседа,

Хмаркі на небе, траву пад нагамі.
Рукой памахала сагнуўшайся маме.

Вось гэты ўспамін я ўзяла бы ў далоні!
У душы не згарыць ён і не патоне.

Яго з відарысаў нічым ужо не сцерці.
Ён шчасцем маім будзе ажно да смерці.

## Пачалося лета

Пачалося лета, пачалася вёска.
Зелянее мой гарод.
Пазрывае вецер з яблыняў пялёсткі
І закруціць карагод.

З граблямі і цяпкай у гэтым карагодзе
Я танцую так штодня.
Мама кліча ў хату: "Хопіць, дочка, годзе!
Стомы на цябе няма!"

Бульбачка ўзыходзіць, высіцца шчавейчык,
Смачна пахне недзе ўкроп.
Скача па радочках шэры верабейчык,
Быццам мне дае ўрок.

А як прыйдзе восень, набяру гарбузаў,
Смачнай ежы навару,
Накармлю баршчом усіх, каб трашчала пуза.
Я вам праўду гавару.

Прыязджайце ў госці, мілыя сяброўкі!
Прыязджайце і сябры!
Вып'ем малачка мы ад маёй кароўкі,
Прасмяёмся да зары.

## Каханне

Хадзіў па свеце херувім
І раздаваў каханне.
Яно было для нас такім,
Як лёгкі ветрык з рання.

Каханне, каханне, каханне,
Маленькае наша каханне.

Яно квітнела харaством.
Як сонца на світанні.
Так ахапіла чараўством,
Што сціснула дыханне.

Каханне, каханне, каханне,
Прыгожае наша каханне.

Яно сталела і расло
Да зорнага блукання
І пацалункам данясло
Маё к табе прызнанне.

Каханне, каханне, каханне,
Вялікае наша каханне.

Ніхто не думаў, не чакаў,
Што скончыцца каханне.
Балючых слоў шалёны шквал
Наканаваў расстанне.

Каханне, каханне, каханне,
Памерлае наша каханне.

Але ў душы надзеі цвет
І ў сэрцы адчуванне,
Што мы спаткаем па вясне
Ажыўшае каханне.

Каханне, каханне, каханне,
Ажыўшае наша каханне.
Прыгожае наша каханне.
Вялікае наша каханне.
ВЕЧНАЕ наша каханне…

## Калі прыеду ў вёсачку я летам…

Калі прыеду ў вёсачку я летам,
Паабрываю зелле ля платоў,
Сябе адразу адчуваю я паэтам,
І вершы нараджаюцца ізноў.

Шпакі пад ранне за акном цвіркочуць,
І сонечны прамень казыча твар,
А водар траў усё мацней да ночы,
І дзынкае, як дражніцца, камар.

Мая зусім маленькая радзіма!
Адкуль тыя пяшчота, прыгажосць?
Здаецца, колькі б тут я ні хадзіла,
Заўсёды новае зусім убачу штось.

Скрылёчкі матылёў трымцяць над кветкай,
І чырванеюць вішанькаў бакі.
А я ператварылася ў паэтку
І крэмсаю ізноў свае радкі.

Сабака - нават той ласкава брэша,
Хоць да світання не дае мне спаць.
Дажджынкі-кропелькі зямлю і сэрца цешаць
І барабаняць, як загад: "Пісаць, пісаць…"

Мне нават неба пасылае знакі -
Вясёлка па-над хатаю ўстае.
Сяджу, пішу, шукаю слоў падзякі
Той вёсачцы, дзе, мабыць, Бог жыве.



# *Ірэна Сліўко*

*Ірэна Нікадзімаўна Сліўко нарадзілася ў 1941 годзе ў вёсцы Залейкі Іўеўскага раёна. Скончыла Марынскую сярэднюю школу, Менскі фінансавы тэхнікум па спецыяльнасці "фінансіст" і Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя В. В. Куйбышава па спецыяльнасці "эканаміст". Працавала 7 гадоў у Астравецкім райфінаддзеле, а затым у Лідскім гарфінаддзеле на пасадах эканаміста, старшага эканаміста і начальніка бюджэтнага аддзела. Друкавалася ў "Лідскай газеце", у газетах "Астравецкая праўда", "Іўеўскі край", "Прынёманскія весткі", у калектыўных зборніках "Мой горад - гонар мой", "Ад лідскіх муроў", "Дарослыя - дзецям", у кнігах А. Каладзяжнай "Этапы жыццёвых дарог" і "Памяць - галоўны сведка", электронным літаратурным часопісе "Русская Балтика" ў Літве, выступала з вершамі на Лідскім радыё і тэлебачанні, на розных мерапрыемствах г. Ліды. З'яўляецца актыўным членам літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". Па выніках III літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай (снежань 2018 г.) узнагароджана дыпломам II ступені і літаратурнай прэміяй.*

## Начныя агні

Далёка за поўнач, а сон не прыходзіць.
І вецер-гуляка ўжо трохі прыціх.
Хутка і сонейка будзе ўзыходзіць,
А ў хатах суседніх - начныя агні.

Можа, раманам у каго захапленне
(А ўсё-такі ноччу было бы спаць лепш)
Ці нават прыйшло да паэта натхненне,
І слова за словам зліваецца ў верш?

А хтосьці адзін, з доляй цяжкай, пакутнаю,
Каму божы свет невыносны ўжо стаў,
Чакае ратунку - жаданую "хуткую", -
Таму што пакуль сэнс жыцця не прапаў.

А можа, хто позна вярнуўся з работы
Ці мама дзіцю калыханку пяе?
Ды каб ніхто не спазнаў адзіноты,
Што і мне па начах заснуць не дае.

І так часта ноччу не тухнуць агні.
Ноч дадзена Госпадам толькі для сну.
У горы, бязмерна абмытым слязьмі,
Дапамагла бы ўсім, наколькі змагу.

## Трывожныя зімы

Ужо зіма ў абдымках снегу,
На плошчы ёлка зіхаціць.
Прыціхлі дрэвы ў шапках белых,
А лісце івы - шапаціць.

Бялюткі снег стамляе вочы,
На тратуарах галалёд.

Няма ўжо сну аж да паўночы,
Балюча, крыўдна аж да слёз.

Жыццё ў цісках, нібыта ў клетцы.
І гіпс, і палкі, каштылі -
Вяртлявай птушкай устрапянецца,
То зноў прыцісне да зямлі.

А снег ідзе, мароз трашчыць,
То ад дажджу ўсё пішчыць.
Зіма, здаецца, будзе вечнай,
Вясна і лета - хуткацечнымі.

У каго прасіць нам дапамогі?
Мо бракуе ў нас пяску?
Чаму нікчэмныя дарогі?
Можа, дворня ў вадпуску?

Але ёсць уратаванне:
Каб не сустрэцца з чорным днём -
Прападзе ўраз пытанне -
Паўплываць на іх рублём.

**Памяці матулі**

У памяці ўсё: саламяныя стрэхі,
Ночы і дні не змаўкае рака.
Дзіцячыя сэрцы напоўнены смехам,
Стойкасць і моц насычае вада.

Няшчасце з дзяцьмі - сэрца рвецца ад болю,
Дзеці смяюцца - свеціцца мама.
Жыццё пражыла, не пазнаўшы спакою,
Пэўна, і там ёй не спіцца таксама.

Дзяцінства прайшло ў пакутнай галечы.
Нават час не змог сцерці сляды.

Разруха і войны ляглі ёй на плечы:
Праклён усім тым, хто жадае вайны.

### "Вайна" з курэннем

Усё жыццё мы ваюем з курэнннем,
А цяпер яшчэ з большым натхненнем.
Ва ўсім горадзе шыльды "Табак"
З гэтым злом не ваююць ніяк.
Сіне-жоўтыя фарбы ларочкаў
Вабяць вочы на першы пагляд.
Прадаюць у іх людскую марочку,
Хоць яе і ў крамах зашмат.
Разумею, што гэтыя грошы
Папаўняюць раённы бюджэт.
А здароўе марнуем навошта?
Генафонд сапсавалі ўшчэнт.

### Мост

Праз Гаўю мост - драўляны і стары,
Дзіцячы пляж, дзе чэрпалі мы сілы.
Асілак-дуб глядзеў у далячынь,
А ў нас павольна выраcталі крылы.

Прайшлі гады. Маста даўно няма.
Пясочны пляж накрыўся крапівою.
У наваколле я гляджу дарма,
Мая душа і сэрца ў неспакоі.

* * *

Ляжу даўно, закрыўшы вочы,
А сон як быццам ветрам здзьмула.
Лічу я зоркі да паўночы,
І мне адна з іх мільганула.

Што нагадаць яна хацела
Такім таемным мільгаценнем,
У такім дзівосным азарэнні,
Нібы ў сон у мой ляцела?

Быць можа, гэта напаміны,
Што ўжо пара сустрэцца з Богам,
Каб адмаліць усе правіны
І збірацца мне ў дарогу?..

Надыдзе час - наступяць ночы.
Наступіць мой - закрыюць вочы.
Не перажыўшы сваё гора,
Пайду шукаць сыночка ў зорах.

* * *

Закончыла я школу,
Са срэбным медалём,
Але мяне хвалюе
Адзін і той жа сон.

Зайшоў у клас настаўнік
З журналам у руках.
Паставіў там пытальнік -
Мяне адолеў страх.

У рукі ўзяў лінейку,
На вучняў кінуў зрок.
Спаўзаю са скамейкі -
Не вывучыла ўрок.

Баюся вельмі двойкі,
Хаваюся пад стол.
Для мяне й чацвёркі -
Галаўная боль.

Падышоў да парты,
У руцэ ўсё той журнал,
А я сяджу ўсё ўпарта,
Здранцвела напавал.

Працягвае мне ўказку.
І зазвінеў званок.
- Вылазь, ідзі да карты,
Прадоўжым наш ўрок.

Не вылезла з-пад парты,
Чакаю зноў званка.
Пакуль не дакранулася
Матуліна рука.



# Ірына Маркевіч

*Маркевіч Ірына Уладзіміраўна нарадзілася ў 1954 г. Вырасла ў вёсцы Ельня Дакудаўскага сельсавета Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучылася ў Біскупскай васьмігадовай школе (1961-1969), Дакудаўскай сярэдняй школе (1969-1971), Гарадзенскім сельскагаспадарчым інстытуце па спецыяльнасці "агранамія" (1972-1977), Беларускім дзяржаўным універсітэце па спецыяльнасці "выкладчык біялогіі і хіміі" (1992-1996). Працавала ў калгасах Лідскага раёна спачатку паляводам, а пасля заканчэння ГСГІ - аграномам, загадчыкам участка, галоўным аграномам, сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса "Іскра", старшынёй Дакудаўскага сельскага Савета і настаўніцай біялогіі і хіміі Дакудаўскай сярэдняй школы. Зараз на заслужаным адпачынку, пенсіянерка.*

*Вершы пачала пісаць у 1999 годзе. Друкавалася ў "Лідскай газеце", літаратурным электронным інтэрнэт-часопісе “Русская Балтика" ў Літве, часопісе "Ад лідскіх муроў", выступала з вершамі на Лідскім радыё, на розных мерапрыемствах у Палацы культуры г. Ліды.*

## Позняя восень

За акном ляцяць лісты -
Восень дае лататы.
Птушкі ў выраі даўно.
Хмары. Сонца не відно.

Мокры снег цярушыць з неба.
Холад. Апранацца трэба,
Каб пайсці гуляць на вуліцу.
Сумна. У каўняры ўсе туляцца.

Каб мне выйсці пагуляць,
Трэба шалік адшукаць,
Боты цёплыя абуць,
Рукавіцы нацягнуць.

Як знайсці тут весялосці?
Мо, прасіць цябе ў госці,
Кавы, чаю паспытаць,
Сырнікамі частаваць.

Добра стане, весялей,
На душы святлей, цяплей…
І няхай ляцяць лісты -
Восень дае лататы.

## Крыніца жыцця

За акном паціху
Сыплюць дождж і снег.
Неба затуліла
Ветру шпаркі бег.

Сонейка заходзіць.
Радасці няма.
Вольная ў прыродзе
Матухна-зіма.

Ціха лес шапоча:
"Каб хутчэй цяпло".
Па страсе ж грукоча
Дождж на ўсё сяло.

Снег яму не хоча
Ўсе правы аддаць.
Хай іх Бог прымірыць,
Прышле благадаць.

Дождж і снег - вадзіца,
Пояць яны ўсіх,
- Вось жыцця крыніца, -
Гавару я ўслых.

## Майская раніца

Ціхая раніца. Сонейка ўсходзіць.
Песню салоўка над рэчкай заводзіць.
Ластаўкі хутка над Нёманам кружаць.
Воблачкі белыя з ветрыкам дружаць.

Дожджычак ціхі ноччу прайшоў.
Шпак для сяброўкі гасцінцы знайшоў,
Сеў на галінку, чакае яе.
Глянь - прыляцела. А сонца ўстае.

Пахне зямля. Зацвітае чаромха.
Траўка расце. Сон-трава ўжо ківае галоўкай.
Пеўнікі ў вёсцы збудзілі людзей.
Май наступіў. Ён - чарадзей.

## Каханне не вярнуць

Ужо даўно згубіліся дарогі,
У маладосці што ішлі да нас.
Пацерліся аб быт трывогі.
Каханне знёс імклівы, жорсткі час.

Сапраўдныя пачуцці засталіся,
Бясспрэчна, ціха ў сэрца заляглі.
Дарогі нашы, што ж вы разышліся,
Гармонію каханню не далі?

Жадаю на імгненне сапраўды сустрэцца,
У вочы любыя таемна зазірнуць,
Пайсці і больш не азірнуцца:
Назад каханне болей не вярнуць.

## Мая Радзіма

Беларусь - мая краіна,
Прывітай мяне, як сына,
Сустракай, як госця дарагога.
Мы - адзіныя, адна для нас дарога.

Ты прыгожая любой парою:
Летам, восенню, вясною.
Вабяць да цябе азёраў вочы,
Песні салаўёў вясновай ночы.

На Радзіму едуць беларусы,
Сустракаюць іх лугоў абрусы,
Кветак пах дадому кліча,
Поле, сад, лясоў любімае аблічча.

А над вёскай кружыць белы бусел -
Сімвал чыстай, белай-белай Русі,
Кліча разам нас сабрацца,
Жыць, кахаць, Радзімай захапляцца.

## Калі не спіцца

Калі не спіцца ўначы,
Сядай і моўчкі верш пішы.
Не ладзіш з рыфмай - пішы прозу,
Бяссонніцы стварай пагрозу.

Няхай плывуць над намі думкі,
Нясуць каханым пацалункі,
Вядуць за рукі байкі, казкі,
Легенды прынясуць падказкі.

А месяц ясны ночкай цёмнай
Нябёсам дасць красы таемнай,
Прышле прыгожыя радочкі,
Напомніць пра абдымкі дочкі.

Натуй усё ў сшытак, не лянуйся,
Часцей ты з Музаю цалуйся.
Няхай яна твой сон вядзе,
Няспанне, сум прэч адвядзе.

Здароўе вернецца назад,
Квітнее, як вясновы сад.
Суседзі, дзеці будуць рады,
Папросяць у цябе парады

Змагацца з сумам як, з нудою,
Настроем дрэнным і тугою?
Пішы, паэт. Добра пішы.
Знайдзі паэзію ў цішы.

## Паваліўся

Мужыкі сабраліся,
Дружна прывіталіся
І давай размову весці,
Як было даўно, калісьці.

Дзед Мікола такі смешны,
А да працы ён увішны,
Распавядае пра ўсіх,
Думае нібыта ўслых.

Шмат гісторый дзед вядзе,
Ён пра ўсё распавядзе:
Як і дзе хтось пахмяліўся,
Чым знаёмы пахваліўся.

Можа, будзеце смяяцца,
Трэба ж было пастарацца
Яму з каменем шукаць,
З матацыклам там скакаць.

Раніца. Хтось едзе з вечарынкі.
Сонца свеціць з-за адрынкі.
А сцежка вузкая за вёскай.
З траў - раса слязінкай боскай.

Птушкі лету гімн спяваюць
Ды настрою дабаўляюць.
Хутка матацыкл ляціць,
А насустрач гусь бяжыць.

- Ты адкуль, гусак, узяўся?
Лепш у паветра ты б узняўся.
Як цябе аб'ехаць, дзе? -
Сцежка ж вузенька вядзе

Да масточка цераз рэчку.
- Божа, хто пусціў авечку
Пасвіцца ўздоўж сцяжынкі? -
З гусаком зрабіў абдымкі

Рокер спраўны малады.
Адляцеў аж да вады,
Бухнуўся ў крапіву,
Носам ён зрываў траву,

Скуру з ног счасаў аб камень,
Трэснуў нават новы рэмень,
Джынсы лопнулі па шву,
Аб авечкі галаву
Хлопец стукнуў, засмяяўся…
Ледзьве ціхенька падняўся.

Глянуў - побач гусь ляжыць.
Дзе ж авечка? Вунь! Бяжыць!
Крылы ўверх гусак уздымае.
Вось! Здаецца, узлятае.

Раніца. Вакол нікога.
Блізка роўная дарога.
Хутка матацыкл завёў.
Цэлы. Добра, не падвёў.

Сеў цішком, паехаў бокам,
На авечку кінуў вокам.
Гусь з авечкаю - жывыя.
Нос баліць. Калена ные.

* * *

За руль п'яным не садзіся -
Ад няшчасцяў сцеражыся.

**Я спытала ў бабулі…**

Я спытала ў бабулі,
Якая ў вайну жыла,
Як свісталі тады кулі,
Партызанка дзе ішла.

- Вельмі страшна, дзеткі, жыць
Змрочнаю вайною,
Боль цярпець, дзяцей карміць,
Ахвяраваць сабою.

Вёска наша ў сем двароў
Ля лесу гаравала,
Бо ўсіх хлопцаў, мужыкоў
Вайна пазабірала.

Цяжка там, дзе ішлі баі…
А ў нас катаў не відаць,
Бо партызаны ў гаі,
Можна жыць, агарод саджаць.

Як чужынцы ля двара
Просяць яек, сала,
Пазірае дзетвара,
Каб што дзе не прапала.

Выглядаюць партызан
Белых ці чырвоных,
Малака нясуць ім збан,
Агуркоў салёных.

Хлеба з маслам, кісялю,
Яек, бульбы з салам…
Усім, што ёсць,
людзей кармлю, -
Бабуля адказала. -

Партызанам хлеб пяклі,
Бялізну часта мылі,
Яны ж у лесе ўсе жылі.
Кашулі мы ім шылі.

Ваявалі як маглі
Не толькі партызаны.
Раненым дапамаглі
Залячыць іх раны.

Хто свінню аддаў, каня
Для патрэб вайсковых…
Не лічыліся ні дня
З тых гадоў суровых.

Дружна страх перамаглі,
Вайною нагнаны,
Падтрымлівалі, як маглі,
Вяскоўцы партызанаў.

Адзін раз дзіця прывезлі,
Каб мы схавалі ў хаце.
Як свайго яго глядзелі,
Бо ў партызанах маці.

Навучылі, як схавацца,
Калі чужыя прыйдуць:
Пад ложак ціхенька забіцца,
Сядзець, пакуль не пойдуць.

Партызанская вайна
Ішла па ўсёй краіне.
Хай фашысцкая брыда
Навек са свету згіне!

Страшна ў апошні дзень
Вёсачка пылала.
Немцаў, нібы чорны цень,
Зграя адпаўзала.

Усё спалілі за сабою:
Пуні, хлявы, хаты.
Дзе і як нам жыць зімою,
Знаў бы толькі тата.

Людзі дружненька ў кустах
Хаваліся за рэчкай.
Панаваў нясцерпны жах,
Слёзы, боль сардэчны.

* * *

Забылася ўсё даўно.
Святкуем Перамогу…
Добра, што толькі ў кіно
Мы бачым немца злога.



# Антон Пілінчык

Антон Сямёнавіч Пілінчык нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Сухары Шчучынскага раёна. Скончыў журфак БДУ і аддзяленне друку, радыё і тэлебачання МВПШ. Працаваў у рэдакцыях шчучынскай, астравецкай раённых газет, а з кастрычніка 1979 года па лістапад 2014-га - у іўеўскай раёнцы. Вершы друкаваліся ў раённым друку і абласной газеце "Гродзенская праўда", штогодніку "Галасы", у рэспубліканскіх выданнях: "Чырвоная змена" і "Беларуская ніва", часопісе "Беларусь". У перыядычным друку змяшчаліся таксама гумарэскі і апавяданні. У прыватнасці, у газеце "Звязда" былі надрукаваны такія творы, як "Кампенсацыя" і "Амністыя", у газеце "Рэспубліка" - "Патрапаны "Масквіч", у альманаху "Вожык" - "Хведараў бізнес". У 2015 годзе Антон Сямёнавіч Пілінчык стаў фіналістам другога абласнога конкурсу рукапісаў імя Цёткі (А. Пашкевіч). Адзін з суаўтараў калектыўных зборнікаў "Іўеўшчына літаратурная" (2014) і "У прыгаршчах Айчыны" (2015). Зараз пражывае ў г. Бярозаўка Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці. Піша на беларускай мове. Аўтар зборнікаў вершаў "Лятуць восені, зімы, як і вёсны, і леты..." (2018), "Безбярэжжа" (2020), кнігі прозы "Пакуль сонейка ззяе..." (2019).

* * *

Рэкі, азёры, моры і акіяны
абярэгамі-берагамі акаймаваны…
Забушуе вада,
на берагі наляжа грудзьмі -
не абміне бяда…

Ў свеце гэтым толькі словы-думы бязбрэжныя.
Свавольныя, куды вокам ні кінь,
плывуць птахамі вольнымі
ў прасцягі бязмежныя…

## Баль расстання

Баль грыміць… Выпускны!..
Маладзее ўвесь свет і кружыцца…
Вальс дарослай нашай вясны
Зоркі з намі таксама танцуюць -
На азёры паглянь, на рачулкі і лужыны…

Вальс!.. Вальс!.. Танчым мы!..
Сэрца бурнаю радасцю поўніцца…
Аднакласніца ж, не маўчы,
Як пралеска вясною ў бары,
Мне зіхотны ўсмех падары -
Праз гады хай жа з вальсам успомніцца.

Вальс гучыць!.. Ўсезямны!..
Нас чакаюць шляхі і прасцягі новыя.
Вальс апошняе школьнай вясны
Будзе жыць ва ўспамінах, прыходзіць у сны…
Не, ніколі яго не змагу я забыць,
Як і вочы твае, як і вусны пунсовыя…

Вальс па школе плыве… Выпускны!.. -
Вальс дарослае нашай вясны…

Я прашу, я малю: "Вальс, гучы, не канчайся!..
Я жадаю яшчэ і яшчэ пакружыць
З аднакласніцай, любаю мне,
Пад мелодыю бальнага вальса…"

Баль грыміць… Выпускны!..
Маладзее ўвесь свет і кружыцца…
Вальс апошняе школьнай вясны
Будзе жыць ва ўспамінах, прыходзіць у сны
Не, ніколі ён мной і табой не забудзецца!..

**Колеры жывыя майго краю…**

Аздобленыя мазаічнікам дамы
заўжды прыемна вока лашчаць…

Хоць беглым зіркам, ды не абмінеш, канешне,
і жанчын, чый выгляд фантастычны знешні…

Ад усяго наўкол, што - вабнай барвы,
воч, здаецца, век не адрываў бы…

А я - з дзяцінства абагатвараю
жывыя колеры Прынёманскага краю:
ніколі не забыўны васільковы тон;
і прамяністы сонцавы - рамонкавы;
і Іван-чаю фіялетава-ліловы колер;
блакіту летняга - ільновы;
хлябамі водарны - жытнёвы;
і верасовы - бэзава-ружовы;
і, акіянам па зямлі ўсёй
разліты цвет, зялёны -
зіяюць ім лясы, лугі, сады, палеткі,
у гарадах газоны -
прыроды і чалавека
ўзаемнае любові эталоны…

…Жывыя колеры Прынёманскага краю -
маёй малой, расквечанай, радзімы!
Я з вамі, дзе б ні быў, у думках прабываю,
душой і сэрцайкам заўжды адзіны!

### Дзень кожны перайначу…

Дажджы, завеі - у мінулым…
Пара адпрэчыць тлум бясконцы,
пачуцца тым - далёкім юным,
вітаць усход барвовы сонца…

Не ўсё яшчэ ў бязладдзі страчана.
Наўкол квітнее безліч кветак -
і ў снах раней нават не ўбачаных…
Як жыў - хачу зусім не гэтак…

Дзень кожны новы - перайначу
грунтоўна, абсалютна і дашчэнту,
і - тое, што хоць штосьці значыць,
і - што з трывогай неадступна дрэнчыць…

### Недаспяваны восеньскі раманс…

Успых пачуцця патушан ліха…
І змоўкнуў на паўноце мой баян…

Недачытаная цікавейшая кніга,
недаспяваны восеньскі раманс… -

Такою застанешся ў рытмах сэрца,
у затоеным ад бляску воч дыханні…

У свеце віртуальным цяпер вечна
звінець самотаю заархіваванаму каханню…

## Светла, мёдна…

Вось і май бушуе ў нашых душах!..
У думках я - дзе ты, а ты - дзе я…
Светла, мёдна… Вельмі міла слухаць
ад любові п'янага ў садзе салаўя…

У нас любоў таксама казачна зардзела
фарбамі світанку над жыцця ракой,
падаецца: ўся Зямля запела
з гэтае падзеі - простай і святой…

З сэрца ў сэрца хай крыляюць тайны
самыя таемныя - не даюць нам звяць!..
Дні, гады старэчыя - не пара адчайная,
маладым душой быць - нам не прывыкаць…

## Праз процьму гадоў светлавых…

- Бясследна я кану ў Сусвет!
Мяне не шукай!.. - рагатнула…

- А ў вершах, што страсцю зманула,
прыкметны застаўся ж твой след?!.. -
самотна-удзячна кажу я.

Ва ўме сам трымаю
узоры,
любімкай сцяжком вышываныя…

Крычу наўздагон:
- Ты й гэтак узорыста выстрай там зоры
Сусвету, табой каланізаванага…

Праз процьму гадоў светлавых
з планеты блакітнай - Зямля -

к табе даімчуся расчулены я -
нам стане праменней ад іх…

## Больш не піў

На ўвесь святочак звонка
з парога мужа жонка:

- Ты што за чалавек?!
Учора ў грудзі біў і кляўся,
перада мною лістам слаўся,
што піць не будзеш больш павек,
а сёння - дай жа рады - налізаўся!..

- Ну, праўда… Біў у грудзі, кляўся…
І дамаглася ж ты свайго:
раней куляў я чарак дзесяць,
а сёння выпіў дзве ўсяго…
Што, не прагрэс?
Пабойся Бога ўстройваць стрэс…

## Медсястрычка

У жыцці маім выпадак
неяк здарыўся такі:
з ложка ўранку ўстаць бы рады,
ды… так коле мне ў бакі!
Варухнуцца немагчыма,
толькі лыпаю вачыма…

Жыць ці не - лягло на шалі.
Апынуўся я ў… шпіталі.
Колюць, грэюць, прасвячаюць…
На што хворы - не прызнаюць…
Пнеўманія, хіба, кажуць,
шкіпінарам пяткі мажуць,

ставяць баначкі на плечы -
метад дзедаўскі не лечыць…

…Аднаго дня ў палату
зазірнула медсястрычка.
К яе беламу халату
пацягнула прытуліцца.

- У працэдурны кабінет
пойдзе заўтра й гэты дзед, -
рассмяялася, твар - чырвань…
Хворы ж - мірны:
зазірнуў я ёй у вочы,
немачы - як не было!...
Вось бы мне і ўдзень, і ўночы
заглядаць у іх святло!..

Медсястрычка - ружа-кветка,
укол - не чуеш, як шпільне…

…Я - даўненечка ўжо дзедка,
той выпадак… сніцца мне.

## Лічылка

Раз, два, тры, чатыры, пяць…
Я іду… сябе шукаць.
Я не ў джунглях, не ў пустыні…
Усюды - робаты-машыны…
Ну, а чыста чалавека
ты не ўбачыш з-за гаджэтаў.

Быццам бы - і не Зямля?!..
І куды ж зацёрся я?..

Я іду… сябе шукаць!
Раз, два, тры, чатыры, пяць…

Я іду… А ці ж знайду?
Я не знаю аднаго:
маю выгляд я - каго?
Мяне так адлічбавалі,
мяне так ачыпавалі,
што, якім адвеку быў,
люта ўсё прагрэс размыў!

Я - жывая дэкарацыя,
хіба што, і - дэградацыя…

Раз, два, тры, чатыры, пяць…
Я іду… сябе шукаць!..



# *Сяргей Анушкевіч*

*Нарадзіўся я 3 траўня 1990 года у вёсцы Даліна, што знаходіцца побач з горадам Лідай. У маім дзяцінстве гарадскія і вясковыя абавязкі чаргаваліся. Пасвіць кароў было маёй першай адказнай працай у жыцці, мне тады было 6 год. Памятаю гісторыю, калі я заснуў, прачынаюся, а кароў няма, ну думаю мяне ж людзі з'ядуць за сваіх карміцелькаў, але потым я іх знайшоў, яны збеглі ад мяне праз могілкі на шыкоўны калгасны луг. Першае маё спатканне "пакуль яшчэ не невераґоднае" з вершам, адбылося на ўроку беларускай мовы. Мне тады было 10 год. Ірына Іванаўна - наша першая настаўніца, задала нам хатняе заданне, каб мы злажылі чатырохрадковы верш.*

*Але я тады быў няўважлівым маладым чалавекам і мне здалося што трэба зрабіць чатыры чатырохрадковыя слупкі. Менавіта тады і нарадзіўся мой першы верш "Лета". Ірына Іванаўна была радая за тое, што я зрабіў больш, чым трэба. Пасля навучаўся ў Лідскім каледжы на тэхніка-механіка.*

*У рэшце рэшт, калі мне было 20 год, я пачаў свядома пісаць вершы. Я тады навучаўся ў Шчэціне на інжынера-афіцэра ў Марской Акадэміі. Верш, як зараз памятаю, называўся "ВеРа" “Ве” ад “ведаць” “Ра” ад “святло”. Навучыўся граць на гітары. Напісаў пару песень пад гітару на свае*

*вершы. Хадзіў больш за 3 гады ў мора. Пабываў у 20 розных краінах: афрыканскіх, еўрапейскіх,усходніх.*

*На гэты момант вярнуўся дадому, на Радзіму. Працую ў лясніцтве лесаводам-аператарам, маніторынг лясоў усяго Лідскага лясніцтва - мая баявая задача. Чаму баявая, бо калі лес пачне гарэць, першым гэта заўважу я, Сяргей Юр'евіч Анушкевіч.*

## Неверагоднае спатканне

Я думаў раней
Для мяне цэлы свет!
Што на Радзіме радней
І што буду тут век.
Неўзабаве праз час,
Мне сказаў чалавек.
Ты жывеш не для нас,
Так было аж спрадвек.
Быў ён мудрым, гэта факт
На жаль не зразумеў яго я.
І тады мне склала пакт
Далёкае і мілае сузор'е.
Неверагоднае, праўдзівае як казка,
З радосцю і сумленнем на заўсёды.
Пачуліся мне словы: “Калі ласка”,
Адразу я забыўся пра няўзгоды.
Пайду я шляхам гэтым,
Стаяць на месцы сіл не маю.
Шчаслівае жыццё пры гэтым,
Абавязкова я спаткаю.
Спаткаўшы навучу я іншых,
Каб прызначэнне ведалі дакладна.
Каб галава была без думак лішніх,
І каб жыццё іх не было накладным.

## Братка

*Гэты Верш прысвячаю свайму*
*найлепшаму сябру*
*Раману Кудашу.*

Сёмага лютага - дзевяноста першага года.
Нарадзіўся ўзімку на белы наш свет.
Хоць і бацькі не бачыў ад роду,
Ты йшоў па шляху і шчасця, і бед.

Часам і цяжка бывала парою,
Часам радасна было, як ва ўсіх.
Часам мы разам хадзілі з табою,
Калі не так што было, біліся ўміг.

Потым пайшоў ты дарогай футболу,
Але не толькі футболам жыў ты тады.
Біўся за праўду, і быў не мажорам.
Так непрыкметна сцякалі гады...

І тут няўзабаве, з'явілася Плошча,
І ты, даражэнькі, пайшоў за народам.
Цяжка было, ламаліся дошкі,
“Жалезам па шкле”, як сказалі нам потым.

Сядзеў, галадаў ты, сутак аж дзесяць,
Галодны, халодны - з кніжкай пад бокам
Здавалася ўсім, што прайшоў цэлы месяц,
Напэўна табе - здавалася годам.

На прыканцы зімкі з'ехаў з краіны,
Так трэба было. Такі твой учынак.
Прынамсі, пажыў ты ва Украіне.
А потым у Польшчу - сапраўдным мужчынам.

Кастусь Каліноўскі, з табою там крочыў,
Дык дапамог табе ў тамтых сутоннях...
Кракаў пазнаў - прачнуліся вочы,
Пачаў там жыццё з чыстай далоні.

А потым Варшава - зваршчыкаў курсы,
Пажыў у самоце, падумаў пра сутнасць.
І вырашыў ты, што трэба прымусна
Ўсё памяняць, прагнаць гэту гнуснасць.

Думаў ты многа - паразважаў і пайшоў,
У Шчэціне шмат знаёмых знайшоў.
Што там знаёмых, што там сяброў!
Прыехаў і бачыш ты лідскіх братоў!!!

Тут фатаграфія ўміг захапіла,
Дагэтуль - у моры, спаткаў і дзяўчыну.
Праз месяцы два ў Шчэцін зваротна,
- Гляжу на цябе!!! Неверагодна!!!

Цяпер ты іншы, упэўненны мрояй.
З надзеяй на каханне - зведаўшы мора.
Гэта вельмі прыемна такім цябе бачыць.
Наперад, мой братка!



*Ала Вадзімаўна Юшко нарадзілася 19 траўня 1955 года ў вёсцы Кузьмічы Ваўкавыскага раёна. У Гародні вучылася на тынкоўшчыка-маляра. Жыве ў Лідзе з 1971 года. Працавала па прафесіі ў БМУ-175, ААТ "Лідanафтапрадукт". Вершы піша з 48-гадовага ўзросту.*

# *Ала Юшко*

### Беларусачка

Беларуска я, беларусачка,
Патрыётка краіны сваёй!
Не змяню табе ў снах і роздумах.
Я - карэньчык зямелькі тваёй.

І хоць клічуць заморскія далі,
Абяцаюць там рай на зямлі,
На абрусе, што вышыла мама,
Я нясу каравай для гасцей дарагіх.

Паспрабуйце вы сілу яднання,
Наталіце смагу крынічнай вадой -
І застануцца з вамі да скону
Сінь азёр і гоман дуброў.

Бусел у небе закружыць над хатай,
Сімвал ён прадаўжэння жыцця.
Працавітыя мірныя людзі -
Вось такая старонка мая.

## Дзед

Дзед на пенсіі, дык, Божа,
Што яму цяпер рабіць?
Устаў у ранку, з'еў сняданак,
Зноў улёгся, ды ляжыць.

Пакруціўся, ды не спіцца.
Мабыць, трэба пакурыць,
А яшчэ - мазгі развеяць.
Узяў газету, стаў чытаць.

Глядзь - палудзень ужо на носе.
Зноў каб што тут пажаваць.
Сонца злазіць з гарызонту -
Самы час, каб падрамаць.

Падхапіўся, бачыць: вечар.
Тэлевізар паглядзеў.
З'еў вячэру, аблізнуўся,
Лёг пад коўдру, захрыпеў.

Жонка тупае ціхенька,
Каб яго не разбудзіць:
Ён жа гэтак замарыўся,
Дык няхай хоць ноччу спіць.

* * *

Ліса надумала гуляць
І пір гарою закаціла.

Сядзелі чынна за сталом
Мядзведзь з ваўком і нават заяц.

Свінню таксама запрасілі,
Хоць нораў быў яе паганы:
Любіла есці на халяву,
А потым усё яшчэ і ганьбіць.

Калі наеліся ўволю
І кавай нават запілі,
Наперабой, наперагонкі
Хвалілі рыжую сястру.

Адна свіння сядзела моўчкі,
Устаць з-за стала ўжо не магла,
Ды камплімент свой падарыла:
"Ніхто не зробіць лепш, як я".

Калі не знаеш этыкету,
Дык позна тут яго вучыць,
А запрашаць такога госця -
Што лыжку дзёгцю ў мёд уліць.

* * *

Дзед з бабуляй так і гэтак
Гоняць унукаў пагуляць,
Бо, як самі былі дзецьмі,
У хату было не загнаць.

Поры года добра знали,
У кожнай з іх свая гульня,
А цяпер ад кнопак гэтых
Іх за вушы не адняць.

Цацак тых, хоць гаць гаці -
Усе завалены куты.
А з камп'ютарам сягоння
Хто гарбаты, хто сляпы.

Вось і думайце, гадайце,
Як дзяцей тут гадаваць:
Пагуляць ім на прыродзе
Ці на лекі грошы даць.

* * *

Пашкадуй ты, Божа, бабу
І не дай са свету згінуць.
Гаспадар як загуляе,
Будзе ўсё вакол няміла.

То не так зварыла ежу,
То кашуля не памыта.
Разышліся дзесьці дзеці -
Зноў ва ўсім ты вінавата.

Енчыць, тупае нагамі,
Можа нават адлупіць,
А як пойдзе жонка з хаты,
У гэтым ён вініць каханку.

Ёсць мараль у гэтай байкі:
За другімі не ганяйся,
Бо як прыйдзе старасць,
Дзе тады пагрэеш косці?

**Зубы**

Бабка бегае па хаце,
Правярае ўсе куткі,
Бо ніяк не можа ўспомніць,
Дзе падзела зубы ўсе.

Не свае яны цяпер -
Сківіцу доктар змайстраваў.
Прывыкала спаць і есці,
А сягоння вось аўрал.

Памагаюць дзеці, унукі,
Гвалт стаіць і мітусня.
Дастае дзед мясарубку:
"Будеш з ёй усё жаваць".

Супакоілі старую.
Ёсць памочніца ў яе.
Ну, а зубы на паліцы
Быццам новыя ляжаць.

* * *

Сына ў армію прызвалі,
У хаце мёртва цішыня.
Там жа, кажуць, распарадак,
Дзень распісан па гадзінах.

Ну, а ён - у нас дзіцятка,
Да палудня любіць спаць,
Абы што ў рот не паложыць -
Будзе, мабыць, галадаць.

Нагрузіла маці торбу -
Бацьку нават не падняць.
Цягнуць, згорбіліся двое:
Не дай Божа, каб схуднеў.

Як даехалі, не помняць.
Усе далоні ў мазалях.
Сын прывабны і пабрыты
Ў новай форме сустракаў,

Не заўважылі, як вырас,
Мужыком дарослым стаў.
І за ўсе ў жыцці учынкі
Ён гатоў трымаць адказ.



# *Кастусь Якубчык*

*Канстанцін Іосіфавіч Якубчык нарадзіўся ў 1983 годзе, працуе ў лакаматыўным дэпо Ліда слесарам па рамонце рухомага састава. Вершы спрабаваў пісаць і ў дзяцінстве, і ў юнацтве. Затым у яго творчасці быў 15-гадовы перапынак. І толькі з лета 2020 года ён зноў піша вершы, галоўным чынам вершы для дзяцей.*

*Успаміны з дзяцінства, яго жаданні і мары ў той бесклапотны час леглі ў аснову многіх яго вершаў. Штосьці для іх чэрпае і з назіранняў за сваёй дачкой Жэняй.*

*Акрамя дачкі, адным з першых ацэншчыкаў творчасці Кастуся Якубчыка з'яўляецца яго сястра Іна. А суседка Людміла Усюкевіч, настаўніца рускай мовы і літаратуры, праглядае вершы, дае слушныя парады па іх удасканаленні. Калега па рабоце ў дэпо Алег дапамагае ў стварэнні друкаваных варыянтаў рукапісных тэкстаў. Усім ім аўтар вершаў вельмі ўдзячны.*

*Кастусь марыць аб выданні ў будучым уласнага паэтычнага зборніка менавіта для дзяцей.*

*Варта таксама адзначыць, што ў ліку захапленняў Кастуся Якубчыка, акрамя паэзіі, работа з дрэвам (прадзед яго быў сталяром). У дзіцячым садку №23 ёсць цацачная мэбля, карусель, арэлі, месца для сядзення дзяцей у выглядзе самалёта, зробленыя яго залатымі рукамі.*

## Буслы вяртаюцца

Кліча вясна дадому буслоў
І чакае з надзеяй і гонарам.
Добра знаёмыя вольных вятроў,
Ляцяць яны клінам прымораным.

Далёка, далёка іх цягнецца шлях,
Мабыць, не вытрымаць гэты маршрут.
Імгненнем адным у самотных вачах
Застанецца там, хто не вытрымаў тут.

Сустракае зямля блакітных азёр
З усмешкай, як сонейка ззяючы.
Ведае кожны з іх месца сваё.
Тут чакаюць, іх бачыць жадаючы.

Як жа прыемна іх слухаць ізноў,
Прыгожых, над полем віруючых!
Як добра заўсёды вяртацца дамоў!
А іх тут чакаюць, шануючы.

## Снежань

Сыпле снежань снег у далоні.
На галінках белы пух.
У марозным гучным звоне
Дрэвы шэпчуць дзіўны гук.

Птушкі гуртам на рабіне
Горку ягаду дзяўбуць,
На пуховым белым снезе
Ягад кроплі падбяруць.

Сонца водбліскам яскравым
Сыпле срэбра на палі.

Як набіўшы пухам хмары,
Небу цяжка, ледзь плылі.

Лес здалёк сівою стужкай
Ледзь прыкметны нешта стаў.
Не збудзіць крыклівай птушкай.
У дрымоце моцна спаў.

Ці не дзіва: каля хаты
Апрануў і плот кажух,
Настаўляў каўнер касматы,
Нібы той дзядок-пастух.

Дорыць дзівы бацька-снежань.
Вунь навокал прыгажосць.
Час яму цяпер належыць:
Ён цяпер найлепшы госць.

## Мне падабаецца

Мне падабаецца,
Калі ліпкі за неба чапляюцца.
Мне падабаецца,
Як буслы дадому вяртаюцца.
Мне падабаецца,
Калі сонца і месяц змяняюцца.
Мне падабаецца,
Калі дзеці ўсе ўсміхаюцца.
Мне падабаецца,
Калі песня і голас зліваюцца.
Мне падабаецца,
Калі колас жніва наліваецца.
Мне падабаецца,
Калі кожны ад сэрца вітаецца.
Мне падабаецца…

## Зімовы лес

Зімовы лес не той, што ўлетку.
Здаецца нават, што ён спіць.
Не знойдзеш тут красуню-кветку,
Салодкіх ягад не знайсці.

Не чутны водар хвойных дрэваў,
А толькі скрып у цішыні.
Не так чуваць і птушак спевы,
Хіба што ледзь у глыбіні.

І ўсё ж цікавы, хоць маўклівы.
У ім свая ёсць прыгажосць,
І гэта нешта асабліва,
Бо так і цягне сюды штосьць.

У гэты шэры, непралазны,
У дзівосны зімні сон.
Заходзьце, гляньце, калі ласка,
Які прыгожы ён.

Там апранулі шапкі хвойкі,
Дубы, асінкі - кажухі.
Што лес маўчыць - здаецца толькі.
Яго не чуе мо глухі.

А ён спявае калыханку
Дрэвам, птушкам і звярам
І ад вечара да ранку
Байкі бае жыхарам.

## Воўк і вавёрка

Аднойчы зайца аж здалёк
Па лесе гнаў галодны воўк.

Хоць заяц чуе воўка крокі,
Спыніўся дух ён перавесці трохі.
Сэрца моцна так калоціць,
Ды бегчы трэба: воўк наскочыць.
І даўся заяц зноў на ўцёкі
Паміж кустоў у лес глыбокі.
Дагэтуль воўк дабег і сочыць,
Стаіць, цікуе, носам водзіць.
- І ўсё ж нядрэнны сёння ранак:
Нарэшце блізка мой сняданак! -
Усё з вышынь як на далоні.
Вавёрка бачыць сэнс пагоні.
Шкадуе рыжая касога.
Касому трэба дапамога!
І вось ваўка вавёрка кліча:
- Дзядзечка, вы паляўнічы?
Вам, дзядзечка, я не ілгу
І вашай справе памагу,
Бо маю я нядрэнны зрок.
Ахвяру вашу я здалёк
Магу ўбачыць, калі трэба.
Мне бачна ўсё з вышыні дрэва. -
Просіць воўк у рыжай дапамогі:
- Ты пашкадуй мае старыя ногі.
Мой слых і зрок ужо не тыя,
І крочыць лішне ўжо стары я.
- Ваш заяц тут хаваўся,
Туды-сюды сабе таптаўся.
- Вядома: недзе блытаў след! -
Дадаў і воўк пра свой абед.
- Вось там, дзядзечка, глядзі,
Дзе куст раскідзісты стаіць.
Схаваўся заяц у той куст,
Спіць, на бакі збірае тлушч.
- Дзякуй, - кажа воўк "сяброўцы".
Выказвае падзяку ён вавёрцы.

- Вы, дзядзечка, ішлі б хутчэй,
Каб заяц зноў не знік з вачэй. -
І воўк, набраўшы хуткі рух,
Нават бег на лапах дзвюх.
А вось пра тое, што вавёрка
Смяецца і жартуе з воўка,
Воўк нават і не зразумеў,
Бо моцны апетыт ён меў.
Ды ў галаве якія думкі,
Як лёс такія даў дарункі!
А ў тых кустах мядзведзь сядзеў,
Малінку ён паесці сеў.
Сядзіць сабе, ласуецца,
Малінкаю частуецца.
Галодны воўк - няма і рэчы -
Забег мядзведзю аж на плечы
Ды хваць іклом - што будзь здароў.
Мядзведзь спалоханы зароў.
Падскочыў воўк аж на паўметра,
Ад жаху нават бег па паветры.
Ды так ваўка мядзведзь нагнаў,
Што воўк і зайца перагнаў!

**Успамін**

Стаіць пад дубам мая хата.
Яго садзіў аж дзедаў тата.
Дарэчы, гэты іспалін -
Майго дзяцінства ўспамін.
Не раз зрабіўшы перашкоду
І каб лазіны асалоду
Не пачуць - дык я на ім
Сяджу і чую - бацька лаецца:
"Дзе ж ён, гад, хаваецца?"
Мяне і не відаць зусім.

А потым кліча мяне маці,
Як ціха стала ўжо ў хаце.
І я цішком скок-скок -
і на парог.
Стаю, схапіўшы штанікі,
Ды чую: пахнуць дранікі.
Люблю я вельмі дранікі
З смятанаю і так,
А той, што самы спалены,
Па мне - дык самы смак.

* * *

Плывуць па небе чыстым хмары,
Быццам бы людскія мары:
Тыя, што плывуць высока,
Якія здзейсніць мо нялёгка.
Нават простыя плывуць,
Што здзейсніць можна, абы чуць…

Адна плыве, як быццам сэрца,
Прыглядзіцеся, паверце:
Мара тая ў таго,
Хто адзін без аднаго
Ніяк ні на хвіліну.
Здаецца вечнасцю гадзіна…

І хмары розныя плывуць.
Так пакруціць, перавярнуць,
То можна рознае пабачыць:
Чыясьці гэта мара, значыць:
Дарослых, сталых, немаўлят,
А можа, гэта і твая…

І вы заўсёды, людзі, марце,
Заўсёды ў сэрцы мару майце.
Жыць не можна так, без мары,
Бо іх усмешкаю на твары,
Калі ёсць, тады відаць.
Не трэба мары пакідаць…

Нават у час, калі зацягне,
Усе хмары неба сцягне,
І без пробліску, без свету
Не кідайце гэту мэту.
І хоць, здаецца, усё бясконца,
Ведай: над хмарай заўсёды сонца!

* * *

Ціха стала, спяць усе,
Кот на вусах ноч нясе.
Месяц у небе зоркі лічыць,
Зорцы кожнай
ззяць ён зычыць.
Зоркі ў кошыку нясе,
Ён іх ведае ўсе,
Што ўпала, што гарыць,
Што каметаю пусціць.
Ночка ціхая ідзе:
- Кот-мурлыка, казкі дзе?
- Цёмна, страціў у лебядзе.
Лебяда высока -
Так і лезе ў вока.
Буду казку там шукаць,
Буду казку вам казаць
І пра месяц, і пра зоркі.
Казак шмат -
ты слухай толькі.

**Калі ласка**

Ёсць слова цёплае, як ласка.
Яно як сонейка ў душы.
Кажы знаёмым: "Калі ласка".
Дадай затым: "Дапамажы".

Бо гэта слова "калі ласка"
Быццам ключ да ўсіх замкоў.
Дапаможа, калі цяжка.
Яно - павага і любоў.

Яно - усмешка і забава.
З ім і жыць нават прасцей.
З ім хоць у госці
час пабавіць,
І сустракай ты з ім гасцей.

Шануйце вы адзін аднога.
Жыццё, дарэчы,
вам не казка.
Кажыце менш чаго дурнога -
Часцей кажыце: "Калі ласка".

**Летняе дзіва**

Гэта - дзіва, сказаць мала,
Нават сам не ўяўлю.
Нібы воблака кавалак
Зачапіўся за зямлю.

Як пуховая пярына.
Вось дык кветкі - малайцы!
Зразумеў, у чым прычына:
Гэта спеюць дзьмухаўцы.

**Вучоны кот**

Раз казаў Алесь Максіму
Пра свайго ката Марціна:
- Каб ты, Максімка, ведаў,
Як кот мой
цягнецца да ведаў.
Толькі сяду за ўрокі -
Адразу чую ката крокі.
Хапае месца навакол,
А ён жа сунецца на стол.
І ўсё да лямпы, каб бліжэй,
Аж нават робіцца даўжэй.
Вось як ляжа, дык за ім

Няма і месца мне зусім.
Ляжыць і не саромеецца,
З навукаю знаёміцца.
Урокі ён са мною вучыць,
Чуе ўсё,
хоць вочы плюшчыць. -
Максім з усмешкай адказаў:
- Мабыць, кот вучоным стаў.
Але ж якія кату веды?
Кату веды без патрэбы.
Паслухай: мне,
Алесь, здаецца
Пад лямпай кот
твой любіць грэцца!

**Жывы гадзіннік**

Дзівосны гадзіннік
Жыве на двары,
Ніколі не звоніць
Ён без пары.

Нават заводзіць
Яго і не трэба,
А даць пажывіцца
Зернем ці хлебам.

Ён раніцай скокне
Высока на плот
Ды гучна спявае:
- Прачніся, народ! -

Не пакласці яго
Ў кішэнь ці ў руку,
Не кажа: "Цік-так",
А пяе: "Кука-рэку".

І гадзінніку жывому
Давяраюць людзі.
Нават нам усім здаецца,
Што і сонейка ён будзіць.



# Раман Кіман

*Кіман Раман Яцакавіч, нарадзіўся 2 ліпеня 1954 года ў вёсцы Клюкавічы, Беліцкага сельскага савета, Лідскага раёна, Гарадзенскай вобласці, у сям'і калгаснікаў.*

*У 1961 годзе пайшоў у першы клас Табольскай васьмігадовай школы, якую скончыў у 1969 годзе. Далей вучыўся ў Дзітрыкаўскай сярэдняй школе, якую скончыў у 1971 годзе.*

*1972 годзе быў прызваны ў Савецкую Армію. Пасля заканчэння службы працаваў у Лідскім агенцтве "Саюздрук", на камбінаце "Бутматэрыялы" і ў Лідскім аддзеле Дэпартамента аховы. Скончыў Менскі электратэхнікум сувязі.*

*Вершамі пачаў захапляцца ў школьныя гады. Вершы, байкі, апавяданні друкаваліся ў Лідскай газеце "Уперад", а таксама ў газеце Ленінградскай вайсковай акругі "Во славу Родины". Зараз на пенсіі, але, як і раней, не парывае сувязі з вершамі і байкамі. Вось і цяпер увазе чытачоў прапануе некалькі сваіх твораў.*

## Восеньскія матывы

На ўскрайку лесу, за пагоркам,
У ціхай засені рабін,
Увязла восень ненарокам,
У клейкіх ніцях павуцін.

І сыпле восень з гора слёзы,
У кош бясконцых пуцявін,
Страсае золата з бярозы,
Трапеча лісцямі асін.

Маркотна, сцішна, адзінока,
Стажок хінецца ля ракі,
І дрэмлюць мілыя валокі,
Пад ціхі шолах асакі.

О, край азёрны, мілы гэткі,
О, край бясконцых пуцявін,
Хачу абняць твае палеткі,
Развеяць смутак лугавін.

## Дзякуй, мілыя дакторкі і сястрычкі

Снуюць анёлкамі між ложкаў,
З нямоглымі і хворымі людзьмі,
Якіх каронавірус злосны,
Памкнуўся высяліць з Зямлі.

І многа той заразе ж удаецца,
Забраць ад нас, ад сэрца адарваць,
Але між намі і хваробамі спрадвечна,
Людзі найлепшыя Зямлі стаяць.

Дакторкі, мілыя сястрычкі,
Я пакланіцца ў пояс вам хачу,

Што болей здані смерці і задышкі,
Мне не мільгаюць свечкай уваччу.

Я веру, у сцены Лідскага раддома,
Вернуцца смех і радасць немаўлят,
Каторыя, як нам усім вядома,
Каронаю, пацiснуты стаяць.

Аддасць дзіцяткам светлыя покоі,
Падступны вірус, вораг сонечнай Зямлі,
І будзем жыць у шчастлівай долі,
Так, як ніколі не жылі.

Дык дзякуй, мілыя дакторкі і сястрычкі.
Я меркаваць аб тым бярусь,
Ад вашых сэрцаў і ўсмешак,
Святлее наша Беларусь!
*24.11.2021 г. (03:20-06:00)*

**Чырвоная зона**

*Прысвячаецца медыкам чацвёртага*
*інфекцыйнага аддзялення*
*на чале з доктарам*
*Марозік Аленай Генрыхаўнай*

Чырвоная зона - страшэнная зона,
Зноў мільгатнула ўначы,
Значыць і сёння анёлы на неба,
Душу чыюсь паняслі.

Хтосьці застаўся без мілай бабулі,
Роспач на сэрцы і страх,
Хтосьці застаўся без роднай матулі,
Гора нямое ў вачах.

Чырвоная зона - страшэнная зона,
Неба ў дрыготкіх агнях,
Ці забярэ, ці пакіне карона,
Трымаю надзею ў руках?

Только халодныя, потныя ночы,
Пазастаецца лічыць,
Марыць аб тым, што знямоглыя вочы,
Уранні ты зможаш адкрыць.

Чырвоная зона - страшэнная зона,
Жыць трэба, людзі дружней,
Как паглядзець у ашалелыя вочы,
Гэтай заразе смялей!

Хопіць папрокаў, хопіць аскалаў,
Хопіць прашу вас сястрычкі, браты,
Ці, можа, падумае хтосьці - замала,
Нам дасталося бяды?
*26.11.2021 г. 01:30-03:00*

## Дарогі

Здаецца выйшаў на дарогу,
Здаецца выйшаў да цяпла,
І весялей паставіў ногу,
Бо пад нагамі мурава.

І ўсе жыццёвыя пакуты,
Мінулі. Удалеч уцяклі,
І ты гаворыш: “Дзякуй Богу”, -
Што ён цябе яшчэ трымае на Зямлі.

Ды раптам зноўку штурханула,
Сцяжынка ў цемру павяла,
Ці можа штосьці ў галаве замкнула,
Ці стала карацейшаю адна нага?

Гэта твая жыццёвая дарога,
І роўных сцежак не чакай,
Не мрой аб тым, што выпрасіў у Бога
Сцяжынку без блуканняў, зразу ў рай.

Май, чалавеча, меру ты ў сваіх патрэбах,
Уважліва навокал паглядзі,
Бо можа ты ў сваіх імкненнях,
Другія душы топчаш на Зямлі.

Тады лягчэйшай стане і дарога,
І цікавейшым нават стане час,
Які правёў ты на Зямлі, кіруючы да Бога,
У надзеі мілай трапіць на Парнас!
*23.11.2021 г. 02:45-03:30*

**Карона і асёл**

Узяўшы велькую карзіну,
Пайшоў асёл па магазіну,
Бо каб з аслiхай цалавацца,
Трэба як след падсілкавацца.

Разварушыўшы хлебныя парадкі,
Шукаючы мягчэйшага, з аўсом,
Ён тыкаў без усякае аглядкі
У кожны бохан капытом…

Бо аслінай галаве,
Вядома ж, ляскаў не стае
Дадумацца, што ціхаю хадою,
Карона крочыць за табою.
І, мацаючы ўсе падрад каўбасы,
Разносіш гэтую заразу ў масы,
Не толькі пагражаеш нам,
А можаш капыты адкінуць сам.
*27.11.2021 г. 12:10-14:35*

## Навейшы дыфіцыт

*Байка часоў развітога сацыялізму*

Я дужа рад таму выпадку,
Каб расказаць пра ліхарадку,
Якая ў вобласці лясной,
Успыхнула аж той зімой.
А пачалося гэта з той пары,
Як пакуплялі секцыі звяры.
Купіў і воўк, ліса купіла
І хрусталём увесь ніз забіла,
Гліняным посудам набіўшы ніз мядзведзь,
Давай ён на паліцу верхнюю глядзець,
Што ж там за цуд такі прыладзіць?
Каб магло вока добра вабіць,
Как лось, зайшоўшы на капусту,
Мог пазайздросціць яго густу?
І думкі ў Міхала захадзілі,
Ад сну, спакою аж адбілі.
Тут думка сіганула ў Мішкі -
А што калі прыладзіць кніжкі,
Ну скажам Пушкіна якога,
Ці шчэ паэта дзе другога?
Усе падумаюць - вучоны,
А мо й лісічка выйдзе ў жоны?
І, мех схапіўшы, і манет,
Бяжыць Патапыч у “Кніжны свет”.
А там жа прадавец сарока
Ад беспрацоўя жмурыць вока:
Ну хоць адзін бы пакупнік,
Для плану кінуў залатнік!
Ды не, усе туды бягуць,
Дзе крышталь ціхенечка даюць,
Дзе можа з-пад прылаўка цапнуць шмоткі,
Альбо купіць бутэльку водкі,
Па кніжкі дык ні адна душа,

Шкадуюць рванага рубля!
І думкі абарваліся ў сарокі,
Заходзіць Мішка, узяўшыся за бокі.
- Ну што тут белабокая сумуеш?
Чаму ж таварам не гандлюеш?
Ці можа думаеш, цяцера,
Што ў нас вучонага няма тут звера?
- Патапе, калі ласка, выбірай,
У нас наконт усяго тут рай:
І Пушкін маецца, Талстой,
І Ганчароў, ды бог з табой,
Усё, што хочаш, міл Патапе,
Цераз мінуту будзе у тваёй лапе!
- Ну дык давай свайго Грубога!
- Патапе, не Грубога, а Талстога, -
Папраўіла яго сарока,
Ад смеху зажмурыўшы вока.
- Якая розніца у тым,
Быў ён Талстым там ці Грубым,
Буркнуў збянтэжана Патап,
І кінуў грошы з сваіх лап.
Набраўшы мех літаратуры,
Упартай быў Патап натуры,
Панёс, сагнуўшыся, у бярлогу,
Так асцярожка ставіў ногу,
Бы за спіною золата якое,
Ці штось другое, дарагое.
Верх секцыі хусцінкаю працёр,
І пачаў кніжак перабор:
Дзе прыгажэйшы пераплёт,
Дык тую ставіў напярод.
Адну паставіць так, як трэба,
Другую ножкамі да неба,
Але ж затое від які,
Яны той секцыі далі!
Крахтаў Патап ад задавальнення,

Во будзе суседзям здзіўленне?
І спаць пайшоў, як пала цень,
А што ж было на другі дзень?
Дазналі пра наватарства мядзведзя,
Яго зайздроснікі - суседзі.
І ўсе разам, як адзін,
Сыпнулі ў кніжны магазін.
А там жа прадавец сарока,
Ужо не жмурыць болей вока,
Не ловіць больш варон і галак,
А ўсё цягае пад прылавак:
То будзе куму, то сябру,
На гэтым добра зараблю!
І стаўлю вам усім на від,
З'явіўся новы дэфіцыт:
За тога графа Монтэ Крыста,
Ячменю трэба грам пад трыста,
А за прыгожы пераплёт,
Пшаніцы трэба грам семсот.
Як бачыце не дрэннае і вока,
Мела кнігарніца сарока!
Такую кніжку мо вы чулі,
"Як куры красці ад бабулі?
Не думайце, лісічцы не папала,
Стаіць у Патапыча, Міхала,
Бо за прыгожы пераплёт,
Той спахапіў яе, як мёд.
А кніжку "Спячка пры марозе,
У абсталёванай бярлозе",
Яе, мой сябра, вер не вер,
Мядзведзь шукае і цяпер,
А неяк заяц мне хваліўся,
Што гэтай кніжкаю абжыўся.
"Стылістыку для барсука",
Схапіла воўчая рука,

А зборнік песень салаўя,
У секцыі знайшоўся вераб'я!

У канцы спытаю вас, сябры,
Вы пераблытаць не маглі?
Знаходзяцца такія "кнігалюбы",
Панакупляюць кніжак тых да згубы,
Не для таго, каб іх чытаць,
Как б з іх пылок хусцінкай праціраць.
Адна купляе сабе кніжкі,
Пад колер сіненькай спаднічкі,
Другі ж абжыўся Мапасанам,
Каб гарманіраваў з дыванам!..



# *Ларыса Лайкевіч*

*Ларыса Іванаўна Лайкевіч працуе настаўнікам пачатковых класаў у СШ №12 горада Ліды. У свой час скончыла Лідскае педагагічнае вучылішча, Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Пушкіна (гістарычны факультэт).*

*Свой першы верш напісала ў дзесяцігадовым узросце, у час вучобы ў школе ў пасёлку Забалаць Воранаўскага раёна. На напісанне таго верша Ларысу натхніў аповед настаўніцы аб Беларусі на ўроку беларускай літаратуры.*

*Асноўныя тэмы вершаў Ларысы Лайкевіч: Радзіма, бацькі, работа настаўніка, адносіны людзей паміж сабой, каханне, філасофскія разважанні. Самы дарагі для Ларысы Іванаўны з яе ж твораў - верш "Мая Радзіма - я сама!".*

*- Вершы ў мяне нараджаюцца самі сабой, - прызнаецца паэтка. - Я іх не вымучваю, не прымушаю сябе пісаць. Пішу ў асноўным па начах. Напрыклад, верш "Настаўнік" я склала за дзве ночы. А бывае, верш ствараецца за лічаныя хвіліны. Я лічу, што паэтычны талент - гэта дар з нябёс. Паэты - людзі крыху "не от мира сего", яны знаходзяцца на сваёй хвалі і ўмеюць заўважаць у наваколлі тое, што чалавек нелірычнага складу душы не заўважае.*

## Крынічная вада

Крынічная вада ля роднай хаты…
Маё дзяцінства, свет маёй душы.
Я ўспамінаю прыказак багата,
Апавяданняў, вершаў, што злажыў.

Я ўспамінаю першае каханне,
Спеў жаўрука і першую вясну,
Нясмелае дзіцячае прызнанне,
Як піў тады салодкую ваду.

Я ўспамінаю мілых і надзейных
Сяброў дзяцінства і сваіх бацькоў,
Што надзялілі сэрца чыстай верай,
Бацькоўскі мілы, родны свой парог.

Я ўспамінаю брата, што калісьці
Гуляў і пацяшаўся нада мной,
Бабуль, дзядулю, што на полі чыстым
Так працавалі летняю парой.

Крынічная вада ля роднай хаты…
Няма смачнейшай за цябе нідзе!
І дзе б ні быў, як бы ні жыў багата,
Маю душу Бог да цябе вядзе!

## Мая Радзіма - я сама!

Мая Радзіма - я сама!
Яна душа мая і сэрца.
Пяе душа дзень ада дня,
І сэрца вельмі моцна б'ецца

Гарыць ва мне ўсё ад таго,
Што бачу я твае абшары,

Чую шэпт лесу, пах лугоў,
Я пад яго начамі мару.

А рэкі дзіўныя бягуць
Кудысьці ўдалеч патаемна,
Нібы мяне з сабой завуць,
Ды так становіцца прыемна!

А ў полі жыта штось пяе,
Авёс там вецер калыхае.
Здаецца, я ў чароўным сне
І што такога не бывае.

Бывае, бо Радзіма - цуд!
О, Беларусь мая! Ты - казка.
Шмат бед знясла і шмат пакут.
Прымі паклон мой, калі ласка!

## Не забывайце падзяліцца дабрынёй!

Не забывайце падзяліцца дабрынёй!
Палыннасцю і горыччу сардэц
Не разлучайцеся ніколі з ёй!
І прыйдзе бедам усім ліхім канец!

Не забывайце "дзякуй" гаварыць,
Прасіць у сябра шчыра прабачэння
І кожны раз сапраўдным, добрым быць,
Натхнёным, верным, чулым і надзейным!

Не забывайце родных пахваліць,
Дапамагчы ў цяжкую хвіліну.
Ад добрых спраў нам, людзям, лепей жыць,
Без іх на гэтым свеце немагчыма.

Не забывайце падзяліцца дабрынёй,
Сваёй усмешкай і сваім запалам!
Не будзьце грозным і ліхім суддзёй
Для іншых, каму цяжка і складана.

Дарыце радасць, смех і прыгажосць,
Сваёй душы кавалачак дарыце!
А шчасце… Шчасце будзе, яно ёсць!
Яго вы толькі дбайна беражыце.



# *Алесь Мацулевіч*

*Алесь Мацулевіч нарадзіўся 19 студзеня 1981 года ў Лідзе. Скончыў Лідскае педагагічнае вучылішча (2000), Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна (2005, філалагічны факультэт). Працуе ў рэдакцыі "Лідскай газеты". Вершы друкаваліся на старонках "Лідскай газеты", у літаратурна-мастацкіх часопісах "Ад лідскіх муроў" і "Верасень", у калектыўных зборніках. Песня на верш "Роднаму гораду" (кампазітар - Аляксандр Якіменка, г. Астравец) прагучала ў час святкавання 690-годдзя Ліды (2013). Верш "Купалле" прагучаў у эфіры Беларускага тэлебачання, у праграме "Добрай раніцы, Беларусь!" (2017). Алесь Мацулевіч - пераможца III адкрытага рэгіянальнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям" (2018). Аўтар кніг паэзіі "Леў і ключы" (2015) і "Горад-карабель" (2019). З 2019 года - кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". З таго ж года з'яўляецца ўдзельнікам народнага аматарскага аб'яднання "МузАльянс" Палаца культуры горада Ліды.*

**Бронзавы Гедымін**

Аганаў ды Нячай* - "бацькі"
для бронзавага Гедыміна,
а шпоры ў конскія бакі -
аб інахадзі напамінак.

У доўгім бронзавым плашчы,
на бронзавым кані Вялікі.
На князя бронзавым плячы
гуляюць залатыя блікі.

Сярод заводаў і дамін,
пад сонцам у нябёс блакіце
стаіць ля замка Гедымін,
які паклаў пачатак Лідзе…

Пайшоў вайной крыжак-шакал
на княства гарады і весі -
каб засланіць шлях крыжакам,
князь замак загадаў узвесці…

Сябры з'язджаюцца да нас,
да бронзавага Гедыміна.
Прыезджым ды лідзянам князь -
як аб даўнейшым напамінак.

**Сяргей Аганаў і Вольга Нячай - беларускія скульптары, аўтары помніка Вялікаму князю Гедыміну ў Лідзе.*

**Бой за Ліду**

*У памяць аб вызваленні Ліды ад фашыстаў*
*8 ліпеня 1944 г.*

Накіроўваецца корпус
Аслікоўскага да Ліды,
і няма ў ім недахопу
ў конях, моцна ў корпус злітых.

Злосна вока акупанта
ў далеч узіраецца…
На вузлах дарог упарта
фрыц супраціўляецца.

Шлях абходны пралягае
па дрыгве і па лясах.
Лес які, дрыгва якая
затрымаюць малайца?!

Шлях адолены даўжэнькі.
Ззаду вёскі, мурагі.
Уварваўся полк Шаўчэнкі
ў Ліду ў конным у страі.

Спешваюцца ў самым цэнтры
і завязваюць баі -
вуліцу ўсцілаюць целы
і фашыстаў, і сваіх.

У галавакружным тэмпе
бой за гарадок ідзе -
горача, нібыта ў стэпе,
нібы ў пекле, як ідзе.

"Пальцы" корпуса - калоны
асlікоўскіх коннікаў
(і палкі, і эскадроны) -
дзейнічалі ўзгоднена.

З гэтай простае нагоды
не паспеў цыбаты фрыц
эшалоны і заводы
падарваць ды падпаліць.

Сталі чуцца ды віднецца
пасля конніцы работы
над ачышчанай ад немцаў
Лідай нашы самалёты.

Радасныя вочы ўзняўшы,
крылаў назіраюць ззянне,
бачаць самалёты нашы
вызваленыя лідзяне.

**Франтавыя матывы**

*Да 75-годдзя Перамогі ў*
*Вялікай Айчыннай вайне*

Дарогі франтавыя
з баянам дзед прайшоў.
Сядзелі радавыя
тады плячо ў плячо.

У іхнім асяроддзі
іграў і песні пеў -
натхненне, асалоду
салдат ад песні меў.

Пеў ветэран пад Курскам,
пад Кёнігсбергам пеў,
пра сіненькую хустку,
пра ўсенародны гнеў…

Пра ноч ды пра зямлянку
пеў ветэран байцам,
а потым, спазаранку,
ішоў у бой і сам.

Не расставаўся з песняй
дзед да канца вайны -
да Перамогі весняй,
да радаснай вясны.

Ён на калені моўчкі
баянчык памясціў,
з нагоды Перамогі
наігрываў матыў…

З чахла дзед і сягоння
выцягвае баян,
аб Прусіі Усходняй
успомніць, аб баях.

Матывы франтавыя
наігрывае дзед.
За сценкай вея вые,
мяцеліца мяце.

Мацней баяна гукі
за завірухі шум.
Ігра стамляе рукі,
ды саграе душу.

Мацней баян за вею,
за старасць і за сум.
Матывы бранзавеюць,
як помнікі Байцу.

**Каб вайне не распаліцца…**

*Лідскім ветэранам-ракетчыкам прысвячаецца*

Каб вайне не распаліцца
на прасторы ўсёй планеты,
мы пацелі ды пякліся,
даглядаючы ракеты.

І спякотнаю парою,
і ў мароз, і ў снег, і ў вецер
абслугоўвалі мы зброю,
наймагутнейшую ў свеце.

Рады мы былі старацца.
Зброя грозная даволі:
Р-12, -14,
"Піянеры" і "Таполі".

У Мінойтах, Навагрудку,
Бердаўцы палкі былі.
Бы мурашачкі, у руху,
у турботах мы жылі.

Прыстыкоўвалі да зброі
ядзерную "галаву".
Не шануючы здароўя,
неслі міру каравул.

Не было жыццё ў дрымоце,
не было раздольнае.
Ехала па цяжкім мосце
тэхніка статонная.

Выязджалі на вучэнні
ў стэп Капусцінага Яра.
"Піянераў" велічэзных
моц "Таполяў" абганяла.

Дужа спёкшыся, спацеўшы
той гарачаю парою,
запускалі ў спецадзежы,
у процівагазах зброю.

Каб пажар не распаліўся
на прасторы ўсёй планеты,
мы пацелі ды пякліся,
запускаючы ракеты.

## Кіёск “Саюздруку”

Мінакоў спыненне руху -
ля кіёска “Саюздруку”.

Людзі розныя спыняюцца.
Што ў кіёску набываецца?

Вось мужчына падышоў,
пральны выбраў парашок.

Выбірае школьнік нейкі
ручкі, сшыткі і лінейкі.

Нейкая купляе цётка
пасту і зубную шчотку.

І разглядвае стары
атласы, календары.

І прыдбаў хлапчук зялёны
мыла, карту і талоны.

Для студэнтак-прыгажунь -
лак, касметыка, шампунь.

Для малога і кабеты -
размалёўка і газета.

Вам, Аленка і Рыгорка,
шарык, лялька і бразготка.

Каляндар, лінейка, карта,
парашок, газета, шчотка,
шарык, размалёўка, паста,
лак, касметыка, бразготка…

Бачна: выбар неслабы.
Дзеду прэса, цацка ўнуку…
Можна многае набыць
у кіёску “Саюздруку”!

## "Лідская газета"

*Да 80-годдзя выдання*

Каб часу адчуваў павеў,
каб пра жыццё раёна ведаў,
каб тэму для размовы меў,
са мною - "Лідская газета".

Як печ рыхтуюць да зімы,
куды прадукцыя вязецца
і дзе будуюцца дамы,
раскажа "Лідская газета".

Як дружны экіпаж жыве,
і як камбайнер паабедаў,
і як шчыруюць на жніве,
раскажа "Лідская газета".

Пра сто бабуліных гадкоў,
аб франтавых дарогах дзеда
і пра працоўны шлях бацькоў
раскажа "Лідская газета".

Хто на баяне лашчыў слых,
і дзе адкрыты сад
для дзетак,
і хто наведаў пажылых,
раскажа "Лідская газета".

Куды схадзіць усёй сям'ёй,
як школьнікі праводзяць лета
і дзе каткі зальём зімой,
раскажа "Лідская газета".

Як рыцарскі прайшоў турнір,
і дзе "Лідчанкай"
песня спета,
і чым запомніўся
"LIDBEER",
раскажа "Лідская газета".

Хто бегае за ўсіх хутчэй,
і пра рэкорд цяжкаатлета,
і пра футбол, і пра хакей
раскажа "Лідская газета".

Як п'яніца гразіў нажом,
як дом спаліла цыгарэта,
як пёр "бяспраўнік" на ражон,
раскажа "Лідская газета".

І аб ансамблі скрыпачоў,
і пра суквеццеўскіх паэтаў,
і пра заўзятых рыбакоў
раскажа "Лідская газета".

Як пабароць уласны страх,
аб доўгага жыцця сакрэтах
і аб рэцэптах смачных страў
раскажа "Лідская газета".

Каб часу адчуваў павеў,
каб пра жыццё раёна ведаў,
каб тэму для размовы меў,
з табою - "Лідская газета".

**Аўтакрама**

Мы не ходзім па прадукты
за дзясятак кіламетраў -
аўтакрама, на ўвесь дух ты
прыляціш да нас каметай.

Аўтабус не даязджае,
куды ходзіць аўтакрама,
каб з варэннем,
з цукрам, з чаем
і вясковец быў таксама.

Шмат прадуктаў
нам прывёз ты,
дарагі шафёр Міхалыч.
Праязджаючы па вёсцы,
некалькі разоў сігналіш.

Прыпыняешся ля хатак,
ля зачыненых сяльмагаў.
За вітрынным шклом багата
хлеба, малака, прысмакаў.

Па цане тавар па таннай,
не "кусае", не "з зубамі".
Называем мы з пашанай
прадаўшчыцу нашу: "Пані".

Купім селядзец і чыпсы,
квас, марожанае, віны
і раскажам прадаўшчыцы
ўсе вясковыя навіны.

Хлюпаюць сюды ў галёшах
і дзядулі, і бабулі,

каб купіць адэкалончык,
вёдры, накрыўкі, шампуні.

Адпускае пані Таня
нам і каўбасу для кошкі,
і мятлу для падмятання,
і для ўнука чыпсаў трошкі.

Прыляцелі што ёсць духу
да сялян прадукты самі.
Чыпсы ды цукеркі ўнуку
дзед купляе ў аўтакраме.

**Прыпеўкі пра бібліобус**

Слухай, бабка,
жонка, дзеўка!
Слухай, дзед,
мужчына, хлопец!
Зараз вам спяём прыпеўкі
пра машыну - бібліобус!

* * *

Бібліобус нас распесціў:
мы па кніжачкі не ездзім -
і цяплом, і маразамі
ездзяць кнігі да нас самі.

* * *

Едзе ў вёску бібліобус.
Справу добрую ён робіць -
ён вязе вяскоўцам кнігі.
Людзі справу ацанілі.

* * *

- Слухаў ты? Сусед Макарыч
аб аўтобусе пляткарыць.
- Гэта праўда, а не плётка -
едзе аўтабібліётыка.

* * *

Едзе з кнігамі па сёлах
бібліётыка на колах.
Ездзіць з кніжкамі па вёсках
бусік хуткі - не павозка.

* * *

Розных кніжак поўная,
ездзіць перасоўная.
З вуліцы на вуліцу
бусік перасунецца.

* * *

Нечага ісці далёка -
атрымаем кнігу лёгка:
бусік, кнігамі багаты,
спыніцца ля самай хаты.

* * *

Хаты ў вёсцы апусцелі:
нашы людзі - ля "Газелі".
Уся вёска тоўпіцца
ля мікрааўтобуса.

* * *

Вунь імчыцца бібліобус.
Ён хутчэй за антылопу.
Кніжкі розныя вязе
ў вёскі сіняя "Газель".

Рада вельмі той "Газелі"
сэрданька сялянскае…
Вам прыпеўкі мы прапелі,
а вы нам - папляскайце!

## Дварышчанскія прыпеўкі

Годзікаў з шасці гарцую
на кані актыўна я:
школа ў Дворышчы працуе
конная-спартыўная.

* * *

Каб вяліся жарабяткі -
будучыя летуны, -
жарабкі і каняматкі
ёсць на ферме "Эйтуны".

* * *

Паліліся поту рэчкі
з жарабкоў успененых.
Да сядла і да вуздэчкі
прывучай тракененскіх!

* * *

Вам па шляху па якому,
коні з Дворышча, ісці?
Мы з шасці ідзём у школу.
Коні ў спорт ідуць з шасці.

* * *

Па палях не пагуляе
статак коней скакавых:
коней Ратамка купляе,
арандуе Ваўкавыск.

* * *

Дварышчанскія спартсмены -
чэмпіёны па канкуры.
Выгляд у дастойнай змены
іх таксама не пануры.

* * *

І Напор, і Асалода -
коні знакамітыя,
чэмпіёнскай пазалотай
назаўжды пакрытыя.

* * *

Звонка спорт тутэйшы -
конны -
нашы апяваюць вусны:
коні нашы - чэмпіёны,
школа - чэмпіёнаў кузня!

## Экзатычныя жывёлы

Экзатычныя жывёлы
насяляюць заапарк.
Тут у клетцы - не на волі
нават леў, звярыны цар.

Леў - жывёла
з пышнай грывай,
быццам
з пышным каўняром.
Звыкся ён
з людзей наплывам,
з тым, што
льва глядзіць народ.

У слана не нос, а хобат -
быццам бы пажарны шланг.
Корму многа можа злопаць
гэты дужа цяжкі "танк"!

Рог на мордзе ў насарога -
можа мордаю бадаць.

Як буйному, харчу многа
трэба насарогу даць.

У вярблюда два гарбы.
Гэта карабель пустыні.
Вольным "карабель"
каб быў,
"плыў" бы пасярод будынін.

У жырафы даўгашыяй
шыя бы пад'ёмны кран.
Толькі ў Афрыкі глушы ёй
дарагі і родны край.

Зебра быццам у цяльняшцы -
гэта паласаты конь.
Духу ў клетцы не заняцца,
хоць жывёліна - агонь.

Кенгуру кенгураня
носіць у падбрушнай сумцы.
"Вопыт ці не пераняць?" -
сходзяцца матулі ў думцы.

Малпа быццам чалавек,
ды хвастаты і нябрыты.
Дажывеш у клетцы век,
як астатнія звяры, ты.

Морж іклаты і вусаты.
Ласты на нагах маржа.
Ён у заапарк узяты
з поўначы Зямлі-мяча.

Мішка белы, а не буры.
Гэты - з ледзяных шырот.
Ён і вялы, і пануры:
клетка - нуднае жыллё!

Страус не лятун - бягун.
Ён лёгкаатлет у пер'і.
Бегае і ў клетцы вунь,
каб нажышчы не дубелі.

Доўгі хвост у кракадзіла.
Зяпа доўгая ў яго.
Не сядзіць у водах Ніла
кракадзіл каторы год.

Экзатычныя жывёлы
насяляюць заапарк.
Тут жывуць яны ў няволі
ўжо каторы год запар.



# *Станіслаў Суднік*

*Станіслаў Суднік нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна. У Лідзе жыве з 1994 года.*

*Друкаваўся ў літаратурных часопісах “Полымя”, “Маладосць”, “Верасень”, “Новы замак”.*

*Аўтар кніг паэзіі “Пагоня за мову”, “Мой Грунвальд”, “Лідскія скрыжалі”, “Літва”, “Пілігрымка дадому”.*

*Рэдактар літаратурных альманахаў “Ад лідскіх муроў”, “Стольны град” (Наваградак), “Нясвіжскі ўток”, “Родныя пагоркі” (Капыль).*

*Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2001 па 2021 г.*

## Зніч памяці

Шуміць сярдзіта бор сасновы,
Дрыжыць трывожна гай альховы,
Гудуць на Лідчыне лясы.
Чутны ў тым гудзе гневу словы,
Чутны ў ім помсты галасы.

Баляць зямлі былыя раны,
Смыляць, пакрытыя дзірванам,
Ды помняць грозныя часы,
Калі ішлі тут партызаны,
Збіваўшы кропелькі расы.

Яны ішлі на бой смяртэльны,
Яны ішлі ў агонь пякельны,
Каб сёння мы вось тут жылі,
Каб панаваў настрой вясельны,
Каб мы свабоднымі былі.

Яны начамі тут не спалі,
Яны на злыдняў палявалі,
Што панаваць сюды прыйшлі,
Яны з фашыстам ваявалі,
І самі тут вось паляглі.

Шумяць сурова ў лесе хвоі,
Трымцяць у голлі хлопцаў мроі,
І так штодзень, і так штогод.
Ляжаць пад хвоямі героі,
Жыве за хвоямі народ.

Народ жыве, арэ і сее
І памятаць ахвяру ўмее,
Ён да магіл святых ідзе.
Пакуль у сэрцах памяць тлее -
Не паўтарыцца больш бядзе.

Шумяць у лідскіх пушчах хвоі,
Ляжаць пад хвоямі героі,
Цячэ ракой няспыннай час.
Мы ў лес ідзём згадаць былое,
Каб зніч у душах не пагас.

## Капыльскія пагоркі

Між Слуцкаю раўнінай
І Нёманскай далінай,
Пад радаснаю зоркай
Калісьці Бог раскінуў,
Калісьці Бог раскінуў
Капыльскія пагоркі.

І з сілаю магутнай,
Да гэтага нячутнай,
Бы з жыламі ў дзве столкі
Тут ворагаў лупілі
І край свой баранілі
Капыльскія пагоркі.

Ад працы расцвіталі,
Нягоды праганялі
Праз пот салёна-горкі,
Жытамі прырасталі,
Свабодай прарасталі
Капыльскія пагоркі.

Няхай жа сонца ўсходзіць,
Хай доля верхаводзіць,
Хай будзе ўсё да толку.
Няхай багацце родзяць,
Няхай душу лагодзяць
Капыльскія пагоркі.

## Кніга

*Лідскай раённай бібліятэцы*
*імя Янкі Купалы прысвячаецца*

Кажуць, што кніга сваё аджывае,
Што ёй нядоўгі адведзены век,
А я новы томік з пяшчотай трымаю,
А я водар свежае фарбы ўдыхаю,
І я сёння ёсць, і я ёсць чалавек.

Будзе робат калісьці нам вершы пісаць,
Можа напіша, як пахне чабор,
А мы будзем паэта ўсяроўна чытаць,
А мы будзем таемна радочкі шаптаць
І пад сонца цяплом, і пад холадам зор.

Будзе Сусвет недзе ў сайтах гібець,
У лічбы загоняць і дожджык, і снег,
А мы будзем з упартасцю ў кнігу глядзець,
А мы будзем да ночы ў чытальнях сядзець
І думак лавіць неўтаймаваны бег.

Адыдуць смартфоны, не доўгі іх час,
І галаграмы паўсюль паплывуць,
Кніга ж навек застанецца пры нас,
Каб род чалавечы ў бяздум'і не згас
І ў лічбах бяздушных не змог патануць.

Будзе папера ці будзе экран,
Будзем мышкай вадзіць ці старонкі гартаць,
Мы добрае будзем у кніжках шукаць,
Каб вораг людскі не завёў нас у зман,
Каб годна маглі на зямлі існаваць.

Чытайце, чытайце, сябры кожны дзень,
Ідзіце сюды, бо тут кнігі жывуць,
Бо мудрасць людскую яны берагуць,
Ідзіце пад ведаў чароўную сень,
Каб веліч пазнання душою адчуць.

## Дадому

*“Дадому, дадому,*
*Паелі коні салому,*
*І ў торбах мякіну,*
*І пад плотам крапіву.*
*Дадому, дадому”.*[1]

Што мне Куршавель, што Мальдзівы,
Дзень - другі, і ўжо мучыць аскома,

Не да смаку заморскія дзівы,
Сэрца ные: “Дадому, дадому!”

Выпадзе лёс у Варшаву сабрацца,
Не, ненадоўга, па справах, вядома,
Буду з Кузніцы ўжо аглядацца:
“Дадому, хутчэй бы дадому”.

І я не адзіны ў такім вось імкненні,
Шмат хто на чужбіне маўчыць пакрыёма,
А ранкам вясенні і змрокам асенні
Ціха ўздыхае: “Дадому, дадому”.

І дзеці, і ўнукі, і вольнае жыцце,
Ды шэпча, адчуўшы смяртэльную стому:
“Хоць, як памру, вы мяне адвязіце
На могілкі нашы, дадому”.

Мы паляцім на чужыя планеты,
І там пад касмічныя громы,
Пад небам касмічнага свету,
І там будзем марыць: “Дадому”.

А адыдзем усе ў іншы свет паступова,
З раю ці з пекла, пакуль невядома,
Душы нашы прашэпчуць без словаў:
“Дадому, пусціце дадому!”

*“Дадому, дадому,*
*Паелі коні салому,*
*І ў торбах мякіну,*
*І пад плотам крапіву.*
*Дадому, дадому”*.

[1] Запісана ад старой Алесючыхі ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна.

## Алеся Ёч - пані Зуброўская
***гавэнда***

*Алеся Ёч - няўлоўная паўстанцкая сувязная 1863 года аддзела Людвіка Нарбута, пасля Астрогі. Яе лавіла ўся мураўёская жандармерыя і не злавіла. Пасля паўстання жыла ў Вільні пад прозвішчам пані Зуброўскай.*

Яе лавілі ўсе жандары краю,
Казакі гойсалі па гонях і барах,
Шнырaлі па дварах дазорцаў зграі,
І шпегі ёй услед трапілі шлях.

Яе не менш пяці разоў хапалі
І адпускалі гэтулькі ж разоў,
Ні разу ў ёй не распазналі
Выведніцу за волю змагароў.

Яна - сялянка з курнай хаты -
Ад вёскі і да вёскі пешкі йшла,
І выглядала, дзе стаяць салдаты,
І ў лес паўстанцам вестачку нясла.

Яна - манашка з беднага кляштара -
Малілася ля кожнага крыжа
І пільна, вельмі пільна пільнавала,
І дзе, і як паводзіцца чужак.

Яна - жабрачка, доляю прыгнута -
Акрайчык хлеба просіць для дзяцей,
Выслухвала, дзе чуцен коней тупат,
Выглядвала, дзе ходзіць ліхадзей.

Паўстанцаў смелая пасланка,
Над краем цэлым незасыпны страж,

Ішла Алеся Ёч - тутэйшая шляхцянка,
Што мела спрыт і гонар наш.

Сам Мураўёў крычыць і тупае нагамі:
- Злавіць, даставіць, строга пакараць!
Ужо злавілі не адну, і самі
Раз-пораз мусілі памылку прызнаваць.

Забралі бацьку ў Ліду на гаўптвахту,
Каб нешта пра Алесю распазнаць.
І той стары не ўстояў перад гвалтам,
Дачку пачаў у бедах абвіняць.

І ад Алесі так ён адракаўся,
І так ёй кары ўсякія прасіў,
І так цару ў любові кляўся,
Што следчых моцна ўсіх здзівіў.

Прызнаны быў невінаватым,
Суд не знайшоў за ім грахоў,
Адпушчан быў пан Ёч дахаты,
А да Алесі зыск на крок не падышоў.

* * *

Сядзіць засада ў Ёчаў дома,
Шпікі шнырaюць па дварах,
А па сцяжынках ёй вядомых
Ляжыць Алесі новы шлях...

... Ізноў сялянку сцапалі гвардзейцы,
Ішла ў мястэчка яйкі прадаваць,
Перацягнуўшы скруткай лейцаў,
Давай з “прыстрасціем” пытаць:

- Адкуль, куды так прэцца рана,
Мо дзе сустрэла Аляксандру Ёч?

- А як жа, знаю, дык жа ў Вільні панна,
Вам праўду чыстую кажу, як ёсць.

- А як, скажы нам, выглядае,
Бо ловім мы, не ведаем каго,
У твар яе ніхто не знае -
Адно, што маладая - і ўсяго.

- О, панна Аляксандра - то пякнота,
Дзяўчына невыказнае красы,
І вочы - дыяментныя кляйноты,
І, як русалка, мае валасы.

А позірк, а паходка, а пастава,
Князёўна ўсёй тутэйшае зямлі,
Не дарам жа лунае яе слава,
Што аж пачулі панства-маскалі.

Дык што рабіць ёй тут у гэтых пушчах,
На Вільні недзе свеціцца зарой.
Дык, панства, мо мяне адпусціць,
Я ж маю сёння абавязак свой.

Занесці ў Васілішкі пяць дзясяткаў,
Ды ў Новы Двор - яшчэ капу,
Ды солі з фунцік там у ятках
Мо, дасць Бог, раптам прыкуплю.

- Ідзі сабе, ды прыглядайся,
А раптам панна дзе мільгне,
Дык нам данесці пастарайся,
І яйкі ўскочаць у цане...

* * *

Алеся вырасла пад Начай,
Яе малою Людвік Нарбут знаў,

Ды ўскрасавала, і іначай
Той квет краіны нашай выглядаў.

Пайшла ў паўстанне, знікла з далягляду,
Ніхто наўкол не ведаў, дзе яна.
Яна ж, абходзячы пікеты і засады,
Усюды паспявала давідна.

Была для Нарбута вушамі і вачамі,
Ішла да Вільні і ішла назад,
І нібы крылы мела за плячамі,
Нясла з сабой то рапарт, то загад.

Загінуў Нарбут, то яна Астрогу
Нясла то весткі, то папераў жмут
Была ім ад Алесі дапамога
І мацавала веру ў родны кут.

Была прыслана на падмогу да Табенскай,
Альжбету ўзялі, а Алесю - не,
Ізноў ідзе да пушчы Гарадзенскай,
Нічога яе ўвагі не міне...

* * *

Паўстанне змрочна дагарала,
Каго павесілі, а хто ў турме,
І вогнішчы па пушчах астывалі,
І край маўчаў, прыгнуўшыся ў ярме.

У Вільні, сцятай кайданамі,
Засеянай жандарамі наўсцяж,
Яшчэ здаралася часамі
Хаваўся дзе хлапчына наш.

Лавілі ўсіх, і Каліноўскі
Прадажных путаў не пазбег.

А дрожкі з паняю Зуброўскай
Пад’ехалі пад першы снег.

Зуброўская - ад Зубрава вядома,
Была такая вёска ў нас тады,
Паўстанне падтрымала ўся сядома
І знікла з твару краю назаўжды.

Спалілі вёску, а людзей саслалі,
Зуброва знішчылі, як некалі зуброў,
Ды нашу памяць кайданамі не скавалі,
Мы гэта ўспомнілі ізноў.

Алеся ў памяць пра Зуброва
Зуброўскаю рашыла далей жыць,
І не хавалася па Вільні сховах,
І вольнай прадаўжала быць.

І не злавілі Ёч Алесю,
Зуброўскую жандары не ўзялі,
Звіняць пра іх легенды ў лідскім лесе,
І памяць сцелецца з туманам па зямлі.

* * *

Нас прарадзілі з пушчы ў рэдкалессе,
Ды выбіць да канчатку не змаглі,
Бо, як тады, няўлоўныя Алесі
Жывуць на гэтай вось святой зямлі.

**Мы былі за Беларусь**

*З нагоды ліквідацыі ТБМ і*
*прыпынення выхаду*
*“Нашага слова”*

Не раз такое ўжо бывала -
Бяда прыходзіла да нас,

Не раз адзін мы адступалі,
Нас білі, нішчылі не раз.

Ды неяк вось перажывалі
Ліхі чарговы землятрус,
З нябыцця зноўку паўставалі,
Бо мы былі за Беларусь.

Нам адбіралі веру, мову,
Нам кожны дзень быў злей і злей,
Мы ж па зярнятку нашы словы
Хавалі ў памяці глыбей.

Нас білі злева, білі справа,
Сваіх-чужых ліхі хаўрус,
А мы стаялі за дзяржаву,
А мы былі за Беларусь.

Ішлі гады, дзесяцігоддзі,
І “Наша слова” ў свет ішло,
І вось, нібы, канец надходзіць,
І нас, як быццам, не было.

Крычаць крукі на нашых гонях,
У кіпці душы нам бяруць,
Нам каяцца няма ў чым сёння,
Бо мы былі за Беларусь.

Нас бэсцяць люта, без супыну,
Няма як галавы падняць,
Рыхтуюць дол пад дамавіну,
Каб нас паглыбей закапаць.

І ўжо наступным пакаленням
Пра нас зласловіць розны гнюс,
Мы ж маем чыстае сумленне,
Бо мы былі за Беларусь.

Крычаць крукі, а мы жывыя,
І многа юных падрасло,
І мы для іх, хоць не святыя,
Ды “Слова” міма не прайшло.

Згадаюць нас і праз стагоддзі
І знак пашаны аддадуць,
Мы будзем памятны ў народзе,
Бо мы былі за Беларусь.

Вы ж нас пакуль што не хавайце,
Хай памарнее цяжкі дол,
Вы нас шукайце і чакайце,
Перацярпіце страты боль.

Мы расстаёмся не надоўга,
Зярняты праўды прарастуць,
Мы ўстанем велічна і строга
І будзем зноў за Беларусь.

## З Новым 2022 годам

Бывай, няпросты дваццаць першы год,
Надходзь наступны, мы цябе чакаем,
Як нашы хаты, мірны наш народ,
Як замкі нашы, моцу маем.

Нас не спужаць нічым і не зламаць,
Ні страх не возьме, ні абман,
За мову будзем і тады стаяць,
Калі паляжам нават пад дзірван.



# *Сяргей Чыгрын*

*Сяргей Чыгрын нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Слоніме, працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра.*

*Выдаў зборнікі паэзіі "Шчырая Шчара" (1993), "Горад без цябе" (1999), "Лірыка" (2007), "Камень Міндоўга" (2009), кнігі гісторыка-краязнаўчых і літаратурных артыкулаў "Янка Купала і Слонімшчына" (1993), "Родам са Слонімшчыны" (2003), "Пакліканыя на родны парог" (2005), "Чамяры і чамяроўцы" (2006), "У пошуках слонімскіх скарбаў" (2007), "Беларуская Беласточчына" (2008), "З беластоцкай зямлі" (2008), "Тэатр у Слоніме" (2008), "Мастак Антон Карніцкі" (2009), "Жыў роднай песняй" (2010), "Альбярцін" (2011), "Такі іх лёс" (2012), "Па слядах Купалы і Коласа" (2012), "Слонімскія падмуркі" (2012), "Сярод сваіх людзей" (2012), "Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны" (2013), "Слонімскі буквар" (2013), "Легенды і паданні Слонімшчыны" (2013) "Іншых шляхоў не было" (2013), "Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках" (2014), "Хочацца дахаты" (2014), "Слонім і ваколіца" (2014) "Шляхамі Беласточчыны" (2015), "Мора Віктара Шведа" (2015), "На радзіме Ігната Дварчаніна" (2016), "Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны" (разам з Сяргеем Яршом, 2016), "Гістарычная мазаіка Слонімшчыны" (2019) і іншыя.*

*Уклаў і выдаў у Беластоку літаратурную спадчыну С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча, У. Казлоўшчыка ("Вяртанне да сваіх", 1999), а таксама гістарычныя нарысы Міколы Шкялёнка ("Беларусь і суседзі", 2003). Сабраў і выдаў літаратурную спадчыну Сяргея Хмары "Рабінавы хмель" (2009), Леаніда Трубача "Паміж песняй і болем" (2010), Юрыя Весялкоўскага "Я веру" (2009), кнігу артыкулаў "Музей у Гудзевічах" Алеся Белакоза (2012) і інш.*

# Літаратурныя пародыі на паэтаў Лідчыны

## Верш без слоў

*Так чыста, гладка зроблен верш.*
*І слоў нямнога - толькі жменька.*
***Уладзімір Васько.***

Напісаў я верш без слоў,
А навошта ў вершах словы,
Верш прынёс сябрам дамоў:
Вось, чытайце, верш чарговы.
Верш цудоўны, хоць без слоў,
Праўда, сэнсу - на капейку…
Абмяняў я для сяброў
Шчыры вершык на гарэлку.

## Птушка-паэт

*Магу і сарокаю быць,*
*І буслам, і сокалам смелым.*
***Уладзімір Васько.***

Стану я сарокаю,
Сокалам і буслам,
Вершаў нагалёкаю -
Прачытаю вусна ўсім.
Стану я сініцаю,
Ластаўкаю стану,
Вершы будуць сніцца -
Не прачнуся рана.
Можа стану галкаю,
Ці шпаком ля хаты,
Бо пішу я змалку
Вершыкі заўзята.
Землякі мне вераць,

Зычаць мне удачы…
Калі хто падстрэліць -
Кулікам заплачу.

### Ці мая?

*Там шэпчуць травы пра каханне,*
*І лес шуміць, што ты - мая.*
***Уладзімір Васько.***

Мне лес шаптаў, што ты мая,
Шапталі травы - ты мая,
Кусты шапталі - ты мая,
І быў шчаслівы ў Лідзе я.
І перац горкі мне шаптаў,
І праўду пра цябе казаў,
Гарбуз шаптаў, капуста, рэпка,
Што ты мяне кахаеш крэпка…
Маўчалі толькі боб з цыбуляй,
Што ад твайго кахання - дуля.

### Шампанскае і пчолы

*Пчаляры закрываюць сезон:*
*П'юць шампанскае…*
***Алесь Мацулевіч.***

Селі за стол пчаляры
Піць шампанскае з пчоламі,
І пілі аж да той пары,
Пакуль дужа не сталі вясёлымі.
І закусвалі мёдам з сотамі,
І тосты казалі пчолам,
І так добра пілося з пчоламі,
Пад келіхі звонаў.
Ды Алесь закурыў цыгарку,

Закурылі і ўсе…
І білі пчолы па карку
Джаламі па чарзе.
І ўбакі разбягаліся хлопцы -
Хто куды…
Дапівалі шампанскае пчолы
Ад нуды.

## Сырадой

*О, сырадою-сырадою,*
*Як я даўно цябе не піў!*
*Мінск мінеральнаю вадою*
*Амаль штодзень мяне паіў.*
***Тадэвуш Чарнавус.***

Хачу напіцца сырадою,
Я мінералкі не хачу,
І будзем тлустыя з табою,
Як я на вёску заскачу.
У вёсцы добра, ёсць карова,
Яна чакае там мяне.
Таму заўсёды піць гатовы я
З табою, сябра, нараўне.
Ах, сырадою, сырадою,
Я так цябе заўжды люблю,
Больш за жанчыну маладую,
З якою побач з ёю сплю.
Люблю цябе я больш за піва,
Каньяк, шампанскае, віно…
Бо з сырадоем я шчаслівы,
Я б без яго памёр даўно.
Але мяне ратуюць лекі -
Рагулі нашай сырадой…
Хай мінералку п'юць калекі,
А я напітак маю свой.

## Словы

*Ляцяць кудысьці мае словы,*
*Вятрыскам разагнаныя,*
*Я без іх, як без падковы,*
*Конь не падкаваны.*
*Як злавіць іх, падскажыце…*
***Алесь Хітрун.***

Паляцелі мае словы -
Не магу я іх злавіць,
Заглянуў пад куст яловы,
Раптам слова там сядзіць.
Не, няма там ані слоўка,
І на полі іх няма,
Замяла іх можа лоўка
Ў лесе снежная зіма?
Я шукаў усюды словы,
І у горадзе шукаў…
Нехта хітры, адмысловы
Ад мяне кудысьць схаваў.
Дзе ж падзеліся вы, словы?..
Я ж без вас не пражыву..
Я без іх, як без падковы,
Конь, што есць адзін траву.
Шмат гадоў лаўлю я словы,
І ніяк іх не знайду.
Можа раптам выпадкова
Яны трапілі ў бяду?
І бяда мне адказала,
Што без слоў маіх жыве.
Твае словы - падсказала -
Ўсе гняздзяцца ў галаве.

## Пясняр Юпітэра

*Жудасны Марс узышоў над Зямлёю…*
*Мне лётчык сказаў:*
*"Навучыся лятаць"…*
***Валера Мацулевіч.***

Куплю чаравікі і новы світэр
І развітаюся сумна з Зямлёй,
Вершы пісаць палячу на Юпітэр,
Добра там пішацца ў цемры глухой.
Сяду шчаслівы я на ракету,
І палячу ад людзей, ад Зямлі.
Буду я там самым першым паэтам,
Бо на Зямлі іх, як бульбы ў раллі.
Дробных паэтаў і дужа вялікіх -
Іх на Зямлі немагчыма злічыць.
На прэзентацыі буду я клікаць,
Хто пажадае - туды прыляціць.
Буду пясняр на вялікім Юпітэры,
Вершы замерзнуць мне там не дадуць.
Вы прысылаце з Зямлі толькі світэры,
Каб не змаглі мяне ветры прадуць.

## Каханне з пілой і долатам

*Ты адчуй усю горыч тугі,*
*Што пілуе мяне, як пілою…*
***Святлана Курловіч.***

Ты пілуеш мяне, як пілою,
Абцугамі выцягваеш нервы,
А мне хочацца быць з табою,
А мне хочацца быць табе вернай.

Ты рубанкам мяне стругаеш,
І сякерай махаеш ля носа.
Ты ж таксама мяне кахаеш,
І з маім ты звязаўся лёсам.
Ты ж дзяўбешся штодня долатам,
І свярдзёлкам ты свідруеш душу…
Для мяне ж ты ўсяроўна - золата,
І да смерці кахаць цябе мушу я.

## Гэй і шмык

*Гэй-гэй-гэй…*
*Шмык-шмык-шмык…*
*Так-так-так…*
*Ду-ду-ду…*
*Та-та-та…*
*Ту-ту-ту…*
***Ірына Багдановіч.***

Гэй-гэй-гэй!
Усміхнуўся мне яўрэй,
Шмык-шмык-шмык!
На спатканне зваў калмык.
Так-так-так!
Падарыў аўто паляк.
Та-та-та!
Ад машыны - любата.
Шмык-шмык-шмык!
К чорту бедны той калмык.
Ду-ду-ду!
На спатканне не пайду.

## Танцы ў Падкляпанцах

*За светам недзе вёска Падкляпанцы,*
*А там жывуць манюкі, ашуканцы.*
*Былі аднойчы*
*У Падкляпанцах танцы…*

***Данута Бічэль.***

Прыехала я ў вёску Падкляпанцы,
А там адны манюкі, ашуканцы.
Пайшла адна вясёлая на танцы,
І там таксама хлопцы-ашуканцы.
Пад музыку не таньчыла я танцы,
Бо там былі п'янчугі, ашуканцы.
І ўсе спявалі песні там, дарэчы, -
Баялася я хлопцам запярэчыць.
Ад гэтых песень прападаў настрой,
Бо я там аказалася чужой.
Крычалі ў клубе хлопцы ў Падкляпанцах,
Дзе мне было, паверце, не да танцаў.



# Смарагд Сліўко

*Смарагд Фёдаравіч Сліўко нарадзіўся ў 1931 г. у г. Яраслаўлі, у сям'і акцёра і паэта. З 1946 г. жыў у Беларусі. Пасля заканчэння Гарадзенскага педагагічнага інстытута з 1961 па 1966 г. працаваў настаўнікам гісторыі, рускай мовы і літаратуры ў Астравецкай СШ, куды прыехаў па запрашэнні другога сакратара Астравецкага РК КПБ С. Ц. Кабяка. Затым лёс звязаў яго з Лідчынай.*

*З 23 гадоў займаўся рэжысурай, канцэртнай дзейнасцю - са школьных гадоў. Пісаў сцэнарыі і музыку. Вершы пачаў пісаць з 7 гадоў. Друкаваўся ў многіх часопісах, газетах. Член літаратурнага аб'яднання "Суквецце" з 1969 г. Аўтар 4-х зборнікаў паэзіі, прозы і гумару. Памёр у 2006 годзе.*

*Ужо некалькі гадоў яго творы друкуюцца ў электронным літаратурным часопісе "Русская Балтика" ў Літве.*

* * *

Я ў тых, хто сумуе і плача.
Я там, дзе смяюцца, пяюць.
Я сам не шукаю ўдачу,
Я там, дзе ў другіх не плююць.

Калі я засну - разбудзіце.
Мне сумна без вас і сябе,
Як сонца дайшло да зеніта,
Знікае, а заўтра ўзыдзе,

А мне бы да неба дабрацца,
Хоць там і няма вышыні.
І там, дзе мае ўсе нашчадкі,
Не стрэць бы мне злой цішыні.

Там маланка з аблокам гуляе
І няма ў прасторы мяжы.
Сакавік усміхаецца маю.
Няма там ніякай ілжы.

Калі я засну - разбудзіце.
Мне боязна страціць хоць міг.
Я ў кожнай плакучай ракіце
І ў тым, чаго я не спасціг.

Я - смех і сляза ў расставанні.
Я ў таінстве любячых воч.
Я - зарава ў восеньскім ззянні,
Я - поўнач, і захад, і ўсход.

Калі я засну - разбудзіце.
Думаю, так будзе лепш.
Любіце паэтаў, любіце.
Хаця б за адзін толькі верш.

*(Пераклад І. Сліўко.)*

## Цішыня

Свецяць зоркі ў акно.
Бачу іх праз туман.
Я малюся адной,
Дзе любоў - не падман.

Бо таму што даўно,
Можа, многа гадоў
Я гляджу ў акно,
Можа, верне дамоў.

Хоць і восень у хаду,
І дзьме вецер парой,
Я прыйшоў, я прыйду!
Быць бы толькі з табой.

Цішыня ўчора-сёння,
Нават рэха маўчыць.
Толькі ў небе дзесь поўня
Крыварота тырчыць.

Цішыня… на стале,
Як абраз і парог.
Што са мною была
Столькі памятных год.

*(Пераклад І. Сліўко.)*

**Малітва ля магілы**

Дзень добры, тата, муж, дзядуля!
Прымі, Хрыстос, яго і лёс.
Што позірк вабіць і мілуе,
Дзе зоркі падаюць з нябёс.

Жыві, пакуль у нас крывіначка
Яшчэ па жылачках цячэ.
Мы разам, побач, як травіначка,
Якая кветачкай жыве.

Мы побач, мілы, скарацечненькі,
Ляці, углядвайся ўвысь.
А мы прыдзём, ты наш сардэчненькі,
Ты нам здароўя папрасі.

А ў нас усё так, як і ў даўнасці.
Калгас не выбраўся з магіл.
А селянін змарнеў ад беднасці,
Рве сілы ён з апошніх жыл.

Але жывём. Нам толькі хлеба.
І каб цвіла наша зямля.
А ты там папрасі ў неба,
Хай не шкадуе ёй цяпла.
*(Пераклад І. Сліўко.)*

**У апошні раз**

У апошні раз гляджу на гэты свет.
І зноў усіх і ўсё ў сябе ўбіраю.
Рачную сінь, і рыжы небасхіл,
І зеляніну, што прыходзіць у маі.

І шум лістот, і сівы колер кары,
Бярозы стройнай пярэстую кашулю.
Шчаслівы смех суседняй дзетвары,
І спевы птаха, нікчэмную казюлю.

Ну што ж, ні я, так хто-небудзь другі
Адкрые дзверы без канца і краю.
Трунар магільны камяком зямлі
Чуць загрыміць, не ўчую я адчаю.

Лічу, каму-небудзь патрэбны быў,
А можа, хто й цураўся са мной дружбы.
І шчодра свой агонь рассыпаў у пыл,
І іскаркі яго ззяюць у шэрай лужы.

Але дарма жыццё я не пражыў.
Пазнаў любоў, быў рады і саюзу.
Толькі я адну любоў не спакусіў -
Грачанку мілую - капрызнейшую Музу.

Няхай яна гарцуе на кані,
Віхрыць мары і праслаўляе сушу.

Няхай ужо камусьці, а не мне
Мазоліць розум, ласкава травіць душу.
*(Пераклад І. Сліўко.)*

## І жартам, і ўсур'ёз

Гумар і сатыра -
Два браты чужых бацькоў.
Адзін - пацеха для куміра,
Другі - смяецца для акоў.

* * *

Хайям сказаў, што ісціна ў віне.
Чыя віна, калі віна ў віне?
І што зрабіць, калі яно са мной,
Каб віно было і не было віной?

* * *

Ён разумны, без праблем,
Каб даказаць усе тэарэмы.
Цяжэй даецца адна тэма -
Яго рагатая праблема.

* * *

Няма жанчын тоўстых, ёсць вузкія дзверы,
Няма дурняў, ёсць памылка прыроды.
Няма і забітых, ёсць пэўныя страты,
А слёзы, бясспрэчна, уплыў непагоды.
*(Пераклад І. Сліўко.)*



# *Віктар Праўдзін*

*Віктар Праўдзін (Праўдзін Віктар Аляксандравіч) нарадзіўся 11 траўня 1955 года ў г. Ліда Гарадзенскай вобласці.*

*Працаваў у праваахоўных органах, быў намеснікам галоўнага рэдактара літаратурных часопісаў "Нёман" і "Полымя", галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", першым намеснікам старшыні ГА "СБП" і першым сакратаром ГА "СПБ".*

*Друкуецца з 1986 года.*

*Аўтар кніг: "Візіцёр з Поўначы" (1991), "Боль, альбо Споведзь міліцыянера" (1996), "Эксгумацыя" (1997), "Шлях да Галгофы" (2003), "Таямніцы мінскіх скрыжаванняў" (2013) , "Іду насустрач" (2013), "Парыж, Эйфелева вежа і..." (2020), "Нелюбімыя гінуць ("Спакушэнне") (кніга другая, 2021), раманаў "Вяртанне з апраметнай" (1999), "Танцавальны марафон" (2001), "Нелюбімыя гінуць" (2003) і інш.*

*Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны, нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі", лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі "Проза" за раман "Парыж, Эйфелева вежа і..." (2021).*

# Трыццаць міль да святасці...
(Апавяданне)

*І не бойцеся тых, што забіваюць цела,*
*але ж душы забіць не могуць;*
*бойцеся ж болей таго, хто можа*
*і душу, і цела загубіць у геене.*
***(Евангелле паводле Матфея, раздзел 10)***

Вясна тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года выдалася позняй, халоднай і трывожнай. Дзісёнка, як заўсёды, пагражала вясновай паводкай і праваму берагу Стара-Шаркаўшчыны, і леваму. Людзі, чые агароды і хаты туліліся бліжэй да рэчышча, з хваляваннем прыслухоўваліся да начнога гулу і грукату, тут і дзеці ведалі, што вада нясе лёд, і на звілістых паваротах груваcткія глыбы хутка створаць заторы. І тады - бяда не праміне... Рака імгненна ўзнімецца, і вада некалькі тыдняў будзе гаспадарыць не толькі ў Стара-Шаркаўшчыне, але і ў Нова-Шаркаўшчыне, і ў бліжэйшых вёсках і хутарах.

Ужо цяпер, яшчэ да магчымага разліву, чуецца манатонны стук, і ў паветры едка, удушліва пахне смалой. Гэта мужыкі канапацяць і прасмальваюць лодкі - адзіны транспарт, які злучыць жыхароў, чые хаты месцяцца непадалёк Свята-Успенскага храма, з "вялікай зямлёй".

"Зямля, можа, і вялікая, - дабрадушна пасміхаюцца мужыкі-перавозчыкі, - але ж усе дарогі і сцежкі бягуць сюды, да царквы, да бацюшкі Канстанціна..."

Паводкай і сапраўды ў першую чаргу ад навакольнага свету будзе адсечана царква. А яна во - зусім новенькая, прыгожая і стромкая. Золатам зіхацяць купалы ў скупых сонечных праменях, яны то купаюцца ў раздольным вясновым небе, то, здаецца, плывуць разам з аблокамі над зямлёй. І штодня чуецца ў вышыні чароўны, прызыўны перазвон, які саграваe, радуе сэрцы і душы прыхаджан, дае кожнаму надзею на здзяйсненне мар і жаданняў.

Людзі бачаць, як бацюшка Канстанцін па некалькі разоў за дзень доўгім шастом абмярае берагі Дзісёнкі і занатоўвае ў тоўстым журнале, на колькі ўзнялася вада. А бывае, торкне ў адным месцы шост і доўга стаіць на беразе, здаецца, любуецца вірлівай, у берагах пеннай вадой. Канешне, бацюшку павадак турбаваў, але большы клопат быў пра тое, што адбываецца ў новым свеце, да гэтых дзён яшчэ нязведаным і чужым, паганай воляй перавернутым дагары нагамі.

Не абмінулі Стара-Шаркаўшчыну ні вайна, ні нямецкая акупацыя, ні бальшавіцкі пераварот, ні доўгае безуладдзе... Тая вакханалія, што адбывалася ў Маскве, Петраградзе, а трошкі пазней і ў Мінску, людзі спадзяваліся, абыдзе бокам гэткае захалусце, як Стара-Шаркаўшчына, але напрыканцы мінулага года прыехаў чалавек у скуранцы, апяразаны шырокай дзягай, на якой матлялася кабура з маўзерам, і адразу некалькі чалавек з мясцовых абвясцілі сябе бальшавікамі і адпаведна - савецкай уладай на тэрыторыі, вызваленай ад нямецкай акупацыі.

Спярша людзі з недаверам і нават з насмешкай паставіліся да новых начальнікаў. Яшчэ пры цары ім і рукі ніхто не падаў бы... І як ручкацца з былым акалодачным наглядчыкам, асуджаным за забойства, ці з мясцовымі п'яніцамі?.. Але дужа хутка местачкоўцы на сабе адчулі, што новая ўлада заснавана і будзе апірацца на сілу, на рэвальверы і вінтоўкі. Пачаліся арышты, канфіскацыя маёмасці ў непажаданых новай уладзе людзей. Пайшла пагалоска пра нейкую незразумелую экспрапрыяцыю экспрапрыятараў...

І пацягнуліся людзі да бацюшкі Канстанціна па парады. Да гэтага ніхто нават у страшным сне ўявіць не мог, што хтосьці ў адкрытую (акрамя злодзеяў і бандытаў) можа прыйсці ў хату і, грозячы зброяй, забраць нажытае... Ды яшчэ спаслацца на закон... Маўляў, цяпер так будзе заўсёды: забіраць у багатых і дзяліць сярод бедных... У асяродку местачкоўцаў пайшла ціхая пагалоска, што гэткай уладзе трэба супраціўляцца...

Бацюшка Канстанцін ведаў, што ён Богам надзелены быць святаром, што ён не можа дапусціць аніякага непадпарадкавання ўладзе, бо сказана:

*"Кожная душа няхай падпарадкоўваецца вышэйшым уладам, бо няма ўлады не ад Бога; а існыя ўлады Богам устаноўлены.*

*Бо хто працівіцца ўладзе, той супрацьстаіць Божаму ўстанаўленню; а хто супрацьстаіць, той сам на сябе накліча асуджэнне" (Да Рымлян Пасланне Святога Апостала Паўла).*

Бацюшка Канстанцін у шчырай малітве шукаў выйсце... І цуд здарыўся... Новы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Ціхан выпусціў некалькі пасланняў, у якіх тлумачыў людзям і служыцелям Царквы сэнс таго, што адбываецца ў грамадстве з царкоўнага пункту погляду. Ён перасцерагаў ад удзелу ў грахах і злачынствах, у каторыя ўцягвалі просты народ бальшавікі... Патрыярх адхіляў удзел Царквы ў барацьбе супраць савецкай улады і зваў да прымірэння... Ён заклікаў "верных дзяцей царквы" не да ўзброенай барацьбы, а да пакаяння і духоўнага маліт-

веннага подзвігу:

*"... противостаньте им силою веры вашей, вашего властного всенародного вопля, который остановит безумцев и покажет им, что не имеют они права называть себя поборниками народного блага"*

Патрыярх Ціхан умаляў праваслаўны народ *"не сходить с пути крестного, ниспосланного Богом, на путь восхищения мирской силы"*, перасцерагаў, каб не дазвалялі ўцягнуць сябе ў жаданне помсты. Служыцелям Царквы Патрыярх нагадваў, што яны *"по своему сану должны стоять выше и вне всяких политических интересов"*.

Прыхаджане слухалі ўзнёслыя пропаведзі бацюшкі Канстанціна, і атрутная, помслівая злосць, набраная і прымножаная несправядлівасцю, знікала, быццам выпаралася, саступала месца малітвеннаму захаванню евангельскіх запаведзяў і неабходнасці трымацца адно аднаго, каб разам перажыць ліхую гадзіну.

2

Але ж і бальшавіцкая ячэйка ў Стара-Шаркаўшчыне, як кажуць, не спала ў шапку... Бальшавікі, каб выслужыцца перад вышэйшым начальствам, усімі сіламі вышуквалі хоць які-небудзь кампрамата на Канстанціна Жданава... І не знаходзілі. Яны спакушалі бяднейшых прыхаджан адабранай у багатых маёмасцю і жыўнасцю, каб людзі толькі сказалі, што "поп Жданаў, вядзе антысавецкую агітацыю, падбухторвае людзей да барацьбы"... Але ўсё марна, "юды" не знайшлося ў мястэчку.

І тады хтосьці з бальшавікоў успомніў, што ў тысяча дзевяцьсот шаснаццатым годзе Стара-Шаркаўшчынскі прыход наведаў архіепіскап Віленска-Літоўскі Ціхан, будучы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі. А Жданаў і да бальшавіцкага перавароту, і пасля нямецкай акупацыі часта наведваў Маскву... З гэтых меркаванняў выходзіла, што з апальным Патрыярхам, якога новая ўлада лічыць контррэвалюцыянерам і памагатым белагвардзейцаў, мясцовы поп мог мець антыдзяржаўныя стасункі.

Гэтая версія імгненна стала галоўнай падставай для арышту Канстанціна Жданава. Настаў дзень, калі ў бальшавікоў выспеў канчатковы план расправы з ненавісным ім чалавекам.

- Уяўляеце, таварышы... - наразаючы вялікія лусты сала нямецкім штыкавым цесаком, цяжка ўздыхнуў Фама. - У Стара-Шаркаўшчыне - асінае гняздо контррэвалюцыі, якім праз нашага папа кіруе сам Патрыярх Маскоўскі!.. Я гэткага ўявіць не магу... Без ста грамаў, канешне...

- З папом вырашым па-рэвалюцыйнаму! - грукнуў кулаком па стале п'янаваты Міхай, ды так, што захістаўся бутыль з мутнаватай вадкасцю. - Цяпер мы - улада... Да нас людзі павінны ісці з працягнутай рукой...

- Калі не пазбавімся ад белагвардзейскага элемента, самі трапім у жорны рэвалюцыйнай малатарні, - азваўся хрыплы голас з прыцемненага кутка. - Сягоння Жданаў на трэбах... Цямнее рана... Па дарозе да царквы і перахопім у якім цёмным закутку...

- Правільна, Алекс, - засоўваючы за шырокі рамень рэвальвер, пагадзіўся Фама. - Будзем арыштоўваць, ці адразу ў распыл?..

- Расстраляць паспеем, спярша допыт учынім, - устаючы з рыпучага крэсла, уладна зазначыў Алекс. Ён узяў за рыла бутлю з самагонкай, зірнуў праз яе на бледнае святло, што струменілася з даўнавата не мытага акна, задаволена кракатануў:

- Добрая, зараза, але піць не будзем... Адпачнём перад адказнай справай... І галоўнае: поп павінен віну прызнаць і пакаянную падпісаць... Гэта не толькі, каб у бальшавіцкім камітэце Дзісны ведалі, што і мы не лыкам шыты. Глядзіш, таварышы з Мінска, а можа, і з самой Масквы, адзнаку паставяць... Што ні кажы, а раскрыць папоўскую змову супраць савецкай улады варта па меншай меры ордэна...

- Ну, Алекс, ты галава! - у захапленні прыцмокнуў губамі Фама і адразу падцягнуў жывот, выпучыў грудзі і прыклаў далонь да месца на гімнасцёрцы, дзе хутка заблішчыць ордэн. - Ты проста стратэг...

- У шахматы гуляе, вось і думае на некалькі хадоў наперад, - дапіўшы тое, што заставалася ў бруднай, да іржавага асадку, шклянцы, буркнуў Міхай. - Я згодзен з планам Алекса, толькі лепш прэмія, чым ордэн...

3

Іерэя Канстанціна Жданава арыштавалі тым жа вечарам. І вяроўкі не спатрэбіліся, што бралі хаўруснікі на выпадак, калі "ворагам" будзе аказана супраціўленне і давядзецца яго звязваць. Непадалёк ад абранага месца яны прывязалі коніка з павозкай і сцішыліся пад кронамі высачэзных таполяў.

Святар спыніўся адразу, як толькі пачуў, што кляцнулі затворы вінтовак. Бацюшка Канстанцін даўно зразумеў: рана ці позна новая ўлада ім зацікавіцца. А калі ў прыцемках угледзеў бальшавікоў і настаўленыя на яго карабіны, паставіў каля ног невялікі чамадан з начыннем, неабходным у трэбах, зняў акуляры і, насоўкай праціраючы шкельцы, раўнадушна ўсміхнуся:

- Напэўна, я важная персона, калі ўтрох сустракаеце?.. Хапіла б і пасыльнага з цыдулкай... Чалавек я законапаслухмяны... Клікніце, і абавязкова прыйду...

- Ты, грамадзянін Жданаў, ручкі свае заграбастыя, прапахлыя зеллем і дымам атрутным, падымі, - прасіпеў у патыліцу святара Міхай, балюча торкнуў дулам рэвальвера між лапатак і, спрактыкавана абмацаўшы цела, ціха сказаў: - Чысты... Зброі няма... Толькі крыж...

- Гэта няпраўда, - запярэчыў бацюшка Канстанцін, - якраз крыж і ёсць мая зброя...

- Ты з намі не шуткуй, - падскочыў да затрыманага Фама і, ухапіўшы святара за грудкі, прасіпеў у твар сівушным перагарам: - Свой опіумны тлум пакінь для дурняў...

- Астынь Фама! - пагрозліва рыкнуў Алекс. Ён падхапіў чамадан, страсянуў у руцэ, быццам узважваючы, і важна, з начальніцкімі ноткамі ў голасе, дадаў: - Даставім арыштаванага на базу, там і абшукаем, і дапытаем... А крыж, Фама, з яго знімі... Сам поп гэтага не зробіць... Ды ланцужок не парві, пэўна ж серабро...

Бацюшку Канстанціна падвялі да падводы, пасадзілі, і Фама моцна, з усёй сілы зацягваючы на руках зашмаргу, па-блазенску рагатнуў:

- Для надзейнасці... Каб не змог перахрысціцца і бога свайго паклікаць на падмогу...

- Гасподзь бачыць беззаконне! - адчуваючы, як нашмальцаваная воскам вяроўка глыбей і глыбей балюча ўпіваецца ў скуру, выдыхнуў бацюшка Канстанцін. - Лепш скажыце, за што арыштавалі?

Хаўруснікі не адказалі. Яны моўчкі ладкаваліся на падводзе так, каб старонняе вока, убачыўшы іх, не адразу разабралася, каго вязуць. Сваімі целамі яны быццам прыкрылі арыштаванага. І сапраўды, у такой "кампаніі", ды амаль ноччу, цяжка было разглядзець, хто ёсць хто.

На самай справе бальшавікі спінамі прыкрылі бацюшку не проста так: яны баяліся людскога гневу, бо ведалі, што для жыхароў Стара-Шаркаўшчыны, святар - бясспрэчны аўтарытэт. Але таго, што праз паўгадзіны, як прывезлі арыштаванага, ва ўчастак завітаюць прадстаўнікі Царкоўна-прыхадскога савета, бальшавікі не чакалі.

Хаўруснікі толькі паспелі зачыніць бацюшку ў наспех збіты катух для затрыманых і арыштаваных, а самі, павесялелыя ад удала праведзенай "аперацыі", выставілі на стол самагонку і закуску, як у дзверы, спярша асцярожна, а потым мацней, настойліва пастукалі.

У пакой увайшлі трое: два селяніны і невысокая прыгожая жанчына ў зеленаватым жупане. Маладзіца цяжка дыхала, з-пад похапкам накінутай на галаву чорнай хусцінкі выбілася пасмачка валасоў і

прыліпла да спатнелага ілба. Яна дрыжачымі ад хвалявання пальцамі штораз падпіхвала валасы пад хустку, але яны зноў і зноў падалі.

- А вось і хадайнікі! - важна выходзячы насустрач і распраўляючы гімнасцёрку пад шырокай салдацкай дзягай, заўсміхаўся Фама. Ён блазнавата падміргнуў жанчыне і, скалячы вялікія жоўтыя зубы, выдыхнуў: - Зямля і праўда круглая... І сяляне прыйшлі, і суседзі, і... былыя сябры, і нават сваякі... Так, Ганна?..

- Ніякі ты мне - не сваяк? - непрыязна зірнула на Фаму жанчына, але праз секунду яе голас задрыжэў, Ганна ўсхліпнула і, ледзь стрымліваючы слёзы, ціха, скорагаворкай, выдыхнула: - Нашто вам бацюшка?.. Адпусціце!.. Ён жа не бандыт які... Жыве для людзей... Сынок, Георгій, адзін дома... Хто ж яго, сірату, дагледзіць, калі бацьку арыштавалі?..

- Ты, Ганна, тут сырасць не разводзь, - хаваючы пад стол бутлю з самагонкай, рыкнуў Міхай. - Тут палітыка... А гэта - не бабскага розуму справа...

- Мужыкі, - выйшаў наперад чалавек ў вайсковым шынялі. - А можа, выкуп?..

- У абарону бацюшкі, калі трэба, мы і подпісы можам сабраць, - умольна склала рукі на грудзях Ганна. - Гэтак раней было... Пачытае начальства і змілуецца... Прыслухаецца да просьбы прыхаджан...

- Вы што!?. - грукнуў па стале рукаяткай рэвальвера Алекс. - Хабар прапаноўваеце!?. Савецкая улада - непадкупная!.. Вы толькі гляньце на іх!.. Цара ўспомнілі?.. Вон адсюль! Не то... - Ён рэзка крутнуў барабан пісталета і наставіў рэвальвер на маладзіцу. - Лічу да трох... Потым страляю... За нападзенне на дзяржаўную ўстанову...

Пакуль Фама зачыняў за прыхаджанамі дзверы, Міхай, стоячы каля акна, нейкі час цікаваў за шэрымі сілуэтамі хадайнікаў. Трэба было ўпэўніцца, што ні ў панадворку, ні паблізу дома нікога няма. Потым, прысмальваючы самакрутку, доўга цмокаў моцна сцятымі губамі і, пыхнуўшы дымам, заклапочана сказаў:

- Пагалоска, што Жданаў арыштаваны, па Стара-Шаркаўшчыне разляціцца імгненна... Заўтра сюды прыйдуць не тры вернікі, а тысяча тры.. Што рабіць будзем? Супрацьстаяць не зможам, сілы не хопіць... Мо апярэдзім заступнікаў і папросім падмогі ў камітэта?

- Эх, нам бы кулямёт, - ажывіўся Фама. - А лепш два... Устанавілі б на гарышчы з двух бакоў і... та-та-та-та... Усё наваколле ў прыцэле...

- Глядзі, каб сам не аказаўся на мушцы, - незадаволена буркнуў Міхай. - Цяпер рашэнне прымаць трэба, а не ў "та-та-та" гуляць...

- Значыцца, так!.. - устаў з-за стала Алекс. Ён гаварыў коратка, адрывіста, быццам аддаваў загады. - Падмога не спатрэбіцца... Жданаў

- наш казырны туз... Мы не будзем дзяліцца славай і самі давядзём пачатае да канца. Перакусім і пачнём допыт... І, як толькі поп падпіша павінную, даставім яго ў Дзісну... Няхай там вырашаюць, што з ім рабіць.

Праз некалькі гадзін злыя, добра падпіўшыя бальшавікі, ускінулі на падводу моцна збітага бацюшку Канстанціна і з вялікай перасцярогай пакінулі Стара-Шаркаўшчыну. Усе трыццаць міль, ажно да самай Дзісны, дзе вялі арыштаванага, дзе ехалі, але "ўладары новага жыцця" часта і са страхам у вачах аглядваліся, ці не гоніцца за імі праваслаўны люд.

Бацюшка ніякіх папер не падпісаў, змовы з Патрыярхам Ціханам супраць улады не прызнаў і пісьмова не пацвердзіў. На ўсе правакацыйныя пытанні адказваў адно: "Я - толькі святар і служу адпаведна Царкоўнаму Статуту..."

4

Допыты бацюшкі Канстанціна доўжылася і ў турэмных засценках Дзісны, і катавалі яго тыя ж самыя, стара-шаркаўшчынскія бальшавікі.

- Поп ваш, вы прывезлі, вы і расстрэльвайце, калі ён вораг савецкай уладзе... А ў мяне і сваіх "расстрэльных" хапае... Камеры перапоўненыя... Работы вышэй носу... Сам ведаеш, што пасля замаху на жыццё нашага правадыра, таварыша Леніна, на "белы тэрор" мы адказалі сваім, "чырвоным тэрорам", - пачуўшы пра магчымую змову Патрыярха Маскоўскага з папом са Стара-Шаркаўшчыны, хаваючы недаверлівую, нават грэблівую ўсмешку ў пышных вусах, не даслухаў, перапыніў Алекса галоўны камісар Дзісненскага павета. - І ў бальшавіцкі камітэт скардзіцца не хадзі, скажуць тое самае, калі не больш. А я надалей папярэджу: партыя вам даверыла архіважную справу - устанаўленне савецкай улады, партыя дала зброю, а вы без усялякіх фактаў, падсоўваеце "ліпу" пра Маскоўскага Патрыярха... Прыцягнулі сюды паўжывога папа - і што?.. Маўляў, ты камісар, ты і разбірайся?.. А нам дай узнагароду, мы ж сваю справу зрабілі, арыштавалі "белагвардзейскага прыхвасня"... Не, даражэнькія!.. Партыя прыняла вас у свае рады - гэта і ёсць узнагарода! А калі спатрэбіцца, партыя прыцягне і да суровай адказнасці... Памятай, таварыш Алекс: суровай і справядлівай...

Калі Алекс пераказваў размову паплечнікам, Міхай раптам зморшчыўся, уцягнуў галаву ў плечы, у бясколерных вачах бліснуў непрыхаваны спалох. І было з чаго. На гэтай службе ён адвык працаваць на зямлі і зусім злайдачыўся. "А нашто гарбаціцца? - часта разважаў Міхай. - Толькі пужні якога прыцісклівага гаспадара наганам ці вінтоўкай - і дабро само прыплыве ў рукі..." А вось, што такое справядлівая і

суровая бальшавіцкая расправа, ён добра ведаў... Міхай пракаўтнуў даўкі камяк і ўпалым голасам прагугнявіў:

- Выходзіць, камісар не паверыў?..

- Трэба пакаянную выкалаціць!.. Тады ўсе паверадь, - рукой, як шабляй, секануў паветра Фама і адразу расчаравана, быццам скардзячыся, ускрыкнуў: - Ну, не можа чалавек цярпець гэткага болю!.. Каторы і аднаго ўдару не вытрымлівае... Усё падпісвае... Чаго не было - пацвярджае... А Жданаў быццам з жалеза... На сваім стаіць - хоць на кускі рэж...

- Ён маўчыць і будзе маўчаць, - перапыніў хаўрусніка Алекс. - Цяпер трэба думаць, як самім выкруціцца!.. Вяртацца ў Стара-Шаркаўшыну з папом не выходзіць, а без яго - яшчэ горш... Людзі запытаюцца, а мы што скажам?..

- Ты, Алекс, перахітрыў самога сябе і нас у спакусу ўвёў, - незадаволена буркнуў Міхай. - Славы захацелася... Ордэна на грудзі...

- А што калі... - Фама шматзначна дакрануўся да дзяржальна рэвальвера. - Так сказаць, уціхую ў распыл... Па законе рэвалюцыйнага часу...

- А ў Стара-Шаркаўшыне скажам, што Жданава здалі чэкістам і цяпер з ім будуць разбірацца ў Дзісне, - падхапіў ідэю Міхай. - І няхай прыхаджане чалабітную пішуць у павет і подпісы збіраюць ў абарону папа... Час пройдзе - і ўсё забудзецца... А што не забудзецца - на барацьбу з рэвалюцыйнай контрай спішацца... І, галоўнае, мы ў начальства давер адновім...

- Так і зробім, - пагадзіўся з хаўруснікамі Алекс і, трошкі падумаўшы, дадаў: - Ад папа гэтай жа ноччу і пазбавімся... Правядзём ліквідацыю без лішняга шуму... А наконт пагалоскі - гэта правільна, падтрымліваю ... Каму ахвота - няхай у Дзісне шукае свайго дабрадзея...

Цішком расправіцца з бацюшкам Канстанцінам не атрымалася. Калі ноччу хаўруснікі разам з ахоўнікам, які прадставіўся Васілём, прыйшлі ў камеру забіраць арыштаванага, на падлозе каля Жданава сядзеў святар і перавязваў яму раны белымі кавалкамі тканіны. Па ўсім, гэтая матэрыя раней была кашуляй.

- Ты хто такі? - прасіпеў Міхай і, выхапіўшы з рук святара матэрыю, наводмаш садануў яго ў грудзі.

- Аляксей Сакалоў, - сілячыся ўзняцца на ногі, задыхаючыся прашаптаў арыштаваны. - Настаяцель Язненскай... Спаса-Прэабражэнскай царквы.

- Ведаеш, поп, каму раны залізваеш? - прыкрываючы рукавом нос, каб не чуць удушлівага паху гніення скалечаных цел, зморшчыўся

Фама.

- Айцу Канстанціну, іерэю Свята-Успенскага хра-а-а... - Святар зноў атрымаў нечаканы ўдар пад дых, раптоўна змоўк, закашляўся і, хапаючы ротам паветра, быццам выкінутая на бераг рыбіна, паволі асеў на падлогу.

- Бачу, што ведаеш, - паціраючы рукі, нервова рагатнуў Міхай і, свідруючы хаўруснікаў безжыццёвым алавяным позіркам, запытаўся: - Што рабіць будзем?..

Медзведзяваты высачэзны ахоўнік з выпучанымі вачыма нечакана бразнуў ключамі, плюнуў на акрываўленыя целы арыштаваных шалупіннем семачак, якія пастаянна лушчыў, і гучна прабасіў:

- Тут усе - "смяротнікі"... Калі заместа мяне і гэтага "шлёпнеце", - ён кіўнуў на Сакалова, - пачастую... І добры магарыч выстаўлю, калі з жаночай камеры яшчэ дзвюх баб прыхопіце...

- А іх за што? - міжвольна вырвалася ў Фамы.

- Не лезь, жаба, пад калёсы!.. - незадаволена буркнуў Міхай. - Менш ведаеш - лепш спіш... Не адны мы тут...

- Дакладна не ведаю, - неахвотна басіў ахоўнік. - На гэтай працы ўсяго месяц... Хто да мяне быў - расстралялі. Смяротнікаў прадаваў... золатам браў... А жанчыны, калі меркаваць па іхняй старой апратцы, маглі быць паломніцамі... Хтосьці казаў - стараверкі... Іх на бальшаку, на полацкай дарозе затрымалі. У манастыр ішлі... Ефрасінні Полацкай памаліцца... А тут разнарадку па свяшчэннаслужыцелях прыслалі... Яе ж выконваць трэба!.. Вось паломніц дзеля "планавай галачкі" і арыштавалі, і прыгаварылі... Ці так было, сказаць не магу... Адно ведаю: бабы ў нас дзеля забавы і ўцех... Хто так распарадзіўся, таксама невядома. Начальства штомесяц мяняецца, нават часцей, а яны як жылі, так і жывуць на павышаным пайку... А прыгавор ляжыць пад сукном... Вось такія пірагі... Сягоння начальнік выклікаў і крычыць: "...наводзь, Васілій, парадак..." Знайшоў крайняга... А я не змог!.. Хоць бабы самі прасіліся... Плакалі, божкалі, галасілі, што жыць у блудзе не могуць, а самагубства ўчыніць - для іх яшчэ большы, недаравальны грэх... А як расстраляць чалавека, калі просіцца? Дзеля забавы - рука не паднялася. Мне ворага падавай!.. Ну дык што, дапаможаце таварышу па партыі?

Фама і Міхай запытальна зірнулі на Алекса, і той, трошкі падумаўшы, згодна кіўнуў:

- Дапаможам.

Хаўруснікі адразу падхапілі пад пахі абодвух святароў і волакам выцягнулі ў доўгі прыцемнены калідор.

- Вы мяне трошкі пачакайце, - радасна, што знайшліся памагатыя,

ускрыкнуў Васілій. Ён нейкі час мітусліва перабіраў на поясе звязку ключоў і, калі наткнуўся на патрэбны, адразу заспяшаўся. Кіруючыся да выхаду, ахоўнік, не азіраючыся, адным духам выпаліў:

- Бабы цяпер у другім памяшканні, пабягу па іх... А папам вады дайце, каб ачухаліся, а то на сваіх плячах пацягнеце... І мінут праз дваццаць выходзьце.

- Ты пачастунак нясі, - наўздагон крыкнуў Фама. - Спярша магарыч, потым страляць...

Калі хаўруснікі вывелі арыштаваных на вуліцу, а святары, падтрымліваючы адно аднаго, спусціліся з велікаватага ганка, то і дзесяці крокаў не паспелі зрабіць, як з цемры вынырнулі дзве жанчыны, апранутыя ў аднолькавыя, да непрыстойнасці пошлыя сукенкі. Яны разам укленчылі перад бацюшкам Канстанцінам, і насцярожаную начную цішыню працяў самотны, надарваны малітоўны крык:

- Малі Бога за нас, ба-а-а-цю-шк-а...

- А гэта яшчэ хто такія? - спалохана ўскрыкнуў Алекс.

Паплечнікі зрэагавалі позна. Фама і Міхай схапіліся за зброю і нейкі час баязліва ўзіраліся ў цемру, яны чакалі, што адтуль вось-вось пачуюцца стрэлы?.. А калі зразумелі - жанчыны адны, - быццам ашалелыя сабакі, кінуліся біць безабаронных. І раптам у цемры сапраўды грымнуў стрэл, і адразу з-за вугла выбег запыханы ахоўнік з зялёным вайсковым мяшком у адной руцэ і наганам у другой.

- Думаў, уцяклі, - пераходзячы на хаду, здалёк, цяжка дыхаючы, гукнуў служка і нечакана рассмяяўся. - Толькі сказаў, што за імі святары прыехалі, дзевак і след прастыў, толькі лыткі заблішчэлі... Бягуць... самі не ведаюць, куды бягуць... А каб шуснулі ў другі бок, і куля не дагнала б... - Ён асцярожна, але шкло ўсё ж дзынкнула, паклаў мех каля ног Алекса і, паглядзеўшы на Фаму, гучна, каб пачулі ўсе, сказаў: - Магарыч, як дамаўляліся... А яны, - ён кіўнуў на сядзячых на зямлі жанчын, - цяпер вашы... Не падвядзіце, мужыкі, зрабіце, што абяцалі... Нейкі начальнік павінен прыехаць... Во, успомніў, рэвізор... А прыгавор не выкананы...

5

З гарадка выйшлі даволі хутка. Паперадзе ішоў Алекс з рыдлёўкай і начным ліхтаром, які быў не так ужо і патрэбны. Следам, мармычучы нешта невыразнае, напаўголыя жанчыны, потым - босыя святары. Фама і Міхай з ускінутымі вінтоўкамі шморгалі расхлябанымі ботамі з правага боку і з левага.

За гэтай незвычайнай трагічнай працэсіяй сачыла зорнае начное неба і з халодным, ледзяным сумам назірала поўня. І былі яны адзінымі сведкамі, маўклівымі і абыякавымі да людскога гора і зладзейства. Нечакана пасвяжэлы ветрык пачаў даносіць лёгкія ўсплёскі. Дзісёнка ўсё ж выйшла з берагоў і цяпер спяшалася наталіць заліўныя лугі і напоўніцу даць вады Заходняй Дзвіне, каб яна, шырокая і прыгожая, імклівым патокам несла воды тутэйшых рэк і рачулак да Балтыйскага мора і на сваім шляху ўсім народам урачыста абвяшчала вясну, абвяшчала новае жыццё.

- Алекс, - гукнуў Фама, - пуза "марш" грае, можа, перакусім?

- І то праўда, - азваўся Міхай, - не паміраць жа з голаду разам з папоўскім адроддзем.

- Скінем назолу і прысядзем дзе-небудзь каля ракі, - адказаў Алекс, але праз хвіліну змяніў рашэнне: - Можна пазбавіцца ад...

- Баб! - у адзін голас ускрыкнулі канваіры.

Праз дзесяць хвілін хаўруснікі зрабілі прывал. Жанчын адразу павялі да блізкага, амаль непралазнага хмызняку. Яны, апранутыя ў летнія сукенкі, нейкі час ішлі моўчкі. Іх целы, згорбленыя і спакутаваныя, дрыжэлі ад холаду і нервовай трасучкі. Яны прадчувалі хуткую расправу.

- Як завуць вас, матушкі? - паспрабаваў крыкнуць ім у след бацюшка Канстанцін, але замест слоў з грудзей жанчын вырваліся толькі няўцямныя хрыплыя гукі.

- Бог ведае..., - адгукнуліся яны... А можа, гэта толькі падалося...

І раптам жанчыны запелі. Спярша ціха, быццам мацаючы і ладкуючыся да начной цішыні, а потым галасы загучалі моцна, упэўнена. І палілася святая запаветная малітва і ўшыркі, і ў вольнае, вечна прывабнае неба, і ў сэрцы тых, хто чуў і мог чуць... І больш не было ў целах трасучкі, жанчыны ішлі без боязі, з высока ўзнятымі галовамі, і, здавалася, яны не толькі ведаюць, але і бачаць будучыню, і з бязмежнай радасцю прымаюць наканаванае. Яны ішлі насустрач Таму, у Каго верылі, дзеля Каго цярпелі абразу, здзек і абразу, і ўжо ніхто не сумняваўся, што яны сапраўды "Божыя людзі."

- Приближается, душе, конец, приближается, и нерадиши, ни готовишися, время сокращается: востани, близ при дверех Судия есть: Яко соние, яко цвет, время жития течет: что в суе мятемся? Помилуй мя, Боже, поми…

Грымнулі стрэлы... і абарваліся галасы... А малітва гучала... Яе падхапілі бацюшкі, Канстанцін і Аляксей... З апошніх сіл святары шапталі малітву зламанымі сківіцамі... З распухлых, акрываўленых вуснаў зляталі бессмяротныя словы:

- Воспряни о душе моя, деяния твоя яже соделала еси помышляй, и сия пред лице твое принеси, и капли испусти слез твоих; рцы со дерзновением деяния и помышления Христу, и оправдайся.

- Што вы тут шэпчаце?.. Маўчаць!... - падбег да іх Алекс, збіў з ног і кованымі абцасамі пачаў таптаць расхрыстаныя целы. Таптаў і прыгаварваў: - Сабраць бы ўсіх папоў разам, - ён зірнуў на кусты, адкуль даносіўся шоргат рыдлёўкі, усміхнуўся, - і галасістых паломніц таксама... І прымусіць "Інтэрнацыянал" спяваць... Вось гэта быў бы канцэрт... Ха-ха-а...

Праз паўгадзіны Міхай і Фама вярнуліся. Хаўруснікі трошкі адышлі ад ляжачых на зямлі акрываўленых святароў ("...каб апетыт не псавалі...") і адразу пачалі патрашыць мех, што даў Васілій. Ахоўнік і сапраўды не пашкадаваў ні самагонкі, ні закускі, і вельмі хутка бальшавікі, як кажуць, і "лыка не вязалі."

Бачачы, што забойцы аніякай увагі на іх не звяртаюць, айцец Аляксей пачаў падбухторваць бацюшку Канстанціна на ўцёкі.

- Я нікому нічога дрэннага не зрабіў. Што Бог пашле, тое і буду цярпець. - Адказаў бацюшка Канстанцін і прытуліўся спаласаванай бізунамі спінай да сырой, яшчэ халоднай зямлі. Гэтак боль трохі менеў, зямля адцягвала... - А ты, айцец Аляксей, бяжы, - шаптаў бацюшка Канстанцін, - бяжы паўз раку на Германавічы... дасць Бог, на лодку патрапіш, а тады на другі бераг... Людзям праўду раскажы...

Прайшло добрых паўгадзіны, пакуль бальшавікі заўважылі, што аднаго "смяротніка" не хапае. Перапалоханыя Міхай і Фама кінуліся шукаць уцекача ў кустах, каля ракі, але Алекс спыніў іх:

- Уцёк, ну і хрэн з ім, - вылаяўся ён, выплюнуў недакурак пад ногі, растаптаў і, вылупіўшы глыбока запалыя мутныя вочы, пагардліва ўсміхнуўся: - Справаздачы ніхто не патрабаваў, а на давер'і - толькі дурні жывуць... Запомніце! Прыгаворанага мы расстралялі... А вось чаму Жданаў не ўцёк?

П'яны бальшавік падышоў да ляжачага на зямлі святара і з ўсёй сілы ўдарыў нагой.

- Поп, чаму ты не збег?.. - рыкнуў ён і, не чакаючы адказу, грозячы некаму нябачнаму, тыцнуў пальцам у неба і ва ўсё горла закрычаў: - Ведаю гэтую пароду, даводзілася расстрэльваць... Смерць прыме, а на сваім стаяць будзе...

- Супакойся, Алекс, - падышоў да хаўрусніка Фама і працягнуў да краёў напоўненую шклянку. - Выпі, і павядзём далей... Нам яшчэ капаць...

- Ну, ужо ж не, - вызверыўся Міхай, - няхай поп сабе сам магілу

капае...

Хаўруснікі ўдарамі ног прымусілі бацюшку Канстанціна ўстаць і напрасткі, па ледзь прыкметнай сцежцы, што змяёй вілася ў хмызняку і кустах вербалозу, павялі да вядомай ім пясчанай паляны. Цяпер п'яныя хаўруснікі як асатанелі і з відавочнай асалодай спаганялі, зрывалі злосць за свае няўдачы на святары. Яны безупынна штурхалі бацюшку, білі нагамі і прыкладамі, але білі так, каб чалавек яшчэ мог трымацца на нагах. Забойцам гэтага было мала... Яны злымі, непрыстойнымі словамі пачалі абражаць веру, зневажаць айца Канстанціна, кпіць з прыхаджан і яго родных, брыдкасловіць... Іерэй, цяжка, як не свае, перастаўляючы распухлыя непаслухмяныя ногі, не адказваў і, каб не чуць брыдоты, ціха шаптаў малітвы. Гэтае зацятае, велічнае маўчанне яшчэ больш раз'юшвала забойцаў, і яны ў бяссільнай азвярэлай злосці часцей і часцей накідваліся на сваю ахвяру.

Да месца пакарання каты ўжо цягнулі бацюшку Канстанціна, падхапіўшы пад рукі. На паляне канваіры кінулі амаль беспрытомнае цела на зямлю, Алекс уваткнуў побач рыдлёўку і пагрозліва рыкнуў:

- Як ачухаешся, капай... Глыбіню, шырыню і даўжыню - ведаеш...

Айцу Канстанціну хацелася як мага хутчэй наблізіць развязку, і ён адразу дзвюма рукамі ўхапіў рыдлёўку. Апіраючыся на яе і перасільваючы ва ўсім целе неймаверны боль, ён паціху ўстаў, спярша на калені, потым на слабыя, хісткія ногі.

- А ён жывучы, - назіраючы за ахвярай і раскладваючы закуску вакол пляшкі з самагонам, здзекліва ўсміхнуўся Міхал.

- Поп, цяпер зрабі пяць крокаў і капай... - рэзка крыкнуў Алекс і ўжо цішэй дадаў, - толькі нас не прыспешвай, хочацца...

- І выпіць, і закусіць, - зарагатаў Фама. - Ты ж сябе не расстраляеш і не закапаеш...

Пясчанік, набрынялы снегам за доўгую зіму, капаўся лёгка, і праз гадзіну бацюшка Канстанцін ужо стаяў у па калена выкапанай яміне, а яшчэ праз трыццаць мінут глыбіня была па самыя грудзі.

На паляне, за некалькі крокаў ад чалавека-смяротніка, ішла п'яная гульба. Бальшавікі гарланілі "Інтэрнацыянал", і цяжка было разабраць словы, здавалася яны спаборнічалі, хто каго перакрычыць... Галасы супадалі і зладжана, ва ўнісон гучалі, калі хаўруснікі старанна, з асаблівай асалодай выцягвалі адзін радок: "… кто был ничем, тот станет всем..."

- Ці не засумаваў попік у магіле? - перакуліўшы чарговую бутэльку ўверх дном (як аказалася, яна была апошняй), нечакана перарваў выццё Фама.

- Шкада, што ўсё добрае хутка заканчваецца, - не паверыў Фаме

Міхай, сам перагледзеў пляшкі і, калі ўпэўніўся, што больш нічога няма, рашуча сказаў: - Трэба канчаць Жданава, хопіць, нацярпеліся мы з ім...

Пакуль Міхай і Фамаператрасалі мех, быццам з пустога магло нешта вываліцца, Алекс выцягнуў бацюшку Канстанціна з ямы і, наставіўшы рэвальвер, п'яна крычаў:

- Скажы, чаму ты не ўцёк?.. Няўжо жыць не хочаш?..

- Жыць хачу, - спакойна адказаў бацюшка Канстанцін.

- А-а-а!.. - у блазенскай усмешцы скрывіўся твар бальшавіка. - Хочаш - і не ўцёк? Гэтак не бывае.

- Бывае, - ціха адказаў бацюшка Канстанцін. - Бывае, калі чалавек не вінаваты...

- А калі не вінаваты - скінь расу, адцурайся ад усяго папоўскага і жыві, як грамадзянін новай, савецкай дзяржавы... Мы табе і пасаду прыдумаем... Як наконт памочніка чэкіста?.. З табой хутка ўсіх ворагаў перастраляем... Ты ж іх спавядаў і ведаеш, хто, дзе і ў чым грашыў...

- Слова Хрыстова - мая зброя!..

- Значыцца, ты вінаваты!.. - крычаў бальшавік, наставіўшы рэвальвер прама ў твар бацюшку. - Перад нашай уладай вінаваты ўжо тым, што ты - поп!.. Усе папы вінаватыя!.. Вы - п'яўкі на целе народа...

- Алекс, не страляй!.. - зразумеўшы, што вось-вось грымне стрэл, хістаючыся, падбег Міхай і з усёй сілы ўдарыў бацюшку нагой у жывот. - Куля для яго - дужа лёгкая смерць... - выдыхнуў ён і, падхапіўшы з зямлі рыдлёўку, замахнуўся...

З-за п'янага стану Міхай па галаве ахвяры не патрапіў... Востры і бліскучы ад частага капання штык рыдлёўкі толькі слізгануў па плячы і трапіў у босую нагу.. З месца адсечанай пяткі, ва ўсе бакі пырснула ярка-чырвоная кроў...

- Хачу памаліцца… - Перасільваючы пякельны боль, бацюшка Канстанцін бясстрашным позіркам паглядзеў на Алекса. Паглядзеў... убачыў шкляныя, амярцвелы вочы і... адчуў дыханне смерці...

- Маліся, - нечалавечым грудным голасам праракатаў кат.

Не паспеў бацюшка Канстанцін і "Отче наш..." уголас прапець, як на яго з усіх бакоў пасыпаліся ўдары... Ён трымаўся з апошніх сіл... Апошняе, што ўбачыў, гэта быў цень чалавека, які замахнуўся на яго рыдлёўкай...

Забойцы бачылі, што збіты амаль да смерці святар яшчэ жывы, бачылі, як на ягонай шыі пульсуе артэрыя, бачылі, што на губах пры дыханні пеніцца сукравіца, і наўмысна, каб бацюшка Канстанцін пакутаваў як мага даўжэй, жывога спіхнулі нагамі ў свежую, неглыбокую магілу...

## ЭПІЛОГ

І сягоння, як і сто гадоў таму, дабравесцяць званы Свята-Успенскага храма, іх мелодыі лунаюць над Шаркаўчынай і наваколлем. Тут зноў гучыць малітва, а людзі, як і сто гадоў назад, ідуць да бацюшкі Канстанціна... Ідуць з болем і радасцю... Ён глядзіць з вышыні і радуецца разам з намі, калі нам добра, і смуткуе, калі на душы цяжка і трывожна.

Зірне бацюшка Канстанцін з іконы і скажа... Так, Ён скажа, а ты, сягоннящні, ці можаш і, галоўнае, ці хочаш яго пачуць?.. А калі хочаш, то станеш на калені, памацаеш далонямі кафельную плітку, якую адна да адной прыладжваў бацюшка Канстанцін, прыгадаеш трыццаць міль, апошнія трыццаць міль, якія прайшоў Ён да святасці, і адчуеш, і зразумееш, што гэтыя крокі бацюшка зрабіў для нас, для нашых дзяцей і ўнукаў, для дзяцей унукаў нашых... Ён ішоў на сваю галгофу, каб веру і любоў аддаць усім людзям!..

*2019 г.*

## *Уладзімір Васько*

### Бляшанка
(Апавяданне)

З лесу, які літарай "Г" абступае дачныя ўчасткі, з каляскай, загружанай тонкімі галінамі-дровамі, якраз на заломе гэтай жывой літары высунуўся Іосіф Кашавэла. Ён глянуў налева і ўбачыў на лаўцы, усталяванай побач з "катэджам", знаёмага дачніка, ні імя, ні прозвішча якога ён не ведаў - так проста пры сустрэчы віталіся, мімаходзь перакідваліся асобнымі словамі, кшталту такіх, як і што расце на ўчастку.

Было гэта дваццатага красавіка 2021 года. Лес яшчэ не апрануў зялёнай вопраткі, але ляшчына ўжо зазелянела. Дзьмуў халодны вецер, і Кашавэла падумаў: "От, прыцягну дровы і сагрэюся самаробным вінаградным віном". А тут падвярнуўся пад руку гэты знаёмы дачнік - няблага. Кашавэла спыніўся і памахаў рукой - той адказаў узаемнасцю, падняўся і пакіраваў да веснічкаў. Кашавэла сцягнуў каляску з дарогі ўбок, да лесу, і пакрочыў яму насустрач. Паціснулі адзін аднаму рукі.

- Слухай, - прамовіў Іосіф. - У мяне ёсць самаробнае віно. Ты не супраць, калі я прынясу сюды бутэльку?

- Абсалютна не.

- Чакай.

Кашавэла зацягнуў дровы на ўчастак, скінуў у прымітыўную падпавець, там паставіў і каляску, а сам палез у падвал і з трохлітровага слоіка наліў у бутэльку халоднага віна. Калі вылез на паверхню, схамянуўся: "Чорт яго ведае - гэтага Малюгіна: ці ёсць у яго чаркі і закусон? На ўсякі выпадак захаплю і іх, каб пасля не вяртацца". Малюгіным Іосіф абзываў свайго знаёмага так пра сябе, з прычыны невысокага росту гэтага чалавека.

Малюгін сядзеў на лаўцы і чакаў.

- Тут будзем выпіваць, ці ў катэджы? - спытаў Кашавэла.

- Тут замерзнем. Палезем у сярэдзіну.

- Але я люблю любавацца лесам.

- Нічога. Палюбуешся ў наступны раз, - настаяў на сваім Малюгін.

Дзверы ў драўляную прыёмную-гасцінную былі адчынены, а з яе ў залу ўвогуле не было дзвярэй. Сама гасцінная нагадвала дашчаты туалет, распілаваны ўпоперак напалавіну. Нагнуўшыся, па чарзе ўпрыціск улезлі ў сярэдзіну. Малюгін падсунуў госцю напалавіну паламаную скрынку, прыдатную пад бульбу, і прапанаваў сесці. Кашавэла сеў - скрынка затрашчала.

- Зараз цвікоў наганю ў задніцу.

Тады Малюгін накінуў на скрынку нейкі стары заношаны лахман. Сядзець стала ямчэй.

Малюгін дастаў з залы нізкую, невялічкую табурэтку і паставіў пасярэдзіне гасціннай, а сам сеў на перавернутае ўгору дном пластмасавае вядро так, што ногі былі ў гасціннай, а тулава ў зале.

Кашавэла дастаў з пакета бутэльку віна, дзве палоскі хлеба і два скрыдлікі каўбасы. Адну чарку падсунуў бліжэй да Малюгіна, другую да сябе. Разліў. Чокнуліся. Перакулілі.

- Слабое, - расчаравана працадзіў Малюгін.

- А што я зраблю? Якое ўдалося…

- З парэчкаў не спрабаваў гнаць?

- Не.

- Я адзін раз зрабіў. Паскудства. Думаў атручуся. Усё выліў на зямлю.

- Можа не ўмееш рабіць, - папракнуў Кашавэла гаспадара.

- Можа і не ўмею. Але рабіў па рэцэпце, які выпісаў з кнігі. І за кнігу ў магазіне аддаў дваццаць рублёў. Толькі адны расходы. Ніякага толку.

- Рэцэпты бываюць фальшывыя. Не ганяйся за імі.

Кашавэла, не ўстаючы, агледзеў памяшканне. У зале было

цемнавата, але сёе-тое ўдалося разгледзець: у кутку стаялі граблі, сахор, рыдлёўка, каля сцяны на дзвюх цаглінах ляжала вузкая дошка.

- На чым ты адпачываеш, калі заморышся?

- На гэтай дошцы.

- З яе ж можна ўпасці, як будзеш варочацца.

- Я ляжу толькі на спіне і стараюся не круціцца.

- Дзе ты прыдбаў такі катэдж? - спытаў Кашавэла.

- Зяць аднекуль прыцягнуў.

- Я не разбяруся - гэта жалезны кузаў-буда ад якой машыны ці спецыяльна звараная скрыня для цябе, бляшанка?

- Я і сам не ведаю. Прыцягнуў зяць, кінуў на зямлю і сказаў: "Карыстайся".

- І падмурка няма.

- А ён і не патрэбны.

У бляшанцы на ўвесь рост таксама нельга было ўстаць, перамяшчацца ўдавалася толькі прыгнуўшыся.

- У мяне ўсяго толькі тры соткі, - працягнуў размову Малюгін. - Ва ўсіх па шэсць, а ў мяне - тры. Начальнік кааператыва Мікалай Борыс аднойчы кажа: "Калі хочаш, бяры гэтую рэшту - вуглавую палоску. Усе ад яе адмаўляюцца". Я і ўзяў. І ці варта тут будаваць які цагляны ці драўляны домік? Дастаткова і такой бляшанкі.

- Яно то так… Празмерна турбавацца не варта… Вось мы чаркуемся, чалавек, з табой, а я нават не ведаю, як цябе зваць.

- Жора. Альбо заві проста - Жаржэта. Так мяне называе жонка.

- А прозвішча?

- Уласаў.

- Уласаў?! Здраднік Радзімы?

- Ніякі я не здраднік. Аднафамілец. Ведаеш, колькі Уласавых у Расіі - больш, чым зорак на небе.

- Дык ты хто - расіянін?

- З Пензенскай вобласці. Служыў тут у Паўднёвым гарадку. Закахаўся ў мясцовую дзяўчыну, ажаніўся - і з маладых гадоў жыву ў Лідзе. А зараз мне восемдзесят.

- Мне таксама.

- А цябе то як зваць? - запытаў Жаржэта.

- Мяне? Іосіф. Але жонка таксама называе па-іншаму - Юзуня. Зняважліва. Аднак я прывык ужо. У мяне, як бачыш, смуглявы твар. Дык калі як завядзёмся сварыцца - яна выкрыквае: "Кітаец ты!"

Мужчыны, каб крыху выпрастаць спіны, высунуліся на двор. Пры драцяным плоце ў пяску на суседнім участку капашыліся куры.

Яны няспынна сакаталі, выводзілі нуднае "ко-ко-ко", а два пеўні, па чарзе ўзлятаючы на казлы для распілоўкі дроў, гучна кукарэкалі і перашкаджалі дачнікам размаўляць.

- Чаго яны так моцна гамоняць? - запытаў Юзуня.

- Гаспадыня іх корміць да адвалу, ну і прыход вясны адчулі.

- Турні ты іх.

Жаржэта стукнуў нагой аб сетку і выкрыкнуў:

- Акыш!

Куры і пеўні крыху адбегліся.

- Аддаў бы ты суседцы сваю бляшанку на куратнік, а сабе збіў бы з дошак новы домік.

- Позна ўжо. На мой век хопіць і гэтай бляшанкі…

Неўзабаве ў паветры пахарашэла, парахманела, пацяплела. На паўднёвы край неба насунулася цёмная хмара, недзе далёка загрукатаў гром. Юзуня занепакоіўся, але нічога не сказаў.

- Мяне іншы раз запрашае Фэлік, - прамовіў Жаржэта. - Нядаўна прыехаў з літровай папяровай банкай віна і таксама паклікаў. Толькі папярэдзіў: "Можа наляцець жонка, дык ты скажы, што гэта ты мяне частуеш". Я даў згоду. І праз якой паўгадзіны жонка Фэліка, сапраўды, наляцела: "Алкашы! Людзі працуюць, а яны вось чым займаюцца". Натуральна я, як і дамаўляліся, усю віну ўзяў на сябе: "Гэта я рашыў пачаставаць Фэліка. Хочам адзначыць пачатак дачнага сезону". - "Я вам зараз пакажу пачатак сезону, уласаўцы вы недабітыя! Навошта ты, Уласаў, спойваеш майго мужа?! Яй-богу зараз пабягу і калом памалачу ўсе вокны ў тваім катэджы!" - "Малаці", - адказаў я.

- Дык у тваёй бляшанцы ж няма вокнаў, - уставіў слова Юзуня.

- А што ты дурной бабе скажаш.  Няхай бяжыць, няхай грукае калом па жалезе, нічога з ім не станецца.

Між тым хмара насоўвалася ўсё бліжэй і бліжэй. Маланка рэзка перакрэслівала неба і падала долу.

- Давай пяройдзем у мой домік, - прапанаваў Юзуня. - Мой драўляны, там спакайней. А ў гэты можа бабахнуць.

- Я кожны раз ад навальніцы хаваюся сюды - і нічога, ні разу не стрэльнула.

- Усё-такі… Пры жаданні я яшчэ нацаджу бутэлец вінаграднага…

- Ну раз так настойваеш, то пайшлі.

Мужчыны зграблі з табурэткі рэшткі правіянту, узялі чаркі, бутэльку з недапітым віном і пакрочылі па прылясной дарозе. Домік Юзуні мясціўся непадалёку - цераз сем дач ад Жаржэтавай. Жаржэту ўразіў ганак з пафарбаванымі ў блакітны колер пярыламі, прыгожыя, узор-

чатыя вокны веранды. У самым доміку было не вельмі чыста і прыбрана. Сцены, праўда, абклееныя здатнымі белымі шпалерамі. У адным кутку над ложкам красаваліся выразкі з нямецкага часопіса мод з вывамі прыгожых жанчын, у другім па абодва бакі - геаграфічныя карты: "Палітычная карта свету", "Саюз Савецкіх Сацыялістых Рэспублік", "Беларуская ССР". За канапай на высокіх ножках стаяў стары тэлевізар, які не працаваў, а проста знаходзіўся для аздаблення пакоя. На канапе валяліся старыя газеты, кнігі, цалафанавыя мяшочкі. Юзуня адсунуў усё ў кучы ўбок і прапанаваў Жаржэту сесці, а сам прыставіў да канапы невялічкі столік - звычайны ліст фанеры, прыбітай цвікамі да арэхавых ножкаў. Мужчыны расклалі і расставілі прынесенае і пачалі працягваць палудзень. Юзуня разліў вінаграднае па чарках. Нешта Жаржэта крыху замарудзіў са сваёй дозай - і Юзуня прыспешыў яго:

- Давай, братове, а то зараз як бабахне - не паспееш і дапіць.

А над лесам, над дачамі на ўсю моц разбушавалася навальніца. Гром лупіў то тут, то там, па вокнах гучна барабанілі буйныя кроплі дажджу.

- Гэта ж трэба так рана загрымела… Ніколі, здаецца, такога яшчэ не было, - загаманіў Жаржэта. - Мусіць, не зусім добра - гром на голае голле?

- Чаму на голае? Ляшчына ўжо зазеленела.

- Ляшчына, а астатнія дрэвы?

- Нічога, затое ўсё будзе добра расці, - заспакоіў яго Юзуня.

- А што расці? Яшчэ ж нічога не пасаджана, акрамя зімовага часныку.

- А трускалкі, а крапіва… Я люблю суп з маладой крапівы. Кажуць, у ёй ёсць усе элементы з табліцы Мендзялеева.

- Фу, - надзьмуў вусны Жаржэта, - ненавіджу гэтую пякучку.

- Звараная не пячэцца.

Спакваля бутэлька апусцела.

- Можа дастаць з падвала яшчэ адну? - запытаў Юзуня.

- Будзе лішняй… Я і так захмялеў, як сабака. Ведаеш, стары… узрост… Ды і дахаты пара ехаць. Праз сорак хвілін аўтобус на Ліду.

- Я таксама на гэтым паеду. Няма чаго мне тут рабіць.

Мужчыны паўставалі, вылезлі з-за століка. Юзуня схаваў пустую бутэльку за канапу. Выйшлі на ганак. На поўдні пачало падкасвацца, праясняцца неба. Вялізная цёмная хмара сплывала на поўнач. Апошнія кроплі дажджу яшчэ стукалі па даху, але ўжо не з такой сілай, як упачатку. Паступова ўсё сціхла.

Юзуня пазачыняў дзверы, навесіў замок на веснічкі.

Дарога, па якой яны ішлі і паабапал якой яшчэ ярчэй зазелянела ранняя вясновая трава, прывітала іх прыемнай свежасцю.

- Люблю такую пару, - прызнаўся Жаржэта. - Першыя лісцікі на ляшчыне, першыя бутоны на бярозах - душа радуецца.

- А я люблю, калі ўжо ўсё наўкола пазелянее - у лесе, на дачах, у полі. Люблю суцэльную зелень.

- Каму што …

Неўзабаве яны параўняліся з участкам Уласава.

- Ой, ліха! - ускрыкнуў Юзуня. - Няма катэджа!

- Ах, Божа! Што гэта зрабілася?! - усклікнуў Жаржэта.

У роспачы яны стаялі і пазіралі ў той бок, дзе яшчэ зусім нядаўна ўзвышаўся на паўтара метра над долам жалезны "катэдж". Для дваіх стала зразумелым: гром размазаў бляшанку Жаржэты па зямлі.

- А што я табе казаў, - заспакоіў расстроенага Уласава Кашавэла, - не пайшлі б мы тады ў мой домік, дваім тут нам была б хана…

*25.04.2021 г.*

## Злыдух
(Апавяданне)

У Змітруках усе яго баяліся: пры малейшым канфлікце ён кідаўся біцца. І пускаў у ход не кулакі, а ўсё, што толькі траплялася пад рукі. Сілу Злыдух меў не каб вельмі, нават, можна сказаць, слабую - выручалі прылады, прадметы.

Неяк пагодным летнім днём на падворку ў Язэпа моладзь наладзіла танцы. Хоць трошкі і пыліла пад нагамі, але хто на гэта звяртаў увагу: граў гармонік, у жылах хлопцаў і дзяўчат гарэла маладая кроў, усё хадзіла хадуном, цераз край біла энергія. Ніхто і не ведаў, куды гэта энергія можа выліцца, а вылілася яна ў бойку паміж хлопцамі. Самы высокі з іх Мішка Лапуць насадзіў Злыдуху сінякоў пад вачыма.

- Во, - загаманілі дзяўчаты, - хоць на аднаго нарваўся.

Злыдух не абмяк, не разгубіўся. Ён схапіў каля дрывотні тоўстую дубовую калоду (адкуль і сілы ўзяліся?), падбег да натоўпу і як грукнуў Мішку ў грудзі, дык той, як сноп, упаў на зямлю. Ледзьве ў раённай бальніцы за месяц адхаялі.

Злыдух глядзеў на людзей неяк з-пад ілба з прытоенай злосцю. Ён да каго нават і пальцам не даткнуўся, а чалавеку ад яго ядавітага позірку зялёна-шэрых вачэй здавалася, што ён яго ўжо стукнуў.

Свае вясковыя дзяўчаты не хацелі выходзіць за Злыдуха замуж: баяліся яго паскуднага характару, дык ён знайшоў прыгожую, рахманую

дзяўчыну недзе аж за дваццаць кіламетраў, у Дагілянцы. На першых парах суджаная "не раскусіла" Злыдуха. І нават, калі пайшлі дзеці (зусім яшчэ маленькія), Злыдух упарта трымаў сябе ў руках.

Аднак маладая Наталька прадчувала, што вось-вось нячыстая сіла выбухне з яе мужа. І не занадта доўга давялося чакаць такога моманту. Хутка над дзіцячымі галоўкамі засвістала канапляная пуга. Злыдух сек малых дзетак па сцёгнах, па плячах.

- За што ты іх б'еш?! - крычала ў роспачы Наталька. - Што яны такое дрэннае зрабілі?!

- Маўчы! Бо і табе зараз перацягну. Не патурай дзецям. Чужую моркву парвалі. Што, сваёй мала?

- От, калі дзве морквачкі вырвалі - не збяднее сусед. Аддадзім восенню ўдвая больш.

- Вучы, вучы, то зараз на комін залезуць.

А яшчэ Злыдух знайшоў другое, вельмі здатнае, лякарства для выхавання малых. За малейшую правіннасць ён напіхваў хлопчыкам у порткі крапівы і не даваў іх скідаць. Тыя дзікім голасам пішчалі, крычалі, плакалі, падскоквалі ад болю, а цвёрдасардэчны бацька радаваўся такому пакаранню дзяцей. Зноў з хаты выскоквала Наталька і кідалася выратоўваць сваіх блізняткаў - тады і ёй перападала. Злыдух вырваў з-пад плоту крапіву і сек жонку па руках, па твары, па шыі.

- Хоць сам папяку рукі, але адвучу, як без дазволу выбіраць яйкі з курыных гнёздаў! - крычаў Злыдух.

- Малыя ж есці хочуць, - заступалася Наталька.

- Без бацькоўскага дазволу каб і аднаго кроку не ступілі.

У дзяцей чырванелі попкі, ножкі, целы пакрываліся пухірамі, балелі. Маці прыкладвала розныя прымочкі, лісты ад капусты, ад клёнаў. Гэтак лячыла…

… У той марозны дзень Злыдух падняўся раней звычайнага. Накарміў аўсом каня, агледзеў сані, набіў сечкай вялізную конскую торбу, каб было што паесці каню ў лесе, пакуль гаспадар будзе нарыхтоўваць дровы. Пасля прыйшоў у хату падсілкавацца перад дарогай, а сняданак не быў гатовы. Злыдух выхапіў з качаргешніку качаргу і давай дубасіць Натальку па рахманых плячах, па прыгожых нагах, прыгаворваючы:

- Вось табе сала, вось табе бліны! Вось табе ўрок на будучае.

У запечны залямантавалі дзеці:

- Тата, не бі маму!

- Зараз і вам дастанецца!

Злыдух бразнуў дзвярыма і галодны паехаў у лес. А вярнуўшыся

адтуль, яшчэ пахадзіў качаргою па збалелых плячах жонкі. З тае пары сінякі з яе спіны не злазілі. Наталька ўздыхала і плакала:

- Госпадзі, за што ты пакараў мяне такім мужам? Лепей я ў сваёй вёсцы выйшла б замуж за самага апошняга хлопца - і то ў маёй душы было б больш радасці.

Прадучы кудзелю, Наталька іншы раз скіроўвала асцярожныя позіркі на мужа, які латаў стары, парваны ў лесе кажух. У нярвознасці ў Злыдуха штосьці не ладзілася, ён неразборліва барматаў нешта сабе пад нос, апантаны, кідаў пад ногі шыла, іголку, крычаў:

- На! Можа ў цябе лепш атрымаецца?!

- З шылам больш мужчыны возяцца, - адказала Наталька.

Тады Злыдух зноў ухапіўся за качаргу. Але чамусьці перадумаў, абсеў, паставіў яе назад у качаргешнік.

Гледзячы на злосныя выхадкі Злыдуха, суседка Хведарча (мужа звалі Хведар), перажывала, непакоілася за лёс Натальκі і аднаго разу ў агародзе пад час праполкі морквы сказала:

- Наталька, бяры дзетак і ўцякай у сваю вёску, бо ён цябе тут закатуе.

- Не, цётка, што будзе - тое будзе. Не пабягу я адсюль. У нас падумаюць, што муж прагнаў з дому. Цяжка даказаць вяскоўцам, хто правы, хто вінаваты.

- Ну глядзі… Але ж і пабоі цярпець нялёгка.

- Што зробіш?.. Мусіць, мая такая доля…

… Да 1949 года ў Заходняй Беларусі яшчэ не было калгасаў. Людзі самі апрацоўвалі свае палоскі зямлі, спажывалі вырашчаны на ёй ураджай. Аднак дзяржава спаганяла аброк у выглядзе пэўнай колькасці пудоў збожжа (у залежнасці ад памераў палосак), і разлічвацца з дзяржавай бало абавязковым правілам. У каго складвалася так званая "нядоімка" - недаадпраўка зерня, на тое быў агент па нарыхтоўках, які хадзіў па хатах і трывожыў сялян.

Завітаў ён аднойчы і ў двор Злыдуха. Злыдух убачыў яго праз вакно і выскачыў з хаты на падворак.

- Чаму не разлічыўся з дзяржавай? - сустрэў яго пытаннем агент па нарыхтоўках Гарбель. - За табой лічыцца нядоімка - пяць пудоў.

- Я толькі пакінуў крыху жыта на насенне. Больш у мяне няма.

- Бяры ключы ад гумна. Пойдзем паглядзім, колькі ў цябе яшчэ не абмалочанага.

- Я згубіў ключы.

- Пайшлі! Я адчыню і без ключоў.

Дваіх яны пакрочылі да гумна. Гарбель паварушыў вялізны

замок - рукамі, канешне, яго не адамкнуць. Пачаў хадзіць па гумнішчы, шукаючы якой-небудзь металічнай прылады - пад плотам убачыў камень велічынёй з два мужчынскія кулакі, вярнуўся да дзявярэй і пачаў стукаць ім па замку.

- Не бі, - упрошваў Злыдух. - У мяне няма за што купіць новы.

Гарбель не слухаў і яшчэ мацней застукаў каменем па замку.

Злыдух агледзеўся вакол сябе: каля сцяны гумна ляжалі дзве старыя аглоблі без атосаў. Злыдух схапіў адну з іх і, пакуль Гарбель стукаў каменем па замку, з усяго размаху апусціў аглоблю на галаву агенту па нарыхтоўках. Той адразу скурчыўся, асеў, упаў на зямлю. Злыдух стаяў, пазіраў і думаў: "Ці не замала ён атрымаў? Ці не дабавіць яшчэ?"

Пасля наблізіўся, узяў аберуч за плячо і перавярнуў агента на спіну - дабаўляць больш не было сэнсу: Гарбель быў мёртвы. І тут Злыдуха апанаваў страх: уяўны змрок турмы навіс над галавою. "Што рабіць? - разважаў ён. - Куды яго падзець?" Злыдух яшчэ некалькі хвілін пастаяў у ваганні. Пасля ўзяў агента за ногі, зацягнуў за гумно і ўкінуў у крапіву, якая густа разраслася ў невялічкім садочку. Зверху накідаў на марнатку зелля. Сам вярнуўся ў хату.

- Ну што, адамкнуў агент замок? - пацікавілася Наталька.

- Не даў рады.

- Аддай ты гэту нядоімку. Няхай не вяжуцца.

- Мусіць прыйдзецца аддаць, бо яны не адчэпяцца.

- Куды ён пайшоў?

- Недзе па загуменні на сярэдзіну вёскі.

Спакойны голас Натанькі крыху расслабіў Злыдуха, аднак трывога не пакідала яго ні ўдзень, ні вечарам. Патрэбна было нешта рабіць - не ляжаць жа доўга Гарбялю ў крапіве. Ноччу Злыдух падняўся, апрануў парваную на локцях марнатку, старыя заношаныя порткі і паціхеньку пашыбаваў за гумно. Там пастаяў, агледзеўся, прыслухаўся - ні выкрыку, ні гуку ніадкуль не даносілася. Ён зноў узяў Гарбяля за ногі і загуменнай дарогай пацягнуў на сярэдзіну вёскі. Параўняўшыся з гумном Мішкі Лапуця, паклаў агента пад плот, нічым не прыхаваў, а сам, азіраючыся, подбегам паспяшыў дамоў.

Наталька ці не чула, як выходзіў і прыходзіў муж, ці прытваралася спячай - голасу не падавала, і Злыдух, раздзеўшыся, палез пад коўдру.

А назаўтра ўся вёска была ў шоку: нехта прыбіў агента. Наехала міліцыі. Цягалі і дапытвалі Мішку Лапуця, але ў таго ніякой нядоімкі за плячыма не было, і ўвогуле ніякага граху ў душы ён не адчуваў - і гэта адбівалася на ягоным чыстым твары. Апытвалі людзей, вылічвалі, і нехта, нібы па сакрэту, сказаў, што чуў моцны крык і стук каменя аб жалеза на

Злыдухавым гумнішчы. Павязалі Злыдуха і адвязлі ў райцэнтр.

Там следчы Імак доўга не думаў, не разважаў, як падступіцца здалёк, а адразу задаў прамое, каверзнае пытанне:

- За што ты стукнуў агента па нарыхтоўках?

- Няхай не біў бы каменем замок. Няхай пагаварыў бы па-добраму.

І вопытнаму следчаму без лішніх допытаў стала зразумела: агента пазбавіў жыцця Злыдух. Заставалася толькі выехаць на месца здарэння, паглядзець, чым біў, і даведацца, як біў. І два міліцыянеры са следчым прыехалі да гумнішча Злыдуха, агледзелі падзёўбаны каменем замок, кінулі позіркі на аглоблю, якая валялася каля дзвярэй гумна.

- Калом біў? - спытаў следчы.

- Не, аглобляй.

- Гэтай?

- Гэтай.

- Можна было б стукнуць кулаком ці адштурхнуць агента ад замка.

- Ага, адштурхнеш такога вярзілу. Я супраць яго, як кот супраць аўчаркі.

- Слабей ударыў бы хоць …

- Не разлічыў сілы. Думаў толькі напалохаю, а атрымалася…

- Ну што паедзем назад? - звярнуўся следчы да міліцыянераў.

- Аглоблі не будзем браць? - пацікавіўся старэйшы з іх капітан Мурзін. - Усё ж рэчавы доказ.

- А навошта? Чыстасардэчнае прызнанне - і гэтага хопіць.

Зноў усе разам са Злыдухам паехалі ў райцэнтр.

Суд асудзіў Злыдуха на дваццаць пяць гадоў турэмнага зняволення. Тэрмін пакарання адправілі адбываць на востраў Салаўкі, што пад Паўночным Ледавітым акіянам. Адтуль Злыдух дамоў не вярнуўся…

(Наталька на чацвёртым годзе зняволення Злыдуха пісала ліст на імя Лаўрэнція Берыі, каб што-колечы даведацца пра свайго мужа, аднак адказу не атрымала…)

*18.05.2021 г.*

## Нячыстыя грошы
(Апавяданне)

Пастух сельскага вытворчага каапературыва "Сліжы" Зорык Якімчык паклаў на купіну старую ватоўку і сеў. Новых ватовак зараз, мабыць, не выпускаюць: прайшла мода на іх. Дык ён цягае з сабою ў поле зано-

шаную, выбеленую на сонцы. Бярэ не для таго, што халаднавата, цяпла хапае і ў марнатцы - на двары ўсё ж лета, а проста для таго, што добра на ёй сядзець, паслаўшы на камень ці купіну.

І на гэты раз Зорык уладкаваўся на сваёй зімовай вопратцы ў цяньку, пад густым лазовым кустом. Статак пасвіўся здатна, увішна паядаючы траву, і турбавацца, што ён куды-небудзь рынецца не было патрэбы.

Зорык сядзеў і аглядаў наваколле. Неўзабаве па чыгунцы загрукатаў цягнік. Пастух пахіліў галаву налева і пералічыў вагоны, іх было пяць. Ну вядома ж, цягнік імчыцца на Маладзечна. І раптам праз акно з апошняга вагона каршуном выскачыла нешта цёмнае і ўпала пад адхон. Зорыка падмыла цікавасць: што б там магло быць, і калі цягнік схаваўся за далёкім лесам, пастух устаў, яшчэ раз акінуў беглым позіркам вялікі статак і пакрочыў туды, куды ўпаў невядомы прадмет.

Знайсці яго было не цяжка: пільным позіркам Зорык улавіў тое месца, куды паляцела нешта невядомае, і неўзабаве напароўся на невялікі звычайны чамаданчык цёмна-карычневага колеру.

Зорык падняў знаходку, паспрабаваў яе адчыніць. Замок не паддаваўся. Тады пастух закруціў чамаданчык у ватоўку і вярнуўся да свайго статку. А якраз наступіў час гнаць каровы на дойку, і, размахваючы кіем, пакрыкваючы, Зорык пахіляў быдла да фермы. Каб быў другі пастух, рабіць гэта было б прасцей, але той на сёння адпрасіўся, спаслаўшыся на тое, што блага сябе адчувае і хоча пад'ехаць ў паліклініку. Аднаго каровы не вельмі слухалі, і Зорык спакваля падцiскаў то адзін, то другі край статку і нарэшце яго выраўняў і накіраваў на шматлікія сцяжынкі, што вялі да фермы.

А ўнутры няспынна падмывала даведацца, што ж там ляжыць у чамаданчыку. Некалькі разоў ён патрос знаходку разам з ватоўкаю перад сабою - нешта паціхеньку грукала ў сярэдзіне.

Здалёк пастух убачыў, што каля кароўнікаў ужо мітусяцца даяркі, чакаючы, сваіх пярэсценькіх для дойкі, і, падагнаўшы статак крыху бліжэй да фермы, сам павярнуў убок да свае недалёкай вёскі Каўтуны.

Жонкі дома не было: яна працуе даяркай і пайшла ўжо на ферму. Зорык адразу пакіраваў у свіронак і, дастаўшы са скрыначкі адвёртку, малаток, пачаў увіхацца над чамаданчыкам. Замок хутка паддаўся - і Зорык прыпадняў верхняе вечка. Бацюхны! Што ён тут убачыў?! Поўны чамаданчык даляраў, пісталет, некалькі абоймаў патронаў і нешта ў пакеціках накшталт наркотыкаў. "Кантрабанда! - стрэльнула думка ў галаву пастуха. - Што рабіць? Можа аднесці чамаданчык назад, на тое самае месца, дзе падабраў, каб не ўліпнуць у якую-небудзь паскудную

гісторыю. Але ж даляры… Яны пад плотам не валяюцца…" Думкі роем дзікіх пчол разварушыліся ў галаве Зорыка.

Нарэшце ён рашыў: чамаданчык назад не адносіць. Бо яго ўсяроўна знойдзе хто-небудзь іншы, больш смялейшы, і прысвоіць сабе.

Вярнуўшыся ў сенцы, па крутой драўлянай лесвіцы Зорык ускарабкаўся на гарышча, пад трэцяй ад шчыта кроквай разгроб сухое кляновае лісце, якім дзесяць гадоў таму назад ён уцяпліў столь, і паклаў у ямку чамаданчык. Зноў засыпаў яго лісцем. З надзеяй, што яго тут ніхто не знойдзе, апусціўся ўніз, пераступіў парог кухні.

Боршч у чыгунку, які Зорык жалезнай качаргой выцягнуў з печы, быў яшчэ цёплы і гаспадар, наліўшы яду ў міску, пачаў харчавацца. Аднак ні боршч, ні кавалачак мяса ў ім, ні нават моцная кава, якою ён пасля запіў яду, не выбілі з галавы думак пра знаходку.

Зорык пайшоў у залу і, скінуўшы боты, прылёг на канапу. "І чорт яго ведае, - разважаў ён, - хто мог выкінуць гэты чамаданчык з вагона. Мабыць, не ад дабра чалавек так паступіў. Тут штосьці нячыстае. Ну дапусцім, ён кантрабандыст. Стаяў у тамбуры і курыў, а тут у папярэднім вагоне міліцыянеры з аўчаркаю правяраюць у пасажыраў пакеты, сумкі, рэчмяшкі, чамаданы. Дойдзе чарга і да яго - і усё, капут. Кантрабандыст вярнуўся ў свой апошні вагончык і, каб пазбегнуць бяды, выкінуў чамаданчык праз вакно, не пашкадаваў і даляраў. А можа ўсё адбывалася і па-іншаму, хто яго ведае. Ну нешта ўсё ж напалохала чалавека, аднекуль адчуў ён знак трывогі". "А колькі ж там даляраў?" - азадачыўся Зорык і зноў палез на гарышча. Укленчыў пад кроквай, дастаў чамаданчык і пералічыў усе купюры. Даляраў аказалася больш, як семсот тысяч. "Вось гэта дык знаходка! У адно імгненне я стаў багатым".

Зорык зноў вярнуўся на сваю канапу. Прылёг. Працягнуў рукою па сівых валасах. "А што, каб чамаданчык здаць у міліцыю, - памяркаваў ён. - І рукі былі б чыстыя… Але не… А раптам вылавілі ці вылавяць таго кантрабандыста, пачнуць мяне цягаць па судах як сведку. Навошта мне на старасць такая марока? А той адсядзіць тэрмін, вернецца, ды яшчэ мяне прыб'е ноччу… Не, на такое я не пайду. Вось, як той расіянін казаў, "не было печали, так черти накачали"".

Аднак пара гнаць статак у поле. Дойка ўжо, напэўна, скончылася.

Па дарозе Зорык занепакоіўся: "А можа хто бачыў, як я падбіраў чамаданчык, і данясе ў міліцыю. Мяне возьмуць за жабры. Альбо той кантрабандыст выйшаў чыстым з вады і будзе лазіць па навакольных вёсках, апытваць людзей, ці не знаходзіў хто яго карычневага чама-

данчыка. А хтосьці возьме і скажа: "Гэта Зорык Якімчык падабраў твой чамаданчык". Таксама сітуацыя не з лепшых, бо пры перадачы знаходкі кантрабандысту, ці як яшчэ яго назваць, могуць бравыя хлопцы наляцець і дваіх павязаць. Ад іх нічога не ўтоіш. Давядзецца пакаштаваць турэмнага хлябца".

Пасля абеду Зорык пахіліў свой статак у супрацьлеглы ад чыгункі бок і, калі каровы прагна прыпалі да травы, паслаў на камень ватоўку і сеў. Сюд-тут ён пазіраў туды, дзе пашчасціла натрапіць на багаты чамаданчык: ці не лазіць там у пошуках той злашчасны кантрабандыст ці яго пасярэднік? Але там нікога не было.

Думкі ўсё ж крута мітусіліся ў галаве пастуха, і ён паміж іншым прыкінуў: а ці не падзяліцца сваімі разважаннямі з напарнікам, другім пастухом Сцяпанам Дзюкам - можа ён што добрае нараіць. Але не: Дзюка не стрыманы на язык. Ён скажа пра знаходку каму-небудзь іншаму - і пайшло-паехала, дойдзе да органаў, мяне павяжуць, як ката перад аперацыяй.

Зорак гэтую версію адкінуў. "Можа сказаць жонцы? - развважаў далей Зорык. - Яна баба талковая, умее да месца падкінуць трапную параду. Аднак невядома, як яна адрэагуе на маю нечаканую вестку. Магчыма, накінецца, накрычыць, загадае аднесці знаходку назад, каб не ўвяз у якую судовую справу. Не, пакуль і ёй нічога не буду гаварыць".

Рэшту дня Зорык правёў без асаблівай трывогі. Думкі самі сабой спакваля ўляглiся, паспакайнела на душы. А тут яшчэ і сонца замоцна прыпякло - і ён падаўся у засень дрэў, якія заманлівым шнурком выцягнуліся ўздоўж неглыбокай рачулкі.

Вечарам Зорык цвёрда загадаў сабе спаць і нават не ўспамінаць пра той маленькі чамадачык на гарышчы. Ды дудкі. Зноў усё бурна разварушылася ўнутры, сон не ішоў. "Ну добра, - мяркаваў пра сябе пастух. - Знайшоў даляры. Знайшоў - і ўсё. І каму якая справа да гэтага? Мог бы іх знасці і хто іншы. Пашчасціла мне. А вось пісталет, патроны, наркотыкі… За гэта, калі агледзяць, адразу возьмуць за хобат. Трэба ад іх пазбавіцца".

Раніцай, калі жонка пайшла на працу, (яна заўсёды выходзіла на гадзіну раней за мужа), Зорык узяў цалафанавы пакет, ускарабкаўся на гарчышча, разгроб кляновае лісце і дастаў чамаданчык. Даляры, складзеныя ў невялікія стосікі і перавязаныя гумкамі, пераклаў у пакет і зноў схаваў пад сухім лісцем, а чамаданчык, у якім засталіся пісталет, патроны і пакецікі з наркотыкамі, панёс уніз. На кухні зняў з вешалкі ватоўку, захутаў у яе чамаданчык і пашыбаваў у падпаветку. Там ён туга перавязаў знаходку алюмініевым дротам, моцна, наглуха прычапіў

да чамаданчыка гіру ад сячкарні, якая ўжо не была патрэбная: каровы не трымалі, сечкі не рэзалі. Усё захутаў у тую ж выручалачку-ватоўку, замкнуў сені і пакрочыў у лес.

Людзі маглі прыкмеціць: чаму гэта Зорык не па прамой дарозе шубые на ферму, а апісвае дугу. Але каму якая справа да яго сцяжындарог. А ватоўка? З ёю ён ніколі не разлучаецца - гэта ўсе добра ведаюць.

У лесе Зорык натрапіў на круглае, метраў шэсць у дыяметры, зацягнутае зялёнай раскай і ціной азерца. "Вось тут табе і будзе магіла", - ціха прамовіў ён, дастаў з ватоўкі і разам з гірай кінуў на сярэдзіну азерца свой чамаданчык. Раска разышлася, утварыўшы невялікае акенца на тым месцы, куды ўпаў груз. З дна на паверхню вады забулькалі брудныя бурбалкі. Потым ўсё супакоілася. Раска зышлася, зацягнуўшы сабою часовае азернае акенца. У душы Зорыка ўсталявалася небывалая палёгка. Ён амаль подбегам шыбаваў на ферму, не адчуваючы за сабою някай віны за зробленае.

На ферме даяркі ўжо заканчвалі дойку кароў, каля дзвярэй крайняга кароўніка з кіем у руцэ, нацягнуўшы белую кепку на вочы, стаяў яго напарнік Сцяпан Дзюка. Зорык наблізіўся і падаў руку.

- Ну як, справіўся адзін? - спытаў Сцяпан.

- А што тут спраўляцца. Сядзі ды назірай за статкам, каб не ўлез у шкоду.

У полі Зорыка падмывала некалькі разоў прагаварыцца, але ён тут жа спахопліваўся і падкусваў язык. А тут яшчэ Дзюка неяк падазрона, як падавалася Якімчыку, пазіраў на свайго напарніка. Можа ведае што?.. І Зорык стараўся трымацца паводдаль ад Сцяпана, пераходзіў на другі бок статку.

Начэй пяць Зорык спаў спакойна. На шостую зноў нешта засвярбела ў галаве: "Ці надзейнае ўсё ж гэта месца - гарышча? Бацька некалі казаў, што ў вайну немцы і паліцаі, калі чаго ці каго шукалі, у першую чаргу ператрасалі гарышча, а пасля ўжо пароліся ў хаце. І зараз, натрапіўшы на мой след, міліцыянеры ці хто-небудзь іншы з праваахоўнікаў, таксама могуць узабрацца на гарышча - і тады бывай і не чакай сяло роднае.

Зорык круціўся ў пасцелі, як вуж у мяшку. Паляжыць крыху на левым баку - перавернецца на правы, паляжыць на правым, перавернецца на спіну, уставіўшы вочы ў столь. "Усё-такі трэба перахаваць грошы", - цвёрда рашыў ён. Пад раніцу заснуў. Разбудзіла жонка:

- Зорык, уставай! Пара ісці на работу. Паднімайся! Сняданак на стале.

Зорык залыпаў вачыма, не цямячы, што адбываецца, марудна,

цяжка пацягнуўся, абапёрся на локаць, устаў.

- Што ты казала?

- Снедай. Я пайду на ферму.

Ён працёр чучкамі вочы, уставіў ногі ў тапкі. Хацелася спаць, але пабаяўся прыкладваць галаву да падушкі: спозніцца на працу. На кухні халоднай вадой памыў твар і хутка-хутка паснедаў.

- Куды перахаваць даляры? - услых спытаў сам сябе і ўспомніў пра тоўсты, магутны дуб у лесе, пад якім ён некалі хаваў ад бацькі перачынны ножык, знойдзены каля крамы. Баяўся, што бацька загадае аддаць ножык уладальніку. - Туды і панясу.

Зноў палез на гарышча. Яшчэ тужэй звязаў канцы цалафанавага пакета, апусціўся ўніз, уладкаваў даляры ў ватоўку і напрасткі цераз луг, па расе, крадучыся, як ліса між кустоў, паспяшыў у лес.

Пад дубам некалькі хвілін пастаяў, азіраючыся вакол сябе: ці няма каго-небудзь паблізу? Ніхто не трапіў на вока. Побач убачыў і падняў сухую, цвёрдую галіну, пераламаў на калені і давай корпацца між карэннямі велікана, разрыхляючы зямлю. Прэшчамі выгортваў пясок на паверхню. Нарэшце, ямка была гатовая. Паклаў у яе пакет з грашыма, прысыпаў пяском. Для большай маскіроўкі непадалёку наскубаў ком зялёнага моху, разаслаў над схованкай, каб не прасвечвалася свежая зямля. Зверху кінуў некалькі дробных галінак, яшчэ раз прасвідраваў позіркам наваколле і заспакоіў сябе: усё ціха і гладка.

Па дарозе на ферму Зорык вымыў расою рукі, адкінуў прэч усе думкі пра грошы.

Месяц праляжалі яны пад дубам. Зорык не тое, што не ўспамінаў пра іх: успамінаў, разважаў, аднак нічога не рабіў. Пасля стаў непакоіцца: вось наступіць восень, пасыплюцца дажджы… Дзе гарантыя, што вада не пранікне ў пакеты? Зноў жа дзікія свінні, рыючыся пад дубам, могуць адкапаць даляры і параскідаць па лесе… З мае знаходкі атрымаецца пшык. Хлеў - вось дзе для іх надзейнае сховішча.

У канцы верасня дні прыкметна пакарацелі. З дубоў пачалі ападаць жалуды. Задажджылася. Гэта яшчэ больш падагнала Зорыка адкапаць грошы. Ён прыхапіў стары звычайны, бульбяны мяшок і на сутонні, у прыцемках прабраўся да тайніка. Адкінуў галінкі, адсунуў у бок мох, які ўжо высах і парыжэў, капачкаю, з кароткім чэранем, адкапаў пакет. Дарэмна хваляваўся: даляры былі цэлыя, чыстыя, не пашкоджаныя вільгаццю. Ён уладкаваў у мяшок пакет і зноў напрасткі пакрочыў дамоў. Жонкі ў двары не было, і ён зайшоў у свіран, прыкінуў, дзе тут лепш было б пакласці мяшок. Укінуў у невысокі пусты засек. Зрэшты ў свіран Стаська амаль ніколі не заглядвае, тут мужчынская парафія - і

знаходку можна было б пакласці ў любое месца. Але для перастрахоўкі няхай сабе паляжыць у засеку.

- Дзе так доўга бавіўся? - спытала Стаська, калі Зорык пераступіў парог кухні.

- Хадзіў у лес, выразаў з арэшыны чэрань для рыдлёўкі.

- А што стары паламаўся?

- Трохі трывае. Але пару разоў капнуць і трэсне. Надламаны.

Зорык абмануў сваю Стаську. Ён даўно выразаў гэты чэрань і паставіў у падпаветцы ў кут. Яна проста на яго не надыбала.

Як заўсёды, і ў гэты дзень Стаська пайшла першай на ферму. Імгненна з падворка Зорык шмыгануў у свіронак. Дастаў з засека мяшок, узяў у падпаветцы рыдлёўку і ўвайшоў у хлеў. Найбольш прыдатнай, як ён палічыў, для схованкі грошай была клетка, дзе стаяла карова. Рэшткі гною тут даўно высахлі, яна знаходзілася далей ад дзвярэй, і, не марудзячы, Зорык пачаў капаць. Выкапаў ямку амаль да калена, дастаў з мяшка пакет і закапаў. На паверхні разраўняў сухі, струхнелы гной. "Цяпер не страшны грашам ні дождж, ні снег, ні свіное рыла".

Хутка бег час. З кожным днём рабілася халадней. Неўзабаве каровы сталі на стойлае ўтрыманне, і Зорыку не патрэбна было хадзіць на ферму. А згадкі пра даляры не пакідалі яго ні на дзень. У канцы лістапада, апоўначы, ён неяк падумаў: "Чаго гэта я ваджуся з імі, як кот з прыдушанай мышшу. У горадзе сын не мае кватэры, з жонкай і двума дзяцьмі жыве ў інтэрнаце. А я ўсё чагосьці баюся, дрыжу. Дам яму хоць шэсцьдзесят тысяч даляраў, няхай купіць двухпакаёвую ці трохпакаёвую кватэру. Спытае, дзе ўзяў грошы, скажу, што разам з маці зарабілі на ферме. Хоча верыць - хоча не верыць. Гэта ўжо яго справа".

На другі дзень Зорык адкапаў грошы, аднак ад іх засталася толькі адна труха: мышы прагрызлі ў некалькіх месцах пакет, расшматалі і разарвалі на дробныя кавалачкі даляры, перамяшалі іх з пяском, зрабілі ў ямцы гняздо для сябе. Склеіць іх было немагчыма.

Гаспадар уздыхнуў і ўголас прамовіў:

- Чужыя, нячыстыя грошы… Як яны прыйшлі, так і пашлі…

*26.07. - 31.07.2021 г.*

## Жалеза перажыве чалавека

У пачатку вёскі паказаўся чалавек з сахарам на плячы. Ён семяніў подбегам, зрэдку стрыкаючы позіркамі па падворках, цікуючы, што робіцца там.

Параўняўшыся з пенсіянерамі, якія сядзелі на лаўцы насупраць

Сямашкавай хаты, ён адвярнуў галаву ў другі бок, каб не прывітацца з імі: навошта яму яшчэ такі клопат.

- Бач ты, Вінцуська ніколі не ідзе дамоў з пустымі рукамі, - заўважыў Гоман, гледзячы на каслаўку саломы, уплеценую ў сахор мінака, - хоць перавясла, а нясе з сабой.

- Гэты нічога не ўпусціць, з карэннем з зямлі выдзярэ ўсё, - дабавіў Шлапік.

У сям'і Вінцуські ўсе былі прывучаны да нажывы. Ніхто не павінен ісці дамоў проста так, без нічога. Нават дзевяностагадовая Мальвіна, цешча Вінцуські, загнаўшы на рэчку гусей і вяртаючыся дамоў, заглядвала ў калгасны двор, дзе будаўнікі ставілі нейкі драўляны будынак, і набірала ў прыпол фартуха столькі трэсак, колькі магла панесці.

Прыклад у сквапнасці паказваў сам Вінцуська. У яго портках былі глыбокія, аж да калень кішэнні, і ён набіваў іх спелымі каласамі - для курэй смачны пачастунак.

Любіў Вінцуська хадзіць у лес па грыбы, але збіраў іх без усялякай паэзіі і замілаванасці, а проста, як воўк накідваецца на соннага зайца, нападаў на іх і выдзіраў з глебы з карэннем, абы пабольш нахапаць. Шыбуючы дамоў яшчэ думаў і аб навары: зломіць, бывала, на ўскрайку бярозку ці арэшыну, пачэпіць кошык на кій і, задаволены, крочыць… Кошык можна было б несці і ў руках, як гэта робяць іншыя людзі, але кій для яго дадатковы прыбытак. Некалькі разоў схадзіў у лес - і ўжо можна адзін раз прапаліць печку.

Аднойчы Вінцуська неяк зазірнуў за хлеў у свой сад і ўбачыў, як яго малодшы сын Цішка і суседскі хлопчык Паўлік абіраюць з куста жоўтыя парэчкі. Вінцуська ўзвінціўся, зняў з порткаў дзягу і давай сцябаць па плячах то Цішку, то Паўліку.

- Калгас развёў, недавярак! - крычаў ён на сына. - Навёў тут усякіх. Будзеш прыводзіць больш?

- Не буду, татачка, не буду! Колькі жыць буду - не прывяду чужога.

- Вон адсюль! - крыкнуў Вінцуська на Паўліка, і хлопчыкі двух праз садок пабеглі на аселіцу.

* * *

Восень у тым годзе выдалася цёплай, сухой. Па палетках і лугах густой сеткай слалася павуцінне, чапляючыся людзям і жывёле за ногі.

Бульбу людзі капалі ў адных кашулях. Пыл з-пад матыкаў сляпіў ім вочы, але гэта было не горш, чым калі б марасіў халодны, нудны дождж.

Да Вінцуські прыехалі з горада на дапамогу дочкі з мужамі і сыны, якія ўжо паспелі вырасці, з жонкамі. Яны раней за іншых пачалі завіхацца на полі, бо Вінцуська, як толькі пачало світаць, самы першы наганяў барознаў. Хто яшчэ і не прыступіў да копкі, а на сотках Вінцуські ўжо бялелі поўныя мяшкі бульбы.

Коней для выгорвання клубняў было малавата, аднак яшчэ горш пакутавалі калгаснікі ад недахопу плугоў. Многія з тых, якія яны здалі ў калгас, знасіліся ці паламаліся, астатнія, як толькі трактары выцяснілі конскую сілу, людзі разабралі па хатах.

Вінцуська і тут усіх перахітрыў: прыцягнуў дамоў аж два плугі. Іншым увогуле ні аднаго не дасталося. Затуплены, пакрыўлены, заржавелы прывалок на свой падворак і Сарафім Крынчык, з якім зараз і пакутаваў на сваіх сотках.

- Схадзі пазыч у Вінцуські лепшага, - дапякала яго жонка Стэпка. - Ты ж бачыш, што палавіна бульбы застаецца ў зямлі пасля твайго выгорвання.

Сарафім спыніў каня, агледзеўся. У баразне, сапраўды, было малавата клубняў: плуг слізгаў па паверхні і не выгорваў іх ці разрэзваў напалавіну. Сарафім як не паднімаў ручкі ўгору, а плуг усё роўна не ішоў у глыбіню: забулавацеў канчаткова.

- Не дасць, - аднекваўся Сарафім.

- А ты папрасі, - настойвала Стэпка. - Можа перад сваімі дзецьмі пасаромеецца адмаўляць.

- Ён не пасаромееца. Бачыш аднёс плуг ад дарогі аж на сярэдзіну і прыкрыў бульбоўнікам, каб ніхто не ўбачыў, каб нікому не даць, - настойваў на сваім Сарафім.

- Ну, што будзе, тое будзе, - не адступала Стэпка. - Не заб'е ж ён цябе там.

Сарафім памікаў, памікаў і пайшоў. Па дарозе да яго далучыліся яшчэ некалькі мужчын, у якіх таксама альбо зусім не было плугоў, альбо былі такія ж зношаныя. Яны ушчыльную наблізіліся да Вінцуські, які завязваў крайнія ад дарогі мяшкі. Першым пачаў Сарафім:

- Вінцук, дай плужка дзве баразны выгнаць.

Вінцуська нібы не чуў, маўчаў і увішна корпаўся каля мяшка.

- Ці чуеш? - паўтарыў Сарафім. - Пазыч плужка на мінутку.

- Няма ў мяне плужка.

- Дык вунь жа стаіць… пад бульбоўнікам.

- Гэта не плуг.

- Ручкі ж тырчаць.

- Адчапіся. Няма ў мяне плуга.

Сарафім не ўтрымаўся:

- Чаго ты шкадуеш? Жалеза? Жалеза перажыве чалавека!

Вінцуська раззлаваўся:

- Ідзі адсюль!

Астатнія мужчыны не сталі прасіць плуга і апануранія разышліся па сваіх сотках.

Стэпка назірала за гэтай сцэнкай і абурылася, калі муж вярнуўся з пустымі рукамі:

- Каб яму бог пашкадаваў пяску на вочы. Няшчаснага плуга і таго не пазычыў. Вядома ж золата.

Яе зычны голас пачулі суседзі па сотках і прыкра паглядзелі ў бок Вінцуські, які ўвішна завязваў мяшкі.

* * *

Неўзабаве ранішняя мітусня на полі спала. Мужчыны, хто лепшым, хто горшым плугам, наганялі боразнаў і пачалі выбіраць з іх клубні. Усе так захапіліся работай, што мала хто і паглядаў на сваю вёску, якая мясцілася ў даліне кіламетры за тры ад бульбяного поля.

Першым агонь убачыў Рыгор Жук.

- Пажар! - роспачна крыкнуў ён і, падняўшыся з каленяў, працягнуў руку ў бок вёскі. - Пажар!!!

Усе, хто пачуў ягоны голас, выпрасталіся і ў жаху на імгненне застылі: у вёсцы, сапраўды, бушаваў пажар. Чорны шырокі шалік дыму густа катлаваў у неба, а знізу яго падпіралі чырвоныя, вострыя языкі полымя, прасвечваючыся праз галіны старых дрэў.

Людзі ў жаху кідалі ў барозны матыкі і, хто як мог, праз палеткі беглі да вёскі, якую ў 1914 і ў 1950 годзе пажары знішчалі дарэшты. Кожны раз яна аднаўлялася, аднак будынкі і зараз стаялі ў ёй даволі шчыльна, і сяляне баяліся, што вогненная стыхія зноў разгуляецца на ўсю моц. Абнадзейвала толькі тое, што была ціхая бязветраная пагода, і агонь увесь час шугаў угору, не скакаў на суседнія дахі.

Маладзейшыя мужчыны і жанчыны абганялі старэйшых, некаторыя з іх ужо узбеглі на грэблю, дзе было латвей бегчы, чым па полі.

- Ды рухайся ты хутчэй! - крыкнула Стэпка на Сарафіма. - Бачыш, гарыць на сярэдзіне. А там наша хата.

- Усё… Я выдахся, - адказаў Сарафім і паклаў рукі на грудзі. - Гарыць… Няхай гарыць. Няхай усё пойдзе дымам і прахам.

Вінцуська ж імгненна запрог у воз каня і са сваім сямейсвам

абагнаў усіх бегшых, першым прыскакаў на пажар.

Гарэў як раз яго дом. Увесь будынак разам з прыбудоўкамі і хлявамі быў ахоплены прагным полымем агню. Ужо ўпаў дах, правалілася столь,чырвоныя языкі рэзка выбіваліся праз вокны і дзверы на двор.

Вінцуська схапіў з плоту коўдру, сунуў яе ў вядро з вадою, накінуў сабе на галаву і памкнуўся праз акно паглядзець, што там робіцца з чамаданам, у якім ляжалі грошы, пад ложкам. Але агонь моцна апёк яму нос, бараду, апаліў павейкі.

Вінцуська адбегся ад сцяны, ухапіўся рукамі за галаву і - бац! - абшырны інфаркт…

Усё згарэла да падмурка… Застаўся на полі толькі адзін плуг, схаваны пад бульбоўнікам…

Жалеза перажыло чалавека…

*07.11.2021 г.*



*Леанід Лявонцьевіч Лаўрэш (нар. 1 сакавіка 1963, Ліда) - пісьменнік (сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2018 па 2021 г.), незалежны даследчык. Скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1985), інжынер. Стваральнік гістарычна-краязнаўчага сайта pawet.net. Жыве ў Лідзе. Аўтар 12 кніг і больш за 300 артыкулаў.*

# *Леанід Лаўрэш*

## Цягам гадоў

У 2014 г. кожны вечар чытаў віленскую прэсу 30-х. Калі дайшоў да жніўня 1938 г., пачатак катастрофы пачаў адчувацца нават скурай. Праглядаючы некралогі, зафіксаваў сябе на думцы, што вось ён добры лёс - памерці ў 1938 г.

Мой унук у свае 2,5 годзіка аддаваў перавагу навукова-папулярнаму фільму BBC пра даследаванні Месяца і не жадаў глядзець мульцікі. Калі і зараз, ён у свае 4,5 года праз вакно бачыць Месяц ці зоркі, заўсёды радуецца і цягне да іх ручкі. Аднойчы на раніцы плакаў і не хацеў ісці ў садок, покуль не ўбачыў Месяц. Убачыўшы ў небе срэбны сярпок, пачаў усміхацца і з задавальняем пайшаў на двор, "каб прывітацца з Месячыкам".

Усё ж кроў вялікая рэч, з дзяцінства мяне больш за ўсё цікавалі

зоркі і, праз нейкі час мне будзе каму падараваць свае тэлескопы.

Дом маіх бацькоў знаходзіўся недалёка ад рынка. У канцы 1960-х - пачатку 1970-х, кожную нядзелю, гадзін з 4 раніцы, праз адчыненую летам фортку быў чутны візгат парсюкоў - сяляне, як і ў мінулыя стагоддзі, везлі на гарадскі рынак свой адвечны тавар. І нават калгаснае жыццё не змяніла нічога. Але да канца 1970-х стала ціха - натуральным чынам сышлі тыя, хто раней быў гаспадаром, і нядзельнай раніцай стала ціха.

Занатаваў падчас пандэміі каранавіруса: "Калі раней фраза "чхаў я на вас" успрымалася як абраза, дык зараз гэта пагроза!"

Той, хто ведае, зразумее, што смерць ад каронавіруса непараўнальна больш гуманная, чым смерць у дэменцыі. Калі мог бы выбіраць, замест дэменцыі выбраў бы каронавірус, нават з мінусам 10 гадоў жыцця.

Калі ў сакавіку 2013 г. злягла (і больш не паднялася) маці, дзеля псіхалагічнай разгрузкі пачаў многа хадзіць. Потым замераў, што атрымлівалася па 15 000 крокаў штодзень. На працу і з працы. Палову жыцця прахадзіўшы ў паліто, касцюмах і туфлях, але менавіта тады канчаткова перайшоў на любімыя з даўніх часоў джынсы Wrangler і вопратку фірмы “Калумбія”, прычым “Калумбія” з таго часу з вялікім адрывам дамінуе "па ўсіх намінацыях".

Прадаў свайго “Опеля” і адразу адчуў, як паменшылася задавальненне ад звычайных штодзённых шпацыраў па 15 000 крокаў. Усё ж, калі аўтамабіль увесь час чакае цябе каля пад'езда, задавальненне ад шпацыраў, значна большае. Купіў новае аўто. І адразу хадзіць стала цікавей.

Працуючы над кнігай "Шэпт пажоўклых старонак" не розумам, а сваёй скурай адчуў, што я "мяса ад мяса і костка ад косткі" свайго беларускага народа. Толькі дзеля гэтага можна было напісаць кнігу ў 1,6 мільёна знакаў.

Калі перад табой мур, які немагчыма пераадолець, бо супраць цябе ўсе чалавечыя і прыродныя законы, застаецца толькі надзея на калі-небудзь … а можа калі-небудзь?

Самай неардынарнай падзеяй са мной у сацыяльных сетках, быў

"бан" і скасаванне сяброўства за "лайк". За тое што паставіў лайк пад навагоднім пастом. Дальбог! Пстрык, як таракана ....

Жанчына на чэрвеньскім рамонкавым полі збірае кветкі - ніколі ў жыцці не бачыў нічога прыгажэйшага.

Гэта мой самы лепшы на свеце тата - Лаўрэш Лявонцій Васільевіч (1923-2009). Якім чынам заходні беларус ужо ў верасні 1941 г. патрапіў у Чырвоную Армію, само па сабе з'яўляецца асобнай і цікавай тэмай (тым больш калі ведаць, што 18 гадоў яму споўнілася толькі ў снежні). На першым здымку ён у польскай форме, заходняга беларуса з "паўшэхнай школай" у 1944 г. перавялі ў Войска Польскае. На другім - у форме Чырвонай Арміі, у якую зноў вярнулі ў 1945 г. Да 1944 г. - аніводнай узнагароды - заходнікам, мякка кажучы, не давяралі. Па выніках вайны - 4 медалі: "За отвагу", "За освобождение Варшавы", "За взятие Берлина", "За победу над Германией" і не ўручаны ордэн Чырвонай зоркі (узнагарода гэтак і не знайшла героя). Дарэчы - такая колькасць рэальных, баявых узнагарод амаль што ва ўсіх сапраўдных франтавікоў. Тата ніколі не любіў расказваць пра вайну.

Тата расказваў, як на фронце, ён выпускнік "паўшэхнай школы" (польская сямігадовая школа), тлумачыў выпускніку савецкай школы размеркавання тавараў праз карткавую сістэму. Савецкі чалавек казаў: "Дык кожны, хто захоча, скупіць увесь тавар і нічога не будзе, паліцы





будуць пустыя". Бацька не казаў, што яны ў вас і так пустыя, і тады, пэўна, не надта разумеў пра баланс паміж таварнай і грашовай масамі ў рынкавай эканоміцы (гэта падчас перабудовы мы ўсе сталі эканамістамі), але адказваў пераканаўча:

- Калі ўсе скупіць, дык яўрэй Мойша яшчэ прывязе!
- А калі я пажадаю вагон ботаў?
- Толькі заказвай, Мойша табе і два вагоны ботаў прывязе!

Адказаў на пытанне рэдакцыі часопіса "Маладосць" (№ 6, 2019 г.), каго б я бачыў нобелеўскім лаўрэатам:

*Калі б ад мяне залежала справа прысуджэння Нобелеўскай прэміі па літаратуры і прысудзіць можна было пасмяротна, я ўганараваў бы гэтай прэміяй Сяргея Пясецкага. Чалавека, якога нават з турмы вызваліў першы напісаны ім раман "Каханак Вялікай Мядзведзіцы". Раман гэты адразу быў перакладзены на адзінаццаць моў.*

*Чытаю Пясецкага больш за дваццаць гадоў і заўсёды атрымліваю эстэтычнае задавальненне ад якасці яго прозы. Героі яго раманаў не могуць не захапляць, апісаныя ім няпростыя жыццёвыя сітуацыі заўсёды выклікаюць давер: адчуваеш, што так, менавіта ўсё так і было, як гэта ў рамане пададзена. Да таго ж, значная частка падзей у раманах Пясецкага адбываецца на Лідчыне, і гэта не дзівіць: менавіта на Лідчыне ён рабаваў, у Лідзе яму прысудзілі расстрэл, і калі б пасля суда будучага пісьменніка не памілавалі, дык нікому не вядомы на той час выведнік і кантрабандыст знайшоў бы свой апошні спачын каля старых лідскіх могілак - у месцы, дзе расстрэльвалі асуджаных падчас ваеннага становішча ў Заходняй Беларусі 1920-х гадах. Аднак і пасля выхаду з турмы Пясецкі жыў на Лідчыне, пра што я спадзяюся распавесці ў адным з будучых нумароў паважанага мною часопіса "Маладосць". Таму Сяргей Пясецкі асабіста для мяне - яшчэ і шматгадовая і цікавая тэма, вартая вывучэння.*

*Вядома, што апошнім часам Нобеля па літаратуры даюць ці за новы, раней ігнараваны грамадскасцю жанр, ці за адкрыццё нейкай новай культурнай тэрыторыі. Лічу, што менавіта гэтую новую тэрыторыю недзе паміж Мінскам, Гроднам і Вільняй для сусветнай літаратуры якраз і адкрыў Пясецкі. У самым цэнтры гэтай тэрыторыі ляжыць мая малая радзіма.*

*У 1938 годзе Сяргей Пясецкі ўжо намінаваўся на літаратурную прэмію Нобеля, але не атрымаў яе, і таму я, выкарыстоўваючы права, дадзенае мне рэдакцыяй часопіса, вылучаю на Нобеля пісь-*

*менніка Сяргея Пясецкага.*

*Думаю, што чытачы мяне падтрымаюць.*

Адказаў на пытанне рэдакцыі часопіса "Маладосць" (№ 7, 2020 г.), "Якія людзі патрэбны ў будучыні Беларусі?"

Як чалавек, які пражыў шмат гадоў, я упэўнены, што ўсім нам патрэбны інтэлектуалы сусветнага ўзроўню, прычым, як высокія прафесіяналы ў асобных галінах, так і рэдкія цяпер прадстаўнікі "шырокага профілю", здольныя да сінтэзу ведаў. А для інтэлектуала маюць значэнне прагнасць да новых ведаў і інтэлектуальная сумленнасць. А яшчэ нам патрэбна такая якасць, як здольнасць радавацца чужым поспехам, добрым чужым кнігам, артыкулам, навуковым адкрыццям. Чалавек, які не можа ацаніць чужую якасную працу, і сам ніколі не зробіць нічога каштоўнага.

Адмаўляцца, думаю, трэба найперш ад зайздрасці - яна забівае чалавека як асобу, вынішчае ў ім здольнасць да творчай працы і пазбаўляе адчування шчасця. А няшчасны чалавек не можа быць творчай асобай.

Дурань - гэта не адсутнасць розуму. Калі б так, дык дурань статыстычна рабіў бы 50% спраў правільна, а 50% па-дурному. Але насамрэч дурань усё робіць па-дурному. Дурань - гэта такі адмысловы розум.

Добры чалавек - гэта перш за ўсё разумны чалавек. Ён можа ўявіць сябе стан іншага і не рабіць яму балюча. Злы чалавек - часцей за ўсё дурань.

Замежныя студэнты, якія вучыліся са мной разам, два разы на год ездзілі ў Еўропу да сяброў ці сваякоў і прывозілі адтуль па пяць японскіх магнітафонаў, джынсы і ўсё астатняе, чаго не бачылі ў Савецкім Саюзе. У Менску, прадаўшы аптавіку тавар, замежны студэнт кожныя паўгода меў не менш за 10 000 рублёў прыбытку і да таго ж яго стыпендыя была значана большай за нашу (здаецца ад 90 да 120 рублёў). Гэтак, маючы штогод па 20 000 рублёў ён і жыў.

Самым цяжкім для нас было адказаць, як я буду жыць на заробак інжынера ў 130 рублёў у месяц на пачатку кар'еры і рублёў 180, як шчасце, у сталым узросце. "Як ты з сям'ёй пражывеш на 1 500 рублёў у год?" - пытаўся студэнт-лацінас у мяне, калі я купляў у яго джынсы за 180 рублёў. Што я мог яму сказаць? Быў рады што за два месяцы ў

студэнцкім будатрадзе, катаржнай працай па 10-11 гадзін з адным выхадным на тыдзень зарабіў 700 рублёў і купляю ў яго джынсы.

Мой афрыканскі сябар і "сукамернік" па пакоі ў інтэрнаце Ніксан, расказваў, як у заходнегерманскім цягніку ён падчас канікул курыў папяросы "Беламор-канал". Гэта былі танныя савецкія папяросы набітыя нейкім жудасным тытунём. Немцы вырашылі, што ён курыць марыхуану, бо акрамя пякельнага паху гэтыя папяросы "ўстаўлялі", як сапраўдны наркотык. Ніксан хваліўся, што тады ж ён пачаставаў немцаў і адразу вельмі дорага распрадаў увесь свой запас "Беламору", бо пакупнікі вырашылі, што гэтае зелле - наркотык.

Неяк вясной 1985 г., каб патрапіць на выступ Сяргея і Таццяны Нікіціных у Мінску, я "страляў" білеты каля Палаца прафсаюзаў, дзе і павінен быў адбыцца канцэрт. Адышоўшы трошкі ў бок, наткнуўся на саміх Нікіціных, якія ў суправаджэнні нейкай дамы ішлі ў палац з боку сучаснай Зыбіцкай. Хапіла нахабства папрасіць білет і ў іх - Таццяна кіўнула на Сяргея, Сяргей на Таццяну, але білет ад іх я не атрымаў. Вярнуўся да Палаца прафсаюзаў, і жаданы білет прадала мне прыгожая дзяўчына з магнітафонам у руцэ. У зале сядзелі побач, яна відавочна таксама была студэнткай, і я да сёння не разумею, чаму мы не пазнаёміліся.

Але я не пра гэта.

Пры канцы канцэрту Сяргей і Таццяна выканалі песню неверагоднай прыгажосці і моцы: "Перавядзі мяне праз майдан ці апошняя просьба старога лірніка". Словы песні - пераклад на рускую мову ўкраінскага верша Віталя Кароціча, напісанага пасля гібелі сына паэта. Толькі праз шмат гадоў стаў праяўляцца прарочы змест геніяльнага верша, а слова "майдан" атрымала дадатковы сэнс. Як па мне, дык украінскі тэкст значна лепей, чым пераклад Юны Морыц.

Убачыў ўсё тых жа, класічных бабулек каля пад'езда, якія не памяняліся за 40 гадоў і зразумеў, што мае равесніцы. Якім чынам яны ўзнаўляюцца ўвесь гэты час? Але і жанчыны, якія былі дзяўчатамі маёй маладосці, застаюцца ўсе такімі ж прыгажунямі ў джынсах. Нейкія дзве супрацьлеглыя жаночыя пароды.

Цяжка растлумачыць сучасным, ужо нават і не маладым людзям, што такое раней было замежжа для нас. Самым нескладаным было выехаць у Балгарыю, але турпаездка ў Балгарыю каштавала недзе 4

месячныя заробкі інтэлігентнага чалавека, патрабаваўся дазвол і характарыстыка з месца працы з подпісам дырэктара, парторга (і не важна, што ты не камуніст) і прафарга. Потым вырабляўся адмысловы замежны пашпарт, ішлі інструктажы і г. д. Такая турпаездка была шчасцем на ўсё жыццё - чалавек пабываў за мяжой! Пры выездзе ў так званыя "капкраіны" ўсё было ў 10 разоў складаней. Да гэтага часу сярод людзей майго пакалення захаваўся жарт: "Мяне хутка ўжо пачнуць выпускаць у Балгарыю". Што азначала: пасля траплянне ў няміласць жыццё наладжваецца.



# *Таццяна Сямёнава*

*Сямёнава Таццяна Іванаўна нарадзілася 17 сакавіка 1935 года ў сяле Грачоўка Арэнбургскай вобласці. З 1952 па 1955 год вучылася ў дашкольным педагагічным вучылішчы ў горадзе Бузулук Арэнбургскай вобласці. Восенню 1955 года прыехала ў беларускі горад Ліду, па месцы жыхарства мужа. Працавала ў дзіцячых дашкольных установах выхавальніцай, затым загадчыцай. З 1992 года знаходзіцца на заслужаным адпачынку.*

*Вершы пачала пісаць з 5 класа, але сур'ёзна да гэтага занятку не ставілася. На працы калі-нікалі пісала сцэнарыі для дзіцячых ранішнікаў. Усур'ёз узялася за складанне вершаў, знаходзячыся на пенсіі.*

*З'яўляецца аўтарам двух паэтычных зборнікаў "Осенний вальс" (2012 г.) і "Позвала судьба в дорогу" (2016 г.). Прымае ўдзел у літаратурным аб'яднанні "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", з'яўляецца ўдзельніцай клуба "Актыўнае даўгалецце" пры цэнтры сацыяльнага абслугоўвання (валанцёр, кіраўнік літаратурнай гасцёўні "Ліра").*

*Наведвае грамадскае аб'яднанне "Вера. Надзея. Любоў" і аматарскае аб'яднанне "МузАльянс" Палаца культуры горада Ліды, а таксама клуб "Кветкавод", "Добрыя сустрэчы" пры раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. У вольны час увіхаецца на дачы, займаецца вязаннем, маляваннем.*

*Піша творы на рускай мове. Друкуецца ў "Лідскай газеце". У літаратурна-мастацкім зборніку "Ад лідскіх муроў" (№ 8 за 2012-2015 гады) вершы былі змешчаны ў перакладзе на беларускую мову Алесі Бурак.*

## Ганулька

Зіма была снежнай і суровай. Маразы даходзілі да сарака градусаў. Надакучлівыя завеі завывалі па некалькі дзён запар, накідаючы велізарныя гурбы. Здавалася, што зіме гэтай не будзе ні канца, ні краю. Найчасцей снегам засыпала дамы да самага даху, і людзі з цяжкасцю выбіраліся са снежнага палону, дапамагаючы адзін аднаму адкопваць жыллё і прарываючы доўгія лабірынты ў снезе ў чалавечы ўзрост. Пяцігадовай Ганульцы здавалася, што завеі ніколі не скончацца, а лета не наступіць ніколі. Але затое, калі супакойваліся завеі, яркае зімовае сонца не пакідала небасхіл цэлы дзень. Стаяла яснае надвор'е, усталёўваліся ціхія зацішныя дні. Снег звонка хрыбусцеў пад нагамі, здзіўляючы сваёй некранутай беллю. Вось тады ўся дзятва з вясёлым захапленнем выбягала на вуліцу! Акруга напаўнялася шумам і гамам, дзіцячым смехам, віскам і крыкам. Адразу з'яўляліся санкі, лыжы, лядзянкі і іншыя сродкі для катання. Высокія гурбы ў момант ператвараліся ў натуральныя горкі і без канца чулася: "Сцеражыся!". "Дарогу!" І нікога немагчыма было загнаць дахаты да самай ночы. Нікога не хвалявала, што рукавіцы на руках ператвараліся ў лядашы, вопратка ў снезе, а пад носам два ледзякі. Але затое як блішчаць радасцю і захапленнем вочы! Як гараць шчокі! Усе здаровыя і вясёлыя. Школы не забывалі і імкнуліся вучыцца добра. Вучыцца дрэнна сорамна! Ганульцы не трэба было спяшацца ў школу, і яна разам з іншымі малымі гарэзавала і каталася з горкі, насілу зацягваючы санкі на вяршыню, а потым імчалася ўніз.

Але праходзілі дні, і паступова адступала зіма. Дні рабіліся даўжэйшымі, сонца грэла мацней, і горкі пачалі асядаць, снег пацямнеў, і хутка пабеглі гаманкія хуткія раўчукі. І зноў у дзятвы спраў безліч: рабіць заставы, прарываць раўкі і скіроўваць раўчукі па новых рэчышчах, майстраваць і пускаць караблікі. Не за гарамі ўжо рухомыя гульні: лапта, выбівала, даганялкі, хованкі, класікі. Любімай гульнёй Ганулькі былі класікі. І зноў дзятве нудзіцца няма калі, усе заняты, усім весела. Ганулька сёння не гуляе са сваімі сяброўкамі. У іх у хаце дарагі госць: прыехаў дзядзька Вася, малодшы брат Ганульчынага бацькі. Ён служыў у войску недзе далёка, вызначыўся па службе і яму далі кароткатэрміновы водпуск. Ганульцы ён прывёз у падарунак вялікую прыгожую ляльку. Дзяўчынка была вельмі рада падарунку і асцярожна гуляла з лялькай. Два браты пра нешта ціха гутарылі за сталом. Ганульцы не цікава было, пра што гавораць дарослыя. І ўсё ж да яе даляцела фраза, сказаная бацькам:

- Застанься яшчэ на дзянёк, пагасцюй у мяне.

- Не магу, - адказваў дзядзька Вася. - Раптам што здарыцца, частка зрушыцца з месца, мне цяжка будзе адшукаць яе, і я не паспею да часу.

- Калі што здарыцца, хто застанецца жывы, дзяцей не кідаць. (У малодшага брата таксама была сям'я і дачка Галачка). Ганулька не разумела, пра што казалі дарослыя, але ў яе маленькім сэрцайку пасялілася трывога. У той жадзень госць з'ехаў. Хутка яна забылася пра гутарку братоў і пра сваю беспадстаўную трывогу, яе цешыла новая лялька, надыход вясны, гульні на свежым паветры.

Прыйшла пасяўная пара. У дарослых з'явіліся новыя клопаты. Вось бацька збіраецца ў поле садзіць бульбу. Ганулька пачала прасіцца паехаць разам з ім. Бацька ніяк не згаджаецца:

- Маленькая ты яшчэ, ды не адзін я еду, і не будзе мне часу цягацца з табой.

Але яна так просіць, так просіць яго, што бацька саступае і загадвае ёй збірацца, і пакуль ён запрагае каня і рыхтуе ўсё да падарожжа, Ганулька з гонарам і шчаслівым выглядам ужо сядзіць у возе на мяшку з бульбай. Ёй падабалася ехаць, падабалася, як бацька панукае каня, хвошчучы яго па спіне лейцамі. На полі яна вельмі старанна працавала, дапамагала раскладваць бульбіны ў баразне, сачыла за тым, каб радок атрымліваўся роўным.

Да абеду ўжо ўправіліся з пасадкай. Уся кампанія, суседзяў па пляцоўцы таксама запрасілі на абед, весела і дружна пасела на разасланым на зямлі брызенце, па цэнтры якога на чыстым ручніку была раскладзена ежа. Якая ж яна была смачная! У хаце яна ніколі не была такой. Ганулька на два бакі ела ўсё, што ёй прапанавалі.

- Еш, еш, дачка, - сказаў бацька, - і вучыся працаваць. Праца нікому яшчэ не нашкодзіла. Увосень прыедзем разам капаць бульбу. - Ён пяшчотна пагладзіў па галоўцы любімую дачушку.

Увосень сям'я капала бульбу ўжо без бацькі. Ён не мог пацешыцца вынікам сваёй працы, добрым ураджаем...

Грымнула вайна, і бацька з першых жа дзён пайшоў на фронт, не паспеўшы нарыхтаваць сена для каня. Яно, духмянае і ўжо высахлае, засталося ляжаць на скошанай сенажаці. З гэтай справай і іншымі гаспадарчымі клопатамі пачала ўпраўляцца маці. Ёй даводзілася надоўга адлучвацца па справах, і Ганулька заставалася за галоўную гаспадыню і няньку з малодшым братам і сястрычкай. Змянілася жыццё ва ўсіх вяскоўцаў як у дарослых, гэтак і ў дзяцей. Не стала такой бесклапотнай весялосці, і гульні, здаецца, сталі не такімі шумнымі. Усе дзеці хутка пасталелі, сталі сур'ёзнымі, памагатымі ў хаце. На іх дзіцячыя плечы і

галоўкі таксама леглі нягоды вайны.

Паўсіроты ўсе, без бацькаўскага дагляду,
Без падтрымкі ў бядзе і без моцнай рукі.
Дасталося ўсім холаду-голаду,
Дзеці рана сталелі пры жыцці такім...

Ганулька, галоўная мамчына памагатая, таксама хутка сталела. Яна ўсёй сваёй істотай па-даросламу перажывала за ўсё: канчаюцца дровы, мала засталося мукі, захварэла сястрычка. Ад бацькі не было ніводнай вестачкі. За гэта асабліва балела яе сэрцайка - ці жывы ён, што з ім?

Але час ішоў, Ганульцы споўнілася восем гадоў. Прыйшла пара паступаць у першы клас. Тады навучанне ўсе дзеці пачыналі з васьмі гадоў. Яна з вялікім хваляваннем пераступіла парог класа. Яе ветліва сустрэла першая настаўніца. Яна прадставіла яе класу і пасадзіла за парту перад сваім сталом. Першыя часы Ганулька вельмі бянтэжылася, але хутка прывыкла. Яна вельмі ўважліва слухала настаўніцу, лавіла кожнае яе слова і ўсё ў дакладнасці выконвала. Спачатку пісалі алоўкам палачкі і кручкі. Гэта доўжылася даволі доўга, а потым прыступілі да пісьма чарнілам. І тут пачаліся праблемы: чарніла насілі ў чарнільніцах-невылівайках, але гэта не гарантавала, што яно не разальецца, трэба было навучыцца ўмелаа набіраць чарніла на пяро, каб не паставіць кляксы ў сшытку. Кляксаў, трэба сумленна прызнаць, хапала, і Ганульцы доўга давялося ваявацъ з імі. Узімку чарніла мерзла ў чарнільніцы, трэба было яго адагрэць, растапіць. Праз некалькіх замярзанняў і адаграванняў чарніла выцвітала, рабілася бясколерным, непрыгожым. Не было сшыткаў, пісалі на газетнай паперы. У школе было пячное ацяпленне, было зімна, і дзеці займаліся, не здымаючы паліто. Сумна... Але пра гэта ніхто нават не думаў, усе лічылі гэта нормай і імкнуліся вучыцца. Ганулька вельмі палюбіла сваю настаўніцу і марыла стаць такой жа, калі падрасце.

На ўсё жыццё запомніла Ганулька першы навагодні ранішнік. Напярэдадні свята настаўніца ўсім загадала прынесці ёлачныя цацкі. Ганулька вельмі знервавалася, бо дома не было ёлачных цацак.

- А мы змайструем цацкі з паперы, - супакоіла мама.

Яна ўзяла газетны ліст, памалявала чырвонай фарбай і, калі папера высахла, выкраіла ліхтарыкі. Склейвалі ліхтарыкі ўдвюх. Атрымалася хораша, і Ганулька аднесла ліхтарыкі ў школу.

Прыйшоўшы на ранішнік, яна ахнула ад здзіўлення, убачыўшы красуню-ёлку. Тая ўся ззяла, узвышалася да самай столі і была пышная

ў сваім зіхатлівым уборы. Яна ўпершыню ўбачыла дрэва, якое і зімой было зялёным, а заместа лістоў тырчалі вострыя зялёныя іголачкі, што невымоўна здзівіла яе. Не ведала яна, што гэта хвоя і што прывезлі яе з далёкага хваёвага бору, не ведала, што ў стэпавай паласе, дзе жыла Ганулька, хваёвыя дрэвы не растуць. Яна пра гэта і не думала зусім, а разам з дзецьмі ўстала ў карагод і, калі абыходзіла ёлку, шукала паглядам свае ліхтарыкі, але іх нідзе не было бачна. Яна вырашыла, што ліхтарыкі не спадабаліся настаўніцы, і тая не павесіла іх на ёлку. Як жа яна скажа пра гэта маме? Бо гэта была матуліна ідэя пра ліхтарыкі. І раптам на самым версе, каля залатога спічака, яна ўбачыла два ліхтарыкі! Узрадавалася - вось яны! Такія прыгожыя! І яшчэ харашэй здалася ёй ёлка ад яе ліхтарыкаў. Бо яна вельмі імкнулася майстраваць іх. Весяліліся доўга: вадзілі карагоды, гучна клікалі Дзеда Мароза, а ён прыйшоў не адзін, са сваёй унучкай Снягуркай, чыталі вершы Дзеду Марозу, загадвалі яму загадкі, і ён ніяк не мог адгадаць іх, гулялі ў вясёлыя гульні. Дашлі ў госці і лясныя зняркі - зайцы, мядзведзі і хітрая Ліса Патрыкееўна, якая ўсё імкнулася абхітрыць зайчыкаў, але дзеці дапамаглі зайцам схавацца ад лісы. Было пацешна і цікава. Пад канец свята Дзед Мароз раздаў дзецям падарункі - дробненькія папяровыя скрутачкі з прысмакамі. Адкуль прысмакі? Дык жа Дзед Мароз - сапраўдны чараўнік!

Вайна працягвалася, і ад бацькі так і не было ніякіх вестак, не было ніводнага ліста. Сям'я перажывала. Аднойчы настаўніца прынесла на ўрок, гэта было ўжо ў другім класе, маленькую брашурку і прачытала пра гераічны подзвіг маладой дзяўчыны, адважнай камсамолкі, якая аддала сваё жыццё змаганню з фашысцкімі захопнікамі. Пра вайсковыя дзеянні на фронце дзеці і дарослыя пазнавалі з друку і радыё, засмучаліся і цешыліся ў залежнасці ад падзей. Жыццё рабілася ўсё цяжэй. Дарослыя і дзеці шмат працавалі ў калгасе, і ўсё адпраўлялася на фронт. Самім заставалася вельмі мала, і ў ежу людзі сталі ўжываць траву: лебяду, крапіву, конскае шчаўе. Усе з нецярпеннем чакалі канца вайны. Разам з усімі чакала Перамогу і Ганулька, і свята верыла, што бацька вернецца дахаты, як толькі скончыцца вайна. Амаль чатыры доўгія гады працягвалася вайна. Ганулька ўжо падрасла, ёй пайшоў дзясяты год. І яна ўжо ўсе падзеі ўспрымала па-даросламу. Цешылася таму, што Чырвоная Армія, праяўляючы мужнасць і гераізм, гоніць ненавіснага ворага за межы Радзімы.

Прыйшла цёплая прыгожая вясна, прыйшоў Першамай, а праз тыдзень чаканая радасная вестка - Перамога! Людзі, старыя і малыя сабраліся каля сельсавета і слухалі, слухалі голас дыктара, які паведамляў пра самую важную падзею ў іх жыцці. Ганулька, моцна трыма-

ючыся за мамчыну руку, таксама слухала, цешылася разам з усімі і мацней прыціскалася да маці. Дарослыя смяяліся і плакалі, спявалі і спрабавалі скакаць, нібы не разумелі, што ім рабіць з радасці. І ўся гэтая карціна ўрачыстасці, радасці і смутку, ярка захавалася ў памяці Ганулькі.

Пачалі чакаць вяртанні з вайны сваіх родных, салдатаў-пераможцаў. Прыйшло ўсяго некалькі чалавек, але Ганульчынага бацькі так і не было, і вестак пра яго таксама не было, але яна ўсё адно не пераставала спадзявацца і чакаць. І мама запэўнівала яе ў гэтым.

Аднойчы прысніўся Ганульцы страшны сон: гоніцца за ёй не то вялікі сабака, не то воўк, і не можа яна ўцячы, ногі цяжкія, чапляюцца за высокую траву і вось-вось схопіць яе сабака-воўк, яна ўжо не маючы сілы бегчы, спатыкаецца і валіцца, а воўк балюча хапае яе за плячо, цягне да сябе. З усёй сілы крычыць Ганулька, кліча на дапамогу, але ніводнага гуку не падаецца з яе грудзей. Ганулька задыхаецца. Да яе свядомасці даносіцца невыразны, але, здаецца, знаёмы голас. І раптам яна выразна чуе:

- Прачніся, дачушка! Гэта я, татка твой!

Сон хутка знікае.

- Татачка! Родненькі мой! Татачка! - гучна закрычала Ганулька і павісла ў бацькі на шыі, абхапіўшы яе сваімі худзенькімі ручкамі...

## Пілотка

Міхась ужо вялікі, амаль дарослы, увосень ён пойдзе ў першы клас, чым вельмі ганарыцца. І хоць ён у сям'і не самы старэйшы з дзяцей, але і не наймаладзейшы, бо маладзей яго была сястрычка Волечка, і яму часта даводзілася цацкацца з ёй. А па вечарах Міхась вельмі любіў слухаць небывалыя, вельмі цікавыя аповеды старэйшых дзяцей, якія збіраліся дзе-небудзь у зацішным месцы ўдалечыні ад увагі старэйшых. І ў гэты вечар ён пасля вячэры толькі сабраўся вышмыгнуць у двор, як маці строга паклікала яго:

- Ты куды гэта проці ночы сабраўся? Кладзіся спаць, заўтра рана едзем на кірмаш. Міхась паслухмяна ўлёгся ў ложак (ён быў зусім паслухмяным хлопчыкам), але заснуць ніяк не атрымлівалася. Ён доўга варочаўся з боку на бок, вельмі ярка ўяўляў сабе, як яны будуць ехаць у горад на кірмаш. Гэта даволі далёка, і маці, вядома ж, дазволіць яму сядзець на передку і кіраваць канём, і ён даведаецца, што такое кірмаш і які ён такі ёсць горад.

Рана да ўзыходу сонца маці пабудзіла Міхася. І пакуль ён збіраўся,

яна запрэгла каня, паскладала ўсё патрэбнае ў воз, і яны адправіліся. Калі выехалі на дарогу, маці перадала лейцы сыну, і ён з вялікай адказнасцю прыняў на сябе абавязак вазака, падганяючы і без таго бадзёра бегшага коніка. Пачало ўсходзіць сонца. Яго першыя прамені асвятлялі край неба, дрэвы і кусты набывалі незвычайна выцягнутыя цені. Ноч адступала, рассейваўся змрок, нараджаўся самы доўгі дзень лета. На прыдарожных кустах, на смарагдавай зеляніне травы срабрыстым россыпам блішчала раса. Дзень абяцаў быць спякотным. Пакуль прыехалі на кірмаш, сонца ўстала ўжо вельмі высока і пякло на поўную моц. На кірмашовым пляцы было шумна, шматгалосна, аднекуль даносіліся гукі музыкі, нічога немагчыма было разабраць, і Міхасю такі кірмаш зусім не спадабаўся, асабліва, калі маці, распрогшы каня, загадвала яму сядзець на возе і нікуды не адлучацца. Вярнулася яна няхутка, прынесла нейкія набыткі, а Міхася пачаставала цукеркамі-падушачкамі і свежымі смачнымі абаранкамі. Ён узрадаваўся гасцінцам і з задавальненнем пачаў частавацца, а маці моўчкі, паспешліва запрагала каня. Твар яе быў засмучаным, рухі рэзкімі, словы адрывістымі.

- Мам, ты чаго? - спытаў хлопчык, не разумеючы, што за змена адбылася з яго матуляй.

- Вайна, сынок! - адказала яна, і горкія слёзы пацяклі па яе загарэлых шчоках.

- З кім? - спытаў ён і замоўк, не ведаючы, чым суцешыць маці.

- З немцам, - адказала яна.

Дарога дахаты аказалася невясёлай і вельмі доўгай. Маці ўсю дарогу маўчала, а Міхась не адважваўся парушыць гэта маўчанне. Здавалася, што і прырода ўся зажурылася.

У вёсцы таксама ўжо ўсе ведалі пра страшную бяду, і назаўтра ж шмат якія мужчыны ішлі на вайну. Плакалі матулі, плакалі жонкі, выпраўляючы родных на фронт. Неўзабаве праз вёску пайшлі адступаўшыя часткі Чырвонай Арміі. Ішлі групамі і ў адзіночку, змушана пакідаючы родныя гарады і сёлы. Людзі з нудой і болем праводзілі іх. У адзін з дзён праз вёску праходзіла вялікая група салдатаў Чырвонай Арміі на чале з афіцэрам. Праводзілі іх усёй вёскай. Кабеты вынеслі салдатам у дарогу хто што мог: хлеб, сала, яйкі і іншыя прадукты. Шмат хто плакаў. Тады афіцэр звярнуўся да сабраных:

- Матулі, жонкі і сёстры! Прабачце нас, што мы пакідаем вас. Вораг вельмі моцны, і мы не можам цяпер супрацьстаяць яму. Але мы вернемся і адпомсцім за вашы слёзы, за нашу зямлю, адпомсцім за ўсё! Я абяцаю вам! Міхась стаяў наперадзе і ва ўсе вочы глядзеў на афіцэра

і на яго пілотку з чырвонай зорачкай. І раптам афіцэр зняў пілотку і працягнуў яе Міхасю са словамі:

- Беражы пілотку. Я вярнуся па яе! І нічога не бойся, будзь героем!

Літаральна на наступны дзень у вёску прыехалі на матацыкле з каляскай два немцы. Людзі выйшлі паглядзець, даведацца, у чым справа. Дзятва, вядома, наперадзе, асабліва хлапчукі. Такога матацыкла ў вёсцы не было. Цікава ж. Аказалася, што вазок матацыкла амаль даверху быў напоўнены цукеркамі-падушачкамі, нібы такімі, якія маці купляла Міхасю ў горадзе. Немцы, нешта казалі на сваёй, нікому незразумелай мове і пачалі частаваць дзяцей цукеркамі з каляскі. Неўзабаве яны з'ехалі.

- Вось, немцамі палохалі... А яны нармальныя, добрыя людзі... Вось дзяцей цукеркамі пачаставалі... - нехта сказаў з натоўпу.

Усе разышліся, кожны са сваімі думкамі. Але не прайшло і дзвюх гадзін, як загулі велікагрузныя машыны, і ў вёску заехалі крытыя брызентам фургоны, а ў іх сядзелі "добрыя" людзі з аўтаматамі наперавес, іх суправаджалі тыя самыя два немцы на матацыкле, што цукеркамі толькі што частавалі - "добрыя людзі". Салдаты выскачылі з машын, адкрылі барты і пачалі загружаць у машыны хатнюю жывёлу вяскоўцаў. Падняўся неймаверны крык. Крычалі людзі, крычалі жывёлы, чуліся стрэлы, нямецкая лаянка. Было вельмі страшна.

Цішыня наступіла раптам - немцы з'ехалі, спустошыўшы двары і пакінуўшы два трупы каля адрыны. Дзве кабеты, маці і дачка, якія не аддавалі жывёлу, былі бязлітасна расстраляны на месцы.

Гнятлівая цішыня стаяла некалькі дзён. Аднойчы ранютка ў вёску зноў наляцелі нямецкія салдаты. Яны бесцырымонна размяшчаліся ў хатах, выганяючы гаспадароў разам з дзецьмі прэч. Было бачна, што яны збіраюцца жыць тут доўга.

У адзін з дзён у хаце, дзе жыў Міхась з матуляй, братам і маленькай сястрычкай, стары сусед рамантаваў печку. Міхась круціўся тут жа, дапамагаючы дзеду, падаваў яму цэглу. Раптам у хату ўваходзяць два нямецкія салдаты з аўтаматамі. Яны пачалі прыдзірліва аглядаць хату і "о, божухна!" убачылі на ложку чырвонаармейскую пілотку! З абурэннем схапілі за каўнер і старога, і хлопчыка вывалаклі іх у двор і паставілі да сцяны адрыны. Адзін з іх сарваў з пляча аўтамат і пачаў цэліцца ў Міхася. Хлопчык інстынктыўна прыціснуўся да дзеда, дрыжучы ўсім сваім худзенькім цельцам. Стары адной рукой засланіў дзіцяці вочы, а другой спрабаваў прыціснуць яго да сябе. Другі немец, старэйшага ўзросту, нешта казаў маладому, паказваючы рукой у бок адрыны, але той працягваў цэліцца.

Ад страху ў Міхася з'явіўся непрыемны металічны смак у роце, і ён моцна сціснуў зубы. Немец працягваў цэліцца і не слухаў, што казаў яму таварыш. Прагрымеў стрэл, куля каля Міхасёвых ног увайшла ў зямлю. Абодва немцы павярнуліся і пайшлі з двара, пра нешта спрачаючыся паміж сабой, а стары і Міхась доўга стаялі каля сцяны адрыны, не маючы сілы пераадолець перажытае.

Праз некалькі дзён у хату засяліўся нейкі вялікі нямецкі начальнік, а Міхасёва сям'я пачала жыць у адрыне, а потым перасялілася ў зямлянку.

Два доўгія гады немцы па-варварску гаспадарылі ў вёсцы і грунтоўна спустошылі яе, і, адступаючы, бязлітасна спалілі. Людзі ўсёй вёскі ратаваліся ў лесе і вельмі чакалі вызвалення.

Вёска дагарала, калі вераснёвым днём салдаты Чырвонай Арміі прынеслі чаканае вызваленне ад фашысцкай няволі. Міхась доўга шукаў афіцэра, які падарыў яму пілотку, якую ён пасля таго выпадку захоўваў у надзейным месцы. Да вялікага жалю адважнага камандзіра сярод салдатаў не было.

## Памяць сэрца

Гады нястрымна бягуць наперад, і ўсё далей адсоўваюцца страшныя падзеі кровапралітнай вайны. Наш народ урачыста адзначыў 75-годдзе Вялікай Перамогі, якая заваявана вельмі дарагой цаной.

*Не ўсе прыйшлі з вайны дахаты,*
*Вайны крывавай, страшнай,*
*Ды цягнецца ў іх бой пракляты,*
*Магчыма, рукапашны.*

Неаслабная памяць - галоўны сведка тых падзей, якія не паддаюцца чалавечаму асэнсаванню, усіх жахаў вайны, гонару і славы, масавага гераізму войска і народа.

Фашысцкая Германія раптам уварвалася на тэрыторыю нашай краіны. На мірных жыхароў ранняй перадсвітальнай парой 22 чэрвеня 1941 года пасыпаліся снарады і бомбы. Варожыя самалёты, не шкадуючы смяротнага грузу, бязлітасна бамбавалі гарады і сёлы. У першы ж дзень вайны лінія фронту працягнулася ад Баранцавага да Чорнага мора. Першымі ўдар прымалі памежнікі і воінскія часці, размешчаныя ўздоўж мяжы.

Першы ўдар ворага прыняла на сябе і 75-я стралковая дывізія, што знаходзілася ў той момант каля вёскі Збураж, непадалёк ад Мала-

рыты. Чырвонаармейцы адчаяна біліся з узброенымі да зубоў гітлераўцамі, біліся мужна, выяўляючы масавы гераізм і стойкасць, не шкадуючы свайго жыцця. Але занадта няроўныя былі сілы, да таго ж скончыліся боепрыпасы, і яны змушаны былі адступіць, каб потым вярнуцца і аддаць належнае захопнікам...

* * *

У 1975 годзе ўжо немаладая кабета Ганна Іосіфаўна Саўчук прынесла ў Маларыцкую сярэднюю школу №1, дырэктарам якой быў Уладзімір Маркаў, фатаграфію, на якой была адлюстравана група маладых лейтэнантаў у даваеннай форме, выпускнікоў Смаленскага артылерыйскага вучылішча. Яна расказала, што, выпадкова апынуўшыся на месцы першага бою пад Маларытай, знайшла там афіцэрскую сумку-планшэт, у ёй знайшла насоўку, люстэрка і гэтую фатаграфію і як святыню захоўвала яе больш за трыццаць гадоў. А зараз вырашыла перадаць яе ў школу.

У школе працаваў пошукавы атрад "Слава", які ўзначальваўся дырэктарам. Рада атрада вырашыла высветліць, хто гаспадар гэтага здымка. Пачалося шырокае ліставанне. Пошукавікі высветлілі, што ў 235-ы полк 75-й стралковай дывізіі 5 чэрвеня 1941 года пасля заканчэння Смаленскага артылерыйскага вучылішча былі накіраваны камандзірамі звязаў Тарас Парамонавіч Куркін і Іван Сцяпанавіч Сямёнаў. Іншыя выпускнікі ў 75-ую дывізію не накіроўваліся. Але Куркіна на фатаграфіі няма. Праз Смаленскі абласны музей следапыты вызначылі адрас аднаго з выпускнікоў вучылішча Валянціна Іванавіча Хацкевіча, які паведаміў, што ў чацвёртым выпуску вучэльні было некалькі груп, гэта значыць звязаў. Мабыць, Куркін і Сямёнаў былі ў розных звязах. Значыць, гаспадаром фатаграфіі з'яўляецца Іван Сцяпанавіч Сямёнаў, які да канца выканаў свой воінскі абавязак перад Радзімай.

* * *

Атрад "Слава" паставіў перад сабой заданне - высветліць, калі Іван Сямёнаў прыбыў да месца службы, і знайсці яго сваякоў. Пра ўсё гэта было апублікавана ў газетах "Красная Звезда" (за 5 чэрвеня 1985 года) і "Сельскае жыццё". Гэта публікацыя ўзбурыла душы і сэрцы братоў Аляксея, Васіля і Мікалая Сямёнавых, якія жылі ў горадзе Лідзе. Адна справа - ведаць, што старэйшы брат, адданы воінскай прысязе, загінуў за Радзіму, змірыцца з незаменнай стратай, і зусім іншае - пачуць,

дазнаццца хоць якія дэталі пра дарагога чалавека.

Мікалай Сцяпанавіч, малодшы з братоў, таксама пачаў ліставанне з архівам Міністэрства абароны, са Смаленскім артылерыйскім вучылішчам і міжнароднай арганізацыяй "Чырвоны крыж". Ён даведаўся пра баявы шлях свайго брата.

* * *

Пад канец лета 1985 года тры браты Сямёнавы паехалі ў Маларыцкую сярэднюю школу, каб сустрэцца з пошукавікамі і іх кіраўніком. Яны з велізарным хваляваннем і глыбокай падзякай слухалі аповед вучаніцы сёмага класа Алёны М., адказнай за папку з надпісам "Сямёнаў Іван Сцяпанавіч". У сваю чаргу, яны распавялі атраду "Слава", што Іван Сцяпанавіч не загінуў у першым баі, як лічылі пошукавікі, а застаўся жывы і працягваў ваяваць, атрымаў званне капітана, узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі і Айчыннай вайны II ступені. Загінуў 3 верасня 1944 года і пахаваны з воінскімі ўшанаваннямі на царкоўных могілках сяла Брустуроіса Бакецкага павета (Румынія), магіла № 28. Пошукавікі ў дарунак братам далі копію фатаграфіі, знойдзенай на месцы першага бою ў далёкім 1941 годзе. Яна асцярожна захоўваецца ў сямейным архіве.

Сустрэліся браты і з Ганнай Іосіфаўнай Саўчук, якая расказала, што на месцы першага бою апынулася ўвечар, калі гнала карову з пашы дахаты. Гэта было на другі дзень пасля страшнай падзеі, калі фронт адышоў. На пытанне: "Навошта ж вы захоўвалі гэты здымак? У акупацыі маглі пацярпець з-за яго" - яна адказала: "Вельмі прыгожыя хлопцы былі, і шмат хто ўжо загінуў".

P. S. Наша сям'я свята паважае памяць свайго героя і заўсёды помніць, што мільёны такіх, як Іван Сцяпанавіч, воінаў Чырвонай Арміі паклалі свае маладыя жыцці на алтар Вялікай Перамогі. Памяць народная жывая. Удзячныя нашчадкі ніколі не забудуць іх бессмяротны подзвіг.

*Пераклад на беларускую мову Алеся Хітруна.*




*Наталля Тананушка нарадзілася з 1981 г. у г. Лідзе. Адукацыю атрымала ў Лідскай гімназіі, аддзяленні правазнаўства Менскага дзяржаўнага гандлёвага каледжа (юрысконсульт) і на аддзяленні алігафрэнапедагогікі і лагапедыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (настаўнік-дэфектолаг), зараз лагапед-дэфектолаг вышэйшай катэгорыіі ў адным з дзіцячых садкоў г. Ліды. Мае дарослага сына. З'яўлялася адной з арганізатараў і вядоўцай курсаў "Мова Нанова" ў Лідзе. Раней друкавалася ў "Нашым слове" і "Лідскай газеце".*

# *Наталля Тананушка*

## Водар татавай хаты

Чым пахне родны бацькоўскі кут, татава хата? У памяці кожнага з нас ёсць свой успамін, свае кропелькі пахаў, з якіх ствараецца гэты водар.

Галоўнае не тое, што гэта за водар - галоўнае, што нідзе і ніколі ні на хвіліну ён не пакідае цябе, пераследуе і атуляе ўсюды. І якіх дзівосаў гэтага шматлікага, неабсяжнага свету не краналі б твае ступні, якія б акіяны, з іх празрыстай ласкавай вадой не абмывалі іх, змыць гэты водар немагчыма ніколі.

Кажуць ёсць людзі-дрэвы і людзі-птушкі. Першыя, як векавы дуб, сваім коранем прарастаюць глыбока ў зямлю і чэрпаюць сваю моц і жыццёвыя сілы з яе нетраў. І калі часам моцны вецер выкарчуе велізарны корань з зямлі, перасаджваць не мае сэнсу: дрэва губляе жыццё.

Можна, канешне, з яго зрабіць шыкоўны дубовы стол ці іншую мэблю, паставіць у прыгожы пакой, скажам, у шыкоўнай французскай кватэры - гэта будзе ўжо мёртвая бяздушная драўніна, без шолаху лісця і вечнага веснавога аднаўлення жыццёвага цыклу.

Іншыя, людзі-птушкі, імкнуцца кожны раз у вырай, туды, дзе пяшчота лагоднага сонца і цеплыня яго праменняў ахутае іх і дае іншае жыццё. І не трэба ім ні водару бацькоўскага гнязда, ні цеплыні роднай прасторы, ні прыгажосці куточка, дзе нарадзіліся і ператварыліся ў вольных, моцных птахаў.

… Я, безумоўна - чалавек-дрэва …

Які ж водар маёй бацькоўскай, татавай хаты? Ён застаўся ў маім сэрцы і ў маёй памяці і пяшчотным болем адгукаецца ва ўспамінах. Водар гэты шматузроўневы і шматгранны.

Найперш гэта - водар яблыка антонаўка. Ён мае свой асабісты пах і такую непаўторную форму, якая дазваляе нават навобмацак адрозніць яго ад любога іншага яблыка. Я і зараз, заплюшчыўшы вочы, адчуваю яго непаўторны водар і не зблытаю ні з якім іншым.

Восень. Верасень. Баба Маня, татава маці, збірала ўсіх сваіх унукаў - маіх стрыечных братоў (усіх іх збіралася пяцёра ці шасцёра) у вёсцы на збор яблыкаў. І ніхто з іх не мог асабіста сабе пакласці ў торбу хоць адзін зняты яблык - усе іх збіралі ў вялікія новыя кошыкі на продаж ці на зіму. А ў нядзелю баба Маня апранала новую, пажадана белую з дробненькімі сінімі кветачкамі хусту, ставіла кошыкі з найлепшымі яблыкамі на воз, і дзед адвозіў яе на рынак у Ліду для гандлю. Астатнія ж накрывала якімі-небудзь старымі коўдрамі, "каб мышы не пад'елі", і ўзімку ўжо выдавала ўнукам, якіх не страшыла зімовая сцюжа, і таму яны часам наведвалі бабу з дзедам. Прыедзеш у вёску, адкрыеш засаўку ў "тую хату" (так называлі вялікі пакой, дзе зімою ніхто не жыў, бо печ яго чамусьці не абагравала), і адчуеш марознае паветра, перапоўненае непаўторным водарам антонаўскіх яблыкаў.

І калі зараз стаіш пад раскідзістымі галінамі антонаўкі, а лёгкі восеньскі ветравей з яшчэ вераснеўскім цёплым подыхам пяшчотна блытае твае валасы, ці калі залезеш на тоўстую галіну дрэва, сарвеш яблык-антонаўку і прытуліш яго да твару - вось тады пачуеш і ўдыхнеш у сябе той самы сапраўдны водар, які застаўся з табою на ўсе жыццё…

Водар ліпавага мёду. Лета. Раніца. Адчыняеш перакошаныя ад старасці дзверы, праз шчыліны якіх лагодна песцяць твар і не дазваляюць вачам адкрыцца насустрач раніцы, сонечныя цёплыя праменні - ты выходзіш на ганак, сядаеш на цёплыя прыступкі і ізноў заплюшчваеш вочы. І гэтак сустракаеш пяшчоту кожнай летняй сонечнай раніцы.

Напрыканцы сядзібы, дзе некалі стаяла дзедава гумно, якое пасля вайны, пры саветах разрабавалі і забралі ў калгас, раслі магутныя ліпавыя прысады. Менавіта адтуль, з-за дрэў і ўзыходзіла сонца. Кожная ліпа, нібыта волат, абдымала сваімі галінамі суседнюю, спляталася з ёю і ўтварала тым самым магутны плот, які, як мне тады здавалася, бараніў падворак летам, восенню і вясной ад ветру, а ўзімку - ад снегавею. Колькі памятаю сваё дзяцінства, побач з гэтымі ліпамі стаяла сорак вулляў лясгасаўскіх пчол, якія дазволіў дзед Вінцук паставіць. Не было такога лета, каб хоць адна з іх мяне ды ні ўджаліла!

Некалькі разоў на год супрацоўнікі лясгасу прыязджалі выбіраць мёд. І тады ў той дзень тата прыносіў мне вялізную белую міску з кавалкамі ліпавага мёду ў сотах, водар якога яшчэ доўга будзе адчувацца на ганку, пакуль не з'ясі апошні кавалачак мёду.

Водар летняй навальніцы. Гэты водар непараўнальны ні з зімовай снежнай свежасцю, ні з духмянай першай звонкай навальніцай на пачатку траўня. Калі ўлетку ў вёсцы, падчас дажджышча адсунеш убок накрухмаленую белую фіранку, расчыніш акно і ўдыхнеш пах дажджу - дык адчуеш непамернае багацце духмянай нотнай гамы лета: пах скошанай травы са шматлікім водарам разнатраўя, здалёк адчуеш, як пахне сок зялёных ападкаў-яблыкаў, што стрэсла навальнічным ветрам, і нават водар мокрага парнага ляснога паветра будзе падбірацца да



***Мае бабуля Марыянна Мар'янаўна і дзед Вікенцій Семяонавіч каля хаты, прыкладна 1975 год***

акна і дурманіць сваім мноствам разнастайных пахаў: мокрай кары дрэваў, моху і шыльніку… І ўвесь гэты карагод пахаў будзе дурманіць твае думкі, і ва ўсім гэтым ты будзеш адчуваць сапраўднае і непамернае дзіцячае шчасце. І толькі напалоханая цётка Марыся, сярэдняя татава сястра, якая заўсёды пужалася навальніцы і грому, спяшаецца зачыніць акно і запаліць грамнічную свечку. А ў хату з лесу бег мокры, як цуцык, стары дзедаў кот. Мы ўсе яго так і клікалі: "Дзед".

Водар малака. Назаўсёды ў памяці застануцца вечары, калі баба Маня недзе а дзевятай гадзіне даіла карову, любімую сваю Зорку, якую яна аднойчы спрабавала прадаць, але праліўшы за тыдзень вядро слёз, вярнула яе ўсё ж такі дахаты. Ды каб тая Зорка не бегала па хляве, калі яе даілі, баба наказвала мне сядзець на парозе хлява і чэмхаць карове галаву. І гэтая нахабнаватая істота з асалодай карысталася любоўю сваёй гаспадыні. Яна тулілася да мяне сваім велізарным мокрым носам, дыхала цёплым подыхам на мае дзіцячыя ногі, адганяла надакучлівых камароў-крывапіўцаў і павольна, прыкрыўшы вочы, пажоўвала жуйку. І калі эпапея з вячэрнім даеннем заканчвалася, цёплае свежае малако першымі атрымлівалі каты, якія як па загаду, без асабістых запрашэнняў з'яўляліся да студні, да сваёй чаропкі. Часам суседскі кот, нахабная істота, наведваўся да нашых і рабіў выгляд, быццам ён свой, спрабуючы сунуць нос да малака, але баба Маня давала яму добрага наганяю. Тут, каля студні, яна здымала са шнурка падрыхтаваны белы марлёвы цадзілак і рыхтавалася апусціць малако ў студню. Але кожны раз перад гэтым, баба брала з плоту маленькі жалезны кубачак і налівала мне цёплага з шумам пахучага малака: "Пі, дачушка, пі, - казала яна - малачко смачнае, карыснае". І нават цяпер, калі п'ю малако з крамы, я ўспамінаю непаўторна родны водар тых вясковых летніх вечароў і пах сапраўднага каровінага малака.

Водар скошанай травы. Ці даводзілася вам хоць раз у жыцці адчуваць пах скошанай улетку травы. Вось наўпрост адразу як яе скасілі? Часам прачнешся на ранку ад гуку мянцi, якая ў руках гаспадара спрытна спявае сваю песню працы то з правага, то з левага боку ўздоўж старога, зробленага дзедавымі рукамі, ляза касы. Бяжыш па вузкай сцяжынцы да студні, дзе пад белым налівам прыбіты рукамыйнік і мыльніца з мылам, якое часам, калі не ўпільнаваў, з'ядала карова, калі яна вярталася ўвечары з пашы. Халодная ад расы трава кранае і студзіць твае босыя дзіцячыя ногі - і ты прачынаешся. Ціхенька крадзешся каля хлява, абыходзіш паветку з-за якой даносіцца спрытныя: "Ужыў, ўжыў, ужыў"… І бачыш постаць шыракаплечага моцнага мужнага чалавека, які часам спыняецца пагастрыць лязо альбо наўпрост з трохлітровага слоіка выпіць бярозавага квасу ці здымае клецістую кепку з лысай галавы, каб працэрці

кроплі поту з сур'ёзнага задуменнага твару. Гэта з пяці гадзін раніцы працуе тата, каб да прабуджэння тых самых кусучых пчолаў-працаўніц, пакасіць траву, водар якой разносіцца ў паветры на пачатку летняга дня.

Я буду памятаць гэтыя раніцы сенакосу і іх водар да апошняга моманта свайго жыцця. Не ведаю, што аддала б я за тое, каб хоць аднойчы пражыць яшчэ раз тую самаю раніцу, адчуць той самы пах скошанай травы сярод вуллёў і ўбачыць яшчэ адзіны раз спіну майго таты, каб ізноў пачуць яго голас: "Чаго так рана ўстала, дачушка? Паспі крышку яшчэ". А я адказала б яму, што болей не хачу спаць, залезла б у паветку на сена і праз вакенца бясконца б глядзела, як яго моцныя рукі кіруюць касой, якая "спявае" сваю песню і пракос за пракосам сячэ пад корань пахонцае мноства траў …

Памятаю словы таты, які заўсёды казаў: "Ніколі ні аб чым не шкадуй, дачушка, ніколі!"

І, пэўна, у апошнія хвіліны майго жыцця я зноў адчую водар антонаўкі, малака з-пад каровы, ліпавага мёду, летняй навальніцы і незабыўны пах скошаных татам летнім ранкам пракосаў і шкадаваць буду толькі аб адным, што не змагла пакінуць нашчадкам сваім водар татавай хаты.

*1-5 лютага 2022 г., на каранціне.*



# *Людміла Русь*

*Русь Людміла Іванаўна нарадзілася 8 жніўня 1946 года ў сяле Міхайлаўскім Растоўскай вобласці ў сям'і вайскоўца і настаўніцы. Закончыла педагагічны інстытут. Выйшла замуж за вайскоўца. Пісаць пачала рана пад уздзеяннем атмасферы ў сям'і, дзе любілі музыку, паэзію, літаратуру. Працавала ў школе настаўніцай рускай мовы і літаратуры, а потым - СШ № 9 настаўніцай сусветнай мастацкай культуры.*

*Піша вершы і прозу. Член некалькіх літаратурных аб'яднанняў. Пераможца і прызёр многіх літаратурных конкурсаў.*

## **Нюрачка**

Апавяданне

Снег… Круцяцца і ціха падаюць на яркую зялёную траву вялікія пушыстыя сняжынкі. Так бывае ў Гродне нярэдка перад Калядамі. У паветры вітае прадчуванне свята… Хвалюючае, трапяткое пачуццё ахоплівае людзей раптоўна і адразу: нейкае чаканне шчасця, цуда, чарадзейства. Чаканне гэтае ўзмацняецца кантрастам белага снегу на ізумруднай сакавітай і вільготнай зелені соснаў і елак. І не толькі… Дамы, дрэвы ўпрыгожваюцца гірляндамі рознакаляровых, ззяючых агеньчыкаў. У кожным доме рыхтуюцца да свята. Адусюль даносяцца неймаверна смачныя пахі "пальцам пханай" каўбасы, якую гаспадыня спяшаецца хутчэй падсушыць ля печы. Хочацца бясконца насычацца водарам ваніліну, карыцы, кардамону, якія ўжо занялі сваё месца ў цесце, у стравах.

Спяшаюся дадому, хоць так цудоўна любавацца сняжынкамі, што танцуюць у паветры, старажытнымі фасадамі касцёлаў і залатымі купаламі сабораў, будынкамі тэатраў, музеяў, асабнякоў. Як жа ўсё прыгожа, практычна нерэальна, казачна!

Вось і знаёмы дом, веснічкі, ганак… Толькі я бяруся за клямку дзвярэй, як яны самі расчыняюцца мне насустрач. Гэта мая маленькая свякроўка, мая дарагая другая мама, убачыўшы мяне праз акенца, спяшаецца абняць і пацалаваць. "Ах ты, мая міленькая мушка", - усміхаючыся, кажа яна і ціскае мяне ў абдымках, уся такая мілая, ласкавая, утульная.

Рукі свякроўкі ў духмяным цесце. Яна вымешвае яго ў вялікай місцы сваімі маленькімі кулачкамі, бо гасцей, як звычайна, збярэцца на свята шмат. З даўніх часоў павялося адзначаць Каляды ўсім разам у Ганны Фамінічны і Мікалая Іванавіча. Збяруцца сёстры і браты, дзеці і ўнукі, блізкія і далёкія знаёмыя.

"Як добра, што ты хутка вярнулася! Мне дапамога ой-ой як патрэбна," - кажа яна, і яе вочы, як вялікія спелыя вішні, ззяюць радасцю і любоўю. Мне лёгка і ўтульна ад адчування любові і ўсведамлення неабходнасці для людзей, якія яшчэ зусім нядаўна былі незнаёмыя, а цяпер сталі такімі дарагімі.

У доме весела і шумна. Хтосьці здымае з мяне футарка, нехта тут жа падае мне фартушок… Мясарубка ўжо прыкручана да стала, побач стаіць міска з набрыняўшым макам. Яго і трэба хутка перацерці, ды не адзін, а некалькі разоў - калядныя піражкі павінны быць з макам! І якія ж яны смачныя заўсёды атрымліваюцца ў нашай Ганначкі ці Нюрачкі, як яе ўсе называюць у сям'і! Стараюся прыкмячаць усе тонкасці для таго, каб пасля менавіта так балаваць яе сына.

Кафлевая печ ужо напалена і чакае з нецярпеннем прыняць дзве бляхі з пірагамі. Пасля дружна ўсёй сям'ёй лепім піражкі з макам, грыбамі, павідлам і гаворым, гаворым… Люблю слухаць расказы маёй Ганначкі, вялікай жартаўніцы. Яна практычна ніколі не маркоціцца. На маё запытанне, чаму яна часцей за ўсё бывае вясёлай, чым сумнай, адказвае: "Дык жыццё было нялёгкае. Усякіх цяжкасцяў і перажыванняў хапала. Без аптымізму ды без жартаў не ведаю, ці выжылі б? Так, і такія цяжкія часы былі!"

Ціхенька, як ручаёк, гучаў яе голас, і я проста заслухвалася дзіўнымі расказамі. Мяне заўсёды расчульваў адзін выраз Ганначкі. "Чакай, чакай! Так за якімі ж "Саветамі" гэта было? За першымі ці за другімі?" У залежнасці ад таго, за якімі "Саветамі" адбываліся тыя ці іншыя падзеі, мяняўся выраз яе мілавіднага твару, а вочы напаўняліся то сумам, то весялосцю. Гродна часта пераходзіў з рук у рукі. Мянялася ўлада, а разам з ёй і законы. "Дык вось за палякамі, - дзялілася сумна яна, - мы працавалі з раніцы да вечара. Цяжка было вельмі. Плацілі грашы, і так, як цяпер, лыжкай, смятану не елі…" Памаўчалі. Пасля, відаць, справіў-

шыся з сумнымі ўспамінамі, яна працягвала: "А ты пытаеш, чаму ў нас у падвале і соль, і цукар, і нават запалкі захоўваюцца разам з гароднінай ды закаткамі цэлымі корабамі? Прывыклі так, бо за немцамі на вуліцу лішні раз не высоўваліся. Страшна было. Выйшаў загад, каб праз тыдзень усе жыхары гаварылі па-нямецку. Другі раз не паўтаралі - расстрэл. Ды і пасля вайны жыць было цяжка. А жыццё то адно. Вось толькі надзея, вера ў лепшае і саграваліі ды яшчэ і жарты.

Памятаю, дзеткі маленькія яшчэ былі, усё есці прасілі, дык я ім аўсяны кісель варыла. Ён быў такі рэдзенькі, сінявата-шэры, а ўсё ж ежа якая-ніякая."

У гэтым месцы расказа яна прысела на лавачку ля акна, падпёрла твар далонямі, і слязьмі напоўніліся яе толькі што ўсмешлівыя вочы.

Я не ведала, што сказаць, проста абняла яе і ціхенька гладзіла па плячы. Памаўчалі. Пасля я паправіла яе густыя і хвалістыя валасы, што выбіліся з-пад хустачкі: "Што? Штосьці ўспомнілася?" Яна яшчэ памаўчала крыху, спраўляючыся з сумнымі ўспамінамі, і пачала так: "Аднойчы зусім грошы закончыліся. Акурат перад зарплатай. Я зварыла дзеткам булён з рэшткаў фасолі, накарміла, вымыла іх перад сном, у ложачкі паклала… Самой не да сну: што рабіць, чым раніцай пакарміць? Плакала я і малілася, малілася і плакала. Так і заснула ў слязах. Прачнулася яшчэ зацемна. Распаліла ў печы, узяла вёдры і пайшла па ваду цераз дарогу да калонкі. А да яе і не падступіцца! Вада горкай застыла пад кранам. Як вядро паставіць? Пачала я каромыслам адбіваць кусочкі лёду, каб раўнейшай зрабіць пляцоўку для вядра. У паўзмроку падалося, што нешта тырчыць з лёду. Прыгнулася ніжэй, гляджу - Маці Божая! Ды гэта ж грошы ўмерзлі ў лёд! Цэлыя тры рублі! Якое багацце! Адкуль і сілы ўзяліся?! Быццам на крыллях, ляцела дадому. Чайнік паставіла на пліту, разгладзіла далонню грошы на стале, каб упэўніцца, што не памылілася, і пабегла ў магазін. Накупіла ўсяго: і цукру, і хлеба, некалькі яек, па кавалачку масла і сыру. Дадому таксама ляцела, як на крылах. Увесь час усміхалася і Богу дзякавала.

Якое гэта шчасце - дзетак карміць, ды яшчэ так смачна! Вось і падумай: ці ёсць цуд на свеце?"

Так гаварыла мая свякруха і ўсміхалася скрозь слёзы. А я таксама ледзь не плакала ці то ад жалю, ці то ад любові да чалавека, які мне стаў такі дарагі і блізкі.

Юнацтва Нюркі праходзіла пад Гроднам у вёсцы Зарубічы сярод яловых лясоў, сярод квітнеючых палёў і лугоў. Тут упершыню сустрэла сваё каханне.

"А як гэта здарылася? Раскажыце" - папрасіла я. Яе вочы сталі,

на дзіва, маладымі і прамяністымі, шчаслівымі, светлымі. Адным словам, дзіўнымі. Колькі я ўбачыла ў іх пяшчоты, трымцення. Нюрачка раптам стала падобнай да дзяўчынкі, якую зараз сама ж і ўспомніла.

"Табе, праўда, цікава?" - спытала яна сарамліва. Я кіўнула галавой, затаіўшы дыханне, баючыся парушыць кволую даверлівую сувязь між намі. А Нюрачка была ўжо там, у сваім далёкім шчаслівым часе.

"Мне і 18-ці не было, дзяўчынка зусім. У галаве толькі песні. Смех ды жарты. Вось аднойчы пад Каляды задумалі мы з сяброўкамі паваражыць. Кожная з нас склала на пасцелі "мосцік" з запалак, накрыла падушкай і лягла спаць, задумаўшы: што прысніцца, тое і збудзецца. Усю ноч ад хвалявання не магла заснуць. Заплюшчыла вочы толькі пад раніцу. А калі прачнулася, то баялася парухацца ад хвалюючага прадчування. Ціха-ціха ўстала, прыпадняла падушку і ўбачыла, што "мосцік" так і ляжыць, не парушыўся. Зноў прылягла, каб успомніць, што ж мне прыснілася, але ад хвалявання начыста ўсё забылася. Ляжала я так і ледзь не плакала ад крыўды на сябе. Раптам выразна так убачыла перад вачыма лес густы, парослыя мохам елкі, трава кругом ізумрудная і мосцік цераз нашу вузенькую рачулку. Усё намагалася ўспомніць, навошта, для чаго я іду ў лес ды яшчэ зусім адна? Пасля зімовых марозаў і снегападаў, вясенніх дажджоў самаробны мосцік не вытрымаў маёй вагі і рухнуў пад нагамі. Я нават ахнуць не паспела, а не тое, што спалохацца. Як засмяюся на ўвесь лес, ну як дураватая нейкая. І раптам хтосьці мяне ззаду схапіў ды на рукі і падняў. Хацела закрычаць, але не здолела, павярнуцца таксама не атрымліваецца, страх мяне скаваў у гэты момант. І ў той жа час мне стала ўтульна ў моцных і ласкавых абдымках. Літаральна праз пару крокаў хлопец паставіў мяне на дарожку. Я падняла вочы, паглядзела на яго, і сэрца маё раптам спынілася, а потым пакацілася, пакацілася кудысьці. Гарачая хваля сарамлівасці і радасці ахапіла мяне ад макушкі да пят. Я за-ка-ха-ла-ся! Хлопец быў высокі, светлавалосы, з сінімі, як неба, вачыма. Ён стаяў перада мной і ўсміхаўся, а вочы глядзелі цёпла і ласкава. У іх было штосьці роднае, дарагое для мяне. Ён хацеў нешта сказаць… Але сон перарваўся, я прачнулася. Трэба ж, гневалася я, не здолела дагледзець гэты дзіўны сон.

Вечарам мы з сяброўкамі сабраліся папіць чаю і падзяліцца тым, што каму прыснілася. Я так была ўзрушана сваім сном, што ўтаіла яго ад дзяўчат. Да самай вясны жыла, як у ліхаманцы, з адной марай, каб ён прысніўся мне зноў. Але чарадзейства каляднай ночы не паўтаралася, і я паціхеньку стала забывацца на свой сон.

У канцы мая я некалькі разоў пасварылася з хлопцам, які мне не падабаўся. Выбраўшы момант, я ўцякла ад яго за вёску ў лес, дзе хацела

супакоіцца і прыдумаць, як адвадзіць яго ад сябе - так надакучылі яго заляцанні.

Падышла да ракі, памылася, апусціла рукі ў ваду і задумалася над тым, што ў лесе ў гэты час могуць быць ландышы. А ці не схадзіць мне па іх? Ускочыла, ступіла на няўстойлівы мосцік са страхам, успомніўшы раптам свой сон, але цікаўнасць аказалася мацнейшай, і я асцярожна зрабіла некалькі крокаў па мосціку, які, як і ў сне, трэснуў і імгненна пагрузіўся ў ваду. Стоячы па пояс у вадзе, я смяялася ўсё гучней і гучней. Не, двойчы цуда не бывае! Але, як і ў сне, мне падаў руку незнаёмы хлопец, які выйшаў з лесу. Ды яшчэ з букетам ландышаў! Я была проста ў беспамяцтве ад таго, што ён, як дзве кроплі вады, быў падобны да таго дзіўнага юнака з майго сну. І раптам - адкуль толькі ўзялася смеласць - я спытала, што ён хацеў мне сказаць у сне. А хлопец чамусьці зусім не здзівіўся і не сумеўся. Усміхнуўшыся, ён сказаў: "Сяргей, Сярожа я!"

Як я яго любіла! Усё было, як у сне: сустрэчы, сватаўство, вяселле, пераезд у Гродна… Гэта было такое шчасце! Ды вось толькі нядоўгае. Праз пяць год адняла яго ў мяне вайна. Загінуў ён. Толькі і засталіся ад палымянага кахання дзве іскрынкі - дачанькі-блізняткі Ірачка і Мірачка. Але праз два гады і Ірачкі не стала. А Мірачка так напамінае мне сёння майго Сярожаньку!

Вочы Ганны Фамінічны патухлі, але яна не заплакала, толькі цяжка ўздыхнула. Я таксама не парушала маўчання, думаючы пра тое, колькі прыйшлося ёй вынесці ў жыцці і пра тое, што моцнае каханне і шчасце, сустрэтыя аднойчы, саграваюць праз усё жыццё.

Свякроўка падышла да мяне, абняла далікатна: "Ну, што, шпілечка-кнопачка, давай далей размаітасці рыхтаваць. Каляды хутка. У пакой увайшоў наш з ёй любімы Віценька. Яна, маленькая такая, абняла нас ободвух, прыціснула да сябе моцна-моцна і, цалуючы, вымавіла: "Дзеткі мае любімыя, жывіце доўга і згодна, абавязкова згодна".

Ну хіба мы маглі яе падвесці? А наша Ганначка, усімі любімая Нюрачка, ужо напявала штосьці вясёлае. Бясконцыя шарэнгі духмяных пірагоў спрытна множыліся пад яе рухавымі рукамі. Да нас даляцела яе жартоўнае пытанне: "Дзеці, а дзеці! І чаму гэта ўсе артысткі-прыгажуні абавязкова Нюрачкі?"

Я падумала, што яна і не здагадваецца пра тое, што яна мае рацыю, наша дзіўная Нюрачка, прыгажуня постаццю, тварам, а галоўнае - душою.

*Пераклад на беларускую мову Ірэны Клімовіч.*



# *Алесь Хітрун*

*Алесь Хітрун нарадзіўся 17 жніўня 1982 года ў вёсцы Крупава Лідскага раёна. Скончыў Крупаўскую сярэднюю школу (9 класаў), скончыў Лідскае ПТВ-196 (майстар сельгаспрадпрыемства), музычную школу (клас баяна), завочна - філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (выкладчык беларускай мовы і літаратуры). Працаваў у прыватных фірмах на дрэваапрацоўцы, на будоўлі. Цяпер працуе ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі навуковым супрацоўнікам літаратурнага аддзела. З'яўляўся кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" (са студзеня 2012 па люты 2019). Друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Вожык", "Вясёлка", "Лідскі летапісец", у гадавіку "Галасы", у газетах "ЛіМ", "15 суток", "Гродненская правда", "Маладзёжны кур'ер", "Звязда", "Настаўніцкая газета", "Принеманские вести", "Лідская газета", "Наша слова", у зборніку "Ад лідскіх муроў". Фіналіст і лаўрэат II Міжнароднага маладзёжнага фестывалю-конкурсу паэзіі і паэтычных перакладаў "Берега дружбы" (Расія, Растоўская вобласць, Няклінаўскі раён, сяло Пакроўскае) у 2017 годзе. Піша вершы, апавяданні, гумар, перакладае вершы на беларускую мову, займаецца краязнаўствам, даследуе фальклор.*

# Пошукі Таўлая

Валянцін Таўлай - асоба, якая на сённяшні дзень цікавіць многіх літаратуразнаўцаў. І з кожным разам, калі знаходзіш, здаецца, нязначную драбніцу, якая мае сувязь з яго творчасцю і самім жыццём, займае дух. Без сумневу, шмат загадак стаіць за гэтай асобай, за гэтым мужным патрыётам, адданым сынам беларускай зямлі. Чалавек-канспіратар, чалавек з добрым сэрцам…

Не дарэмна, што па творчасці Валянціна Таўлая пішуць драматычныя творы, як напрыклад, у Міколы Арочкі "Сцэны з драматычнай паэмы "Шляхі і краты"", змешчаныя ў зборніку "Дзень паэзіі - 84". А супрацоўнікі Дома Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея ствараюць інсцэніраваныя аповеды "У Таўлая пабываем…", дзе ў галоўных ролях самыя музейшчыкі пераўвасабляюцца ў паэта Валянціна Таўлая і яго жонку Кіру Бранд.

У архіве "Белтэлерадыёфонда" захоўваецца дакументальны фільм "Яго напевам выпаў слаўны лёс.... В. Таўлай", які быў зняты ў 1981 годзе, і дзе дзеляцца сваімі ўспамінамі людзі, якія добра былі знаёмыя з паэтам: Ніна Загорская, Людміла Здановіч, Галіна Таўлай, Ірына Раснянская, Сафія Таўлай, Вера Таўлай, Уладзімір Калеснік, Якуб Міско, Янка Брыль, Мікола Арочка.

17 верасня 2021 года была абвешчана Літаратурная прэмія імя Валянціна Таўлая на лепшы патрыятычны твор. Палажэнне аб прэміі зацверджана на бюро Лідскага раённага камітэта БРСМ.

Вядомыя мастакі, скульптары стваралі і ствараюць мастацкія работы паводле жыцця і дзейнасці паэта. Дзеляцца ўспамінамі ў сваіх мемуарах пісьменнікі, лёсы якіх перасякаліся з творцам падчас розных жыццёвых абставінах. Валянціну Таўлаю прысвячаюць творы. Адзін з такіх, найбольш значных твораў, быў напісаны вядомым беларускім літаратуразнаўцам Уладзімірам Калеснікам, які ў сваёй аўтабіяграфіі "Сваім следам" за 23 лістапада 1964 года пазначыў: "Зараз працую над

дакументальнай аповесцю пра Валянціна Таўлая…".

Гэты твор - "Аповесць пра Таўлая" быў надрукаваны ў часопісе "Полымя" ў № 10 за 1964 г., у № 8 за 1965 г., у № 9 за 1965 год. Акрамя гэтага, газета "Літаратура і мастацтва" ў 1969 годзе ў нумары за 21 лютага змясціла на сваіх старонках таксама ўрывак з гэтай аповесці (так пазначана яе аўтарам Уладзімірам Калеснікам), які чамусьці не ўвайшоў у сам твор, што быў змешчаны ў "Полымі". Гэтую аповесць і ўрывак з яе цудам удалося знайсці. Аналіз тэксту наводзіць на думку, што гэта толькі частка поўнай аповесці пра Таўлая. Недзе, можа, у архівах павінна быць другая частка, якая выводзіць падзеі непасрэдна на паказаныя ва ўрыўку.

Рэдкалегіяй літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў" было вырашана адшуканыя часткі твора змясціць нанова для шырэйшага кола чытачоў, каб заахвоціць да пошуку той часткі, што адсутнічае.



***Уладзімір Калеснік***

*Уладзімір Андрэевіч Калеснік (17 верасня 1922, в. Сіняўская Слабада, Карэліцкі раён, Гарадзенская вобласць - 15 снежня 1994, Берасце) - беларускі літаратуразнавец і крытык. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1979). Кандыдат філалагічных навук, прафесар (1983).*

*Скончыў філалагічны факультэт Менскага педагагічнага інстытута (1949), аспірантуру пры гэтым інстытуце. З 1952 года - загадчык кафедры літаратуры Бабруйскага настаўніц-*

*кага інстытута (1952-1954), затым у Берасцейскім педагагічным інстытуце з 1956 г. - загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры. Узначальваў Берасцейскае літаратурнае аб'яднанне. Сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі (з 1960), быў сакратаром яго аддзялення ў Берасці.*

*Літаратурную дзейнасць пачаў з 1952 як крытык. Выдаў кнігі "Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура" (1959), "Час і песні" (1962), "Зорны спеў" (1975), "Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі" (1977), "Максім Танк" (1981), "Лёсам пазнанае" (1982), "Тварэнне легенды" (1987), "Янка Брыль" (1990), "Усё чалавечае" (1993). Складальнік зборнікаў паэзіі Заходняй Беларусі "Сцяг і паходні", "Ростані волі". Даследаваў заходнебеларускую літаратуру, адкрываючы яе як грамадскі і эстэтычны феномен у беларускай літаратуры 1920-х гадоў. Аўтар дакументальна-мастацкіх твораў пра В. Таўлая ("Аповесць пра Таўлая", 1964-1965), заходнебеларускага рэвалюцыянера і публіцыста А. Альшэўскага ("Пасланец Праметэя", 1979). Адзін з аўтараў дакументальнай кнігі "Я з вогненнай вёскі..." (1975, з А. Адамовічам і Я. Брылём). Працы Уладзіміра Калесніка выдзяляюцца высокай творчай культурай, глыбінёй даследчыцкай думкі, імкненнем да аб'ектыўнасці і шматбаковасці даследавання, уменнем стварыць жывыя творчыя партрэты грамадскіх і літаратурных дзеячаў. Аўтар шматлікіх вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для студэнтаў педінстытутаў і ўніверсітэтаў.*

*Быў узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I ступені, "Знак Пашаны", Дружбы народаў, а таксама медалямі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа за ўдзел у напісанні двухтомнай "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" і "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" і літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1994).*

*Уладзімір Калеснік*

# АПОВЕСЦЬ ПРА ТАЎЛАЯ
(твор быў змешчаны ў часопісе "Полымя" за № 10, 1964 г., №№ 8-9, 1965 г.)

## Фрагменты

### Слова аўтара

Я хачу пісаць пра Валянціна Таўлая, хоць, прызнацца, хвалююся і нават крыху трывожуся. Мабыць, не ў мяне першага, не ў мяне апошняга такія пачуцці. Жыццё і творчасць чалавека, які, маючы пятнаццаць гадоў, паспеў стаць рамантычнай фігурай у літаратуры былой Заходняй Беларусь, юным Гаўрошам яе ідэйных барыкад, а ў сталым узросце, перажыўшы незвычайныя выпрабаванні лёсу, застаўся сціплым, ветлым, лагодным, свойскім хлопцам, - вабіла і, відаць, абнясмельвала літаратараў. Пра Таўлая пісалі і пішуць нямала, але ўсё яшчэ няма твора, які б сабраў у адно жыццё і творчасць гэтага самабытнага чалавека.

Мне здаецца, што гэта не выпадкова. У Валянціне Таўлаі я бачу праяву складаных сувязей паміж грамадзянскім і паэтычным самасцвярджэннем асобы мастака ў свеце. Калі паэт актыўна дзейнічаў на грамадска-палітычнай арэне як рэвалюцыянер, духоўная аддача паступала толькі ў адно рэчышча, і яму здавалася, што ён поўнасцю выяўляе сябе ў справах і думках, аформленых у публіцыстычныя творы. Але памяць збірала і захоўвала яшчэ іншыя ўражанні - эстэтычныя. Каб ператварыць іх у вобразы і творы, Таўлаю патрэбны былі абставіны спакою, калі розум мог засяродзіцца на найтанчэйшых душэўных эмоцыях, з якіх снаваліся вершы.

Складанасць суадносін паміж жыццём і творчасцю паэта надаўміла мяне ўжыць розныя жанры у адной працы: для апісання жыцця Валянціна Таўлая, поўнага амаль фантастычных прыгод, выкарыстаць - баюся сказаць, мастацкі - белетрызаваны жанр, а для аналізу творчасці і грамадска-палітычных абставін - навукова-публіцыстычны (тыпу нарыса, эсэ, артыкула).

Вядома, такую разнамасную працу падпільноўвае небяспека: публіцыстыка з белетрыстыкай могуць не зліцца, застануцца двума

рознымі пластамі. Ну што ж, мажліва, так яно і здарыцца, але я адважваюся на гэты эксперымент.

Белетрызаваныя раздзелы гэтых фрагментаў напісаны паводле ўспамінаў блізкіх Валянціну Таўлаю людзей. Домысел выступае галоўным чынам як сродак псіхалагічнай матывіроўкі паводзін дзейных асоб.

**Паядынак**

Валянцін агледзеў перон. Пасажыраў было мала. Ніхто не здаўся яму падазроным. Раней ён думаў гуляць са сваёй выпадковай сяброўкай да самага адыходу цягніка. Разважаў так: калі тыя тыпы з'явяцца тут зноў і памкнуцца ў вагон, дык ён прытворыцца, быццам зазяваўся, і прапусціць гэты цягнік, а паедзе наступным у іншым кірунку. Але цяпер, убачыўшы амаль пусты перон, вырашыў ускочыць у цягнік, а дзяўчыну адпусціць.

- Шчыра дзякую за кампанію, - звярнуўся ён да спадарожніцы. Паставіў чамадан, дастаў кашалёк-падкоўку, выняў пяцізлотавую манету. - А гэта "сястрычцы" на цукеркі. Хай салодка ўспамінаецца наша сустрэча.

Расшпіліў яе сумачку і апусціў срэбны кружок. Падведзеныя бровы яе ўзмахнуліся ад здзіўлення. Першы раз у жыцці Валянцін пашкадаваў аб сваёй шчодрасці.

Калісьці ў Вільні наслухаўся ён нямала гісторый пра валацужных паненак, якіх тайная паліцыя наймала ў суполку для чорнай работы. "А што, калі гэтая таксама нанята?.." Але ён адагнаў падазрэнне: не трэба баяцца ўласнай дабраты. Дабрата - найлепшы наш памочнік. Не падвядзе!

Ступіўшы да дзяўчыны, ён паціснуў ёй руку і чмокнуў у шчаку.

- Бывай, хай табе будзе шчасна. Дзенькуе!

- Узаемна. Пульхныя вусны маеш, кацапік, пся твая мама!

- Што ты сказала? - халадзеючы нутром, перапытаў ён. А ў галаве маланкай жахнула думка: "Папаўся ў пастку!" Хацелася перавесці пачутае ў жарт, але ён не мог авалодаць сабою. Сэрца біла, як звон на пажар, займала дух. І ён ведаў: калі адкрые рот, каб загаварыць, з горла вырвецца чужы, хрыплы, перарывісты зык.

- Ха-ха-ха! - зарагатала яна. - Што, не прывык чуць такіх пяшчотак ад кабет? Я ж вулічніца. А ты, пане ладны, хоць мной пагарджаеш, а сапраўды ж сам крэсовяк: "бацвінне", "дзенькуе" - нараспеў, як у кальварыйскага дзеда. Я ў Вільні жыла, красовую гаворку ведаю. Ты таксама

з-пад Вільна? Прызнайся!

Ён моўчкі кіўнуў галавою, адчуваючы, як паступова адыходзіць здрантвенне ў руках і нагах.

- Так, я не прывык да такога грубага блазенства. Але давай развітаемся ў згодзе. Не затрымлівайся, калі ласка, ідзі ўжо.

- А я маю час, памахаю шчэ ручкай міламу "брацiку".

- Не трэба, прашу, без камедый!

- Хай будзе так, як "брацік" зычыць. Толькі запомні, святоша: калі баішся пакахаць - не лезь. Хочаш і жыцця паспытаць і да споведзі стаць чыстым? Я адна магла дараваць такую абразу. Скажы яшчэ раз дзенькуе!

- Дзенькуе! - машынальна вымавіў ён і ўбег у тамбур.

Напружанне спадала, усё цела апаноўвала млявасць. Мінуты да адпраўлення доўжыліся. Цяпер толькі, застаўшыся адзін, ацаніў яе паслугу. Захапіўшыся роляй шукальніка прыгод, ён нават забываў пра небяспеку.

Нарэшце жаданае гу-гу! Паравоз адсапнуў, тузануў з усёй сілы. Рывок-другі - і, лязгаючы літаўрамі буфераў, састаў пасунуўся на ўсход. Валянцін разгледзеўся - у вагоне ён быў адзін. З палёгкаю ўздыхнуў: пранесла!.. Так добра было разваліцца на лаўцы, расшпіліць паліто, выцягнуць натруджаныя ногі, паслабіць шнуркі ў туфлях і ўсім стомленым целам аддацца рытмічнаму калыханню. Ён задрамаў у цяпле...

Бачыў сябе ў Рудаўцы малым і бесклапотным. Нібыта прачнуўся раніцою і ляжыць пад цёплай коўдрай. Бабка Аўдоцця запаліла печ, але ў хаце ўсяроўна холадна. Настыла за ноч хата, а пад коўдрай ім з Шурам так міла. Старая бразгае скавародамі, а мачыха ўстае памагаць падходжвацца. Пачало світаць, патушылі газніцу. Вось мачыха, ціхая, падыходзіць да іх ложка і лагодна ўгаворвае: "А на дварэ сняжок белы-бялюткі... І зайка шэранькі ў гародчык набег... Уставайце, хлопчыкі".

Валя хоча глянуць на снег, але боязна пакідаць пасцель. Спрасоння ён пацягваецца, а мачыха прыгаворвае, усміхаючыся: "Пацягушкі-пацягушкі, малым дзеткам падрастушкі",- абнімае яго і дастае з-пад коўдры на холад: "Будзем адзявацца, сынок".

За Беластокам дзверы ў тамбуры бразнулі, і ў вагон пацягнула холадам. Увайшлі двое нецікавых на пагляд мужчын. Іх можна было палічыць і за дробных чыноўнікаў, і за маклёраў, якія развозілі па вёсках розную драбязу. Такія вось субчыкі, Валянцін помніў, прадавалі, бывала, "шпэлер" - лякарства ад усіх хвароб; за плоскую бутэлечку смярдзючай брыды выманьвалі дзесятак яек або сыты абед. Яны збывалі ў глухіх вёсках заляжалыя тканіны, ачмураючы рэкламнымі штукарствамі

правінцыяльных модніц.

Разгорне такі прайдзісвет танны адрэз шэрсці, спрытна накіне збянтэжанай красуні на плечы, прыгладзіць на бюсце, прыхваціць спрытнымі пальцамі за талію, адхінецца ўсім целам назад, апусціцца на адно каленка - і застыне ў нямым захапленні:

- О, божа... Які цуд можа зрабіць з прыстойнай дзяўчынай густоўнае адзенне!.. - І, звяртаючыся да маці, якая вось-вось збіралася вылаяць нахабніка за вольныя жэсты, пяе анёльскім галаском: - Матухна! Маючы такую слічную дачку, грэшна не апранаць яе па модзе. Вы абкрадаеце яе харaство. Слова гонару!

Не даючы апамятацца абедзвюм, маклёр жвава падхопліваецца на ногі, зрывае тканіну з дзявочых плячэй і, крывячыся, паказвае пальцам на пачырванелую, як півоня, ахвяру:

- Бачыце, што засталося ад нядаўняй красуні - нічога, адна прыкрасць. Але не ў красе толькі штука. Глядзіце, мамуся, што я раблю.

І прадавец камячыў ужо тканіну ў руках, кідаў жмуткам на табурэтку, садзіўся на яе верхам, як на каня, і рабіў выгляд, што камечыць тканіну.

- Ну, што? Бачылі дзіва - не мнецца, не ломіцца! Якасць, пся косць! Ніякага ашуканства! Сумленны гандаль. Шчасце прыйшло ў дом. Ну, матуля, берацё?!

Апошні эксперымент дабіваў практычную гаспадыню, і яна шамоль-шамоль - ішла да скрыні даставаць грошы...

Фацэтны абразок так жыва прабег перад вачыма, што Валянцін усміхнуўся. Але вось заныла ля сэрца, вярталася насцярожанасць. Прабуджэнне, калі недаспіш, - прыкрая штука, а тут спаў чалавек, як той заяц пад кустом, з адкрытымі вачыма.

Гэта былі ўжо не тыя тыпы з Варшавы, але былі гэта, мабыць, яны... "Яны ці не яны?" - гадаў ён, вырываючыся з сонных мар. Выгляд як на шпіцляў у іх быў ідэальны - гэта значыць, яны не мелі выгляду: узрост, рысы твару, вопратка - усё ў іх было сярэднеарыфметычнае. Яны з той пароды людзей, аблічча якіх помніцца, пакуль на іх глядзіш, адвярнуўся - тут жа забудзеш, паспрабуй уявіць - замардуешся, і нічога не выйдзе. Ніякіх асаблівых прымет. Праўда, валасы ў аднаго былі крыху цямнейшыя і пад носам дзве палоскі вусікаў. Такія вусікі насіла тады добрая палова мужчын, таму і гэтая дэталь не магла быць адметнай. У даным выпадку вусікі адрознівалі толькі гэтых тыпаў паміж сабою.

"Яны, няйначай яны... Нарэшце трапіў у мілае таварыства. Калі пройдуць - не яны, калі спыняцца - яны..."

Яны прыпыніліся, паглядзелі на яго і пайшлі далей. Селі ў суседнім

аддзяленні. Потым вярнуліся. Пачціва перапрасіўшы за турбацыю, адзін з напускной ветлівасцю папрасіў дазволу прысесці ў таварыства.

Звычайна, покуль небяспека кружыла здалёк і ад яе можна было выкруціцца, Валянцін хваляваўся, часам нават наганяў на сябе такога пуду, што хоць памірай. Не раз нават бачыў сябе мёртвым, станавіўся ахвярай уласнай фантазіі. Але як толькі бяда заглядала ў вочы, набліжалася тварам у твар - увесь спалох нібы рукою знімала. Фантазія адключалася, і ён, апынуўшыся перад суровай неабходнасцю, дзейнічаў адважна, рашуча і цвяроза.

Няпрошаныя госці напускалі на сябе тую сумесь ветлівасці з нахабнасцю, якая лічылася шыкам у дробнамяшчанскім асяроддзі: наперабой перапрашалі, што патрывожылі "салодкі сон". Яны, маўляў, не пасмелі б прыйсці ў гэта аддзяленне... каб ведалі, што патурбуюць...

Буркнуўшы нешта неўразумелае ў адказ на перапросіны і прывітанне, Валянцін усё яшчэ сядзеў уразвалку. Міргаючы спрасонку, ён глядзеў на нязваных падсуседзяў абыякава. На твары ўзнікала грымаса нездаволенасці, натуральная ў чалавека, якога ўспаролі са сну.

Але думка яго працавала востра.

"Калі не просяць дакументы - значыць, або не ведаюць, хто я і што я, або хочуць выкарыстаць мяне як падсадную качку: папільнаваць і паглядзець, хто прыляціць на прыманку. Не выключана, што маюць загад арыштаваць, але самі рашылі пагуляць у кошку-мышку... А можа гэта яшчэ і не яны..." - падшэптвае надзея.

"Пабачым. Трэба рыхтавацца да горшага. Добра хоць, што не арыштавалі ў Беластоку. На допыце абараняцца цяжэй, чым у вольнай размове. "Тайнякі"[1] тут абавязаны паважаць чалавека і вытрымліваць такт. Паспрабуйце, панове, пагаварыць з суб'ектам, які мае права ставіць сябе на роўную нагу і патрабуе захавання таварыскіх правіл. Вы прывыклі, нябось, гаварыць лупцуючы, а зараз мы пагаворым жартуючы..."

Атрымалася ў рыфму, і ён усміхнуўся ад нечаканай сугучнасці слоў. Нібы прымаючы гэты выклік, ягомасць з вусікамі загаварыў:

- Раз мы ўжо разбудзілі пана, дык давайце хоць знойдзем якую таварыскую забаўку. Давайце, каб не нудзіцца, будзем па чарзе расказваць вясёлыя здарэнні з уласнага жыцця. Так і пазнаёмімся бліжэй. I час правядзём. Пану, відаць, ехаць далёка?

- Да Баранавіч, - на ўсякі выпадак зманіў Валянцін.

- О, нам таксама. Дык пан далучаецца да мае прапановы?

Валянцін пацісну плячыма.

[1] Агенты тайнай паліцыі.

- Баюся,- сказаў ён, - што гэта лішне круты ход для пачатку знаёмства. Можа так з гадзіну пагутарым, калі панове не супроць, пра пагоду. Ну, а калі хопіць досціпу расказваць смешнае пра пагоду...

Не закончыўшы фразы, Валянцін засланіў далоняй вусны і пазяхнуў.

- Я прапаную, - схіліўся вусаценькі, - залічыць пану гэта за досціп. Для пачатку няблага. Па заніжанай тарыфе сыдзе за досціп.

"Ого, - падумаў Валянцін, - гэты нахабны, напэўна, б'е на допытах, адначасова палкаю і кпінамі. А ў канцы прапануе паступіць на паслугі ў паліцыю".

Згладжваючы бястактнасць, другі загаварыў салодка:

- Мне, панове, хочацца расказаць свежанькі і зусім для мужчын прыстойны жарт, нават крыху палітычны. Можна? - глянуў на Валянціна.

Выгляд у гэтага быў такі, нібы ён толькі выскачыў з хімчысткі. Светлы плашч, штонікі-плюмпы ў модную клетку, ружовенькі тварык цукерачнага прыгажунчыка. Старанна зачасаныя назад, блішчастыя ад брыльянтыну бялявыя валасы.

"Такія любяць збіваць да паўсмерці і пяшчотна сюсюкаць да ахвяры", - падумалася Валянціну.

- У міністра Бэка ладная жонка. Прыходзіць аднойчы муж дамоў і бачыць у яе на запясці залаты браслет. "Скуль ён у цябе, каханенькая?" пытае муж. "Падарунак ад брата", - адказвае яна. Нахмурыўся пан міністр, прабурчэў: "Калі брат дорыць сястры залатыя рэчы, то альбо золата фальшывае, альбо брат". Што, добра разважыў? - лісліва звярнуўся да Валянціна расказчык, выпрошваючы прызнанне. - Ён то жыццё знае! Ха-ха-ха! Нездарма дыпламат...

Валянцін пазіраў на бялявага так, што нельга было зразумець, ухмыляецца ён ці моршчыцца.

Адазваўся вусаценькі:

- Фальшывых, падробленых рэчаў і людзей цяпер пайшло - ліха ведама колькі. Крызіс! А дзе крызіс, там і грэх, - цягнуў ён філасофскім тонам. - Хто хаваецца ад даўгоў, хто ад войска, а хто ад суду... - тут вусаценькі даў паузу, - за палітыку... - і ўздыхнуў.

Абодва ўтаропіліся на Валянціна, як бы хацелі з'есці яго вачыма.

Ён ацаніў адказнасць моманту. Здзіўлена паглядзеў у вочы то аднаму, то другому і сказануў тонам чалавека з манерамі:

- Штосьці змрочна ўспрымае ваш прыяцель жарты. Ён у вас мізантроп? - Не чакаючы адказу, гаварыў далей з пачуццём перавагі: - Мне ўспомніўся жарт пра жарты. Самы лепшы той жарт, калі ўсе смяюцца, а расказчык не. Жарт другога гатунку - калі жартаўнік смяецца

разам са слухачамі. Трэцяга - калі смяецца адзін "жартаўнік", а слухачы кажуць: "Лезь пад стол за дурноту". Выхаванне не дазваляе мне ацаніць жарты маіх спадарожнікаў ніжэй як па першай катэгорыі... Скажу шчыра, панскі жарт пра міністра не дужа смачны. Ці варта брыдзіць імя дзяржаўнага дзеяча, падстаўляючы ў сітуацыю, дзе кожнае іншае імя пасавала б лепш? А заўвага вашага друга - проста гумар вісельніка. Пан не думае падаваць кандыдатуру на месца пана Маціеўскага?[1] Кажуць, ён ідзе на пенсію. Я, канешне, жартую, і таксама няўдала. Адным словам, панове, нам усім патрэбен ільготны тарыф. На гэтым пагодзімся?

- А пан лішне амбічны і занадта зласлівы, як на свой узрост, - гаварыў вусаценькі. - Вызваляем пана ад ільготных тарыфаў. За Бэка, аднак, не хвалюйцеся. Запаўняю вас, яго рэпутацыя страчана. Стаўка на чырвоных падарвала б аўтарытэт самога маршалка, а не то што... Лепш бы браталіся з Гітлерам, чым з чырвонай чумой. Во загіне дзяржава. Пан не згодзен?

- Палітыка не ў маім гусце, - спакойна адказаў Валянцін. - Хай займаюцца гэтым старэйшыя ягамосці. Я не маю ахвоты глядзець на свет праз шэрае шкельца палітыкі.

- Ай-яй-яй! Ну і моладзь цяпер расце... - ківаў галавою вусаценькі. - Адно толькі трэлькі-бамбэлькі ў галаве. Мы таксама з панам Камінскім не дзеячы, а ўсяго толькі былыя гандлёўцы. Але якая, пане, зараз камерцыя, калі крызіс. - Вусаценькі скрывіўся, нібы ў яго раптам занылі ўсе трыццаць два зубы. - Дзяржава без гроша - і абываталь таксама. У гэтай праклятай сітуацыі нехаця задумаешся пра палітыку. Мы страцілі працу. І цяпер беспрацоўныя. Прафесія - самая папулярная сёння.

"Кляйма на вас няма, мярзотнікі, - абурыўся ў душы Валянцін. - Што праўда, то праўда прафесія ў вас папулярная. Каб жа і на самай справе вы сталі беспрацоўнымі - колькі б грудзей уздыхнула вальней у "вольнай" Польшчы! Але дарма хлусіце. Не дачакаецеся, каб я стаў агітаваць такіх "беспрацоўных". Прадзешавілі, панове "беспрацоўныя". Далі мне козыра ў рукі".

- А пан, мабыць, на ўтрыманні таты, дык не адчувае безграшоўя? - не супакойваўся вусаценькі.

- Не, сам зарабляю.

- Пан служыць?

- Так.

- Гэткі маладзён - і служыць. А дзе, калі не сакрэт?

[1] Маціеўскі - кат буржуазнай Польшчы.

- У школе, - хмурачыся ад назоллівасці субяседніка, адказаў Валянцін.

- Кім?

- Настаўнікам.

- У якой школе?

- У пачатковай, - ужо нездаволена, як ад надакучлівай мухі, адмахваўся ад вусаценькага.

- Я хацеў спытаць, у якім горадзе?

- У маім родным, - з'едліва адрэзаў Валянцін, даючы зразумець, што цікавасць субяседніка перабрала ўсе межы.

Той схамянуўся і пачаў разводзіць тары-бары пра сваё жыццё і справы. Валянцін сцяміў, што праціўнік рыхтуе новы плацдарм для наступлення. Дае крэдыт, які трэ будзе сплачваць расказам пра сябе. Уразумеў ён і другое: па цвёрдасці голасу, амаль загадным тоне, па шпаркім тэмпе, у якім задаваліся пытанні, і азартным бляску вачэй ён пазнаў прафесійную хватку следчага.

"Дык вось вы якія бываеце, сейбіты гора, жаху і смерці", - думаў ён. І сам здзівіўся, што факт гэты нікольկі не ўстрывожыў яго. Нібыта сапраўды яго гэта не датычыла. Ён пачаў дражніцца, пераводзячы размову на самыя пустыя тэмы, і ў душы рагатаў. Пры кожным яго манеўры ў вачах спадарожнікаў загараліся агеньчыкі: іх разбіраў азарт, а яго - смех. Яму падабалася абыходзіцца з "беспрацоўнымі" так сабе - "зверху".

Урэшце ён стаў пазяхаць, выказваючы, што страціў цікавасць да іх. "Не, панове, нічагуткі вы не даведаецеся, пакуль не пакажаце сваіх шпіцлёўскіх бляшак. А паказваць іх вам не выгадна - хочаце пабыць беспрацоўнымі". Яму страшна захацелася ўбачыць бляшкі пад штрыфлямі пінжакоў.

Валянцін далей дэманстраваў пагарду. І гэта падзейнічала. Бялявы (ужо не просячы прабачэння) адвёў вусаценькага ў канец вагона, штосьці пашаптаў і знік у тамбуры. Вусаценькі вярнуўся на месца і паведаміў, што яго прыяцель пайшоў купіць папярос у кандуктара.

"Ага, панове, сумняваецеся. Значыць, пайшоў шнырацьпа цягніку, шукаць больш падазронага, чым я".

Мінут праз дваццаць бязвусы вярнуўся. Яны пасакрэтнічалі між сабою, і відаць было, што збавілі цікавасць да Валянціна. Ён жа прадаўжаў ставіцца да іх звысоку. Бесцырымонна разваліўся, пазяхаў, павяртаючы твар да шыбы вагона, а сам у гэты момант удакладняў

арыенціроўку на мясцовасці.

Яшчэ паўгадзіны - і можна будзе рызыкнуць.

Нарэшце. Мінулі Зельву, потым Плецянічы. Ён ведаў тут кожны заваротак, кожны ўзгорак і спуск. І не дзіва! Колькі разоў ездзіў у Вільню, у Гродна. І па сваёй ахвоце, і пад канвоем...

Пазяхнуўшы з зацяжкаю, ён вінавата ўсміхнуўся, кіўнуў галавою, нібыта дзівіўся: "Адкуль гэта бярэцца?" - і ўстаў.

Трэба асвяжыць твар, а то вывіх шчэлепаў дастаць можна.

Ён мармытаў гэта, не звяртаючыся ні да кога канкрэтна. Потым дадаў прымірэнча:

- Вось што значынь пажыць у сталіцы... Чалавек робіцца вялы, як мех з атрускамі. Панове, нікуды не збіраецеся?.. - спытаў ён, кінуўшы позірк на свой капялюш і чамадан.

- Проша, проша, - усміхнуўся бялявы ў адказ. - Пальто таксама раю зняць, зручней будзе.

- Не, не, там здыму, штосьці мне зябка.

Валянцін дастаў з чамадана ручнік і мыла, нядбала піхнуў іх у кішэню паліто і падаўся да праходу. Хістаючыся, ён марудна паплёўся ў канец вагона. Зірнуў у люстэрка на дзвярах туалета і пакруціў галавою: хвалістыя пасмы валасоў навіслі на лоб, вочы глядзелі зморана з-пад напухлых пачырванелых павек. "Ну, выгляд кавалерскі. Ледзь пазнаў самога сябе".

Ён азірнуўся. За ім ніхто не сачыў. "Вось і добра, - гаварыў ён у думках, - шпіцлі, бач, перасталі зважаць на заморка". Валянцін знарок моцна грукнуў дзверкамі туалета і хуценька пракраўся ў тамбур. Цягнік падыходзіў да павароту. Ён высунуўся на надножку. Твар абдало золкім ветрам. На заломе машыніст збавіў ход. "Скакаць толькі ўперад - па ходу... - маланкава білася думка. - Толькі па ходу".

І раптам страх пачаў ахопліваць яго: "Хаця б не зачапіцца крысом паліто! Аднойчы бацька расказваў пра выпадак..." Ён зразумеў, што калі дасць волю фантазіі і ўявіць той выпадак, пра які расказваў бацька, то не хопіць духу скакаць.

"Толькі ўперад, толькі па ходу, толькі ўперад", - паўтараў ён, каб вызваліцца ад нерашучасці. Вось пукаціна павароту. Цягнік пачаў набіраць хуткасць.

"Альбо зараз, альбо ніколі..."

Ён адштурхнуўся праваю нагою і адпусціў поручань...

Апомніўся, калі ляжаў на гразкай узбочыне чыгункі, аглушаны грукатам колаў. Балела ў правым калене. Паварушыў нагою. Не паламаў, а толькі моцна ўдарыў. Пацёршы каленка, правёў рукой па галёнцы

да ступака. Ах, ліханька! На туфлі не было галёша. Устаў, пачаў шукаць, абмацваючы зябкую зашэрхлую гразюку. А цемрань непраглядная. Раптам пачуўся ў далечыні скрыгат паязных тармазоў, ляск буфераў: цягнік, які не ад'ехаў яшчэ кіламетра, стаў збаўляць ход і - стоп - спыніўся.

- Тут, браце, не да галёша. Дай божа ногі... - мармытаў сабе над нос Валянцін, сігаючы па шпалах у кірунку Зельвы.

Бег колькі было моцы, а калі азірнуўся, то ўбачыў, як ад састава аддзяліліся два агеньчыкі электрычных ліхтарыкаў.

"Не, гады, не зловіце! Вам адна дарога, а мне - усе чатыры".

Грудзі распірала радасць. Бег ён на подзіў лёгка, проста не чуючы ног.

## На могільніку

### 1. Ноч

Угнуўшыся, Валянцін подбегам спяшаўся супроць ветру. Ногі ў туфлях прамоклі, у правым, што быў без галёша, ажно чвякала слізкая вільгаць. Вада, нібы кампрэс, адцягнула нясцерпна пякучы боль, што дакучаў яму ўсе дні блуканняў. Чалавек трое сутак не разуваўся, ногі папрэлі, падэшвы гарэлі агнём. Цяпер стала лягчэй, хоць ён разумеў, што дорага будзе каштаваць гэта часовая гаючая прахалода.

З шэрага прадоння бясшумным роем выляталі вільготныя снегавыя восы, сярдзіта жыгалі ў твар, аблеплівалі грудзі, плечы, валасы, раставалі на гарачых шчоках і ручаінкамі сцякалі за шыю. Ён так злаўчаўся выдыхаць, каб кожны раз здзьмухваць вадзяныя кроплі наперамену то з барады, то з кончыка носа. А ўсё ж вада знаходзіла дзесьці дарогу і зябкімі казытлівымі вужачкамі запаўзала за пазуху, здаецца, дабіралася аж да нутра. Валянцін унурваў галаву ў плечы, курчыўся, уздрыгваў, але ішоў. Не да парасят, калі свінню смаляць, не да выгоды, калі ззаду пагоня.

Праз якую гадзіну ў снегавой куламесе замаячылі цёмныя сілуэты будынкаў. Паказалася Зельва. Валянцін прыпыніўся: "Што далей? Валіць проста ў мястэчка?.."

Па вуліцах, яму казалі, ноччу хадзіла варта. Праўда, вартавалі па чарзе самі жыхары, перадаючы з двара ў двор драўляную калатушку - сімвал надаедлівага абавязку. Бывала, некаторыя хітравалі, выкручваліся, але "вобчаства" на сходках падсцёбвала нядбалых: "Гэта вам не хаханькі! А што, калі, не давядзі божа, пажар? Пагарым тут сосну!" Пасля такіх натацый вартавалі спраўней.

"Наткнешся на якіх старанных прыдуркаў, - вагаўся Таўлай, - і прапала сукала... А, гараць яны гарам, з вуліцамі! Абыду лепш заплоткамі. А куды ж, уласна, ісці?.."

Ён аж сумеўся, што дагэтуль не рашыў такое закавыкі: усё пёрся наперад, наперад, усё адрываўся ад пагоні, стараўся збіць з тропу тых двух ганчакоў, выбіраў голыя падмёрзлыя праталінкі - хоць бы не пакінуць следу. Выбіўшыся на дарогу, нават прадбачліва сцягнуў той астатні галёш і пульнуў у кусты: калі маюць аставацца сляды, дык няхай хоць будуць сляды як сляды, а то туфель і галёш... Адным словам, дагэтуль усе думкі і трывогі скіроўваліся на тое, што за спіной, а цяпер непакой перакінуўся на тое невядомае, што чакала ўперадзе.

Гарадок ужо даўно пагасіў агні. Дабудзіцца жывое душы можна было хіба ў якой абэржы. Але як паказацца туды зімою без шапкі? Застукае гаспадар і капне паліцыі…

"Не, братка, заезны дом не для цябе", - уздыхнуў Валянцін, павяртаючы на заплоткі.

Трэ было нешта рабіць, бо ўспацелыя плечы праймала дрыжыкамі, а душу апаноўвала трывога. "Паспрабаваць заваліцца ў якую бедную хаціну? Хто яго ведае... Рызыкоўна ноччу, не ведаючы да каго заходзіш... Уліпнеш - ганьба..."

Адчуванне таго, што і тут, на зямлі тваёй роднай няма табе прытулку, няма патолі, пакутліва гняло яго. Спакой і ўтульнасць, адпачынак і сон станавіліся нязбытным жаданнем. Нечакана гэтае жаданне вынесла з тайнікоў падсвядомасці вобраз маці. Яна помнілася з адной фотакарткі: пышная фальбоністая сукенка і праставаты бледны, лагодны твар, асветлены сумна-пяшчотнай усмешкай. Маці трымае яго, яшчэ маленькага, на руках, а ў вачах незямное балеснае шчасце мадоны. Не той італьянскай спакуслівай прыгажуні, а гатыцкай, сціплай, непрыгожай, але вельмі людскай, міласэрнай і чыстай жанчыны.

"Яна ж тут, мая добрая-добрая, мая любая матуля!"

Хваля трагічнага смутку і нейкай цьмянай надзеі падхапіла яго і несла на могільнік. Пералезшы цераз агарожу, ён марудна караскаўся на круты пагорак, а потым, прыгнуўшыся, доўга шукаў памятны з маленства курганок у зманлівым паўзмроку начное завеі.

Маці пахавалі ў 1919 годзе. Зельва тады адвыкла была ад цвёрдага парадку, за гады вайны і разрухі ўлады мяняліся бясконца, і ніхто ні ў кога не пытаўся, дзе яму жыць і дзе хаваць нябожчыкаў... Бацька, у той час начальнік станцыі, выбраў для свае сяброўкі самае ўзвышанае месца на могільніку - перад капліцай. Удзень адсюль відзён быў увесь гарадок, як на далоні. З усходу яго абвівала рэчка Зяльвянка. Яе блакітная

шыракаватая істужка бэрсалася ля станцыі мудрагелістымі петлямі пратокаў і старыц-азярын. Дзесьці ля самага далягляду сінь ракі расплывалася ў асмужаных лясных далях. Але ноччу нічога не было відаць, толькі сцішна рыпелі галінамі дрэвы ды падаў, падаў першы ў гэтым годзе вільготны снег.

Трывогі і нягоды, якім, здавалася, не будзе канца, перапляталіся ў думках Валянціна з салодкімі ўспамінамі бесклапотнага дзяцінства. З гэтае мешаніны карцін і настрояў у душы асядала горкае адчуванне самоты і немачы. Хацелася пачуць забыты матчын голас, прытуліцца шчакой да шчакі, замерці ў бяспечнай і ціхай задуме, акрыяць духам, набрацца сіл на новыя дарогі. Але замест жывое, добрае, клапатлівае маці была ўдзірванелая, забытая магіла.

Горла сціскалі спазмы, рабілася сцішна і соладка перад прывідам смерці, якая, здавалася, стаяла побач, насміхаючыся з марнасці чалавечых спраў.

"Мама, матуля любая, - не то ў думках, не то ўголас гаварыў сын. - Вось які я прыйшоў да цябе. Загнаны... Зашчуты... Беспрытульны... Ці такога ты мяне чакала?! Хіба мала я думаў пра цябе? Можа крыўдуеш, што не напісаў пра цябе вершаў? Не, ты добрая, ты разумееш, што не хапае мне слоў, каб выказаць сваю балесную любоў да цябе. Таму і не пішу. Каб ты жыла, усё пайшло б у нас інакш і лепей... І маё жыццё абарвецца таксама выпадкова і рана..."

Цвёрды балючы камяк засеў у гартані. Валянцін змоўк. З вачэй пацяклі слёзы. Але пакуль яны сплывалі па запалых шчоках, мяшаліся з талай вадою, і на губы траплялі халодныя і прэсныя струменьчыкі. Ён не ведаў - сапраўды плача ці толькі хоча заплакаць...

А фантазія жаласнымі і трагічнымі вобразамі малявала будучыню. Ён бачыў сябе прашытым паліцэйскімі кулямі. Ворагі закапалі яго ўпотай, а магілу зраўнялі. Ні сябры, ні родзічы не збілі яму дамавіны, не правялі на вечны спакой…

Сэрца шчымела, заходзілася ад жалю, нібы круг жыцця сапраўды трагічна самкнуўся. Пераблытваліся мроі з яваю, ён паверыў у сваю смерць...

Ён - мёртвы, а маці жывая... Яна адна нейкім цудам праведала пра яго пагібель, знайшла яго, узяла на калені яго скатаванае цела і застыла ў нямой мацярынскай жалобе. Ён не ведаў, дзе гэта адбываецца - на тым ці на гэтым свеце, нібы "Піету" Мікельанджэла, шмат разоў бачаную на рэпрадукцыях, нехта ажывіў. На месцы Марыі была яго маці, на месцы знятага з крыжа Ісуса - ён сам.

Душа скардзілася ўсяму свету, жалілася перад ценямі памёршых

і перад сумленнем жывых. Ён меў скаргу на жыццё, што ў ім тварылася вялікая несправядлівасць, бушавала зло. Не хацеў ён змірыцца з гэтым, не хацеў, але не мог нічога зрабіць. Гэтае бяссілле і выціскала слёзы з вачэй.

Ён не стрымліваў слёз, хоць у душы саромеўся плакаць. Сведкай яго чуласці была адна толькі сівая ноч, а ёй, ап'янелай у мяцелістых гулях, асіплай ад свістаў віхуры, было мала спраў да людзей. Пры жывых сведках ён бы стрываў. Як большасць людзей яго ўзросту, Валянцін саромеўся слёз. Яму здавалася, што плачуць толькі слабыя, бесхарактарныя людзі. Рана яму было ведаць, што плачуць у цяжкіх абставінах усе, хто здольны моцна і глыбока перажываць. Слабцы перажываюць павярхоўна і вяла, тупіцы перажываюць ляніва і груба: першыя раскісаюць без прычыны, другія не здольны расчуліцца ніколі. Валянцін саромеўся слёз, бо хацеў быць героем на п'едэстале. Ён не разумеў, што такіх стандартных герояў няма ў жыцці, што іх стварыла жорсткая фантазія і злая воля людзей, якім хацелася лёгка і бесклапотна кіраваць героямі, змагарамі. Не зусім разумеў ён тады, што змагар і герой - самы звычайны чалавек, толькі гэта яго звычайнасць узбуйненага маштабу. Змагар не можа быць іншым. Ён не мае права цурацца чалавечага, душыць і нішчыць у сабе чуласць. Змагар абавязаны разумець і любіць людзей: не для сябе ж аднаго ён бярэцца здабыць шчасце і волю. Для людзей. Калі не хоча выраздзіцца ў вульгарнага авантурыста і самадура, павінен змагацца толькі разам з людзьмі, толькі чалавечна.

Знаў бы ён гэтыя няхітрыя ісціны, не саромеўся б слёз у тую ноч, не праклінаў бы свае слабасці...

Колькі часу цягнулася яго размова з маці - Валянцін не помніў. Апомніўся, адчуўшы, што мерзне. І з гэтага моманту ніяк не мог ужо ўявіць сябе мёртвым, а маці жывою. Сілай нейкай інерцыі памяць вынесла радкі з верша яго любімага паэта Бранеўскага: "Umierac trzeba pieknie". У хвіліну праяснення ён заўважыў, што гэтыя словы пра смерць клічуць не паміраць, а жыць, жыць і жыць...

## 2. Дзень

Калі б хто забабонны трапіў на зельвянскі могільнік днём у пачатку зімы ў 1932 годзе, ён мог бы пабажыцца, што бачыў чорта не чорта, а ў кожным разе кагосьці "адтуль". Таўлай туліўся ў нішы храма, які быў раней царквою, а пры панах стаў касцёлам. Ніша засланяла ўцекача ад ветру. Тут было зацішна, і, як гавораць, можна было б жыць, каб не слабое паліто, ненакрытая галава, прамоклыя ногі. Ногі качанелі, і Валян-

цін грэў іх, дзубаючы наскамі свайго недарэчнага тут гарадскога абутку адзін аб адзін. Але гэта мала памагала, мароз прабіраў да самых касцей.

Пасля начной адліжнай мяцеліцы (першай у тым годзе) неба стала "падгульвацца" на пагоду, сям-там праблісквала сонца, а мароз прыпякаў усё ямчэй і ямчэй. Таўлай наставіў каўнер, абвязаў галаву і шыю белым вафельным ручніком, "спіцаваў" пальцы ў рукавах паліто, скурчыўся ўсім тулавам і зрабіўся надобны на француза, уцекача з-пад Масквы.

"За кабету ў хустцы я, мабыць, не сышоў бы: фамільны нос выдасць". Вясковыя жартаўнікі дражніліся калісь: "Нос, нос, на траіх рос - аднаму дастаўся!" Чаго ж, дзябёлыя насы пасавалі высокім, здаравенным, жылістым мужчынам з нашага роду, адчуваліся крутыя і сукаватыя характары, а мне, нізкаросламу, не зусім пасуе. Нічога - навырост будзе! Апраўдаю".

Нос быў галоўнай дэталлю на твары Валянціна і надаваў яму крыху панылы выраз. Асабліва цяпер хлопец выглядаў, што і гаварыць, негераічна. Але і не ганебна. Пакутлівая панылась змянялася зларадаю ўхмылкай: гэта ў азяблым галодным целе абуджаўся мастак, які вострым слоўцам падсмейваўся са свайго становішча.

Прыпомніўся па аналогіі стары жарт з папулярнае ў 20-я гады "Маланкі". Нейкі пан наняў селяніна ў падводчыкі - завезці ў горад. Прыходзіць, а мужык сядзіць за сталом і капусту сёрбае.

- Можа і пан паесць на дарогу?

- Не, не, не - я пілэм гэрбату.[1]

Паеў мужык, абцёр вусы і давай кажух апранаць. Перавёў пагляд на панскую вопратку і зноў прапануе:

- Апрані і пан кажуха!

- Упшэйме дзенькуе, я мам пальто на ваце.[2]

Паехалі. Мароз прыціснуў. Заляскаў пан зубамі, а мужык сядзіць ды пакурвае. Нарэшце бачыць - змерзне пан.

- Злазь, - кажа, - пане, ды бяжы пры возе, а то мо жывы ці астанешся.

Паслухаў пан, бяжыць, як цюцька, пры возе, а мужык каня лейцамі паганяе і прыгаворвае:

- Што кажух, то не вата, што капуста, то не гарбата!"

Ад успамінку пра капусту Валянціна аж перасмыкнула балючая спазма голаду. "Паўцарства за місу капусты!" - кпіў ён з сябе, пераф-

---

[1] Не, не, не - я піў чай.

[2] Вельмі дзякую - у мяне паліто на ваце.

разуючы шэкспіраўскі афарызм. Хацелася наклікаць на сябе яшчэ больш болю, яшчэ больш фізічных пакут: яны крыху апраўдвалі яго начную хліпкасць. Ён шчыра хацеў пакутаваць, але ў той жа час смаліў папяросу за папяросай, праганяючы адчуванне голаду. Зубы самахоць абгрызалі кісленькія канцы гільзаў, жавалі паперу на кашку. Грэць нос папяросай - адна-адзіная асалода, якую дараваў паганы лёс. Былі моманты, калі хацелася адмовіцца ад гэтае ласкі. Зларадна глядзеў ён, як пусцее пачак, а пальцы машынальна сціскалі гарачы яшчэ недакурак і вытрасалі рэшткі тутуню у карабок ад запалак. Эх, і моцны ж тутунь з недакуркаў! Згорнеш цыгарку - адна зацяжка за тры...

Учарашні разжалены хлопчык станавіўся яму цяпер чужы і мала знаёмы. Сёння Валянцін не толькі меў гатовы план дзеяння, у яго ажыла воля дзейнічаць. Усё радзей і радзей наведвалі яго прыступы сораму за начныя слёзы, праўда, успаміны за кожным разам білі ў гонар з патроенай сілай. У парыве самаабароны ён зусім нечакана для сябе вымавіў: "А ўсё ж лоўка прыдумаў я куды схавацца!" (Як бы і сапраўды думаў і свядома рашаў гэту задачу). Фантазія павяла яго далей: "Чорт вазьмі, здорава! Могільнік... Канечне ж, паліцэйскія набожныя і забабонныя да чорцікаў, ноччу на могільнік трактарам не зацягнеш. Раскажу Каці, як я дасціпна прыдумаў. Начлег і днёўка на могільніку рамантычна! Ото будзе рада за свайго Валю, зацалуе ад захаплення..."

Як ні дзіўна, вобраз каханай, якая асталася ў Мінску, прыйшоў на думку толькі цяпер, калі вярнулася яснасць, цвёрдасць і вера.

Дружба Валянціна і Каці абарвалася "па незалежных прычынах". Тое, што ён успомніў пра яе, што адчуў смак папяросы, навучыўся падсмейвацца з сябе, - гаварыла, што крызіс прайшоў. Чалавек ажыў: да яго вярнуліся нармальныя маштабы ацэнак усяго навакол, разгарнуўся ўвесь веер вышэйшых духоўных патрэб, мэт і жаданняў...

Каторы ўжо раз Валянцін, як істужку дакументальнага фільма, праглядаў у памяці падзеі апошніх трох калочаных дзён. Карцела адгадаць, дзе ж прычына фатальнай няўдачы? Ён лаяў сябе за праклятую сваю маруднасць. Калі б не спазніўся на цэлы дзень і прыехаў у Варшаву, як было ўмоўлена - усё, можа, пайшло б па-другому. Заўчора, напэўна, чакалі сябры на явачным пункце.

Зрэшты, спазненне - не самая цяжкая бяда. Яны маглі прыйсці і назаўтра. Мабыць, здарылася нешта больш сур'ёзнае, Правал? Няўжо ў сістэме цэнтральнай сувязі? Няйначай, бо прыслалі б сувязнога і на другі дзень.

А калі правал у цэнтры, то ці варта выпрабоўваць запасны, апошні канал сувязі? Ён заходзіў у тупік. Інтуіцыя падказвала, што трэба на

некаторы час прытаіцца, пачакаць, покуль сыскныя органы перакінуць сваю актыўнасць на іншыя справы. Тады - сігналіць па другім канале.

Толькі так, толькі так. А можа... Але ж не, не магло быць, каб сувязны не пазнаў яго. Ён жа пару гадзін хадзіў узад-уперад на ўмоўленай вуліцы, абгарнуўшы насаткай вялікі палец на правай руцэ. Шпацыраваў, прыглядаючыся да людзей. І раптам заўважыў двух чалавек. Тыя, як яму не без падставы здалося, цікавіліся яго асобай. Сэрца ёкнула трывожна і радасна: "Ну, вось і сувязныя. А навошта ўдвух? Можа так трэба..." Знарок выставіў абвязаны палец - маўляў, глядзіце, чэрці, вось наш пароль! Падыходзьце ж!.."

Але яны не квапіліся, міналі яго, як бы нічога не ведалі, не давалі водзыву. Напружанне нарастала. Унутры ўсё калацілася ад нецярплівасці. І раптам ён сцяміў, што яны прыйшлі па яго, ды прыйшлі не з таго лагера. Ён хуценька падаўся ў бакавыя вуліцы і тут заўважыў, што трапіў на прыцэл. Нервуючыся, забягаў у магазіны і кафэ, купляў папяросы, заказваў кубачак кавы, спадзеючыся, што яны або падыдуць, нарэшце, або адкаснуцца. А яны сабе топалі па пятах, шнуравалі па яго слядах.

Вось тады, як за тую саломінку топячыся, ён ухапіўся за вулічную дзяўчыну. Блукалі з ёю па людных завулках Варшавы, ныралі ў натоўп, аж покуль не адарваліся ад "апекуноў", а потым - на вакзал. Яму здалося, што выкруціўся. Ды гэта, на жаль, толькі здалося...

"Ой, сустрэла мяне пані Варшава! А ў Мінску ўсё выглядала так проста, рамантычна: даверана чалавек з Заходняй бярэ мяне за ручку, пераводзіць цераз граніцу, я саджуся на прыгранічнай станцыі ў цягнік і, як добры пан, прыязджаю ў сталіцу. Там жаданага госця сустракаюць, заводзяць на надзейную кватэру, знаёмяць з работнікамі цэнтральнай прэсы, і я пачынаю натхнёным словам нішчыць панскі лад. Ясны план аказаўся міражом. На справе ўсё пайшло цераз пень-калоду. Мусіць, залішне ясны быў план, вось і засляпіла гэтая яснасць вочы. У планах трэба пакідаць зазоры на ўсякі выпадак, хоць бы на гэтую маю маруднасць. Яе не запланавалі. Шчасце, што хоць астаўся запасны канал сувязі".

А як хораша думаў пра гэтую Варшаву, вывучаў яе жыццё па ўсіх даступных крыніцах. Асабліва цікавае і заманлівае было літаратурнае асяроддзе, варшаўскі Парнас. Нават учора, пад прыцэлам шпікоў, карцела пашпацыраваць па Мазавецкай вуліцы, кінуць вокам на вітрыны славутай кнігарні Мартковіча, зайсці ў кафэ "Малая Зямянская", дзе збіраліся "літаратурныя вярхі" сталіцы, паслухаць, паглядзець сваіх любімых паэтаў Бранеўскага, Шэнвальда, паслухаць дасціпных жартаў зубра літаратурнай крытыкі Бойя-Жаленскага.

"Нічога! Не апошні дзень жыву. Не назаўсёды рассталіся мы з табою, Варшава. Да сустрэчы!

А покуль што вітай, мілая Рудаўка, ты ніколі не падводзіла і цяпер не падвядзеш. Родная вёска дасць і прытулак, і раду, і падмогу!.."

Як прыйшоў да гэтага рашэння Таўлай дакладна ўстанавіць нельга. Мажліва, проста па аналогіі з тым першым выпадкам, калі праседзеў восень 1930 года ў маленніку цёткі Настасі, роднай сястры мачыхі, у Лідзе, покуль паліцыя шнырала за ім. А потым падаўся цераз "зялёную граніцу" ў Мінск. Тады ўсё ўдалося вельмі добра. Чаму ж было не паўтарыць той манеўр яшчэ раз?

## Слова фактам

Сёння можна сказаць, што ён выбраў асцярожнае, але ў прынцыпе правільнае рашэнне. Паліцыя, праўда, ішла па яго слядах наўздагад, канкрэтных дадзеных, ці хоць бы сігналаў, у яе тады яшчэ не было.

Толькі 21 верасня 1933 года камендант паліцыі Беластоцкага ваяводства заносіць прозвішча Таўлая ў сыскны ("інвігіляцыйны") бюлетэнь, у якім паведамляе: "Таўлай Валянцін, сын Паўла і Мар'яны, народжаны 26 студзеня 1914 года ў вёсцы Рудаўка Міжэвіцкай гміны Слонімскага павета, кавалер, вучань, рост 162 см, бландзін, вочы шэрыя; у лістападзе 1930 года ўцёк ад арышту ў Савецкую Расію, адкуль пасля ўцёкаў пісаў пісьмы да бацькоў з Мінска.

Паводле нядаўна атрыманых інфармацый, Таўлай прыбыў у Польшчу і прабываў па партыйных справах на тэрыторыі акруговых камітэтаў КПЗБ Беластока і Вільні, а таксама ў Варшаве. Таўлай карыстаецца фальшывым вайсковым пасведчаннем, а таксама фальшывым білетам служачага, выданым на прозвішча нейкага Якімца, настаўніка пачатковай школы ў Брэсце над Бугам.

Перадаючы гэта, прашу аб садзейнічанні затрымаць Таўлая, якога ў выпадку затрымання належыць даставіць у следчы аддзел у Слоніме і адначасова паведаміць пра гэта тутэйшую ўстанову па справе L3/114"[1]

Анкетныя дадзеныя для гэтага дакумента паліцыя, напэўна, узяла з картатэкі слонімскага следчага аддзела, які завёў на Таўлая картку ў часе першага арышту ў 1928 годзе. Таўлай і фігуруе тут як вучань. Сакрэтныя ж інфармацыі 1933 года нічога не гавораць пра яго знаходжанне

---

[1] Дзяржархіў Гродзенскай вобласці. Фонд 39, вопіс І. справа 8-і. аркуш 24.

ў Рудаўцы. Тут ён атрымаў надзейнае сховішча.

Вядома, можна было рызыкнуць спыніцца ў любым горадзе або мястэчку і адтуль дабівацца сувязі з падполлем па запасным канале. Не выключана, аднак, што давялося б паказваць дакументы паліцыі, а ў яе быў вопыт распазнавання падробленых пашпартаў.

**Зімовая спячка**

Думка апярэджвае ногі, але гэта толькі здаецца. За гэты вечар Таўлай мо разоў пяць забягаў думкаю ў Рудаўку, а нагамі тупаў яшчэ ў даліне Зяльвянкі. Крыху чакаў у Баравізне - невялікім ляску, покуль не сціхне сяло. А ў марах даўно ўжо быў дома. Праўда, уяўленне пераносіла яго ў тую Рудаўку дзіцячых гадоў. Дык і выходзіла на справе: думкі мкнуліся наперад, а залятаді назад. Уяўляў сабе вёску такой, нібы ўсё жыццё тут спынілася і чакала, покуль ён дазволіць падзеям рухацца далей. А на справе ўсё было інакш.

Хата сустрэла яго па-байранаўску, праўда, у бацькі сабак не было, таму абышлося без рамантычнага брэху. Ён ціха падкраўся загуменнем. Час быў позні, а ў хаце блішчала газніца, чулася прыглушаная гамонка. "Мужчыны сышліся на пасядзенькі!" Любіў, бывала, паслухаць гэты непаўторны гоман, азартныя спрэчкі пра палітыку, роздумы пра жыццё-быццё, кпіны пра жанок - усё аднолькава проста і адкрыта. Ды зараз ці то праўда, ці то здалося - гаворка была нібыта цішэйшая, як раней. Гаварылі паўшэптам, уздыхалі, у інтанацыях чулася заклапочанасць, нейкая цягучая мляўкасць. Даляталі асобныя словы: "...мароз... дровы... грошы... хлеб...".

Валянцін стаў за вуглом, наважыў чакаць, покуль разыдуцца. Потым заглянуў у агародчык, дзе рос яго дубок, пасаджаны перад ад'ездам у гімназію. Дубок падрос. "Эх, бяжыць час"... Патаптаўся на месцы, але не было болей сіл трываць. З рашучасцю злодзея-няўмекі ён падступіўся да кухоннага акна і пастукаў у шыбу.

Выйшла мачыха.

- Хто тут?

Голас яе, заўсёды крыху ўзрушаны, як бы гатовы заламацца на слёзным слове, зараз прагучаў неяк безнадзейна, сумна, з хрыпатой.

- Павел Таўлай дома? - пытаннем на пытанне адказаў Валянцін, не вітаючыся.

- Дома, заходзьце ў хату.

- Скажыце, хай ён выйдзе на хвіліну.

Яна пастаяла не то ў спалоху, не то ў недаўменні і падалася

назад у хату. А ён, уцяміўшы, што здарылася, ажно ахаў са здзіўлення: "Не пазнала... мяне не пазнала... Дзівота! Можа на сваё шчасце не пазнала... Так-так, падрос не толькі дубок..."

Бацька пазнаў адразу. Зрабіўшы крок з парога, ён замёр у нямым запытанні, а потым павольна, як бы вагаючыся, ступаць ці не ступаць, сунуўся да яго. Валянцін бачыў, як часта дыхае бацька. Абхапіўшы сына дрыжачымі рукамі, ён шэптам, поўным трывогі, пытаўся:

- Сынок! Валя! Як жа ты? Чаму ж гэта ты? Ці сам, сынок, ці паслалі?

- Так трэба, тата. Сам... і паслалі...

- То хавайся ж, хаваймася. Што ж мы гэта робім, чаго тут стаім?! - бацька рашуча зняў накінуты "наапашкі" кажух, загарнуў ім Валянціна, як маленькага, і, абхапіўшы рукою, павёў да адрыны.

- Вось тут на застаронку пасядзі, покуль разыдуцца мужчыны, а там будзем глядзець. Ці мо лепш у вазок залезь адпачні, там сена. Толькі не засні, глядзі не засні!

Голас яго пацвярдзеў, Валянціну стала добра ад паху бацькавага кажуха.

- Неспакойна, сынок, у нас - вобыскі, арышты, не дай, не прывядзі, але ж нічога, неяк яно будзе. У Кракотцы трое хлопцаў хаваюцца, чакаюць "на перавод" за мяжу... Мне трэ ісці, - схамянуўся ён. - Заўважыць хто з мужчын, што забавіўся тут. Маці не пазнала цябе?

- Не, - усміхаючыся, адказаў Валянцін.

- То і добра, не будзем ёй казаць, бо яна ж вельмі ўсё да сэрца прымае, баюся, хаця б не захварэла з перажыванняў, набожная такая стала... Ну, то я пайду.

У хаце прыкмецілі адлучку гаспадара і, па звычаях вёскі, дзе кожны пра другіх павінен ведаць усё да звання, нехта спытаў:

- Хто там прыходзіў, дзядзько Павал?

- Суседка запалку пазычыць прыбягала: раніцай па вуголле з гаршком - лянуецца.

- Нешта доўга пазычалі тую запалку, хе-хе-хе... Карабок адсырэў, а мо галоўка зашмэргалася... Мо кошку чорную лапалі, хе-хе-хе, упоцемку ў сен...

Гаспадар строга глянуў, і жартаўнік прыкусіў язык на паўслове. Ніхто не смеў гаварыць пры Паўлу брыдкага: яго шанавалі як самага разумнага чалавека ў вёсцы, ды яшчэ мужчыну з крутым норавам.

Але ў кампаніі заўжды знойдзецца шаламок, для якога, як для таго прыдворнага блазна, і карона - не святасць.

- Глядзі ты! О-то, браце, натура Павал Дзям’янавіч - як той шкурат:

круці яго, а ён мацнейшы робіцца, - дзівіліся вяскоўцы. - Ні ў чым не саступіцца, ні ў вялікім, ні ў малым, а калі што наважыць, то і ўсім сялом яго не звернеш, хоць бы муры пэнкалі. Вось, каб такія ўсе людзі былі, над кім бы паны панаваць мелі?

Дачакаўшыся, калі разышліся мужчыны, бацька павёў Валянціна да дзеда Мікалая. (У Кракотку весці перадумаў: далёка есці насіць, ды і не так бяспечна ў гурце Валю).

Дзядуля любіў Валянціна. Бывала, возьме ўнука ў поле каня разам пасвіць і любуецца яго лепетам: "Саплівец такі, жэўжык, а як стары разважае. Не агледзішся, калі той час праляціць".

Часам і стары, разахвоціўшыся, расказваў хлопчыку пра іх таўлаеўскі род.

- Прывёз, кажуць, пан майго бацьку, а твайго, знацца, прадзеда Кандрата аднекуль з Літвы, пасяліў, знацца, зразу пад Слонім у Нараставічы, а потым у Рудаўку. Атрымаў Кандрат пры адмене паншчыны цэлы надзел - 15 дзесяцін. А жанаты быў два разы і ад першай жонкі меў два сыны, а ад другое -тры. Падзялілі сыны зямлю, знацца, на пяць частак, так вось і маем па тры дзесяціны. Твой дзед нябожчык Дзям’ян усё жартаваў, бывала: "Многа поля - у бакі коле". Але, нябось, не коле, ніхто не адказваецца нешта, ліха матары... Мала поля - жывот падцягвае, вось што.

У дзеда Мікалая выходзіла не так складна, як у дзеда Дзям’яна, але больш праўдзіва. Што значыць "падцягвае жывот", у іх сям'і ведалі. На вёсцы ўсё жартавалі з мачыхі-настаўніцы, якая на поўным сур'ёзе пытала ў бабкі Аўдоцці: "Чаму-то ў нас карова ёсць, а масла няма?" Бабка маўчала, не апраўдвалася. Яна заложна і ціха цягнула лямку гаспадыні пры інтэлігентнай нявестцы. Так і памерла пад каравай - чацвёртае цыцкі не выдаіла. Старалася бабка Аўдоцця, ой, старалася, а масла не было...

Зайшлі ў двор да дзеда Мікалая. Бацька разбудзіў гаспадара. Спачатку сам зайшоў у хату. Валянцін пачуў рух за сцяною, загарэлася святло, потым знікла - завесілі дзяружкай кухоннае акно. Выйшлі бацька з дзедам. Стары ўхапіў унука за рукаў і пацягнуў у хату. Там агледзеў пры газніцы, нібы не верыў, што гэта ён, і стаў бедаваць:

- А мы ўсе думалі, унучак, - ты там. А ты вунь дзе! А мае ж вы добранькія, а мы ж гадалі. Толькі ўчора адкрытку ад цябе з Мінска палучылі... Што гэта дзеецца на белым свеце?..

Потым, засаромеўшыся свае разгубленасці, стары ўладна загадаў жанчынам накарміць "чалавека" гарачым. Ён разумеў Паўлавы довады, што Валянціну тут будзе бяспечней і зручней, чым дзе-небудзь,

і без лішніх слоў згадзіўся перахоўваць унука.

- Хай вось пад'есць - ды на печ. Месца хопіць.

- Што вы, тата, - умяшалася дачка Вера, - страшна ў хаце. У гумно трэ, на сена.

- Ат, у гумно-о, на сена, на шмена... На печ! Хай чалавек душу атагрэе.

Вера не магла сказаць, што ў іх хаце назначаны явачны падпольны пункт. А значыць вобыску і арышту можна чакаць кожную ноч. Яна была ўдзячна дзядзьку Паўлу, які таксама настойваў зрабіць схованку ў гумне. Дзед уступіў.

- Я і сам так думаў, Паўлюк... На печы яно, канешне, - старому толькі ўлежна. Заўтра хай сабе выграбе нару ў сене... Залез - лапу ў зубы і смакчы, як той мядзведзь у ломе. Так яно, пэўне, спакайней і яму і нам. А доўга, унуча, маеш хавацца?

Валянцін маўчаў. Знаёмы дух дзедавай хаты, цяплынь, дамавітасць размарылі яго. Ён глядзеў асалавелымі вачыма і не пазнаваў сваіх родзічаў: постаці іх то дваіліся ў вачах, то выраслі ў вялізных, як дубы, асілкаў ды зацягваліся туманом... Раптам з імглы вынырала нейчая галава, а потым расла - угору, вочы сыходзіліся на пераносіцы ў адно велізарнае вока Паліфема... І яму не страшна было глядзець на гэтыя прывіды. На целе станавілася лёгка-лёгка, як бы быў пад хмелем.

- Ой, нагараваўся недзе, небарача. Бач, Павел, спіць наш маладзец! Ох-ха-ха! - цяжка ўздыхнуў стары. - Жытка-жы-ы-тачка!

Паўсонны Валянцін даплёўся, бэрсаючы нагамі, да печы. На чарэн ужо давялося падсаджваць. Усю ноч снілася Ялта, гарачыя пляжы, трапічныя расліны, якія яму з непрывычкі здаваліся некалі штучнымі, нерэальнымі, і ён кранаў лісты, бывала, пальцамі, каб пераканацца, што яны жывыя. Гэта было ў 1931 годзе, калі яго, як ахвяру паліцэйскіх рэпрэсій, паслалі на курорт...

Назаўтра Валянцін перабраўся ў гумно. Норка ў сене была пасвойму ўтульная: пахла рамонкам і чаборам, холад не дужа даходзіў; укрыўшыся коўдрай, а паверсе - кажухамі ды буркай, можна было ляжаць, думаць, драмаць. Нязручна толькі тое, што трэба ўкрывацца з галавою, каб не адмарозіць у сне вушэй ці носа. Потым прыбавіліся новыя прыкрасці: ляжаць так без руху доўга не вылежыш - як у дамавіне. Рабілася сцішна, нібы чалавек трапіў у панурае чорнае прадонне па той бок жыцця. Ні рук з-пад коўдры не дастаць - зябнуць, ні пачытаць. А бацька прынёс яму газет і кніжак, нават перадаў сшытак турэмных вершаў.

Валянцін рашыў на дзень вылазіць са свае схованкі. Перабіраўся

ў гняздо, якое зрабіў сабе ў сене ля самага прычолку. У саламянай страсе праскуб дзірку, і там можна было з горам, з бядою разбіраць літары. Уявіўшы, як пацешна ён выглядае ў гэтай "буслянцы", хлопец напяваў жартам:

Сядзіць голуб на дубочку
Ды расіцу п'е.
Каля яго сізая галубка
Ды гняздзечка ўе.

Есці прыносіла часцей за ўсіх Вера. Валя быў з ёю ў старой дружбе і любіў яе за вясёлы характар, вострую памяць і дапытлівасць.

Вера садзілася побач і, покуль ён памалу сёрбаў варыва, расказвала навіны з усяе акругі. Гаварыла яна захоплена, усхвалявана і, хоць пераскоквала заднаго прадмета на другі або забягала наперад, вярталася да прапушчанага, але слухаць яе было цікава. Мысленне ў яе было нейкае наподзіў канкрэтнае і вобразнае; усё - дэталі, факты, падзеі, вясёлыя, сумныя, смешныя і трагічныя - уперамешку.

- Ах, Валя, не помню, ці табе пісалі... Не - такі не пісалі. Ты Веру Хвясеню з Чамяроў ведаў? Дык вось яна замуж за Сяргея Багданчука ў Касцянёва выходзіла летам прошлага году. Дык узялі ды пажаніліся пасавецку - без папа. Іскрыка Рыгора ты, пэўна, знаў? Наш, партыйны хлопец. Ён маладым рукі насавым платком звязаў, вакол стала абвёў і кажа: "Вось вы і ўступілі ў шлюб. Так, як павінны ўступаць усе ідэйныя людзі". А Якуб Пракапчук сказаў прамову, і моладзі дужа такі шлюб спадабаўся, толькі старыя маракавалі, што гэта не шлюб, а няведама што, абраза боская. Паліцыя потым дазнанне рабіла, маладых і шафераў дапытвалі і катавалі... А ў нас, у Кракотцы, што здарылася, дык не паверыш. Роднага брата забіў брат за зямлю. А той зямлёю і не цікавіўся, той, ты павінен помніць Івана Філітовіча, палітыкай той цікавіўся. І зямлі б, тае свае долі, не даходзіў бы ў брата. Усе сёлы так абураліся, нават песню склалі, і пяе моладзь:

Ахвярай ты паў ад рукі свайго брата,
Залёг у дамавіну навек, здэцца, ты
Твой брат азвярэў і зрабіўся горш ката...

Валянцін слухаў, і на губах яго блукала сумная ўсмешка.

Вера тым часам знайшла новую тэму, яна ўспомніла кніжкі, якія Валянцін прыслаў ёй з Мінска.

- Так усім хацелася чытаць тыя кніжкі, асабліва "Цэмент" і "Гой", што недзе як пайшлі з рук у рукі, дык і не вярнуліся. А ўсім вельмі спа-

дабалася адкрытка, што ты прыслаў летась, дзе старыя ў школе вучацца - сфатаграфіраваны. Ну, пацеха...

А як мяне арыштавалі ў Азярніцы летам ды перадалі ў Міжэвіцкі пастарунак - вот страшна. Паліцыянт, ёсць там адзін такі зараза, тваю картачку ў мяне забраў. "О, - крычыць,- камуніст! Выўратовец, пся крэў! Дзе цяпер гэты крымінал пражывае? Адказвай! Мы вемы, на шпіка ў Саветах вучыцца! Зловім і-і-і вось што мы яму зробім!" - схапіў ён тут ручку ды пяром табе, Валечка, адно і другое вока павыколваў. А я як закрычу... Адвярнулася і рукою твар закрыла. А ён рукі мне ад твару аддзірае і раве: "Не смей засланяцца, камуністка! Глядзі сюды! Пазірай што твайму мондраму брацiку будзе!.." Так і прапала тваё фота...

Ты шмат, здымкаў, паштовак і кніжак прыслаў. Хлопцы вельмі рады былі кніжкам. Івану Місько з Какошыц як пачак цэлы прыслаў, дык мне хлопцы дзякавалі - душу, кажуць, хоць адвялі... Іван гэты, казаў - з табою вучыўся, ён таксама вершы піша, а падпісвае - Анатоль Іверс. Што за Іверс, я і не пайму. Старыя людзі кажуць, нейкая ікона іверская ёсць. Але яго псеўда, мусіць, не ад іконы.

- Пэўна, не ад іконы, - сказаў Валянцін. - Гэта, відаць, скарочанае слова, абрэвіятура: "Ів" - значыць Іван, а "эр" і "эс" трэба расшыфраваць. Мажліва, гэта азначае - "рабоча-сялянскі". Іван рабоча-сялянскі: падобна як называлі аднаго фламандскага мастака Пітэр Брэйгель - мужыцкі.

Вера не пярэчыла. Некалькі незразумелых слоў, якія Валянцін ужываў у тлумачэнні псеўданіма Іверса, перакаралі яе, відаць, больш, чым довады. Аўтарытэт брата быў для яе непахісны. А ён пашкадаваў, што перапыніў яе гаворку. Пасылаў ён шмат кніжак і паштовак яшчэ камусьці з іх кампаніі. Карцела даведацца і не выпадала пытацца пра таго адрасата. А Вера нібы знарок не ўспамінала яго імя. Расказвала пра блізкага сябра Аляксандра Маркевіча, якога судзілі нядаўна ў Слоніме за рэвалюцыйную работу, апавядала пра іншых камсамольцаў; Турлай Міша ў баптысты перайшоў. Паслалі бацькі вучыцца за столяра ў Брэст да баптыста: знарок паслалі, баяліся, каб у турму не сеў, а ён сабе іншую турму знайшоў, горшай не прыдумаць. Кулака Васю ў армію прызвалі, а Шуляк Мікола выехаў у Латвію батрачыць у маёнтак.

Валянцін здзівіўся, што за пару лічаных гадоў так разагналі ветры жыцця іх дружную кампанію. Сумна рабілася на душы ад гэтых звестак.

Нагаварыўшыся, Вера пакідала яго аднаго са сваімі думкамі, успамінамі і роздумам. Часцей за ўсё ўспаміналіся сябры з Рудаўскай камсамольскай ячэйкі, такія блізкія і недаступна далёкія сёння яму. Лезла ў галаву тая, пра каго маўчала Вера, а яму ніякавата было распытваць…

**Начныя мроі**

Як толькі заставаўся адзін, станавілася непрытульна на сэрцы, і з гэтага настырнага неспакою, перакрываючы яго, узнікалі ўспаміны, вясёлкавыя, духмяныя, ап'яняючыя. "Што б то было, каб у чалавека, асуджанага на адзіноту, адабраць памяць пражытага? Мусіць, не вытрымаў бы, марнеў бы, марнеў і счэз, - гаварыў сабе Валянцін. - Гэта была б самая страшная кара. Але няма такой сілы ў нелюдзей, каб пакараць мяне і яшчэ сотні, тысячы такіх жа падпольшчыкаў гэтаю жудаснаю караю".

Ён паіў запалоненае сэрца ўспамінамі і рады быў, што сабраў з жыццёвых дарог многа святла. У памяці, на шчасце, амаль не было горкіх памылак, якія б цяпер вярэдзілі кволую ў бяздзейнасці душу. Успаміналася часцей за ўсё прыгожае і ўзнёслае, чым можна было любавацца, нават ганарыцца.

Летам 1927 года, едучы з Віленскай гімназіі на канікулы, ён узяў шапірограф. Сказаў пра гэта Сашу Маркевічу. З Маркевічам яны былі, як кажуць, не разлі вада: разам калісьці хадзілі ў чацвёрты клас у Кракотку, разам ездзілі на начлег, разам гулялі. Саша падабаўся Валю больш за ўсіх хлопцаў з Рудаўкі і абодвух Кракотак - Вялікай і Малой. Ён быў з той пароды людзей, што шмат не гавораць і ніколі не хлусяць. Просты, напорысты, заложны ў дружбе і дзелавіты, Саша імпанаваў Валю практычнаю хваткай, чаго не хапала яму самому - летуценніку і фантазёру. Росту Саша таксама невялікага, але шырэйшы ў плячах, мускулісты. Маркевіч быў цудоўны слухач: калі Валя, бывала, расказваў змест прачытанай кнігі, той сабе глядзіць блакітнымі вочкамі - не зміргне, толькі зрэдку кіне заўвагу, і заўсёды дарэчы, трапна.

У той летні вечар, павітаўшыся з другам, Валя ўпаў у нейкі чуллівы настрой. Яму было шкада і як бы сорамна, што Саша не мог паехаць разам з ім вучыцца ў гімназію, што яго чакала доля хлебароба-гаротніка. Валянціну здавалася, нібыта ён быў вінаваты перад Сашам, што жыве ў горадзе, вучыцца... Дык вось пры сустрэчы ён з ходу запрапанаваў сябру справу, якая мелася іх зраўняць і яшчэ мацней зрадніць. Ён прыпамінаў тую размову.

- Ведаеш, Саша, што я табе скажу? Давай заложым ячэйку. У Віленскай гімназіі ўсе вартасныя вучні - у камсамоле. Будзем гуртам набываць палітычныя веды ды паднімаць свой культурны ўзровень. Свядомаму сыну працоўных мас патрэбны культура і веды. Я прывёз шапірограф, будзем лістоўкі друкаваць - заклікаць людзей да змагання за справядлівасць, за свае правы.

- Чаму не, - адказаў Саша.

- Каго ты параіш? Я прапаную Мікалаеву Веру.

Разам яны падабралі кампанію сем чалавек - дзвюх дзяўчат і пяцярых хлопцаў.

Збіраліся надвячоркамі. Пасылалі ў дазор малышоў, а самі садзіліся на ганку ў Верынай хаце. Вакол быў добры агляд. Пачуццё небяспекі прыемна ўзрушала. Валянцін чытаў прывезеныя з Вільні кніжкі - мастацкія і палітычныя, нелегальныя - пра сацыялізм, а потым тонам настаўніка патрабаваў перадаць змест і папраўляў, калі хто мыляўся. Гэтыя вечары ўсім дужа падабаліся, хоць і не так уяўлялі яны сабе змаганне. Ды прыйшла чарга і на гэта.

Аднойчы Валянцін запыніў Веру на вуліцы і прашаптаў таямніча:

- Хачу даць табе сур'ёзнае камсамольскае даручэнне. Нам патрэбны чырвоны сацін і белая тасьма. Ты пойдзеш у Зельву і купіш. Да суботы.

- Куды я пайду, - аднеквалася Вера. - Я пайду вунь жыта жаць у маёнтак з дзяўчатамі аж за Азярніцу. На цэлы тыдзень наняліся. То дзе я куплю тыя прычындалы.

- Дзе? У Зельве, я ж сказаў. Стаўлю на гонар камсамолкі!

Вера ніколі не чула, каб ён гаварыў тонам рашучага загаду. Гэта яе, мабыць, уразіла: цэлы божы дзень рачкуе на ніве, пот вочы залівае, думаць ні аб чым не хочацца, але не-не ды сэрца ёкне - успомніцца даручэнне. І чым бліжэй падыходзіла тая субота (так яна потым расказвала), тым часцей брала за сэрца трывога і вінаватасць. У пятніцу яна не магла заснуць, варочалася да світання і, хоць усё цела ныла ад стомы, вачэй не заплюшчвала. Бо варта толькі заплюшчыць - дык тут жа бачыць яго ў гімназічнай форме. Задзірысты, нібы каршачок, глядзіць на яе і гаворыць па складах: "Як сабе хочаш, а дастаць му-у-сіш!" - "Нічога я не мушу, - злавалася ў думках яна, - мне вунь зарабіць трэ".

Але ён не адступаўся, стаяў на сваім: "Мусіш! Мусіш! Я кажу - мусіш!" Да відна Вера ўсё агрызалася ў нейкім трызненні, а потым да абеду жала, як і ўсе дні, толькі дзяўчаты заўважылі, што нейкая маркотная стала сяброўка, спахмурнела.

- Нешта ныеш ты сёння, Вера, невясёлая, ці не баліць што? - спыталі ў абед.

- Ой, дзяўчаты, не кажыце, не гаварыце: гэта ж успомніла, што грошы, адыходзячы, у хаце на століку пакінула. Каля трыццаці злотых. І сама не свая стала, як успомніла.

- Ай-я-ёй! - бедавалі дзяўчаты. - То ідзі, а то... Украсці то не ўкрадуць, але дзеці каб не зацягнулі куды. Цяпер дзеці ліха якія дасужыя.

Завірушаць куды - і шукай ветру ў полі.

- Мусіць, пайду, дзяўчаткі. Вярнуся ў панядзелак.

- І яна пайшла, а вечарам прынесла і аддала Валянціну паўтара метра чырвонага саціну.

- Ці быў ты пэўны, Валя, што я прынясу яго?

- Ведаў, - напускаючы таямнічую міну, адказаў ён.

З гэтага моманту нешта перамянілася ў іх адносінах. Раней яна як старэйшая лічыла сваім правам і абавязкам апекавацца і кіраваць ім. Яму гэта і не дакучала. Вера скажа: "Валя, дай я табе хустачкі вымыю". - "На, вымый". - "Дай гузік у куртцы прышыю, бо згубіцца". - "Калі ласка". -"Дай шкарпэткі зацырую". - "Ну, можна разуюся". А цяпер яна адчула, што кіраўніцтва перайшло да яго. У самых важных справах кіраваць будзе ён. І яму ад гэтай перамены стала ніякавата, нібы цяжэйшую ношу адчуў за плячыма. Вера, як відаць, не дужа пранялася, ці мо і не ўлавіла гэтых змен, яна проста радавалася, нібы не даручэнне камсамольскае выканала, а яму пад свята кашулю вышыла. Гора з гэтымі жанкамі...

Неўзабаве надышоў Маркевіч, і яны ўтраіх узяліся за работу. Вера нашывала на сацін літары з белай тасьмы, а хлопцы varажылі каля шапірографа.

Валянцін гэтымі днямі напісаў першую сваю лістоўку. Перапісаць тэкст на васкоўцы папрасілі старэйшага за яго гімназіста Аляксандра Жыткевіча (той умеў пісаць друкаванымі літарамі - прыгожа і бяспечна: паліцыя па почырку не ўстановіць, хто).

Потым пашмаравалі васкоўку фарбай і прыкладвалі змочаныя ў вадзе вільготныя аркушы сшыткавай паперы. Кожны адбіты лісток здаваўся ім цудам тэхнікі і мастацтва. Любата!

Другія хлопцы-камсамольцы атрымалі заданне ноччу расклеіць лістоўкі: ля пастарунку паліцыі ў Кракотцы, на варотах школы, у маёнтку Біневічы (пану Міхайлоўскаму на веранду).

А яны з Маркевічам падаліся на рэчку з сякерай і жменяй цвікоў. Абышлі лугам абедзве Кракоткі, дайшлі аж да лесу. Прывалаклі тры бервяны і збілі невялікі плыток. Уваткнулі між дзеравяк два кійкі накшталт мачтаў.

- Ну, усё гатова. Цяпер глядзі, Саша, каб ніхто не надарыўся, а я дастану транспарант.

Ён зняў кашулю і адкруціў наматаны вакол сябе кусок чырвонага саціну, вышытага белымі літарамі. Асцярожна паклаўшы на траве, любаваўся і чытаў, узрушаны і горды: "Няхай жыве КПЗБ! Прэч акупантаў!".

- Нікога не відаць, Валя, - паведаміў Маркевіч.

- Хадзі, памажы мне прывязаць.

Яны паскідалі порткі, прывязалі лозунг да мачтаў, вывелі плыток на сярэдзіну рэчкі - плыві!

Хутка адзеўшыся, кінуліся наўцёкі. Беглі, адчуваючы, як за спіной вырасталі крылы, а грудзі распірала тая ўзнёслая радасць, якую можна перажыць толькі тады, калі, зрабіўшы рызыкоўны, мужны ўчынак, шчасліва выходзіш з-пад небяспекі. Хлопцы азіраліся і бачылі, як плыў па рацэ іх чырвоны штандар. Потым ён знік за аерам. Яны памчаліся да ўзгорка. Непадалёку ад Малое Кракоткі высіўся курган, нібы насыпаны рукой чалавека. На вяршыні расло некалькі кражыстых сасонак. Адгэтуль відна была рэчка кіламетраў на пяць у абодва бакі.

Задыхаўшыся, хлопцы дабраліся да вяршыні і пачалі ўглядацца ў далячынь.

- Не бачу я нашага плыта, - адазваўся ўпалым голасам Маркевіч, - мусіць, у бераг упёрся.

- А я бачу штандар!

- Дзе? Табе здаецца...

- Не, я бачу!

Праз вёску ішлі як нічога і не было, моўчкі несучы сваю таямніцу, сваю славу. "Такога не прыдумаў яшчэ ніхто", - радаваўся ён у душы сваёй выдумцы. Вывешваюць сцягі на дрэвах, на школьных будынках, на тэлеграфных слупах, а паліцыя здагадваецца, з якое вёскі гэта зрабілі. Перабірае падазроных і лічыць рэбры па пастарунку, покуль не выб'е сакрэту. А тут - лозунг па рэчцы плыве! Пайдзі знайдзі, з якога месца яго пусцілі на ваду. І паплыве аж да Нёмана. І будуць людзі па ўсіх вёсках і гарадах знаць, што ў Заходняй Беларусі кіпіць барацьба... Даплыве аж да мора, аж да Крулеўца, і там будуць людзі чытаць. Хоць не дазнаюцца, хто то зрабіў, якія то безымянныя героі - зрабіў беларускі народ. На нашай мове напісан пратэст і заклік да змагання! На мове Купалы. О, нездарма купалаўскі верш усе яны завучылі напамяць:

Чаго вам хочацца, панове.
Які вас выклікаў прымус
Загаварыць аб гэтай мове,
Якой азваўся беларус?!

Назаўтра хлопцы і дзяўчаты, якія расклейвалі лістоўкі, дзяліліся ўражаннямі. Твары ў іх былі ўзрушаныя і таямніча шчаслівыя. Асабліва, яму здавалася, прамянеў шчасцем і харастввом твар Тоні Кулак. Ён заўважыў даўно ўжо, што не вытрымлівае яе позірку. Варта ёй паглядзець на

яго гэтымі вялізнымі карымі вачыма, і ён адводзіць позірк, як вінаваты. Нават адчуваў, што румяніцца. Хоць на яго шэра-бледным твары не дужа прыкметны румянец, але баяўся, каб не прыкмецілі. Яе лічылі самай прыгожай дзяўчынай у Рудаўцы і абедзвюх Кракотках. У аматарскіх спектаклях Тоня іграла ролі маладых прыгажунь. Сярэдняга росту, зграбная, смуглявая, вясёлая, яна магла спадабацца і простаму хлопцу, што шукае ў дзяўчыне росквіту сіл, і чалавеку, што ганіцца за багаццем эмоцый, раскошай душы.

Слухаючы расказ пра начныя поспехі, здаецца Мішы Шуляка, Валянцін нечакана для сябе самога перапыніў хлопца і з пачуццём перавагі махнуў рукою:

- Што, гэта яшчэ дробязі. Паспрабаваў бы ты ў Вільні раскідаць лістоўкі. Во там рызыка, дык рызыка!

Краем вока ён сачыў за Тоняй - якое гэта зробіць уражанне на яе. Яна глядзела на яго і з надзеяй на нешта незвычайнае чакала расказу пра віленскія прыгоды. Але яму стала брыдка за пахвальбу як ніколі, ён змоўк і не мог нічога расказваць. Ахоплены скрухай, пачуў нават палёгку, калі прыйшоў Саша Маркевіч і заявіў ці то з насмешкай, ці то з прыкрасцю, што іх плыт не даплыў нават да Рудаўкі.

- Перавярнула наш плыт на быстраку. Касцы толькі і прачыталі лозунг. Я так і думаў, што нічога з гэтага не выйдзе.

У душы Валянцін ведаў, што перабраў тут меру, зафантазіраваўся, але поўнасню прызнаць паражэнне неяк не мог.

- Не кідайся ў паніку, - абрэзаў ён сябра, хоць добра разумеў, што гаворыць не тое, бо Саша спакойны і смелы. Калі б у яго самога запыталі, хто з іх дваіх схільны да панікі, ён без ваганняў ткнуў бы пальцам сабе ў грудзі. Але Валянцін востра адчуваў, што Саша ў нечым не мае рацыі. Не меў права Саша так насміхацца з гэтае дарагой ім абодвум аперацыі. Не, так нельга...

Тады ўвечар яны амаль не пасварыліся. Выратавала становішча Вера, якая разважыла спрэчку: мала што, маўляў, бывае. Хочаш так, а выйдзе крыху не так, а хто вінаваты? Ніхто. Так складваецца. Усяляк бывае, а кожны хоча як найлепш...

На справе аказалася, што сярод касцоў былі камуністы з Рудаўскай ячэйкі. Устанавілі кантакт. Гэта быў самы істотны вынік іх агітацыйных намаганняў. З гэтага часу яны сталі дзейнічаць пад кіраўніцтвам старэйшых.

Дамоў ён ішоў, помніцца, пануры, а Тоня ў той вечар неяк вельмі гарнулася да яго, трымалася побач, расказвала смешныя сцэны з п'есы, якую меліся ставіць у вёсцы, усяляк развясельвала кампанію, але ён

здагадваўся, што гэта для яго ўсё, толькі для яго. І яму рабілася яшчэ больш маркотна, хацелася, каб да смерці было толькі маркотна і горка на душы. А як падышлі да яе весніц, Тоня раптам абхапіла яго за шыю і пацалавала. Ён чуць не самлеў ад шчасця. Не тое што, каб не цалаваўся ніколі, як іншыя вясковыя хлапчукі, што паддражніваюць адзін аднаго: "Ага, а я ведаю, а я ведаю - цябе маці, у пасцель кладучы, цалуе!" - "Што ты ведаеш, падхоплівае другі, - ён яшчэ матчыну цыцку ссе!.. Го-го-го!" І пачыналася бойка. Не, у іх сям'і дзяцей прывучалі не сарамеючыся выказваць пачуцці да родных. Ён помніў пацалункі маці, такія родныя, любыя, што не адрозніш, дзе твае вусны, дзе яе; ён помніў сухія, засмяглыя вусны бабкі Аўдоцці, што так не пасавалі да азароных шчасцем вачэй, калі яна цалавала яго з Шурам, сваіх унучкаў-сіротак, ён помніў далікатныя і цнатлівыя вусны мачыхі... Але Тоніны былі не падобны ні на што ў свеце: гарачыя і дрыготкія, пяшчотныя і сарамлівыя... Адчуць гэты хмельны дотык яшчэ раз - і хоць памерці!

Ды яна ўцякла, пакуль ён апамятаўся. Назаўтра прагна чакаў, покуль яны зноў астануцца адны, а яна здалёк падала шорсткую, сухую, на дзіва маленькую, як на яе рост, руку.

- Тонечка, - памкнуўся ён абняць сяброўку, але яна рашуча адхінала яго ад сябе, перарывіста паўтарала:

- Перастань! Не трэба!

Тоня была старэйшая на цэлы год і больш рослая, нават можа дужэйшая за яго.

- Давай пацалуемся, - пачаў ён цыганіць.

- Што ты, - дзівілася яна, - я не ўмею.

- А ўчора?

- Што ўчора? Што ты выдумляеш, - у голасе яе пачууся шчаслівы смех, - я не помню...

- А на сцэне, - настойваў ён, - на сцэне ты ж цалавала жаніха.

- То ж ты - не... - яна завагалася і паправіла: - То ж мы не на сцэне. Вунь, бачыш, вучыцель не спіць, у акно пазірае. (На кватэры ў іх жыў польскі настаўнік Гаротка).

- Хачу спаць, - вымавіла Тоня такім зморана-жаласным голасам, што ў яго апусціліся рукі.

Скарыстаўшы яго нерашучасць, дзяўчо шмыгнула ў брамку, а ён паплёўся дамоў, несучы поўнае жалю і крыўды сэрца. Адумаўшыся, ацаніў яе далікатнасць: устрымалася, не сказала "ты ж - не жаніх", бо гэта было б груба, падобна на тое, што стань жаніхом і цалуй...

Яна была непрыступная. Толькі, як яго выключылі з гімназіі, Тоня прывітала яго зноў цалункам. Усю весну і лета 1929 года яны

дружылі, лічылі зоры, п'янелі ад салаўіных песень, ён прагна дабіваўся, а яна сарамліва і боязна маніла і ўцякала ад пяшчот.

А потым яго арыштавалі... У турме яна часта снілася. І ён пісаў вершы пра барацьбу і разлуку, пра маладосць, што нацалавацца не паспела, пра бунт і тугу запалоненага сэрца:

Ізноў загарэліся нашыя зоры,
аднак не пабачымся мы:
дарога мая напаткалася ўчора
на шэрыя сцены турмы.

Гэтыя радкі ён склаў ноччу, варочаючыся з боку на бок на мулкіх нарах слонімскага астрога. Цяжка было прывыкаць да астрожнай пасцелі.

Чаканне на прысуд прыгнятала яго, здавалася, што не будзе канца няволі, што асудзяць навек. Ад тугі выратоўвалі ўспаміны пра вёску, сяброў, вясну і каханне. У марах ён прадаўжаў блукаць з Тоняй над яснымі зорамі, абнімаўся, шаптаў пра каханне і шчасце. У турме і прывык раскашоўвацца думкамі-марамі. Не хацелася вяртацца ад лятункаў да шэрае явы.

О!.. Гэта не рукі дзяўчыны
На нарах і душна, і цесна.
Хачу я пяшчоты і песні...
І песцяць мне сэрца ўспаміны.

Зноў бачу я сцежкі і далі -
Іду, а дзяўчына са мною.
І ночы, якія вясною
Наскрозь салаўі прапяялі.

У турму Тоня пісала стрымана-цёплыя пісьмы, а калі ён выйшаў, сустрэла таксама сарамліва і горача, як тады ў той першы вечар. Паўтарылася бясконца шчаслівая хвіліна. А потым усё абарвалася таксама нечакана, як і пачалося: ён пайшоў за мяжу, пайшоў, як думаў тады, надоўга, а ёй, мабыць, думалася - разлука назаўсёды. З Мінска пісаў ёй, слаў кніжкі, адчуваў яе прысутнасць, і лягчэй было ўжывацца ў "новы свет". З адказаў Тоні, якія рабіліся ўсё карацейшыя і прыходзілі радзей і радзей, ён здагадваўся: нешта дзеецца з іх дружбай, з іх заманлівым шчасцем. Было адзінока на сэрцы, балюча і горка.

Тады ў яго жыццё ўвайшла Каця, мілая-мілая, вясёлая, сардэчная савецкая дзяўчына. Ён знаў яе, здаецца, навылёт, а яна вабіла яго ўсё

больш і больш. З ёю было добра, радасна і ўзнёсла на душы. Яны разумелі адно аднаго. Для яе ён быў рамантычны бунтар з таго жахлівага і таямнічага свету, пра які пісалі кнігі, а для яго Каця была ўвасабленнем ідэалу новага савецкага чалавека, дачкою Кастрычніка, на дзіва гарманічнаю натурай, часцінкай самага перадавога класа (Каця працавала работніцай на абутковай фабрыцы), яна была з сям'і арлянят, якім спяваў песні-гімны Купала. Новае шчасце ахапіла яго так моцна, што, здавалася, не будзе яму ні канца, ні краю. Ён верыў і верыць, што гэта сапраўднае каханне, і адно назаўсёды. Бо што іх звязвала з Тоняй - юнацкая сімпатыя. Калі расказаў пра Тоню Каці, тая толькі ўсміхалася: от, маўляў, нявінныя дзіцячыя пачуцці. Нават калі чытаў Каці заключныя радкі з астрожнага верша, у якім гаварыў Тоні:

Калі я загіну - усё буду помніць.
І ты, жывучы, не забудзь...-

на твары ў Каці не было і ценю рэўнасці. "Добры верш, мне дужа падабаюцца апошнія радкі". І яна не прытваралася, гаварыла шчыра, нібыта словы гэтыя адрасаваны не Тоні, а ёй, Каці. Яна гаварыла так, што адчувалася спагада да яго першага пачуцця і спакойная ўпэўненасць, што толькі іх каханне сапраўднае і вечнае.

"Пэўна, так яно і было, толькі чаму ж тут, у роднай вёсцы, - разважаў Валянцін, - Тоня побач з Кацюшай устае перад вачыма і вабіць, вярэдзіць душу і заве зведаць нязведанае?..

А можа я кахаю дваіх? Што за пошасць. Атрымліваецца нейкая жахлівая гарэмшчына ў галаве. Чытаў жа нядаўна ў Бялінскага пра ўсходні тып кахання - чорт ведама што. Няўжо ж і ў мяне... Агідна, да чаго можа разбэсціцца фантазія. К чорту! Трэба канчаць. Ад бяздзейнасці можна цалкам разлажыцца.

Які ўсё ж ты - нягоднік, - дакараў ён сябе, - як ты толькі пакажашся на вочы Кацюшы! А яна, бедная, недзе чакае, думае, што ты тут робіш вялікую справу, толькі і думаеш пра свабоду роднага краю. Паганец!"

Назаўтра раніцай ён папрасіў Веру, каб неадкладна дастала яму пару паштовак і падрыхтавала чарніла і новае пяро. Позняй ноччу па дамоўленасці прабраўся ў хату і, усеўшыся за кухонным сталом, старанна, каліграфічным почыркам напісаў віншаванне "мілай цётачцы" з днём імянін. Заадрасаваў паштоўку ў Варшаву і сказаў Веры:

- Занясеш у Зельву і кінеш у паштовую скрынку.

Вера кіўнула галавою: "Усё разумею, занясу". Ён усміхнуўся ў адказ, параўнаўшы, як цяжка было даць тое першае даручэнне і як лёгка цяпер.

## Слова фактам

Чытаючы гэтыя раздзелы, хто-небудзь можа падумаць, што жылося Таўлаю ў родзічаў зусім бяспечна, але гэта далёка не так. Слонімшчына з канца дваццатых гадоў была пад асаблівай увагай паліцыі. І хоць "напалеонаўскія планы" павятовага каменданта аб стварэнні ў Слоніме следчага аддзела са штатамі і фондамі аддзелаў ваяводскіх поўнасцю не здзейсніліся, але начальства, відаць, прыслухалася да яго дакладной і прыдумала таннейшы па бюджэту, але не менш надзейны спосаб разгрому рэвалюцыйнага падполля на Слонімшчыне.

У пачатку 1932 года сюды быў пасланы самы страшны ў Заходняй Беларусі правакатар Якуб Стральчук. Вось яны, жахлівыя і агідныя факты, цынічная споведзь прадажніка на допыце.

Стральчука допытваюць у якасці сведкі абвінавачвання, і ён гаворыць спачатку анкетныя дадзеныя. З іх вынікае, што жыхар вёскі Крывая Пасвінкоўскай гміны Бельск-Падляскага павета Якуб Стральчук уступіў у КПЗБ з дазволу і па дамоўленасці з бельскай паліцыяй у ліпені 1931 года. Хутка ўваходзіў у давер'е: адразу стаў членам Бельскага райкама, потым Беластоцкага акругкама і нарэшце інструктарам ЦК КПЗБ.

"У кастрычніку-студзені 1932 года, - паказвае Стральчук, - я прыбыў на тэрыторыю Слонімскага павета. Прыязджаў сюды тры разы, праводзіў пасяджэнні АК, РК і інш. Другі раз прыязджаў у пачатку красавіка 1933 года рыхтаваць першамайскую кампанію" [1]. Трэці раз правакатар наведаў Слонімшчыну ў лістападзе 1933 года.

Калі ўлічыць, што Вера Таўлай была сувязной і мела падпольную "яўку", то стане ясна, якая небяспека падпільноўвала яе і Валянціна. Ім проста пашанцавала, што толькі ў апошні свой прыезд чорны груган правакацыі зачапіў кіпцюром за Рудаўку.

У верасні 1933 года Веру арыштуюць, але не збяруць доказаў і абмяжуюцца штрафам у 10 злотых за ўдзел у нелегальнай масоўцы. Але на гэтым не скончыцца справа. 30 красавіка 1935 года, пасля таго, як Стральчук будзе выкрыты і распачне масавае прадажніцтва, пракурор Гродзенскага акруговага суда дасць распараджэнне арыштаваць Веру Таўлай паўторна і допытаць у якасці абвінавачанай па арт. 97 пар. 1 Крымінальнага кодэкса.

Следчы правядзе допыт у Слоніме 1 мая 1935 года і пачуе: "Ніколі да ніякае камуністычнай арганізацыі не належала і не належу. Увосень

---

[1] Дзяржархіў Гродзенскай вобл., ф. 52, воп. 2, спр. 314, арк. 149.

1933 года была западозрана ў распаўсюджванні камуністычнай літаратуры, але пасля допыту ў следчага суддзі была зволена... Ніякім сакратаром камуністычнай ячэйкі я не была і не з'яўляюся"[1].

Нездаволены адказамі Веры Таўлай, следчы пусціць у ход свой самы моцны аргумент - правядзе вочную стаўку са Стральчуком. Але вынікі акажуцца не такія цікавыя:

"Паказанага мне чалавека не знаю і ніколі яго не бачыла. Не помню, ці гэты чалавек быў на той масоўцы ў лесе, толькі помню, што быў нейкі чалавек, які прамаўляў, падобны на яго, але ці быў гэта ён, напэўна не ведаю, бо крыху прыкрываў твар" [2].

Ці то можа следчы павядзе допыт няўмела, ці мо памяць у правакатара будзе перагружана больш важнымі падзеямі, у кожным разе Веры зноў пашанцуе - у пратаколе астанецца толькі наступнае:

"Сведка Стральчук паказвае: "У вёсцы Рудаўка я меў кантакт з дапытваемаю і пазнаю яе, але з якою мэтай кантактаваўся з ёю, не ведаю, не помню. Кантакт гэты быў вечарам. Дапускаю, што яна павінна быць членам КПЗБ і, напэўна, мела яўку"[3].

Органы пракуратуры не задаволяцца сабраным матэрыялам, Веру адпусцяць пад нагляд паліцыі і пачнуць пошукі Стральчука з мэтай дапытаць яго больш грунтоўна (у той час правакатар ішоў нарасхват: брэсцкая, беластоцкая, віленская паліцыя цягалі яго наперабой і высмоктвалі звесткі). Гродзенская пракуратура атрымае адказ з Брэста, што Стральчук там. Спецыяльны следчы 29 кастрычніка 1935 года правядзе ў Брэсце паўторны допыт правакатара, які пакажа наступнае:

"Што датычыць Веры Таўлай, якую мне таксама паказалі, то ў яе прысутнасці я меў кантакт з членам ЦК КПЗБ Бэркам Алехам, псеўда "Сцёпа". Прыпамінаю, што гэты кантакт адбыўся каля гумна, ці пры хаце Таўлай - не помню. Калі я прыйшоў на кантакт, то застаў там Бэрка Алеха і Таўлай, здаецца, што гэта іменна яна прывяла яго на кактакт. Было гэта ў вёсцы Рудаўка ў кастрычніку або лістападзе 1933 года. Ці з Таўлай сустракаўся я акрамя гэтага - не помню, і якое становішча займала яна ў партыі - не ведаю" [4].

Суд адбудзецца 28 лістапада 1935 года ў канцылярыі следчага суддзі ў Слоніме. Справу аддадуць на дадатковае расследаванне. Тады судовы працэс назначаць на 28 студзеня 1936 года, але галоўны сведка

---

[1] Дзяржархіў Гродзенскай вобл., ф. 52, воп. 2, спр. 314, арк. 44.

[2] Там жа.

[3] Там жа.

[4] Дзяржархіў Гродзенскай вобл., ф. 52, воп. 2, спр. 314, арк. 151, на адвароце.

абвінавачвання правакатар Стральчук не з'явіцца на суд, позва вернецца са шматзначным надпісам на левым баку: "З'явіцца не можа, знаходзіцца ў адным са шпіталяў Вільні". Позву паўтораць яшчэ праз месяц, адказ будзе той жа. Суд правядуць без галоўнага сведкі. Вера Таўлай ("Хоць і не выказала скрухі" [1]) атрымае толькі год турмы, які па амністыі будзе заменены наглядам паліцыі.

Караючая рука рэвалюцыі насцігне прадажніка, спыніць яго агідную дзейнасць.

Калі правакатар поўзаў змяёю па Слонімшчыне, там у 1932 годзе ў вёсцы Чамяры ў доме сваячкі паэта Анатоля Іверса Вольгі Міско меў часовы прытулак той, хто цаною жыцця рашыцца выратаваць гонар рэвалюцыйнай Слонімшчыны, гонар КПЗБ - знішчыць правакатара. Сяргей Осіпавіч Прытыцкі, сакратар Слонімскага акругкома камсамолу, у перапынках паміж небяспечнай работай чытаў у Какошыцах кнігі, прысланыя Таўлаем Анатолю Іверсу, - "Дзесяць дзён, якія ўскалыхнулі свет" Джона Рыда і "Цэмент" Гладкова[2].

Стрэл Прытыцкага прагрыміць у зале Віленскага акруговага суда якраз тады, калі Вера Таўлай будзе чакаць прысуду. Многім людзям падполля прынясе гэты стрэл збавенне ад турмы і пакут, усім камуністам, усім сумленным людзям ён прынясе палёгку ад маральных пакут і ўмацуе веру ў жыццё, у перамогу справядлівасці і сумленнасці над подласцю і здрадай.

## Перад пачаткам

Час ішоў, адказу на віншавальную паштоўку не было, прыходзілі толькі Веры яго паштоўкі з Мінска, падрыхтаваныя загадзя. Варшаўская ж "цётачка" была не дужа акуратная ў перапісцы. Давялося яшчэ раз напомніць пра сябе.

Аднак гэтыя нелады не маркоцілі Валянціна, ён верыў, што ўсё будзе добра, і жыў прадчуваннем справы. Гэта надавала чаканню трывожную слодыч. Моманты перад пачаткам - хіба не самыя паэтычныя хвіліны жыцця, нездарма ж людзі з дапатопных часоў навучыліся расцягваць і смакаваць іх. Наш далёкі продак перш, чым засеяць, зажаць, выгнаць статак вясною, чыніў магічныя дзействы: клаў зарокі, шаптаў закліманні - падсцёбваў ваабражэнне, будзіў сілу і волю. Паэзія пачатку! Ты - самая старадаўняя, самая паэтычная паэзія.

---

[1] Там жа, арк. 321.

[2] Гл. А. Іверс. "Пасылка Валянціна Таўлая" (газ. "Вольная праца" за 26 красавіка 1962 г.)

Услухоўваючыся ў таемную песню прадчування новых падзей, Влянцін надаўмеўся, што можа і тая яго паганая маруднасць, праз якую выйшла столькі прыкрасцей, ёсць таксама разнавіднасць паэзіі пачатку. А паколькі ў жыцці дзейнічае дыялектыка, дык і даводзіцца плаціць за слодыч чакання звонкай манетай праваронених спраў. Валянцін, як і кожны мастак, быў крыху эпікурэец духу - любіў і ўмеў смакаваць гэты таемны цуд прадвесняў, цуд світанняў, цуд ранішніх зор. Але, змалку гартаваны ў агні барацьбы, ён умеў цаніць і суровую радасць адрачэння ад сваіх асалод у імя вышэйшых прынцыпаў неабходнасці, умеў і любіў ахвяроўваць паэзіяй мар дзеля драмы грамадскіх спраў.

Час ішоў, не адсланяючы таямніц лёсу. Праўда, з той пары, як Вера занесла паштоўку ў Зельву, думкі Таўлая перакінуліся ў будучыню. Ён спрабаваў уявіць тую варшаўскую "цётачку", што трымала ў сваёй сакрэтнай шкатулцы яго заўтрашні дзень. Асоба гэтая ўяўлялася даволі звычайнай, дужа падобнай на адну нізенькую, поўненькую настаўніцу віленскай гімназіі, якой вучні прыдумалі мянушку "панечка". Як ні дзіўна, а інакш тае варшаўскае жанчыны ён не мог уявіць - толькі двайнік віленскай "панечкі". Вось яна, плаўна перавальваючыся з нагі на нагу, падыходзіць да стала, мачае пяро ў чарніла і, прыжмурыўшы блізарукія вочы, пільна глядзіць на кончык пяра (ці вучні-штукары не наткнулі мухі?) і, папраўіўшы кароценькімі пальчыкамі акуляры, мачае пяро яшчэ раз, потым думае і пачынае пісаць. Што ж яна піша? Запрашае ў госці. На гэты раз ён прыязджае з дакладнасцю да аднае секунды. Цёплая сустрэча, пачастунак і - за справу.

Адным словам, у думках паўтаралася тое, што ўжо было, толькі ў ідэалізаваным варыянце. Адмінусоўваліся паганыя выпадковасці.

Ці то яму здавалася, ці то было сапраўды, але не толькі думкі - рэальнае жыццё пабегла хутчэй, стала больш драматычнае і напружанае. Часцей заходзіў у яго сховішча бацька, а гаварыць з ім - не тое, што з Верай ці дзедам Міколам: трэба добра памазгаваць, каб адказаць на пытанні, якія ён, удумлівы і страсны чалавек, рыхтаваў грунтоўна, выношваў напружана.

Бацька быў расчараваны ў сваіх самых глыбокіх спадзяваннях убачыць сына адукаваным чалавекам з цвёрдай прафесіяй. Палітыка - гэта важная справа, але добра, калі яна не асноўная, а пабочная прафесія. Павел Таўлай разумеў, што сыну даручылі грамадска важнае, мо нават гістарычнае заданне. Але чаму якраз цяпер, не даўшы давучыцца, пасталець, узмужнець? Для яго васемнаццацігадовы Валя быў яшчэ ўсё дзіцем, горкім дзіцем свайго веку. Тое, што сын так многа ведаў, так стала разважаў і ў той жа час быў зусім непрактычны, бездапаможна

непрактычны ў жыццёвых справах, балесна і горка сціскала бацькава сэрца. З гэтага болю нараджалася шмат свінцова цяжкіх пытанняў.

"Што ты тут зробіш супроць гэтае чорнае сілы?" - думаў ён, а ўголас гаварыў:

- Пры Грамадзе вунь як дружна выступалі ўсе, ды і то не дайшлі свайго, а зараз паглядзі - колькі народу па вёсках вушы апусціла, галадбяда ціснe, а яны толькі ўздыхаюць.

- Адна вёска пагоды не робіць, - горача пярэчыў Валянцін. - Ды і не на тых, што рукі апусцілі, трымаецца свет, не яны робяць пагоду. Сяляне ёсць розныя - факт. Ёсць такія, што адседжваюцца, апуджаныя. Але доўга не выседзіць селянін-бядняк на сваім загончыку-касніку, не сёння - заўтра пойдзе дамагацца свайго. Такі жалезны закон класавай барацьбы. Зрэшты, актыўны элемент і сёння змагаецца. Не горш, як пры Грамадзе, а ў нейкіх адносінах лепш.

- Не скажу, - ішоў на ўступкі бацька, - цвярдзейшыя людзі пайшлі да камуністаў. Ведаю, ды і сам не стаю збоку-прыпёку. Але што то за работа: афішак нараскідаць, сцяг вывесіць, масоўку склікаць - усё гэта, на мой розум, дэманстрацыя работы, а не сама работа. З тымі, хто мае смеласць афішку падняць або на нелегальную масоўку прыйсці, працаваць не так цяжка. А паспрабуй ты з тымі, хто паў духам, веру ці смеласць страціў, папрацуй! Гэткіх на вёсцы процьма. І сёння ён няцвёрды, а заўтра, глядзі, каталіцкую веру прымае, у стральцы запісваецца... А мы ўсё напаказ: сцяг вывесіў, чатыры гады турмы зарабіў - і герой. А справа - на месцы. Губім сілы дарма, вось што абідна...

Бацька з дакорамківаў галавою, нібыта і яго сын прыйшоў сюды, каб здуру, без толку змарнаваць сілы, загубіць жыццё без карысці для справы.

- Згушчаеш, бацька, фарбы. Не так усё дрэнна, як здаецца. У вёсцы ідзе пeратасоўка сіл, але ўжо сёння ў многіх раёнах вяскоўцы змагаюцца лепш, чым пры Грамадзе. Узваж хоць бы тое, што пішуць газеты пра забастоўку лесарубаў у Белавежы. А ўяві тое, чаго не пішуць! Лесарубы ж гэта сяляне, сыны вёскі. А якая арганізаванасць - сіла! Пралетарскія метады барацьбы.

Зрэшты, сарцавіна рэвалюцыі сёння - не вёска, а горад, нават не Заходняя Беларусь, а карэнная Полышча. Польскі пралетарыят - вось хто скажа рашаючае слова пра нашу будучыню. Мы - падсобная сіла, хоць і немалая. Трэба навучыцца ісці разам, поплеч. Цяпер дзяржава б'ецца ў цянётах крызісу. Растуць супярэчнасці: мацнее тэрор, але мацнее і гнеў рабочага класа, гнеў працоўнай гушчы. Больш ахвяр - больш вопыту змагання.

Польская кампартыя ўзяла курс на рэвалюцыйны выхад з крызісу. Правільны курс! Многае будзе залежаць у гэтай барацьбе ад таго, ці моцны будзе саюз рабочага класа з сялянствам, пралетарскага руху з нацыянальна-вызваленчым рухам. Адзінства руху становіцца фактам. Такога не было ў часы Грамады.

Па вопыту агітатара і публіцыста Валянцін ведаў, як важна ў спрэчках зблізіцца з апанентам, знайсці стычныя думкі, заручыцца даверам, таму ён з асаблівым націскам стаў развіваць тыя слушныя заўвагі, што былі ў выказваннях бацькі.

- Ты маеш рацыю, тата, вельмі нават маеш у адным: тактыка барацьбы ў нас, камуністаў Заходняй Беларусі, яшчэ кульгае. Не ўмеем цярпліва працаваць у масах, развучыліся спалучаць падпольную дзейнасць з легальнымі метадамі. Тэрор, фашызацыя развучылі... Авантурныя элементы часта навязваюць свае метады. Але ў кіраўніцтве партыі гэтыя недахопы ведаюць. Пачынаецца барацьба за генеральную лінію партыі, барацьба на два фронты - супроць авантурызму і супроць апартунізму. Вось і мяне, уласна, паслалі дзеля таго, каб праз партыйны друк умацоўваць сувязь авангарду з нізамі. Рэвалюцыю робяць масы. А мы будзем старацца здабыць іх давер.

Не забывай, тата, што за намі стаіць Савецкі Саюз, ён паможа нам у рашаючы момант не толькі маральна, ды і цяпер памагае, сам ведаеш... А міжнародны рэвалюцыйны рух, рабочы клас капіталістычных краін таксама будзе з намі. Глядзі, пад яго націскам нават у мірных абставінах паны вымушаны манеўраваць - Тарашкевіча і іншых паслоў Грамады і "Змагання" выпусцілі, нябось, з астрогу. А калі надыдзе час генеральнай бітвы, падтрымка сусветнага пралетарыяту будзе яшчэ большая. Увесь свет стаіць напярэдадні вялікіх патрасенняў. Для нашага краю гэта будзе час вызвалення, з'яднання з Савецкай Беларуссю.

- Дай то божа, як гавораць старыя людзі, - уздыхнуў бацька. - Але скажы ты мне, як яно - там? - Ён вымавіў гэтае "там" з прыцiскам, што азначала - у Саветах.

- Ёсць цяжкасці, непаладкі... Сацыялістычная перабудова вёскі - нялёгкая справа. Але цяжкасці гэта часовыя. Усё наладзіцца.

- А голад праўда ёсць? - ва ўпор ставіў пытанне бацька.

- Бываюць перабоі з прадуктамі...

- Дзе гэта ты, сынку, навучыўся праўду ў паперачкі загортваць? Праўда - не цукерка, а я табе не паненка, што трэ салодкім частаваць.

У словах яго, іранічных словах, прагучаў цяжкі сум і боль. Нязвычная для яго, мужнага і цвёрдага, журботная інтанацыя разанула Валянціна па сэрцы, на хвіліну ён разгубіўся, маўчаў. Але боязь, каб не прыбіць

бацьку маральна, павяла яго зноў на абходныя шляхі.

- У Мінску ніякага голаду няма. А чуткі розныя ходзяць пра тыя раёны, дзе сухмень і недарод, дык што я буду табе плёткі ўсялякія расказваць, - пакрыўдзіўся ён на бацькаву дасужасць.

- Сухмень, недарод, - мякчэй ужо гаварыў бацька, нібы разважаючы з самім сабою. - Недароды ў засушлівыя гады бывалі і раней. Галадоўкі звычайна ішлі пасля таго ў Расіі. Але ж радыё (мы слухаем радыё адтуль) гаворыць, што людзі перамаглі там прыроду.

- Перамаглі часткова...

- Хай бы хоць часткова, хоць напалавіну перамаглі, і то б не павінна быць галадоўкі. Сацыялізм жа - усё агульнае. Размяркуй пароўну - і парадак, а там уродзіць - людзі разлічацца.

- Так яно і робіцца, але браць няма асабліва адкуль. Калгасы яшчэ не акрэплі, людзі не прывыклі працаваць калектыўна. Пералом круты ў вёсцы адбыўся.

- То навошта было крута вярнуць і ламаць? А памалу, разважліва, нельга?

- Хто яго ведае, мусіць, нельга было. Раз ужо ламаць...

- Ламаць то ламаць, а хто будзе склейваць?

- Само зжывецца, - вырвалася ў Валянціна, і яму зрабілася сорамна.

- Я кажу - як жа саюз рабочых і сялян, пра які ты клапоцішся, ці вытрымае ломку гэтую? А калі вайна?

- Вытрымае. Індустрыя расце - значыць, і сіла дзяржавы расце. Зараз армія на тэхніку садзіцца.

- А есці салдат што будзе?

- Арміі хопіць. Ды што ты мяне дапытваеш, як следчы. Думаеш, калі я там жыў, дык усё ўжо мушу ведаць. Я веру і ўсе савецкія людзі вераць, што ўсё - к лепшаму.

- Дык яно, пэўна ж, усё ведаць і ўсё разумець ніхто не можа...

Бацька адыходзіў, як адчуваў Валянцін, памацнеўшы на духу. Можа ад таго, што стары выкладваў перад ім усё, што набалела на сэрцы, а можа і таму, што сын усё ж развейваў хоць некаторыя трывогі.

Валянцін быў усё ж задаволены: "Во гэта дык зарадка для прапагандыста. Аднак, я тут часу не марную..."

Не толькі размовы з бацькам займалі і ўзрушалі яго. У аднастайны побыт законспіраванага падпольшчыка ўрываліся па-свойму памятныя падзеі. Няма бо адной меркі на вымярэнне падзей. Маштабы - рэч адносная.

На праваслаўныя Каляды прыйшоў у водпуск сын дзеда Мікалая

Іван. Высокі, падчапісты, ён служыў у кавалерыі ў Баранавічах.

Устаўшы ранічкаю, Іван падахвоціўся наскубсці сена ды падаваць каровам: звычайны, колісь нават надаедлівы занятак цяпер яму здаваўся чымсьці вельмі любым, цікавым. Там, у казармах, усё трэ было рабіць па загаду, а загадвалі рабіць часта такое, што на практычны сялянскі розум здавалася дурною непатрэбшчынай. Нават каня загадвалі чысціць тады, калі ён і без таго аж зіхацеў, рыштунак драіць да бляску, хоць там іржы і знаку не было. Вясковыя хлопцы, прывучаныя да цяжкай работы ў нішчымніцы, марнелі там на добрым харчы ды пры лёгкіх занятках. Ад іх забралі права думаць і рашаць, што і навошта ты робіш. Дык вось гэтае "падаваць каровам" азначала для Івана вярнуць сабе свабоду, рабіць толькі тое, што лічыш карысным і патрэбным.

Бацька, убачыўшы ахвоту салдата да гаспадарскіх клопатаў, затрымаў яго ў сенцах і сказаў:

- Ты ж толькі глядзі, не напалохайся хоць, сена скубучы.

- Ось сказаў, стары - як малы! А нашто шабля пры боку? - пажартаваў Іван.

- Шабля, шмабля... То ж я табе і кажу: не напалохайся там, герой. Бо ў гумне нехта ёсць.

- Хто там ёсць? - насцярожыўся салдат.

- Валя Паўлаў хаваецца, во хто там ёсць. Дык ідзі, ды не палохайся.

Іван знайшоў Валянціна ў палоўні за торпам сена. Павіталіся, пагаварылі пра сёе-тоё, а потым салдат запрапанаваў:

- Гэта ж свята на дварэ, а ты аброс. Схадзі ў хату хоць пагаліся.

- Каб хто не ўбачыў, ужо развіднела.

- То на во мой шынель апрані, шапку на галаву - ды ідзі сабе смела, шабляй пабрэнкваючы.

- Валянціну спадабалася выдумка. Кавалерыйскі шынель з рослага улана даставаў яму аж да пят.

- На, бяры і шаблю. Падпяражыся, карацейшая шынелька стане, - раіў Іван.

Шаблю давялося прытрымліваць рукою, каб не баранавала па зямлі. Хатнія напацяшаліся, пабачыўшы падпольшчыка ў вайсковай форме. Толькі паспеў пагаліцца, як пад вокнамі затупалі дзіцячыя ножкі. Гэта бегла ў госці Тоня, унучка дзеда Мікалая ад старэйшай дачкі Ганны, што выйшла за Мікалая Турлая, селяніна з іх жа вёскі. Валянцін схаваўся за перагародку. Тоня ўвайшла ў хату, прынюхалася і пачала дапытвацца:

- А цым тут пахне? О, гэта мыла пахуцае. Цыё мыла? І руцнік крамны...

- Гэта дзядзя Ваня з войска прынёс, - адказала Вера, і дзіця

задаволілася адказам.

Былі ў Валянціна і яшчэ раз клопаты з шасцігадоваю гарэзаю Тоняй. Ён перайшоў быў на нейкі час да Турлаёў, дняваў там у каморцы, А нанач прыходзіў у хату і спаў у самым бяспечным на сялянскае разуменне месцы - на печы. Аднойчы раніцою Ганна пачала будзіць яго:

- Валя, уставай, бо дзеці зараз прачнуцца.

А Тоня ўжо не спала.

- А, дзядзя Валя ў нас! Дзе ён? Я хацу на пец да дзядзі Валі...

Ганна разгубілася ад нечаканасці, а потым знайшлася:

- Дурное ты, - крыкнула на малую. - Не Валя, а Ваня, твой хросны. Выдумала: дзядзя Валя, дзядзя Валя... На печ ёй захацелася, яшчэ чаго, пястунка!

Дзіця прымоўкла ад матчынай злосці, але ў душы не паверыла. Нешта шапталіся з малодшаю сястрычкаю Маняй, а потым, калі ў хату зайшла суседка, дзяўчаткі пачалі дражніцца:

- А мы неста ведаем... Ага, мы ведаем, хто ў нас на пецы... Дзядзя Валя на пецы...

- Падурэлі, нягодніцы, - разгневалася не на смех Ганна. - Які вам Валя - дзядзя Ваня, я вам кажу! Бо як вазьму трапкач...

- То ж я пагляджу, - памкнулася суседка падняць дзяружку, што вісела над печчу.

- Ну во, і ты як маленькая, - са злосцю і страхам у голасе спыніла яе Ганна. Тая схамянулася, на які страшны крок важылася, і хуценька дала цягу з хаты.

Малых у той жа дзень Турлаі адправілі жыць да дзеда Мікалая, каб не заміналі. Але гэта таксама было не выйсце. Давялося Валянціну вярнуцца назад у гумно.

Неяк напрадвесні добра набраліся страху. Забег задыханы дзед, паклікаў Валянціна і сказаў шэптам:

- Ты не напалохайся, унучак, але каб цябе тут не спаймалі гэтыя гіцлі. Поўна вёска паліцыі! Кажуць, тутуню ў людзей шукаюць: хто самасад сее, у халодніцу таго заганяць маюцца, сабачая іх шкура.

Аставацца ў гумне было небяспечна: гумно вясною пустуе, не схаваешся, прыйдуць - адразу накрыюць. Валянцін папрасіў дзеда, каб той паклікаў Веру. Хай правядзе за вёску, каб не так кідалася ў вочы. Вера падвяла яго паўдарогі да Баравізны, там яны дэманстратыўна паручкаліся - развіталіся: маўляў, госця праводзіла. Умовіліся дарогай, што паказваць на выпадак допыту, і ён пайшоў. Вярнуўся толькі на досвітку.

Нават яго цярплівасць пачала вычэрпвацца, закрадваліся ўсялякія

падазрэнні і невясёлыя здагадкі. Ажно - нарэшце! Вера прынесла жаданую вестку: "Прыехалі па цябе з Варшавы".

- Хто? - не адразу зразумеў ён.

- Ну, тая цёця...

- А як яна выглядае?

- Нішто сабе, чарнамазенькая, маладзенькая яшчэ, харошанькая.

- А чаму ты кажаш - прыехалі?

- Бо яна не адна, хлопец з ёю, гарадскі, відаць. Таксама прыстойны, высокі, куды там!

- Ізноў двое, - вырвалася ў Валянціна. Падазронасць пераходзіла ў абурэнне. - Ведаеш што, скажы ім: "Няма тут яго... Пайшоў, а куды - не ведаю і не знаю". Накармі іх, прыгледзься добра да дзяўчыны і, калі пакажацца свойскай, шапні ёй на адыходзе: хай адправіць кавалера і вернецца адна. Скажы: "Пашукаю яго, мо дзе знайду".

Так і зрабілі. Сувязная аказалася вельмі мілай дзяўчынай. Невысокая, але складная, тоненькая ў таліі, яна выглядала на падлетка, але хацела быць сур'ёзнай, толькі не заўсёды ёй гэта ўдавалася. Бліскаючы ў паўзмроку каморкі бялкамі вялізных чорных вачэй, нібы механічная лялька, яна гаварыла голасам пястункі, як бы ўсё перадражнівала звычайныя інтанацыі. Слухаць яе было міла і крыху пацешна: так і карцела ўшчыпнуць за кругленькі, абцягнуты цеснаватаю кофтачкай плячук і паглядзець, што яна будзе рабіць: па-дзіцячы хіхікне ці па-даросламу абурыцца - яшчэ раз блісне бялкамі чорных вачэй. Але Валянцін стрымліваўся.

Праз пару дзён абдумалі ўсе справы, згаварыліся, што далей, і яна паехала ў Варшаву. Вярнулася тыдні праз два з вялікім чамаданам, у якім была новая вопратка Таўлаю: шэры касцюм, светлы плашч і карычневы капялюш. Назаўтра яны адправіліся ў падарожжа. Дзяўчыну павёз Мікалай Турлай на сваім кані ў Азярніцу, а Валянціна - дзед Мікалай у Зельву. Ён і яна меліся сысціся ў цягніку, які ішоў на Беласток...

Быў позні вясновы вечар, у лазняку над Зяльвянкай заліваліся салаўі пад акампанемент незлічоных ансамбляў балотных пявунняў. Лагодны ветрык даносіў гаркаваты пах маладое лістоты. Ружавела вячэрняя зара.

Толькі летуцець у гэткі вечар, толькі гарнуцца да любай, шаптаць пяшчотныя словы, заміраць ад раскошы, а не туляцца па схованках, не баяцца чалавеку людзей. Валянцін уцягнуўся і прывык выходзіць начамі з будынка, каб усім целам адчуць прыглушаныя страсныя галасы жыцця, паслухаць таемныя зыкі. Ён і цяпер не думаў пра небяспеку, зліваючыся ў нямым захапленні з бяздонным акіянам жыцця.

Нават дзед Мікалай упаў у задуму. Шчырым сэрцам сына зямлі ён балюча адчуў разлад паміж натуральным жыццём прыроды і заблытаным, трагічным жыццём людзей.

- Пагляджу я, пагляджу на свет ды падумаю сабе: няма тое праўды ні ў людзей, ні ў бога. Вось чаму то так: ваша калена - самыя разумныя ў нашым родзе, а і самыя невязушчыя. Глядзі ты, хоць бы Павел, бацька твой: да чаго ж галава, а куды прыйшоў? Да дзедавага мужыцкага карыта. Там у Слоніме вучыўся - не давучыўся, як і ты. А ўсё праз гэтую вашую непакорнасць, заўсёды хочаце сваё даказаць, да ўсяго вам справа, больш як усяму свету вам трэба... Царскі партрэт прастрэліў, то і выгналі са школы... Хто ж такога раскола трымаць стане? Але такі на целяграфіста вывучыўся і работу добрую меў і жаніўся... Здаецца, чаго яшчэ? А на табе - вайна, жонка памерла, дзяцей бацьку на абедзве рукі пасадзіла... Хоць бы тут пабыў ціха: "Ласкавае цялятка дзве маткі ссе". Але дзе ж там - герой! - сваё дакажу!.. Даказаў: з работы выгналі. Яно то, пэўна, і гнуцца крукам перад усякім шалудзькам - гарыць яно гарам... Ды ты не помніш, мусіць, як прыехаў бацька ў Рудаўку - ні кала, ні двара: за вайну ўсё развалаклося. Дык рыдлёўкаю першы год поле скопваў у шынельцы чорнай чыгуначнай. Помню, полы тыя забрындаліся, сам худы, як драч, - горка глядзець, але не падае віду, што цяжка: салому, як той казаў, еш, а гонару не цярай.

Так і ў цябе, унучак, доля ў тыя сляды бацькавы ступае. Бывае, збяромся, мужчыны, на сяле ды балакаем - хто ў вёсцы самы вучоны, знацца, будзе чалавек? Хто кажа: "Пэўна, настаўнік, бо ён жа дзяцей вучыць". Другія кажуць: "Ні халеры - Валя Паўлаў яго за пояс заткне, як міленькага! Гэты, - кажуць, - Гаротнік, ці як таго настаўніка зваць, толькі семінару агораў, а Валя гімназію чуць не скончыў ды ў Мінску вышэй вучыцца, во якім чалавекам стане!" А яно вунь як выйшлася. Гаротнік, Гаротнік, а тваю загладуху прыкараводзіў...

- Што ты, дзеду, кажаш? - перапытаў Валянцін, а сэрца пахаладзела ад крыўды.

- Тое і кажу, што на кватэры стаяў ды Тоню прыкараводзіў. Павянчаліся ў мясаед. Адбіў тваю, знацца, дзеўку. А каб ты мо тут навуку праходзіў, то і сам бы...

- Не адбіў, дзеду, у мяне ў Мінску дзеўчына ёсць. Лепшая.

- Ну, то й добра. Людзі такі казалі ў вёсцы, што як на Валю надзею Тоня страціла, тады гэтаму настаўніку згоду дала. А то ўсё чакала.

Валянцін адчуў, як нешта ўнутры яго нібы абарвалася і стала лягчэй на душы: мужчынскі гонар быў заспакоены - не адбілі дзяўчыны.

- Ну, а тая ў Мінску, - пытаў дзед, - дадзжэцца, думаеш?

- Тая напэўна дажджэцца.

- Хіба не доўга чакаць...

- Не, ужо не доўга, дзеду, на вяселлі чарку вып'еш... Камсамольскага вяселля, савецкага, не бачыў - дык пабачыш.

- Чаму ж, калі паклічаш, дык пабачу. Дай божа... Каб ужо людзі па-людску пажыць маглі.

## Шустрая дзяўчына

Ад Беластока да Супраслі - рукою падаць. Тым больш на машыне, ды па гладкай дарозе - дваццаць мінут язды. Вячэрнім рэйсам пасажыраў ездзіла заўсёды многа, а цяпер нашушкалася столькі, што фанерны кузаў ажно трашчаў. У тумульце шафёр і не дагледзеў, як адзін прысадзісты бялявы хлапец, насунуўшы на вочы кепку, узабраўся без білета. На прыпынку ў Супраслі безбілетнік, вінавата стрыгучы вачыма з-пад доўгага брыля-жолаба, першы праціснуўся да дзвярэй і яшчэ на хаду сігануў з машыны. З выглядам чалавека, які прымчаўся па пільнай справе і якому ўсё роўна, што падумаюць розныя там разявякі, у якіх часу хоць адбаўляй, падарожны дзелавіта, амаль подбегам пашпарыў цераз плошчу, час ад часу памацваючы левай рукой пакуначак, які ўсё выязджаў з-пад пахі. Толькі пачуўшы вуркатанне матора пасажыр, не збаўляючы хады, азірнуўся, з палёгкай уздыхнуў, сцепануўся, нібы абтрос клопат, і пераможна ўсміхнуўся ўслед няхітрай машыне, быццам яна жывая і можа яго разумець. Здалёк і сапраўды аўтобус нагадваў закажанелага вепручка простай пароды з доўгім лычам. Нават каціўся ён падкідаючы куртаты зад на выбоінах, хрыпла рохкаючы сігналам - рыхтык галодны падсвінак.

Адышоўшыся ад цэнтра гарадка, наш знаёмы збавіў ход. На твары ў яго з'явілася грэблівая грымаса: "Няўжо гэтыя вось смарчкі-супрасляне маглі заварыць такое піва? Нашумелі на ўсю Еўропу. Але мяне гэта не цікавіць. Я еду сюды па кавалерскай справе. Паліцыі я не баюся".

На Касцельнай вуліцы ў Супраслі стаяў домік Пятра Будніка. Выглядаў ён як помесь гарадскога асабняка і вясковае хаты. Невялікі, але акуратны, драўляны, на бетонным падмурку, з прыбудаванаю верандай і бялюткімі аканіцамі, домік трымаўся зухавата, па-гарадскому, толькі сціплыя памеры выдавалі яго сваяцтва з вясковымі хатамі. Дом, праўда, ніадкуль не перавозілі, толькі самі гаспадары прыехалі ў 20-я гады з-пад Бераставіцы і прывезлі сялянскія маштабы і густы. Зрэшты, гэта не надта кідалася ў вочы, бо ўся Касцельная вуліца заселена была прыезджымі вяскоўцамі і больш была падобна на пасёлак, чым на прыгарад. Забу-

давалі яе толькі з аднаго боку выбоістай дарогі, на якой восенню каровы і авечкі размясілі непралазную калатушу, цяпер прысыпаную залаценькімі лістамі. Не памагала і гэта аздоба: вуліца выглядала шэраю, запусцелай і бязлюднай.

Ідучы паўз плот, падарожны перабіраў вачыма адрасныя дошчачкі, прыбітыя да вуглоў ля падстрэшкаў. Зірне на надпіс, пераступіць на пальчыках лужыну, спрытна хапаючыся за штыкеціны, ды ідзе далей. Прачытаўшы "Буднік Пётр", ён прыпыніўся, разгледзеўся навокал і завярнуў у брамку.

На падворку яго сустрэла пажылая жанчына з кошыкам свежай бульбы.

- Дзень добры, пані, - пакланіўся хлапец, здымаючы кепку. - Ці магу я пагаварыць з панам Пятром? - спытаў ён па-польску.

- Мужа няма дома, у лесе забавіўся. Прыйдзіце хіба ў суботу, - адказала яна па-беларуску. Адказ не засмуціў госця. Упэўніўшыся, што перад ім гаспадыня, ён таксама перайшоў на беларускую мову і даверліва спытаў:

- А Лена, цётко, дома?

- Лена ў хаце.

Тым часам дзверы адчыніліся, і з цёмнай прорвы сяней паказаўся гарэзны дзявочы тварык. Здрыгваючыся ад золкага ветру, дзяўчына пачала перадражніваць:

- Дзень добры, пане Конюх, нех пан бэндзе ласкаў встонпіць у наш гасцінны дом.

Калі той здымаў плашч і галёшы, яна ўсё пакеплівала з яго далікатных зваротаў на "пане".

- Сябра Конюх добра ведае, што пан Пётр днюе і начуе ў лесе на карчаванні. Днём шуркі ставіць, а нанач у манастыр ідзе. Богу маліцца. З ягуменам айцом Нікіфарам набожным гавэнды вядуць. Ды ў кілішкі звоняць па-старыкоўску... Ты ж усё знаеш.

- Ды я так, на ўсякі выпадак, для канспірацыі, - апраўдваўся ён. - Маму тваю першы раз бачу. Думаў, можа гэта тая пападдзя ці папоўна, пра якую ты расказвала, што ад вас не вылазіць, газеты прыносіць і маме тваёй пра палітыку чытае.

- Апраўдвайся! Паламацца на панскі лад гарадскія зухі любяць, - не пакідала паддражніваць дзяўчына.

Лена Буднік была дробненькае дзяўчо, а голас мела нізкі і моцны. Такія галасы бываюць у настаўніц, якім штодня даводзіцца расказваць у класах. Рухі ў яе былі жвавыя, а гаварыла яна павольна, з прыціскам вымаўляючы кожнае слова.

Лена - дзяўчына ў гадах, хоць тонкая, мініяцюрная постаць падлетка моцна маладзіць яе. У Лены дробны твар, даўгаваты нос і маленькія валявыя вусны. Коратка падстрыжаныя прамыя валасы, па-хлапечы зачэсаныя назад, адкрываюць прыгожы высокі лоб. З вачэй ажно струменіцца хітраватая цікаўнасць.

Крыху збянтэжаны насмешкамі Лены, Конюх таптаўся ля парога, аберуч трымаючы свой пакуначак.

- Што гэта ў цябе? - перарвала задуму гаманлівая дзяўчына. - Давай палажу. Ой-ёй-ёй! Які цяжар! Мусіць, бомба? Што будзем узрываць? Фабрыку Цытрона? Толькі баюся, што не пранясеш туды бомбы, пане Конюх. Нават выквінтныя манеры табе не памогуць. Шпіцляў столькі віжуе, што на аднаго рабочага, мо, па пяць выходзіць. А паліцыі - табала. Аж з Варшавы - пешая і конная... Увесь забастовачны актыў арыштавалі. Стральцоў, што перайшлі на бок дэманстрантаў, дапытваюць. А як забітых нашы хавалі, дык паліцэйскія шпалерамі аж да могільніку выстраіліся. Эскорт з кулямётамі ўслед за жалобнай працэсіяй ішоў... Такія справы, сябра Конюх, - горка ўсміхаючыся, паківала яна галавой. - Так што бомбачку сваю палажы сюды вось, на ўслончык. Хай яе...

- Дай ты рады, якая бомба, - не ў тон сур'ёзна і паныла загаварыў Конюх. - Ужо так падганялі, што грошай на білет не паспеў дастаць. Захапіў вось муфтачку ад кардана, прызапашана была, думаў, дам шафёру, то правязе. Але прашмыгнуў і так, без білета. Хіба назад едучы прыдасца.

Ён рады быў разводзіць і даўжэй, абы мець перадышку ад насмешлівай субяседніцы.

- А што здарылася? Пажар? - пайшла яна зноў у наступленне.

- Не ведаю, - пацiснуў плячыма хлопец. - Сказалі перадаць, каб ты заўтра рана была ў Беластоку. Збірайся надоўга, мо на месяц, мо на год... Рэчы бяры з сабою. Прыходзіць у памяшканне Таварыства беларускай школы.

- А па якой справе? Нічога не казалі?

- Не, канспірацыя!..

- Ух, гэтая канспірацыя. Чым бы то фарсілі некаторыя сябры, каб не гэта цаца канспірацыя. Так ужо насакрэцiлiса некаторыя, што ўласнага імя не памятаюць...

Яна буркліва сыпала папрокі якомусьці непрыступнаму маўчуну, што ўвасабляў у яе паняццях звышканспірата. Сама ж думала-гадала: куды? Няўжо туды, у Саветы, на вучобу? Няўжо збудзецца яе мара? Ой, мусіць, не, бо пасылаюць туды тых, каму пагражаюць тут арышт, суд і цяжкая кара. Яе ж выкарыстоўвалі ўвесь час на легальных дару-

чэннях. Камендант часта клікаў на пастарунак "для гавэнды", бывала, запіраў на пару дзён у арышце, а потым выпускаў, папярэдзіўшы. Да суду справа не даходзіла.

Лену Буднік лічылі здольным масавіком. Яна праводзіла ўсе выбарчыя кампаніі, была даверанай асобай, калі ў 1922 годзе выбіралі паслом па Сакольскай акрузе Валошына, а пазней, у 1928 годзе, - Рыгора Шырму ў Супраслі.

Праўда, Рыгора Раманавіча не ўдалося правесці - забалаціравала рэакцыя. Лепш сказаць, замахлярыла. Кіраваў перадвыбарнай кампаніяй у Супраслі ад імя левых сіл рабочы-шавец Баляслаў Садоўскі. Родам ён быў з Ломжы, карэнны паляк, але дужа цікавіўся беларускімі справамі, спачуваў вызваленчаму руху. Рыгора Шырму таксама выклікалі тады нібыта на сустрэчу з тэбэшоўцамі ў беластоцкі клуб ТБШ, а на самай справе для перагавораў з Садоўскім і сакратаром Супрасльскай арганізацыі ППС-лявіцы. Чаго ж выклікаюць яе?

Покуль Лена моўчкі перабірала старыя ўспаміны, забыўшыся на госця, Конюх, відаць, знецярплівіўся, загаварыў:

Дык можа я пайду ўжо...

Ну што ты, сябра Конюх, абразіўся? Даруй, я задумалася. Зараз кавай пачастую. Не пасядзеўшы, вяртацца не раю: паліцыя зараз насцярожана, як ніколі. Будзь ужо галантным кавалерам, пасядзі, пафліртуй з паненкай... За кавай госць памякчэў і сказаў Лене, што чуў краем вуха, нібыта маюць паслаць яе ў Вільню ў рэдакцыю якойсьці газеты.

Гэта звестка расчаравала Лену. Лепей бы не казаў. Але ноччу, лежачы ў ложку, яна ўжо бачыла сябе ў старажытнай шумлівай Вільні, знаёмілася з новымі людзьмі, бегала ў друкарню, цэнзуру, на пошту, прабівала ход сваёй газеце... Тры гады таму яна ўжо была ў Вільні рэдактарам "Нашай газеты", якую выдаваў Пасольскі клуб "Змаганне". Выйшаў, праўда, толькі адзін нумар - закрылі ўлады. Тры гады... А помніўся яшчэ востры пах друкарскай фарбы і радаснае ўзрушэнне, калі выйшаў той першы нумар. Помнілася і другое... Грубыя заляцанкі аднаго пасла. І той сумны выезд з Вільні, як закрылі газету. Але хіба ўсё благое мае паўтарыцца?..

А потым вярнуліся ўспаміны з выбараў. Успаміны, якія абарваў Конюх сваім: "А можа я пайду ўжо". Кожная партыя рыхтавала тады свае бюлетэні з пэўным нумарам. Агітатары раздавалі іх выбаршчыкам загадзя. Можна было назбіраць хоць пачак. А ў дзень выбараў чалавек ішоў на выбарчы ўчастак, браў канверт, заканвертоўваў аблюбаваны бюлетэнь і падаваў камісіі. Канверты не заклейваліся, гэта і давала волю махлярам. Старшыня выбарчай камісіі настаўнік Пшытула закрываў

вочы на тое, як шулеры з выбарчай камісіі падмяняюць бюлетэні з нумарам 48 пілсудчыцкаю адзінкай. Вось тады Лена не стрывала, прыпільнавала аднаго "патрыёта" і схапіла за руку пад сталом. Канфуз! Але пан Пшытула напусціўся не на махляра, а на яе: "Скандалізуеце! Зараз усунемы такего мэнжа зауфаня!" [1] Праўда, даверануую асобу выгнаць не пасмелі, але Рыгор Шырма ў сейм не прайшоў.

А па прафесіі Лена Буднік была "беларуская вучыцелька" без пасады. Папрацаваць у школе давялося адзін толькі гадок, ды і то не цэлы. Было гэта неяк скора пасля вяртання з бежанства. Жыла іх сям'я тады яшчэ ля Бераставіцы. У адной вёсцы не хапала настаўніка, дык бацькоўскі камітэт запрасіў яе. Школьны інспектар даў вусны дазвол, і яна працавала ўсю зіму, а потым у апошняй чвэрці прыехала настаўніца-полька з афіцыйным накіраваннем. Прыйшлося аслабаніць месца.

Працы па спецыяльнасці так і не атрымала больш. Стала сезонніцай. Капала зямлю на чыгунцы, саджала лес, збірала смолку...

А Вільню яна ведала добра. У разгар грамадаўскага руху даводзілася часта бываць там. Апошні раз ездзіла туды дэлегатам на з'езд ТБШ у мінулым годзе.

"Што ж, паедзем да новай прыгоды..." - з гэтай думкай яна засыпала. Але спаць не магла. Сніліся страшныя сцэны допытаў, пра якія чула ад сяброў-падпольшчыкаў, і Лена прачыналася. Так і перабыла-перамучыла ноч.

## Жменя фактаў

За тых пару гадоў, што Валянцін Таўлай пражыў у Мінску як палітэмігрант, шмат розных змен адбылося ў Заходняй Беларусі. Услед за Грамадой было разгромлена "Змаганне", дашчэнту знішчана прагрэсіўная прэса. Чытаючы архіўныя дакументы пачатку 30-х гадоў, заўважаеш, як знішчаўся беларускі радыкальны друк. Не толькі паліцыя, пракуратура, павятовыя старасты ці ваяводы - паштовыя чыноўнікі зацята ганяліся за газетамі-аднаднёўкамі, за брашурамі, нават за часопісамі, адбітымі на шапірографе, - вылоўлівалі, знішчалі, не дапускалі да адрасатаў.

Пастаўскі камендант паліцыі ў цыркуляры ад 17 сакавіка 1933 года паведамляе, што... "на тэрыторыі Вілейшчыны выяўлены "Беларускае жыццё" і "Жыццё" - аднаднёўкі, друкаваныя ў Львове, "Шлях" - газета, друкаваная ў Вільні, "Барацьба" - газета, друкаваная ў Берліне;

[1] Паднімаеце скандал! Зараз выдалім такую даверануую асобу!

"Пралом", "Студэнцкі кліч" - выданні, адбітыя на шапірографе ў Вільні, а таксама некалькі адозваў...

На пералічаныя вышэй часопісы аб'яўлены арышт, ад часопіса "Барацьба" адабраны паштовы дэбіт".[1]

КПЗБ рабіла адчайныя спробы ўзнавіць легальную прэсу ў Вільні і Беластоку, але перашкаджалі - з аднаго боку, новыя, больш суровыя законы аб друку, паліцэйскі разгул, а з другога - сектанцкія настроі ў самім кіраўніцтве кампартыі, якое не ўмела знайсці агульную мову з дэмакратычнымі групамі інтэлігенцыі і не адважвалася даверыць ім гэтую справу.

І хоць у партыйных дакументах была абвешчана правільная ўстаноўка: "Ні сектанцтва, ні капітулянцтва ў тактыцы адзінства фронту" - але гэта лінія не заўсёды вытрымлівалася. У "Бюлетэні" ЦК КПЗБ, выдадзеным 1 снежня 1932 года, пастаўлены заклік, яўна лявацкі па духу: "Трэба разгарнуць барацьбу супроць фашызацыі ТБШ".[2] На справе гэта азначала пайсці на канфлікт з адзінаю масавай дэмакратычнай арганізацыяй, якая нейкім цудам уцалела ад разгрому і пры ўмелым падыходзе магла б стаць важным рычагом выхавання народных мас.

Паколькі стварэнне легальнай камуністычнай прэсы сустракала забароны і рэпрэсіі, КПЗБ, як магла, старалася развіваць цэнтральны і перыферыйны падпольны друк. Ва ўсе нізавыя партыйныя арганізацыі была разаслана спецыяльная інструкцыя ЦК КПЗБ аб утварэнні своеасаблівай службы інфармацыі (у кожнай партячэйцы выбіраўся чалавек, адказны за збор матэрыялу для партыйнай прэсы). 23 студзеня 1933 года ЦК КПЗБ распаўсюдзіў анкету, у якой ставіліся сярод іншых наступныя пытанні: "Ці атрымліваеце вы літаратуру на той мове, якая вам патрэбна? Ці пішацца яна дастаткова папулярна? Якія выданні вас найбольш цікавяць? Ці чытаюць нашу літаратуру члены партыі і што пра яе выказваюць?"[3] Камуністы Пружаншчыны ў тым жа годзе абвясцілі кампанію па зборы грошай у "Баявы фонд кампартыі". З гэтага фонду мелі карыстацца органы партыйнага друку. ЦК КПЗБ у пісьме да Пружанскага РК горача вітаў яго ініцыятыву: "Масы патрабуюць нашага друкаванага слова. Вы самі неаднаразова патрабавалі выдаваць "Бюлетэнь" не толькі па-польску, але і па-беларуску, і па-

---

[1] Дзяржархіў Мінскай вобл., філіял у Маладзечна, ф. 92-с, воп. 1. спр. 529, арх. 84.

[2] ЦДА Літоўскай ССР, ф. 31, воп. 230. спр. 378. арк. 412.

[3] Дзяржархіў Гродзенскай вобл., ф. 200, воп. 2, спр. 12, арк. 136.

ўкраінску. Але партыя не мае грошай друкаваць патрэбную колькасць газет і лістовак для мас... З гэтых клопатаў партыю можа вывесці толькі калектыўнае намаганне ўсіх членаў..." [1]

Справы на ніве партыйнай гірапаганды ў Заходняй Беларусі пайшлі на паляпшэнне ўлетку 1933 года. З 8 чэрвеня ў Вільні начала выходзіць "Беларуская газета", паўлегальны орган кампартыі. Ранняй восенню ў рэдакцыю "Беларускай газеты" прыйшоў Валянцін Таўлай. Па даручэнні ЦК КПЗБ ён павінен быў ажывіць сувязь падполля з беларускаю інтэлігенцыяй.

Урад буржуазнай Польшчы да пары - да часу цярпеў камуністычную газету, паколькі быў устрывожаны прыходам да ўлады Гітлера і рабіў дыпламатычныя рэверансы перад СССР. Газета пасяпахова вяла барацьбу з ідэалогіяй фашызму, гуртавала сілы антыфашысцкага фронту і стала баявой трыбунай працоўных вёскі і горада. Віленскі ваявода ў справаздачы аб палітычным становішчы, датаванай 7 лістапада 1933 года, пісаў на імя міністра ўнутраных спраў: "Беларуская газета" і яе рэдактар Карповіч Аляксандр падтрымліваюць кантакт з падпольным РК Ласёўка ў Вільні і прафсаюзам рабочых-будаўнікоў. Газета распаўсюджвалася сярод членаў гэтага прафсаюза". [2]

Праўда, сектанцкія настроі ў кіраўніцтве КПЗБ адбіліся і на выступленнях газеты: у ёй з'явіліся беспадстаўныя абвінавачванні прагрэсіўных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху ў здрадніцтве і іншых "грахах". На гэтых памылках жыравалі рэакцыя і дэфензіва.

"Значныя поспехі, - піша часопіс "Коммунист", - дасягнутыя партыяй па развіцці нацыянальна-вызваленчага руху ў гады сусветнага эканамічнага крызісу, не маглі, аднак, засланіць таго факту, што ў дзейнасці кіруючага актыву КПЗБ пачалі праяўляцца сектанцкія погляды і метады работы, яны выцякалі з пашыранай тады ва ўсім камуністычным руху памылковай "тэорыі сацыял-фашызму", якая разглядала сацыялдэмакратыю і сялянскія партыі як састаўную частку фашысцкага лагера". [3]

Але заслугай "Беларускай газеты" трэба лічыць акурат тое, што яна зрабіла пэўныя крокі ў пераадоленні дагматызму і сектанцтва, асабліва на ніве мастацкай літаратуры. "Беларускай газеце" ўдалося ідэйна аб'яднаць і згуртаваць значны атрад мастакоў слова, камуністаў

---

[1] Дзяржархіў Гродзенскан вобл., ф. 200, воп. 2, спр. 12, арк. 137.

[2] Дзяржархіў Брэсцкай вобл., ф. 28, с/р - 1, воп. 9, спр. 2602, арк. 57.

[3] "За правильное освещение истории компартии Западной Белоруссии". "Коммунист" № 8 за 1964 г., стар. 76.

і беспартыйных, у радах Літаратурнага фронту сялянскіх і рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Ленінскі прынцып аб непрыгоднасці адміністравання ў кіраўніцтве літаратурнаю справай у асноўным вытрымліваўся газетай. І тут, як пабачыць чытач, немалая заслуга Валянціна Таўлая.

## Васіль-Васілёк

У Вільню Лена Буднік ехала ў таварыстве пажылога мужчыны. Гэта быў добра знаёмы ёй папулярны на Беласточчыне дзеяч ТБШ, камуніст Ляшчынскі, якога выклікалі па партыйных справах. Спадарожнікі мала гаварылі, кожны думаў-гадаў пра сваё, і выглядала на тое, што сядзяць у вагоне першыя стрэчныя людзі.

З вакзала яны падаліся на Людвісарскую вуліцу і спыніліся перад цагляным асабняком. Ад вуліцы яго адгароджваў высокі глухі мур. Вароты былі не запёрты, Лена з Ляшчынскім свабодна прайшлі на падворак, разгледзеліся. На доме быў 8-мы нумар, а ў адным з двух пад'ездаў віднелася папяровая шыльдачка. Падышлі, прачыталі:

Рэдакцыя "Беларускай газеты".

Рэдактар-выдавец інж. магістр Аляксандр Карповіч.

Прыём наведвальнікаў у сераду і пятніцу ад 10 да 12 гадзін.

- Знайшлі, - вымавіла Лена, радая, што няблага ведае горад.

На іхні стук дзверы адчыніў высокі прыстойны мужчына гадоў пад трыццаць. Пачуўшы прозвішча Буднік, ён назваўся рэдактарам і ветліва запрасіў:

- Заходзьце, Алена Пятроўна, вельмі прыемна. Калі ласка, сябра Ляшчынскі. Заходзьце, даражэнькія, мы вас чакаем.

За гэтым "мы" была, акрамя яго, маладая, густоўна, па-гарадскому апранутая дзяўчына. Невысокага росту, жвавая, прыветная, усмешлівая, яна адразу спадабалася Лене. Вельмі міла было з яе боку не прыкмячаць, што Лена саромелася свайго не дужа прэзентабельнага паліто, перашытага з братавай паношанай "есёнкі". Да таго ж, бронзавы, колер гэтай адзежыны не пасаваў да сіняга барэта.

Пакой рэдакцыі - прадаўгаваты, але невялікі. Злева ад уваходу было шырокае акно, перад якім стаяў просты стол, завалены паперамі, а на падоўжнай сцяне насупроць стала вісела паліца-стэлаж, на якой таксама бязладна валяліся паперы, газеты, часопісы і кніжкі. Насупроць уваходу пры сцяне стаяў жалезны ложак, засланы шэраю коўдрай. Лена прыкмеціла, што на ложку не было аніводнай падушкі, ад чаго пакой

выглядаў асабліва няўтульным і занядбаным.

Тут была і рэдакцыя і кватэра рэдактара-халасцяка. Гледзячы на яго модны накрухмалены каўнерык, на бялюткія абадкі манжэтаў, што ледзь-ледзь праглядвалі з рукавоў добра пашытага гарнітура стальнога колеру з зеленаватым адлівам, на бездакорна завязаны гальштук, - ніхто б і не падумаў, што такая асоба жыве ва ўбостве і запусценні. Здавалася, што ён тут - выпадковы госць, як і Лена, і яе новая знаёмая Люба, як Ляшчынскі.

Гаспадар ці ўжо так звыкся з кантрастам паміж вопраткай і абстаноўкай пакоя, ці не надаваў гэтаму значэння, у кожным разе ніякай збянтэжанасці не праяўляў. Увогуле ён быў інтэлігентны чалавек з ураўнаважаным лагодным характарам і добрымі манерамі. Ветліва выказаўшы належныя ў такіх выпадках знакі ўвагі да госці і госця, ён прысеў на скрыпучае гнутае крэсла і пачціва, гледзячы Лене ў вочы, сказаў, што задаволены сваёй будучай супрацоўніцай. Лена пачула, што румяніцца ад такога кампліменту, але хутка ўзяла сябе ў рукі і тады заўважыла, як лёгка і нечакана развіталася са сваім уяўленнем, што рэдактарам будзе яна. Карповіч, відаць, быў добра праінфармаваны пра дзелавыя якасці новага работніка. Ён гаварыў да яе як да вопытнай журналісткі, якая, маўляў, зубы з'ела на газетнай справе.

- Прыходзьце на працу, калі ласка, так прыблізна а дзесятай. Не лішне рана? Не? Вось і добра. Будзеце заносіць матэрыялы да Левіна, забіраць шпальты[1], вычытваць карэктуру, рассылаць тыраж (адрасы падпісчыкаў вам дадуць); ну, і вельмі мяне выручыце, калі захочаце весці розныя грашовыя разлікі. Вось, бадай, і ўсё.

Пачуўшы гэты пералік абавязкаў, карцела спытаць, а што будзе рабіць сам рэдактар, але ён гаварыў так ветліва, з нейкім мілым нядбальствам, нібыта ўжо наперад і апраўдваўся, і прасіў прабачэння. Лена ўстрымалася ад рэплікі. Па тоне відаць было, што рэдактарская прафесія яго не надта захапляе, ён не быў падобны да тых фанатыкаў друку, што гатовы аддаць уласную скуру на пергамент для юбілейнага нумара свайго часопіса. А Лена любіла энтузіястаў, яны былі зразумелыя, з імі было лёгка. Адно толькі абяззбройвала яе ў паводзінах Карповіча - апостальская бескарыслівасць. "Можа захочаце весці грашовыя разлікі", - паўтарыла яна ў думках яго прапанову і ўсміхнулася. А ён зразумеў, мабыць, гэту ўсмешку так, што яго новая супрацоўніца не зусім задаволена яго тлумачэннем. Рэдактар даверліва паглядзеў на яе сваімі вялікімі карымі вачыма, у якіх спачываў дзесьці затоены смутак, і прадаўжаў:

1 Гранкі.

- Не турбуйцеся, Лена Пятроўна, падрабязнасці вам скажуць. Вось Люба Андрэеўна вас завядзе, там супачняце, пераначуеце. А потым і на кватэру ўладкуе. Вы, сябра Ляшчынскі, таксама пойдзеце з імі. На жаль, даражэнькія, я не маю чым вас пачаставаць... - Ён абвёў вачыма пакой і, здавалася, толькі зараз заўважыў беднасць свайго жылля, бо ўздыхнуў і бездапаможна развёў рукамі.

Развіталіся. Люба звычным жэстам гараджанкі запыніла рамізніка, усадзіла іх на задняе сядзенне - паехалі. Абагнуўшы будынак вакзала, накіраваліся ў неасветленыя вулічкі прыгарада, забудаваныя аднапавярховымі маленькімі домікамі.

- Гэта дзяльніца[1] называецца "Новы свет", - знаёміла Люба сваіх падапечных з горадам. - У прыстойнай публікі яна мае дрэнную славу разбойнага гнязда. Але гэта няпраўда. Жывуць тут пераважна рабочыя.

Упэўненасць, з якою трымалася і гаварыла Люба, перадалася Лене. На душы стала спакойна. Думалася: "Ты ў надзейных сяброўскіх руках, усё пойдзе добра".

У нейкім завулку Люба разлічылася з рамізнікам, а потым правяла прыезджых яшчэ пару кварталаў пехатою і завярнула ў падворак аднаго нічым не прыкметнага доміка. Яна ўзышла на ганак, адхіліла філёнку з левага боку дзвярэй, намацала засакрэчаную кнопку званка (другая, "афіцыйная", кнопка была прымацавана да вушака справа) і тройчы пазваніла. Адчыніў пажылы мужчына, прапусціў у дом і запёр дзверы на засаўку.

Кватэра складалася з сяней, кухні і двух невялікіх пакояў. У бакоўцы, куды прывяла іх Люба, было двое мужчын: адзін, мажны лысаваты брунет з круглым румяным тварам і прыкметным жывоцікам, стаяў ля акна. Лена заўважыла, што кручкі на аконнай раме былі адкінуты, а левая рука мужчыны ўпіралася ў раму. Ён быў напагатове. Другі, шчупленькі, у шэрым касцюмчыку, зусім яшчэ маладзён, сядзеў ля стала і курыў папяросу. Пазнаёміліся. Першы назваўся Юркам, другі Васілём. Гэты Юрка быў знаёмы Лене па Беластоку, толькі там ён меў клічку Пятрусь, помнілася ёй і яго сапраўднае, ці можа несапраўднае, прозвішча: Прэдка. Але тут ён не падаваў выгляду, што яны знаёмы, і гэта непрыемна ўразіла Лену.

Адкінуўшыся ўсім целам назад, ад чаго жывот яшчэ больш выдзяляўся, Юрка важна падаў Лене вялікую потную руку і, не выпускаючы Ленінай, прамовіў:

- Вам даручаюць, сяброўка Буднік, адказную справу. Газета ў

---

[1] Раён горада.

нас партыйная, або, як нашы класавыя ворагі кажуць, пракамуністычная. Мы мусім дзейнічаць па-пралетарску рашуча і асцярожна (тут ён азірнуўся на акно). Віленская дэфа[1] напэўна пусціла ўжо на нас і шпіцляў і канфідэнтаў. Ваша справа адказная: будзеце сакратаркай, і карэктаршай, і бухгалтаршай, і кур'ерам - у вас усе даручэнні адказныя... На ўтрыманне мы вам дадзім не многа... Але ж і харчу вам трэ, як сінічцы - канапель клюнула і ўсё, ха, ха, ха - не тое што мне пры маёй камплекцыі. Так што і новае паліто захацеўшы справіце.

Лена вырвала руку і пакрыўджана сказала:

- Перастаньце, Пятрусь, што вы верзяце нямаведама што...

Субяседнік сумеўся, твар яго стаў набягаць крывёю, бровы нахмурыліся. Шумна хапіўшы паветра, ён пагрозліва вымавіў:

- Ніякага Петруся, грамадзянка Буднік, я не знаю і вам не раю знаць!..

- Ну, а я ведала нейкага Петруся Прэдку, падобнага, сябра, на вас, - уваходзіла ў азарт Лена.

- Глядзіце, сяброўка Буднік! Партыя нас заклікае да пільнасці і канспірацыі, а вы... Гэта вам не тэбэшоўшчына! Тут перадавы фронт класавай барацьбы.

Ён сыпаў газетнымі выразамі і палітычнымі заклінаннямі, напускаючы на сябе важнасць, а Лена не слухала. Яна ўжо зразумела, што дакуль тут будзе працаваць, датуль будзе агрызацца з гэтым бесцырымонным, адурэлым на пункце пільнасці чалавекам. Лене прыпомнілася першая сустрэча з Юркам, тады Петрусём, у Беластоку, на кватэры ў нейкага беднага шаўца-яўрэя. Там ён ляжаў на ложку, накрыты бруднаю ватнаю коўдрай, чорныя валасы ўскалмаціліся на падушцы, твар аброс шчаціннем, правая шчака была перавязана нейкаю шматай - Юрка заканспіраваўся пад хворага. Так лежачы ён і даваў ёй, дэлегатцы Акруговага з'езда ТБШ, указанні. Хоць Лена і разумела, што падпольшчыку даводзіцца выбіраць розныя спосабы маскіроўкі, але было неяк шкада яго, здаравяку-мужчыну, які прыкідваецца хворым. Яна любіла ў людзях прастату і тактоўнасць. На гэтыя якасці ў яе была асаблівая чуласць: Лена крыху пакутавала ад свайго маленькага росту і падсвядома дзяліла людзей на тых, што прыкмячаюць, і на тых, што не звяртаюць увагі на гэты недахоп. Тыя, што не прыкмячалі, былі ў яе вачах інтэлігентныя, далікатныя людзі, а тыя, што давалі адчуць, - грубыя. Амаль што так яно і было сапраўды. Выключэнне маглі складаць хіба толькі кавалеры з добрага таварыства, у якіх натрэніраваная манера далікатна

[1] Дэфензіва.

абыходзіцца з жанчынамі на людзях замяняла сапраўдную тонкасць душы.

- Дык вы мяне слухаеце? - дайшоў да яе голас абражанага Юркі.

- Мне ўсё ясна, сябра Пятрусь, - нечакана для сябе падкалола яна, а потым паправілася,- сябра Юрка.

- Кінь ты, браце, давай адкладзём сур'ёзныя размовы на потым. Людзі стаміліся, трэба чаем хоць напаіць.

Гэта ўмяшаўся ў размову Васіль. Гаварыў ён ціхім, крыху сіплаватым голасам, але ў інтанацыях была амаль дзіцячая чысціня. Вось і цяпер у яго словах чулася сардэчная дабрата і ледзь улоўнае пачуццё перавагі над Юркам, якое ён умеў прыхаваць пад лагоднасцю інтанацыі. Гэты хлапчук, што выбавіў усю кампанію з няёмкага становішча, пачаў цікавіць Лену. Яна з удзячнасцю глянула на яго: хвалістыя светлыя валасы, зачэсаныя набок, прадаўгаваты бледны твар, буйны нос і поўныя, падзіцячы ўсмешлівыя вусны - у яго было вельмі свойскае, але "не банальнае аблічча. Юнак здаваўся простым, даступным і дабрадушным, але не наіўным. Звярнуўшыся да Любы, Васіль запрашаў:

- Ты, Любачка, таксама астанешся на чай? Дай памагу распрануцца.

- Астануся, Васілёчак, калі ласка.

Лена прыкмеціла, што гэтае "Васілёчак" Люба вымавіла тонам, з якім маткі звяртаюцца да дзетак або старэйшыя сёстры да малодшых брацікаў. "Сапраўды, - падумала Лена, ён не Васіль, а Васілёчак", - і самой захацелася вымавіць гэтае пяшчотнае слова.

- Ну, ладна - вячэраць, дык вячэраць, - махнуў рукою, ніяк не бянтэжачыся, Юрка. - Васіль дасць вам, сяброўка Буднік, канкрэтнае заданне. Вы будзеце - паміж ім і рэдакцыяй...- вярнуўся-такі да свае тэмы.

Але Васіль перапыніў яго:

- Дай ты агледзецца чалавеку. Пабудзе, асвойтаецца, сама таварыш Буднік усё зразумее, - ізноў у голасе пачулася лёгкая дабрадушная ўсмешка. - Заўтра мы нічога не робім, сходзіць у рэдакцыю, разбярэцца. Паслязаўтра, - ён павярнуўся да Лены, - калі ласка, зойдзеце да мяне з рэдакцыйнаю поштай. Вам Любаша пакажа, куды. Добра? - апошнія словы былі да Лены, у іх чулася такая сяброўская просьба, што адмовіцца было б немажліва, а падпарадкавацца - нават прыемна.

За чаем гаварылі пра сёе-тое. Асабліва ўважліва слухаў Васіль расказ Ляшчынскага пра тэбэшоўскія справы і яе расказ пра падзеі ў Супраслі. Юрка ж застаўся-такі верны сабе: улучыў момант папярэдзіць Лену, каб не ўздумала цікавіцца прозвішчам Васіля, бо гэта строга

забаронена.

Па вячэры Лену палажылі спаць, Юрка з Ляшчынскім і Люба пайшлі, а Васіль усеўся пры стале, дастаў паперы і, нахіліўшы абажур на лямпу, пачаў нешта пісаць маленькім алоўкам. Лене цікава было даведацца, што гэтае хлапчанё піша. Яна бачыла, як твар яго рабіўся то сур'ёзны, то задуменны. Не могучы здагадацца па твары, што той пісаў, яна рашыла прынамсі не спаць, пакуль ён не скончыць. Але стрэлкі будзільніка на старой камодзе паказалі дванаццаць, а Васіль усё думаў і пісаў, трымаючы ў зубах патухлую папяросу. Так і не дачакалася Лена канца. Сон змарыў.

**Аматар петыту**

Раніцай, калі Лена прачнулася, Васіля ўжо не было. Яна ўмылася, пагутарыла з гаспадыняй дзеля бліжэйшага знаёмства. Гэта была бяздзетная старая кабета, жонка рабочага-пенсіянера. Жылі яны бедна, спачувалі камуністам і здавалі пакой для канспіратыўных сустрэч. На сняданне старая дала Лене лустачку хлеба з павідлам і кубак кавы.

Прыйшла Люба, "дзяўчыначка-весяліначка", як яе ў думках празвала Лена. Яна тут жа загадала Лене збірацца.

Пойдзем, я, Леначка, знайшла вам сталую кватэру.

Кватэра была ў гэтым жа раёне, таксама ў маленькім доміку рабочага-муляра. Муж і жонка яшчэ нядаўна пажаніліся, чакалі дзіцяці. Гаспадара, уласна, Лена і не пабачыла, ён ужо даўно страціў працу і вандраваў па мястэчках, здабываючы на пражытак выпадковымі заняткамі печніка. Жонка сказала, што муж зараз недзе ажно ля Ваўкавыска, павінен вярнуцца, як паасянее, - зімою пячэй людзі не робяць.

У хаце была бяднота, але гаспадыня, дбайная, акуратная, спадабалася Лене. Покуль яна разлажыла рэчы, крыху прыбралася сама, было ўжо за дзевяць. Пара ў рэдакцыю, не хацелася з'яўляцца першы раз са спазненнем. Праўда, рэдактар казаў прыходзіць дзе-небудзь а дзесятай, але гэта магло быць сказана і дзеля ветлівасці.

Роўна а дзесятай яна пастукала ў дзверы рэдакцыі. Ніхто не абазваўся, хоць за дзвярыма чулася валтузня ды падазроны стук і грук. Лена вагалася - ці не павярнуць, покуль не позна, - а потым рашыла зірнуць праз дзірку ад ключа.

Глянула і прыліпла да філёнкі са здзіўлення: пасярод пакоя стаяў у адных трусах рэдактар. Шырока расставіўшы сухія жылістыя ногі, ён аберуч то падымаў, то з грукатам апускаў на падлогу нейкі чорны, мабыць дужа цяжкі, шар, бо чутно было натужнае, перарывістае дыханне.

Кучаравая чупрына гойдалася ў такт рухаў, пасмы валасоў насоўваліся на вочы, а ён усё вымахваў цяжарам, віхляўся, прысядаў, паднімаўся і зноў прымаўся за чорны цяжар.

"Чаго ж ён так выжыльваецца?" - дзівілася Лена. Пастаяла, пачакала, а потым настукала зноў. У пакоі апошні раз грукнула і сціхла. Дзверы прачыніліся, выглянуў рэдактар.

- А, гэта вы, Лена Пятроўна?... Выбачайце, калі ласка, я толькі што ўстаў ды - за гімнастыку, я зараз... Адну хвілінячку.

Праз пару хвілін ён выйшаў з ручніком, перакінутым цераз плячо, мыльніцай у адной, з парашком і зубною шчоткай у другой руцэ. Зноў папрасіў прабачэння, упусціў яе ў пакой, а сам падаўся недзе ўмывацца. Пры дзённым святле памяшканне выглядала яшчэ больш няўтульна, як надоечы. Непрыбраны ложак раскрываў усе свае дзівацкія сакрэты: на металічных перакладзінах ляжалі шчыльна збітыя дошкі, паверх якіх паслана адна толькі прасціна. Сенніка не было і ў паміне. Заглянуўшы пад ложак, Лена ўбачыла вялізную, з добры саган, паржавелую гіру з вышмуляным да бляску вухам. Гэта і быў той прадмет, якім з натугай арудаваў рэдактар.

Карповіч вярнуўся пабрыты, у кашулі і пад гальштукам, пахнуў мылам і брыльянцінам. Апрануў пінжак і зноў ператварыўся ў элегантнага пана. Ён ветліва распытаў пра ўражанні, пацешыў - "Прывыкнеце, Лена Пятроўна, зжывяцеся...", - сцісла растлумачыў, як разбіраць пошту, на якія пісьмы адказваць самой, а якія несці Васілю для выкарыстання ў газеце, і пайшоў сабе, накінуўшы плашч.

У рэдакцыю заглядалі незнаёмыя людзі. Даведаўшыся, што рэдактара няма, выходзілі. Гэта нервавала Лену, нібыта не рэдактар, а яна сама вінавата, што наведвальнікі адыходзілі, не справіўшы сваіх клопатаў.

Рабочы дзень скончыўся, а рэдактар не вярнуўся. Пачакаўшы з паўгадзіны, Лена замкнула пакой, палажыла ключ на ўмоўленае месца і пайшла дамоў з пачуццём нейкай трывожнай самоты і неспакою. Бестурботнасць рэдактара вымушала яе ўскладаць на сябе падвойную адказнасць. Але яна не ведала тутэйшых парадкаў, людзей і адносін, каб справіцца з гэтаю новай для яе роляй.

Прабіраючыся па вузенькіх, крутых завулках у танную сталовую, яна думала, чаму яно так бывае: калі ў чалавека золка на душы, дык абавязкова і пагода будзе паганая, і людзей будзеш сустракаць панылых. Ёй трапілася некалькі жабракоў, такіх маркотных, што жах было на іх пазіраць, а катрыншчык на Татарскай вуліцы круціў ручку свайго няхітрага інструмента так вяла, пазіраў у дол так нуркавата, што можна

было падумаць, быццам яго прывялі сюды на вяроўцы. Толькі як з кухоннага акна на другім паверсе нехта выплюхнуў памыі проста ў рышток, запырскаўшы катрыншчыка, той вызверыўся дзікім фальцэтам. Катрыншчык быў даўгалыгі, апрануты ў чорнае намоклае рыззё, на галаве - чорны вялізны капялюш. Лаючыся, ён не задзіраў галавы, а выцягваў доўгую, усю ў чорных гузырах шыю, нібы імкнуўся дапнуцца да таго акна на другім паверсе і дзюбнуць свайго крыўдзіцеля. Убачыўшы Лену, ён змоўк, а потым паспрабаваў усміхнуцца і выдаўся ёй падобным на Карповіча. Падобны ён быў, як падобна карыкатура на партрэт: такі самы сухашчавы, смуглявы, з шылаватым носам і моцна вытыркнутым кадыком. Лена аж сумелася. А катрыншчык хрыпеў:

- Паненка паспрабуе шчасця? - і палез ужо за пазуху даставаць марскую свінку, якая цягнула "шчасце" са скрынкі.

- Я ведаю, што не маю шчасця, - адрэзала яна, пачуваючы сябе абражанай і прыбітай гэтым недарэчным падабенствам вулічнага валацугі на яе рэдактара, які быў ёй сімпатычны.

Стала нават страшнавата ісці адной у гэтым імглістым лабірынце звілістых, цесных і азяблых завулкаў. Здавалася, што тут можа здарыцца нямаведама што. Часам нават думалася, што прысніла нечаканы маркотны сон, а прабуджэнне не прыходзіла. "Як жа будзе з гэтай газетай? Рэдактар не дужа дбае, Юрка не вельмі ўмее, грамацей, відаць, невялікі, а хто ж рабіць газету будзе? Няўжо той падлетак Васіль-Васілёчак? Ды хіба многа вырабіць такое хлапчанё?"

Назаўтра яна панесла стус рэдакцыйнай пошты да Васіля. Домік, дзе ён быў на кватэры, Люба ёй паказала яшчэ надоечы. Пароль быў такі: калі на адным акне аканіца закрыта - значыць, уваход забаронены. Цяпер усе былі раскрыты. На кухні, куды яе ўвяла гаспадыня, гулялі двое дзетак.

- Я зараз паклічу Васілёчка, - ахвотна вызвалася жанчына.

- А-а, мамко, да дзядзі Васіля няможна хадзіць. Сама казала, а сама ідзеш…

- Мне можна і вось гэтай цёці можна, толькі малым дзеткам няможна.

- А ён казку пра воўка піша?

- Але, пра воўка і дзяўчынку Чырвоную Шапачку, - усміхаючыся, у тон сыну адказвала маці.

- А ён напіша, хоць ты ўвойдзеш?

- Напіша, напіша, вечарам шарай гадзінай пачытае.

Калі жанчына зайшла ў суседні пакой, дзеці яшчэ гаварылі пра "дзядзю Васіля".

- А во ложак дзядзін, - гаварыў старэйшы хлопчык, нібы адкрываў незнаёмай цёці вялікую таямніцу.

А меншы брацік, зусім яшчэ карапуз, толькі гладзіў адною рукою старэнькую ў ружы ды яблыкі байкавую коўдру, а другою трымаўся за пагнуты прэнт жалезнага ложка. І па тым, з якой стараннасцю разгладжваў ён коўдру, спадылба паглядаючы на незнаёмую цёцю, было відаць, што хлопчык раўніва любіць дзядзю Васіля.

Як толькі Васіль паказаўся ў дзвярах, дзеці навыперадкі кінуліся да яго і ўчапіліся абапал, так што той вымушаны быў спыніцца. Вінавата ўсміхаючыся Лене, Васіль пагладзіў малышоў па галоўках і, кланяючыся, прамовіў сваім ціхім голасам:

- Добры дзянёк, Лена Пятроўна! Ну як вы, акліматызуецеся пакрысе? - і, здагадаўшыся па яе твары, што настрой у яе няважны, спачувальна дадаў: - Толькі не вешаць носа... Уваходзьце, прашу.

Гаспадыня адвяла дзяцей ад Васіля, а ён, пацешыўшы малых, што вечарам казка будзе гатова, павёў Лену ў пакой. Там быў яшчэ адзін малады чалавек. Хударлявы, з высокім ілбом і вялікімі вачыма, у акулярах, ён меў выгляд "чыстага" інтэлігента. Такія кволыя інтэлектуальныя тыпы сустракаюцца часам сярод гарадскіх яўрэяў; гледзячы на іх, думаеш, што гэтыя людзі жывяцца толькі кашкаю з тае біблейскае манны, а сілы ў іх не больш, як у вераб'я. Але гэта, зразумела, няпраўда. Сілаю яны не ўступаюць іншаму ўдвая цяжэйшаму біцюку.

Васіль можа лепш, чым хто іншы, ведаў пра гэта. Сам не сілач, ён любіў адшукоўваць у людзей кантрасты паміж кволай знешнасцю і модным духам. А той, з кім яму трэба было пазнаёміць Лену, быў жывым увасабленнем такога чалавека. Назваўшы прозвішча Лены, Васіль на хвіліну задумаўся. Як адрэкамендаваць ёй таварыша?

Гэты чалавек зваўся Веніямін, а ласкальна Біня Эпштэйн. Сям'я Эпштэйнаў дала некалькі відных рэвалюцыянераў. Дзесьці ў снежні 1926 года яшчэ зусім юны Біня стаў перад судом у славутым працэсе 93-х. Як толькі старшыня зачытаў прысуд, асуджаныя ў знак пратэсту запелі "Інтэрнацыянал". Суддзі разгубіліся і моўчкі пакінулі залу, а пракурор Каверскі выклікаў паліцыю і загадаў ачысціць памяшканне. Палітзакі моцна абняліся за шыі, утвараючы неразрыўны круг. Паліцыя не ведала, як даступіцца да іх. Узялі хітрасцю: выклікалі трох дэлегатаў, нібыта на перагаворы, ды давай катаваць у самім будынку суда. Збітых да непрытомнасці дэлегатаў закавалі ў кайданы, паклалі ў фургон і павезлі на Лукішкі. Сярод іх быў і ён, Біня Эпштэйн. Нават дарогай раз'юшаныя канваіры не пераставалі біць. У хворага на сухоты Біні горлам пайшла кроў.

Турэмны камітэт патрабаваў доктара і пракурора. Два дні чакалі вязні, не змываючы крыві, а потым аб'явілі галадоўку. Эпштэйн уваходзіў у галадовачны камітэт, якім кіраваў сакратар ЦК КПЗБ Арсень Канчэўскі. На чацвёрты дзень наглядчыкі прымянілі штучнае кармленне. Вязні супраціўляліся. Іх звязвалі і гвалтам устаўлялі металічны шланг, ранячы да крыві раты. Напампаваўшы страўнік спажыўнай баландою, гналі ў камеру, прымушаючы скакаць цераз калоду, спецыяльна пакладзеную на турэмным двары. Па спінах свісталі нагайкі. Б'ючы, наглядчыкі яшчэ цынічна пасміхаліся: "Скачыце, пся ваша... Рух патрэбен для стрававання!"

Калі не памагло і гэта, успомнілі стары мікалаеўскі спосаб - прагнаць праз строй. Пачалі з членаў галадовачнага камітэта. За экзекуцыяй на турэмным двары наглядалі начальнік турмы, пракурор і, нарэшце, доктар. Убачыўшы, што ў Біні зноў пайшла горлам кроў, доктар звярнуўся да пракурора:

- Гэтага трэба завесці ў шпіталь.

- Прашу завесці ў карцар, - паправіў доктара пракурор...

...Нібыта на кінаэкране, прайшлі перад вачыма Васіля гэтыя эпізоды з жыцця сябра. Яму хацелася неяк даць зразумець Лене, з кім яна знаёміцца, але ў апошнюю хвіліну Васіль устрымаўся: "У нашым становішчы лепш ведаць менш аднаму пра другога". І ён сказаў:

- Гэта - Даніла, студэнт і наш супрацоўнік. Ён спецыяліст па міжнародных пытаннях.

Васіль ведаў, што слова студэнт зробіць на Лену моцнае ўражанне, бо ў падполлі тады не шмат было адукаваных людзей. Сапраўды, яна павіталася з павагай.

На стале ляжалі розныя польскія, беларускія, рускія і яўрэйскія газеты. Даніла, мабыць, браў з іх матэрыял на артыкулы.

- Што цікавага ў рэдакцыі? - спытаў Васіль.

- Рэдактара цэлы дзень не было, - хмура начала Лена. Але Васіль яе перапыніў і растлумачыў:

- Не хвалюйцеся, ён цяпер па ўстановах вандруе: хочам атрымаць дазвол на арганізацыю Беларускага кааператыўнага аб'яднання. Рэдакцыйная пошта ў вас?

- У мяне. Лістоў можа два дзесяткі. З розных куткоў пішуць, але ва ўсіх адна балячка: прымусовая хутарызацыя, спрэчкі за сервітуты з абшарнікамі, безграшоўе...

- Знаёмыя злыбеды... Што тут параіш? Трэба гуртаваць грамадскую думку і сілу. Гэты вузел толькі рэвалюцыя рассячэ. Пра газету што кажуць?

- Хваляць газету, толькі шкадуюць, што выходзіць рэдка, хоць бы раз на тыдзень, просяць.

- Цяжка з грашыма, - уздыхаючы, азваўся Даніла. - Грошай крыху прыслалі падпісчыкі?

- Паступіла сем злотых і трыццаць пяць грошаў.

- Мала, але і гэта добра. Трэба падзякаваць у наступным нумары тым, хто грошы прыслаў. Лена Пятроўна, пагаварыце з рэдактарам і падрыхтуйце падзяку за матэрыяльную падтрымку газеты.

- Добра, прынясу матэрыял.

- А вершаў ніхто не прыслаў? - пацікавіўся Васіль.

- Прыслалі, а як жа, Паўлюк Сошка прыслаў, потым Пятрусь Граніт і, здаецца, Прамень...

- Гэта ўсё пачынаючыя. Энтузіястаў шмат, а плёну трэба яшчэ пачакаць. Няспелыя рэчы пішуць, школы творчай не прайшлі. Радасна тое, што з нізоў цягнуцца да паэзіі, да культуры. Народ абудзіўся. Граніт, напрыклад, брукар, днём каменне б'е, дарогі мосціць, а ноччу пры газніцы вершы і допісы ў газету складае. Каб там, у Саветах, такі рос - універсітэт бы скончыў, пісьменнікам стаў бы. Трэба неяк памагаць сваім хлопцам... хоць і не лёгка гэта зрабіць... А Звястун, а Міхась Васілёк нічога не прыслалі?

- Звястун, Звястун... пачакайце, здаецца, ёсць - вось "Зорка міргае слёзна"...

Васіль узяў аркуш і пачаў чытаць уголас:

*Зорка міргае слёзна ў небе начным,*
*Цераз краты мігоча сваім пералівам;*
*Ціха шэпчацца цемра ў закуцці глухім.*
*Застывае густым квола-млеючым злівам.*

*Пасмы ценяў крылатых на сцены ляглі,*
*Затаілі ў сабе ночнай цішы стагнанне*
*І таемныя муры наўкол аплялі*
*Халодным і змрочным, нямым хваляваннем.*

- Ну як, сябра Даніла, здорава напісана?

- Падтэкст, падтэкст багаты, і настраёвасць і думка ёсць... Відаць, вопытны ў паэзіі мастак, мысліць умее гэткімі, ведаеце, абагульняючымі катэгорыямі і словам валодае даволі свабодна... Моцна.

- А вам, Лена Пятроўна, падабаецца верш?

- Я не дужа разбіраюся. Здаецца, неяк складана вельмі напісана.

- Нічога, што крыху складана. Жыццё - не простая рэч. Ды і

чалавек складаная істота, а паэзія з яго складанай душы вырываецца. Галоўнае - праўдзівасць кандэнсаванага пачуцця і мыслі. Прозай такога не выкажаш, гэта стыхія верша. Верш страшэнна не любіць размазанасці, разумееце, знешняй апісальнасці. Мнагаслоўнасць - вось што губіць паэзію часцей за ўсё. Трэба будзе абавязкова звярнуць на гэта ўвагу Граніта. Абавязкова. У Звестуна ёсць тое, што нам патрэбна: высокая ідэйнасць і значнае майстэрства. Канешне, прастата выказвання, даходлівасць твора - пажаданая і вартасная рэч. Вось вы пабачыце ў сёмым нумары (ён заўтра з друку выйдзе, хоць сёння кастрычнік - дата на ім вераснёўская), пабачыце верш Васілька. Не падумайце, што мой, - Міхася Васілька:

*Цёмна ноч... Ярчэй зоры гараць!*
*Хоць грымоты нясуць за ударам удар* -
*Над здрузлеўшымі духам ўжо новая раць*
*Недасеяны сее абшар...*

- Гэта прасцей сказана, праўда? Але тут і сама тэма прасцейшая. Усё залежыць ад тэмы і манеры аўтара. Для мяне ў вершы Звестуна, напрыклад, няма чагосьці пераўскладнёнага. Я чытаю верш і, здаецца, усім целам адчуваю панурую цемру турэмнае ночы і лаўлю невыразны, нарастаючы ў душы вязня бунт. Відаць, трэба самому пераджыць усё гэта, тады ўловіш праўдзівасць настрою верша, яго рамантыку і драматызм. Са Звестуном я сядзеў у Гродні, гэта было. А наконт прастаты, Лена Пятроўна, вы ў прынцыпе маеце рацыю. І не бойцеся адстойваць гэты прынцып. Увогуле прывучайцеся разбірацца ў паэзіі, старайцеся больш чытаць, бо ў рэдакцыю будуць прыносіць свае опусы розныя, як гаварыў Маякоўскі, "кудреватые мудрейки, мудреватые кудрейки", і трэба будзе адбівацца ад іх і ясна выказваць нашы патрабаванні да паэзіі. Мы павінны заахвочваць паэтаў ствараць мастацтва для мас, для народа, для яго густаў... Перапішыце, Лена Пятроўна, верш Звестуна, паспрабуем даць яго ў газету... калі цэнзура не заржа.

Лена толькі кіўнула галавою ў адказ. Яна не апамяталася яшчэ ад нечаканага ўражання: ранейшы ціхі і сціплы Васілёчак зусім змяніўся, нават ростам вырас, калі стаў гаварыць пра вершы. "Адкуль у гэтага хлапчука такія веды? Гаворыць - як з кніжкі чытае. Не ўсё адразу зразумееш, але адчуваеш такую сілу, упэўненасць і перакананасць, што хочаш не хочаш - паверыш. А я сабе думала: рахманы Васілёчак… хлапчанё..."

Не паспела Лена перапісаць верш на вузкай і доўгай палосе паперы, як Даніла сказаў, што закончыў артыкул. На адыходзе ён папрасіў

Лену спытаць рэдактара, колькі даплаты належыць у друкарню (да тых грошай, што атрыманы ад падпісчыкаў), і абяцаў перадаць ёй належную суму.

Васіль спытаў, ці Даніла згодзен з матэрыяламі, што падрыхтаваны да наступнага нумара, і, атрымаўшы станоўчы адказ, праводзіў сябра.

Калі яны асталіся ўдваіх, Лена спытала:

- А гэты Даніла, што ён, даўно ў "руху", ці толькі сімпатык?

Васіль паглядзеў на яе, падумаў, і па губах у яго прабегла ўсмешка.

- А вы ведаеце, за што бог адну жанчыну ператварыў у бусла? Не крыўдуйце на мяне, калі ласка. Пазнаёміцеся бліжэй, ён вам сам скажа. Пакажыце, як вы перапісалі верш Звестуна. О, зусім добра, акуратненька. Так і трэба. Гэтыя палосы паперы ў нас нарэзаны па стандарту. Калі пісаць акуратна, дык можна па даўжыні палоскі вылічыць, колькі будзе радкоў і колькі друкаваных знакаў. Перавёўшы падлікі на газетны шрыфт, можна накідваць макеты кожнай газетнай старонкі. Паглядзіце, як гэта робіцца. Не выключана, што вам самой, без мяне давядзецца рыхтаваць калі-небудзь нумар. Запамінайце.

Васіль дастаў кавалак шпагату, прылажыў да палосы паперы, запісанай стараннным роўным почыркам, потым перахапіў пазногцямі даўжыню і перанёс шпагат на лінейку.

- Бачыце, вось мы маем сорак пяць радкоў, а газетных будзе або столькі ж, або ўдвая менш, усё залежыць ад шрыфту. Лепей было б падлічваць знакі па машынапісу, але мы бедныя, машынка ж дарагая... Ладна, абыдземся! Ці як у вас, на Беласточчыне, кажуць? Абыдземса?

- Абыдземса! - у тон яму паўтарыла Лена.

- На кожным кавалку тэксту, - прадаўжаў Васіль, - уверсе злева ўказана, якім шрыфтам набіраць і друкаваць. Шрыфтаў ёсць некалькі: корпус, устаў, курсіў, петыт і другія. У нас найбольш паважаны петыт. Гэта самы эканомны шрыфт, маленькі, значыць - шмат матэрыялу ў кожным нумары змесціцца. Газета выходзіць рэдка, дык чытачы не пакрыўдзяцца, калі давядзецца пасляпіць крыху вочы.

Лена пацікавілася для сябе: "А якія ў Васіля вочы? Блакітныя, невялікія, але разумныя, шчырыя, глядзяць неяк вельмі натуральна, часам жмурацца насмешліва. А вейкі прыпухлыя і пачырванелі - мала спіць. Пад яго позіркам адчуваеш сябе сястрою, і хочацца зрабіць гэтаму хлопцу нешта добрае..."

Васіль тым часам прадаўжаў:

- Наборшчыкі не любяць петыту, ім гэта не заработна, але вы, Лена Пятроўна, настойвайце, дабівайцеся. Толькі верш Звестуна хай

набіраюць корпусам, а ўсё астатняе петытам. Запомніце: петытам!

- Ты, Васіль, мабыць, і сам паэт, вершы пішаш? - перайшла Лена на "ты", карыстаючыся правам старэйшай і тым, што яны сядзелі самнасам.

- Не, цяпер не пішу. Працы журналісцкай шмат, не да вершаў. Тут артыкула абдумаць не паспяваеш як след. Наспех усё. Можна сказаць, адзін толькі артыкул "З народам" удалося апрацаваць прыстойна. Прачытайце і скажыце мне сваю думку. Астатняе робіцца гамузам, з лёту. Каб не спешка, можна было б лепш пісаць. Помню, мне ўдалася брашура "Да моладзі". У вас там, у Беластоку, гэта пісалася. Дык тады, помню, добра выспаўся, ніхто не падганяў, і пісаў я нават лежачы. Ляжыш на мяккай канапе, як бог па аблоках, думаеш - нібы плывеш у паднебным прасторы над усім светам. У галаве яснасць, на сэрцы лёгкасць. Вось і добра пісалася: сябры хвалілі... Вам, Лена Пятроўна, таксама трэба прабаваць пяро, уключайцеся ў журналістыку. Вазьміцеся хоць бы сабе інфармацыю напісаць па матэрыялах газет.

- Дзе там ужо мне, я ніколі ў газетах не выступала.

- Нічога, прывучыцеся, я памагу. Выбірайце сабе тэму, Лена Пятроўна, што вам бліжэй. Напішыце на чарнавік, а потым разам пасядзім, апрацуем, адным словам - "давядзём", як гавораць газетчыкі. Для нашай часопісі тэма нумар адзін - гэта разгул фашызму ў Германіі. Мы выкрываем усякі фашызм - нямецкі, італьянскі, польскі і беларускі. Гэта наш самы святы абавязак. Няма нумара газеты, дзе б мы не пісалі пра вандалізм фашыстаў: як яны паляць на плошчах кнігі класікаў сусветнай літаратуры, як падстройваюць працэс аб падпале рэйхстага, як плануюць пакарыць увесь свет. Адначасна мы, як бачыце, стараемся расказаць як мага больш і лепш пра Савецкі Саюз. Мы не прапускаем выпадку апісаць усе кантакты польскага ўраду з савецкім. Польскі ўрад сёння як бы на раздарожжы: баіцца Гітлера, але мае класавыя антыпатыі да Саветаў. Цяпер урад балансуе, і трэба ўзняць грамадскую думку, каб яна ўхваліла паляпшэнне адносін з Саветамі, развіццё гандлю. Вось нядаўна вяліся гандлёвыя перагаворы. І ў Польшчы паяўляюцца савецкія тавары: тытунь, ніткі, галёшы. Людзі купляюць, і кожная купленая рэч агітуе за Савецкую ўладу таксама, як і слова. Бо тавары паступаюць дабротныя, пабіваюць другія маркі.

- Нарэшце, - прадаўжаў Васіль, - мы шырока асвятляем рэвалюцыйны рух у самой Польшчы. Вось зараз, хоць са спазненнем, польскі друк інфармуе крыху пра паўстанне сялян на Кракаўшчыне. Так што выбар тэм, Лена Пятроўна, вялікі. Выбірайце.

- Угаварыў ты мяне, Васіль, паспрабую напісаць пра паўстанне

сялян, гэта мне больш знаёма. Толькі як будзе дрэнна - нікому не скажаш?

- Шанаваць волю аўтара - абавязак кожнай рэдакцыі, а я, хоць паўафіцыйна, з'яўляюся членам рэдакцыі, - усміхнуўся ён.

Дамоў Лена нібыта на крылах ляцела, так стала добра на душы, учарашняга панылага настрою як і не было. Толькі пагода была такая ж зябкая і сырая.

## Спрэчкі

Лена застала Васіля зноў за працай. Як заўсёды, ён ветліва прывітаў яе сваім любімым: "Добры дзянёк!", але нават і ў час прывітання з твару не сышла нейкая заклапочанасць і турбота.

- Што-то сёння мой Васілёчак нейкі панылы, ці мо не ў час прыйшла, мо перабіла мыслі?

- Якраз у пору прыйшлі, Алена Пятроўна. Вось пакутую тут над адным матэрыялам. Не магу давесці да ладу. Можа вы мне і паможаце. Пачытайце.

Лена кінула вокам на рукапіс, папраўлены почыркам Васіля, і грэбліва скрывіла маленькія вусны:

- Уй! Гэты Юрка... Зноў зморськаў перадавіцу. Ён жа кропак і косак ставіць не ўмее, толькі клічнікі лупіць за кожным словам. Думае - а-ёй, як баявіта выходзіць. "Кропкі і коскі, - пачала яна перадражніваць Юрку, - самі тут расстаўце, яны значэння не маюць. Шушамець - такія знакі, драбяза!..."

- Што там кропкі і коскі, - заклапочана азваўся Васіль. - Каб толькі тае бяды. Змест і тон не зусім падабаюцца. Пачытайце, Лена Пятроўна, тут пра Беластоцкі з'езд Таварыства беларускай школы. Вы, здаецца, былі там?

- Была то была, але гэта ж ужо амаль два гады прайшло, позна распісваць у газеце. Адкінуць гэту пісаніну, ды і баста. Давайце я яму з прыемнасцю вярну. Хай пазлуецца. Скажу - рэдактар не згодзен.

- Цяпер так нельга. Ён не толькі па сваёй ініцыятыве напісаў. Ёсць бо думка такая, што ТБШ фашызуецца. Не чулі хіба? Дык вось, мы з вамі не можам тут самавольнічаць. Трэба толькі апрацаваць матэрыял, каб усё было згодна з фактамі. Ніякіх козыраў у рукі ворагам.

- Нешта ты, Васілёчак, сёння загаварыў, рыхтык што Юрка. Гэта ён мне бясконца пра дысцыпліну бае, нібыта я маленькая. Калі хоча справадзіць мяне, каб астацца сам-насам з якім прыезджым таварышам, дае пяцьдзесят грошаў на рамізніка: "Паедзь, сяброўка, у горад, кіно

паглядзі". А я знарок аднекваюся: "Не маю ахвоты, пасяджу тут". Ён кажа: "Нам трэба абгаварыць пэўныя справы". А я нібыта не разумею: "Ну то і абгаворвайце, кажу, - я вашых сакрэтаў падслухоўваць не буду". І якія там сакрэты, сказаць папраўдзе, - адзін прылік. Прыезджы, калі бывае знаёмы, наш, беластоцкі таварыш, дык мне больш раскажа, чым яму. А Юрка лютуе і аж сіпіць са злосці: "Ты, сяброўка, партыйную дысцыпліну ведаеш? Не падабаюцца мне твае паводзіны!" Аднаму майму знаёмаму дык гэты боўдзіла проста выказаў, што не давярае мне. Мне не давярае! Падумаць толькі, які паскуднік! Толькі сабе самому, і то раз у год, мусіць, давярае. Цярпець не магу гэтага боўдзілу.

- Што вы, што вы, Лена Пятроўна, кіньце так абурацца. У кожнага чалавека ёсць недахопы, але раз мы робім агульную справу, дык трэба неяк мірыцца, меркавацца... Зрэшты, вы даўно працуеце ў "руху", павінны разумець, што нам сапраўды ведаць лішняе - небяспечна ва ўсіх адносінах.

- Я і сама не хачу ведаць лішняга. Вось у цябе ж, Васіль, я не дапытваюся, хто ты і што ты. Хоць мо і здагадваюся, што адтуль прыйшоў. (Васіль заўважыў, што, хвалюючыся, Лена пачынала "сакаць"). Чаму? - спытаеш. Таму, што перапраўляеш скрозь слова "кабета" на "жанчына", а ў нас, у Заходняй, усе пішуць "кабета", толькі ў "Полымі рэвалюцыі" - "жанчына". Вось чаму.

- Гэта не факт. Для майго вуха слова жанчына больш мілагучнае.

- Я і не дапытваюся. Мне самой не хочацца быць пры яго размовах. Я мо б і сама выйшла, каб адчула, што ён хоць крыху бянтэжыцца і сказаць саромеецца. Але ж дзе там, адразу бачу, што бесцырымонна пачне выправаджваць, і на злосць чакаю: хай жа, хай! Ніякай ветлівасці няма, проста таўкач неаскрэбены. І заўсёды адно і тое ж: "На табе пяцьдзесят грошаў, язджай у кіно". Як заведзены, хоць бы іншае што прыдумаў, ну, проста абух...

Васіль спачувальна уздыхнуў і змяніў гаворку.

- Я вас папрашу, пачытайце гэты матэрыял. Добра? І раскажыце мне падрабязна, як там і што было на Беластоцкім з'ездзе. Трэба тэрмінова апрацаваць нам гэту рэч.

Лена прачытала і задумалася: усё як быццам правільна, але перасолена і накручана, ледзь можна зразумець. Яна пачала ўспамінаць інцыдэнты, якія ўзніклі на Беластоцкім з'ездзе ТБШ, а потым узялася расказваць:

- Мінулым летам з Гарадка ў Беласток паліцыя везла ў аўтобусе двух арыштаваных хлопцаў: Юрку Грэся і яшчэ аднаго. Як толькі аўтобус падышоў да Пясчанікаў (вёска там у нас такая ёсць), дык таварышы

аршытаваных - яны пільнавалі ў кустах - смальнулі па машыне з вінтовак. Шафёра параніла ў нагу, а паліцыя - лататы! Падняўся вэрхал, замятня, хлопцы арыштаваныя ашаламіліся - стаяць... А потым як агледзеліся, што няма канвою, дык у другі бок ходу! У кайданах! Да сваіх прыбеглі, і там іх раскавалі.

- А як шафёр, жывы?

- Жывы, рана невялікая. Мяне самую пасылалі нашы падпольшчыкі праведаць яго ў шпіталі.

- Ну і як жа ён, лаяўся на камуністаў?

- Смяяўся: "Глупства то вшыстко, - гаварыў, - зажыве. Затое меў прыемнасць пабачыць, як "смелая" паліцыя давала драпу. На ўсю ваколіцу запахла!"

- Маладзец хлопец. Другі б на яго месцы...

- Слухай, Васіль, што было далей. - Лена хвалявалася і хацела хутчэй расказаць. - З'ехаліся на з'езд у Беласток дэлегаты Таварыства беларускай школы (акруговы з'езд), а ваявода прыслаў свайго наглядальніка. І як стаў прамаўляць Марцінчык - упаўнаважаны Галоўнай управы Таварыства, дык гэты чыноўнік, па прозвішчы Высакінскі, раз яму - і пытанне задаў: "Ці асуджае прамоўца той прыкры факт, што тэбэшоўцы звязаны з камуністамі, страляюць у аўтобус, дзе знаходзяцца кабеты і дзеці?" Марцінчык адказаў, што ён не толькі асуджае абстрэл аўтобуса, але патрабуе, каб тэбэшоўцы не лезлі ў палітыку. І гэта нашым не спадабалася, але маўчалі.

- А можа ён з тактычных меркаванняў так сказаў, каб не выклікаць рэпрэсій з боку ўраду?

- А хто яго ведае. Інтэлігент, доктар, нашто яму рэвалюцыя?!

- Чаму ж так? Лепшыя прадстаўнікі інтэлігенцыі пераходзяць на бок рэвалюцыі. Гэта заканамерна. Жалезны, можна сказаць, закон гістарычнага матэрыялізму. Рэвалюцыя прыцягвае найбольш здольныя адзінкі.

- Не ведаю я, якая ён там адзінка...

У голасе Лены пачулася не то пакрыўджанасць, не то папрок яму, Васілю. Маўляў, распытваеш, дык давярай, а не - дык не распытвай.

Васіль пусціў міма вушэй гэтыя, на яго погляд, жаночыя капрызы. Ён крыху прыпамінаў сабе Марцінчыка.

Мажны, смуглявы прыгажун Марцінчык працаваў у часе вучнёўскіх бунтаў у Віленскай гімназіі. Быў інспектарам у інтэрнаце па даручэнні Галоўнай управы ТБШ. І пакінуў неблагое ўражанне аб сабе. Чалавек вытрыманы, спакойны, але не баязлівы, роту нікому з вучняў не заціскаў, на падпольную работу выхаванцаў глядзеў паблажліва. Да

начальства ставіўся незалежна. Але гэта было ў дваццаць восьмым... Гады многія былі смялейшыя і больш сумленныя, чым цяпер...

Пакуль Васіль узважваў усё за і супроць Марцінчыка, у хату ўваліўся Юрка, запаўняючы сваёй дзябёлай постаццю ўвесь пакой ад дзвярэй да акна, аж, здаецца, пацямнела ў хаце. Замест прывітання пачаў наступаць:

- Што, ізноў маю стаццю абгладжваеш, сябра, на апартуніцкі лад? Я, братко, хочу пісаць войстра, па-бальшавіцку, па-сталінску, а ты мне псуеш марку. Вы тут, інтэлігенцыя, усё баіцеся ворагаў рабочага класа ўгнявіць. Не мякчы!.. Кропкі і коскі там, братко, парасстаўляй, ды хай ідзе стацця.

- Я тут адну няўвязку фактычнага парадку знайшоў, - нібы не заўважаючы Юркавых грубых жартаў, адазваўся Васіль. - У цябе абвінавачанне: чаму Марцінчык асуджаў радавых тэбэшоўцаў за палітыку, а сваіх сяброў з Галоўнай управы не асудзіў за ўдзел у хадэцкай, як ты кажаш, контррэвалюцыйнай дэманстрацыі ў гонар Янкі Купалы і Якуба Коласа. Я прыпамінаю, што юбілей Купалы і Коласа святкаваўся, здаецца, пасля Беластоцкага з'езда. Дык хіба мог ведаць Марцінчык учора, хто пойдзе на юбілейны вечар заўтра, і каго трэ асуджаць?

- О, я ж так і казаў: Марцінчыка шкадуеце! Не шкадуй, сябра, яго, нябось, трасца не возьме. Трэ крытыкаваць, каб ажно шэрсць курэла. Ім, вучоным, здаецца, што ўсе розумы паелі, а палітычнай граматы на капейку не маюць. Яшчэ з нас пакепліваюць: "Утапісты, вузкія дактрынёры!" Вось я табе, другому, пакажу, дзе вузка, дзе шырока - сам ты ўтопішся. Да ўсіх кіраўнікоў ТБШ таксама дабяромся. Калі не асудзяць здрады Марцінчыка... Дэмакраты... Бач, разважылі, разумнікі: калі была б здрада, дык агульны сход асудзіў бы... а не асудзіў - значыць, здрады не было. Будзе яшчэ сход той, што асудзіць усіх вас пагалоўна!

- Паслухай, сябра Юрка, - абазваўся Васіль зусім-зусім спакойна. - Калі крытыка несправядлівая, дык гэта ж прыніжае аўтарытэт газеты. Зашкодзіць усёй нашай справе.

- Ат, бачу я, што некаторыя вучоныя малайцы забылі простыя і ясныя ўстаноўкі. Калі ў крытыцы ёсць пяць працэнтаў праўды, дык і такая крытыка карысна для нас. Вось якая ўстаноўка, сябра! Крытыкнулі ў савецкай прэсе, скажам, Міхася Васілька, ён і паправіўся і зараз на лінію стаў... А што ён - барышня, каб з ім анцімоніцца... Так і кожнага... Даў пачостку - і парадак... Асцеражнейшы стане... Трэба, каб пабойваліся...

Напамін пра крытыку Міхася Васілька скрабянуў Васіля за жывое. Гэта яны з Алесем Салагубам, даверыўшыся не зусім сумлен-

ным інфармацыям, напісалі ў "Звяздзе", нібыта творчасць Міхася Васілька "аб'ектыўна грае контррэвалюцыйную ролю". А віны Міхасёвай там фактычна не было: здарылася так, што буржуазныя часопісы, рэпутацыі якіх паэт не ведаў, надрукавалі пару яго вершаў. А яны з Салагубам, не ўнікнуўшы ў справу, вынеслі аўтару палітычнае абвінавачанне. Напаролі гарачкі... Цяпер, працуючы ў "Беларускай газеце", Васіль паспрабаваў хоць як-небудзь выправіць несправядлівасць. У раздзеле "Паштовая скрынка" ён паведаміў, што Міхась Васілёк за апошнія гады зрабіў крок наперад "ідэйна і якасна". Але ўсяроўна ўспамінаць той крытычны наскок было непрыемна і сорамна.

- Дык ты, сябра мілы, нешта мяне не слухаеш, - выбіў Васіля з задумы павышаны Юркаў голас. - Пераконваць вас тут, бачу, - што гарохам аб сцену. Трэ будзе падказаць, каб сяго-таго паслалі падвучыцца, а то абяззубелі тут у варожым абкружэнні, класавую пільнасць трацізе...

- А што ж сябра будзе рабіць без нас? Сам газету выпусціць? - агрызнулася Лена.

- І выпушчу, як партыя прыкажа. Падумаеш! - Юрка выпнуў жывот і зрабіў "рукі ў бокі". - Хопіць у партыі людзей, варона з куста - дзесяць на куст.

- А ці не здаецца табе, сябра Юрка, што ты зарваўся? - неяк вельмі ціха і падкрэслена спакойна вымавіў Васіль. Устаўшы з крэсла, ён з насмешкаю глянуў на Юрку і дадаў: - Газета - не твой, сябра, фальварак! Ёсць такая хвароба - камчванства. Ленін рашуча асуджаў яе. А ведаеш, што ў Леніна сказана пра нашу бальшавіцкую прапаганду? Яна сільна, бо гаворыць праўду! Вось што сказаў Ленін.

Юрка прыціх, залыпаў вачыма, на яго круглым твары з'явілася пакутлівая натуга: ён стараўся знайсці новы ход, каб адбіцца, але, відаць, пабойваўся ўліпнуць. Эрудыцыя Васіля бянтэжыла і гневала яго. Лена ж, пабачыўшы нерашучасць свайго крыўдзіцеля, пайшла ў наступленне:

- Рэдактар не прапусціць такога артыкула - вось і ўсё.

- Падумаеш, рэдактар - вялікая шышка! - кінуўся туды, дзе слабей, Юрка. - Для мышаняці няма звера страшней кашаняці. Не ведаю, хто гэта з вас мае артыкулы ўсё шмайстаў: Карповіча пытаю - кажа, Буднічанка адхіліла, а яна - рэдактар не пускае... Усё ж валяй ты, сяброўка, у кіно. Мяшаешся ўсюды...

- Як гэта мяшаюся? Чуў, сябра, што газета не чый-небудзь фальварак?!..

Лена пакрыўдзілася і выйшла.

- Ты, Юрка, - Васіль перайшоў на "ты", - нагадваеш мне часам унтэра з аповесці Купрына "Паядынак". Той дзівак любіў на занятках па

"славеснасці" павучаць аднаго салдата, былога студэнта. Калі студэнт на пытанне: "Что такое знамя?" - адказваў: "Священная хоругвь", унтэр папраўляў: "Не хоругвь, а херугва!" Чытаў ты гэту кніжку? Пачытай, карысна будзе. Партыя - гэта арганізацыя адзінадумцаў, таварышаў, а ты сам паводзіш сябе як унтэр у казарме. Нядобра так...

- А што табе? Я к табе нічога не маю. Чаго ты за яе заступаешся, ты яе ведаеш? А рэдактар, што ён табе, брат ці сват? Ды ён ужо, між намі кажучы, сёння-заўтра сядзе. Замену я ўжо…

- А ты адкуль ведаеш, што сядзе, га? - рашуча перапыніў Юрку Васіль. - Адкуль ведаеш, гавары!

- Ты што, мяне падазраеш?!.. - амаль закрычаў Юрка.

- А што ты думаў, - націскаў Васіль, - адзін ты маеш такое права? Хто табе яго даў?

- Ну, браце, ты не жартуй! - у голасе Юркі пачуліся ноткі разгубленасці.

- А я і не жартую.

- Ох жа, і чорт ты, малы...

- А ты?

- Ладна, - прымірэнчым тонам азваўся Юрка, - дыскусій разводзіць не будзем. А стацця ўзгоднена дзе трэба. Хай усё ж ідзе ў друк.

- У друк - то ў друк, пайсці - пойдзе. Сумняваюся толькі, ці прынясе лаўры гэты артыкул аўтару і газеце.

- Я сам адказваю, - велікадушна прамовіў Юрка. - Не сумнявайся, хай нашы ворагі сумняваюцца!

- У тым жа і справа, што нахамутае адзін, а адказваць даводзіцца калектыўна.

- То давай троха абгаблюем стаццю, ты ж магік у гэтай справе. Зробіш - дык і камар носа не падточыць. Толькі, дружа, ніякіх прынцыповых уступак ворагу! Ні на макулінку!

## Згрызоты

Уступак ворагам і не думаў рабіць Васіль, а Юрка не пажадаў зрабіць уступкі самой праўдзе.

Артыкул пра "здрадніцкія дзеянні" прадстаўніка Галоўнай управы на Беластоцкім з'ездзе ТБШ надрукавалі без істотных змен, а праз дзень рэдакцыя атрымала адкрытае пісьмо, дзе Марцінчык удакладняў факты, абураўся і апраўдваўся. З пісьма было відаць, што пытанне ваяводскага чыноўніка Высакінскага пра адносіны да абстрэлу аўтобуса ён расцаніў як правакацыю, таму і заявіў, што абстрэл асуджае. "Мы ж

самі, камуністы, асуджаем тэрор, - думаў Васіль. - А гэты выпадак больш падобны на тэрарыстычны акт, чым на стыхійны выбух народнай помсты..." Тут Васіль адчуў на душы непрыемны асадак: суб'ектыўна яму падабаліся гэтыя дзёрзкія хлопцы, што адбілі ў паліцыі таварышаў. Не хацелася асуджаць іх... Але... Ён пачаў вывучаць пісьмо далей.

Другое абвінавачанне было ў тым, што Марцінчык заклікаў дэлегатаў з'езду не дапускаць адхіленняў ад статуту ТБШ і не ўносіць у работу арганізацыі "палітычных момантаў". У пісьме аўтар даваў вельмі цьмянае тлумачэнне: "...я заклікаў, каб у будучыні, калі б з'яўляліся паасобныя адзінкі ў радах ТБШ, імкнучыяся ісці па лініі, спрыяльнай тасаванню рэпрэсій да ТБШ - сапраўды ўносячы "статутовыя адхіленні" ці "палітычныя моманты" ў працу ТБШ - то заклікаў даць адпор гэтым адзінкам".

Разы тры перачытаўшы гэту мудрагелістую фразу, Васіль не мог скласці пэўных адносін да аўтара. Калі ён не думаў пра абставіны, пры якіх той выступаў на з'ездзе, дык адчуваў да прамоўцы непрыяз'насць: "Мы, камуністы, сцякаем крывёю, а легальныя культурнікі - супроць палітычнай работы! Нездарма Юрка іх дубасіць... Няхай..."

Калі ж Васіль уяўляў залу пасяджэння з'езду ТБШ і драпежны выраз на езуіцкім твары пана Высакінскага (яму здавалася, што Высакінскі меў іменна такі выгляд), тады гатоў быў апраўдаць Марцінчыка: гэта пытанне не трэба было ўздымаць, бо яго не вырашыш у прысутнасці Высакінскага, але раз чалавек пачаў гаварыць, то інакш сказаць не мог. Сапраўды, навошта афішаваць палітычныя моманты ў рабоце легальнай культурна-асветнай арганізацыі? Навошта патураць авантурыстам? Да чаго гэта прывядзе? Да рэпрэсій. А чым скончыцца? Добра, каб толькі выхадам з кіраўніцтва "згоднікаў". Але ж пасыплюцца з арганізацыі памяркоўна настроеныя члены: гэта ж не перыяд уздыму рэвалюцыйнай хвалі, калі, гаворачы купалаўскімі словамі, "ходзіць ходырам свет цэлы, смела ў бой ідзе нясмелы!". Цяпер паліцэйскі тэрор шалее па ўсёй Заходняй - карныя атрады... палявыя суды... Не дзіва, што нават смелы тэбэшовец асцерагаецца. Дык ці могуць пайсці кіраўнікі ТБШ на тое, каб адпалохваць членаў таварыства і аслабляць арганізацыю, якую яны стварылі сваімі рукамі? Вядома, не. А хіба сведчыць гэта аб тым, што ўсе яны страцілі сімпатыю да камуністаў? Не, не абавязкова. А мы, камуністы, хіба зацікаўлены ў аслабленні Таварыства - адзінай дэмакратычнай арганізацыі ў краіне? Таксама не. Дык навошта махаць аглобляю? Ці не разумней на дадзеным этапе дамовіцца і праводзіць палітычную працу на ніве ТБШ употай? А настане час рэвалюцыйнага ўздыму, тады сувязь культурнай дзейнасці з палітычнай адкрыецца!

Дык чаму ж мы не робім так, а шкодзім самім сабе?

Гэтыя пакутлівыя разважанні паглыблялі канфлікт Васіля з Юркам. Ён разумеў, што Юрка выконвае волю партыйнага кіраўніцтва. І Васілю рабілася страшна, калі ён лавіў сябе на нязгодзе з ім. Выходзіла, што ў справе ТБШ ён не падзяляе тактыкі партыйнага кіраўніцтва... Гэта было жахліва, і Васіль спачатку баяўся прызнацца ў гэтым нават самому сабе: ён бачыў корань зла ў Юрку і хвілінамі ненавідзеў яго: "Каму даверылі выконваць волю партыі... Няўжо няма людзей талковых?.."

А потым Васіль раптам заўважаў, што адступае: Юрка становіцца для яго зайздросным эталонам цвёрдасці і адданасці партыі, у душы раптам вырастала нейкае пачуццё віны, і ён стараўся апраўдацца перад Юркам. На памяць прыходзілі словы таварышаў, якія хвалілі Юрку: "Не баіцца ў раёны ездзіць, работу ўмее ў нізавых ячэйках наладзіць, парадак навесці, кадры пачысціць і падабраць надзейныя. О, гэта цвёрды таварыш, адданы. Юрка не пахіснецца!" У Васіля абуджалася павага да гэтага таварыша. Юрка пачынаў узвышацца ў такія моманты да ролі суддзі, суддзі строгага і бязлітаснага. Пасля Васіль яшчэ больш ненавідзеў яго, як прычыну сваёй ганебнай скрухі. Жахліва было тое, што Юрка без дазволу ўваходзіў у яго самога, забіраўся ў душу, развальваўся сваёю мядзведжаю тушай і пачынаў распараджацца, як у сябе дома.

"Не, я не супроць вострых слоў, - размаўляў сам з сабою Васіль,- я не збіраюся ўгаворваць ідэйных ворагаў. Чорт вазьмі, я ж сам пачынаў артыкул супроць чорнасутаннікаў у тваім, Юрка, стылі: "Адказваць панам з "Крыніцы" - завялікі быў бы гонар для гэтых палітычных шулераў". І слушна, хіба можна весці дэбаты з мярзотнікамі, не прыніжаючы ўласнай годнасці? Хіба варта прымаць усур'ёз і аспрэчваць іх брудныя мянушкі і кпіны? Хіба можна прыніжацца да палемікі з нахабнымі ксянжулькамі, якія, забыўшыся на свой духоўны сан, абзываюць "Беларускую газету" байструком польска-савецкай дружбы? Ніколі! Хіба не я ўстаўляў у твае, Юрка, артыкулы пра верхавода беларускай санацыі пана Луцкевіча такія выразы, што сам ты паціраў рукі ад задавальнення? Бо я не магу спакойна пісаць пра тое, як гэты "эўрапэец" б'е паклоны фашыстам, выхваляе планы Розенберга стварыць пасля перамогі над бальшавікамі ўкраінска-беларуска-літоўскую федэрацыю? Гэта было прадажніцтва, і нельга было не абурацца і не называць рэчы сваімі імёнамі. А ты ж, Юрка, як мне здаецца, вышукваеш абразлівыя выразы спакойна. У гэтым я магу цябе падазраваць, бо сакрэты славеснай творчасці мне вядомы: не хвалюешся сам - не ўсхвалюеш. А ты, халодны і грубы, любіш усчынаць лаянку нават з тымі, каго трэба

пераконваць. Нельга штучна ствараць ворагаў. Хіба іх яшчэ мала ў нас? Хіба разумна дашукоўвацца ў "Летапісе ТБШ" нацыяналізму, атручваць радасць нараджэння гэтага часопіса? З каго ж тады будзе складацца той нацыянальна-вызваленчы фронт, які імкнецца стварыць партыя? А каго ж тады ўводзіць у Цэнтр, які створан партыяй для кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам? Што ж - выходзіць, там будзем сядзець мы з табою ды яшчэ некалькі партыйных работнікаў. Але што ж гэта дасць? Кіраўнікі ТБШ, нават самыя блізкія нам, аўтаматычна выйдуць з Цэнтра. Мы самі выкурым іх".

Чым даўжэй цягнуўся гэты дыялог з ценем Юркі, тым болей Васіль адчуваў, што ў яго пачынае калаціцца ўсё ўнутры. Чым далей, тым гарачэйшыя словы набягалі з грудзей, і ён ведаў, што гэты вадаспад будзе імчацца ўсё шпарчэй і шпарчэй, пакуль не затуманіцца галава. А потым, пасля бяссоннай ночы, настане крызіс: думкі запаволяць свой бег, і ён упадзе ў санлівую меланхолію, пачне вінаваціць ва ўсім сябе самога. Васіль баяўся гэтага бяссілля. Але не ведаў, як спыніцца...

Ды тут нечакана ў пырсках і пене заззяла вясёлка. Маленькая спачатку, яна расла, абдымаючы ўвесь небакрай яго разбушаванай фантазіі: "А што, калі Юрка, - думаў Васіль, - раздувае гэту гісторыю з Марцінчыкам, каб набіць сабе цану? Глядзіце, маўляў, які я пільны. Раз, два - і ўтварыў фронт ідэйнай барацьбы. Прызнавайце мае заслугі!.. Чаго тады варта яго непахіснасць? Трэба пагаварыць з Юркам. Пайду!"

Юркі Васіль не сустрэў ні ў той, ні ў наступны дзень. Толькі трэцяга дня адвячоркам удалося яго залыгаць, але размова пайшла зусім не так, як чакаў Васіль. Пасля той спрэчкі, калі Васіль уступіўся за Лену і рэдактара, Юрка быў памякчэў з ім. На гэты ж раз Юрка набычыўся і неспадзявана напаў на Васіля:

- Ты камсамольскі важак ці хто ты? Га? Віленскаму камсамолу пераходны сцяг сам ЦК КПЗБ уручыў за што? За барацьбу з апартунізмам! Калабіна з дарогі прыбралі, а ты ў той самы бок глядзіш. Глядзі, глядзі, ды азірайся. Хто табе даражэй: партыя ці...

Васіль адчуў у словах Юркі нешта такое, ад чаго яму зрабілася страшна, першы раз у жыцці страх ішоў ад чалавека, якога ён лічыў сваім. Васіль глядзеў не міргаючы на Юрку. Раптам адна жахлівая здагадка грымнула як выбух, ад якога скаланулася душа: "А можа ў кіраўніцтве партыі ёсць тайныя матэрыялы супроць кіраўніцтва ТБШ? Газета вымушана маўчаць пра такія факты, таму шукае прыдзірак. Што тады? Хто будзе мець рацыю: я ці Юрка? Не. Не хачу, каб так было. Не хачу..."

Кіраўніцтва рашыла надрукаваць ліст Марцінчыка побач з рэдакцыйным каментарыем, які зноў напісаў Юрка. Ён лупцаваў аўтара

пісьма чым папала і як папала. Папярэджанне Васіля спраўдзілася: Марцінчык начыста адкінуў папрок газеты ў тым, што не асудзіў у сваёй прамове сябраў з Галоўнай управы ТБШ за ўдзел у юбілеі Купалы і Коласа. Ён растлумачваў газеце, што юбілей, арганізаваны нацыяналістамі, праходзіў пазней, чым Беластоцкі з'езд. Юрка, аднак, не збянтэжыўся, ён адрэзаў на гэта коратка і беспардонна: "Нашто варочаць ката хвастом дагары. Артыкул так не гаварыў".

Да Марцінчыка цяпер Юрка прыплюсаваў яшчэ Лукашыка, які, будучы сакратаром з'езду, "... пастараўся не запісаць шкодных для ТБШ слоў Марцінчыка... каб такім чынам змыліць сляды". У канцы Юрка рабіў вывад у сваім гусце: "Перад намі змова здрады і ашуканства".

Васіль быў згодзен, што кіраўнікоў ТБШ можна і трэба крытыкаваць, але ж абсурдна ператвараць іх жывасілам у ворагаў. Гэта людзі ў большасці асабіста сумленныя і аўтарытэтныя ў масах. Лепей было б шукаць з імі паразумення, асабліва ў перыяд разгулу рэакцыі, праз іх умацоўваць сувязь з масамі. Нападкі ў камуністычнай газеце яны могуць успрыняць як паслугу ўраду, а ён са свайго боку не скупіцца на рэпрэсіі: у лютым жа арыштоўвалі Шырму і Стацкевіча, судзілі...

Будучы ў Варшаве па выкліку ЦК, Васіль даведаўся, што ў самім кіраўніцтве партыі няма адзінства поглядаў на бягучы момант. Ён павесялеў: "Не я адзін". Праяснялася прычына непаслядоўнасці ў тактыцы. "Сектанты з памяркоўнымі водзяцца зачуб. А я з кім? Ні з кім, хочу быць з партыяй, з народам!" Усхваляваны сваім рашэннем, ён пачаў аналізаваць матэрыялы "Беларускай газеты".

Праграмны артыкул у першым нумары зыходзіў з таго, што на сучасным этапе назіраецца адплыў рэвалюцыйнага руху, таму (рабіўся слушны вывад) справай першай важнасці з'яўляецца ідэалагічная работа, выхаванне мас. Выхаванне праз легальны друк і легальныя арганізацыі, гурткі ТБШ, кааператывы, чытальні, самаўрады.

У тым жа нумары друкаваўся яркі артыкул "Аб самаадукацыі", які заклікаў грамадскасць наладжваць у самадзейным парадку адукацыю на роднай мове, калі ўрад не хоча адпускаць сродкаў на беларускую школу і асвету. А ўжо ў шостым нумары газета ўнесла папраўку. Быў выстаўлены новы лозунг - барацьба за самаадукацыю палітычную. Пры гэтым нехта груба, у Юркавым стылі, аблаяў усю заходнебеларускую інтэлігенцыю за апалітычнасць ды палітычную непісьменнасць.

"Шосты нумар, відаць, пераломны. Выйшаў ён пасля перамяшчэнняў у рэдакцыі: спачатку на месца фактычнага заснавальніка газеты Аніскевіча прыслалі Юрку, а на месца Якуба Міско - Лену Буднік, ды мяне ўвялі прыкладна ў тую ж пару. Дык, выходзіць, паварот у тактыцы?

Не абавязкова... Аніскевіча, здаецца, перапраўілі ў СССР у замежнае прадстаўніцтва ЦК КПЗБ, а Міско перакінуты ў падпольны друк, абслугоўвае тайны шапіраграф нашага Цэнтра - заданне больш адказнае, чым карэктарская работа ў газеце. А што да кірунку газеты, дык ухвалілі ж нядаўна артыкул пра выкарыстанне самаўрадаў для мэт нацыянальна-вызваленчага руху. Матэрыял пайшоў як рэдакцыйны. Я ж, помню, дапрацоўваў яго, нібыта пісаў адкрыты ліст да бацькі".

Васілёвага бацьку і яшчэ шасцярых такіх, як ён, свядомых беларусаў паслалі сяляне раднымі ў Міжэвіцкую гміну. Іх аказалася большасць, і яны выбралі бацьку войтам. Праўда, нядоўга ён прабыў на гэтай пасадзе - усяго каля года (звольніў павятовы староста), а і то бацька, адпісваючы шарваркі аднавяскоўцам, памог пабудаваць клуб у Кракотцы, даваў розныя палёгкі галетнікам. Радуючыся за бацьку, Васіль дакараў у артыкуле па-сектанцку настроеных таварышаў: "...урадавых інстытуцый мы не выкарыстоўваем, памылкова ўважаючы, што яны нам нічога не могуць даць, што самаўрадавая "калатня" нам не павінна абыходзіць, што, адным словам, гэта - не для нас..."

А ўзяць якасць крытыкі, не дзе, а ў папярэднім нумары "Беларускай газеты". Адзін з супрацоўнікаў слушна пісаў: "...не лаянкай, смехам або беспадстаўнаю сваркай павінны мы даказваць бязглуздасць думкі пра апалітычнасць тое ці іншае легальнае арганізацыі..." І даказваў, аргументавана даводзіў фактамі, што "апалітычны" кааператар інжынер Клімовіч і яго часопіс "Самапомач" служаць як нельга лепш на карысць буржуазнай палітыцы.

Ясна адно: корань справы - у розных ацэнках бягучага моманту кіраўнікамі партыі. Але чаму за апошні час стаў перамагаць левы погляд, быццам рэвалюцыйная сітуацыя ўжо наспела? Якія прычыны?

Ідучы з Беластока ў Вільню па падпольных дарогах, ён забягаў дамоў перад жытнім жнівом. На Слонімшчыне тады толькі і гаворкі было, што пра палявы суд над групай Бахара ў Навагрудку. Перадаваліся нават вусныя легенды па вёсках, нібыта Бахар і яго сябры напхалі саломаю мундзіры пабітых паліцэйскіх і чучалы ставілі ў сваёй зямлянцы. Гэта, вядома, плёткі. Расказвалі людзі, што сам Бахар, калі яго кат падвёў пад шыбеніцу і спытаў пра апошняе жаданне, адказаў: "Пацалуй ніжэй паясніцы, бо як павесіш, дык не дастанеш". Гэта на яго падобна. Васіль прыпамінаў Бахара, гарачага, анархічнага юнака з Навагрудскай гімназіі. Ён вечна дражніўся з папом на ўроках рэлігіі, даводзячы бацюшку да шаленства...

Даніла казаў, што Навагрудскаму акруговаму камітэту ўляцела за тое, што не ўзначаліў групы Бахара, расцаніўшы яе як тэрарыстычную,

а не як стыхійны выбух народнага гневу, як сімптом набліжэння рэвалюцыйнага ўздыму. Значыць, адсюль пачынаецца паварот? Наўрад. Бо ў ацэнцы кобрынскіх падзей ЦК асудзіў спробы асобных работнікаў партыі штурхаць сялян без належнай арганізацыйнай падрыхтоўкі на паўстанне. А кобрынская справа куды важнейшая, чым справа Бахара.

Дык, можа, новая ацэнка бягучага моманту прыносіцца звонку? Можа, гэта пераймаюцца тыя крутыя формы мыслення і рэзкія тактычныя прыёмы, якія ён сустракаў там, у Саюзе, у перыяд калектывізацыі? Можа, адтуль пераносіцца лозунг: саюзнік альбо вораг, хто не з намі, той супроць нас? Можа, якраз дакацілася хваля крытыкі памылак Антося Сталевіча, пачатак якое Васіль чуў у Мінску перад выездам? Сталевіч быў яму асабіста знаёмы, ён кіраваў рэдакцыяй замежнага прадстаўніцтва ЦК КПЗБ і памагаў Васілю дапрацоўваць вершы і паэму. Абяцаў выдаць. Высокі, кучаравы, усмешлівы брунет у пенснэ, інтэлігент па манерах і па натуры, ён спадабаўся Васілю. Сімпатычная была яго ўлюбёнасць у беларускую вёску. П'есы Антося ставіліся па ўсёй Заходняй. Пісаў ён і апавяданні, і вершы, Васіль рэцэнзіраваў у "Звяздзе" яго зборнік "На заняволеных гонях", хваліў вершы за агітацыйную баявітасць. І вось Сталевіч дапусціў памылкі ў адным артыкуле. Казалі, ён вельмі перажываў, прызнаў і выпраўляў памылкі ў наступных артыкулах, але невядома чаму за ім астаўся ярлык бяззубага нацыянал-апартуніста... Дык, можа, і тут, у Заходняй, вядзецца прафілактыка? Якніяк, Сталевіч - кандыдат у члены ЦК КПЗБ.

Не, мабыць, не гэта галоўная прычына лявацтва. Тэрор - вось што не дае нармальна думаць і правільныя рашэнні прымаць людзям, якія гадамі жывуць пад страхам, якіх паліцыя знішчае фізічна. Гэта, мабыць, самае істотнае.

Васіль губляўся ў здагадках. Аднойчы ў размове з сабою ён дайшоў да вываду, што калі ў жыцці дзейнічае дыялектыка, дык і зло ёсць адначасна дабро. Лаем мы кіраўніцтва ТБШ, дык мо ўрад не стане рэпрэсіраваць. Арганізацыя астанецца, і ўсё пойдзе на лад. Адносіны пераменяцца, партыя разбярэцца ва ўсім.

"Вось будзе больш часу, тады прадумаю ўсё і дайду да сутнасці", - гаварыў сабе Васіль. Але часу станавілася ўсё менш. Увесь час паглыналі літаратурныя справы. І ў душы Васіль быў рады з гэтага. Літаратурная ніва была, можна сказаць, яго абладай. Юрка покуль што сюды не дабраўся. А калі важыўся, Васіль адпалохваў яго цытатай пра пісьменнікаў - інжынераў чалавечых душ.

Прайшло ўсяго якія два месяцы з той пары, як Васіль падрыхтаваў першую "Літаратурную старонку", а справа прасунулася далёка напе-

рад. Вось ужо рыхтуецца першы з'езд рабоча-сялянскіх пісьменнікаў. Даклад ён абдумаў і, лежачы ў пасцелі, у думках перачытваў яго. Расказваў нябачным слухачам пра поспехі савецкай літаратуры, дэкламаваў вершы Маякоўскага, Купалы, Чарота, а потым пераходзіў да заходнебеларускіх літаратурных спраў. У нас ёсць многа талентаў-самародкаў, якія маглі б ствараць паэзію сапраўды народную. Уласна кажучы, тыя, пра каго ідзе гаворка, тут прысутнічаюць. Вы, сябры, шмат зрабілі для роднай літаратуры, але гэтага мала: вызваленчы рух патрабуе сваіх песняроў, сваіх трыбунаў, будзіцеляў народу, якія б звалі масы да барацьбы. Ці можам мы спадзявацца, што такія песняры з'явяцца? Можам! Ужо ў разгар першай рускай рэвалюцыі адсюль, з Вільні, прагучалі натхнёныя галасы Купалы і Коласа. Мы павінны стаць іх дастойнаю зменай. А дзеля гэтага трэба гартавацца ідэйна, авалодваць пралетарскім светапоглядам, адточваць класавую свядомасць. Паасобку гэта цяжка. Трэба гуртавацца. Тут дадзім слова Маякоўскаму:

*Партия -*
*это единый ураган,*
*из голосов*
*спрессованный*
*тихих и тонких,*
*От него*
*лопаются*
*укрепления врага,*
*как в канонаду*
*от пушек перепонки.*

Даклад складваўся ў думках лёгка і гладка. Калі на справе пойдзе крыху не так, давядзецца дзе паўтарыцца - нічога. Сутнасць дойдзе. Зрэшты, і недагаворак не павінна быць, бо многія думкі былі ўжо выкладзены ў газеце. У поспеху дакладу ён не сумняваўся.

Самае цяжкае - не даклад, а праект дэкларацыі. Вось над гэтым праектам ён парыўся некалькі вечароў - рабіў чарнавыя накіды, але клеіліся нейкія цьмяна-ўзнёслыя фразы з закавырыстым падтэкстам. Каб пісаць больш натуральна, ён змушаў сябе вяртацца да асобных фармулёвак у моманты, калі абдумваў нешта зусім іншае. Фармулёўкі праясняліся, але ўвесь тэкст не задавальняў яго. "Толькі Лену вучыў, як пісаць проста, а ў самога..." - іранізаваў над сабою Васіль. Потым раіўся з таварышамі, асабліва з Данілам, пацяшаў сябе тым, што ўдзельнікі з'езду адрэдагуюць праект дэкларацыі ў працэсе абмеркавання.

Паправіўшы некалькі фраз, Васіль адлажыў гэтую працу, прагле-

дзеў газеты і ўзрадаваўся надыходу змроку. Сёння ён умовіўся з Ленай сустрэцца ля кінатэатра "Лютня". Яна мае прынесці свежы нумар іх газеты.

Васіль выбраўся з раёна Новы свет, перайшоў па мосце чыгуначнае палатно і выйшаў на вакзальную плошчу. Праходзіць праз Вострую Браму не адважваўся: яшчэ трапіцца які знаёмы беларускі каталік, і будзе бяда і для яго, і для цябе. "Праўда, з таго часу, як пакінуў гімназію, выгляд мой досыць змяніўся, капялюш і добрае паліто надаюць пэўную саліднасць, але ж свае хлопцы Якуб Міско і Міша Тарасюк адразу пазналі... Зрэшты, праходзячы пад Вострай Брамай, трэба апірацца ля багамольцаў, здымаць капялюш... А ну яго..."

Лена першая заўважыла Васіля і падышла. Твар яе быў заклапочаны і маркотны. Васіль нейкім прадчуваннем улавіў нядобрае.

- Што здарылася? - трывожна пашаптаў ён.

- Прапала твая праца.

- Сканфіскавалі нумар?

- Ага... За твае "Выбары без галасавання".

- Не чакаў. Шкада тыражу... Грошай і так мала, паны як бы ведалі, што мы ў крызісе пухнем.

- Нічога, Карповіч казаў, што грошай дасталі, будзем перадрукоўваць тыраж нанава з белаю плямай на месцы твайго артыкула. Выйдзе паслязаўтра газета. А цяпер - трымай.

Лена спрытна дастала з унутранай кішэні акуратна згорнуты нумар газеты і, блізка падышоўшы да Васіля, сунула яму за пазуху.

- Прастудзішся, Васілёчак, на дварэ холадна, а ты ж мала ходзіш па вуліцы. Ды і твая ангіна... Зашпільвайся, хлопча, няма каму біць. - Яна паднялася на дыбачкі і паправіла яму шалік на шыі, захінула паліто і зашпіліла. - Ну вось, зараз добра.

Васілю стала няёмка ад яе пяшчотнай клапатлівасці. Ён лепей хацеў бы бачыць яе твар такім суровым, як хвіліну назад.

- А я па твары здагадаўся, па хмурых вачах, што прыкрасць нейкая.

- Не бойся маіх вачэй, ні хмурых, ні вясёлых. Проціў мяне ты замалады.

Ёй падабалася назіраць, як ён бянтэжыцца, але не траціць вытрымкі. Нібыта не чуе. Залаты хлопец. Некаму добры сябра будзе.

- Бывай, Васілёчак, мне пара. Заўтра многа спраў. Ды і небяспечна сёння.

Яны разышліся не развітваючыся, нібыта брат з сястрою - стрэліся выпадкова на вуліцы, пагаварылі і пайшлі, а дома зноў сустрэнуцца.

Васіль ішоў дамоў хутка. Рызыкоўна было несці нумар газеты, употай здабыты Ленай у друкарні: рэчавы доказ, "довуд жэчовы", як гавораць на судзе. З другога боку, карцела яшчэ раз перачытаць свой артыкул, нібыта ад канфіскацыі ён стаў яшчэ цікавейшы і смялейшы па зместу. "Не спадабалася цэнзару іронія. Бо ў выразах артыкул стрыманы, толькі зачэплена аснова панскай дэмакратыі - выбары ў гмінах і павятовых сейміках сталі праводзіць не шляхам галасавання, а праз апладысменты... Цэнзар мае нюх".

А Юркавага ніводнага артыкула не сканфіскавалі!

Васіль здзівіўся, так нечакана прыйшла гэтая думка.

**На з'ездзе**

Івану Івашэвічу паштар прынёс пісьмо з віленскім штэмпелем. Мусіць, гэта інтрыгавала паштара, бо марудзіў, не выходзіў з хаты, папрасіў закурыць і ўсё тупаў ля парога, покуль адрасат чытаў ліст. Іван прабег вачыма па крэмавай дабротнай паперцы і адчуў, што дых займае ад радасці, але, перавёўшы позірк на цікаўнага паштара, абыякава махнуў рукою.

- Прычапіліся як смала: выпісвай газету ды выпісвай газету, а завошта выпісваць - не кажуць... - Іван зіркнуў спадылба быстрымі, глыбока пасаджанымі вачыма.

Паштар быў стары чалавек і даволі рахманы. Каб што другое, дык выслухаў бы ды змоўчаў, а тут - нёс, чалавеча, пісьмо, думаў хоць якую навіну пачуць, - і на табе! І стары адказаў з дакорам:

- Не памагай ты хвораму стагнаць. У цябе ўжо грошай няма? Хай бы хто плакаў... Усё лецейка зарабляў...

- Болей праробіш, як заробіш у такіх заработках, толькі - во (Іван паказаў мазолістыя далоні), мазалі з рук за ўсю зіму не сыдуць ніяк, а грошы даўно сышлі.

- Мне што, - прабурчаў паштар, - я ў тваю кішэню не палезу. Толькі праўды ў цябе не дапытаешся, наліхо табе, які ты хітры...

- Што табе, прысягу даваць, ці што, - нібы пакрыўдзіўся Іван, а потым, каб замяць размоўку, дадаў насмешліва, баском: - Я ж безвызнанёвец, значыць, прысягаць не магу. Можа і тут, скажаш, хітрую? За такую, дзядзька, хітрасць, як сам ведаеш, на пастарунку рэбры лічаць.

- Хай сабе... Я пайду ўжо.

Іван так і не ўразумеў, што хацеў сказаць той: хай сабе лічаць рэбры ці хай будзе праўда тое, што кажаш. Іван сапраўды-такі схітраваў. Не ў тым хітрасць, што казаў, нібы грошай зусім няма, - так прынята

гаварыць на вёсцы. Любога, хто скажа, што мае грошы, палічаць хвалько́м, пустым чалавекам. Схітраваў Іван у тым, што не адкрыў, аб чым у пісьме напісана. Яго выклікаюць у рэдакцыю "Беларускай газеты" і грошы за дарогу абяцаюць вярнуць. Пішуць, што - па справе "Літаратурнай старонкі", значыць, зноў надрукуюць яго вершы, а калі пашанцуе, дык зборнік, можа, выдадуць.

Мара пра свой зборнік была яго таемнае і салодкае жаданне. Нават прыснілася раз, што сваю кніжку, тоўсценькую такую, у руках трымаў. А сябры, таксама паэты з іх ваколіцы - Струмень і Прамень, зайздросна і жаласна глядзяць, рукі цягнуць: "Пакажы, братка!" Такі сон - проста прачынацца не хацелася. І вось аказія: можа сон стане явай, калі пашанцуе.

Толькі таямніцы выдаваць нікому не трэба. Барані бог, як старыя людзі кажуць, пранюхаюць на пастарунку - прычэпяцца, і пабачыш Вільню, як сваё вуха. О, літаратурныя справы лепш трымаць у сакрэце! Людзі ў вёсцы, канешне, здагадваюцца, але свой псеўданім Іван беражэ, толькі сябры з падпольнай ячэйкі ведаюць пэўна, што Івашэвіч - гэта паэт Пятрусь Граніт. Але нельга інакш: ён жа ў ячэйцы сакратар. Псеўданім прыдумаў адмысловы: Пятрусь таму, што па бацьку Пятровіч, а Граніт - таму, што па прафесіі брукар, значыць - з каменя дарогі робіць і вершы хацеў бы даўгавечныя, як граніт, пісаць, каб на пакаленні паслужылі.

Працу брукара ён не то што любіць, а ганарыцца ёю: цяжкая праца, не кожны вытрывае. Паспрабуй цэлы летні дзень пад спёкаю молатам каменне трушчыць. Увесь потам сыдзеш, соль на кашулі выступіць, хоць бяры ды страсай саляны пыл на паперу і тою соллю страву падсольвай.

Або сядзіш, дарогу мосціш, і роўная, як струна, дарога бяжыць з-пад тваіх каленяў. Хацеў бы ўстаць ды памчацца ў тыя далёкія далі, у невядомыя гарады, да якіх вядзе твая дарога. Хочаш, а не можаш, кленчыш на каленях, глядзіш у сінь-даль ды зайздросціш тым, хто па тваёй дарозе, па бруку, па каменьчыках тых, сагрэтых тваімі далонямі, імчыцца на быстрай машыне. Што там машына! Зайздросціш балаголу, які хоць і зубы сціскае на дрогкім бруку, каб языка не прыкусіць, але ўсё ж едзе, а ты - на месцы. Зайздросціш няшчаснаму пешаходу, які хоць кійком падпіраецца, але дыбае. Любіць рух дарога, і жыццё любіць рух. Усякае жывое стварэнне рухаецца, куды яго цягне, а ты мусіш сядзець як прыкаваны. Часам ахвота ісці ў нязведаныя куткі так спакушала і таміла Іванаву душу, што хацелася кінуць гэтую катаржную работу - ды заламіся ты, прынука! Але выхаваная змалку руплівасць, сорам жыць без працы,

кпіны з лёгкага хлеба, сялянская цвярозасць - усё гэта трымала яго на адным месцы.

Цяпер зіма, і ён - вольны казак: жыве, як усе добрыя людзі. Можна б і паехаць куды, карціць чалавеку на свет глянуць, але ж грошай, не дзеля адгаворкі, а сапраўды мала, шкада грошай. Людзі скажуць - здурнеў: зарабляў-зарабляў усё лета ды выпшыкаў за тыдзень. Захацеў у панах пахадзіць. Плытнікі вунь з-за свету, з-за Гродні пехатою вяртаюцца, плыты загнаўшы. Клункі за плечы - ды гайда! За тыдзень дамоў прыдыбае чалавек і, глядзі, - злотых сем-восем зберажэ. Капітал галадранцу! Восем злотых - чатыры пуды хлеба. На паўгода, лічы, аднаму едаку.

І вось нечаканае шчасце. Першы раз у жыцці... Іван збіраўся ў Вільню, як рупны гаспадар на кірмаш: і колы трэ падмазаць, і збрую агледзець, і каня накарміць-напаіць, і сабе торбу напакаваць, а галоўнае - выехаць загадзя, каб не цялёпацца ў свіныя галасы.

З рэдакцыі напісалі, што выклікаюць на дзесятае снежня, значыць, на нядзелю, але прыбавілі, што добра было б сустрэцца ў суботу. "Чаму не, - рашае Іван, - можна! Тым часам чалавек свабодны - зіма, а яшчэ сказаць, калі ўжо ехаць, дык ехаць".

Іван сабраў усе свае сшыткі і карткі з вершамі, перапісаў тыя, што пазаношваліся па кішэнях. Набраўся добры стус: вершаў сорак. Загарнуў свой набытак у газету, перавязаў шнурком і палажыў напашэўку, але ў такім месцы, што не вельмі каму ў голаў прыйдзе шукаць: паклаў на абечак старога рэшата ды павесіў у кухні на гвозд рагожаю на хату: здагадайся, калі ты хітры!

Наконт схаваць Іван, не хвалячыся, - мастак. Колькі вобыскаў было - ніколі нічога не знайшлі, запішуць у пратаколе - "вынік негатыўны", ды будзь здароў! Ён толькі знаў, што глядзець за паліцэйскімі, каб самі афішак не падкінулі з рукава, а наконт схаваных - і не шманаў. Раз было - сам камендант з пяццю сыскнымі шукаў, хату ўверх дном перавярнуў, дапытваў: "Ведаю, - кажа, - напэўна ведаю, што ўчора ў Дзятлаве пачку бібулы камуністычнай атрымаў. Дзе дзяваў? Прызнавайся".

А ў Івана адкуль тая смеласць узялася: "Не злавіў за руку - не кажы, што злодзей. Шукай, пане, пан на гэта наняты, а я вам памагаць не буду. Толькі самі тут не напаскудзьце, а за сябе я спакойны". Камендант не прывык да такіх адказаў, дык яму, відаць, і спадабалася смеласць; паглядзеў на Івана і кажа: "Лоўкі ты хлоп, Івашэвіч, холерне хітры!" - і спыніў вобыск. А лістоўкі, праўда, былі ў яго, у Дзятлаве паўтара кіло атрымаў, але ці ён дурны хаваць у будынках - на пашы, у ядлоўцавым кусце схаваў.

За два дні да паездкі Іван не хадзіў на вячоркі, ваксаваў боты, чысціў гарнітур, напярэдадні - падстрыгся, у самы дзень ад'езду аставалася толькі пабрыцца ды сказаць маці, каб сабрала торбу. Справы нядоўгія: сала адрэзаць, каўбасы адламаць, хлеба акраец на паліцы ўзяць - вось і ўся торба. А пабрыцца што? Шах-мах ды пабрыўся.

Адным словам, рушыў Іван у дарогу і за парой, і ў добрым зборы. Растаропны і не сарамяжы ў абыходжанні з людзьмі, ён мігам дабраўся да Людвісарскае вуліцы. Было ўжо гэта на сутонні. У рэдакцыі гарэла электрыка і сядзеў адзін чалавек такога ж узросту, як сам Іван, але, вядома, лепш апрануты. Пазнаёміліся. Гэта аказаўся рэдактар Карповіч. Ён задаў адразу практычнае пытанне:

- Спаць, даражэнькі, ёсць дзе?

- Хто яго ведае, нямашака, - замяўся Іван, быццам ён быў вінаваты, што ў чужым горадзе не мае кватэры.

- Ну то будзем вось тут удвух, - паказаў рэдактар на свой вузкі ложак.

- Дзякую, грамадзянін рэдактар! - павесялеў Іван.

Панаваты з выгляду рэдактар аказаўся свойскім хлопцам: добра аплятаў каўбасу, хлеб з салам і яшчэ пахвальваў Іванавы пачастункі. Іван асмялеў і павёў шчырую гаворку:

- Я думаў, што як хто ладна адзеты, дык і пан, адно ж, бачу - вы свой чалавек.

- Які я, даражэнькі ты мой, пан. Я з вёскі. Праўда, вучыўся ў Чэхіі, дыплом інжынера маю, але што той дыплом, калі пасады ляснічага мне не атрымаць. Дыплом не ўкусіш, вось каўбасу кусаць - можна. Добрыя каўбасы робіць ваша гаспадыня. Паклон ёй, даражэнькі, перадайце.

- А скажыце, калі не сакрэт, - як мог далікатней звярнуўся Іван, - адкуль самі будзеце, мо, часомся, зямляк мне прыходзіцеся, а я й ведаць не буду...

- Які ж сакрэт. Я чалавек легальны... Мір, такое мястэчка чулі?

- От дзіва што! Гэта дзе самы вялікі конскі базар на Міколу, ці то на Пакровы - вось добра не памятаю, знаю, што ў глухую восень... І там цыганы з усяго свету караля выбіраюць. Ведаю Мір, чаму ж. Дык з самога Міра вы? Значыць, мешчанчук, даруйце?

- Не з самага, а блізка ад Міра, па дарозе на Навагрудак.

- А часомсі не з засценка якога, не са шляхты?

- Даражэнькі ты мой... - з дакорам паківаў галавою Карповіч.

- Ды не, я нічога не маю... Толькі ў нашай мясцовасці дык усё са шляхты моладзь больш вучыцца.

- Карповіч, відаць, прыняў гэта тлумачэнне за дастатковае, каб не пакрыўдзіцца, бо ізноў перайшоў на шчыры, лагодны тон:

- Вёска мая Трашчыцы - адна з бяднейшых у ваколіцы. Загончыкі ў большасці сялян такія, што барана, даражэнькі, не месціцца. Сваркі з-за таго былі, што барануючы на суседава залазілі, дык цяпер перадзел самі сяляне робяць, каб у адно месца звесці зямельку. Але ж ад гэтага яе не прыбавіцца. У майго таты няма і двух гектараў, а сыноў апрача мяне чатырох, ды сясцёр трое. Беднота мы з бядноты. Свечкагасам тата пры бацюшку аціраецца. Як падумаеш, дык сэрца баліць. Вучылі, спадзяваліся... І так хочацца памагчы ім, ды не толькі ім, а ўсім бедным, - Карповіч уздыхнуў і закончыў, - так што я, даражэнькі мой, можна сказаць, ад нараджэння - камуніст.

Гутарылі да позняга часу. Праўда, расказваў больш Іван, а Карповіч слухаў маркотны, задуменны.

Раніцою, наглядзеўшыся, як на праяву, на Карповічаву гімнастыку, Іван сам паспрабаваў памахаць гіраю, але ні цяжкасці, ні прыемнасці не адчуў.

- Вам гэта незразумела, - растлумачыў Карповіч, - вы фізічна працуеце. Бачыце, з твару вы як быццам благія, носік, прабачце, востранькі, шчокі запалыя, а біцэпсы пруткія, рукі жылістыя. Вы напэўна дужэйшы за мяне, бо я не маю мажлівасці фізічна працаваць, дык трэба хоць штучна падтрымліваць сілы, а то зусім змарнееш. Мне і прыемна і карысна такая зарадка.

Што гэта за біцэпсы, Іван не вельмі цяміў, але прыемна было чуць пахвалу.

Пачаўся рабочы дзень. Карповіч запрапанаваў Івану пахадзіць па горадзе да абеду. Калі ён зmoраны вярнуўся назад, то ўбачыў у рэдакцыі яшчэ аднаго гарадскога мужчыну і дробненькае дзяўчо. Рэдактар пазнаёміў яго з Ленаю і тым другім - Франуком.

Да яго прыходу тут ішла гарачая размова, нават вытрыманы Карповіч расчырванеўся. Іван унёс разрадку ў напружаную атмасферу, і гэта ўсім дало палёгку.

- Ну то, сябры, - азваўся Франук, - пачытаю вам яшчэ адзін, нешта пра паэтычнасць навук. Нейтральны, калі хочаце. Можна? - спытаў ён, схіляючы галаву і нібы кланяючыся Лене, паколькі яна была жанчына, а яму прыемна было падкрэсліць, што ведае і выконвае ўсе правілы этыкету.

- Слухаем, - адказала Лена тонам настаўніцы.

Франук адкінуўся на крэсла, паправіў пінжак, тузануў за адпрасаваныя канты нагавіц, падбіраючы іх вышэй на калені, кашлянуў,

паправіў гальштук і пачаў:

- *Філёлёгія ты мая мілая, філёлёгія!*
*Праз цябе дастаем мы сусветы многія...*

Іван спачатку напружваў усю сваю ўвагу, стараўся ўцяміць, пра што гэты верш, разгублена глянуў на рэдактара і на Лену, як бы просячы падмогі ці спагады свайму неразуменню. Лена звяла бровы і прыжмурыла векі, а маленькія вусны яе ўздрыгвалі, яўна стрымліваючы смяшок. Рэдактар глядзеў кудысьці ўдаль, і на твары яго нічога нельга было прачытаць. Іван помніў, такі выраз твару меў адзін салдат з іх палка, калі стаяў на малітве. А быў той салдат няверуючы. Гэтыя назіранні падбадзёрылі Івана. Ён ужо смялей чакаў канца.

- Ну як? - спытаў Франук, закончыўшы чытанне тэатральным узмахам рукі. Ён абвёў прысутных позіркам пераможцы.

- А так, - холадна прамовіла Лена, - не ў каня корм. Для каго гэты верш напісаны?

- Як для каго? - схапіўся з крэсла Франук. - Для ўсяго чалавецтва, для сённяшніх і будучых пакаленняў!

- А наша газета пішацца для людзей працы, а не для ўсіх.

- То хай дарастаюць вашы людзі да сапраўднай паэзіі!

- Паэтам трэба ісці да народа. Не стог да казы ідзе, а каза да стога.

- Навошта сварыцца, сябры, - прымірэнча азваўся рэдактар. - Ведаеце, сапраўды, для нашай часопісі верш, калега Франук... гм-гм, не зусім надаецца. Лішне вучона і, як палякі кажуць, "гурналётна". Ды і шурпатасцей стылёвых... ведаеце... Хоць тэма, мушу вам шчыра сказаць, даволі такі элітарная... Вось чалавек свежы прыйшоў, Пятрусь Граніт, - як вы, сябра, э-э, зразумелі верш да канца?

- Сёе-тое... Неяк, здаецца, не па-беларуску пісаны, - смела адказаў Іван, рады, што і ён тут патрэбны.

- Ну вось, бачыце, сябра, э-э, калега Франук... Давайце, мо, сумесна паслухаем Граніта. Вы, сябра Граніт, прывезлі з сабою вершы?

- А як жа, - узрадаваўся Іван, - толькі схованы далёка, - тут ён замяўся, а потым, спахапіўшыся, амаль выкрыкнуў. - Дык я напамяць раскажу!

- А што мне слухаць, - іранічна працадзіў Франук, - ведаю я, як вам трэба пісаць:

*Пройдзе зіма* - *будзе вясна,*
*Пройдзе вясна* - *будзе лета,*
*Пройдзе лета* - *будзе восень,*
*Пройдзе восень* - *будзе зіма...*

А потым ізноў спачатку. Так і паўтараюць ад Пранцыся Багушэвіча адно і тое ж. І рады! А сёння трэ паэзіяй еўрапейскія краіны падбіваць.

Для вас буду пісаць спецыяльна вось так:

*Дождж ідзе - пагода будзе,*
*Хмары знікнуць - сонца блісне...*

- Чэсць! - тэатральна нахіліўся ён, апрануў наліто, узяў капялюш - і выйшаў.

- Вось бачыце, у нас тут бываюць размоўкі, - апраўдваўся рэдактар. - Не звяртайце ўвагі. Дык што вы нам хацелі пачытаць?

- Ёсць у мяне адзін верш, што не запісаны на паперы, але ў нас хлопцы, хто смялейшы, любяць яго расказваць.

Іван, таксама, як і Франук, павярнуўся да Лены. Не дзеля ветлівасці, з боязі ды з павагі. Ён паспеў ужо зрабіць вывад: "Бачыш, дзяўчо з вузел ростам, а як рэжа, ого!" А сказаў:

- Вось паслухайце:

*Б'ём мы пана чым папала,*
*Абы гаду тут не быць.*
*Каб слядоў яго не стала,*
*Песняй так жа трэба біць!*

- О, не, не! - азваўся рэдактар. - Вы, даражэнькі Граніт, хочаце мяне без пары ў турму адправіць. Добра, што староннік людзей няма, будзьце асцярожней, сябра... Рэдакцыя, бачыце, месца афіцыйнае, гэта не тое, што кватэра.

- То ў мяне другія ёсць, пісаныя. Толькі зашыты і, прабачце, у такім месцы... а ўчора не паспеў адпароць. Можа я зараз... тое зашыванне?

Лена адвярнулася, хаваючы ўсмешку, а Карповіч хоць бы што, ветліва адказаў:

- Нічога. Не абавязкова сёння, заўтра пакажаце, тут у нас збярэцца шмат пісьменнікаў, Міхась Васілёк павінен быць, Рэдзька, Чабор і другія. Усе будуць чытаць свае вершы. Абмяркуем у сваім асяроддзі...

- А вось і ён, - узрадаваўся рэдактар, - лёгкі на ўспамін Міхась Васілёк! Вы не знаёмы? Пятрусь Граніт. З астатнімі вы страчаліся.

- Нізкі паклон байцам на бастыёне рабоча-сялянскага праўдзівага слова! Хоць гаспадары і не сустракалі, але даруем ім гэта з увагі на адказнасць працы... Маё шанаваннейка мілай гаспадыньцы, - плыў, скланіўшыся, да Лены Міхась, а потым перайшоў да Івана:

- Ну, вось і сустрэліся, браты па пяру. Давай паручкаемся. Ого!

Ручка ў цябе, што ў мядзведзя, толькі з твару благенькі. Нездарма Гранітам назваўся, ды яшчэ ў квадраце. Ведаеш, чаму ў квадраце? Бо Пятрусь таксама азначае скалу - значыць, скала гранітная. Здорава!

Васілёк сыпаў жартамі, дзе трапна, дзе не зусім, але ўсё сыходзіла, бо жарты былі бяскрыўдныя, не злыя, а паводзіў сябе жартаўнік дужа шчыра. Апрануты ён быў у даволі пацёртае паліто, з-пад якога відаць былі новыя фрэнч і галіфэ з паўсуконнага шарачку. Убачыўшы, што вопраткай яго зацікавіліся, Міхась расхінуў паліто і пачаў дэманстраваць якасці даматканага матэрыялу. Пры гэтым расхвальваў да нябёс мілую жоначку, чые залатыя рукі спралі і выткалі касцюм сялянскаму песняру.

Потым нібы схамянуўся Міхась і перайшоў з вясёлага на сур'ёзны лад. Стаў расказваць, як знішчыла скідзельская паліцыя рукапіс яго зборніка, як самога збівалі на пастарунку, прыгаворваючы: "Пільнуй гною, хаме, вось мы табе пакажам паэзію!"

Чым далей, тым больш сумныя рэчы расказваў Міхась Васілёк. Успомніў нябожчыка Міхася Явара, свайго земляка, паэта, друга, і расслязіўся. Яго блакітныя вочы сталі балесна-сумныя, як у сіраты. Сарамліва змахваючы з веек слязінкі і стараючыся ўсміхнуцца, перамагчы жаласлівасць, ён усё паўтараў:

- Хто б то мог падумаць, браточкі, што так чалавек скончыць. Адзінота, даражэнькія, глухамань, цэлымі днямі рыбачыць, з лазняком шэпчацца - нудота... І скажыце вы, - у вершах яго была і бадзёрасць, нават у гэтым, трагічным, што ў вашай газеце побач з некралогам надрукавалі, - "Паклон чалавечаму страданню", нават у ім ёсць мужныя ноткі:

*Я мучанікам тым, якім ў пакутах вечных*
*За волю мілую пяе кайданаў звон,*
*Я скатаваным ўсім... я ценям іх - магілам.*
*Касцям струхлеўшым іх - я шлю гэты паклон!*

Як яно ні жылося, а нельга было так... Што ты смерцю дабравольнай дакажаш? Нічога! Нават у народзе плеткары памяць з брыдотай рознаю, браточкі, змешваюць. Застрэліўся, кажуць, з-за дзеўкі, паненку - настаўніцу-польку - пакахаў, а тая любілася, а потым - узад. Выдумка гэта. Праўда, дружыў ён з настаўніцай-полькай, вельмі хораша дружылі, і яна некалькім жаніхам адмовіла. Гаварыў мне нябожчык, хай яму будзе лёгка зямліца, што яна інцыдэнты на службе мела за гэта іх каханне, але гатова была на ўсё. Хацела з ім жыццё злучыць. Толькі ён горды быў дужа. Не мог як бы ў нахлебнікі ісці, а ў дадатак сухотамі хварэў, можа гэтага збаяўся. Адным словам, згубіла чалавека не каханне, а жыццё нашае праклятае, паднявольнае. Ахвяра жыцця, слушна ў вашай

газеце пісалася. І, скажу вам, магло такіх ахвяр больш быць, добра, што вы тут, дзякуй вам, памагаеце, падбадзёрваеце - чалавек прыедзе ў Вільню і як жывой вады глыне.

Карповіч улавіў момант, калі настрой Міхася Васілька пачаў паднімацца, і запрапанаваў яму пачытаць "Полымя рэвалюцыі". Некалькі нумароў гэтага часопіса рэдакцыя атрымала і частавала імі, як ласункам найбольш паважаных гасцей.

- Шаноўны Аляксандр Вікенцевіч, ну не думаў, што ты такі патайны. Чаму ж ты раней не сказаў, што маеце такія рэчы? Давай, браток, хутчэй давай, не тамі маю душу!

- Не ўсё зразу, ягамосці, - жартаваў Карповіч, здымаючы з паліцы моцна зачытаныя экземпляры.

Васілёк, а ўслед за ім і Граніт, накінуліся на паэзію. Чыталі моўчкі, толькі час ад часу адзін перад адным прачытвалі ўголас найбольш удалыя мясціны і шумна выказвалі захапленне.

Карповіч з Ленай абгаворвалі практычныя драбніцы, звязаныя са з'ездам. Лена хутка пайшла па справах, а рэдактар яшчэ раз перабіраў у думках, ці ўсё гатова, ці не забылі чаго важнага.

Так хутка прайшоў час. Сцямнела. Карповіч устаў з-за стала і аб'явіў, што пара збірацца. Міхасю, які добра ведаў Вільню, рэдактар назваў адрас дома, дзе меліся сабрацца (Букавая вуліца, 14), а Граніту сказаў ісці следам за сабою, адстаючы крокаў на дваццаць.

Міхась ізноў ажывіўся:

- А цёзка мой, Васіль, канешне, будзе?

- Пабачыцеся.

- Вельмі рад. Ты, Пятрусь, паглядзіш, што за чалавек тут ёсць у супрацоўніках, дзіву дасіся... Па часці вершаў - проста доктар. Дыягназы ставіць і вокам не маргнуўшы!

Дом, у які прывёў след Карповіча, паказаўся Івану даволі прыстойным, бо быў з ганкам. Зайшлі ў невялікі пакой, іх сустрэлі Люба з сястрою і Лена. У пакоі было яшчэ некалькі чалавек, апранутых як хто - адзін па-вясковаму, другі па-гарадскому. Былі тут і людзі сярэдняга ўзросту, страчаліся і зусім маладыя: Люба, што выконвала абавязкі гаспадыні, ды Васіль, шчупленькі юнак у шэрым касцюмчыку, пад гальштукам. Знаёміліся, называючы толькі імёны - Юрка, Янка, Алесь, і гэткае знаёмства мала што давала, толькі распальвала цікавасць: усяроўна кожны адзін другому заставаўся загадкай. Таямнічасць сустрэчы і сакрэтнасць праграмы абуджалі ў кожнага нейкую ўсхваляванасць, трывожную і бадзёрую напружанасць. Кожны адчуваў, што не можа трымацца нату-

ральна, спакойна. Усім хацелася хутчэй прыступіць да справы, але ніхто не адважваўся запрапанаваць, каб не выдаць свае нецярплівасці, якая тут, пад пагрозай арышту, магла быць расцэнена як баязлівасць.

Міхась Васілёк, аддаўшы даніну ветлівасці жанчынам і гасцям, прысеў у куце і шэптам гутарыў з Васілём.

- Браток дарагі, цёзка, хоць і па псеўданімах, ты ж тут, як гаворыцца, у курсе ўсіх падзей, - даверліва пачаў Васілёк. - Ну скажы ты мне, ці то праўда, што хадэкі пішуць? Я маю на ўвазе арышты паслоў там, у Мінску.

- Нічога пэўнага, браце Міхась, не магу сказаць. Не хочацца верыць...

- А ваша ж газета таксама намёк рабіла...

- Так, але я асабіста думаю, што гэта нейкае непаразуменне, якое павінна высветліцца.

- Я таксама не магу паверыць у здраду. Ну, калі б там - птфу, птфу - не прагаварыцца - адзін які нягоднік знайшоўся, а то ўсе - быць таго не можа.

- Трэба чакаць. Будзем чакаць і думаць пра лепшае... Буржуазная прэса і Купалу ўжо даўно пахавала. Ёй абы сенсацыя.

- Ну, дзякуй табе, браток Валянцін, ці, праўда, Васіль...

Карповіч, Юрка і Лена стаялі разам і падлічвалі гасцей, якія дзеля ветлівасці абменьваліся агульнымі фразамі. Раптам моцна, каб усе чулі, азваўся Юрка:

- Дык на каго мы чакаем, сябра рэдактар?.. Здаецца, сабраліся ўсе, хто мог?

- Усіх, браткі, мы не збяром, - уздыхнуў Васілёк. - Не аднаго з тых, хто хацеў бы тут быць з намі, няма на волі, а некаторых і на свеце...

Заўсёды бадзёрая, энергічная Люба засмуцілася, слухаючы Васілька, уздыхнула яму ўлад: "Няма, многіх няма..." Яна падышла да дзвярэй, што вялі ў другі пакой, ды пачала запрашаць гасцей да стала.

- Дамовіліся, што сёння ў нас сямейнае свята, мае іманіны, калі што здарыцца...

Гэта асцярога была не лішняя. Віленская тайная паліцыя працавала спраўна і часта нападала на след нелегальных сходак. На ўсякі выпадак трэба было загадзя мець адгаворку. Паліцыю гэтым спосабам не вельмі правядзеш, але добра хоць тое, што наяўнасць адгаворкі супакоіць саміх удзельнікаў.

У другім пакоі на круглым стале стаялі бутэлька гарэлкі, некалькі бутэлек піва і закуска.

Расселіся. Настала напружаная цішыня. Карповіч абвясціў, што

спачатку будзе даклад пра літаратурныя справы ў Савецкай Беларусі і ў Беларусі Заходняй, а потым спрэчкі. З крэсла падняўся Васіль і пачаў гаварыць. Гаварыў ён спакойна, разважліва, быццам настаўнік у класе: выкажа агульнае палажэнне - і растлумачвае, ілюструе прыкладамі.

Пра савецкую літаратуру многія ўпершыню чулі такую шырокую інфармацыю, таму стараліся злавіць кожнае слова.

- Савецкая літаратура, - гаварыў ён, - прызнаецца сёння перадавой літаратурай свету, бо яна самая праўдзівая і самая рэвалюцыйная. Там пісьменнікі авалодалі марксізмам-ленінізмам, які памагае пранікаць у самую сутнасць грамадскага жыцця. У чым жа мы бачым сутнасць сённяшняга грамадскага жыцця? А ў тым, што свет сучасны падзелены вялізнай барыкадай: з аднаго боку барыкады - людзі працы, якія мазолістымі рукамі ствараюць усе даброты, часта жывучы ў нэндзы, галечы, а з другога боку тае барыкады стаяць уладары жыцця, паны і іх падпявалы. Гэту суровую праўду адкрыў Маркс. Барацьба класаў - усеагульны закон, ёю пранізана ўсё - справы, думкі, пачуцці. Сучасныя людзі не могуць думаць і дзейнічаць інакш, як толькі з пазіцый таго класа, да якога яны душою і целам прырасьлі. Ідэолагі пануючых класаў стараюцца давесці, быццам у грамадстве людзі спаяны не класавымі, а нацыянальнымі ці агульначалавечымі ідэямі. Яны хочуць скампраметаваць класавае мысленне, абзываюць яго тэндэнцыйным, вузкім, аднабокім, заклікаюць мастакоў уздымацца над класамі, пяяць пра вечнае.

Канешне, мы, беларусы, любім нашу шматпакутную Беларусь, мы, дзеці народа, любім людзей, але гэта любоў не сляпая. Яна тэндэнцыйная. Так, тэндэнцыйная. Любячы Беларусь, мы ненавідзім тых, хто яе падзяліў і заняволіў - польскіх і беларускіх паноў. Любячы людзей працы, мы ганьбуем іх прыгнятальнікаў. Вось - наша тэндэнцыя, сумленная і адкрытая. Мы не тоім яе. Рабочы клас і партыя ставяць сабе за мэту зрабіць шчаслівымі людзей працы, на руінах царства капіталу ўстанавіць царства свабоды і вольнай працы. Савецкія пісьменнікі, лепшая іх частка, ідуць за партыяй, аддаюць свае таленты народу, сацыялізму. Мастакі слова ў СССР стараюцца згуртаваць, з'яднаць людзей працы духоўна, натхніць на барацьбу за сацыялізм. Сацыялізм - самая сумленная і чалавечная ідэя, праслаўляць яе - гонар для мастака. Савецкая літаратура - самая сур'ёзная літаратура ў свеце, яна вучыць людзей, як жыць па-чалавечы і стварыць шчасце на зямлі. Савецкія пісьменнікі не разменьваюцца на дробязі, яны ўмеюць выбраць паміж лёгкаю спакусай пець рамансы пра асабістае шчасце і адказным абавязкам клікаць народ на барацьбу за ўсеагульнае шчасце. Выдатны прыклад мы бачым у Маякоўскага:

*Капитализм - неизящное слово,*
*куда изящней звучит - "соловей",*
*но я возвращусь к нему снова и снова.*
*Строку агитаторским лозунгом взвей.*
*Я буду писать и про то, и про это,*
*но ныне не время любовных ляс.*
*Я всю свою звонкую силу поэта*
*тебе отдаю, атакующий класс.*

Маякоўскі - самы вялікі паэт сучаснасці, ва ўсіх краінах ён мае сваіх паслядоўнікаў: у Польшчы - Бранеўскі, у Германіі - Бехер, у Францыі - Элюар і Арагон, у Паўднёвай Амерыцы - Пабла Неруда і г. д. Мы таксама павінны ісці за Маякоўскім, каб стаць рабоча-сялянскімі песнярамі...

Калі Васіль гаварыў пра савецкую паэзію, яго слухалі амаль з малітоўнай павагай, а калі перайшоў да заходнебеларускай літаратуры, настрой змяніўся. Людзі ажывіліся. Тут кожны чуў нешта знаёмае, сваё, здавалася, што Васіль выказвае нейкім чынам падслуханыя твае думкі. І было прыемна ўсведамляць, што на гэтым сходзе прагучалі твае асабістыя роздумы. Значыць, яны нечага варты.

Пасля дакладу Юрка ўнёс прапанову выказацца ўсім без выключэння, бо сход павінен прыняць рэзалюцыю, за якую ўсе павінны несці адказнасць. Першы ўзяў слова Янка Чабор. Насаты, светлавалосы, зачасаны на рад, ён знешне быў падобны на Васіля, толькі быў больш рослы і насіў акуляры. Па натуры ён быў гарачы і гаварыў палка.

- Яшчэ ў мінулым годзе я заклікаў да стварэння пралетарскай пісьменніцкай арганізацыі. Вы, пэўна, чыталі гэты заклік у "Wjadomoscjach literackich". Тады такая прапанова была заўчасная, бо мы не мелі свайго друку. Цяпер у нас ёсць свая "Беларуская газета". Справа аб'яднання стала рэальная. Трэба аб'ядноўвацца на ідэйнай аснове марксізму. Калі год назад я паднімаў голас і руку за аб'яднанне пралетарскіх пісьменнікаў, дык сёння я паднімаю абедзве рухі за Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў...

Чабор згаджаўся з дакладчыкам, быў з ім заадно. Адукаваны і начытаны хлопец, які атрымаў адзін атэстат сталасці ў Віленскай беларускай гімназіі, а другі ў катаржнай турме за ўдзел у дэманстрацыі на пахаванні ахвяр рэвалюцыі, - Янка Чабор гаварыў складна і свабодна. Яго выступленне дало добры тон і ясны кірунак абмеркаванню даклада.

У спрэчках выступілі ўсе пагалоўна і ўсе падтрымалі дакладчыка: трэба гуртавацца пісьменнікам вёскі і горада, павышаць ідэйнасць тво-

раў, каб стаць на ўзроўні эпохі, трэба змагацца супроць класавых ворагаў у літаратуры, каб яны не атручвалі сваімі шкоднымі ідэямі маладняк.

Васіль зачытаў праект дэкларацыі Літаратурнага фронту сялянскіх і рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Сённяшні сход абвяшчаў сябе першым з'ездам гэтай арганізацыі. Прагаласавалі і рашылі, што заўтра ў рэдакцыі адбудзецца падпісанне дэкларацыі. Падпісваць павінен кожны сам за сябе.

Потым абмяркоўвалі пытанне пра выданне часопіса - органа літаратурнага фронту, які рашылі назваць "Літаратурнаю старонкай".

Гэтая частка сходу праходзіла не так афіцыйна, пілі чай, а аматары - піва. Да бутэлькі з гарэлкаю не дакрануліся: ахвотнікаў да "гары" не аказалася, а мо і быў хто, але стрымліваўся, дужа празаічна выглядаў бы гэты занятак пры такой узнёслай справе, якую яны рабілі.

Кожны ўносіў свае прапановы: які павінен быць гэты часопіс, якія павінен мець аддзелы і г. д. Тут былі пэўныя разыходжанні практычнага парадку. Каб не зацягваць гаворкі, рашылі выбраць рэдакцыю будучага часопіса і даручыць ёй дзейнічаць, кіруючыся духам і прынцыпамі, якія выпрацаваў з'езд. Рэдактарам абралі паэта Янку Чабора, сакратаром - Любу.

Разыходзіліся далёка за поўнач. На адыходак некаторыя пачалі абменьвацца адрасамі, каб у будучым падтрымліваць пісьмовую сувязь. Але Юрка ўмяшаўся ў гэтую справу і, як на яго манеры, даволі тактоўна папярэдзіў, што лепш не рабіць гэтага. Канспірацыя павінна быць строгая. На рэдакцыю вы можаце паспадзявацца, але ж і самі не падвядзіце.

Выходзілі па адным ды ішлі кожны на сваё месца начлегу.

Васіль і Лена засталіся начаваць у Любы. Стрымліваючы радаснае хваляванне, Васіль хадзіў па пакоі, зацягваўся папяросай.

- Ледаход пачаўся, - прамовіў ён. - Калі не скуе марозам - ачысціцца і паглыбіцца рэчышча нашай літаратуры....

- Лажыся, Васілёк, ты больш за ўсіх нас заслужыў сёння на адпачынак.

Назаўтра ў рэдакцыі было шумна: пасля падпісання дэкларацыі паэты чыталі свае вершы, спрачаліся. Лепшыя рэкамендавалі ў часопіс.

Пятрусь Граніт усё ж улучыў момант, каб запытаць у Міхася Васілька пра таго шчуплага хлапчука, яго цёзку.

- Міхась, хто гэты хлапец, што ўчора так складна гаварыў?

- Які хлапец, браточак? Каго ты маеш на ўвазе, вось гэтага Янку Чабора? - прыкінуўся, што не разумее, Міхась. - Чабора прозвішча Патаповіч, ён - студэнт, здаецца, ці нешта ў гэтым родзе.

- Ды не, я пра таго пытаю, учарашняга, таго доктара, ці як ты яго назваў. Ну, пра Васіля, дакладчыка.

- А ён, братко, калі табе праўду сказаць, такі Васіль, як я міністар.

- А хто ж ён?

- Ай, даражэнькі чалавеча, хочаш ты граху на маю душу, каб цябе качкі затапталі. Што з табою зробіш, толькі - ша! - паміж намі. Ладна?

- Ну, ты маленькага знайшоў, - абурыўся Іван.

- Не крыўдуй, браце. Толькі табе як Граніту гавару - ніякі ён не Васіль, а Валянцін Таўлай. Сам паэт, і можа лепшы, чым мы з табою разам узятыя, хоць ты і скала гранітная. Вось што. Тутэйшы ён, але ў Саветах вучыўся, таму і такі разумны. А болей, браточак, прасі ні прасі, пытай ні пытай - нават табе не скажу, хоць ты скала гранітная.

## Гавораць дакументы

Над Цэнтрам нацыянальна-вызваленчага руху і яго друкаванымі органамі згушчаліся хмары. Чым большую актыўнасць праяўлялі арганізатары, тым больш зацята сачыла за іх дзейнасцю паліцыя.

Улады забілі трывогу, бо следчым органам ніяк не ўдавалася заслаць сваю агентуру ў групу і яны абмяжоўваліся толькі ўзмоцненым знешнім наглядам. У цыркуляры пастаўскага каменданта паліцыі ад 17 сакавіка 1933 года гаворыцца: "...асобы, якія прымаюць удзел у акцыі Цэнтра нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі, да гэтага часу яшчэ не "распрацаваны". Звяртаю ўвагу на неабходнасць дэталёвага расследавання праяў гэтай дзейнасці"[1].

29 ліпеня 1933 года пастаўскі камендант дае загад па гарнізонах паліцыі свайго павета: "...весці агентурную разведку на вашым участку, ці не прысылаецца на пошце "Беларуская газета".

Выдаўцом і галоўным рэдактарам названага часопіса з'яўляецца Аляксандр Карповіч, праваслаўны, беларус, нежанаты, інжынер, скончыў вучобу ў Празе чэшскай... і падтрымліваў кантакты з людзьмі, западозранымі ў падрыўной дзейнасці.

У сувязі з гэтым узнікае абгрунтаванае падазрэнне, што "Беларуская газета" з'яўляецца легальным органам КПЗБ...

Паведамляючы гэта, даручаю камендантам гарнізонаў даносіць мне і пану старасту аб перасылцы "Беларускай газеты" і адначасна

[1] Дзяржархіў Мінскай вобл., аддз. у Маладзечна, ф. р-92, воп. 1, спр. 329, арк. 84.

ўказваць прозвішча адрасата" [1].

Канспірацыя ў Цэнтры была наладжана, трэба сказаць, узорна. Хто ведае, можа памагала тут і павышаная пільнасць Юркі ды і ўсяго падполля, але галоўнае - вопытнасць і палітычная культура ўдзельнікаў групы. Усё, што атрымалі сыскныя органы, было здабыта звонку, а не знутры, і то пераважна па чыстай выпадковасці.

Падсцёбнутая начальствам віленская тайная паліцыя віжавала як ніколі заядла і пару разоў наткнулася на схованкі лістовак, прыхаваных кур'ерамі часова перад адпраўкай іх на раён. Але шапірограф Цэнтра дзейнічаў. Толькі за сем дзён да пісьменніцкага з'езду паліцыі пашанцавала. 3 снежня 1933 года, праводячы вобыск у віленскага беспрацоўнага Івана Цімафеева, зусім нечакана паліцэйскі патруль знайшоў 12 чыстых клішэ для шапірографа, кальку і некалькі пачкаў чыстай паперы. У суседняй кватэры Кудзіновічаў аказаўся і шапірограф, якога так даўно шукалі. Але ніводнай лістоўкі, ніводнай брашуры. Не быў затрыманы ніхто з супрацоўнікаў падпольнага выдавецтва.

Партыйнае кіраўніцтва было насцярожана і тым, што на з'езд не з'явіліся пісьменнікі Мікола Засім, Сяргей Юравец, Анатоль Іверс. Неўзабаве стала вядома, што іх затрымала паліцыя на месцах і не дапусціла ў Вільню.

Якубу Міско партыйнае кіраўніцтва загадала перайсці ў глыбокае падполле. Гэта ж распараджэнне Юрка перадаў неўзабаве пасля з'езду і Валянціну Таўлаю.

Сам Юрка з'ехаў на некаторы час з Вільні і сачыў, ці даведаецца паліцыя аб сувязі шапірографнага выдавецтва з газетай. Юрка не драмаў, ён дзейнічаў. Адліжнай ноччу вёў яго па лясных сцежках сакратар Свіслацкага райкама Язэп Жыўлюк з вёскі Раманаўцы ў Зарачаны на сход ячэйкі. Пад нагамі хлюпала снегавое месіва. Дзіравыя боты Жыўлюка пасвіствалі і чмякалі.

- Боты, ліха ім, неважнецкія, прамок у ногі, холадна, - паскардзіўся сакратар.

- Ды ты не выдумляй, - жартаваў Юрка. - У адну дзірку нацячэ, праз другую выцеча, а нага - сухая! Так што не дурыся, таварыш... А ведаеш, што я табе хачу сказаць: пераязджай у Вільню, апінія ў цябе покуль што добрая, станеш працаваць у "Беларускай газеце", мо і рэдактарам зробім. Хочаш? Тады і боты справім. Ну, згодзен?

- Падумаю.

---

[1] Дзяржархіў Мінскай вобл., аддз. у Маладзечна, ф. р-92, воп. 1, спр. 329, арк. 45.

- Чаго доўга думаць, вось на сходзе перадай справы, каму скажуць таварышы, ды - гайда. Індык думаў, думаў ды здох, чуў прыказку?

- Чуў, але крыху падумаць трэба.

- Ладна, запомні адрас і пароль.

**Кірмаш**[1]

*У гэтым урыўку дакументальнай аповесці пра паэта-рэвалюцыянера Валянціна Таўлая апісана сустрэча галоўнага героя са сваім сябрам па Лукішскай і Гродзенскай турмах Васілём Аляксандравічам Ражко, якая мела месца ў першыя месяцы нямецкай акупацыі і дала пачатак падпольнай антыфашысцкай групе, створанай Таўлаем у Навагрудку.*

*У групу таксама ўваходзілі: сябар школьных гадоў паэта Леанід Аляксандравіч Барысаглебскі і таварышы па КПЗБ і турмах Кацярына Сцяпанаўна Главінская, Аляксандр Сямёновіч Кляпацкі, Уладзімір Ігнатавіч Вайніла, прысланы з-за лініі фронту капітан войск НКУС Павел Фаміч Адынец, таксама знаёмы Таўлаю па Гродзенскай турме.*

*Апошні быў неўзабаве схоплены жандармамі пры спробе дыверсіі ў Навагрудскім вайсковым гарадку, уцёк з-пад канвоя і пры дапамозе Таўлая і блізкіх яму людзей - настаўніцы Гаравіцкай школы Ганны Мікалаеўны Васілеўскай, селяніна вёскі Палужжа Уладзіміра Іванавіча Ханько - быў схаваны і вывезены за межы Навагрудчыны і апынуўся ў атрадах партызан на Палессі, пасля ранення быў перапраўлены на "вялікую зямлю", потым зноў у тыл ворага. Адынец загінуў у Ліпічанскай пушчы ў красавіку 1944 года.*

*Уладзімір Вайніла быў расстраляны паліцыяй. Астатнія ўдзельнікі групы дзейнічалі да канца вайны на Навагрудчыне, дапамагаючы Валянціну Таўлаю ў зборы разведзвестак для партызанскага атрада імя Катоўскага, а са студзеня 1944 года і для спецгрупы "Буравеснік", якою камандваў маёр Павел Ігнатавіч Лыскоў, псеўданім "Валеры".*

*Аўтар.*

Першыя тыдні пасля прыходу немцаў наваградскі рынак пуста-

[1] Твор быў змешчаны ў газеце "Літаратура і мастацтва" за 21 лютага 1969 года.

ваў. Горад, нібы чалавек пад растрэлам, зацяў дыханне. Але жывое мусіць дыхаць, прайсцейшыя патрэбы жыцця напіралі: абысці іх не мог ніхто. Чым элементарнейшая патрэба, тым больш яна неадольная. Паспрабуй не есці, не адзявацца… Не курыць, і то для курца пакута, з якой не кожны справіцца. Раскатурханыя настырнымі вымогамі бытавання, людзі пацягнуліся туды, дзе спрадвеку заведзена было набываць прадметы першай патрэбы. Спачатку нясмела папаўзлі адны гаражанкі, потым, разведаўшы памалу, што для гандлю вялікага страху няма, на кірмаш папхалася вёска.

Пайшла мена.

Час нібы адступіў на тысячы гадоў назад. Старажытная гара Міндоўга, ля падножжа якой ляжаў наваградскі рынак, панура ўспамінала даўніну.

Калі тое было, што натуральны абмен панаваў на рынку? Даўно ўжо мена саступіла месца грошам, і толькі ў нейкія выключныя гады жыццё вярталася да аджытага. Тутэйшым старажылам такія павароты запаміналіся: першая сусветная вайна, потым гады разрухі, потым крызіс трыццаць трэцяга. Заўжды паяўлялася мена - спешны паратунак ад застою і голаду.

І вось зноў:

- Што прадаеш, чалавеча?

- Пуд мукі ржаное.

- Колькі просіш?

- Ты спытай, на што мяняеш, то мо старгуемся…

- Ну дык я і пытаю, што хочаш?

- А хто яго ведае, што табе сказаць. Гавары, што маеш.

- Не, ты спярша - што просіш.

- Што ж тут запрасіць, каб не пакрыўдзіць - га? Трэба якія чаравікі ці тухлі дзяўчыне, да зарэзу трэба; каптан зімовы хлопцу - з пастушка ростам. А што людзі дадуць - хто ж яго ведае, за гэты пуд мукі…

Грошы не толькі страцілі цану, а сталі ўтрапеннем чалавека на кірмашы.

Немцы прымушалі браць грошы сілаю: падступаў жандар да чалавека, забіраў масла, сала ці яйкі і тыцкаў "грошы". Каб хоць савецкія рублі, іх можна было б прыхаваць да лепшых дзён, а то сучылі акупанцкія маркі, паперкі, што не мелі навад ходу ў Германіі! А тут і ўвогуле не было магазінаў, дзе можна хоць што колечы купіць за іх. Гарадскія жыхары, праўда, разлічваліся маркамі за хлебны паёк. Але ўвесь паёк - па трыста грамаў на едака! Многа тут грошай трэба?.. Бяда, што за грошы, ды не купіш. Пайкі спачатку адпускалі па пашпартах, потым увялі карт-

кі - маленькія талончыкі, падобныя на паштовыя маркі, на якіх стаяла матчынае слова "Хлеб". Займець бы лішнюю картку! А то грошы… Вяскоўцам, дык і ўвогуле такія грошы былі не патрэбны. Хіба толькі які дзівак-чалавек, што хаваў у скрыні яшчэ "кацярынкі", "керанкі", савецкія з дваццатага года, потым польскія, ізноў савецкія з трыццаць дзевятага, - хіба толькі такі мог зараз прадаць прадукт за грошы.

З надзеяй на чалавека, які прадасць за грошы, хадзіў па рынку Валянцін Таўлай. Хацелася есці і курыць. Смактала пад лыжачкай, туманілася і кружылася галава. Валянцін апытваў многіх прадаўцоў, але прадаць на грошы ніхто не хацеў.

Не харч, а нават посуд ішоў толькі на мену.

- Гарнушкі пачапаўскія, не б'юцца і ў агні не пэнкаюць! - зазываў людзей пажылы гаманлівы ганчар. - Купляйце, людзі добрыя! Як задарма! Насып гарнушак за гарнушак. Ці жытам, ці ярынкаю - усякаю пашнінкаю. Купляйце!

Пры адным упаміне пра грошы ніклі твары людзей: баяліся, каб не нанесла "тайнага", бо грошы сілком сучылі толькі жандары, паліцаі ды шпікі.

Настрой у Валянціна быў паганы: памятнае з турэмных год бяссілле жаданняў… Ды там было куды лягчэй зносіць гэтыя пакуты: турэмныя краты, абабітыя жалезам дзверы, глухія муры запіралі думку, скоўвалі волю і неяк памагалі сціснуцца целам і душою, задушыць жаданні, нават элементарныя: голад, ахвоту закурыць. Цяпер чалавек быў нібыта на волі, а заставаўся яшчэ больш бяссільным, як там. Ды што раўняць: там - калектыў, а тут - адзін, сапраўды Паўлюк Сірата, д'ябал падказаў калісьці гэты псеўданім.

Ранкі на Наваградчыне халодныя. Валянцін праціснуўся паміж вазоў, тулячы галаву ў абшмуляны каўнер пінжака. Ужо хацеў вяртацца назад да Алеся. Надзея рэалізаваць свае шэсць чырвонцаў, што заваляліся ў кішэні, прапала. А так хацелася прынесці хоць які ласунак Алесевай дачцы ды і самому разгавецца хоць жменькай "карашкоў" - таўчонага тытунёвага цаціўя.

- Чаравічкі-невялічкі для дзеўкі і маладзічкі! Налятай, жаніх!

Валянцін спыніўся. Ён любіў яшчэ гімназістам прыслухоўвацца да рэкламных раешнікаў у Вільні на Казюковым кірмашы. Сёння ж балбатня гандляроў раздражала, нейкім цынізмам несла ад бяздумнай весялосці. Але ён перамог сябе і стаў слухаць.

- Чобаты, чобаты вы мае, - выкрыкваў нейкі шыракароты балбатун, - нарабілі клопату ды вы мне! Каб не тыя чобаты, што зяць даў, ды за тыя чобаты дочку ўзяў. Чобаты, чобаты вы мае!..

І раптам за спіною пачуўся мяккі, знаёмы голас:

- Валянцін?..

Ён павярнуўся. Перад ім стаяў чалавек сярэдняга росту. Бледны твар. З-пад кепкі выдаваўся шырокі падлыселы лоб. Здзіўлена пазіралі блакітныя вочы, такія балесныя, як у дзяўчынкі-сіроткі.

- Васіль!..

- Няўжо ж! Я. Вось цябе ніяк не спадзяваўся… Каго-каго, а цябе тут, ну проста - як гара з гарою…

- А я цябе шукаў, - неспадзявана для сябе вымавіў Таўлай і адчуў, што гэта сапраўды так, што шукаў-такі блізкае душы ў рыначным натоўпе. - Чаму ж ты такі благі, Васіль, як з таго свету?

- Ты ўгадаў, - адтуль і выйшаў. А сам таксама выглядаеш…

Гэта быў Васіль Ражко. Сябры абняліся, прыцягваючы чуласцю прывітання цікаўныя позіркі. Каб не збіраць вакол сябе раззяў, яны сышлі ўбок і разгаварыліся.

- Я, братко, так рады і нават табе зайдрошчу, - жаліўся Васіль, - усё ж не так тут цябе ведаюць. А я - і дома, і ва ўцёках. Як заяц пад кустом. Надаеў, брацце, ужо і родным і няродным. І самому агоркла туляцца па гумнах. Ніводнай ночы дома не начую. Вось забрыў на кірмаш, а чаго, спытай - то, даль бог, не ведаю. Бяда гоніць у рух. На нешта спадзяешся, абы не на месцы… Змардаваўся, ох і змардаваўся - ушчэнт. Не магу ўжо… Добра, што цябе хоць сустрэў, як кажуць, друга па няшчасці. Ды табе, скажы, Валянцін, усё ж не так? За табою не палююць? А я ў любы мамэнт магу нарвацца. Давай сыдзем куды, што мы гэта так, на відавоку…

- Нейкі ты як не той, Васіль? Такі вынослівы палітзак быў! Яшчэ і мяне вучыў у галадоўку вашу наваградскую.

Наблізіўшыся да Васіля, Таўлай у паўголаса праскандзіраваў:

Нас не зломіць нядоля ліхая,

Не сагнемся прад ёю дугой…

Так, здаецца, таварыш Ражко?

- Ці-іх… - Васіль тузануў Валянціна за рукаў. - Я табе заўжды казаў, што не асцярожны ты. І ціхмяны ж, здаецца, такі, а што асцярогі - ні на макулінку. Пойдзем, братко, адгэтуль, покі не позно. А то, даспяваемасё, як тая курыца перад вялікаднем.

- Дык жа курыць ахвота. Душа смягне. Ты ж можаш…

- От яшчэ клопат! Як малое дзіцця… Ну, ладна, пастой тут. Я, авось…

Васіль вярнуўся і падаў добрыя шчопаці едкага накрышанага самасаду. Яны паглядзелі адзін аднаму ў вочы, як змоўшчыкі, усміхнуліся

той усмешкай, што мацней грэе за самыя цёплыя словы.

Завулкамі сябры пайшлі ў кірунку фарнага касцёла, выглянулі на замчышча, перабраліся цераз вал і прылеглі за ім у гушчары маладога парку на сухім подсцілле асенняга лісту. Немцы сюды не заходзілі. Яны лепш адчувалі сябе на самай гары, ля вежаў. Валянцін папрасіў расказаць пра знаёмых палітзакаў з Наваградчыны: ён ведаў, якая палёгка ў такі момант чалавеку - выгаварыцца; у размове пра сяброў чалавек пазбываецца цяжару адзіноты і бяссілля. У Ражка, відаць, душа была перагружана пакутлівымі ўражаннямі, бо, паабяцаўшы расказаць пра сяброў, - а як жа, братко, ведаю сёе-тое пра нашых хлопцаў, нават пра тых, што ты і не здагадваешся, - ён павёў гаворку пра сваё, перажытае, пра першыя дні вайны. Уздрыгваючы ад хвалявання, нібы перажыў усё спачатку, нібы апраўдваўся і хацеў пачуць словы пацехі, ён гаварыў:

- Прыбег я дамоў. Яшчэ нашы тут былі. Усе на месцах. Але ўжо сумятня, паніка, неразбярыха. Як у пекле. Адыходзіла і войска, і цывільныя - усе разам - з-пад граніцы. А ў Шчорсах у нас актывісты на чаку: ждуць распараджэння. Так і не дачакаліся. Я з групай хлопцаў рашыў у Любчу, у раён, даведацца, што рабіць. І раптам каля Сенна, вёсачка такая тут недалёчка, ідзём і сустракаем… Не здагадаешся, Валянцін, каго?

Васілёў твар прасвятлеў, вочы ажылі ранейшым бляскам, ён ужо расказваў пра ваенную завіруху, як пра нешта рэальнае. Чалавек, відаць, здолеў крыху паслабіць нервы, напятыя да адказу. Седзячы побач з сябрам, схаваны ад чужых вачэй, ён адчуваў сябе амаль шчаслівым. Валянцін таксама. Прагнаўшы васілёвым самасадам голад, ён слухаў з той урачыстай дабратою ў душы, якая наступала кожны раз, калі здаралася памагаць сябрам вызваліцца ад грузу трывог, страху, дэпрэсіі.

Праўда, цяпер у самаго не было той упэўненасці, што раней. Бывала, ён адчуваў сябе свабоднаю птушкай, жаўруком вялікай ідэі. Горыч сяброўскіх сэрцаў, якія не маглі яшчэ парваць сваёй сувязі з домам, сям'ёй, звычкамі клапатлівага дамашняга жыцця, і міжвольна, сваёй тугою па ўсім гэтым, уносілі нейкі дысананс у суровы турэмны калектыў, - была яму зразумелай. Ён шкадаваў сяброў і памагаў ім, адчуваючы сваё права на гэтую дапамогу, права ветэрана, права чалавека, які з дзіцячых год перамог сябе дзеля ідэі. Цяпер жа, як толькі ён спрабаваў стаць духоўным дарадчыкам, у сэрца закрадвалася збянтэжанасць, прычыны якой нельга было зразумець. Варта было адчуваць сябе дужэйшым за Васіля і толькі намерыцца прыняць частку яго непасільнае ношы, як адразу апаноўвала скруха і няяснае жаданне ісці шукаць яе, сяброўку жыцця, якую абавязаны быў уладкаваць у

гэтым ашалелым свеце перш за ўсё, умацаваць веру, не для яе, а для сябе, каб мець поўнае права памагаць іншым, умацоўваць усіх, як вось і цяпер - гэтага, змардаванага жахамі лёсу сябра.

- Ты чуеш мяне, Валянцін? - настойваў Ражко на сваёй загадцы. - Мусіць пра нешта сваё думаеш? Не чуеш? Каго я мог спаткаць, га?

- Чаму ж…, - ачнуўся Валянцін, - я думаю… Кацю Главінскую, яна ж адгэтуль, здаецца, - Валянцін зусім нечакана назваў прозвішча іх агульнай знаёмай.

- Не, не яе братко. Давялося чуць, што яна тут, недзе хаваецца, але там была не яна.

- Тады не ведаю.

- Я і казаў, што не ўгадаеш, - ажывіўся Васіль. - Пестрака.

- Няўжо! Дзе ж ён?

- Пастой. Падыходзім мы да Сенна. Людзей розных на дарогах - каб ты толькі бачыў! Ужо нават не звяртаеш увагі на нікога - працiскаешся, абы прабрацца. Ажно бачу, сядзіць пад прысадаю група. Я - зірк… Адзін твар знаёмы. Прыглядзеўся і пазнаў, адразу пазнаў. Пiлiп Пестрак! А побач жонка яго з дзіцем і яшчэ пару чалавек бежанцаў. Я да іх. Давай мы вітацца, абдымацца. І ведаеш, што мне расказалі? У іх блізняткі нарадзіліся, ты чуў?

- Бачыў, не толькі чуў. Я ж перад вайною ездзіў у Беласток. Зборнік мой там рыхтавалі да друку з Піліпавай і Максімавай дапамогай.

- Ты з Беластока - у Ліду, а я з Быценя, - падхапіў Васіль. - Прабіраліся ўсім гарфа. Бамбёжка рассеяла, разагнала, каго куды. Я дамоў прыбіўся і думаў са сваімі хлопцамі адыходзіць. А тут Пестрак… Дык, браце, у іх такая бяда!.. Як хаваліся ад бамбёжкі, нехта спадарожны адно іхняе дзіця падхапіў на рукі - памагчы ім. А ноч, адбіўся недзе з дзіцем. Прапала малеча! Вельмі гаруюць яны. Думаў, як ім дапамагчы, каб хоць вырваліся. Павёў у сваю вёску, у Балотца, угаварыў суседа свайго, Барэйку, падвесці іх. Казаў той чалавек, што давёз іх амаль да Стоўбцаў абалоннем, уздоўж Нёмана. А там бамбёжка ізноў. Усе разбегліся. Падводчык, мабыць, драпануў з перапуду. Дарма на Стоўбцы паехалі. Трэ было на Рубяжэвічы, цераз пушчу… Нашым старым падпольным шляхам. Я тудою, як быў сакратаром у Шчорсаўскім райкаме, усю літаратуру з Мінска прымаў. Колькі разоў самому хадзіць да старой савецкай граніцы прыходзілася, і ўдачна. Мясціны глухія. А, мо', якім спосабам і прарваўся Пестрак? Не ўгадаеш, кудою яно лепш… у такі час…

- Хай бы хоць ім пашанцавала, - услых падумаў Валянцін і адчуў нейкую як бы сваю вінаватасць, што сам не меў дзяцей і што яму з Кі-

рай лягчэй за многіх давялося пераржыць страшны час перамены. Ізноў ён убачыў сябе як бы недагружаным цяжарам жыцця і змагання ў параўнанні з Пестраком - вялікім пакутнікам і змаганцам сярод заходнебеларускіх паэтаў, іхнім нязменным турэмным старастам, аскетычным і бескампрамісным чалавекам, перад якім неяк заўсёды бянтэжыўся, як малодшы перад старэйшым. Бянтэжыўся і ў душы пабойваўся. "Што сказаў бы Піліп, каб паслухаў тут нас?" Крытыкаваў бы за слемазарнасць? Патрабаваў бы пратэставаць?.. Па спіне прабегла дрыготная гарачая хваля. Ён заўважыў, што яны даўно маўчаць, і неяк наспех і з удзячнасцю сказаў Васілю:

- Не бядуй, усіх бядот не перабядуеш. Ты зрабіў усё, што мог. Як жа ты там застаўся?

- Так і застаўся. Мянташыліся, мянташыліся ды бачым, што засталіся… Позна агледзеліся. Каб жа чалавек тое ліха ведаў, дык уцячы яно можна было. Хоць, сказаць па праўдзе, і там нас не вельмі чакалі - такіх сваякоў-заходнікаў… Нашы некаторыя, што шпарчэйшыя былі, то з-пад старой граніцы вярнуліся. Неяк і абідна было: савецкая ўласць і ўцякаць, усё на бабах кінуўшы - не ганарова… Завіхаліся, спадзяваліся: а ну ж, яшчэ нашы здачы немцу дадуць. Так і дачакалася баба Пятра - сыр есці. Паверыш, на валаску жывы застаўся.

- Кругом, браце, такое, хіба толькі у вас…

- У трыццаць дзевятым мы з табою цэлы верасень у Гродне былі. У баявой дружыне - памятаеш? А тут, ля Шчорсаў, тады дзень ці два, як нашы вызвалілі, было без улады. Я табе, здаецца, гаварыў, як у цябе ў Лідзе спыняўся, што нашы шчарсуны-падпольшчыкі тады стаўпецкага каменданта і заадно і шчорсоўскага войта сваім правам на той свет справадзілі? Гнеў накіпеў - расправіліся… А там знайшліся атлёты, што яшчэ пад гарачую руку давай і таго, каго падазравалі як даносчыкаў… І солтысавага сына - знаеш… гэты, во, браток, як бы нявінна… Так расправіўся люд - бяда! А ў кожнага родзічы… Хто б ён не быў, а свой за свайго стаіць. І захадзілі вось цяперака, як немцы занялі. А тут яшчэ збайкатаваны адзін настаўнічак-гіцаль ды млынарова Манька, ды яшчэ шантрапа ўсялякая спіскі, кажуць, напісалі, карнікаў наклікалі. Пахапалі на трэці дзень нас усіх, актывістаў, чалавек больш трох дзесяткаў. Усіх загалам. Заперлі ў графскім маёнтку пад стражу. Пахожа, як нас тады палітзакаў, у Гродне, палякі ў верасні. Ды не, не тое: палякі ўсё ж разбіраліся, хоць для віду. Прысуд нейкі там выносілі… А тут!... Тры дні чакаем без яды, без вады пад аховай. Прыйшлі немцы. Выстраілі ўсіх ля графскага амбара пад сцяну, вачыма да муру і давай браць па адным. Спытае не ў чалавека, а ў паліцыі: "Хто гэты?" "Актывіст, камуніст".

"Адвясці!" Навальваюцца гуртам і - прыкладамі па галаве, па галаве… Акрывавяць. І ляжачага б'юць. А тады падымуць і да другое сцяны тварам ставяць.

Падышла да мяне чарга. Немец пытае праз перакладчыка: "Кім гэты быў?" - Маўчаць. "Хто яго прывёў?" Маўчаць. А я, братко, стаю і не дыхаю. Абмерла ўсё. На шчасце маё, паліцэйскі, што мяне прывёў, недзе павалокся. "У сторану" ,- загадвае жандар. Такіх набралося нямнога - чалавекі чатыры. Адвялі нас і разам з байцамі-палоннымі заперлі ў школе. Астатніх пагналі на расстрэл. У парк. Ты ўяўляеш, як гэта паражыць, браток ты мой!.. І чуем мы, закрычалі там хлопцы пад расстрэлам як бы "ура!" А потым залп… А яны ізноў "ура!" - толькі цішэй, з енкам. Тады другі залп… - усё… Толькі вараннё як закрумчыць…Убягае тут на дзядзіцец жонка аднаго нашага хлопца, Надзя Каляда. З вузялком у руках. Мусіць перадачу хацела цераз ахмістрыню графскую перадаць. Як пачула ўсё - дык і аслупянела… А нехта з палонных паказаў ёй праз акно рыдлёўку, а потым рукі накрыж зложыў… Дык у яе ногі так і падкасіліся. А немец дула наставіў і да яе. Шчасце, што ахмістрыня надышла графская. Выхапіла ў Надзі вузялок і нешта паказвае, нешта гаворыць немчуры. Адбараніла. За шыю яе абняла і павяла да сябе ў флігель, як сонную вяла…

Валянцін перавёў позірк удалячынь: скруха і боль, пакутлівая бяссільная нянавісць падняліся ў душы і не мелі выйсця. Перад вачыма ўсталі чатыры высокія чырвоныя цагляныя сцяны і пасярэдзіне роспачны сілуэт жанчыны… На момант ён выразна ўбачыў яе твар і жахнуўся: гэта быў твар мачыхі, цёткі Стэфы, скрыўлены болем і жахам твар… Потым здалося, што гэта Каця, яе спалоханыя вочы, як у час расстання, урэшце, перасільваючы тыя здані, выплыла яна - Кіра. Як заўсёды, дзёрзкая, з сівой пасмай у чорных па-хлапечы стрыжаных валасах. Яму хацелася памкнуцца да яе, пазваць, але ж як толькі акрэслілася гэта жаданне - усё знікла… Толькі душа пакутліва смылела і часта з болем стукала сэрца. Ён усёй істотай разумеў, што з гэтых пакут не можа быць іншага выйсця, як толькі адно - паўстаць! Хоць загінуць, але не цярпець у бяздзейнасці.

Ад зямлі цягнула холадам. Валянцін павярнуўся на жывот, падставіў сонцу азяблы бок. Запахла цепкім водарам прэлага лісту.

- А я ўсё сяджу пад каравулам, - цягнуў Васіль. - Стаў прасіць аднаго з ахраны - усе ж, падлы, знаёмыя, тутэйшыя. Перадай, - кажу, майму бацьку: хай сходзіць да такога і такога паліцыянта ды пагаворыць, спытае, за што ён мяне сюды запякаў. Перадалі неяк. Бацька мой бягом да таго самага… Не ведаю, што там яму стары казаў, але такі дадзеў, му-

сіць. Стала таму ці брыдка, ці боязна, гарэчня яго там ведае. Бо то ж упершыню са сваіх жа вёсак ды столькі людзей загубілі… Ну, адным словам, не рашыўся ён даканаць мяне. Так і выпусцілі. Пасля таго я на вочы ім не паказваўся: па гумнах усё, ды па гумнах… Але ж і гэта не выхад. Яшчэ больш падазронасці на сябе набярэш… Думаў прайшоў самы хапун. Пранясло. Выйшаў. А мяне ізноў - цоп! - арыштавалі… Сам камендант удае немцам, што камуніст. То яшчэ шчасце маё, што вайсковы білет пры мне быў. Дастаю, глядзіце - беспартыйны. У цябе, Валя, таксама, ці ты аформіўся?

- Не паспеў…

- Дык вось гэта і мяне выбавіло. Ой, ці толькі надоўга? Ведаю, што сыходзіць павінен з дому, бадай яны сышлі кроўю. Трэба недзе неяк уладзіцца здалёк ад дому. Нічога не папішаш…

Да Васіля вярталася звычная яму сялянская разважлівасць і практычнасць. Чалавек мацней пачуў сябе на зямлі. Валянціну гэта спадабалася.

- Ты праўду кажаш: фашысты баяцца людзей бескантрольных. Не дадуць яны жыцця такім. Ведаюць, чым гэта пахне. Загад за загадам у горадзе, каб усе ішлі на працу. Пад пагрозай смерці…

- Дык вось жа… Дзе тую працу знойдзеш, - закавыка. Да гаспадара дзе прыладзіцца - набралі ўжо васточнікаў, хто меўся браць. Ды і падазронасць застанецца: чаму сам з вёскі, а дома не жывеш?..

- Я, здаецца, магу табе крыху дапамагчы, Васіль. Алесь Карповіч, інжынер, помніш, сядзеў на Лукішках, - абяцаў мяне ўладкаваць. Папрашу заадно для цябе. Ён чалавек памяркоўны, не адмовіць, паможа замаскавацца. А гэта цяпер самае галоўнае. Іх палітыка - вынішчаць самых актыўных, запалохаць народ, каб потым панукаць перапуджанымі людзьмі, як быдлам. Гэта д'ябальская тактыка. - Валянцін змоўк, засяроджана пра нешта думаючы. Потым глянуў на Васіля і загаварыў настойліва:

- Слухай, Васіль. Ты ж тутэйшы, шмат людзей нашых ведаеш. Усіх не знішчылі. Мы жывыя, значыць, ёсць і яшчэ. Трэба дзейнічаць. Даведацца пра настроі і згуртоўвацца паціху. Сувязі трэба ладзіць. Яны нам - як паветра… Асабліва з тымі, што маюць вопыт. Але, вядома, вельмі, вельмі асцярожна. На ражон не трэба лезці.

- Гэта так. Засталося нашых, вядома. Чаму ж. Вось у Падкасоўі мая сястра замужам. Да яе збіраюся ісці. Там ёсць некалькі хлопцаўдружбакоў…

- Добра. Пакуль Алесь тут будзе тое-сёе рабіць для нас… схадзі ты. Справа вартая. І пільная. Справа лёсу. Не нашага з табою, а ўсіх

чэсных людзей. Ведаеш, які дэвіз фашысты маюць: "Хто не зможа заарганізавацца супраць нас - той будзе з намі". Так што мы не толькі замаскіравацца, а павіны гуртавацца і дзейнічаць як мага хутчэй. Але як пойдзем да Карповіча, пра нашы намеры нічога не гавары. Не трэба яго страшыць. Ты ў яго ніколі не быў?

- Не даводзілася.

- Дык улічы, жонка яго вельмі набожная. Здаецца, ці не ў манашкі калісь збіралася. Глядзі, каб не абразіць пачуццяў. Ну, а сам Алесь, як і быў, - свой чалавек. Толькі напалоханы ўсім. Ён па натуры карэктны, мяккі, дык тут добра з людзьмі жыве. Нават з тымі, хто на вялікія пасады забраўся. Гэта трэба мець на ўвазе. А ў наступную нядзелю пабачымся. Прыходзь проста да яго. Я з ім пагутару наконт цябе, папярэджу. Слонімская вуліца. Сорак пяты нумар.

Можна было б і разысціся, але Валянцін бачыў, што Васіль хоча яшчэ нешта сказаць, а мо вызнаць нешта, ды не рашаецца. Валянцін закурыў ужо на адыход. Павагаўшыся, Васіль загаварыў, гледзячы некуды ў бок:

- Ну, чаму ж так сталася? Растлумач, браце, ты ж такі болей вучоны. Так жа верылі… А выйшла самахвальства ці што: мы разаб'ём любога ворага на яго тэрыторыі… І нас, капазэбаўцаў, не лічылі камуністамі. А немцы вунь лічаць - знішчаюць… Горка, братко, усё такое, як падумаеш, да слёз горка і абідна. Так іншы раз абідна, што хоць на сябе рукі налажы. На чым мы ў падполлі трымаліся? На чэснасці. І верылі сваім…

Заморгалі, памакрэлі васілёвыя вочы-сіроткі. Здавалася, што ён вось-вось расплачацца. Валянцін улучыў паўзу ў гаворцы і прамовіў як мага спакайней:

- У ходзе вайны ўсё стане на месца. Перамагчы такога ворага без даверу нельга. Ты ж чуў Сталіна па радыё? Звяртаўся да народа.

- Дзе мне чуць. У нас паліцыя ўсё радыё пабрала.

- А я слухаў. У Скрыбаве, у бацькі. Аказваецца, ужо ёсць шмат партызанскіх атрадаў…

- Дай бог, каб тое, што ты кажаш, не было толькі нашым хаценнем.

- Гэта, браце, хаценне агульнае: і наша і ўсіх чэсных людзей, усяго народа і партыі. Такія хаценні збываюцца. Нават гэта не хаценні, а жалезны закон жыцця. Вораг дэмагогію сее - ад калгасаў, маўляў, вызваліў, ад паставак, ад жыдоў… Трэба выкрываць дэмагогію. Бярэ пастаўкі не толькі зернем, не толькі жывёлай - а людзьмі, кроўю людскою. Яўрэямі расчынілі, а беларусамі, славянамі замесяць гэтае цеста… Вось што трэ гаварыць. Толькі адзін на адзін, па даверы. А слова перадасца.

Народ прагны праўдзівага слова.

- Яно, пэўне, так… А хіба я не кажу слова? Мо', не так хлёстка, але сваім кажу…

Васіль уздыхнуў. Пачаў распытваць Таўлая пра яго вершы. Каб не даваць новага поваду для прыкрых развагь, Валянцін не расказаў яму пра сваю незваротную страту. Сказаў, што вершы ў надзейным месцы.

- Скончыцца вайна, дастану і надрукую. А мо і раней надрукуем… Як пастараемся з табою, Васіль!..

- Ты, братко, духам цвёрды, хоць і ціхі. Добра з табою. Як вады жывое напіўся. Аж раставацца не хочацца. Так бы і сядзеў тут… Ну, яшчэ пра адно спытаю. Як жа яна, жонка твая? Што? Дзе? Баяўся пытацца, але бачу, што ты не паў духам, дык думаю, давай спытаю…

- Жывая. Жывая… У сваіх людзей.

Валянцін запэўніў сябра, а сам адчуў, як пахаладзела ўсё ўнутры. Перавёў позірк удаль, і само вырвалася, ужо менш упэўнена:

- Веру, што жыве і выжыве.

- Я рады, што хоць так… Не буду выпытваць, дзе і што. Бо ў такіх справах ведаць зашмат нікому не трэба. Мы, старыя падпольшчыкі, сабаку, як кажуць, на канспірацыі з'елі, і не аднаго.

- Давай дамовімся, што гэтая наша сустрэча і размова - пачатак новага падполля. Згодзен?

- Пэўне. Даю руку - во!..

# Вера Навіцкая

*Вера Сяргееўна Навіцкая, народжаная Шыльдэр-Шульднер (1873? - 19??, з рускіх, віцебскіх немцаў), каля 1890 г. скончыла Ліцейную жаночую гімназію ў Пецярбургу. Выйшла замуж за Аляксандра Уладзіміравіча Махцэвіча, які служыў у 107-м Траецкім пяхотным палку ў Вільні, у 1899-м г. выйшаў у адстаўку і з 24 кастрычніка таго ж года пачаў служыць Лідскім паліцэйскім спраўнікам - менавіта ў гэты год адбылося першае знаёмства Веры Сяргееўны з горадам Лідай. Амаль што адначасова, з 3 лістапада 1899 г., яе будучага другога мужа - Фёдара Людвігавіча Навіцкага, выпускніка Віленскай настаўніцкай вучэльні, з пасады настаўніка Свянцянскай 3-х класнай гарадской вучэльні, з павышэннем, пераводзяць на пасаду штатнага наглядчыка і выкладчыка рускай мовы і гісторыі ў Лідскую 2-х класную павятовую вучэльню.*

*Праз год прэса паведаміла што лідскі павятовы спраўнік, надворны дарадца Махцэвіч, пераведзены на службу ў Віцебскую губерню. Да 1905 г. Махцэвічы перастаюць жыць разам, і Вера Сяргееўна пасяляецца ў Пецярбургу, вуліца Басейная, 17. У адраснай кнізе Пецярбурга яна запісана адна, без мужа, але як жонка калежскага дарадцы. Свае дзве першыя кнігі яна напісала і выдала менавіта ў Пецярбургу, імя аўтара на вокладцы - Вера Махцэвіч («Хорошо жить на свете! Из воспоминаний счастливой девочки. СПб, 1906.» і «Веселые будни: Из воспоминаний гимназистки. СПб, 1906.»)*

*У Лідзе, яшчэ ў 1901 г. жонка штатнага наглядчыка Лідскай павятовай вучэльні Марыя Навіцкая адкрывае прыватную 3-х класную жаночую вучэльню з падрыхтоўчым класам. Па сумяшчальніцтве ў ёй выкладае і Фёдар Людвігавіч. Хутка прыватная жаночая школа становіцца прагімна-*

*зіяй, а потым і прыватнай жаночай гімназіяй. Каб мець права трымаць гімназію, трэба мець вышэйшую адукацыю, і Ф.Л. Навіцкі паступае ў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт. Ці сустракаўся ён ў Пецярбургу з Верай Сяргееўнай? Так, бо якраз там яны складаюць хрэстаматыю для падрыхтоўчых і першых класаў сярэдніх навучальных устаноў «Куткі жыцця», якая была надрукавана ў 1908 г. у Пецярбургу. Вера Сяргееўна вяртаецца ў Ліду і са жніўня 1908 года становіцца памочніцай начальніцы ў жаночай прагімназіі М.К. Навіцкай. Таму на хрэстаматыі пазначана: «Склалі выкладчыкі Лідскай мужчынскай і жаночай прагімназій Ф.Л. Навіцкі і В. С. Махцэвіч».*

*6 лістапада 1908 г. ад разрыву сэрца памірае стваральніца Лідскай прыватнай жаночай прагімназіі Марыя Канстанцінаўна Навіцкая. Мужчына ў Расіі не мог узначальваць жаночую гімназію. У 1909 г. Вера Сяргееўна ўзяла шлюб з Фёдарам Людвігавічам Навіцкім і фармальна стала начальніцай гімназіі, а ў канцы лістапада таго ж года Навіцкі здаў іспыты ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце і атрымаў годнасць настаўніка гімназій.*

*Менавіта ў Лідзе, паміж 1909 і 1914 гг., Вера Сяргееўна піша большасць сваіх кніг. Усе яны друкуюцца ў Пецярбургу: «Заветные уголки: рассказы для детей» (1911), «Безмятежные годы» (1912), «Первые грезы» (1913), «Басурманка» (1914), «Наташа Славина» (1914), «Галя» (1914). Вера Сяргееўна пісала ў часы, калі адцвіталі апошнія кветкі сімвалізму, таму яго ўплыў не абышоў і яе. Вера Сяргееўна Навіцкая пісала ясныя, чыстыя і на першы погляд немудрагелістыя кніжкі - дзеянні іх адбываюцца ў своеасаблівым дзіцячым раі. У апошніх кнігах фон трохі змяняецца - гераіня паступае ў гімназію, вучыцца, наведвае оперу, спасцігае жыццё.*

*Вера Сяргееўна Навіцкая супрацоўнічала з дзіцячым часопісам «Крыніца», дзе друкаваліся яе апавяданні. Апошнім часам усе кнігі лідскай аўтаркі перавыдадзены.*

*Летам 1915 г. гімназія эвакуіруецца з Ліды на ўсход, Навіцкія губляюцца ў вірах Сусветнай вайны і рэвалюцыі. Вядома толькі, што ў 1930 г. Фёдар Людвігавіч Навіцкі яшэ быў жывы і жыў у Маскве. Ці жыла яшчэ ў гэты час Вера Сяргееўна - невядома.*

***Паводле***
***Леаніда Лаўрэша.***

*Вера Навіцкая*

# Добра жыць на свеце!

## *(З успамінаў шчаслівай дзяўчынкі)*

*Прысвячаецца маім дзецям*

### Хто я і што я думаю.

Такім чынам, я пачынаю запісваць свае ўспаміны. Са мной часта здараюцца такія цікавыя рэчы, і потым я так шмат чаго заўважаю і думаю, што, калі гэтыя лісточкі патрапяць калі-небудзь маім унукам ці праўнукам, то, дакладна, яны не засумуюць, чытаючы іх.

Першым чынам скажу, хто я і што я.

Мне дзевяць гадоў і завуць мяне Марусяй, але называюць проста Мусяй, а стрыечны брат, Валодзя, чамусьці Муркай. Бо хлопчыкі заўсёды нешта не па-людску робяць! Прыгажосцю я не вызначаюся... Затое мамачка мая найпрыгожанькая! Пагодзімся, гэта не зусім адно і тое ж, але ўсё-такі прыемна, што ў сям'і ёсць хто-небудзь, кім можна пахваліцца. А ўжо мамачкай сваёй я смела магу ганарыцца: прыгажуня яна сапраўдная і зусім, зусім маладзенькая! Яе ўсе рамізнікі за спадарычню прымаюць, калі мы з ёй ідзём па вуліцы: "Калі ласка, спадарычні, ліха праімчу"! Ды і не адны рамізнікі, а ўсе рашуча не могуць надзівіцца, як у такой маладзенькай, прыгожанькай мамачкі такая вялікая тоўсценькая дачка, бо тумбачка я прыстойная.

Тата і мама заўсёды паўтараюць мне, што я страхоцце; але ад гэтага чытачам яшчэ ясна не стане, якая я, таму што і не страхоцці бываюць розныя. Цяпер растлумачу больш падрабязна. Валасы ў мяне чорныя, павойныя, даволі кароткія, якія прыводзяць у сапраўдную роспач маю бедную мамачку: як іх ні пазачэсвай - праз паўгадзіны тырчаць ва ўсе бакі ("як у індзейскага цара", кажа Валодзя). Вочы ў мяне таксама зусім чорныя, і тата заве іх “прусачкамі”. Нос у мяне трохі дагары, і гадкі Валодзька запэўнівае, што праз яго відаць усё, што я думаю. Вядома, гэта дурнота, і гаворыць ён гэта толькі, каб цвяліць мяне, але якое шчасце, што насамрэч так быць не можа! Бо гэта было б жудасна, калі б старэйшыя іншы раз убачылі, пра што я думаю! Наогул,

майму беднаму носу не шанцуе: мамчын брат, дзядзя Коля, той заўсёды прыціскае мне нос вялікім пальцам, прыгаворваючы: "Дзінь-дзінь!" - і запэўнівае, што фасон - цудоўны для гузічка электрычнага званка. Твар у мяне круглы, беленькі, і шчокі заўсёды ружовыя; але дзядзя Коля і тут знайшоў да чаго прычапіцца і кажа, што ён нібы цыркулем абведзены. Па-мойму - няпраўда: твар як твар. Ды акрамя таго, хіба гэта дрэнна, калі абведзены, як цыркулем? Значыць акуратны, не крывы - касы які-небудзь.

Шмат беднай мамачцы працы каштуе займацца са мной; вельмі мне яе шкада, але што ж рабіць, калі, як знарок, падчас уроку мне ўсё штосьці пабочнае ў галаву лезе, і ніяк я не магу думаць пра тое, што мне тлумачаць. Адны задачы ў нас ідуць даволі ўдачна, і нават мамачка мяне хваліць, а ўжо яна дарма ніколі гэтага не зробіць.

Хто ведае, быць можа з мяне калі-небудзь выйдзе знакамітая жанчына-матэматык. Вось тады публіка наперагонкі кінецца чытаць мае ўспаміны! Але калі гэта будзе? А зараз трэба яшчэ ўрокі на заўтра вучыць.

Перачытала з самага пачатку ўсё напісанае. Якое шчасце, што мамачка не бачыла гэтых радкоў! Не кажу ўжо пра кляксы, але памылкі такія, што я некаторыя словы сама ледзь разабрала... Ці варта пісаць далей? Мабыць, мае спадчыннікі нічога не разбяруць?.. Зрэшты, калі толькі гэта патрапіць у друк, то ў канцылярыі ці ў рэдакцыі (як яно там завецца?), верагодна, спачатку ўсе памылкі паправяць. Вунь якая маса кніг друкуецца, а памылак ніколі там не бывае; не можа быць, каб усе пісьменнікі былі ўжо так добра пісьменныя! Выдумаць аповед не цяжка, але каб ніхто, ніхто рашуча з выдумшчыкаў ніколі не памыляўся ў літары "яць" і ў канчатках "еш" і "іш", ніколі не паверу!

Буду пісаць далей - паправяць!

## Наша сям'я. Мае лялькі.

Акрамя мяне, дзяцей у нас у доме няма. Гэта жудасна! Ужо як я прашу ў мамачкі сястру - не, так і не магу дапрасіцца! І галоўнае, ім жа самім горш: калі б я была не адна, я б значна менш ім надакучала, а так мне сумна; вялікае, думаеш, задавальненне сядзець з француженкай і размаўляць! Ды і прычэпа яна: што я ні скажу, абавязкова паправіць, усё не так, усё не па яе; мудруе толькі; а хто яе ведае, сама вось яна ці правільна яшчэ гаворыць? Была б сястра, зусім іншая справа; мы б разам гулялі, бегалі; нават вучыцца было б весялей, а то адна ды адна!

Тата і мама з раніцы паехалі на пахаванне аднаго знаёмага дзядка-

генерала, а таму ўрокаў у мяне не было. Mademoiselle радая-радзенькая, і адразу ж замкнулася ў сваім пакоі, уткнуўшы нос у нейкую кніжку. Яна заўсёды так робіць, калі мамы дома няма. Я з нуды пайшла шукаць сваю лялькуЗіну, якая даўно ўжо, небарака, не апранутая і не кормленая, сядзіць у сваім крэсле ў дзіцячым пакоі за шафай; а каля яе на ложачку ляжыць маленькая Лілі. Зірнула я на іх, і сорамна мне стала. Мне ўсё чамусьці здаецца, што лялькі ўсё разумеюць, яны не могуць гаварыць, не могуць рухацца самі, але я перакананая, што і яны адчуваюць усё, і журацца, і цешацца. Вось і зараз мне здалося, што Зіна з такім дакорам зірнула на мяне! Я, наогул, яе менш люблю, чым добрынькую бялявую Лілі, хоць я і імкнуся гэтага не паказваць: калі пацалую адну, то і другую; калі ж Лілі і перападае часам лішні пацалунак, то дзе-небудзь у іншым пакоі, калі я перакананa, што Зіна не можа бачыць. Я наогул больш люблю лялек з мяккім тулавам, набітым пілавіннем, і з парцалянавымі галовамі, з імі гуляць зручней. Была ў мяне адна такая, яе Тамарай звалі, яна ў мяне вельмі часта пахворвала, дык я заўсёды пасля хваробы рабіла ў ёй дзе-небудзь дзірачку і высыпала з яе трохі пілавіння; яна, вядома, ад гэтага худнела; ну, тады я пачынала яе лячыць, везла кудынебудзь за мяжу ці ў Крым; там яна папраўлялася і вярталася моцна папаўнеўшы. Для гэтага я ўсыпала ёй ранейшае пілавінне, а часам яшчэ і пяску дадавала; выходзіла вельмі натуральна. Адзін толькі раз я перастаралася і перасыпала пяску, так што скура не вытрымала і лопнула; прыйшлося на гэта месца латку нашываць.

Я думаю што нашы мамы для таго і дораць нам лялек, каб мы з дзяцінства прывучаліся быць добрымі, клапатлівымі матулямі. Мне вельмі сорамна, і гэта нават, верагодна, грэшна, але мне здаецца, што я буду вельмі дрэнная маці і жонка. Маленькія дзеці: гэта так сумна, так пішчаць, так надакучаюць, а калі яны маўчаць, як мае лялькі, то тады так лёгка забыцца пра іх, сысці ў госці, а яны застануцца дома галоднымі.

Наогул, што за ахвота выходзіць замуж? Што такое мужчыны? Вось усе гэтыя прыкрыя хлапчукі, як Саша Сакалоў, Пеця Угрумаў, Коля Стрэпетаў ды і ўсе іншыя Валодзіны таварышы - вось жа за каго мне, напрыклад, давядзецца выходзіць замуж. Барані Бог! Ні за што, ні за што замуж не пайду!!!

У тры гадзіны нашы вярнуліся з пахавання і з імі адзін татаў калега, Леанід Георгіевіч. За абедам мама казала, што дзядка пахавалі каля царквы пад плітой, што гэта каштавала дзве тысячы рублёў, але затое гэта цудоўна. Я зусім гэтага не зразумела, але не хацела пры чужым пытаць. Навошта хаваць чалавека пад плітой, калі можна яго закапаць у зямлю? Ды і для чаго там пліта? Хто на ёй гатуе? Я разумею, калі б

яшчэ там гатавалі ежу для святых, то быў бы гонар ляжаць пад ёй, але, па-першае, іх няма на зямлі; а па-другое, яны б і не елі нічога... Хіба вось для святароў вараць?...Тады, павінна быць, толькі для халастых, таму што калі мы раз былі ў бацюшкі Івана і там абедалі, яму не з царквы прыносілі, а сама матушка ў кухню хадзіла. І як гэта я ніколі ў цэрквах пліт не заўважала? Дзіўна жудасна! Спытаю маму.

## Вайна з Mademoiselle. Мае спазнанні.

Ужо вельмі шмат урокаў мамачка задае; асабліва назаляюць мне французскія дыктоўкі. Перш m-lle пачала была мне іх рабіць, але, здаецца, яна і сама не шмат лепш за мяне ведае, таму што дыктоўкі мае яна заўсёды папраўляла па кнізе, а аднойчы я яе спытала, як пісаць слова michant, так яна сказала, што праз "ai"; мамачка гэта пачула і пасля таго сама пачала са мной займацца.

Божа, якія гэтыя французы бесталковыя! І словы то іхнія пішуцца неяк дзіўна: напішуць Бог ведае колькі літар, а палова з іх зусім не прамаўляецца. А наша m-lle, нічога яна не ўмее: мамачка загадала ёй заўсёды гарбату разліваць, а потым мыць гарбатны посуд, дык, па-першае, гарбата ў яе такая, што заўсёды "Кранштадт бачны", а потым кожны раз яна абавязкова ці шклянку раздушыць, калі выцірае, ці што-небудзь выпусціць і разаб'е; а ўжо, здаецца, хітрасць невялікая; колькі разоў я гэтую работу рабіла, і тата казаў, што гарбата смачная, і чарапкоў потым з падлогі не даводзілася падбіраць.

А злюшчая яна - ад усяго злуецца: адзін раз увечар, калі я ўжо легла ў пасцель, я і кажу: "M-lle, il faut faire фу-фу la lampe"!

Што ж тут здаецца кепскага? А як яна ўзлавалася! З тых часоў я знарок усякі вечар ёй паўтараю: "Il faut faire фу-фу la lampe", і кожны раз яе нават перакосіць усю. Аднойчы яна хацела схітраваць: я яшчэ не паспела сказаць, а яна ўжо ўзяла, ды хуценька і патушыла лямпу, тады я і кажу: "Ah, vous avez deji fait фу-фу la lampe"! Яна выйшла і толькі дзвярамі ляснула. Гэта здорава выйшла!

Ай, што я напісала! Калі б мамачка бачыла! Яна трываць не можа гэтага слова і кажа, што гэта жудасны "mauvais genre". А мне дык яно вельмі падабаецца! Гэта слова Валодзя прынёс з гімназіі, у іх усе так кажуць; цудоўнае слова! І ніякім іншым яго не заменіш: "добра"... "удала"... "разумна" - усё гэта слаба выходзіць, а скажаш "здорава", дык здорава і выйдзе!

Божа, калі ж нарэшце вытрымаю я гэты няшчасны ўступны іспыт! Бо гэта зусім не так лёгка, таму што іспыт будзе конкурсны - і

слова ж якое цяжкае! Гэта значыць, што прымаць будуць толькі самых лепшых вучаніц, у якіх будзе па ўсіх прадметах не менш "дзесяці". Жах які! А ў мяне дагэтуль яшчэ па дыктоўцы ні разу больш "васьмі" не было, а то і такія дыктовачкі бывалі, калі мама запэўнівала, што гэта проста рэбус на прэмію (вунь як у "Ніве" кожны год бывае). Але ж яшчэ цэлае лета наперадзе; не можа быць, каб усе, усе рашуча дзяўчынкі былі больш пісьменнымі і разумнейшымі за мяне.

Мамачка нейкі ліст атрымала, штосьці распавядае тату; трэба пабегчы даведацца.Так, аказваецца, што таго дзядка пахавалі не пад кухняй, а проста пад каменнай такой дошкай каля царквы; я зусім забылася, што гэта таксама плітой завецца. Толькі б Валодзька пра гэта не дазнаўся, - ізноў мяне цвяліць пачне! Ён і тое забыцца не можа, як аднойчы, калі мне было тры гады і мамачка павяла мяне ў сабор, дзе былі мошчы траіх святых; мне там вельмі спадабалася, і я потым усё прасіла зноў пайсці "ў цырк, дзе тры божачкі ў чырвоных туфлях ляжаць".

## Мае хітрасці з цёцяй Лідушай.

Ліст, які мамачка ўчора атрымала, быў ад цёці Лідзі (мамчынай сястры); яна піша, што прыедзе да нас пагасцяваць на цэлыя два тыдні, пакуль мы на дачу не з'едзем. Я жудасна радая, я вельмі люблю цёцю Лідушу, яна такая добрая, такая пястуха; ніколі не лае мяне, і што б я ні зрабіла, заўсёды абараняе мяне. Мне трошкі сорамна, я шмат у чым перад ёй вінаватая, гэтулькі раз рабіла я ёй усякія штукі. Праўда, гэта вельмі даўно, мне было тады ўсяго пяць гадоў, калі яна гасцявала ў нас цэлыя тры месяцы. Жудасна яна смешная, заўсёды ўсе свае рэчы пагубляе і потым ніяк не можа знайсці. Раніцай пачне апранацца - грэбеня няма, шпількі зніклі, пояс невядома куды знік.

- Муся, Муся, ідзі, мілая дзетачка, пашукай мне грэбень! - Я лячу... А ён тут дзе-небудзь блізенька і валяецца сабе пад крэслам ці на дыване.

- Мілая дзяўчынка, разумніца ты мая! Усё яна адшукае! Няма такога іншага дзіцяці на свеце! На табе за гэта пернік!.

А пернікі і ледзянцы ніколі не пераводзіліся ў цёці Лідзі: і сама яна іх любіла, а галоўнае любіла заўсёды ўсіх частаваць. Я да іх таксама была вялікая ахвотніца і лічыла, што рэчы занадта рэдка знікаюць, і мне занадта мала даводзіцца зарабляць, а таму я надумалася прыхоўваць некаторыя з іх. Чую, падымаецца ў цёціным пакоі "валтузня", а я сабе сяджу, як нічога ніякага, быццам мяне гэта і не датычыцца.

- Мусенька, залатая мая, пашукай, куды мой напарстак падзеўся!

- Зараз, цётачка! - з самым нявінным выглядам пачынаю я зазіраць пад усе шафы, ва ўсе куты, пакуль даходжу да таго месца, куды старанна сама схавала гэтую штучку.

- Вось жа ён, цёця, тут і ляжыць!

Ізноў мяне цалуюць, хваляць, даюць ледзянцы.

А аднойчы што я яшчэ зрабіла! Цёця Лідзя ўставала заўсёды позна, значна пазней за мяне, так што я, зазіраючы па раніцах у яе пакой, заўсёды заставала яе спячай. А спала яна жудасна смешна, закінуўшы галаву назад і з шырока-шырока адкрытым ротам! Мне заўсёды хацелася пакласці ёй што-небудзь у яго, ды ўсё страшна было. Але адзін раз я не вытрымала: прынесла са сталоўкі кавалак цукру і паціху праціснула ёй паміж зубамі, а сама хутка-хутка ўцякла. Яна ў тую хвіліну не адчула, а потым, калі прачнулася, страшна дзівілася, як такая штука магла здарыцца, і яны шмат смяяліся з мамай; я ж тым часам стаяла павярнуўшыся спіной і засцілала лялечны ложак.

Якая я была тады гадкая дзяўчынка! Бо мне нават сорамна не было! Бедная, добрая цёця Лідуша! Але зараз я вялікая, я разумею, як гэта брыдка, і ўжо, вядома, нічога падобнага не зраблю.

## Прыезд цёці. Я вучу Mademoiselle па-нашаму.

Які цудоўны дзень! Па-першае, прыехала цёця Лідзя, па-другое, з раніцы прыйшлі дзядзя Коля і Валодзя, і цэлы дзень мы страшна дурэлі і весяліліся; пра ўрокі і мовы не было. Зрэшты, я ўмудрылася - такі аскандаліцца, уласна не я сама, але ўсё адно - скандал быў учынены маімі стараннямі.

Але пачну па парадку. Раніцай я ўпрасіла мамачку ўзяць мяне на вакзал сустракаць цёцю. Доўга мамачка ўпарцілася, але нарэшце пагадзілася - яна ў мяне добранькая і паслухмяная! Тата павінен быў абавязкова пайсці на службу, а мы з матуляй адправіліся ўдваіх.

Жудасна я люблю бываць на вакзале: мітусня, таўханіна, крык, шум - страшна весела! Потым я яшчэ адну рэч там вельмі люблю: бутэрброды з ікрой; яны там асабліва смачныя; дома зусім не тое, ды і ў нас, наогул, ікру рэдка падаюць, кажуць: "Дорага". На вакзале, у чаканні цягніка, я з апетытам упляла два бутэрброды. Смачна!

Нарэшце з шыпеннем і свістам падкаціў цягнік. Вось і цёця. Яна знайшла, што я вырасла і стала вельмі харошаанькая (абавязкова Валодзьку скажу! Вось табе і "індзейскі цар!"). Дома цёця памылася, напілася гарбаты і паклікала мяне раскладваць рэчы. Ужо я ведаю, што

гэта значыць: што-небудзь харошанькае ды прызапашана цёцяй для мяне!

Вядома, я не памылілася. У куфры аказалася для мяне цудоўная, чырвоная, як рак, сукенка, уся ў зморшчынкі, абабітая крэм-прашыўкамі з працягнутымі чорнымі аксаміткамі. Жудасна прыгожа! І парасонік такі ж - зусім чырвоны, як я марыла. Гэта яшчэ не ўсё: яна падарыла мне акрамя таго цудоўны пярсцёнак, на якім з ліловых каменьчыкаў кветачка, сапраўды фіялачка. Вось хараство! І трэба ж так разумна прыдумаць!

Хоць Валодзька і кажа, што ў гэтым гарнітуры мяне на дачы індзейскія пеўні задзяўбуць ці каровы на рогі падымуць, але вядома гэта дурнота, і я вельмі задаволена. Сам жа ён атрымаў ад цёці сапраўдны чорны гадзінічак і радуецца, уявіў сябе ледзь не дарослым (трынаццацігадовы карапуз!).

Пасля сняданку мама, цёця і дзядзя Коля ўселіся ў будуарчыку, а мы з Валодзем адправіліся ў дзіцячы "парлякаць" з M-lle. Сёння і яна нават штосьці весялей выглядае, а калі мы ёй абвясцілі, што да абеду прыйдзе Леанід Георгіевіч, яна і зусім прасвятлела. Я нават пэўна не ведала, ці прыйдзе ён, а знарок ёй сказала; яна чамусьці жудасна любіць, калі ён прыходзіць, адразу ж прыфранціцца і пачне вочы закочваць.

Яна нядаўна прыехала з Францыі і ні слова не разумее па-нашаму, вось мы і прапанавалі яе павучыць. Я пачала тлумачыць ёй, што ў нас самае вялікае прывітанне сказаць госцю: "Я ў захапленні, калі вы сыходзіце дахаты!", што гэта значыць: "Je suis charmee de vous voir" і параіла сказаць гэта сёння Леаніду Георгіевічу. Ёй у галаву не прыйшло, што я хачу яе "падкаціць", і яна руплівa стала паўтараць, ледзь сабе язык не зламала. Потым мы ёй яшчэ растлумачылі, што, калі гасцей частуюць, трэба казаць: "Куды ў цябе гэтулькі лезе"? І гэтую фразу яна задзяўбла. Нам было жудасна смешна, і мы ледзь-ледзь стрымліваліся, каб не чмыхнуць ёй у твар. Сама яна была вельмі задаволена, што так хутка вывучыла гэтулькі слоў.

Вось паклікалі нас абедаць. Мы на хаду яшчэ раз нашэптвалі ёй яе ўрок. Усе ўжо сядзелі за сталом, мы спазніліся, так што m-lle толькі пакланілася госцю і паспяшалася пачаць разліваць суп. Першую талерку яна перадала цёці, потым маме, потым дзядзю Колю, потым, нарэшце, свайму суседу Леаніду Георгіевічу. Яна закаціла вочы, нагнула галаву і, перадаючы яму талерку, сказала: "Куды ў цебіе століка лезіт"?

Усе паднялі галовы і, са здзіўленнем гледзячы на яе, пачалі смяяцца. Яна падумала, што ўсім вельмі спадабалася, як яна па-нашаму гаворыць, і працягвала, яшчэ больш вывярнуўшы вочы: "Іа заўсёды

радая, калі ві сыходзіць хаты"!

Але тут усе, акрамя мамачкі, так сталі рагатаць, што і яна зразумела, што тут штосьці не так, счырванела і са слязамі на вачах выскачыла з-за стала. Мамачка адразу сцяміла, чые гэта штукі, і паківала здалёк галавой, а тата зрабіў мне "страшныя вочы". Я збянтэжылася, але ўсё-такі мне было вельмі весела і смешна.

Аднак увечар мне далі добры наганяй і хацелі пакараць; але за мяне ўступілася цёця Лідуша.

Аднак сорамна, што я ў першы ж дзень пры ёй аскандалілася!

## Што я думаю пра вайну.

Вось ужо амаль тыдзень, як цёця прыехала і жыве ў нас. Мілая цёця Лідуша, куды-куды толькі яна мяне ні вадзіла: і ў музей, і ў заалагічны сад, і проста шпацыраваць. Нават калі мы і дома, мне шкада ад яе адходзіць; бо яна і так ужо хутка паедзе - тыдзень прайшоў, застаўся яшчэ ўсяго адзін. У гэты час цёця і мамачка паехалі кудысьці з візітам, вось я і пішу.

Божа, якія сёння тата жахі ў газеце чытаў! Чаго толькі не пішуць пра гэтую жудасную вайну! А якія нашы рускія малайцы, як яны добра б'юцца з гэтымі гадкімі жаўтавокімі японцамі, хоць тых і значна больш.

Але толькі я многага не разумею, што там на вайне робіцца: як гэта шмат салдатаў адразу могуць страляць? Бо тыя, якія ў задніх шэрагах, падстрэляць тых, хто стаіць спераду! А потым, уначы цёмна, стрэліш і замест японцаў патрапіш у сваіх. Напэўна часта так і бывае. Божа, і навошта, навошта яны б’юцца?!.

У таты вісіць на сцяне карта Еўропы; дык Расія на ёй такая вялікая, такая вялікая, навошта нам яшчэ чужая зямля, дзе жывуць гэтыя гадкія японцы і кітайцы? Калі б я была царыцай, я не дазволіла б, каб у маёй дзяржаве ўсе гэтыя вырадкі жылі, усіх паразагнала б, - нікога, акрамя нас, рускіх!

Так, а наш вось хатні замежнік - mademoiselle, вось шыпіць зараз на мяне! Усё злуецца за тое, што я яе рускія кампліменты вучыла гаварыць.

Я вельмі радая, што я не мужчына, і што мне не трэба на вайну ісці! Які жах! Я ўсё адно нікога б не забіла, а адразу памерла б ад страху. А зараз я, хоць і жанчына, але карысць вялікую прыношу; мамачка бярэ шыць бялізну параненым, і я дапамагаю; я абрубіла цэлыя дзве хустачкі; вельмі добра. Мамачка чамусьці кажа, што для афіцэраў яны не падыходзяць, а для салдатаў "сыдуць". Я толькі не разумею, для чаго

на вайне салдатам патрэбныя насоўкі? Тут, дома, яны заўсёды без хустак смаркаюцца, так... Проста... Напэўна там вельмі холадна, і ў іх катар зрабіўся, а ўжо, вядома, з катарам цяжка без хустачкі; я памятаю, калі ў мяне адзёр пачынаўся, то такі катар быў, што я па тры хустачкі скарыстоўвала. Раптам яны ўсе адром захварэюць, бо гэта заразліва! Вось быў бы жах! Бедныя, бедныя, салдацікі!!.

Цяпер усе пра вайну гавораць, і ў музеі паказвалі рухомую фатаграфію - усе карціны з вайны. Ах, як страшна, я ледзь-ледзь не расплакалася... Затое, як я смяялася, як мы глядзеліся ў музеі ў люстэркі; забылася, як яны завуцца... птычныя... не, не зусім, але падобна. У адным - усе тоўстыя, тоўстыя і зусім малюсенькія смешныя!! У другім - наадварот - усе доўгія, худыя, як шкілеты; а ў трэцім - ножкі тоненькія, як у курыцы, а галава велічэзная, як кацёл; вось пацеха!.. Званок!.. Нашы!..

## Мамачкіна нараджэнне. Шарады.

Трэцяга дня у нас была імпрэза ў хаце - мамачкіна нараджэнне. Вось весела было! Па-першае, я надзела сваю новую чырвоную сукенку; на самай справе, яна мне вельмі пасуке! На галаву цёця Лідуша начапіла мне вялікі чырвоны бант; па-мойму хараство; я вызначыла, што я зусім харошанькая, ды і не я адна, я чула, як і госці пра гэта казалі. А мамачка іх усё ўпрошвала: "Напрамілы бог, пры ёй не кажыце, а то яна яшчэ пачне ўяўляць пра сябе і крыўлякай зробіцца; а па-моему нічога не можа быць горш за ненатуральнае дзіця".

Дык вось яны, мамчыны хітрасці! Яна знарок мне ўсё паўтарае, што я страхоцце, каб я не зазналася!!!

Я апусціла вочы і зрабіла выгляд, быццам я нічога не чула. А усё - такі прыемна!.. Ну далей! Днём мала было цікавага, прыходзілі візіцёры, прыносілі кветкі, цукеркі.

Вось да абеду, тады ўжо ўсе свае прыйшлі: дзядзя Коля, Валодзя, Леанід Георгіевіч (на радасць m-lle) і мамчыны тры маладзенькія кузіны - Жэня, Ніна і Наташа, якіх я проста люблю, такія яны міленькія, а галоўнае вясёлыя, і заўсёды задумаюць якія-небудзь цікавыя гульні. А за абедам якое марожанае смачнае было! І ікра была, і сардынкі, і многае іншае. Люблю я ўсякія нараджэнні ды імяніны!

Пасля абеду дзядя Коля пачаў паказваць розныя фокусы на картах, а потым раптам прапанаваў:

- Даю дзесяць рублёў таму, хто зробіць такую рэч: на паперцы правай рукой напіша вялікае рускае ***Д***, а ў той жа час правую нагу будзе, не перастаючы, круціць у адзін бок.

*максімальных даходаў. Пан з візітам прыязджаў рэдка, заставаўся на некалькі дзён і зноў з'язджаў. Менавіта так рабіў знаны гуляка, уладальнік Гародна Аўгуст Патоцкі, які мог за адну ноч прайграць у карты свой найлепшы фальварак. Таму яго маёмасць растала, як вясновы снег: першымі былі прададзены лясы, а сапраўдную каралеўскую рэзідэнцыю за малыя грошы купіў рускі генерал ...".*

Напрыканцы XIX ст. Аўгуст Патоцкі прадаў маёнтак разам з кніжнымі зборамі і архівамі рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнаццева і далей - да генерала Кіпрыяна Кандратовіча, будучага міністра абароны БНР. У той час маёнтак складаўся з 23 200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку разам з Гароднам.

**Графіня Сафія дэ Шуазёль-Гуф'е**, народжаная Тызенгаўз (1790-1878) - фрэйліна рускай імператрыцы, аўтарка шэрагу гістарычных раманаў і мемуарыстка. Пакінула каштоўныя ўспаміны пра часы царавання Аляксандра I, вайну 1812 года і замежныя паходы рускай арміі ў 1813-1814 гг.

Сафія Тызенгаўз нарадзілася на Лідчыне ў маёнтку Жалудок, які тады ўваходзіў у склад Рэчы Паспалітай. Праз пяць гадоў пасля яе нараджэння праз трэці падзел Рэчы Паспалітай наш горад быў далучаны да Расійскай імперыі. Сафія з'яўлялася дачкой апошняга шэфа літоўскай гвардыі графа Ігната Тызенгаўза (1760-1822) ад яго шлюбу з Мар'янай Пшаздзецкай (1763-1843). Па маці была ўнучкай літоўскага падканцлера Тадэвуша Антонія Пшаздзецкага і пляменніцай княгіні Алены Радзівіл (з Пшаздзецкіх) - жонкі віленскага ваяводы Міхала Ераніма Радзівіла.

Бацькі развяліся, калі Сафія была яшчэ дзіцём, і таму яна вырасла ў маёнтку сваіх сваякоў недалёка ад Вільні. Атрымала добрую хатнюю адукацыю, якая адпавядала яе арыстакратычнаму статусу, акрамя стандартных агульнаадукацыйных прадметаў, вывучала музыку і маляванне. Хатнім настаўнікам малявання юнай Сафіі быў вядомы мастак, будучы прафесар жывапісу Віленскага ўніверсітэта Ян Рустэм. У доме Сафіі гаварылі па-французску, і гэтая мова для яе была роднай.

Вясной 1812 г. маладая графіня пазнаёмілася з расійскім імператарам Аляксандрам I. Паміж імі скláліся сяброўскія адносіны, якія падтрымліваліся да канца жыцця расійскага манарха. Адна з нешматлікіх прадстаўнікоў нашай арыстакратыі Сафія Тызенгаўз атрымала прыдворнае жаночага званне фрэйліны світы расійскіх імператрыц Лізаветы Аляксееўны (жонкі Аляксандра I) і Марыі Фёдараўны (маці Аляксандра I) і атрымала права нашэння адпаведнага фрэйлінскага шыфра (дыямен-

тавай заколкі ў выглядзе манаграмы імператрыц), пра што пісала ў сваіх успамінах.

Калі прыйшлі французы, маладая жанчына разам з іншымі прадстаўнікамі шляхты, сустракалася з Напалеонам. Потым графіня пісала, як яна адкрыта дэманстравала свае сімпатыі да расійскага двара - на сустрэчу з Напалеонам прынцыпова прыйшла ў сукенцы з дыяментавым фрэйлінскім шыфрам з манаграмамі расійскіх імператрыц. Імператар Францыі быў цывілізаваным чалавека і публічна адобрыў гэты жэст Сафіі. Нягледзячы на адабрэнне Напалеонам, гэты учынак чамусьці зрабіў Сафію вельмі папулярнай у рускім грамадстве і арміі.

Пасля вяртання рускай арміі, галоўнакамандуючы фельдмаршал Міхаіл Кутузаў наведаў графіню Сафію Тызенгаўз, з якой быў знаёмы раней. Ён ухваліў паводзіны маладой графіні і даў у яе гонар вечар у Вільні, на якім усяму расійскаму генералітэту прадставіў Сафію такімі словамі: "Вось маладая графіня, якая надзела шыфр на сустрэчу з Напалеонам".

Кажучы сучаснай мовай, графіня Сафія Тызенгаўз добра валодала высокім мастацтвам піяру. Вядома, што ў той час пры рускім штабе ў Вільні было шмат маладых жанчын авантурнага складу. Дастаткова толькі ўзгадаць другую нашу зямлячку Юлію Лабаржэўскую з Нарбутаў, якая потым стала жонкай адмірала і міністра Шышкова. Каб зразумець атмасферу баляў Кутузава ў Вільні 1812 г., працытую вядомага віленскага мемуарыста Станіслава Мараўскага пра Юлію з Нарбутаў: *"Прайшла яна ўсе каляіны жыцця і скончыла яго на высокай грамадскай прыступцы, на якой усе яе памылкі адышлі ў нябыт ... Была гэта жанчына qui a fait tout, mais tout*[4] *у сваім жыцці, аж да выдзірання з шпагі герцага Вюртэмбергскага вялізнага дыямента падчас балю ў Кутузава ў Вільні. Князь Кутузаў-Смаленскі, які быў закаханы ў яе тады да смерці, на самой справе выпрасіў у яе на раніцу гэты дыямент і вярнуў яго герцагу, аднак, нягледзячы на сакрэт, уся Вільня пра тое ведала"*. Мараўскі таксама ўспамінаў, што, перш чым зрабіцца жонкай Шышкова, *"сп. Лабаржэўская з дому Нарбутаў прайшла праз рукі, сэрца і кішэню князя Кутузава-Смаленскага, у той час генерал-губернатара Вільні, і некалькіх яшчэ спадароў у Пецярбургу, а пры канцы выйшла замуж за міністра асветы, адмірала Шышкова"* [5].

---

[4] Якая рабіла ўсё, але гэта ўсё. (фр.)

[5] Гл: Лаўрэш Леанід. Юлія Шышкова з лідскіх Нарбутаў // Маладосць. 2019. № 6. С. 114-122.

Трэба ведаць тагачасныя настроі нашай шляхты, а для гэтага дастаткова нагадаць лёсы родных братоў Сафіі - Канстанціна і Рудольфа Тызенгаўзаў, якія са зброяй у руках ваявалі на баку Напалеона. 19-ы пяхотны полк арміі ВКЛ сфармаваў і ўзначаліў 26-гадовы палкоўнік граф Канстанцін Тызенгаўз, а яго брат граф Рудольф Тызенгаўз на свае грошы сфармаваў конна-артылерыйскую роту. Канстанцін Тызенгаўз разам са сваім палком мужна змагаўся пад Вільняй, Кёнігсбергам, прымаў удзел у знакамітай абароне цвердзі Модлін, а потым і ў бітвах у Германіі. У 1813 г. ён быў узнагароджаны французскім Крыжам Ганаровага Легіёна. Вайна для яго скончылася толькі вясною 1814 г. Канстанцін Тызенгаўз спачатку застаўся ў гарадку Клярмон, а пасля ўказу аб амністыі Аляксандра І ад 30 жніўня 1814 г. вярнуўся ў Паставы, якія атрымаў у спадкі. Дадам, што Канстанцін Тызенгаўз - заснавальнік айчыннай арніталогіі. Другі брат, Рудольф Тызенгаўз, атрымаў у спадчыну Жалудок.

Не дзіва, што яшчэ да 1812 г. у адным са сваіх першых аповедаў "Ванда і Радыгер" Сафія Тызенгаўз выказвала надзею на адраджэнне Напалеонам яе радзімы - Рэчы Паспалітай. Пазнейшыя паводзіны і мемуары Сафіі дазволілі захаваць сямейную маёмасць, і трэба адзначыць, што гэтая жанчына была прыроджаным дыпламатам.

Але пойдзем далей.

Пасля вайны, ва ўзросце 28 гадоў, Сафія выйшла замуж за графа Антонія Людвіга Актавія дэ Шуазёль-Гуф'е (1773-1840). Бацька Антонія Людвіга, французскі дыпламат, член французскай акадэміі навук Агюст дэ Шуазёль-Гуф'е (1752-1817), падчас французскай рэвалюцыі быў амбасадарам у Канстанцінопалі і, не прызнаўшы новыя ўлады, атрымаў запрашэнне жыць у Пецярбургу. На пачатку імператрыца Кацярына ІІ абяцала французскаму навукоўцу пасаду прэзідэнта Акадэміі навук, але потым з-за прыдворных інтрыг, страціла да яго цікавасць. Пасля смерці імператрыцы, новы імператар Павел І палічыў, што Агюст дэ Шуазёль-Гуф'е быў пакрыўджаны яго маці і надаў французу вялікі маёнтак у Літве.

Шлюб адбыўся 3 лютага 1818 г. ў касцёле св. Мацея каля маёнтка Рокішкі (зараз - Рокішкіс у Літве). Хрышчоным бацькам адзінага сына графіні Аляксандра (1821-1896) быў расійскі імператар Аляксандр І.

Графіня разам з мужам жыла ў Францыі, дзе яе прадставілі двару караля Людовіка XVIII. Была асабіста знаёма з Аляксандрам Дзюмабацькам і многімі іншымі віднымі еўрапейскімі пісьменнікамі свайго часу. У 1829 г. атрымала французскае грамадзянства.

Шлюб яе быў не вельмі шчаслівым, і, аўдавеўшы, кожную зіму

графіня Сафія дэ Шуазёль-Гуф'е шмат падарожнічала па Еўропе, а летам і вясной яна жыла ў сваім маёнтку Плацеляй, дзе перабудавала цэнтральны дом маёнтка. Яшчэ ў 1816 г. па загаду графа дэ Шуазёль-Гуф'е тут было створана адно з самых вялікіх у сучаснай Літве вадасховішчаў, т. зв. Плацеляйскае возера.



***Графіня Сафія дэ Шуазёль-Гуф'е***

Вядомы віленскі доктар медыцыны Юльян Цітыюс пісаў пра графіню дэ Шуазёль-Гуф'е ў Вільні. Ішоў апошні год перад паўстаннем 1863 г., баль з удзелам цара быў праігнараваны, і на яго прыйшлі толькі некалькі мясцовых арыстакратаў: *"Дайшло да таго, што Назімаў быў прымушаны папярэдзіць Аляксандра II… Назімаў жадаў зрабіць баль для высокага госця і прыбыўшага з ім вялікага князя Саксен-Веймарскага (стрыечнага брата цара), князя Гесэн-Касельскага (швагер цара) і двух прускіх князёў у памяшканні цывільнага губернатара, бо свой палац ён уступіў цару. Я быў на тым бале і бачыў толькі некалькі мясцовых дам. Цар танцаваў з імі паланезы і доўга размаўляў са старой сяброўкай Аляксандра I, знакамітай пісьменніцай, графіняй Шуазёль-Гуф'е (з Тызенгаўзаў)".*

У апошнія гады жыцця графіня Сафія дэ Шуазёль-Гуф'е жыла ў Ніцы, дзе і памерла 28 траўня 1878 г.

Нарадзіўшаяся на Лідчыне Сафія дэ Шуазёль-Гуф'е, лічыцца адной з першых жанчын-пісьменніц у гістарычнай Літве. Мы без сумнення можам лічыць яе і часткай нашай культуры, бо была яна сапраўднай еўрапейкай, наўрад ці сама сябе прывязвала да нейкай часткі Еўропы і пісала на французскай мове. Большая частка зробленага ёй - гістарычныя раманы, якія заснаваны на рэальных падзеях і прысвечаны жыццю сучасных ёй жанчын.

Цікавай гістарычнай крыніцай з'яўляецца кніга "Успаміны графіні Шуазёль-Гуф'е пра імператара Аляксандра I і імператара Напалеона" (1-е выданне - 1829 г., гэтая кніга ёсць у інтэрнэце). Значная ўвага ў мемуарах графіні нададзена імператарам Аляксандру I і Напалеону I, а таксама фельдмаршалу Міхаілу Кутузаву, з якімі графіня была асабіста знаёмая. Таксама расказана пра лёс Вільні падчас вайны 1812 г.

**Няпоўная бібліяграфія Сафіі дэ Шуазёль-Гуф'е:**


1. Reminiscences sur l'empereur Alexandre Ier et sur l'empereur Napoleon Ier (1862).

2. Шуазель-Гуфье София. Исторические мемуары об Императоре Александре и его дворе. С.-Петербург, 1829.

3. Воспоминания об императоре Александре I и императоре Наполеоне I графини Шуазель-Гуфье. С.-Петербург, 1879.

4. Воспоминания об императоре Александре I и императоре Наполеоне I графини Шуазель-Гуфье. Москва, 2007.

5. Reminiscencijos apie imperatoria Aleksandra I ir apie imperatoria Napoleona I (2004)

6. София Шуазель-Гуфье: Исторические мемуары об императоре Александре и его дворе. Библиотека проекта Б. Акунина ИРГ. Москва, 2020.

7. Barbe Radziwil, roman historique (par la Ctesse de Choiseul-Gouffier). Paris, 1820.

8. Vladislas Jagellon et Hedwige, ou la Reunion de la Lithuanie a la Pologne, nouvelle historique (1382), par Mme la Ctesse de Choiseul-Gouffier. Paris , 1824.

9. Le Nain politique, roman historique, par Mme la Ctesse de Choiseul-Gouffier, nee Ctesse de Tisenhaus, 1826.

10. Memoires historiques sur l'empereur Alexandre et la cour de Russie, publies par Mme la Ctesse de Choiseul-Gouffier, nee Ctesse de Tisenhaus. Paris, 1829.

11. Halina Oginska, ou les Suedois en Pologne, par la Csse de Choiseul-Gouffier, nee Csse de Tisenhauz. Paris, 1839.

# "Залаты апостраф" за “Белае шматкроп'е”



15 лютага 2020 г. падчас адкрыцця Стральцоўскага фэсту прайшла 17-я цырымонія ўзнагароджання прэміяй "Залаты апостраф" за найлепшую публікацыю ў часопісе "Дзеяслоў".

"Залаты апостраф" у намінацыі "Дэбют": Кацярына Янчэўская. “Белае шматкроп'е”. Вершы. № 101.

# IV адкрыты рэгіянальны літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай

20 лістапада 2020 г. у канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы адбылася ўрачыстая цырымонія падвядзення вынікаў і ўзнагароджання пераможцаў **IV адкрытага рэгіянальнага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям"**. Конкурс праводзіцца адзін раз на два гады Лідскай бібліятэкай пры падтрымцы газеты "Наша слова", пачынаючы з 2014 года.



Арганізатары конкурсу імя Веры Навіцкай імкнуцца вярнуць у беларускую літаратуру згаданае



імя і заахвоціць лідскіх паэтаў і пісьменнікаў да напісання твораў для дзяцей.

Некалькі слоў пра дзіцячую пісьменніцу Веру Сяргееўну Навіцкую, чыё імя носіць конкурс. Вядома, што яна некалькі гадоў - з 1908 па 1915 год - жыла ў Лідзе, з'яўлялася начальніцай мясцовай прыватнай жаночай гімназіі. Аўтар кніг "Добра жыць на свеце", "Вясёлыя будні", "Ціхамірныя гады", "Першыя мроі" (тэтралогія аб жыцці Марусі Старабельскай), "Галя", "Наташа Славіна" (аповесці для юнацтва, у якіх дамінуе любоўная лінія), "Басурманка" (аб жыцці прыёмнай сіраты-французжанкі ў рускай сям'і). Апошнія пяць кніг напісаны ў Лідзе, і, магчыма, апісаныя ў іх падзеі звязаны з нашай лідскай зямлёй.

Сёлетні літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям" праходзіў у дзвюх намінацыях - "Паэзія" і "Проза". Удзел у ім прынялі 11 лідскіх літаратараў, сярод якіх як вопытныя аўтары, якія маюць свае зборнікі, так і тыя, хто займаецца літаратурнай творчасцю з нядаўняга часу. Асабліва шмат было даслана на конкурс вершаў - каля 200. Празаічных твораў значна меней - 9 апавяданняў. Тэматыка дасланых твораў самая разнастайная.

Журы нялёгка было вызначыць трох пераможцаў конкурсу. У выніку дыпломам III ступені (у намінацыі "Паэзія") узнагароджана Людміла Русь, дыпломам II



ступені (у гэтай жа намінацыі) - Міхась Мельнік, дыпломам І ступені (у намінацыі "Проза") - Таццяна Сямёнава, найстарэйшая з удзельнікаў конкурсу. Пераможцы таксама атрымалі грашовыя ўзнагароды. Усе астатнія ўдзельнікі конкурсу атрымалі заахвочвальныя прызы. Пералічым і іх імёны - гэта Уладзімір Васько, Станіслаў Суднік, Наталля Хейфец, Ларыса Кавалеўская, Людміла Краснадубская, Станіслава Белагаловая, Ганна Лазоўская, Канстанцін Якубчык.

Усе дасланыя на конкурс творы ўвайшлі ў падрыхтаваны бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям-2020".

Была захавана традыцыя прадстаўляць на гэтым мерапрыемстве рэдкую кнігу. У 2016 годзе гэта была 1-я кніга тэтралогіі Веры Навіцкай на беларускай мове "Добра жыць на свеце", у 2018 годзе - дзіцячая кніга Марыі Канапніцкай "Ад зімы да лета", сёлета гэта "Я сумавала па вучобе. Дзіцячыя і школьныя гады Альжбеты Табенскай з-пад Васілішак. Успаміны". Тут змешчаны першыя два раздзелы кнігі "З долі і няволі. Успаміны выгнанкі", выдадзенай у Кракаве ў 1897 годзе.

Прадстаўляючы кніжачку рэдактар "Нашага слова" Станіслаў Суднік звярнуў увагу прысутных на адну фразу: *"... Шануйце час, як рэч найдаражэйшую, бо за кожную хвілю маем*




*здаць справаздачу перад Богам, і з кожнай хвіляй жыццё наша праходзіць, а чалавек ёсць панам толькі гэтай хвілі. Хвіля, якая прыйдзе, - няпэўная, а якая прайшла - не вернецца".* Што зроблена сёння, тое і зроблена. Дарэчы, на 32 старонках кніжачкі шмат цікавай інфармацыі. Да прыкладу, згадана кніга Камілы Нарбут "Мечыслаў і Стэфанія". Кнігі гэтай няма ў Інтэрнэце, нават згадкі пра яе няма. А гэта твор беларускай польскамоўнай літаратуры часоў Міцкевіча. Сама Альжбета Табенская - удзельніца паўстання 1863 года, старэйшая сястра знакамітай Антаніны Табенскай.

На заканчэнне імпрэзы быў абвешчаны чарговы пяты конкурс, на які запрашаюцца ўсе ахвотныя. Конкурс жа міжрэгіянальны.

***Аляксей Круповіч.***

# Хто з кнігаю дружыць, ніколі не тужыць

15 верасня 2021 г. на пляцоўцы каля Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы было шматлюдна, панавала святочная атмасфера - тут адбыўся фестываль кнігі і друку "Зоркі лідскіх небасхілаў", які з'яўляецца традыцыйным для нашага горада культурна-масавым мерапрыемствам у Дзень бібліятэк. З году ў год фестываль закліканы нагадаць аб вялікіх беларускіх асветніках і друкарах мінуўшчыны і ўшаноўваць работнікаў бібліятэк, а таксама ўсіх, хто мае дачыненне да стварэння друкаванай кнігі, іншай друкаванай прадукцыі.

У час фестывалю на пляцоўцы каля раённай бібліятэкі былі разгорнуты кніжныя выставы, забаўляльныя пляцоўкі, дзіцячая гульнявая зона, розныя майстар-класы - кожны наведвальнік змог знайсці сабе занятак па гусце. Месцам жа асноўных дзеянняў фестывалю стала імправізаваная сцэна ля ўвахода ў бібліятэку. Падцягвацца бліжэй да гэтай сцэны заклікалі людзей удзельніцы фальклорнага гурта "Талер" аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры.

Спачатку з Днём бібліятэк усіх прысутных павіншавалі галоўны спецыяліст аддзела культуры райвыканкама Наталля Вайцюкевіч і сакратар Лідскай епархіі протаіерэй Максім Цыгель.










- Без кніг жыццё чалавека абядняецца, - падкрэсліў у сваёй прамове айцец Максім. - Калі чалавек чытае добрыя кнігі, ён абнаўляе свой вобраз і вобраз Божы ў сабе.

Многае гаварылі вядоўцы імпрэзы аб бібліятэках як захавальніках духоўных, культурных і інтэлектуальных скарбаў, аб кнігах як падмурку духоўнага жыцця народа, крыніцах ведаў. "Хто з кнігаю дружыць - ніколі не тужыць", - сцвярджалі яны. Прысутным (а сярод іх было многа школьнікаў) нагадалі пра беларускіх асветнікаў Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Кліменцію Смаляціча і, канешне ж, пра Францішка Скарыну.

Падзякавала раённай бібліятэцы за супрацоўніцтва і перадала ёй у дар кнігу аб журналістах Гарадзеншчыны член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар "Лідскай газеты" Кацярына Серафіновіч. З гісторыяй і днём сённяшнім Лідскай друкарні азнаёміла яе спецыяліст Валянціна Нічыпар. Стаць сябрамі





магазіна "Кніжны свет" заклікала прысутных яго загадчыца Галіна Станевіч. Подзвігам назваў летнюю акцыю раённай бібліятэкі "Літфэст па-лідску" з выхадамі з кнігамі ў народ, да дзяцей паэт, рэдактар газеты “Наша слова”, гістарычна-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец", а таксама літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў" Станіслаў Суднік і прачытаў свой верш, прысвечаны друкаванай кнізе, якая і ў век інтэрнэту застанецца з намі.







Вершы на розныя тэмы - аб бібліятэцы, "Лідскай газеце", Радзіме, роднай мове, помніку Вялікаму князю Гедыміну - чыталі з імправізаванай сцэны сябры літаб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" Ірына Маркевіч, Станіслава Белагаловая, Людміла Русь, Тарэза Смольская, кіраўнік літаб'яднання Аляксандр Мацулевіч.

У завяршэнне імпрэзы аб двух новых маштабных праектах, у якіх змогуць прыняць удзел паэты Лідчыны, - моладзевым праекце "І з мышкай, і з кніжкай" і конкурсе на атрыманне літаратурнай прэміі імя Валянціна Таўлая за найлепшы патрыятычны твор - коратка расказала першы сакратар Лідскага раённага камітэта БРСМ Вольга Міхаловіч. Палажэнне аб літаратурнай прэміі імя В. Таўлая на лепшы твор патрыятычнай тэматыкі было апублікавана ў газеце “Наша слова” пад канец 2021 года.

***Аляксей КРУПОВІЧ.***

# Вярхоўны суд ліквідаваў ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

1 кастрычніка 2021 года Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь задаволіў пазоў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Рашэнне вынес суддзя І. Г. Мільто.

Нагадаем, што 23 верасня ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь адбыліся слуханні па пазове ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" да Міністэрства юстыцыі па абскарджванні пісьмовага папярэджання, вынесенага 14 ліпеня 2021 года за непрадастаўленне дакументаў для маніторынга дзейнасці НДА. 24 верасня Вярхоўны суд Рэспублікі Белпрусь вынес рашэнне і пакінуў у сіле пісьмовае папярэджанне, вынесенае Мінюстам на адрас ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".




14 ліпеня Следчы камітэт правёўператрус у офісе арганізацыі, пасля чаго памяшканне было запячатана, дакументы і тэхніка канфіскаваны. Пазней былі заблакаваны банкаўскія рахункі арганізацыі, што паралізавала працу аб'яднання.

У Саюз беларускіх пісьменнікаў у свой час уваходзілі лідскія літаратары: Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Данута Бічэль, Валер Санько, Крысціна Лялько, Ірына Багдановіч, Станіслаў Суднік, Уладзімір Васько, Пятро Макарэвіч, Алесь Стадуб, Леанід Лаўрэш.

***Паводле СМІ.***

# Памёр Алесь Стадуб

8 чэрвеня 2020 года пасля доўгай хваробы пайшоў у Нябесную Беларусь сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, паэт **Алесь Стадуб**.

Стадуб Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч) нарадзіўся 24.04. 1938 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобл. Скончыў 10 класаў у Нясвіжы. Пасля службы ў войску закончыў Усесаюзны інстытут імя Крупскай (музыка, клас гармоніі). Узначальваў маладзёжны хор у Яраслаўлі. Там закончыў філфак педінстытута. Выкладаў у школе, працаваў у мясцовых газетах. У 1972 г. пераехаў у Ліду, дзе быў намеснікам старшыні таварыства «Веды». Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. Аўтар звыш 10 кніг: “Твае вочы”, “Вузел (трыялеты)”, “Споведзь натхненнем”, “Летапіс пачуццяў”, “Калінавыя гроны”, “Шэпты крыл”,“Сюжэт на фоне адвячорку”, “Водгук ісціны”, “Скрыжалі”, “Мільянерка” і інш. Сябар СБП з 2007 года.

Пахаваны ў Лідзе.



*Алесь Стадуб*

**ЮШАВІЧЫ**

Раслі ў бяссмерце Юшавічы,
Але ўсё ж век свой аджылі.
Раслі тут Коласы, да Вінчы,
Свае гісторыі былі.

Няма ў паміне сельсавета
І школы, крылаў ветракоў.
Няўмольны час закрэсліў гэта
І крумкачоў-бальшавікоў.

Спакусы ў сад чужы вадзілі,
Спакусны сад, хоць і не рай.
А дзе ж сяброў цяпер магілы?
Яны даўней лілі праз край.

Дамашнія малых не лічаць,
А што лічыць, калі адно.
Бацькі мяне нястомна клічуць:
“Прыедзь. Наведваў нас даўно”.

**НЕМАГЧЫМА**

Падлетак шукаў ідэал:
Краіну? Паехаць? Біць лынды?

Пытанняў нахлынуўся вал,
І ён да мужчыны з-пад Ліды:

- Парайце вы мне, чалавек!
І той адказаў:
- Эй, хлапчына,
Без нас Беларусь пражыве,
Ды нам без яе немагчыма!

## ДУБ

Ля акна я студжу кіпень-чай,
Хай астыне мой чай нетаропкі,
Паглядаю на дуб неўзначай,
Жалуды ля ствала, нібы кропкі.

У юнацтве яго вецер гнуў,
Ды і бура заўжды нахіляла,
Ён маланкі прыцэл абмінуў,
Калі тая ад хмары страляла.

На двары ўсё дажджыць
і дажджыць,
Лістапад гоніць мокрыя хмары,
Гэты дуб можа нас пераджыць:
Мае вершы і вашыя мары.

## СПАКУСЫ

Раздумваю на рубяжы
Дабра і зла, святла і ценяў.
Мяне, анёл мой, сцеражы
Ад памылковых летуценняў.

Спакуслiва i ўмець, i мець,
I мару ў сутнасць перайначыць.
Прашу, набытаму ўзамен
Дай пару крыл скупой удачы.

Так хочацца разгон набраць,
Так вабіць новая арбіта.
На рубяжы дабра і зла
Дарога ў вечнасць зноў адкрыта.

* * *

Шукалі мы сябе
Уброд.
Пашкодзіла нязгода.
"Не наракаю на народ,
Які не стаў народам".

Ды гэта не мае радкі -
Алеся Пісьмянкова.
Да нашых дзён
Ён не глухі,
А мо сказаў да слова?

Абразіў вартых "смельчакоў",
Змаўчала крыўда нацыі.
Няўжо сур'ёзна?
Між вякоў
Людзьмі ці будзем звацца?

На подзвіг кожны не гатоў.
Гатоў мо выпадковы.
Сказала Праўда:
- Вы ніхто
Без гонару,
Без мовы.

## ЧАЛАВЕК

З чаго ты, браце чалавек?
З душы, з ідэі ці з любові?
Гляджу на вочы і на бровы:
З чаго ты, браце чалавек?
Ці ў вечнасці ты выпадковы?
Ці ёю створаны на здзек?
З чаго ты, браце чалавек?
З душы, з ідэі ці з любові?

# Пайшоў у лепшы свет лідскі краязнавец Анатоль Крупа



Калі мяне спытаюць, што для мяне Бердаўка, то я адкажу: "Гэта наша школа". І не важна, як называлася або называецца гэтая ўстанова адукацыі - сямігодка, сярэдняя школа ці дзіцячы сад-сярэдняя школа. Галоўнае іншае - яна была, ёсць і будзе. Але ж наша школа - гэта не толькі трохпавярховы будынак, не толькі светлыя з вялізнымі вокнамі класы і шырокія калідоры. Школа - гэта людзі! Людзі, якія кожную старонку гісторыі пісалі сваім лёсам! І самая багатая, самая непаўторная старонка належыць Анатолю Леанідавічу Крупе, які 34 (!) гады кіраваў штурвалам школьнага карабля ў Бердаўцы. Але, на жаль, ужо былому ветэрану педагагічнай працы, былому дырэктару Бердаўскага дзіцячага сада-сярэдняй школы, былому настаўніку гісторыі, былому заснавальніку і кіраўніку Бердаўскага гістарычна-краязнаўчага народнага музея. Гэта страшнае слова былому...

8 кастрычніка 2020 года сэрца Анатоля Леанідавіча Крупы перастала біцца. Сёння многія і многія людзі - родныя і сябры, былыя калегі і выпускнікі, аднавяскоўцы і таварышы, знаёмыя блізкія і далёкія - прамаўляюць ва ўнісон: такога не можа быць!

Не верыцца... Не ўсведамляецца... Не прымаецца ні ро-

зумам, ні сэрцам...

Ніводзін яго дзень на пасадзе дырэктара школы і ў якасці настаўніка гісторыі не прайшоў дарма. Адзін толькі школьны музей склаў бы славу кіраўніку любой школы! А кожны з бердаўчан ведае, што без Анатоля Леанідавіча Бердаўскі гістарычна-краязнаўчы народны музей не стаў бы тым, чым ён сёння ёсць.

На розных узроўнях годная праца настаўніка і кіраўніка Бердаўскай школы адзначалася шматлікімі ўзнагародамі. З 1996 года Анатоль Леанідавіч Крупа - Выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь. Любові да роднага краю, да Беларусі і роднай мовы мясцовыя хлопчыкі і дзяўчынкі вучыліся найперш у свайго настаўніка гісторыі. Маладыя калегі захапляліся энтузіязмам і вытрымкай дырэктара, бралі за прыклад асноўнае яго правіла як настаўніка: урок - гэта святое! За арганізаванасць і тактоўнасць, за чуласць і дабразычлівасць паважалі кіраўніцтва і калегі, педагогі і работнікі ўстановы адукацыі, былыя вучні і іх бацькі, аднавя-коўцы...

Будучы дырэктарам Бердаўскай школы, ён не толькі падтрымаў стварэнне суполкі ТБМ у Бердаўскай школе, але і даў юрыдычны адрас у школе для рэгістрацыі суполкі. Такіх школ у Лідскім раёне аказалася ўсяго дзве.

Анатоль Крупа ўзначаліў Лідскую раённую арганізацыю Таварыства беларускай школы і рабіў усё, каб лідскія школы былі беларускімі па духу і форме, прынамсі Бердаўская школа была адной з самых беларускіх, апорнай для любых мерапрыемстваў ТБМ.



***Значную частку сваіх ведаў пра Бердаўку Анатоль Крупа занатаваў у кнізе "Пакінуць след на зямлі"***

Так, немагчыма словамі выказаць тыя роспач і смутак, якія сёння ахінаюць усіх, хто ведаў Анатоля Леанідавіча Крупу. Але няхай жа добрыя словы і ўспаміны пра гэтага светлага і чулага Чалавека і Педагога дапамогуць вылечыць душу і сэрца тых, у каго яны разбітыя непапраўным горам - яго родным і блізкім.

***Галіна Альшэўская.***

# У беларускае неба пайшоў Валер Санько



22 лістапада 2020 года ў беларускае неба - не ў чарнобыльскае, а ў лідскае, але ўсяроўна ў беларускае - пайшоў таленавіты пісьменнік Валер Санько.

Валерый (Валер) Аляксеевіч Санько (нар. 29 жніўня 1939, в. Вялікая Сліва, Слуцкі раён) - беларускі пісьменнік, журналіст, краязнавец, кнігавыдавец, доктар народнай медыцыны, магістр нетрадыцыйнай медыцыны, член-кар. МА энергаінфармацыйных навук. Аўтар і суаўтар каля 20 кніг. Бацька трох сыноў.

Пасля заканчэння Вяліка-Сліўскай СШ з адзнакаю закончыў Баранавіцкае медвучылішча (1958). Загадваў (адкрываў) Лосіцкім ФАПам у Пінскім раёне. З арміі (1958-1961) прыйшоў сяржантам. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (завочна, 1961-1967, стараста курса), Менскую ВПШ (1976-1978). Вучыўся ў медінстытуце (1964-1965). Закончыў аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (1968-1971). Здаў кандыдацкія экзамены, але дысертацыю на тэму "Беларуская чарадзейная казка" не абараніў. Некаторыя яго запісы беларускага фальклору надрукаваны ў газетах, часопісах, у трох тамах акадэмічнага 50-томнага выдання беларускага фальклору.

Працаваў памочнікам санітарнага ўрача ў Менску, журналістам у газетах "Чырвоная змена" (1963-1965) і "Звязда" (1965-1972). Загадваў рэдакцыяй медыцынскай і фізкультурна-спартыўнай літаратуры выдавецтва "Беларусь" (1972-1975). Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Здравоохранение Белоруссии" (1975-1976), намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва "Народная асвета" (1978-1982), загадчыкам рэдакцыі краязнаўства, турызму, фізкультурна-спартыўнай літара-

туры выдавецтва "Полымя" (1982-1990), намеснікам рэдактара чарнобыльскай газеты "Набат" (1990-1991), дырэктарам заснаванага Беларускім дзіцячым фондам Беларускага выдавецкага Таварыства "Хата" (1992-2006). За сваё жыццё падтрыхтаваў да друку 1089 кніг іншых аўтараў.

З 1960 года з'яўляўся членам КПСС, адкуль у 1989 годзе выйшаў дабраахвотна. Быў намеснікам старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай Сялянскай партыі, ад яе тройчы вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі (Слуцк, 1995; Салігорск, 1996; Салігорск, 1996). Удзельнік шасці (1993-2013) з'ездаў Беларусаў свету (на апошніх чатырох выступаў з прамовамі).

Першае апавяданне надрукавала ў студзені 1958 года Баранавіцкая раённая газета, першую аповесць - "Чырвоная змена" (жнівень - верасень, 1964). Надрукаваў шэсцьдзесят восем апавяданняў. З шаснаццаці надрукаваных аповесцей - восем у газетах, "Пакуль не зайшло сонца" - у часопісе "Маладосць" (1977, № 6), адна ў кнізе прозы трох аўтараў "Знаёмства" (1982). Аўтар і суаўтар каля дваццаці кніг, у тым ліку дзевяць уласных празаічных, тры - пра лячэнне травамі, дзве - прыкметы, абярэжніцтва. Найбольш значныя кнігі прозы: "Жыватворныя крыніцы" (1979), "Знаёмства" (1982), "Усё скончана: мы прайшлі па Маскве" (1993), "Не плач, маці" (1995), "Дахаты пойдуць усе" (1999), "Ненадрукаванае. У белдзяржлітструктурах" (2009), "Грэх на іх нязмыўны" (2013). У суаўтарстве - "З вудай і стрэльбай" (1974), "Беларускія спартсмены ў баях за Радзіму" (1985).

У кнізе "Згарэў у Слуцку суд народны" падрабязна апісаў і даследаваў храналогію стыхійнага бунту случчакоў у кастрычніку 1967 года.

Даследаванні чарнобыльскай тэматыкі выліліся ў дакументальны раман "Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе" (612 стар., 2013), над матэрыялам кнігі аўтар працаваў 19 гадоў. У рамане апавядаецца пра прычыны выбуху на ЧАЭС, даюцца біяграфіі ліквідатараў, перасяленцаў. Дзевятнаццаць фрагментаў з рамана "Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе" друкаваліся ў газеце "Наша слова" (23.11.2011 - 08.05.2013).

У лістападзе 2016 выдаў кнігу "Карыды вогненныя іскры". На беларускай, рускай, іспанскай мовах. У ёй апісвае пра сувязь карыдных феерыяў і спектакляў з беларускімі Купаллем і Калядамі.

Апошняя кніга - “Прыкмета і прырода - сябры назаўсёды” (2019).

Прыняла парэшткі пісьменніка вялікасліўская зямля.

Вечная памяць і цёплы ўспамін.

# Не стала таленавітага паэта Юры Карэйвы

5 студзеня 2021 года не стала аднаго з таленавітых паэтаў Гарадзеншчыны Юры Карэйвы. Гэта Юра пісаў і пакінуў нам цудоўныя паэтычныя радкі:

*Насустрач чорным сілам хіжым*
*Усе мы выйдзем, як адзін!*
*Вось толькі б выйсці,*
*Толькі б выжыць…*
*А там, нарэшце,* -
*Паглядзім!..*



Юра Карэйва нарадзіўся 29 траўня 1961 года ў Лідзе. Закончыў СШ № 4 (1978 г.) і філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1995 г.). Працаваў выкладчыкам у Гародні ў СШ № 26 і 18. Навучаўся пры касцёле Святога Духа ў Вільні, а потым вучыўся ў Маскве ў Сучасным Гуманітарным Універсітэце на юрыдычным факультэце. З вершамі Юра Карэйва выступаў у многіх рэспубліканскіх выданнях. Быў рэдактарам альманахаў "Ад лідскіх муроў" (№ 4, № 5). Аўтар зборнікаў вершаў "Краявід" і "З разбітае ліры". Напісаны ім і не выдадзены сотні паэтычных твораў. Калі Юра Карэйва вучыўся ў Гарадзенскім універсітэце, ён быў адным з актыўных сяброў універсітэцкага літаб'яднання "Наднёманскія галасы", яго вершы з задавальненнем друкавалі розныя беларускія выданні. Паэтычныя радкі паэта адрозніваліся ад іншых сваёй філасофічнай афарбоўкай і роздумам пра жыццё:

*Гляньце ж, вы,* -
*ад народзін да крыжа*
*Шлях ваш* -
*церні ды ў цемры знічы…*
*Дык ці ж хочаце,*
*хто яшчэ выжыў*
*Заставацца навечна з нічым?..*

Ю. Карэйву пахавалі ў Лідзе на гарадскіх могілках "Зосіна-2".

# Кароткі ўспамін пра Ларысу Канчэўскую



*15 сакавіка 2021 г. памерла* ***Ларыса Георгіеўна Канчэўская.***

*Дачка афіцэра, яна нарадзілася 9 кастрычніка 1946 г. на востраве Сахалін. У дзяцінстве жыла ў Расіі і Латвіі. З 1956 г. - у Лідзе.*

Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Была рабочай, лабарантам на заводзе электравырабаў, мастаком-афармляльнікам, касірам у банку, малодшым навуковым супрацоўнікам у гарадскім архіве, інструктарам гарвыканкама, інжынерам па эстэтыцы, выкладчыкам у педвучылішчы.

Заўсёды знаходзілася ў самым цэнтры інтэлектуальнага жыцця горада Ліды, была душой любога калектыву, генератарам ідэй, стваральнікам сэнсаў.

Грала ў народным тэатры, усё жыццё пісала вершы і прозу, мела "абсалютны" літаратурны слых і вытанчаны густ. Калі-нікалі друкавалася ў "Лідскай газеце", газеце "Чистый мир", у альманаху "Ад Лідскіх муроў", у "Лідскім летапісцы".

Ларыса Канчэўская заўсёды была сябрам маіх сяброў, але працяглы час мы з ёй былі толькі знаёмы, покуль у лістападзе 2014 г. не стэлефанаваліся, і я прыйшоў да яе, ужо вельмі хворага чалавека, у госці. Мая першая фраза пры нашай сустрэчы потым увайшла ў адзін з яе тэкстаў:

- Мы з вамі … амаль не перасякаліся. Затое мае сябры ... у пэўныя перыяды свайго жыцця бясконца паўтаралі: "Ларыса Канчэўская ды Ларыса Канчэўская ...".

Шмат пра што размаўлялі з ёй у той дзень, і яна перадала мне для публікацыі рукапіс цікавых мемуараў Уладзіміра Крушэўскага пра лідскі рок-фестываль 1982 г. (надрукаваны ў менскім

альманаху "Асоба і Час", Вып. 8). Пасля той сустрэчы яна пачала пісаць свае цудоўныя белетрызаваныя ўспаміны. Напісала найкарыснейшыя ўспаміны пра нашага з ёй агульнага сябра Валянціна Ляцецкага (Лідскі летапісец. 2015. № 4), і таленавітую "Маленькую аповесць пра любоў" - лірычныя ўспаміны пра дзяцінства, якое прайшло ў нашым горадзе ("Ад лідскіх муроў", № 8). Пасля аповесці, з канца 2015 г., пачала пісаць раман успамінаў і працавала над ім каля года. Напісала, па маіх разліках, каля чвэрці рамана, але давесці справу да канца ёй не дазволіла хвароба. Я ўпэўнены, што мы надрукуем яе апошні тэкст у чарговым альманаху "Ад лідскіх муроў", а фрагмент з яго нават ужо быў надрукаваны ("І Быкаў такі малады... Да 70-годдзя Ларысы Канчэўскай" // Лідскі летапісец, 2016. № 4 (76)).

Не хачу пісаць стандартныя словы пра тое, што мы яе ніколі не забудзем. Пасля кожнага з нас застаецца, толькі тое, што ён пакінуў на гэтым свеце. Пасля майго сябра Ларысы Канчэўскай застануцца яе тэксты.

***Леанід Лаўрэш,***
*пісьменнік.*

# 3 гады не дажыў да 100

## 8 кастрычніка 2021 года пайшоў з жыцця найстарэйшаы краязнавец Лідчыны Мікола Дзікевіч

*Мікалай Мікалаевіч ДЗІКЕВІЧ нарадзіўся 20 верасня 1924 г. у в. Дзітрыкі Беліцкай гміны Лідскага павета Наваградскага ваяводства. Да 1936 г. вучыўся ў Дзітрыкаўскай чатырохкласнай школе, у 1939 г. закончыў Ганчарскую паўшэхную школу, у 1945 г. - Лідскае педвучылішча, пачаў настаўніцкую працу. Служыў у арміі (1946-1947). Закончыў Менскі інстытут фізічнай культуры (1955). 46 гадоў працаваў настаўнікам у школах Лідчыны - Цыбарскай, Дзітрыкаўскай, Папернянскай, Ганчарскай, Нёманскай, да 1993 г. З іх - 44 у Нёманскай (Сялецкай). Узнагароджаны медалямі "За доблесную працу" (1970), "За працоўную доблесць" (1981).*

*Аўтар краязнаўчых кніг "Дзітрыкі. Згукі заснулай цывілізацыі" (200 стар.) "Сялец. Прынёманская рэчаіснасць" (294 стар.), а таксама шэрагу публікацый у перыядычным друку.*

# Мікола Дзікевіч:
## *"Як я навучыўся чытаць і палюбіў беларускую мову"*

*Краязнаўцу, аўтару кніг-даследаванняў Міколу Дзікевічу зусім нядаўна споўнілася 97. Нягледзячы на ўзрост, ён плённа працаваў і рыхтаваў да выдання чарговую кнігу.*

*Чатыры гады назад Мікалай Мікалаевіч паспеў расказаць, як ён навучыўся чытаць і як палюбіў беларускую мову. Якая кніжка была самай першай і як нараджалася, гучала, жыло беларускае слова ў вясковым асяроддзі, з якога выйшаў і ён сам - чалавек, які шмат напісаў аб роднай старонцы на роднай мове?*



### *З вясковых падмосткаў - беларускае слова*

- Мама мая, Ганна Міхайлаўна Гец, родам з вёскі Сялец, замужам была за Дзікевічам у вёсцы Дзітрыкі Беліцкай гміны. Мы часта хадзілі за 6 км у Сялец да бабулі Агаты і дзядулі Міхася (па-вясковаму Міхалюка).

У гэты складаны час у вёсцы дзейнічаў гурток Таварыства беларускай школы, які быў створаны ў 1921 годзе з вяртаннем шматлікіх сялян-бежанцаў. ТБШ вяло барацьбу за беларускую школу, дэмакратызацыю адукацыі, распаўсюджванне беларускіх газет і кніг. Гэта, так бы мовіць, статутная дзейнасць, але сябры гуртка ў асноўным ладзілі мастацкую самадзейнасць. Маладая, бадзёрая, не атуманеная гарэлачным чмыром моладзь без указак і патуранняў цягнулася ў згуртаванні - былі арганізаваны драматычны і харавы гурткі. Удзельнікі самадзейнасці выступалі таксама перад жыхарамі навакольных вёсак Ганчары, Дзітрыкі і іншых. У рэпертуары былі п'есы "Паўлінка", "Збянтэжаны Саўка", "Конскі партрэт", "Модны шляхцюк", "Сурдут і сярмяга", "Колісь", "Змагары за ідэю", "Дзядзька ў Ві-

льні", беларускія і рускія песні.

Спачатку, перад рэпетыцыяй, п'есу патрэбна было ўзгадніць у пастарунку паліцыі, які месціўся ў Сяльцы, а на самім канцэрце прысутнічаў камендант або яго наместнік.

Дзівуешся: некаторыя сяляне жылі бедна і хлеба са сваёй зямлі мелі столькі, што яго не хапала да вясны, і тым не менш збіраліся па хатах і рэпетыравалі. Выступленні ладзілі вечарамі па суботах. Жыццё было цяжкім, гаротным, але бурлівым.

Мне, тады яшчэ малому, дзякуючы ўдзельніку самадзейнасці - дзядзьку Міхаілу - давялося прысутнічаць на некалькіх канцэртах, што адбываліся ў школе. Памятаю, як дзядзька Міша махаў шабляй.

### *"Унуча, якая прыгожая і зразумелая мова! Чытай болей!"*

- Маёй першай чытанкай на рускай мове была кніжачка казак у фармаце алфавіта. Я не ведаў літар рускага алфавіта і прачытаць не мог - толькі разглядаў прыгожыя малюнкі на глянцавай паперы.

У дзяцінстве ў нашай хаце гучала беларуская мова. Мама наведвала школу няпоўны год, а распісацца пры атрыманні пенсіі магла толькі крыжыкамі. Мы з братамі Ціханам і Санем навучылі яе распісвацца, але ўжо польскімі літарамі. Размаўляла яна вельмі добра. З маленства ад бацькоў мной быў набыты навык размовы на роднай мове.

Старэйшы брат Ціхан часта гасцяваў у бабулі Агаты і дзядулі Міхаіла, у цёткі Ядвісі і дзядзькі Валодзі. Паўсюдна чулася матчына мова.

Як трапляла беларуская літаратура ў Сялец? Невядома. Магчыма, яе прывозілі з Ліды. Аднак добра памятаю аповеды мамы і брата Ціхана, як дзядзька Мікалай апранаў якаснае паліто з унутранымі кішэнямі, капялюш, браў модную палку і ездзіў у Вільню. Рызыкаваў, але прывозіў агітацыйныя ўлёткі.

Напэўна, так да нас трапіла і паэма "Сымон-музыка" Якуба Коласа. Яна была прывезена з Ліды, а надрукавана ў 1928 годзе ў Вільні (перашапачаткова - у 1925 годзе ў Менску).

Варта расказаць пра братоў... Яны раслі сіротамі. Іх бацька ў 1914 годзе загінуў у баі пад Гародняй, там жа пахаваны. Брат Ціхан правучыўся ў Дзітрыкаўскай польскай пачатковай школе два гады, Саня - не больш. Мяне здзіўляла, што яны даволі добра чыталі і пісалі па-польску, а таксама чыталі па-беларуску і па-руску. А яшчэ, магчыма, дапамагалі заняткі, арганізаваныя гмінай для сялянскай моладзі. Браты наведвалі іх асеннімі і зімовымі вечарамі. Вёў іх настаўнік Васіль Пятровіч Лагонда. Дарэчы, цікавая гіс-

торыя гэтага настаўніка. Васіль Пятровіч нарадзіўся на Берасцейшчыне ў сям'і святара (святаром быў і дзед). У сям'і бацькі расло сямёра дзяцей: два сыны і пяць дачок. Усе дочкі сталі настаўніцамі і выйшлі замуж за святароў. Пасля заканчэння польскай паўшэхнай школы Васіль Пятровіч вучыўся ў духоўнай семінарыі. Закончыў яе паспяхова, але святаром не стаў. Насуперак бацькоўскай волі паступіў у настаўніцкую семінарыю. Бацька ў пакаранне ўхіліўся ад вучобы сына. Невядома, з якімі вынікамі Васіль Пятровіч закончыў семінарыю, але нейкі час вечарамі працаваў настаўнікам вясковай моладзі ў вышэйзгаданай Дзітрыкаўскай і пазней у Бандарскай школах. Пасля вайны, да выхаду на пенсію - у Беліцкай сярэдняй школе.

Цяга да ведаў у маіх братоў была вялікай. Брат Ціхан пазней нават рашаў сыну квадратныя ўраўненні, папярэдне прачытаўшы тэорыю ў падручніку. Я пераняў у іх гэты навык чытання. Восенню 1937 года з бабуляй, на цёплай печы, пры пяцілінейнай лямпе, пачынаў "бэкаць" паэму "Сымон-музыка". Бабуля слухала ды казала: "Унуча, якая прыгожая і зразумелая мова! Чытай болей!" Напэўна, гэтыя словы былі для мяне не горш за цяперашнія настаўніцкія адзнакі.

Гучанне ў дзяцінстве роднай мовы ў хатнім асяроддзі, наведванне вясковай самадзейнасці, з'яўленне згаданай абшарпанай кніжкі, яе чытанне вызначылі накірунак майго жыцця.

### *Вясковы паэт Аркадзь Дэк. Можа, хто памятае, ведае?*

Родная мова жыла, чулася паўсюдна ў суседніх вёсках. Успамінаю жыхара вёскі Супраўшчына Аркадзя Дэка. Неяк моладзь вёскі Дзітрыкі арганізавала вечарыну. Ігралі музыкі Урбановічы з вёскі Жомайдзі. У светлай палавіне хаты скакала моладзь. На кухні дзядзька Аркадзь у белай вышыванцы, падпяразанай саматканым поясам, у хадаках з белымі анучамі, акуратна заматанымі вяровачкамі, расказваў уласна напісаныя жартоўныя вершы і гумарэскі. Гэта было так прыгожа і смешна на беларускай мове! Цікавы ён быў чалавек. Нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Панікарты Дзятлаўскага раёна. Родзічы расказваюць, што быў у бежанцах дзесьці пад Масквой. Там жылі адной грамадой. Вучыўся. Вечарамі збіраліся па хатах, цёплымі - на вуліцы. Размаўлялі па-беларуску, апраналіся - таксама. Успаміналі радзіму і спявалі беларускія песні. Дзядзька Аркадзь чытаў і пісаў па-беларуску.

Хата яго была за аселіцай, каля алешніку. Месца балоцістае. Ён любіў дзяцей. Ладзіў ім арэлі і гульні.

Я вучыўся ў Ганчарскай школе (1936-1939) з яго пляменні-

кам. Часта заходзіў да яго ў хату. Мэбля была змайстравана дзядзькам Аркадзем з мясцовага матэрыялу: вольхі, бярозы, лазы. Памятаю крэсла з падлакотнікамі, спінкай з дубчыкаў з карой і без яе, дзе сплеценых, дзе змацаваных самаробнымі цвікамі. На сядзенні ляжала падушка, напоўненая сенам.

Дзядзька Дэк - чалавек кампанейскі. Да яго цягнулася вясковая моладзь. Каля яго хаты збіраліся, бавілі час, спявалі беларускія песні.

Такая дзейнасць выклікала падазрэнне ў польскай паліцыі. Яго часта наведвалі, рабіліператрусы па ўсіх кутах. Трапляў у пастарунак. Дапытвалі моладзь. Як ні дзіўна, ніхто з іх не выдаў дзядзьку Аркадзя, не прызнаваўся, што ў яго бачылі ці чыталі камуністычную літаратуру. А тое, што дзядзька Аркадзь і іншыя бежанцы "захварэлі" пад уздзеяннем бальшавіцкіх агітатараў камуністычнымі ідэямі, было добра вядома нават мне: чуў іншы раз размовы родзічаў-бежанцаў. Напэўна, дзядзька Аркадзь гаварыў з моладдзю аб жаданай шчаслівай долі.

Яго сястра ўспамінала, што брат бедаваў, калі паліцыя забрала тоўсты самаробны сшытак з вершамі, гумарэскамі. Цяпер не толькі суседзі - нават родзічы не памятаюць яго літаратурнай спадчыны. Апошні раз мне пашчасціла слухаць вершы вясковага самародка ў выкананні Якуба Буйніцкага, жыхара вёскі Дзітрыкі. Ён майстраваў нам грубку і чытаў іх на памяць.

Лёс Аркадзя Дэка склаўся трагічна. У 1940-1941 гг. ён працаваў старшынём калгаса. У 1941 годзе немцы ці паліцаі расстралялі яго.

### *Была польскай - стала беларускай*

Набліжаўся першы дзень верасня 1939 года. Раніцай на прыпынку каля вёскі Баравічы я не дачакаўся аўтобуса. На ўсход ляцелі самалёты трыма звёнамі, утворанымі з трох двухматорных. Чорны шлейф дыму падымаўся над горадам Лідай. Пачалася вайна.18 верасня Чырвоная Армія была ў Лідзе. А ў канцы месяца я атрымаў павестку аб яўцы ў Лідскую гандлёвую гімназію. У пачатку кастрычніка пачаліся заняткі. Урокі вяліся на польскай мове па праграме 1 класа гімназіі, толькі замест польскай мовы выкладалі беларускую, і не было гісторыі Польшчы. Некалькі настаўнікаў загаварылі па-беларуску.

Не ўсе гімназісты з'явіліся на заняткі. Становішча ў класе склалася напружанае. Многае нам было незразумела. Збіраліся па інтуіцыі. Утварыліся гурткі старэйшых і малодшых, гараджан і вяскоўцаў, палякаў і беларусаў. У такіх абставінах правучыўся да Новага 1940 года. З 1 па 21 студзеня ў маім жыцці былі самыя доўгія

зімовыя канікулы: настаўнікі на трохтыднёвых курсах вывучалі беларускую мову.

За гэты час прайшла рэарганізацыя школьнай сеткі. Лідская гандлёвая гімназія была пераўтворана ў сярэднюю школу № 2, а нас, гімназістаў 1-га класа, перавялі ў 5-ы. Нашы веды за сем класаў польскай школы прыраўнялі да чатырох класаў беларускай школы.

Канешне, я мог бы пайсці вучыцца ў 5 клас Ганчарскай школы, але там да навучання прыступілі ў пачатку кастрычніка. Дома пагадзіліся з тым, каб я прадоўжыў вучобу ў Лідзе. Тут за кошт іншых прадметаў павялічылася колькасць гадзін на беларускую мову. Вывучэнне беларускай мовы ў пятым класе ў Лідзе пакінула прыемныя ўспаміны. Вучыла нас маладая настаўніца з Усходняй Беларусі. Яе ўдалыя чытанне апавяданняў, дэкламаванне вершаў здзіўлялі і радавалі нас. Тады ў мяне быў закладзены падмурак вывучэння беларускай мовы на ўсё жыццё. Напэўна, ніякую навуку я не вывучаў так, як граматыку беларускай мовы.

З 1 верасня 1940 года рыхтаваўся вучыцца ў шостым класе Ганчарскай школы. Веды за пяты клас у Лідзе атрымаў дастатковыя. Погляды і інтарэсы вясковых навучэнцаў былі мне бліжэй, чым погляды і інтарэсы гарадскіх хлопцаў і дзяўчат. Сярод равеснікаў-вяскоўцаў адчуваў сябе роўным сярод роўных. Вучоба ў горадзе, наадварот, ставіла мяне ніжэй за гарадскіх, хоць вучыўся не горш за іншых.

Павінен сказаць, што беларускую мову ў Ганчарскай школе выкладала Зоя Іванаўна Шуціла. Яна з вясковымі настаўнікамі таксама вывучала беларускую мову на зімовых трохтыднёвых курсах. Даволі добра валодала мовай і пераказвала змест беларускіх твораў згодна са школьнай праграмай. У нашай школьнай бібліятэцы мелася па два-тры экзэмпляры кніг, атрыманых у падарунак ад вучняў Усходняй Беларусі.

### *Сям'я, якая ведае свае радавод і мову, не памрэ*

Нядаўна знайшоў часткова згублены даваенны дзённік, у якім на беларускай мове запісваў хатнія падзеі, падзеі ў школе і падчас службы ў арміі. Почырк прыгожы, а пісьменнасць жудасная. На вокладцы двух вучнёўскіх сшыткаў напісана: *"Днеўнік вучня шостага класа Ганчарскай няпоўнай сярэдняй школы №7 М.Дзікевіча"*. Пачынаюцца занатоўкі 14 красавіка 1941 года і заканчваюцца 1 траўня 1941 года. Далей працягу няма. І толькі ў нядзелю 29 красавіка 1945 года адноўлены запісы (па 30 красавіка 1946 г.).

Прачытаў - і нахлынулі ўспаміны. Вось я, 12-гадовы падлетак, любуюся з акна роднай хаты вясёлкай, якая раскінулася ад вёскі Жомайдзі да Сяльца і якую, бы

сапраўдны паэт, назваў "вобразам вясны". А вось стаўлю сабе першую сур'ёзную мэту - "штотыдзень самастойна праходзіць па дзве чытанкі нямецкай мовы" - і перажываю першы смутак: "з надыходам сяўбы прыйдзецца развітацца з навукай і школай". А вось агляд самадзейнасці, на які мы, сялецкія школьнікі, развучыўшы "Песню трактористов", "Калинку", "Краснофлотскую" і танцы - лявоніху ды гапак - прыехалі ў Лідскі раённы Дом піянераў, а я пасля гэтага пішу: *"Як добра, што мы можам развіваць свае здольнасці дзякуючы партыі і ўраду..."* А вось я навучэнец Лідскага педвучылішча. Дзень Перамогі. А потым - павестка з райваенкамата і служба ў арміі. Станаўленне характару, думкі, ваганні... У адно імгненне быў гатовы развітацца са сваёй марай стаць настаўнікам, але любоў да роднай беларускай мовы і жаданне дасканала вывучаць яе, несці святло людзям перамаглі, сталі маім светачам праз усё жыццё. Родная мова навучыла, адкрыла прыгажосць свету, сэнс жыцця, важныя ісціны...

Сям'я, якая ведае свой шматгадовы радавод і сваю родную мову, не памрэ, як не памрэ і яе мова. У маёй сям'і заўсёды гучыць і жыве беларускае слова. Сын, які зараз жыве ў Маскве і валодае не адной замежнай мовай (англійскай, польскай, чэшскай і інш.), тэлефануе дамоў, і першае,







што кажа, - па-беларуску: "Тата, добры дзень".

***Тэкст***
***Вольгі Яхантавай.***

У студзені 2020 г. у выдавецтве “Беларуская навука” (г. Менск) выйшла кніга Юры Пацюпы “Беларускія вершы Яна Баршчэўскага. Праблемы рэканструкцыі, атрыбуцыі і эдыцыі”, 140 ст. 200 ас.







У лютым 2020 г. у выдавецтве ЮрСаПрынт (г. Гародня) выйшла кніга Леаніда Лаўрэша “Шпацыры па старой Лідзе”, А-4, 340 ст. 90 ас.

У лютым 2020 г. у серыі "Біблятэка Свабоды XXI стагоддзя" выйшла кніга Сяргея Астраўцова "Спадар Свабода" пра журналіста, рэдактара і палітыка Ігара Гермянчука.



***Сяргей Астраўцоў на прэзентацыі кнігі "Спадар Свабода" ў Гародні, 7 сакавіка 2020 г.***




У сакавіку 2021 г. выйшла чарговая кніга аднаго з найстарэйшых пісьменнікаў Лідчыны Уладзіміра Васько "На пераваламх часу".




У красавіку 2021 года Грамадскае аб’яднанне “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” і Дзяржаўная ўстанова “Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці” выдалі кнігу **“Закуй, закуй, зязюленька рана... Анталогія беларускіх народных песняў. Сабрана Аленай Іваноўскай на Лідчыне ў 1905-1912 гадах”**. Фармат А-5. 108 старонак. 150 асобнікаў.

Укладальнік Л. Лаўрэш.




У чэрвені 2021 г. у Лідскай друкарні выйшла кніга лідскай краязнаўцы Наталлі Анашкевіч “Православные храмы Лидчины: история и современность”. 136 ст. Наклад 50 асобнікаў.

У жніўні 2021 г. у Варшаве ў выдавецтве "Poligraf," выйшла кніга Леаніда Лаўрэша "Szept pozolklych stron. Ziemia Lidzka w zwierciadle prasy lat 1922-1939". 338 ст.







У кастрычніку 2021 года ў Лідскай друкарні выйшла кніга Ірэны Сліўко "Выток пачынаўся ад Гаўі". 264 ст. 100 асобнікаў.

У снежні 2021 года выйшла кніга Кацярыны Янчэўскай "Белае шматкроп'е".



# З М Е С Т

***Дай, Божа, нам сілы!* - 3**

**ЭПАС - 5**

**Марыя Ганчар.**
Я, сям’я і радзіма мая - 6

**ПАЭЗІЯ - 25**

**Данута Бічэль** - 26
**Уладзімір Васько** - 36
**Кацярына Янчэўская** - 50
**Тарэза Смольская** -55
**Міхась Мельнік** - 60
**Святлана Курловіч** - 65
**Станіслава Белагаловая** - 68
**Марыя Ганчар** - 79
**Людміла Краснадубская** - 84
**Валера Мацулевіч** - 96
**Вольга Ашмяна-Бічэль** - 100
**Ганна Гайдукевіч** - 107
**Ганна Рэлікоўская** - 118
**Ірэна Сліўко** - 125
**Ірына Маркевіч** - 130
**Антон Піліпчык** - 138
**Сяргей Анушкевіч** - 136
**Ала Юшко** - 150
**Кастусь Якубчык** - 154
**Раман Кіман** - 163
**Ларыса Лайкевіч** - 172
**Алесь Мацулевіч** - 176
**Станіслаў Суднік** - 185
**Сяргей Чыгрын** - 197

**ПЕРАКЛАДЫ - 205**

**Смарагд Сліўко** - 206

